— Не ведаю. Давай паглядзім.

— Вось я і хацеў. Ды не рызыкнуў несці. Цёмна,— ён устаў.

— Ну, бывай здароў, браце. І плюнь на ўсё.

— Ты... заходзь да мяне паслязаўтра, Антосю. Разгледзім. Я хаця й архіўны работнік, а палеограф ты лепшы.

Я вырашыў, што хопіць. Трэба пераходзіць на звычайны тон. Досыць гэтага, гнятучага, досыць. Бо амаль любому жаху, калі ён у плоці, мужчына можа разбіць нос.

— То што, правялебны Мар'ян?.. І псы бурчалі на сілу варожую, а ён, бес, у сенцах, спакушаючы правялебнага чысціню, смярдзеў брыдка...

— Нібы творы доктара навук гістарыйскіх Цытрыны.

— Забрахаўся, якія гэта «гістарыйскія»?

— А «мусікійская» ж ёсць? То ж бо... «Цытрыны» і падобных яму.

Мы разрагаталіся. Але ўсё адно я адчуваў, што на дне ягоных вачэй трывога.

...Ён пайшоў, а трывога засталася. Я падышоў да акна і глядзеў, як ён ідзе цераз вуліцу ў касых, імклівых струменях снегу, змешанага з дажджом.

## Раздзел II

### *Пад'езд кавалераў*

Раніцай мяне разбудзіў залівісты крык пеўня, а пасля адчайнадушнае, надрывістае кувіканне парасяці: відаць, неслі ў мяху.

— Не хачу-у! Пусці-і-це! Пусці-іце!

Як на вёсцы. І кожную нядзелю мне вось так прыемна. І гэта адна з прычын, чаму я люблю сваю хату.

Прыемна гэта сказаць: мая хата, мой пад'езд, мой двор. Асабліва ўспамінаючы вайну, і як пасля намучыліся з бацькам па чужых кутах, і як пасля жылі ў адным пакоі камунальнай кватэры з калідорнай сістэмай. А пасля адзін. І вось два. І тут бацьку пацягнула дажываць у свой гарадок да сваёй сястры, а маёй цёткі.

— Не магу. Як нібы зрабіў сваю справу. А тут

яшчэ кожную нядзелю пеўні, каровы, коні — ну кліча нешта, і ўсё. Каб яшчэ не раён гэты кляты. А тут бачу — парсючок, пярэсценькі. Я ж, здавалася б, гараджанін, я ж араць не ўмею. А тут — ну хоць бы рыдлёўку ў рукі... Бэз зазелянеў, зямля пахне, тлустая такая. На агрэсце зялёнае воблака... Паеду да Марыны. Там сад, будзем двох корпацца. А ты — толькі цяпер, глядзі, жаніся.

Ён меў рацыю. Нават мне немагчыма ўседзець на месцы кожную нядзелю, калі цераз тракт ад майго дома адкрываецца рынак худобы: коні, каровы, свінні, залатыя рыбкі, авечкі, галубы, трусы, лясное звяр'ё, птушкі, сабакі і ўсё жывое.

Да таго як агарадзілі квартал — дзядзькі з вазамі стаялі сабе на тратуарах, а здаравушчыя мацёры, адваліўшы саскі, ляжалі, мілыя, на газоне.

Аднойчы мой сябар Алесь Гудас (а ён жыве на першым паверсе) у нядзелю сядзеў за пісьмовым сталом, а проста пад акном яго кабінета спыніўся воз. Дзядзькі нешта прадалі і вырашылі замачыць куплю-продаж. З рыльца. Убачылі яго і пачалі круціць пальцамі каля лоба. І сапраўды, дурань нямочаны: людзі весяліцца збіраюцца, нядзеля, а ён працуе. Алесь пакруціў пальцам у адказ, прынёс і падаў ім у акно шклянку. Тады яны першую налілі яму. Жонка пасля ледзь з глузду не з'ехала: адкуль выпіўшы? У хатніх туфлях, не выходзіў, у хаце ані кроплі спіртнога, а ён глядзіць і не дужа разумна ўсміхаецца.

Харошы куток! Шкада, калі рынак куды-небудзь перанясуць. І, галоўнае, у двух кроках ад «вёскі», ад таго куточка, занесенага на брук, вулачка, далей бульвар і шумны вялікі горад. І дома і замужам.

З таго часу як я не хаджу на работу і блытаю дні — крык пеўня ў нядзелю, праз добрае згасанне сну, для мяне, як дадатковы каляндар.

Увосень я абараняю доктарскую. Два месяцы законнага водпуску ды тры нескарыстаных за мінулыя гады. Я дужа рабіў, дужа-дужа многа рабіў, каб вось так, адзін раз, уволю палайдачыць і рабіць тое, што мне хочацца. Кніга выйшла. Амаль да верасня я вольны. Бог мой, ніякіх бібліятэк, ніякіх архіваў, калі толькі сам гэтага не захачу!!!

Я лічу, што кароткі адпачынак — глупства. Не

паспееш прыехаць, раскруціць вуды, падыхаць — на табе, збірайся назад. Не варта і пэцкацца.

І вось цяпер я адпачну. Упершыню, можа, за дванаццаць год. Добра скінуць з тахты ногі, адчыніць у холад акно, прамерзнуць, зрабіўшы два-тры нядбалыя практыкаванні, памахаць рукамі і нагамі (замяняць сапраўдную працу, ад якой звіняць мускулы, гімнастыкай — лухта зялёная і трызненне сівой кабылы). Добра, калі струмені вады сякуць па плячах і спіне! Добра, калі скура чырванее ад суровага ручніка! Добра, калі трэскаецца аб бок патэльні яйка, і сквірчыць вяндліна, і чарнее кава ў белай-белай філіжанцы!

Добра адчыніць дзверы на пляцоўку свайго трэцяга пад'езда, «пад'езда старых кавалераў».

А, усё адно. Калі абрыдаць, то абрыдаць! Калі апісваць людзей, то апісваць. Бо амаль кожны з нашага пад'езда граў сякую-такую ролю ў нашай гісторыі.

У маім доме пяць паверхаў і чатыры пад'езды. Мой пад'езд трэці. Завуць яго «пад'ездам старых кавалераў» нездарма. Па невыказнай іроніі лёсу ўсе мужыкі ў ім (пра незамужніх дзяўчат не кажу) або нежанатыя, або ўдаўцы, або... Але гэта сумная гісторыя, і пра яе не трэба ў такую раніцу, калі снег растаў, калі паветра бадзёрае, а неба па-вясенняму нясмела і пранізліва блакітнае.

На кожным паверсе ў нас па дзве кватэры. Пачну, вядома ж, з майго паверха. Ён самы важлівы не толькі ў гэтай аповесці, але і наогул. Зямны шар круціцца вакол эгацэнтрызму.

Дзверы ў дзверы са мной жыве Адам Пятровіч Хілінскі, які часам запрашае мяне згуляць у шахматы і ўзяць чарку каньяку. Мянушка ягоная — «палкоўнік у цывільным» (мая чамусьці «Тоха», так называюць нас усе фраеры двара).

Хто ён? Не ведаю. І ведаю гэта лепей за іншых, бо ён некалькі разоў, ведаючы пра мае «гістарычныя дэтэктывы» і, магчыма, чытаючы іх, расказваў мне розныя выпадкі з мэтаю, што вось бы мне тое і напісаць ды зрабіць, бо пішуць і робяць нецікава і мала. А я не мастак на такія справы, то я адмоўчваўся.

Я гляджу на яго не так, як суседзі. Мне ён здаецца гэткім «Абелем у адстаўцы».

Можа, яно так ёсць на самай справе? Хто ведае? Я яго не пытаю.

І ён не скажа. Ведаю толькі, што хату — на горшую недзе выменяў: «Што мне, я адзін. І гэтай бы замнога, каб не кнігі ды фоткі».

Гэта адзіны мой друг на пад'езд. Не друг, уласна, а прыяцель па шахматах, па самотнай мужчынскай выпіўцы. Нячаста толькі. Бо метад жыцця ў яго дзіўны. Бывае, што ўдзень спіць, а начамі чорт ведае дзе. Часам месяц-другі няма ўдома. Завітае на гадзіну — і зноў няма.

Я не распытваю пра яго работу, калі сам не ўспомніць чагосьці. Па-першае, не ведаю, пра што можна спытаць. Па-другое, не ведаю, на што можа адказаць, і не хачу ставіць чалавека ў нязручнае становішча. Па-трэцяе, увогуле не люблю ніякіх устаноў, нават бальніц. Кашмар! Твары хворых, плявальніцы, пах. Яшчэ з даваеннага дзяцінства, з крывава-чырвонага плаката ў зубной лячэбніцы.

Толькі на кватэры я магу звесці з некім знаёмства. На службе чалавек не сам сабою, не тая асоба, якая толькі й цікавіць мяне.

Нават са сваім шэфам я разгаварыўся толькі тады, калі ён запрасіў мяне ў госці.

Так і тут. Мабыць, я псіх, але што зробіш? Але розум у яго жывы. Сам мог бы пісаць, а не падбіваць мяне.

Высокі, сівы, увесь нейкі дужа неславянскі — такіх толькі ў замежным кіно ўбачыш. Англіец? Нарвежац? Але падобен на дужа выцягнуты трохкутнік — плечы шырокія, а клубоў амаль зусім няма, і ногі пры хадзе, каб не парушыць гэтага трохкутніка, заўсёды ставіць блізка адну да адной.

Апрануты заўсёды бездакорна, ды яшчэ й з доўгай люлькай у зубах: «Містэр Сміт на Бобкін-стрыт». І толькі на паляванні, ці рыбалцы (ездзілі некалькі разоў), або ў кватэры, дзе няма староннiх, усё гэта замяняецца тыпова славянскай, мала таго, беларускай разбоўтанасцю. Сон дзе папала: куцавейкаю ля вогнішчаў, пяцьсот разоў «лісіцу» спаймаў»; стаптаныя чобаты — лата на лаце. І ўсё адно, нават у лахманах,— фацэт, нічога не скажаш. І азартны, зараза. Аднойчы, калі бесталковы сабака шукаў у дру-

гім баку, проста сам, ва ўсёй амуніцыі, з чаўна ў ваду скочыў. Па качку.

Знаёмства наша пачалося з балбатні ў двары. Гаварылі ўсе нешта пра чалавечыя захапленні. Ён маўчаў, ну я і вырашыў спытаць яго, а якое ў яго хобі.

— Бабачкі,— адказаў ён не толькі сур'ёзна, але й змрочна.

— Матылі?

— Я з вамі па-беларуску гавару. Жанчыны.

Нічога сабе манера жартаваць. На самай справе хобі ягонае — гравюры і кнігі. Частка знікла ў той час, калі гаспадарку вяла адна сястра, але нават тое, што засталося, здзіўляе. Багацюшчы кнігазбор: гісторыя права, філасофія, біялогія асабліва. Хрыбта гэтага падбору я, шчыра кажучы, так і не здолеў намацаць.

Пасля бібліятэка тая папоўнілася, ды яшчэ з'явіліся на сценах розныя егіпецкія, інданезійскія, афрыканскія рэчы.

Сястра і зараз прыходзіць са сваёй кватэры, дапамагае весці гаспадарку, прыводзіць і сваю хатнюю работніцу. Раз на два тыдні. Астатняе робіць сам. Ён гэта ўмее лепей, чым я. Уладкавацца паўсюль з максімальным камфортам.

Пра сябе гаварыць ён не любіць. Аднойчы толькі выплыла сёе-тое наверх. Глядзелі мы «Іванава дзяцінства». Геніяльны фільм. Справа, відаць па ўсім, адбываецца на Беларусі. І хлопчык з Беларусі. Вось там гэты хлопчык і задае пытанне, нешта накшталт: «А што такое Трасцянец, ты ведаеш?» Тут я і адчуў, як яго скаланула.

Ну, пра яго пакуль што досыць. Пачнем зверху. На пятым паверсе тры майстэрні мастакоў. Хто яны дома — не мне меркаваць, але, на маю думку, у майстэрнях сваіх усе мастакі — кавалеры, за выключэннем, магчыма, цалкам сумленных ды дурняў, што, можа быць, адно і тое ж. Калі паўз мае дзверы коцішча запознены вал спрэчкі або раніцай ціха пазвяквае шкло ў чамадане, я ведаю, гэта альфа і амега маіх мастакоў.

На чацвёртым паверсе жыве ўдавец Кяневіч з падлеткам-сынам, не дужа цікавы чалавек, а насупраць яго, з мамаю, Росцік Грыбок, чалавек дваццаці аднаго годзіка.

Грыбок з аднаго ведамства з прыяцелем Хілінскага, палкоўнікам крымінальнага вышуку Андрэем Арсенцевічам Шчукам, які пачасту заходзіць да Хілінскага гуляць у шахматы (тады той з нас, хто прыйшоў пазней, вымушаны капацца ў бібліятэцы). Яшчэ яны ездзяць разам на паляванне і рыбалку, і, часам, да іх прыядноўваюся я. Таму што мы ў нечым падобныя. І паляванне, і рыбалка, і патрэбнасць вечна ні з Дняпра, ні з поля дасціпнічаць.

Так што ў нас поўны давер і адноснае веданне адзін аднаго.

Хілінскі сам захацеў жыць менавіта ў гэтым доме і Грыбка (проста любіць яго) перасяліў за сабой. А мо проста так.

Грыбок ніякі не грыбок, а здаравенны грыбіна, хаця і зусім малады, свежанькі, крамяны. А ўсё ж грыбок. Па цвёрдых (так і хочацца мне заўсёды ўшчыкнуць) шчочках, па цёмна-карычневых вачах, па агульнаму адчуванню чысціні, баравой яснасці і лёгкай, па ўзросту, ну... бяздумнасці, ці што.

Ну, давайце спускацца з маёй пляцоўкі разам са мной. Лёгкае рэха крокаў па прыступках.

Другі паверх. На ягонай пляцоўцы жыве лекар, да якога я, дзякуй богу, яшчэ ніколі не хадзіў і хадзіць не хачу і вам ніколі не раю, і няхай ён увогуле застанецца без працы і гладыёлусы разводзіць. Бо ён псіхіятр і, здаецца, працуе ў доме вар'ятаў. Калі я сустракаю яго, мне заўсёды хочацца заспяваць маскоўскую песеньку:

Балалаечку свою
Я со шкафа достаю,
На Канатчиковой даче
Тихо песенку пою.

Вижу — лезет на забор
Диверсант, бандит и вор,
Я возьму свою гранату
И убью его в упор.

Комплекс гэта нейкі, ці што?

У гэтага чалавека ў дзвярах ёсць вочка, якое ўставіла адна з жанчын, што часам прыязджаюць да яго. Мне ўвесь час здаецца, што гэта ён пабойваецца масавага візіту сваіх пацыентаў на дом. Імейка ягонае, да вашага ведама, Вітаўт Шапо-Калавур-Лыганоўскі.

Калі б такое мне — я б ажаніўся з Жаклін Кенэдзі. Не, не ажаніўся б. Бо з ёю, як казаў адзін мой знаёмы, ужо «ажаніліся дзве гэтыя старыя балканскія малпы. А я лепей ажанюся з... Мерлан Мурло».

Аднойчы ішлі разам да тралейбуса, і неяк размова перайшла на тое, хто адкуль, на імёны і г. д.

«Чорт яго ведае адкуль такое,— сказаў ён.— Пра свайго прадзеда толькі й ведаю, што імя. Інтэлігентны. Мабыць, з лапцявой шляхты. Гонар, пэўна, вось і ўся музыка. Грошай няма, то давай паболей прозвішчаў».

А вось і ён сам. Выключна складзены, з пародзістым бронзавым аблiччам, нібы сярэдневяковы кандацьер з медаля. Хвалістая грыва срэбных валасоў, рот з цвёрдым прыкусам, шэрыя вочы глядзяць пільна. Рэдка мне даводзілася бачыць прыгажэйшы мужчынскі твар. І разумнейшы таксама.

Гаворыць з маладым чалавекам, сваім суседам. Той у меру прыстойны, у меру ладны, у меру мілавідны. А ўвогуле, пра яго толькі й можна сказаць, што ў яго руцэ вядро для смецця.

— Дзень добры, суседзе.

— Дзянёчак і добры.

Першы паверх. Злева на пляцоўцы кватэра, у якой ці кінастудыя, ці тэатральны інстытут, ці балетная студыя (так і не зразумеў што, а пытаць нязручна) размясціла інтэрнат на чатырох сваіх дзяўчатак. Там часта песні, весялосць, гітара. Вечарамі яны з хлопцамі нейкімі стаяць у пад'ездзе ля радыятараў, і раніцаю там многа недакуркаў. Калі я іду, дзяўчаты праводзяць мяне вачыма. Досыць часта. І я з гэткай жарабячай вясёласцю дрыгаю паўз іх зухаватымі нагамі.

Значыць, пакуль што я яшчэ нішто сабе. Хо-хо!

Дзяўчаткі гожанькія, з пульхнымі роцікамі, з дурнаватымі яшчэ, нібы ў кацянят, шырокімі «глядзелкамі», з пышнымі агонамі валасоў. Штонікі абцягваюць формы, якія з часам абяцаюць зрабіцца дужа ладнымі.

Прыгожыя. Толькі не для мяне. Мне без малога сорак, а з іх самай старэйшай, на вока, дваццацьдваццаць адзін. Звязацца? Каб праз дзесяць год рогі наставілі? Гэткае задавальненне саступаю вам. Стары я для іх. Часам, калі ўспомніш бомбы, і палон,

і ўсё, што потым, дык нават здаецца — і ўвогуле стары.

Справа на першым паверсе дзвярэй няма. Там уваход у сутарэнне. Даведка аматарам дакладных лічбаў.

Кватэра № 22 — дзявоча-цыганская багема (масленае масла).
Кватэра № 23 — цікавы малады чалавек з вядром.
Кватэра № 24 — Вітаўт-Ксаверы-Інэзілья-Хасэ-Марыя Шапо-Калавур-Лыганоўскі, майстар па чалавечых мазгах з медным абліччам Скалігера Кан-Грандэ.
Кватэра № 25 — азартны палкоўнік з Бобкін-стрыт.
Кватэра № 26 — я з усімі сваімі комплексамі.
Кватэра № 27 — Кяневіч са сваім даўгалыгім парасткам.
Кватэра № 28 — палянaчка з Грыбком. «У лузе на адной назе...»
Пяты паверх — тры майстэрні нежанатых мастакоў.

Двор. Звычайны новы двор з маладымі дрэўцамі, лавачкамі, газонамі, выбітымі на бубен футбольным мячом. Толькі што ў двары засталіся ад знесеных хат ускраіны двухпавярховы дамок, дуб, зарасці ясеню, пара груш ды некалькі асуджаных яблынь і вішань.

Дворнік Кухарчык дае мне «драстуйце». Гэткі сабе доўбня з каляным абліччам і кароткімі валасамі. І паўсюль ён лезе, дае парады, расказвае. І ўсё яму трэба ведаць, а мяне ён чамусьці лічыць самым разумным чалавекам вуліцы. Мяне гэта крыху абражае: чаму толькі вуліцы. Але яго не саб'еш, і ён узнікае за спінаю (у яго ёсць уласцівасць і ўмельства ўзнікаць як з-пад зямлі) і задае пытанне. Часцей за ўсё ўражанне пасля пытання, нібы праглынуў жарынку, адначасова атрымаўшы ўдар пад лыжку.

— А кітаец кітайца ў твар адрозніць?

— А вось цікава б ведаць, Антоне Глебавічу, які сэнс у кіпарысах, што на поўдні?

Сёння гэта:

— Не ведаеце часам, як «дворнік» па-латышску?

— Setnieks,— «часам ведаю» я.

— Цікава, і там і там амаль аднолькава.

І ён працуе і думае.

Выходжу з двара. Вуліца. Не «вясковы» бок, а «гарадскі». Аўтобусы, дамы, рэклама, марсіянская трынога тэлевежы наводдаль. Шум гарадской плыні, упарты і неўблажымы.

І як апошні акорд таго, што ёсць мой дом і мой двор, тытунёвы кіёск, у якім сядзіць стары знаёмы, «брыгадзір Жэрар», як яго называю я, Герард Пахольчык, якому я актыўна дапамагаю выконваць план.

Ён і сапраўды, як герой, сядзіць у сваёй будцы. Просты, сярэдняга расточку, вусаты. У дзіцячых, шырока раскрытых вачах наіў. І схожасць з дзіцем падмацоўвае жаўтавы пух на галаве.

Гэты таксама з цікаўных, як і Кухарчык. Але той з «мітуслівых» цікаўных. А гэты «цікаўны філосаф». Той лезе, падазрае, сумняваецца, гэты — сядзіць на троне і пытаецца ўедліва і сур'ёзна. Той бачыць непатрэбнае і неістотнае, гэты — «зрит в корень». Той толькі слухае — гэты яшчэ дае й парады з вышыні вопыту, набытага ў бяседах з разумнымі людзьмі. А вочы сочаць і свідруюць і бачаць усё.

Але абодвум уласцівы шырокі дыяпазон зацікаўленняў. Толькі першы цікавіцца сэнсам кіпарысаў, якія не даюць ні пладоў, ані драўніны, а другога цікавіць палітыка ў Непале і ўвогуле ўсё ад касмічных пералётаў і спосабу варыць малінавае варэнне — і аж да тэорыі чырвонага ссоўвання і лётаючых талерак, якія ён абавязкова называе НЛА (неапазнаны лётаючы аб'ект).

Купляю пачак «БТ». Глядзіць пільна, нібы наш разведчык у стаўцы Гудэрыяна.

— Дзіўна вы неяк цыгарэты адкрываеце. Тут пацягнуў за стужачку дый... А вы нажніцамі. І толькі ражок. І вось ужо колькі месяцаў гляджу — заўсёды толькі правы ражок. Можна ж вось за стужачку дый крышку зняць.

— Я, пане мой вялебны Герардзе, тое, што ў кепскіх старых раманах называлі «стары кавалер з устойлівымі звычкамі».

— «Устоявшимися привычками»,— перакладае начытаны Герард.— Ды нашто ж ражок?

— Партсігараў не люблю. А здымаць усю крышку — тытуню тады ў кішэнь натрасеш.

— Ды чаму ж правы?

І сапраўды, чаму правы? Чаму я заўсёды першым узуваю левы туфель?

— Літары туды глядзяць.

— А-а.

## Раздзел III

### *Дамы, манахі і паршывы беларускі рамантызм*

У адказ на званок з глыбіні кватэры даляцеў, набліжаючыся, гарматны сабачы брэх.

— Ганец да скарбніка Мар'яна, — сказаў я.

Два тыгравыя догі, кожны з добрую цялушку, пазнаўшы мяне, са свістам замалацілі тоўстымі ля кораня хвастамі.

— Эльма! Эдгар! На месца, слінцяі паршывыя!

— Смачны, вось і слінцяі,— сказаў я.

Кватэра ў Пташынскага гэта чорт ведае што, толькі не кватэра. Старая, прафесарская, бацькоўская, дзівам ацалелая ў гэтым амаль дашчэнту знішчаным горадзе.

На вокнах візэрункавыя краты: бібліятэка татачкі была ледзь не самай багатай прыватнай бібліятэкай краю (не лічачы, вядома, магнацкіх). Дзівам ацалела ў вайну й бібліятэка, але сынок струбіў яе ва ўсім, што не датычылася гісторыі,— дзяржаве, каб вызваліць месца сваім улюбёным гатычным і барокавым монстрам. Монстры выжылі адсюль не толькі кнігі, але й... урэшце, я няўдала пажартаваў.

Мар'яна б да нас замест дзяўчат. Быў бы цалкам кавалерскі пад'езд. Але ён адсюль не паедзе, бо тут хапае месца для ягоных лялек, хаця кватэра й нязручная: былы загарадны дом, да якога зараз падпаўзае горад. Чатыры вялізныя пакоі са столлю пад неба. А за вокнамі пустыр: дно былых велічэзных, даўно спушчаных ставоў і бераг з рэдкімі купамі дрэў, за якімі праглядаюцца будынкі парніковай гаспадаркі.

З другога боку да дома прымыкаюць закінутыя могілкі. Іхнюю браму ў стылі позняга барока відаць, калі падыходзіш да дома напалову выпляжанай алеяй высачэзных ліп.

У пакоях сапраўдны Грунвальд: лётаюць пад столлю анёлы, ускідваюць крыжы з лазы Яны Ксціцелі, а Яны Непамуцкія нясуць пад пахаю ўласныя галовы, нібы кавун у трамваі. Юры з вылупленымі ад жаху вачыма папірае нагою цмока, рыдаюць ужо трыста год Магдаліны. Іконы на сценах, іконы, нібы ўкрытыя ржою па кутах, і іконы, распасцёртыя на сталах, свежанькія, нібы толькі з Ярдані, усміхаюц-

ца чалавеку, што іх зноў стварыў. Пахне хіміяй, дрэвам, пахучай старой фарбай. Залацяцца спінкі кніг. Скаляць зубы грыфоны, падобныя на сумных курэй.

І ўсё гэта дзіва як хараша! І сярод усяго гэтага, створанага сотнямі людзей, два сабакі і чалавек. Лепшы мой сябар.

— Ёсць што-небудзь з марозу, іконнік?

— Адліга сёння, залатар,— сказаў ён.

— А з адлігі ёсць? — сказаў я.

— З адлігі ёсць сухія цёплыя батарэі... Вось.

— Законы продкаў забываеш? — спытаў я з пагрозаю.

— Пры Жыгімонту лепей было,— сказаў ён, несучы на нізенькі столік пачатую бутэльку віньяку, лімон, «мікалашку», талерку бутэрбродаў, сыр і, чамусьці, мочаныя яблыкі,— аднак і кароль Мар'ян немцаў не любіў, і ляхаў, і ўсіх іншых, а нас, беларусцаў, шкадаваў і любіцельна мілаваў.

— Пача-атая,— сказаў я.

— Будзе і поўная.

— То і ставіў бы.

— Ведаеш, што лічылася ў нашых продкаў дрэнным тонам?

— Ну?

— Бляваць на сярэдзіну стала. Вось што лічылася ў нашых продкаў дрэнным тонам. Старажытны кодэкс прыстойнасці. «А нудзіць на сярэдзіну стала — кепска і пагана і нягожа ёсць».

— На край, значыцца, можна? — спытаў я.

— Нічога не сказана. Мабыць, можна. Дазваляецца. Што ж тут страшнага?

— Невук ты. На свой край дазваляецца. На чужы, vis a vis — ані!

— Прыемнага вам,— сказаў ён.

— Сам пачаў.

Сабе ён наліў на донца.

— Ты не сярдуй,— нібы апраўдваючыся, сказаў ён, і толькі тут я заўважыў, што на пазногцях ягоных блакітнае адценне.— Крыху — гэта на шкодзіць сэрцу. Наадварот, карысна. Усе лекары гавораць. Акрамя таго, мне хутка ўвогуле нічога не будзе шкодна.

— Ну-ну,— сказаў я.

— Самы момант, пэўна, не страшна,— задуменна

сказаў ён.— Чаканне — вось што дзярмо сабачае. Сабачае прадчуванне на бяду.

Эльма і Эдгар уважна глядзелі на яго, часам пераводзячы на мяне вочы.

— Як вось яны. Уяўляеш, сёння пад раніцу вылі з гадзіну. Ніколі ў жыцці такога не чуў. І не дварнягі ж яны, а сабакі цывілізаванага стагоддзя... Ці ўдасца нам з табою яшчэ ў рыбку? Паедзем, як чыстая вада будзе?

— Нягож.

Усё жыццё буду катаваць сябе за свой тон падчас той размовы. Нібы чуў, як чалавек унутрана ўздыхае: «О-ох, пажыць бы», а сам у гэты час адказваў, так-сама ўнутрана: «Не ный, хлопча, усё добра».

— Паказвай кнігу,— сказаў я.

Мы трымалі том на каленях і павольна гарталі старонкі. Падбор гэтых трох пераплеценых у адну кнігу быў дзіўны, але ці мала дзіўнага рабілі людзі тых часоў. Іхняя логіка цяжка даецца нам. Пераплёў жа невядомы манах у адну турму са скуры: «Казанне аб Індыі багатай», «Казанне аб Максіме і Філіпаце» і «Слова аб палку Ігаравым».

Евангелле Слуцкага. Дужа рэдкая рэч, але нічога асаблівага. Статут 1580 года. Сапраўды, першае друкаванне, паколькі я мог меркаваць (колькі б стадрукаванне, паколькі я мог меркаваць (колькі б ста-тут ні перадрукоўваўся — год ставілі той жа самы, 1580-ты). Але з ініцыяламі Евангелля Цяпінскага было сапраўды цікава.

Друк гэтай кнігі вызначаўся строгасцю. Кожная балонь тлуста, упоперак, нібы перарэзана напалам. На верхняй палове старонкі стараславянскі тэкст, на ніжняй — старабеларускі. Сухі, строгі шрыфт, нічога лішняга. І раптам, сярод гэтай пратэстанцкай пустэчы, я ўбачыў дзіва: застаўкі і ініцыялы, што цвілі макамі, срэбрам і золатам так, што вачам рабілася балюча. Кветкі, сцяблiны, воіны, коні — усё імкнулася ў зыркім, вычварным, радасным палёце са старонкі на старонку.

— Язычнік,— сказаў я.— Адкуль такое дзіва?

— Вось надпіс.

Надпіс на адвароце вокладкі быў, відаць, з чарнільных арэшкаў і камедзі: рыжыя чарнілы выцвілі. XVI—XVII стагоддзі. Самы пярэдадзень шалёнага націску Польшчы. Але я не мог адарваць вачэй

ад цвітучага поплаву, і мне не хацелася ўглядацца ў блытаную рыжую вязь.

— Ты не адказаў. То ўсё ж адкуль?

— Альшаны.

— Нешта чуў, але цьмяна. Дзе?

— Гісто-рык. Мястэчка... Кіламетраў трыццаць ад Кладна... Князям Альшанскім належала. Гедымінавічы. Дужа старажытны беларускі род. Шматлікія маёнткі па Нёмане і Пцічы, некалькі ўласных гарадоў. Увесь час высокае становішча. Падмацоўвалі тым, што каралям гарады дарылі.

— Памятаю,— сказаў я.— Гэты ж адзін з іх Голаск — гарадок Жыгімонту Аўгусту «падарыў», а той яго «падарыў» Яну Хадкевічу.

— Но.

— І гэта адзін з іх падчас розбрату Свідрыгайлу ў палон захапіў.

— З гэных,— сказаў Мар'ян з некаторым задавальненнем, што вось, маўляў, і сябар не нагою шморкаецца.— А тыя Альшаны іхні маёрат і спрадвеку ім належалі. З бортнымі дрэвамі, і вёскамі, і рэчкамі, баброў каб ганіці.

— І кожнага пятага бабра сабе,— пачаў хуліганіць і я,— а астатніх пану або сабе пачэраўе ад кожнага бабра.

— Гля-адзі-і ты! І «ўстаў на валокі» ведае. Начытаны, халера!.. Ну дык вось. Кнігу тую я знайшоў у Альшанах на гары ў хаце такога дзеда, Мультана. Вартаўнік пры замку і, галоўнае, пры касцёле. Надзвычай цікавы тып. Сагнуты, як мядзведзь. Паляўнічы крыху. Філосаф.

— Ты гэта мне дзеля чаго?

— Ды ўсё ў сувязі з гэтай трывогай. Мозг шукае. Ліхаманкава. Усе абставіны ўспамінае, усе самыя нязначныя здарэнні.

Ён глядзеў у акно на пустку і на шаты могілак воддаль.

— Замак той — звычайны палацава-замкавы ансамбль,— нібы прыпамінаючы, нібы трызнячы, сказаў ён.— Толькі што адзін з першых такога роду. Самая сярэдзіна XVI стагоддзя. Можа, дзесяццю — дваццаццю гадамі пазней. Ужо не зусім замак, хаця і бліжэй да яго, чым да палаца. Страшны будынак. Мясцовы валунны граніт, браце, барвяна-карычневы

з куродымам, амаль чорны. Ну і вада вакол. А крыху наводдаль касцёл са званіцай. Гэты крыху пазнейшы. Пачатак семнаццатага. І ўсё гэта разам нешта гнятучае нараджае, цяжкае, змрочнае. Ну, як праклён на ім які, як здані ў ім дагэтуль блукаюць.

— Кніжак начытаўся, ёлупень.

Ён раптам павярнуўся. Рэзка. Імкліва.

— Так. І кніжак. Уяўляеш, не ў аднаго мяне ўсё гэта такое пачуццё выклікае. Ва ўсіх выклікала. Заўсёды. І гэта не маё, суб'ектыўнае, а агульнае пачуццё. Вось глядзі...

Мар'ян кінуўся да стэлажоў і, не шукаючы,— відаць, не раз ужо глядзеў,— дастаў маленькую пузаценькую кніжачку.

— Вокладкі няма. Нейкі з мясцовых правінцыяльных рамантыкаў мінулага стагоддзя. Ясна, што мясцовы, бо дыялектызмы на кожным кроку. І ясна, што піша па-польску, не дужа й тую мову ведаючы, а ведаючы яе мясцовы, шляхецкі дыялект. Р-рамантык! Знаеш усіх гэтых аўтараў «Пёсэнэк вейскіх з-пад Нёмана і Шчары» ды «Чароўных Янаў з-пад Нарачы». Напіша кнігу пад назваю «Душа ў чужым целе, або Незямныя радасці на берагах Свіслачы», дый радуецца.

Мне таксама стала ніякавата. Добры ўклад унеслі браткі-беларусы ў культуру свайго і братняга, польскага, народаў... І ўсё ж колькі ў гэтым было прыемнага: наіў, дабрыня, лёгкае адценне дурнаватай і шчырай чуласці, сардэчнасць. Словам, кажучы словамі аўтара «Завальні», «зацны прохі ойцув». І потым, не будзь гэтых людзей, не выраслі б на гэтай глебе ні Баршчэўскі, ні паэт-тытан, ад уласнай беднасці падораны намі Польшчы. Хай спяць спакойна: яны сваё зрабілі.

Мар'ян, аднак, не быў настроены так лагодна. Ён аж кіпеў.

— Чорт бы іх пабраў. Калі ўжо на тое пайшло, то гэта яны насаджалі правінцыялізм, а не Дунін-Марцінкевіч, на якога столькі сабак вешалі з-за гэтага. Самі і вешалі. Дый рамантызм наш дурацкі, беларускі, паршывы, менавіта яны насадзілі.

— Паршывы беларускі рамантызм і гафманізм мы ў іх насадзілі,— сказаў я.— Але ў чым справа? І чаго ты той кантычкай у мяне пад носам махаеш?

— Адчуванне ад Альшан,— нібы асекшыся, сказаў ён і пачаў чытаць.

Сто разоў з таго часу перачытваў я гэтую легенду, напісаную наіўным і ўзнёслым стылем рамантыка (харошыя яны былі людзі, сумленныя аж да святасці чыстыя да апошняга, не даносчыкі, не паршыўцы!). Сто разоў учытваўся ў радкі, то няладныя, а то й зусім някепскія. Нават, для зручнасці, пераклаў усё гэта на сваю мову, дарма што з юнацтва не пэцкаў рыфмамі паперу. Я і зараз падам яе вам у гэтым каструбаватым перакладзе. А тады я слухаў яе ўпершыню.

Чорны замак Альшанскі. Месяц нырае ў хмарах.
Вежы туманныя ў змроку сны аб мінулым мараць.
Слухаюць вецер золкі, вой далёкі ваўчыны,
Слухаюць, як на мурах са страху трасуцца асіны...
У, як ціха і мёртва! У, які змрок глыбокі!
Ціха! Ты чуеш здалёку ў аркадах бязгучныя крокі!
Кожную поўнач такую ў замку, што стыне ад жаху,
Па галерэях праходзяць дама з чорным манахам.

Далей быў звычайны рамантычны сюжэт, для нас ужо ў чымсьці дзяціны. Высакародны разбойнік з багатага, даведзенага да галечы роду зрабіў замах на жонку альшанскага князя. Тая таксама кахала яго. Князь быў скупы і жорсткі стары звер — па ўсіх канонах гэтага жанру.

Каханкі, забраўшы казну, уцяклі з замка. Князь пагнаўся за імі і забіў. І вось іхнія прывіды ходзяць пад аркадамі замка, чула і цяжка ўздыхаючы і палохаючы стогнамі добрых людзей.

— І што, праўда гэта? — спытаў ён, скончыўшы.

— А чорт іх ведае,— сказаў я,— гэтых рамантыкаў. Што, была на свеце Гражына? Ці горад на месцы Свіцязі?

— І цябе нічога не насцярожыла? — ён дапытліва глядзеў мне ў вочы.

— Насцярожыла,— сказаў я.

— Што?

— Адзіная рэальная дэталь. Тое, што княскую казну пабралі. Нейк такі ўчынак з рамантычнай паэтыкай не вяжацца. А ўжо да іхняга маральнага кодэкса — ані божа мой!

— Пр-равільна! — ляснуў ён мяне па плячы.— Разумнік! Сапраўды, як на рамантыка, то гэта хаця й

пачварная, а рэалія. А калі так, то чаму б не быць праўдаю і ўсёй легендзе?

— І прывідам? — паддзеў я.

— Прывіды таксама ёсць на свеце,— пазмрачнеў ён.— Іх болей, чым мы думаем, дружа.

Ён закурыў. На гэты раз па-сапраўднаму, зацягваючыся. Я таксама выцягнуў з надрэзанай пачкі цыгарэту.

— Дык вось,— сказаў ён.— Я пачаў правяраць. І, самае дзіўнае, падобна тое, што наш паэт, як на легенду, не дужа і нахлусіў. Пастарайся слухаць мяне ўважна.

За акном ляжала шэрая пустка з рэдкімі бадыллямі бур'яну на ёй.

— Ты, мабыць, не ведаеш, што Альшанскія былі ледзь не самым багатым родам на Беларусі. Але толькі пэўны перыяд. Прыблізна сто год. Да гэтага часу і пасля яго — ну звычайная магнацкая фамілія, як усе. Але ў гэтае стагоддзе — крэзы, якія пабівалі багаццем самога караля.

— З чаго тое стагоддзе пачалося?

— З 1481 года. Ану, што за год?

Была ў нас такая гульня, ад якой іншы чалавек пасінеў бы. Так проста, бы з яра ў ваду, задаваць адзін аднаму пытанні накшталт таго, на якіх мовах быў напісаны бехістунскі надпіс (старажытнаперсідскай, эламскай і вавілонскай) або якога колеру былі выпушкі ў інжынерных войсках пры Мікалаі Першым (чырвоныя).

— Кішкі ў вас слабыя, дзядзька Мар'ян,— сказаў я.— Гэта год змовы Міхайлы Алелькавіча, князя Слуцкага і яго стрыечніка Хвёдара Бельскага.

— Правільна. І іншых, сярод якіх Пятро Давыдавіч, князь Альшанскі. Што далей?

— Ну-ну, хацелі яны вялікага князя Казіміра на смерць прыправіць і самім правіць краінай. А як ужо не пашанцуе, то ўзняць край і трымацца да апошняга. А як і гэтага не атрымаецца, то з усімі сваімі ўладаннямі ад княства адсесці і шукаць падмогі ў Масквы.

— Так. І чым гэта скончылася?

— Змову раскрылі. Паляцелі галовы. Каго ў цямніцы прыдушылі, каго на плаху пры паходнях, каго, прасцейшага, на палю. Сотні ахвяр з тых людзей,

што хацелі самастойнасці. Бельскі Хвёдар Іванавіч, кінуўшы ўсё, уцёк у Маскоўшчыну да Івана Трэцяга і прынёс яму ў «пасаг» «северскія землі».

— А іншыя землі куды падзеў? — іранічна спытаў Мар'ян.

— Ну не ў кішэні ж панёс. Кінуў.

— Вось яно як,— сказаў Мар'ян.— Палі, плахі, прэнг. А хто з галоўных змоўшчыкаў застаўся?

— Валі.

— Альшанскі застаўся. Адзін з усіх. Адзін з усіх, якому нічога не было. Наадварот, сеў у маёнтак моцна, як ніколі. Чаму?

— Моцны быў. Баяліся. Род княскай крыві і з каралямі павязаны не раз.

— Глупства. Не пaглядзелі б.

Ён адкінуў кніжку на стол. Моўчкі мы сядзелі адзін насупраць другога. Урэшце Мар'ян правёў рукою па твары, нібы ўмыўся:

— І якраз з гэтага года пачынаецца неверагоднае, проста несамавітае, фантастычнае багацце роду. Тысяча і адна ноч. Скарбы Галконды і Эльдарада. Дораць гарады. Сустракаючы вялікага князя, апранаюць у золата тысячы шляхцюкоў і сялян. Ліставым золатам абабіваюць замкавыя дахі. Словам, усё, на што здатны быў чалавек, раптам узбагаціўшыся

— Звонку нібы культура, а знутры...

— Дзікунства? — спытаў Мар'ян.— Не. Тут танчэй. Лічы: толькі-толькі да сапраўднай улады прыйшлі. Над душамі, над целамі, над дзяржавай, урэшце. З Усяславам Чарадзеем не дужа паспрачаўся б... А тут... Ну і адмовілі цэнтры, якія стрымлівають. Адмовілі, як ва ўсіх свежых паноў над усім, хаця многія з гэтых, свежых, і стагоддзямі свой род цягнулі, але на правах... ну, дружыннікаў, ці што. І вось пачалося: звонку гуманісты, звонку вытанчаныя, а ўнутры — тыгр.

— Тут ты, па-мойму, памыляешся,— сказаў я.— Астрожскіх успомні, Міколу Радзівіла, Сапегу Льва. Сапраўдныя, адукаваныя, стрыманыя людзі, хай сабе і страсныя.

— Вонкавы гэта разлад,— сказаў Мар'ян.— Ясна, што ў масе гэта не двор Чынгісхана і не апрычны двор. Усё ж на вачах у Еўропы, пачаткі галоснасці,

пачаткі дэмакратыі, хай шляхецкай. Noblesse oblige [1]. Але ломкі хрыбтоў і тут хапала.

— «Час — ён заўсёды такі, калі знаходзяцца людзі»,— працытаваў я кагосьці.— Але ты ўсё ж гані сюжэт.

— Ну і вось. І раптам праз нейкія там сто год усёй гэтай раскошы — крэс! До — праз меру гуляць, до — ліставога золата, до — загонаў у парчы! Звычайны сярэдняга багацця род. У чым справа?

— Гэтага мы ніколі не даведаемся,— сказаў я.— Мала што там магло здарыцца. Ну, скажам, першае, гэта Пятро Давыдавіч, хаця й моцны, пабойваўся ўсё ж, што прыпомняць удзел у змове, і вырашыў багацце тое пратрэнькаць, пажыць на ўсю заКрутку. І нашчадкі трэнькалі. А як пратрэнькалі, то й супакоіліся.

— Т-так,— сказаў ён.— Ты ведаеш, што то за знакі і што азначаюць?

На шматку паперы ён вывеў наступнае:

— Ну, ты мяне за дзіця лічыш. Гэта лічбавыя знакі літар. Першая — легіён, або сто тысяч, другая — леадор, або мільён.

— Ну, а так?

І ён напісаў яшчэ й такое:

— Ну, шэсцьсот тысяч, ну, сем мільёнаў.

— То вось, адкажы ты мне цяпер, даражэнькі мой лабузю, Антон Глебавіч, якім такім чынам мог чалавек, нават самы магутны, прыдбаць за палову года багацце ў шэсцьсот тысяч залатых ды на сем мільёнаў каштоўнымі каменнямі — гэта на той падлік, на той, калі й сапраўды «цялушка-палушка» была,— і якім чынам ён, нават калі б еў тое золата — і нашчадкі яго ныя елі,— мог за нейкія сто трыццаць год такі капітал струбіць? А яны ж кожны год і даходы фантастычныя да таго мелі.

— Магчыма, ведаў аб казне змоўшчыкаў і прыбраў яе да рук.

— А можа, выдаў? — спытаў Мар'ян.

— Такое пра людзей так, без доказаў, нельга

[1] Становішча абавязвае.

рэкнуць. Хаця б яны і гнілі ўжо ў зямлі трыста год. На тое мы і гісторыкі.

— Угм. «История, та самая, которая ни столько, ни полстолько не соврет». Згніў ён толькі не ў зямлі, а ў саркафагу Альшанскага касцёла. Там на саркафагах статуі каменныя ляжаць. Такая, брат, ляжыць пратабестыя, з такой святой ды божай усмешачкай. Сам убачыш.

— Чаго гэта я раптам «убачу»?

— Як захочаш — убачыш. Ну вось, а наконт знікнення — успомні баладу гэтага... менестрэля засцянковага.

— Выдумка.

— У шмат якіх выдумках ёсць пах праўды. Я шукаў. Шукаў па хроніках, успамінах, дакументах. Тут не месца іх называць — вось спіс.

— І дакапаўся?

— Дакапаўся. Табе гаворыць што-небудзь такое прозвішча — Валюжыніч?

— Валюж... Ва... Ну калі гэта тыя, то Валюжынічы — стары род, яшчэ ад «сваіх» князёў, тых, што «да Гедыміна». Мелі землі ў Полацкай зямлі, ля Менска і на паўночны захад ад яго. Але да таго часу ўсё радзей упамінаюцца ва універсалах і хроніках, мабыць, згалелі, страцілі вагу. Лёс, увогуле, звычайны. У семнаццатым стагоддзі знікаюць.

— Малаток,— з блатным акцэнтам сказаў Мар'ян.— Кавадлам будзеш. Ну, а апошні ўсплёск рода, га?

— Чакай,— сказаў я.— Гамшанскае паўстанне, так?

— Ну-ну,— падначваў ён.

— Грыміслаў, Андрэевіч, здаецца, Валюжыніч. 1611 год. Славуты — «удар у спіну»? Чорт, ніяк я гэтых з'яў не звязваў.

— А між тым Гамшаны ад Альшан — не адлегласць. Так, Валюжыніч. Так, два тыдні бойкі без пярэрвы ды пасля з год лясной вайны. І на гак павешаныя, і на палю ўскінутыя. Так, славуты «ўдар у спіну», пра які мы так мала ведаем.

— Нявыгадна было пісаць. «Здраднікі». І ў такі момант! Інтэрвенцыя, вайна. Наступныя падзеі, мабыць, і захілілі, зацерлі ўсё... Сюжэт, Мар'яне!

— Невыносны ты,— абурыўся ён.

— Ад цікаўнасці гару. Не цягні.

— Ну вось. І падлічыў я, даражэнькі мой, па пісцовых кнігах і актах, што за гэтыя гады, улічваючы і даходы з маёнткаў, нашчадкі, нягледзячы на ўсе шаленствы, аніяк не маглі выдаткаваць больш за трэць прыдбанага скарбу. Гэта пры самым што ні ёсць страшным, «радзівілаўскім», мантацтве. І вось у год бунту Валюжыніча княжыць у Альшанах Вітаўт Хвёдаравіч, пяцідзесяці сямі год, а жонка ў яго — Ганна-Гардзіслава Альшанская, дваццаці пяці год, а ў дзявоцтве князёўна Мязецкая. І княгіню гэтую страшэнна папікае ў сваім пасланні біскуп Кладзенскі Геранім за забыццё княскага і жаночага гонару, а галоўным чынам за тое, што ворагі княства вялікага карыстаюцца для сустрэч патаемных з ёю вопраткаю мніхаў.

— Сапраўды, жах які,— сказаў я.— «Дама з чорным манахам».

— І паршывы беларускі рамантызм,— сказаў Мар'ян.— Вось, уяві сабе такую маю гіпотэзу. Усё разбіта. Паратунку няма. Паўсюль гойсаюць віжы. Паплечнікі на палях хрыпяць. І ва ўсім вінаваты з самага пачатку князь Вітаўт Хвёдаравіч Альшанскі. Яму на водкуп было аддадзена Кладзенскае староства. Ён гроб несамавіта і яшчэ шмат грошай здзёр з яго на сваю карысць. Праз яго цяпер людзей вешаюць. А жонка ягоная, як і ў баладзе,— анёл. Што, не маглі яны тую казну, скарб той, пабраць і ўцячы? Каб хаця частку нарабаванага аддаць ахвярам?

— Гіпотэзы,— сказаў я.— Адкуль той паэта мог ведаць?

— А ты падумаў, колькі архіваў, сямейных паданняў, чутак, легенд, урэшце, магло знікнуць за сто з лішнім год? З войнамі, ды пажарамі, ды рэвалюцыямі? Пэўна, нешта ведаў.

Ён зноў закурыў. Не трэба яму было рабіць гэтага.

— І вось у 1612,— ён выпусціў дымавое кольца,— гэты чалавек, гэты «мніх» знікае. Самае цікавае, што знікла і яна. Ці ўцяклі, ці забітыя былі, хто ведае? Хутчэй за ўсё ўцяклі. Бо вось сведчанне копнага суддзі Станкевіча, што пагоня княская была, бо тыя нібыта пабралі альшанскі скарб, але ён, Станкевіч,

воляй сваёю пагоню тую спыніў і ганіціся, пад пагрозаю смяротнай кары ад караля, не даў. Можа, другі нейкі загон князя дагнаў уцекачоў і забіў? Не. Вось у тым жа копным акце клятва Вітаўта Альшанскага на Евангеллі, што не забіваў і няма крыві на ягоных руках, і што пасля апошняй яго сустрэчы з імі, калі падсачыў, як збягалі яны з Альшан, такія і такія сведкі ведаюць, што былі яны яшчэ праз два тыдні жывыя... А між тым сляды іхнія зніклі. Ні ў якім горадзе аж да Вільні, Варшавы, Кіева — слядоў іхніх няма.

— Ну, гэта мала што! Ціха жылі, вось і няма. Хаця, паспрабуй ты пражыві ціха з такім багаццем.

Раптам пэўная думка стукнула мне ў галаву:

— Чакай, а нашто там было быць копнаму суддзі Станкевічу, чалавеку з рода беларускіх шэрлок-холмсаў, патомнаму сышчыку? Амаль жа ніводнай шумнай справы не было ў шаснаццатым — семнаццатым стагоддзях, каб яе нехта са Станкевічаў не разблытваў. Аж да славутага Дурыніцкага забойства.

— То ж бо й яно! Якраз у час знікнення ўцекачоў кароль назначыў Станкевіча на рэвізію маёнткаў і прыбыткаў князя Альшанскага.

— І...

— І рэвізія тая скончылася нічым. Увесь скарб знік. Зніклі тыя, што забралі яго. Зніклі ўсе кнігі разлікаў, дакументы, нават радавыя граматы. Усё знікла. Пляменнікам князя Вітаўта давялося іх нанава выпраўляць. А праз гэта з іх пазней дужа смяяліся і, калі хацелі паздзекавацца, сумняваліся, ці такі ўжо на самай справе старажытны іхні род, ці не ўпісалі яны сябе самі ў розныя там прывілеі і кнігі. А ў іх і багацця дзядзькавага, казачнага, не засталося, каб хаця раскошаю заторкнуць раты, замазаць вочы.

— Пляменнікі? Чаму? І няўжо следства тое не дакапалася?

— Так, не дакапалася. Так, пляменнікі. Бо праз год пасля пачатку следства князь Вітаўт Альшанскі хуткім чынам памрэ.

Мы маўчалі. Слотны дзень за акном пачаў цьмянець.

— Але чаму следства? — спытаў я.

— Вось і я думаю чаму.
— Усплылі падзеі стогадовай даўнасці?
— Каго яны цікавілі? Нават калі было нейкае злачынства, то што, унуку адказваць за дзеда? Праз сто год?
— Маглі паквапіцца на грошы. Скарбніца дзяржаўная была пустая.
— Глупства. Падатак бы новы лепей наклалі.
— То, можа, на водкупе князь пракраўся?
— Таксама нікога не цікавіла. Заплаціў адразу ўсю суму, атрымаў староства ў арэнду, а там каму якая справа, нават калі б ты і тройчы столькі выбіў з жыхароў.
— Мо справа паўстання? Сувязь гэтай... Мязецкай ураджонай з правадыром?
— Альшанскага датычылася справа. Мязецкіх чапаць бы не сталі. У 1507 годзе нейкая прабабка нашай гераіні была «сэрцам і душою» вялікага князя Жыкгімонта. І з таго часу — вельмі прыбліжаныя да каралёў, вельмі давераныя людзі.
— То, можа, даследавалі знікненне княгіні Ганны?
— Пазней яна знікла. Следства ўжо з месяц ішло. Бач, колькі версій: старая змова — водкуп — падзеі паўстання і тое, як яны адбіліся ў сям'і князя.
— А можа, і тое, і другое, і трэцяе.
— Можа быць. Вось і заняўся б. Займіся, га? Вось табе й тэма для чарговага расследавання.
Святая Інеса глядзела на мяне, умольна склаўшы рукі. Я не мог адмовіць ёй.
— Падумаю,— сказаў я.— Але паслухай, Мар'яне, якая ж можа быць сувязь між падзеямі тых часоў, ды яшчэ падзеленых між сабою цэлым стагоддзем, між гэтай кнігай з Альшан, даўно закінутай, нікому не патрэбнай, акрамя музея ды гэткіх, як мы з табой, і тым, што нейкія барыгі ад мастацкага бізнесу званяць табе, ходзяць пад вокнамі і гэтак далей. Можа, і пад вокнамі зусім не тыя, што званілі?
— Можа. Але трывога такая, што вось памру. Прадчуванне нейкае. Вось гаворыць сэрца, і ўсё.
— Гаворыць, бо хворае. Ты што, раней такіх прыпадкаў беспрычыннага жаху не адчуваў?
— Гэта не тое. Гэта не ад сэрца. Гэта глыбей. Нібы ў сабак перад пажарам.

— То звярніся ў міліцыю, як я табе раіў.

— Каб за вар'ята палічылі?

— А тады супакойся. Досыць сябе шматаваць.

Я ўстаў. Трэба было ісці дахаты. І тады Пташынскі нібыта ўнутрана замітусіўся. Пачаў трапаць цёмныя валасы. Вочы сталі беспарадныя.

— Ты, ведаеш што...

Ён узяў старую кнігу і працягнуў мне:

— Ведаеш? Во... Вазьмі з сабою... Яны...

— Якія яны?

— Не ведаю. Яны. Яны не падумаюць, што я такую рэч мог выпусціць з хаты. Спакайней будзе. Схавай добра. Я часам буду заходзіць. Думкамі абмяняемся. Разам будзем разглядаць.

— А над чым жа ты думаць будзеш?

— У мяне вельмі добрая фотакопія. Я, каб кнігі не трапаць, па ёй працую. Да таго ж я горшы палеограф, чым ты. А ты — паглядзі. У чым там справа?! На вось партфель. Можаш у сябе пакінуць.

Партфель быў вялізны. Нават гэтая вялікая кніга схавалася ў ім і яшчэ засталося месца.

Я сабраўся быў ісці адзін, але ўбачыў, што Пташынскі нацягвае паліто. Калі ён браў на павадок сабак, я быў абурыўся.

— Гэта яшчэ нашто?

— Маўчы, Антоне. Трэба.

Ён даў мне яшчэ адну падставу для здзіўлення. Заскочыў у бліжэйшы «Гастраном». Сабакі, вядома ж, засталіся са мной, люта зіркалі вакол. Я думаў, што ён вынесе бутэльку. А ён вынес тры. Адну як трэба, з віном, а дзве... з кефірам.

— Мар'яне,— сказаў я,— я ж яго цярпець не магу. Гэта ж нейкая дурная прыдумка. Мне ж малако бабка носіць, я ж сам яго на кіслае раблю, на наша, вясковае. Мне ж ад гэтай кефірнай саладухі бляваць хочацца.

— Выліць можаш,— сказаў ён, засоўваючы бутэлькі ў партфель, каб рыльцы тырчалі вонкі.— Кіслае малако! Устойлівыя звычкі старога кавалера!

— Маскарад? — з іроніяй спытаў я.— Здурэў ты, Мар'яне, дзяцінішся ты, сукін сын.

— Ладна,— сказаў ён, беручы павадок,— ты сабе ідзі. Ідзі. Тупай.

Трывога ягоная, як ні дзіўна, перадалася і мне. Ведаў — глупства. А не трывожыцца не мог.

...Ля майго пад'езда Пахольчык высунуўся з тытунёвага кіёска:

— Бож-жа ж мой, сабачэнцыі якія! Звяры! А што б то магла быць за парода, то сказалі б вы мне ўжо?!

— Тыгравыя догі,— буркнуў Мар'ян.

— Ай-я-яй, што то бывае! І тыгра і сабака! І скажыце вы мне, як гэта іх павязваюць? Тыгра ж хаця й вялікі, а кот. Як жа ён з сабакам.

— Сілком,— сказаў Мар'ян.

— Дрэсіруюць,— і тут жа мне стала шкада старога: — Гэта проста масць у іх такая, тыгравая. Жартуем мы, дзядзька Герард.

— Ну, бог з вамі. Жартаваць не грэх. Гляджу, прагуляліся вы сёння, румянец здаровы. І добра, што кефір нанач п'яце. Здарава гэта — кефір.

— Яшчэ б,— сказаў я.— Ды яшчэ калі з віном.

Мы ўвайшлі ў пад'езд.

## Раздзел IV

*Пра жанчыну з мінулага,
абеляў у адстаўцы і пра тое,
як чытанне Евангелля не прынесла
аніякай карысці, акрамя маральнай*

Калі Пташынскі пайшоў, я ўспомніў, што ўжо тры дні не магу дапісаць ліста бацьку. Зусім закруціўся з гэтай кнігай. І ліст гэты няшчасны даўно ўжо быў напісаны, але цётка Марына заўсёды крыўдавала, калі я не дапісваў асабіста для яе хаця некалькі радкоў. Чалавек яна была пажылы, з капрызамі.

Я вырашыў зваліць урэшце з плячэй гэты абавязак. Дастаў яшчэ адзін аркуш і, памаліўшыся богу, каб толькі не пакрыўдзіць неасцярожным словам, стаў пісаць.

«Марыначка, цётачка! Ты ж у мяне ведаеш, як мне цяжанька пісаць, які я лайдак. Іншая справа званіць, але званіў я і не дазваніўся. Пасля толькі зведаў аб Койданаўскім вяселлі і што вы там былі.

Засумаваў я па табе і тату. Калі ён забыў усе словы, акрамя «запселі яны, седзячы ў горадзе» і «прыязджай, паловім рыбу», то хаця ты бяры лахі пад пахі і прыязджай на мяне. Як атрымаеш ліст, то каб назаўтра я цябе ўбачыў. Пагаворым, у тэатр на новую п'есу сходзім. Страшэнна цікава! А то баюся, раптам здарыцца нешта, пашлюць некуды, і тады да лета не чакай. Праўда, вазьмі і прыкаці. Ты ж зараз маеш час. Заадно я дадумаўся купіць вам сёе-тое Прыязджай, скажам, 12-га, у 11 гадзін цягніком. І не чакай доўга. Пад'еду з машынай. Праўда, у чам справа? Давай тэлеграму, калі прыедзеш крыху пазней. А то ў вас з раніцы работа, і ўдзень, і ўвечары работа. Я вас ведаю.

Справы мае з новай кнігаю пайшлі на лад. І так раптам здарылася ўсё! Памаглі рэцэнзіі, дай бог здароўя Пятроўскаму і Клецкіну. Так што, дазвольце далажыць, цалую цябе пяшчотна і застаюся твой пачцівы пляменнік

*Антон»*

Ф-фу-у! Вось жа і люблю я цётку, і гаварыць з ёю адна асалода, а пісаць гэтыя словы, што сказаў бы вусна,— зарэз.

Я адклаў ліст, згасіў настольную лямпу. Зноў перагартаў «Кнігу» Пташынскага і надумаўся раптам, што не трэба яе пакідаць на вачах.

Нібы Мар'янава падазронасць заразіла і мяне Таму я ўзяў цяжкі том і панёс да сакрэтэра.

У мяне мала старых рэчаў, не тое што ў Мар'яна, але нават Мар'ян зайздросціць майму сакрэтэру. А я ганаруся ім. Самы пачатак XIX стагоддзя. Вар'іраваны мясцовым прыгонным майстрам да непазнавальнасці ампір. І варыяцыі тыя зрабілі ампір, калі гэта толькі магчыма, яшчэ больш высакародным. Строгія формы, прадуманасць кожнай дэталі, разлічаная зручнасць і прыгажосць. Чорнае дрэва і самшыт, вельмі скупа інкруставаныя мацяцай. І толькі адкінеш дошку — устае перад вачыма вясёлка: матылі над стылізаванымі палявымі кветкамі. Колькі я памучыўся, пакуль, ледзь не з груды ламачча, аднавіў яго.

Але галоўнае не гэта. Галоўнае — тайнік, які я сам выпадкова знайшоў толькі з год назад. Вось націскаеш на пласцінку ля замка, падаеш яе наперад,

а пасля налева, і папаўзла ўбок задняя сценка аддзялення для папер. А калі пры гэтым націснуць на сярэдняга матыля — адкрыюцца бакавыя тайнікі, дужа ёмістыя.

Там можна хаваць лісты, дакументы і ўсё такое. Туды я зараз паклаў Мар'янаву кнігу. Не трэба, каб яе бачыла большая колькасць людзей, чым тое неабходна. Ну і потым у мяне «павялі» досыць многа кніг. Ад «Сатыра» Каханоўскага да «Віна з абудванчыкаў» Брэдберы. «Павялі» нават беларускі том «Жывапіснай Расіі», нягледзячы на гіганцкія памеры. Калі нехта «пазычыць» і гэта — будзе кепска. Як тады глядзець Пташынскаму ў вочы і ў каго сваё вочы пазычыць. А такіх ахвотнікаў на «позаимствование без срока» ў нас усё болей і болей. І нават суда на іх няма, гадаў.

Я схаваў кнігу, зачыніў тайнік. І добра зрабіў. Бо адразу заліўся дзвярны званок, і з'явілася «мая былая любоў» Зоя Пярэрвенка ўласнай персонай. З'явілася, пасля таго як два месяцы носа не казала, і я ўжо думаў, што не зойдзе ніколі.

Пакуль я ставіў на столік бутэльку «Немеш кадара», яблыкі і яшчэ сёе-тое, пакуль уключаў ніжняе святло і гасіў верхняе, мы абмяняліся не больш чым дзесяткам стандартных сказаў: як жыццё, што там да чаго, як са здароўем (гэта ў яе дваццаць восем!). І толькі пасля першага keліха я сказаў:

— А я думаў — усё.

— Яно і ёсць усё. Няма чаго цягнуць далей, калі ты такі ўжо сумленны.

Сумленны не сумленны, але я, калі ў першы наш вечар уся кампанія пайшла ад мяне, а яна засталася, і не пайшла да раніцы, і пасля заставалася амаль кожны вечар на працягу чатырох месяцаў, я тады, дальбог, не ведаў і нават падумаць не мог, што яна замужам. Наадварот, з гэтых яе паводзін несумненна вынікала, што яна адна. Чорт бы пабраў гэтых мужоў, што ездзяць на сем месяцаў у экспедыцыі, ды яшчэ туды, куды нават няшчасны Макар не ганяў сваіх не менш няшчасных цялят.

Выплыла ўсё толькі тады, калі я прапанаваў ёй паехаць на поўдзень, а пасля падумаць і аб нечым больш «сур'ёзным». Тут яна мне пра ўсё і расказала

і як гэтае найлепшае, сур'ёзнае прапанавала часам заходзіць нават тады, калі вернецца муж. Я толькі крэкнуў. І, можа б, нават і згадзіўся, таму што паспеў дужа прывязацца да яе. Але было нельга. Бо самым найвялікшым маім свінствам ва ўсёй гэтай гісторыі было тое, што я цудоўна ведаў яе мужа, Косціка Красоўскага. Цудоўнага хлопца, вернага сябра сваім сябрам, шырокага, незалежнага, душу ўсякай кампаніі, аматара пагуляць, сумленнейшага палеантолага і дабрэннага чалавека. Такога пакрыўдзіць — гэта павесіцца пасля трэба.

І я стаў аддаляцца, хаця, дальбог, дорага мне гэта каштавала.

Яркая бландзінка, вочы густа-сінія і халодныя, дзівосна выгнуты сакавіты рот, страйнюткая шыя, зграбныя ручкі, цела, якое аж гаворыць — ад высокіх грудзей да ног, якія ўжо самі сабою як мара кожнага мужчыны.

Чорт бы пабраў гэтыя розныя прозвішчы! Чорт бы пабраў гэтую немагчымасць ведаць, замужам жанчына ці не! Чорт бы ўзяў у гэтым сэнсе ўсіх нелітоўцаў! Як добра было б. Знаёмішся. «Красаўскайтэ» — ну, значыцца, давай, галубок, калі яна не супраць. «Красаўскене» — ну і давай, любы, ад брамы ды прама. Тут участак застоўблены, і раз атрымаў аблізня, то йдзі ды аблізвайся, не з тваім яловым рылам мёд піць.

Суцешыла мяне ва ўсёй гэтай гісторыі толькі тое, што яна, убачыўшы маё аддаленне, скінула — мабыць, па дурасці — маску зычлівай, адданай, пакорлівай кабеты. І я ўрэшце разгледзеў непамернае жаданне жыць, толькі адбіраючы даброты і нічым не плацячы жыццю і людзям, нястрымную прагу ўцехаў, што б там ні было вакол, як бы кепска ні было вакольным.

Урэшце, ці яна адна такая з жаночага племя? Гэта яшчэ не прычына, і за гэта не перастаюць кахаць. Часам, наадварот, яшчэ больш кахаюць. І мучаюцца. Як мучыўся я.

Толькі пасля сябар, Алесь Гудас, той, што падаваў мужыкам у акно шклянку, убачыўшы, што я крыху ацверазеў, сказаў мне, што не хацеў гаварыць мне, пакуль я асліплены, а што цяпер скажа:

— Не з табою, брат, першым яна гэтага беднага

Красоўскага падманвае. Такі хлопец, такі залаты хлопец — і на табе.

— Што ж не сказаў тады?

— А ты б не паверыў.

— І праўда.

— Не паверыў бы. «Закахалася жанчына». «Што ж што замужам?» «Бывае». «Гэта не свінства, а няшчасце».

— О-ох, ідзі ты, Алесь, да д'ябла!

— І ўвогуле, з-за яе Косціку непрыемнасць. Дый што ўжо ўзяць з чалавека, у якога лепшыя сяброўкі манікюршчыцы ды прадаўшчыцы.

— Ты што-небудзь маеш супраць прадаўшчыц?

— Нічога. Нават люблю. Толькі выбіраю дзеля размовы тэмы не толькі пра махеравыя кофты.

— Ведаю я, якія ты тэмы выбіраеш.

Пасмяяліся. І вось так, пакрысе, вельмі балюча, і пачалося маё вылячэнне. Але часам яна ўсё ж заходзіла, толькі я з усіх сілаў стараўся не заводзіць справу дужа далёка. Як зараз.

— Я тады разводзіцца думала,— раптам сказала яна.— А пасля падумала, што ўсё адно ты мне таго падману не даруеш. А раз так, то ў чым Косцік вінаваты? Любіць мяне, даруе многае. Застануся ды паспрабую выкупіць. Што ўжо! Награшыла, то выкупляй. Хопіць з усім гэтым. Буду так дажываць, дый чаго яшчэ трэба. Зорак з неба ён, ясна, не хапае, але добры, сумленны, просты. Няхай так. Час зміры́цца, Зоечка.

Сказала неяк так ціха і сумна, што душу маю перавярнула.

— Не трэба. Што ўжо там. Я горш за цябе вінаваты.

— У чым твая віна? Не, я свайго нікому не аддам... Ні добрага, ні ганебнага.

Усё ж, нягледзячы на ўсе непрыемныя рысы, былі ў ёй і ўнутранае сумленне, і розум, і боль не зусім шчаслівага чалавека. Шкада мне было яе. Мабыць, таму, што яшчэ крыху кахаў.

— І ты не мучайся. Хай будзе ўсё як ёсць. Дрэнна хіба нам было ўсе гэтыя месяцы? — спытала яна.

— Добра было,— усё прымаючы, сказаў я.

— Ну вось, дадзена, значыцца, было шчасце.

Будзе што ўспомніць. Хіба мала? Іншыя таго й на нюх не зведаюць. Ну... ну... чаго ты?..

Пагладзіла мяне па галаве. Гэты дотык маленькай рукі прымушаў мяне ў свой час аж шалець ад імкнення да яе. Зараз ён аддаўся толькі болем.

— Вось бачыш, значыцца і сапраўды канец. Ладна. Ты толькі не будзеш супраць, калі я часам усё ж буду заходзіць?

— Чаго б гэта я быў супраць?

— Не бойся. Проста так. Адагрэцца.

— О-ох, што ж гэта ўсё ж такі мы нарабілі!

Яна паклала адну дасканалую нагу на другую, прыгубіла віна. Твар яе ў святле праз абажур таршэра быў залаты, мяккі і вельмі сумны.

— Я раней, чым ты, забыла, што ні на што не маю права. І што табе было думаць пра маю рэпутацыю? Ты ж нічога не ведаў. І потым, можна падумаць, што гэта ты, першы, прыйшоў да мяне і застаўся. Змій-спакушальнік. Я сама гэтага хацела. І гэта мяне да цябе цягнула. Я і зрабіла, што жадала і магла.

Слова гонару, сэрца ў мяне разрывалася ад гэтых словаў. Але што я мог зрабіць?

— Ну добра,— глуха сказала яна,— хопіць аб гэтым... Ты дзе быў сягоння?

Відавочна, шукала нейтральнай тэмы.

— У Мар'яна быў,— сказаў я.

Зоя крыху ведала яго: разы тры-чатыры сутыкаліся ў мяне.

— Што, усё па-ранейшаму дурэе з гэтымі драўлянымі лялькамі?

— Не трэба так,— сказаў я.— Ён вялікую справу робіць.

— Ды я хіба што? Як ягоная жонка?

— Кепска з ёю. Ну, гэта справа іхняя. Горш тое, што ён праз яе пакутуе. І, відаць, з гэтай прычыны сэрца зноў дурэць пачало. Жахі розныя, як заўсёды ў сардэчнікаў. Падазрэнні. А ад кавы і тытуню ніяк не адмовіцца...

— У больніцу яму легчы трэба. Шкада, калі з добрым чалавекам нешта здарыцца. Сволач дык жыве і жыве, а унь Сярожа Певень, бедны, такі малады, таленавіты, толькі пасаду такую атрымаў, так лёгка пры ім людзям жыць было б — і на табе — рак.

— Гэта бяда,— сказаў я.— Вялікая бяда! Але што ж, калі столькі выпала ўсяго нашаму пакаленню.

Яна раптам рашуча ўстала.

— Ну няма чаго асабліва цягнуць.— Павагалася хвіліну яшчэ — і адставіла «Немеш кадар».— Прытарны.

— Ты ж любіш напаўсалодкія.

— Нашы люблю. А можа, гэта проста ўсё прытарна ў гэтыя дні? Слухай, Антось, а што гэта мы ў першы наш вечар пілі, не памятаеш?

— Памятаю. Ты ў блакітнай сукенцы была. І бурштыны на шыі. І вусны ненафарбаваныя. А пілі мы тады «Хванчкару».

— Хіба няма яе нідзе зараз. А добра было б... па астатнім келіху... Так, як тады па першым. Таму што гэта ж астатні, Антоша... Астатні. І нічога тут не паробіш. І вось стол твой з чыстай папераў, і гэты падсвечнік, і лямпа. І ўсяго гэтага я, мабыць, ужо не пабачу, бо не ведаю, ці знайду сілы да цябе хаця на агеньчык заходзіць.

Невыносна было чуць гэта, і таму я, як большасць мужчын у такіх выпадках, збаяўся і, каб аддаліць немінучую апошнюю хвіліну, сказаў:

— Чаму не дастанеш? Учора яшчэ ў магазіне была «Хванчкара». Дзівосы нейкія. Нешта вялікае, пэўна, у лесе здохла. Хіба расхапілі? Давай збегаю.

— Збегай,— сказала яна глуха.— Скончым тым, з чаго пачалі. Толькі не баўся там дужа. Мне жудасна будзе тут... адной.

Калі я ўжо накідаў паліто, яна спытала:

— Грошы хаця ёсць у цябе? А то вазьмі.

— Грошы ёсць.

Я хутка бег у магазін і кляў сябе ўсімі магчымымі словамі.

...Калі я вярнуўся, яна стаяла ля акна і глядзела ў цемру. Павярнулася да мяне і выцерла вочы.

— Так я, дурная, і пагнала цябе, не спытаўшыся, ці багаты.

— Багаты,— сказаў я.

— Тады налі.

Мы сядзелі і перакідваліся нязначнымі сказамі, і гэта было як на ўласным пахаванні, як на пахаванні чагосьці страшэнна значнага. Ніколі ў жыцці яшчэ мне не было так цяжка і скрутна.

І толькі калі мы ўжо апраналіся ў перадпакоі, яна раптам прыпала да маіх грудзей.

— О-ох, Антоне... Нашто ж я ўсё гэта нарабіла?.. Чаму праўды з самага пачатку... Чаму падманула?

— Слухай,— сказаў я,— заставайся. Я не магу болей.

Вочы ў яе былі вільготныя, нявыплаканыя.

— Не,— сказала яна,— права не маю. Нашто ўжо. Не павернеш назад. Але я, можа, часам і зайду да цябе. Пагрэцца. І толькі.

У гэтую хвіліну я зноў кахаў яе, можа, больш, чым раней. Усё нутро маё пакутліва да яе кінулася. Але я зразумеў: і праўда — усё.

Яна вырашыла.

...Мокры снег ляпіў па нашых тварах, калі мы выйшлі на бульвар і яна спаймала таксі і ўсё стаяла ля яго і глядзела мне ў вочы.

— Ну, бывай,— урэшце нібы ад сябе адарвала яна.— Раней дык у такіх выпадках трэба перахрысціць было. А цяпер...

Яна прыпала да маіх вуснаў халоднымі мокрымі вуснамі і, калі яны пацяплелі, з цяжкасцю адарвалася.

— Бывай. Бог з табой. Даруй.

Ляснулі дзверцы таксі. Апошні раз ускінулася за шклом рука ў белай пальчатцы. Пасля машына рванула, абдаўшы мае ногі мокрым карычневым снегам.

...Усё ўва мне плакала, і не столькі ад кахання, колькі ад страты. Невядома чаму я зайшоў у кафэ «Космас», выпіў там ля стойкі келіх каньяку, пасля пайшоў блукаць вуліцамі, намацаў у кішэні змяты канверт ліста да бацькі і кінуў яго ў скрынку, доўга сядзеў на мокрай лаўцы і бязмэтна глядзеў на вясёлкавыя плямы ліхтароў у чорных абледзянелых галінах. Пасля зноў выпіў ля стойкі. На гэты раз віна.

...Цяжэй за смерць было вяртацца ў пустую кватэру, што яшчэ пахнула ёю. І таму я, сам не ведаючы як, націснуў званок на дзвярах Хілінскага.

Ён адчыніў мне дзверы, абвёў вачыма і, мабыць, крыху спалохаўся.

— Заходзь,— сказаў ён.— Вып'ем чаго-небудзь? Ну, вядома, вып'еш. Скідай паліто. Я зараз.

Як Мар'яна выжывалі з пакоя статуі і іконы, так «палкоўніка» (а можа, ён і не «палкоўнік» быў, а

сапраўдны «Абель у адстаўцы», чорт яго завяжа чалавечыя языкі) выжывалі з пакоя кнігі. Два толькі невялічкія прасценкі былі вольныя ад іх. Перад адным стаяў на століку эпідыяскоп (Хілінскі захапляўся здымкамі на слайды, здабываў нейкім дзівам нямецкую плёнку «Орвакалёр» і гэты прасценак выкарыстоўваў, каб дэманстраваць сабе самому знятае). Зараз ля століка з эпідыяскопам ляжалі пластмасавыя рамкі, нажніцы, валяўся танны дыяскоп, змеямі круціліся плёнкі. Усё проста на падлозе, на дыване.

У другім прасценку, над тахтою, вісеў партрэт у авальнай раме. Пісаны пад старую манеру. Нават лакам крыты. Партрэт прадзёрты ля ніжняга закруглення рамы: ірваная рана, кімсьці грубавата зашытая і па-аматарску зафарбаваная. На партрэце жанчына ў чорнай з чырвоным сукенцы. І сама чарнявая, відавочна, паўдзённага тыпу.

Заўсёды, калі я заходзіў да Хілінскага, мяне здзіўляў гэты партрэт. Ніколі яшчэ мне не даводзілася бачыць такі значны жаночы твар. І такі прыгожы адначасова. Вачэй не адарвеш. І напаўадкрыты рот, і горды нос і лоб, і ўся гэтая пяшчотна-ганарлівая, дасканалая стаць. О, пане мой божа!

Хілінскі прыкаціў столік на колцах, перагрузіў з яго на другі, круглы, шкляны, пачатую бутэльку віньяку, лімон, прасаваны ў каўбасу грузінскі інжыр.

— Ну, каб звялася бяда.

Выпілі.

— Ды што з табою, урэшце, хлопча? Рэктара пад тры д'яблы паслаў? Га?

— Не. А варта было б.

— Калеку набіў? У дачку архіерэя закахаўся?

— Якая ж у архіерэя дачка?

— Ну што яшчэ? Троцкага на лекцыі выпадкова працытаваў?

Я маўчаў.

— Ага. Памылкова зайшоў у аднатыповую з тваёй кватэру, малака папіў і, думаючы, што дома, правёў час з чужой жонкай, як са сваёй. Святла не хацеў уключаць. А ўсё — аднатыпнае.

— Так,— сказаў я.

І тут ён зразумеў, што я не жартую. А я, сам не ведаючы чаму, расказаў яму ўсю гэтую гісторыю.

Вядома, без прозвішчаў. Вядома, змяніўшы ўсё, што магчыма змяніць.

— Прыкра,— сказаў ён.— Але што ж зробіш? Надалей зведай усё, перш чым кідацца, нібы ў вір галавой. Страснасць гэта наша дурная, беларуская! А ты, раз ужо так здарылася, прапанаваў ёй пайсці з табою?

Я адказаў, як яно было:

— Няма ўжо звароту, Адам Пятровіч. Катуе яна сябе за падман. Што ж рабіць?

— Маўчаць трэба, хлопча,— пасля паўзы сказаў ён.— Магчыма, там яшчэ й склеіцца, калі маўчанне, калі ніхто нікому. А ты — што ж — адпакутуй сваё. З бядой пераспаць трэба. І не адну ноч. Тады яна табе абавязкова здрадзіць з кім-небудзь іншым. Тады толькі будзе лягчэй.

Я не пазнаваў яго. Звычайна так і сыпаліся з яго прыказкі, часта фрывольныя, а тут сядзеў перада мною паглыблены ў маё гора, суровы нават чалавек.

Выгляд у мяне быў, напэўна, страшнаваты, таму што Адам зморшчыўся амаль жаласна, крэкнуў і наліў яшчэ па кілішку.

— Давай за яе. Усё ж высакароднасці, пэўна, больш у яе ў душы. Вось за гэта.

Назіраў за мною.

— Ды не пабівайся ты, дубе. На вось, пацягні файку. Хаця ў вас кішка слабая. Усё на цыгарэтках. Імпартных.

У мяне перахапіла дыханне.

— Ну кінь ты. Ну!.. Ну кінь! Гэта яшчэ, Антоне, не гора.

І, відаць, вырашыў нешта, уздыхнуў.

— А, каб цябе! Ну добра. Шчырасць за шчырасць. Партрэт бачыш?

— Ну.

— І ніколі не спытаў, хто гэта. Далікатнасць. Ды я, можа, тады сам бы табе не адказаў. Цяпер скажу. Занадта ты ўжо кепскі. Пабіваешся. А меры чалавечаму няшчасцю — не ведаеш.

Выпіў.

— Жонка мая. Па прафесіі была артыстка.

Ягоны сухі твар нібы абцягнуўся скураю на вылі-цах і абвіснуў знізу, ля вуснаў. Адразу абрэзаліся вочы пад цяжка навіслымі павекамі.

— Як лічыш, хто па народнасці?

— Не разбіраюся я, Адам Пятровіч, у паўдзённых тыпах. Беларуса за вярсту адрозню, а тут баюся судзіць.

— А ўсё ж...

— Грузінка? Армянка? Таджычка?

— Ды не.

— Малдаванка? Яўрэйка?

— Яшчэ горш,— горка сказаў ён.— Цыганка, браце.

Зацягнуўся.

— Вось у гэтым і была яе галоўная віна. А па віне і пакаранне. І добра, калі — першы — лепшы на дарозе яр. Карацейшая была пакута... А я ў той час быў дужа далёка... Не меў змогі вывезці, памагчы... Не мог, не меў права нават залямантаваць, што вось вы самага дарагога мне чалавека, сволачы, у лагерах, у воспе гэтай на ўсёй зямлі, закатавалі. І сын згубіўся недзе... Маю цень звесткі: адбіралі дзяцей нардычнага тыпу. А ён беленькі быў, у мяне. Ты не глядзі, што я зараз сівы... Быў я — белы.

Скоса зірнуў на партрэт.

— Якая была Грушанька ў «Зачараваным вандроўніку», якая Маша ў «Жывым трупе»! Спявала — плакалі людзі. І за гэта — яр. За ўсё — яр.

Адклаў файку.

— З гэтым... прыцерпеўся не прыцерпеўся, а так, прытупілася крыху... А вось з сынам... Ці назад ён трапіў, у наш дзіцячы дом? А можа, і... там. І не выключана, што нейкаму нашаму такому... Грыбку давядзецца перастрэльвацца з ім... Вось як.

Узняў кілішак з залацістай вадкасцю.

— Я табе гэта не таму расказаў, каб ты мяне пашкадаваў. Я таму, каб ты сябе пашкадаваў. Гэта, што з табою, не самае страшнае. Не самае апошняе.

Удзячнасць мая яму была такая вялікая, шкадаванне такое нясцерпнае (сапраўды, што была мая горыч перад ягонай?), што я зразумеў: трэба пераводзіць размову на іншую тэму. Але гэтая іншая тэма аж аніяк не прыходзіла да галавы. Таму я ўзяў дый расказаў сёе-тое са страхаў Пташынскага.

— Ну, гэта не загадка,— сказаў Хілінскі.— Крыху — звычайныя барыгі, бз...ы, якім з законам звяз-

ваццa ані не выпадае. А больш — хвароба. Гэта ад сэрца.

— І я так думаю.

У гэты момант зазваніў тэлефон. Хілінскі выйшаў у малую спальню, прычыніў за сабою дзверы, але чуваць, мабыць, было кепска, і ён вымушаны быў гаварыць галасней, чым звычайна, і я сёе-тое чуў.

— І сувязь з гэтым? А, чорт бы іх з гэтымі дэвізамі!

«Назнарок не кажа «валюта». Кажа «дэвізы». Думае, што слова не ведаю. Белымі ніткамі шыеш, Адам Пятровіч».

— Заразы. І зброю?.. Чуваць кепска!.. Ясна. У гадзіну трыццаць? Добра. Буду.

Выйшаў зноў да мяне:

— Сапрычасціўся ты, хлопец, да таямніцы. А я вось непедагагічна сябе павёў. На поўную вымову.

— Я, Адам Пятровіч, не з лапатуноў. Вы мяне не першы год ведаеце. І справы вашы мяне не датычацца. У вас свае, у мяне свае.

— Пакрыўдзіўся?

— Пакрыўдзіўся. А мне бы й век пражыць, нічога пра іх не ведаючы. Ні пра што я ў вас не пытаў. Нецікава, прабачце.

— А дарэмна. Усё можа быць. А наконт «хоць бы й век», то заракаўся нехта,— ён проста патрос мяне за плечы.— Ну, досыць надзімацца, ну... Ну скажы нешта.

— Раз ужо я выпадкова штосьці пачуў, то вернемся да Мар'яна. Нешта і ў ягонай справе трывожнае. Вось жа іконы, валюта — я не пытаю, якое там здарылася яшчэ, што вам трэба ехаць. Але чаму таго ж не можа быць тут? І ўрэшце, прадчуванням таксама трэба верыць. Не матэрыял гэта ні для «Абеляў у адстаўцы», ні для міліцыі, ні для суда, але часам трэба верыць, калі сэрца гаворыць, калі сціскае, моцна баліць.

Ён уважліва глядзеў на мяне.

— Можа, і трэба. Вер і глядзі.

Устаў.

— Трэба было б не кідаць цябе да раніцы ў тваім стане. Але сам чуў... Выпіць што-небудзь маеш?

— Віно ёсць.

— А мацнейшае?

— Мгм.

— На вось. Ты ж не з тых, што блукаць потым пойдзеш? Ну вось і выпі здарава. Сёння дазваляю. Каб спаў у мяне. Ну, хадзем.

Хілінскі ведаў, што рабіць.

...Ніколі ў жыцці, ні дагэтуль, ні пасля, я не выпіваў столькі. Дарваўся хлопчык. Спаўна скарыстаўся з суседавай парады. І заснуў як забіты. Распрануты, як заўсёды, але чамусьці пры гальштуку на голую шыю. Ці, можа, усё ж хацеў «блукаць»? Шукаць Зою? Напэўна.

У наступныя пяць дзён я выкупляў грэх свайго «пьянственного глумлениа». Працаваў, не даючы сабе ані хвіліны перадышкі.

Нельга было паверыць у тое, што толькі сама каштоўнасць старой кнігі магла выклікаць такую аблогу хаты Пташынскага, усе гэтыя званкі, блуканні пад вокнамі і ўсё такое. Я амаль упэўнены быў, што разгадка недзе ў самім тэксце: нейкая прыпіска на палях балоні, надпіс, умела схаваны ў вязі арнаменту, яшчэ нешта. І вось я шукаў. Усляпую, бо не ведаў, дзе і што шукаць.

Шмат разоў за жыццё я чытаў Евангелле, адну з лепшых (калі не самую лепшую) з гісторый, прыдуманых чалавецтвам за ўсё сваё існаванне. Прыемна мне было чытаць яе і зараз, думаць над паасобнымі мясцінамі, уяўляць. І ўсё ж не так прыемна, як раней. Таму што хаця я й чытаў ледзь не па складах — шукаў я ўсё ж іншае. Так для чалавека, які раптам заўважыў першы грыб, адразу перастае існаваць зялёная, спявучая прыгажосць раскошнага летняга лесу.

Так я і ішоў, уторкнуўшыся носам у зямлю. Без усялякай карысці, акрамя маральнай. Дый тая была другога гатунку, таму што я сачыў, а не думаў.

Часам з'яўляліся думкі, што хаваць нешта ў такім тэксце блюзнерства, а ўжо для сярэдневяковага чалавека (калі толькі хаваў ён) — не проста блюзнерства, а блюзнерства, якое мяжуе з ерассю, са згубай цела і бессмяротнай душы. І, калі гэта так, таямніца павінна быць страшэнна важлівай або... або чалавек

той не павінен быў верыць ані ў бога, ані ў чорта, ані ў тагачасны закон.

Я прачытаў усе чатыры Евангеллі, і дзеянні апосталаў, і пасланні іхнія, пачынаючы ад паслання Іякава і канчаючы пасланнем да яўрэяў. Заставаўся толькі апакаліпсіс Іаана Багаслова ды недарэчна прышмараваны да яго «Статут», таксама з «пасланнямі», толькі ўжо свецкіх уладароў.

Нічога!

Хаця б цень нейкага следу, нейкай здагадкі!

Урэшце я пачаў думаць, што з гэтым тэкстам мы памыліліся. І самае горшае, да той самай думкі схіляўся і Мар'ян. За гэтыя дні ён пару разоў заходзіў да мяне, і мы, да болю ў вачах, тупа ўзіраліся ў тэксты, варочалі пад чарапамі гіпотэзы, і ўсё гэта толькі для таго, каб тут жа зарэзаць іх. Адзінае, у чым мы «пасунуліся» наперад, быў сапраўдны акт пра знікненне жонкі Альшанскага, надрукаваны ў «Актах, выдадзеных археаграфічнай камісіяй...».

— А што гэта нам дасць? — спытаў я.

— А можа.

— Рыбу нам з табою лавіць, а не шукаць.

— Паловім. Вось-вось ужо. Нават на азёрах лёд амаль скончыўся.

І мы зноў да ачмурэння сядзелі над кнігаю і копіяй, і Мар'ян бурчаў:

— Холмсы мне яшчэ, таксама... Пінкертоны... Картэры... Станкевічы...[1] Мегрэ.

У тую тхланную, золкую сакавіцкую пятніцу — было гэта, здаецца, дваццаць дзевятага сакавіка — мы таксама ні да чаго не дадумаліся.

— Прарок Навум — і той бы не дадумаўся,— плюнуў урэшце Пташынскі.

— Ну-ну. Няўжо мы двох дурнейшыя за аднаго?

Я пайшоў праводзіць яго. На душы ад уласнай бездапаможнасці было моташна.

— Як шчанюкі сляпыя,— сказаў Мар'ян.

Наперадзе спускаўся па сходах цікавы малады чалавек, сусед Лыганоўскага. І на гэты раз у руках ягоных было вядро са смеццем. Адкуль ён яго бярэ?

---

[1] Андрэй Станкевіч — самы славуты з гэтай «дынастыі законнікаў» следчы і суддзя беларускага сярэдневякоўя (у прыватнасці — справа Марыны Дастаеўскай-Карловіч 6 сакавіка 1607 г.).

— Вось такое смецце ў нас у галовах. Выкінеш — і застанецца пустая макітра чарапаная.

— А мо і сапраўды трэба ўсё выкінуць і пачаць спачатку? — сказаў я.— Можа, справа і не ў тэксце? Можа, выскаблена нешта? Можа, сутнасць не ў змесце, а ў вядры? У самім існаванні рэчы?

— Трэба будзе паглядзець. Заўтра ж.

Мы спыніліся ля тытунёвага кіёска.

Я купіў пачак «БТ», Мар'ян вінавата ўсміхнуўся і папрасіў пачак «Шыпкі».

— Кінуў бы ты гэта, Мар'яне,— сказаў я.— Дальбог, кінь.

— Слабасць клятая! Ды я адну-дзве ў дзень буду.

— І я б на вашым месцы кінуў,— сказаў павучальна «брыгадзір Жэрар».— Вось сябар ваш — ён жа здаравенны, не раўнуючы першэрон ці брабансон, прабачце, таварыш Косміч. А я і яму раіў бы кінуць. Кропля нікаціну забівае, да вашага ведама, каня.

— Я не конь,— сказаў Пташынскі.

— Бачу. На пазногці зірніце. У блакіт аддаюць.

І раптам усхадзіўся. Дастаў з кішэні металічную таўлінку [1].

— Хочаце, я вам замест гэтай дрэні табаку даставаць буду. Нюхаць. Сам працірaю.

Ён зарадзіў у кожную ноздру па здаравеннай порцыі зеленаватага пылу.

Праз секунду гармата моцна ўдарыла, і Пахольчык закруціў носам.

— Аж уваччу пасвятлела... Улічыце, камерцыю падрываю. Сваю ж. Але здароўе чалавека за ўсё даражэй, як казаў стары рымлянін Гіпакрат. А тое, што вам скажуць, што слізістую абалонку сушыць, што сухі катар будзе,— гэта глупства пана бога — даруй ён мне і злітуйся... То як?

— Не ўжо,— сказаў Мар'ян.

— Глядзіце,— сказаў Пахольчык, падаючы яму «Шыпку».— Як надумаеце — прыходзьце. Дастану. І не «Пчолку», халера на яе, а сапраўдны.

На рагу мы развіталіся.

---

[1] Пляскатая табакерка (часцей з бяросты, рэдка — металічная) для табакі (нюхальнага тытуню).

— Калі не з'еду ў Вільню на пару дзён, то заўтра зайду,— сказаў ён.

— Заходзь.

— Шкада, што нельга тую кнігу распатрашыць. Можа, у вокладцы заклеена нешта?

— Не. Вокладка тых жа часоў.

— Чорт яго! У галаву не лезе, што б гэта магло быць.

Перайшоўшы вуліцу, ён павярнуўся і ўзняў руку.

— Бывай!

Я прыкурыў, а калі зірнуў яму наўздагон, яго ўжо не было відаць у раптоўным снежным зарадзе, які абурыўся на горад.

## Раздзел V

### *Чалавек знік*

Мінула яшчэ чатыры дні. Прыйшоў красавік. Купы снегу, адкінутыя ўзімку машынамі пад дрэвы, сталі зусім малыя, брудныя і наздраватыя. І яшчэ снег падаў два разы, ён кожны раз чаргаваўся з дажджом, які з'ядаў яго на вачах. Усё часцей празрыста, па-вясенняму, сінела неба. У зацішку, з сонечнага боку двароў было ўжо зусім суха. І ўсё ж вясна наступала, нібы азіраючыся, часта саступаючы дарогу імжацы, холаду і слаце.

За гэтыя дні я некалькі разоў званіў да Мар'яна. Адказу не было. На чацвёрты дзень я не вытрымаў і паехаў да яго на кватэру.

Нават сабакі не адказалі брэхам на мой званок. Кватэра маўчала, нібы вымерла. Урэшце нічога дзіўнага ў гэтым не было. Едучы кудысь, Мар'ян заўсёды заводзіў псоў да нейкіх суседзяў, хаця мог бы і да мяне. Не хацеў перашкаджаць маёй рабоце.

Наша агульная падазронасць апошніх дзён зрабіла тое, што я нават агледзеў замок. Мне здалося, што ля яго абдрапана фарба. Але так бывае заўсёды, калі чалавек упоцемку спрабуе трапіць ключом у адтуліну.

З'едлівая пажылая вахцёрка, якую мы — хай даруе нам бог — клікалі часам «Цэрберам», часам «Цэнзарам Феакціставым», на мае пытанні адказала досыць рэзка:

— Я яму, сэрцайка, не мамка. Не бачу. З'ехаў некуды. Раніцай прыбіраю. Пад'езд мыю, першую пляцоўку. Каб у свіноце не сядзець. Пасля тут цэлы дзень. Вечарам Саня прыходзіць. І ён не бачыў. Сабакі? Адвёў, пэўна, як заўсёды... Што ж што не бачылі. Унь там чорны ход у двор. Там часам нават мне можна не заўважыць, як прыходзяць ці выходзяць. Але ён ім рэдка карыстаецца. Двор не дужа зручны.

Двор сапраўды не быў зручны. Усе гэтыя пуні, закамаркі, безжыццёвыя з выгляду галубятні, гаражы. І ягоны гараж. Замкнёны. Невядома нават, ці пусты, ці з машынай. А за пунямі той самы пустыр і дрэвы ля парніковай гаспадаркі. О, божа мой!

Я пацягнуўся дадому, не ведаючы, што й думаць. Які д'ябал мог затрымаць яго ў Вільні? Знайшоў нешта ў архіве? То мог бы і звякнуць.

Не ў дужа добрым настроі зайшоў я ў свой двор і ўбачыў Хасэ-Марыя Лыганоўскага, які корпаўся ў кветніку пад нашымі вокнамі. Жываплот вакол кветніка ў адным месцы парадзеў, і лекар якраз высаджваў на тое месца нейкія кусцікі. Мядзяны твар ад паветра і працы быў з глыбінным румянцам. Капялюш ляжаў на лаўцы, і ўсяму двару відаць была хвалістая грыва срэбных валасоў.

— Гісторыку-дэтэктыву асабістае прывітанне! — сказаў ён.

— Кандацьеру ад псіхалогіі — узаемна,— буркнуў я.

Ён прытаптаў зямлю вакол перасаджаных сцяблін, адкруціў паліўны кран, адмыў ад гразі рукі і, выціраючы іх насавіком — па-лекарску — палец за пальцам, бадзёра сказаў:

— Закурым, сусед.

Тут, у зацішку, нават прыгравала. Мы селі на лаўчачку, я распячатаў пачак і пачаставаў яго. Ён сачыў за гэтым працэсам пільнымі шэрымі вачыма.

— Слухайце,— раптам сказаў ён,— у вас часам у сваяцтве не было людзей... ну з пэўнымі адхіленнямі ў псіхіцы?

Пазней, калі я, на свой жах, зразумеў, што са мною сапраўды нешта не да ладу, я часта ўспамінаў гэтую першую размову і тое, што заўважыла ўсё гэта спрактыкаванае вока ўсімі знанага псіхіятра.

Заўважыла яшчэ тады, калі нават я не заўважаў нічога. А тады я толькі зарагатаў.

— Ды не! Здаровыя ўсе былі, як пні.

— То й добра,— ён з відавочнай палёгкаю зацягнуўся,— значыць, гэта проста псіхіка кавалера. Тое, што і ў мяне. І ў Хілінскага. Ва ўсіх такіх.

— Ды што такое?

— Метадычны вы ў дробязях. Я вось быў у вас. Усё на сваім, спрадвеку заведзеным месцы. Там папера, там попельніца, там строга адно, а там — і навекі — іншае. Пачак адкрываеце так. Малако — толькі ў адной малочніцы. Кветкі купляеце толькі на Барскай у кіёску, хаця побач кветкавы магазін. Голіцеся, пэўна, таксама толькі ў аднаго майстра.

— Эге,— зарагатаў я.— Калі няма яго, то няголены пайду або ўдома пагалюся.

— І лазеншчык у вас толькі адзін. І не будзеце кнігу чытаць, пакуль рук не памыеце. І, калі кніга старая, абавязкова памыеце пасля. І раз на месяц выбіванне кіліма, а раз на два тыдні — пыласос яму.

— Слухайце,— сказаў я,— але адкуль вы гэта ведаеце?

— Я не ведаю. Я «умозаключаю», раблю вывады.

— Але нашто?

— Прафесійная звычка. Папрацавалі б з маё.

— Ну і якія ж вывады?

— Ды вас яны не датычацца. Проста метадычнасць закаранелага кавалера. У такіх або ў хаце гармідар і свінюшнік, боты на стале, або вось такое... Але ўвогуле гэта часам бывае адзнакаю пэўных адхіленняў у псіхіцы. Пры эпілепсіі, пры пачатках некаторых іншых хвароб.

— Ну калі так меркаваць, то большасць немцаў эпілептыкі. І ўвогуле, усе, хто як мага зручней арганізуе працу.

— Не смейцеся. Вось вам адзін прыклад, але важкі — Дастаеўскі.

— Вельмі ўлешчаны,— сказаў я.

Мы засмяяліся. Ці мог я думаць, што мне сапраўды давядзецца звяртацца да яго? І не ў такі ўжо далёкі час.

На пляцоўцы я ўбачыў Хілінскага, які якраз заходзіў у кватэру.

— Зноў нешта? — ён уважліва разглядаў мяне.

Я расказаў.

— З'ехаў кудысь.— Адам быў страшэнна стомлены.— Мо так і сядзіць у Вільні. А што не папярэдзіў аб затрымцы — тут усякае можа быць. Не малы. І не такія ўжо вы сябры, што сарочкі няма калі перамяніць.

— Усё ж я адзіны ягоны сябар. І не мог ён з-за хваробы жонкі так затрымацца. Ён жа кожны дзень званка чакаў. Я страшэнна непакоюся, Адаме.

— Добра. Калі ўжо так, то вось зараз пазваню Шчуку — мы ж прыяцелі. Хай навядзе даведкі, ці няма там каго... неапазнанага. І тэлефон твой дам. Хай табе сорамна будзе, калі гэты... твой... свечнік віленскі табе прывязе. Ну, бывай, лабузю. Пазваню, памалюся богу дый і завалюся спаць.

...Мінула яшчэ два дні. Недзе ў чацвер ці ў пятніцу, мо ў чатыры гадзіны раніцы, калі не раней, зазваніў тэлефон. Спалоханы спрасонку, я схапіў трубку.

— Алё. Хілінскі ад твайго імя званіў? — прагучаў нізкі голас.

— Так,— з цяжкасцю прыпамінаючы, аб чым ідзе справа, адказаў я.— Касміч ля тэлефона.

— Патрэбны твае паслугі. Ты не мог бы пад'ехаць для пазнавання?

— Вядома,— голас у мяне сеў.

— Машына праз дзесяць хвілін будзе ля пад'езда.

— Так. Апранаюся і адразу спускаюся ўніз.

Дрыжучы ад перарванага сну, хвалявання і холаду, у поўным непаразуменні, што б то магло азначаць, я спусціўся па сходах у золкі туман, нібы на дно малочнага возера. Праз нейкую хвіліну з гэтага туману вынырнулі вясёлкавыя, размытыя плямы фараў.

У «казле» было пасля вуліцы горача ад матора і неяк асабліва сонна. Тры чалавекі, што ехалі са мной — праўдзівей, везлі мяне,— увесь час надрыўна і вельмі заразліва пазяхалі. Пахнула бензінам, мокрым сукном і яшчэ чымсьці. Чалавек год пяцідзесяці, што сядзеў побач са здаравенным шафёрам, працягнуў мне цёплую і моцную руку. Гэта і быў Андрэй Шчука. Быў ён са звычайнымі рысамі твару, што называецца «без асаблівых прыкмет», каб не паўдзесятка шнараў на шыі і руках. Урэшце, не вельмі й

прыкметных. А поціск ягоны мне заўсёды падабаўся: я пра многае мяркую па поціску.

Лейтэнант, які прымасціўся побач са мною, прыемна пачырванеў і сунуў мне халаднаватую далоньку.

Клепча... Якуб... Іванавіч... вельмі прыемна.

Ну, гэты быў, прынамсі, устойлівы. І на тым дзякую богу.

Машына рванула з месца, і толькі тут я заўважыў, што за ёю сляпуча мірганулі фары другой. Скосу, краем вока, я ўбачыў, як прыстройваецца да нашага картэжу адзін матацыкл... другі.

Пачуццё было надзіва непрыемнае. Я ледзь не пачаў думаць, а можа, я ўсё ж зрабіў у жыцці нешта такое... сам, можа, і не думаў, а яно з пункту гледжання крымінальнага кодэкса... Пасля, раззлаваўшыся на сябе самога, я ўявіў яшчэ горшае глупства: што гэта я рэзідэнт і еду патаемна на спатканне з шэфам (божа мой, колькі ж гэта я наглядзеўся дрэнных карцін) у нейкі лясны дом. На прыём нейкага пасла гэта не паходзіла, не хапала сонечнага святла і ганаровага каравула.

— І вось ён і кажа прадаўцу,— Клепча відавочна расказваў далей анекдот.— «А ці ёсць у вас аленева сядло?» Магазін жа завецца «Дары прыроды». «Не,— кажа прадавец,— ёсць натаценія». Рыба ў сэнсе. «Ну а ласіна ёсць?» — «Натаценія ёсць».— «Гм, ну а хаця каўбаса хатняя ёсць?» — «Бярыце натаценію, у ёй фосфару шмат».— «Ведаеце што,— кажа пакупнік,— мне не трэба, каб... свяцілася...»

Шафёр коратка гмыкнуў, Шчука толькі галавой пакруціў.

— За такія старыя анекдоты пры іхняй мірапамазанай вялікасці Мікалаі, ведаеш, што рабілі?

— Ну?

— Ссылалі туды, дзе козам рогі правяць... У Аляску.

— Аляску да таго часу прадалі, таварыш палкоўнік,— сказаў Клепча.

Палкоўнік на хвіліну замяўся.

— Ды я не пра таго Мікалая кажу. Я пра Першага. Твайму ж анекдоту горай.

— А якая ж тады, Андрэй Арсенцевіч, натаценія была?

— Гэта праўда, на вялікі жаль,— не было. Унікլівы ты чалавек, Клепча, скрупулёзны. Дока!

— Трэба ж ведаць, Андрэй Арсенцевіч. Іначай такіх памылак наробіш.

— Ну і добра.— Шчука павярнуўся да мяне, але чамусьці толькі ў профіль.— Расказвайце.

Я расказаў. Страшэнна мне было не па сабе. Я не разбіраўся ні ў тым, што робіцца, ні што яны такое гавораць, як не разбіраўся пасля ні ў дэталях апазнання, ні ў тым, хто з іх следчы абласной пракуратуры, а хто старшы ўмацаванай аператыўнай групы. Сяк-так яшчэ мог сказаць, што вось гэта «праваднік службовага сабакі» — так, здаецца, гэта называецца,— і то таму толькі, што пры ім быў сабака. У даміно згуляць, выпіць — гэта так, але ўсё жыццё я хацеў быць — па справе — далей ад людзей іхняй прафесіі. Таму што гэта толькі ў кепскіх раманах чалавек б'е ў ладкі і скача ад радасці з той прычыны, што да яго ў дом кожны дзень пачала ўчашчаць міліцыя. На месцы следчага я б у такіх выпадках абавязкова зацікавіўся, чаго то ён скача? Але тады і рамана не было б! Таму што скрынку з доларамі абавязкова знайшлі б тут жа ў клумбе ў гэтага веселуна, і не трэба было б прыглядацца да падазроных паводзін хлопчыка Пеці і да таго, адкуль пенсіянер Сінічка бярэ грошы на штодзённыя оргіі з «мадэлькамі».

За шклом машыны, як на здымку, паступова пачалі праяўляцца праз туман чорныя дрэвы. Туман плыў аднекуль хвалямі, пэўна, з нізіны. Машыну пачало кідаць на каранях дрэў. Пасля яна спынілася і дрэвы скончыліся, а вачам адкрылася вялікая паляна ў хаосе туману, які варушыўся над ёй.

Мы выйшлі, і толькі тут Шчука спытаў:

— Ну а галоўны неспакой?

— Мне здалося, што драпіны вакол замка.

— Віця,— звярнуўся Шчука да матацыкліста,— адвязі Сцепанца, каб стаў ля кватэры... Адрас?.. Вось па гэтаму адрасу. Адвязі і адразу вяртайся.

Гук матацыкла хутка заглохнуў у ватным тумане, і зноў стала ціха. Мы ішлі па пластах зляжалай графітнай лістоты. Я зірнуў на гадзіннік, але заўва-

жыў не час, а тое, як над сукном паліто вачавідна мітусіліся мікраскапічныя кропелькі туману.

Край паляны. Я глянуў і раптам убачыў ля самых ног дробныя бязгучныя ўсплёскі, якія зрэдку лізалі пясок, і зразумеў, што гэта не паляна, а возера, густа ахутанае імглой. І адразу ўсё стала на сваё месца, і я нават пазнаў тое, што вакол. І гэтую крывую бярозку з шарападобным капам-наростам на ёй, і, крыху далей, цьмяны цень чаўна на прыколе, і стаўбур чорнага дуба ля вады. Пазнаў возера Романь, куды мы так часта выязджалі рыбаліць з Мар'янам.

І тады прадчуванне нейкай вялізнай бяды, нават упэўненасць у ёй, сціснула маё сэрца.

З паляны на беразе даляцелі глухія галасы, выплылі цені. Некалькі чалавечых, адзін — сабачы. Ля сабакі стаяў маўклівы чалавечак са смешным абліччам. На мяне, пакуль тое, ніхто не звяртаў увагі, і я прыстроіўся да яго.

— Косміч.

— Старшына Велінец,— сіпата сказаў ён.

— А сабака? У-у, саб-бака мой.

— Рам,— і ціха абазваў.— Не раю.

— Укусіць?

— Бескарысна.

Палкоўнік прайшоў паўз нас, і толькі тут я зразумеў, чаму ён трымаўся заўсёды з правага боку і паказваў толькі профіль: у яго амаль не было правага вуха. Я ведаў, што гэта ў яго. У сорак пятым ці сорак сёмым годзе трапіў недзе пад Ашмяной у рукі банды Боўбеля. Не надта вясёленькая гісторыя. Дапытваў яго намеснік, і толькі таму ноччу Шчуку ўдалося ўцячы. Сам не выпусціў бы.

Клепча сказаў бы пра Шчуку: «Стары, пагрызены, загартаваны ў бітвах воўк».

— Да нас ён звыкнуў. А вы — свежы чалавек. Але гэта не сорам. Гэта каб звыклі.

Я здзівіўся, што старшына заўважыў і гэта, а не заўважыў, што мы на «ты». Але тут ад купкі людзей даляцелі галасы, і я пазнаў іх: глухі голас палясоўшчыка і звонкія дысканты двух дзяцей.

— Лесічоўка мая тут... на беразе... Ну, прыехаў...

— Ён часта тут ловіць, дзядзька.

— А мне што. Дзеці ходзяць у школу...— глухі ў тумане голас.

— Мы, дзядзька, зараснікам, наўмання. Машына стаіць,— гэта дзіця.

— «Запарожац» стаіць, дзядзька палкоўнік.

— Дзень, значыцца, стаіць пустая... І другі таксама... А на трэці ўжо я трывогу падняў. І човен на вадзе, бачу... у глыбіні затокі, халера на яе.

Вецер, паступова ўздыхаючы, пакрысе пачаў зганяць з возера туман.

Ясней праступілі сілуэты людзей і нешта цёмнае, доўгае, што ляжала на траве ля іхніх ног.

Над затокаю калыхаўся вэлюм, то падымаючыся, то зноў ападаючы на ваду. Усё ж, хаця і павольна, яго падносіла, і ўсё часцей праяўляўся на вадзе сілуэт чаўна, постаці людзей, якія, стоячы ў ім, скарадзілі дно, і пляма буя на вадзе. Я здагадаўся, што гэта месца здарэння.

— Падыдзіце, Касміч,— сказаў голас палкоўніка.

Я падышоў. З таго, цёмнага і доўгага, адкінулі брызент.

Я ўбачыў, што тое ляжыць на пажоўклай леташняй траве, і тут мяне замуціла. Вопратка была падобная, але твар... Твару не было. «Ракі, ці што?» — недарэчна падумаў я.

Успыхнулі яшчэ раз бліцы. Я адвярнуўся, і Шчука, відаць, зразумеў, што мне кепска: тысячы трупаў бачыў я на вайне, але паспеў адвыкнуць, а тут яшчэ гэта быў... не, ужо не быў.

— Ён? — спытаў Шчука.

— Твар — самі бачыце. Вопратка дужа падобная. Канстытуцыя — рыхтык ягоная. Прабачце, я павінен адысці.

Я сеў на пень. Я глытаў нешта, а яно ўсё сядзела ў глотцы. Вясёлага было мала ва ўсіх гэтых падзеях. Ад вас ідзе абражаная жанчына. Ваш лепшы друг загінуў. Ягоныя словы, ягоны неспакой...

— Ну што гэта, як красная дзеўка,— сказаў лейтэнант Клепча.

Я раззлаваўся, і, дзіўна, мне адразу стала лягчэй.

— Вось што, лейтэнант,— сказаў я.— Калі б пасля такога пераплёту я, скажам, спытаў бы ў вас, якой вы думкі аб творчасці Первенцава, або пачаў дасціпна гаварыць аб дасягненнях народнай гаспа-

даркі краіны — тады мяне трэ было б неадкладна браць пад белыя рукі і везці ў Навінкі.

— Маўчыце, Клепча,— абарваў яго Шчука.— Адыдзем да машыны, Косміч.

Ён хацеў адцягнуць маю ўвагу, дзякуй яму.

— Што было ў яго ў кішэнях? — спытаў я.

— Каша з тытуню, хлеба, паперы і іншага. Ён курыў?

— Апошні час дужа мала. Яшчэ што?

— Баначка з матылём. Вось. І ў чаўне два буйныя шчупакі.

— Ягоная,— сказаў я.— Але не мог ён такога буйнага шчупака... І што ён, увогуле, шчупака на матыля лавіў? Лухта якая!

— Спінінг знайшлі,— даляцеў па вадзе голас з чаўна.— Відаць, шчупак зацягнуў пад корч — вудзільна і патанула.

— Ну, бачыце,— сказаў Шчука.

— Ад чаго гэта здарылася? — спытаў я.

— Упаў з чаўна ў ваду. Патануў. Як у яго са здароўем?

— Ён быў дужа хворы чалавек.

— Ну вось. Мог быць прыпадак.

Мы падышлі да машыны.

— Ягоны «Запарожац»,— па аглядзе сказаў я.— І ўсё ж я не веру, што гэта ён. Так, машына, так, вопратка. Але ж аблічча... няма. Але ж гэты, здаецца, вышэй ростам. І потым, чаму паехаў адзін?

З лесу, з туману, вынырнуў да машыны Велінец з сабакам.

— Рам следу ад машыны не ўзяў,— сіпата сказаў ён.— І не дзіва. Колькі дзён! Акрамя таго, снег яшчэ ляжаў. Дождж злізаў яго. І зноў снег. І зноў стаяў... Відаць, канчаткова вясна.

— Няўжо бываюць неапазнаныя? — спытаў я.

Палкоўнік не адказаў.

..Яшчэ праз гадзіну мы ішлі да машыны. Цела ўжо забралі. Наперадзе ішлі Велінец і Клепча і гаварылі ўжо аб нечым іншым.

— Ды зразумей ты,— гарачыўся Клепча,— матэрыял ягонага гарнітура.

— Ну ладна,— з іроніяй цадзіў Велінец,— касцюм з матэрыялу, партыю якога ўкралі. Доказ мне яшчэ! Ну а каб, скажам, ён быў калісь паліцаем, чакаў па-

таемна ў душы «выбуху народнага гневу» і на гэты выпадак трымаў у страсе арсенал — ён што, тады хадзіў бы па вуліцах і плошчах з кулямётам у руках? Глупства! Матэрыял яго і апраўдвае. Дый характар ягоны. Самае, напэўна, страшнае злачынства ў ягоным жыцці — у жонкі з шуфляды тры рублі сцягнуў на гарэлку.

А мяне калаціла! І ад раптоўнага ўсведамлення непапраўнасці, і ад гора, і ад нейкай няяснай надзеі, і ад злосці на гэтых, якім усё адно, якія так хутка ўсё забылі, пераключыліся са смерці чалавека на нейкі матэрыял ды яшчэ й жартуюць.

...У маленечкім мястэчку Чурсы спыніліся перакусіць. Я глядзеў на гэтыя паўсотні дамоў, лялечную чайную, флігель ад разбуранага ў вайну палаца і гіганцкія, туманна-мокрыя, чорныя дрэвы старажытнага парку і ўспамінаў, як улетку мы хадзілі тут з Мар'янам і збіралі на прынаду слімакоў. Іх тут было безліч на берагах шматлікіх зялёных ставоў, у росным прахалодным траве. Я нідзе столькі іх не бачыў. І такіх вялізных, з яблык велічынёй. «Француз бы звар'яцеў з радасці»,— сказаў тады Мар'ян. І вось я глядзеў, і ў мяне пякло вочы і нешта ў грудзях.

— Ласіна ёсць,— прыбег Клепча,— мабыць, нехта па ліцэнзіі забіў ды здаў у чайную. Пашанцавала. У Мінску не дастанеш.

— Бы ў лепшых дамах Ландона,— сказаў Веліенец.

У чайной усе размясціліся пад дрэннай копіяй з карціны «Томаш Зан і Адам Міцкевіч на беразе Свіцязі».

— Абажаю аленяў,— сказаў Клепча, умінаючы ежу.

— Угу,— сказаў Шчука,— яшчэ з часоў дзіснееўскага Бембі ў кіно. Надзіва гожая і шляхетная істота. Пяшчотная, мяккая.

Я не мог есці. Заказаў дзвесце грамаў «Белавежскай», цяпнуў яе нагбом, як апошні алкаш, і закурыў, адчуваючы, як паволі апякае мне ўсё ўсярэдзіне.

Адчуваў, што я несправядлівы, што гэта штодзённая іхняя работа і не паміраць жа ім з голаду, і ўсё адно пагарджаў імі. І таму нямала здзівіўся, калі палкоўнік пайшоў і прынёс сабе і мне па сто пяць-

дзесят, сеў і, раптам, таксама амаль адштурхнуў талерку.

— Не магу. За столькі год, а не мог звыкнуць. Вып'ем, Антон Глебавіч.— І пасля паўзы: — Ненавіджу свалачоў... Пакуль не здохну...

У гэты момант Клепча заўважыў на карціне Занавы бакенбарды і раптам сказаў:

— А чаго-то Пушкін? Хіба ён быў на Свіцязі?

— Гэта Зан,— магчыма, занадта рэзка сказаў я.

— Ну а гэты... Зан... хіба ён...

— Памаўчыце вы, калі ласка,— абарваў яго Шчука і толькі тут адказаў на мае словы, сказаныя яшчэ на Рамані: — Бывае і так, што не апазнаюць. Рэдка, але бывае. Дай бог памяці, у 63-м ці ў 64 годзе пісьменнік ваш адзін, ну, з гэтых, маладых ды ранніх, раманы яшчэ гістарычныя піша, плыў са сваякамі па Дняпры ля Рагачова. Бачыць, нешта ружовае. Падумаў, што незвычайнай велічыні глушаная рыба (вось трэба яшчэ гэтых «шахцёраў» з Бабруйска прыціснуць, што ездзяць рыбу глушыць). Устаў на носе і раптам стырнавому: «Вараці!..» Плыве спінаю дагары жанчына ў ружовай камбінацыі. Ну, усё зрабілі, прыехалі нашы па труп... Але й дагэтуль невядома: хто, адкуль, як? Можа, аднекуль з Урала ў невядомай кампаніі прыехала, а можа, і яшчэ аднекуль. Ці сама ўтапілася, ці, можа... Але выплыве. Так ці іначай, а яна выплывае рана ці позна, праўда. Так што й ты, хлопец, не квілі. Цяжка, ясна. Але суцешся хаця тым, што атрымаюць яны, калі гэта забойства,— спаўна. А ўжо мы пастараемся, перабяром усё.

— Што ж,— сказаў Клепча,— усю Беларусь дагары нагамі перакуліш? Усіх сваякоў перабярэш? А тыя, можа, з Эстоніі?

— А ты і эстонскіх перакулі,— сказаў Шчука.— І, дарэчы, вазьмі прыжыццёвае фота ды паездзі па акрузе. Можа, нехта бачыў такога чалавека ў кампаніі з кімсьці знаёмым... напярэдадні.

— А па тым здымку? На беразе.

— Па тым здымку людзі падумаюць, што паказваеш акцёра Аўсянікава ў ролі ценю бацькі Гамлета. Думаць трэба, хлопец.

Калі машыны ўжо зноў ляцелі па плітачнай шашы алеяю трохсотгадовых ясеняў і вязаў, Шчука раптам спытаў:

— Што то за кніга?

Я расказаў.

— Паказаць не можаш? Ага, тады заедзем да цябе ў хату. А пасля... можа, з намі на ягоную кватэру з'ездзіш?

— Так... Слухай, ён жа трывожыўся! Ён казаў аб нейкай сувязі з тым, са старажытным, злачынствам!

— Гэта магло быць проста ад нерваў. І потым, каб мы займаліся ўсімі злачынствамі, зробленымі за мільёны год, з таго часу як малпа стала чалавекам, то каму было б разбірацца, хто ўкраў у сябра Раткевіча аўтаручку.

Дзіўна, ягоны грубаваты тон крыху супакойваў мяне.

— Так што старажытным злачынствам займіся ты. Ты знаўца, гісторык, табе і карты ў рукі. А знойдзеш што-небудзь цікавае для сённяшняга дня — ну, тут мы заўсёды да тваіх паслуг.

— Ты накшталт таго капеечнага крытыка, якому падавай творы толькі на злобу дня. А для гэтага газеты ёсць.

Мы заехалі да мяне, узялі ў партфель кнігу і пакацілі на парніковую гаспадарку.

І зноў была алея напалову выпляжаных ліп, і стары дом, і барокавая брама могілак. Толькі на дне спушчаных ставоў накапілася каламутная вясновая вада. А ўва мне ўсё яшчэ жыла няпэўная надзея, што вось пазвонім, вось у глыбіні кватэры аддадуцца крокі, лясне замок і заспаны Мар'ян скажа мне:

— А ведаеш, што лічылася ў нашых продкаў дрэнным тонам?

Ніхто не адказаў на званок. Мы стаялі і чакалі доўга, і я чуў, як «Цэнзар Феакцістаў», з'едлівая вахцёрка, адказвае Клепчу:

— Два дні назад як быццам чую — замок ляснуў. Гляджу — чалавек. Але дзверы зачыненыя. Пытае: «Што, там нікога няма, бабуся?»

— Які хаця па выгляду чалавек?

— А такі сабе... ну... нібы крыху гарадскі, а крыху нібы й не гарадскі.

Урэшце прывялі панятых і адкрылі замок. І надзея мая адразу знікла, а пачуццё бяды ператварылася ва ўпэўненасць.

Эльма ляжала нерухома на падлозе. Здаравенны

тыгравы Эдгар, убачыўшы мяне, няпэўна матлянуў азадкам. Вочы ў яго былі няшчасныя і слязіліся, і ён адразу заплюшчыў іх. Нават не ўстаў насустрач. У перадпакоі рэзка і моташна пахнула чымсьці.

— Ён не ездзіў у ніякую Вільню,— упэўнена сказаў я Шчуку,— іначай бы адвёў сабак. Ён і не думаў з'язджаць больш чым на адзін дзень.

— Сабак усыпілі,— сказаў Шчука.

— У той жа дзень усыпілі. Бачыце, яшчэ не з'едзена ежа, не выпіта вада. Толькі як маглі ўсыпіць на столькі дзён?

— Мо шукалі нешта? Калі за адзін дзень не знайшлі, то маглі паўтарыць дозу.

— Але як? Гэта выхаваныя псы. Яны нічога не возьмуць з нічыіх рук. Толькі ў Мар'яна... і ў мяне.

— Акрамя паветра, якога ні з чыіх рук браць не трэба,— Шчука паказаў на замочную дзірку.

— Я ведаю, чаго яны шукалі,— і я дастаў з партфеля кнігу.

— Што ж, давай прысядзем тут,— Шчука паказаў на доўгую скрынку для абутку,— каб не перашкаджаць. Займіцеся хатай, лейтэнант.

Мы селі на скрынку і пачалі ўважліва пераглядаць стары дом. Усё гэта было дарэмна. Што можна было заўважыць за гадзіну, калі я цэлыя дні сядзеў над ім.

— Забяры,— сказаў урэшце Шчука,— думай і далей над гэтым. Тут не нашага розуму справа. Магчыма, нейкая складаная галаваломка. А магчыма, і прасцей. Каштоўнасць кнігі вялікая?

— Так.

— То, можа, ніякай загадкі і няма.

— Хочаце сказаць, што цана чалавечага жыцця не большая за цану гэтага хламу?

— Ёсць такія, з вашага дазволу, людзі, для якіх жыццё другога не каштуе і шэлега.

— Зайдзіце,— сказаў Клепча,— паглядзіце сваім вокам, чаго не хапае ў кватэры?

Я зайшоў. Трус, відаць, ужо скончыўся. Толькі адзін з групы яшчэ перабіраў паперы ў шуфлядзе стала. Па-ранейшаму лёталі пад столлю анёлы, па-ранейшаму Юры папіхаў нагою цмока. Толькі Мар'яна не было. І не будзе болей.

— Не хапае дзвюх карцін,— глуха сказаў я.

— Тады, значыцца, пра кнігу й мовы няма,—

сказаў Клепча.— Мо і сапраўды барыгі-спекулянты. Не выгарала, і ўсё. Такая гісторыя, расказвалі, нядаўна ў Маскве была, па вуліцы Качалава. Угаворвалі, угаворвалі прадаць — ну і ўсё скончылася на гэтым. І званілі, тэрарызавалі пасля са злосці: выпаў кавалак з рук... А вось карціны — гэта цікавей.

— Таварыш палкоўнік,— чалавек у цывільным, што корпаўся ў шуфлядзе, працягнуў Шчуку аркуш паперы.— Гэта, бадай, цікавей за карціны.

Шчука прачытаў і працягнуў паперу Клепчу. Той прабег вачыма, свіснуў і паглядзеў на мяне. Палкоўнік узяў аркуш і падаў яго мне. А калі я, у сваю чаргу, прачытаў тое, што было напісана, у мяне непрыемна заняло дых.

Аркуш быў па ўсёй форме складзеным і завераным у натарыуса запаветам, па якім грамадзянін Мар'ян Пташынскі, на выпадак раптоўнай смерці, завяшчаў усё сваю маёмасць другу, грамадзяніну Антону Космічу, з умовай, каб азначаны Косміч утрымліваў былую жонку вышэйпамянёнага Пташынскага на ўвесь час яе хваробы.

— Што ў яе? — спытаў Шчука.

— Рак,— сказаў я.— Ляжыць у Гомелі.

— Значыць, другі сэнс гэтага «на час хваробы» — да смерці,— сказаў Клепча.

— Ну нашто ж так,— сказаў Шчука.— Пазваніце, Клепча, да нас, хай навядуць у Гомелі даведкі пра стан, як яе?.. пра стан Юліі Пташынскай.

Не паспеў лейтэнант пакласці трубку, як пачуўся званок у дзверы, і сэрца маё зноў упала ад неверагоднай раптоўнай надзеі. А пасля тупа забалела, бо гэта быў усяго толькі той чалавек, якога бачыў з чамаданчыкам на беразе Романі. Я здагадаўся, што гэта, мабыць, медыцынскі эксперт.

— Што-то вы,Ягор Апанасавіч? — спытаў Шчука.

— Хацеў, каб хутчэй даведаліся аб выніках ускрыцця, а мне па дарозе, ну і...

— То што выявілася?

— Аніякіх слядоў гвалтоўнай смерці,— сказаў нізенькі румяны лекар.

— Што ж яго, анёл божы?

— Магчыма. У яго два мікра і адзін інфаркт. Завал сэрца — вось прычына. Мабыць, стаяў у чаўне і тут здарылася. Упаў у ваду і захлынуўся.

— Чаго ж ён адзін ехаў?! — у роспачы крыкнуў я.

— Ягоная справа,— буркнуў Клепча.

— Ясна, што ягоная. І ніколі, ніколі ён не берогся! Ніколі!

— Што за карціны прапалі? — спытаў Шчука.

— Гэта і падазрона,— сказаў я.— Каб кралі — кралі б іншыя. Гэту. Гэту. Гэту. Ім цаны няма. А тыя дзве — поўная лухта, толькі што не новая. «Хрыстос у Эмаусе», нямецкай школы канца мінулага стагоддзя, і англійская «Кромвель ля магільнай ямы Карла І». Гэтую ён у Кіеве ў ЦУМе купіў адразу пасля вайны.

— Помню я гэтую карціну,— раптам сказаў Шчука,— доўга яна ў іх на сцяне вісела. Пашкоджаная крыху ўнізе. Кромвель у паланкіне сядзіць.

Я вылупіў вочы:

— Ну й памяць!

— Памяць прафесійная.

— Дакладна. Прадзёртая была. Ён рапараваў. Вялізныя дуры, яркія. «Кромвель» гэта «пад Рэмбранта наддае». Ён іх не цаніў.

— То, можа, не разабраліся? — спытаў лекар.— Убачылі, што вялікія, у вочы кідаюцца — ну і ўзялі.

— А чаго тады не ўзялі яшчэ чаго? — сказаў раптам «цывільны».— Вось. Грошы. І шмат нешта грошай.

Грошай было восемсот дваццаць рублёў.

— Мо спяшаліся? Не ведалі? — спытаў Клепча.

— Гэта барыгі па мастацтву,— сказаў я.— Хоць сёе-тое, ды разумеюць. Не ўзялі б яны гэтых карцін. Можа, другое. Мо не цаніў, то прадаў. Яму дзеля жонкі былі патрэбны грошы.

— І тое,— сказаў Шчука,— хай нашы пашукаюць па антыкварыятах.

...За акном ужо ляжала сутонне, і мы збіраліся ісці, калі зазваніў тэлефон. Клепча зняў трубку.

— Так... Так... Дзякуй вам.

— Што такое? — спытаў Шчука.

— Званілі ад нас. Юлія Пташынская памерла пяць дзён таму...

Выгляд у яго быў надзіва значны. Ён глядзеў на мяне.

— ...і якраз у намеркаваны дзень смерці мужа. Ц-цік-кава... Мо і карціны... для адводу вачэй.

Чырвань кінулася мне ў шчокі. Толькі тут я зразумеў, як можна расцаніць увесь гэты недарэчны, страшны збег абставін.

— Слухайце, Клепча, не будзьце быдлам!

— Ну-ну!

— Ён мае рацыю, Якубе,— сказаў Шчука.— Гэта быў найлепшы ягоны сябар.

— Адзіны і назаўсёды,— глуха сказаў я.— І я да канца жыцця рабіў бы толькі за хлеб, абы выбіць дзеля яго яшчэ год жыцця. А калі вы лічыце, што я такая пачвара, якая можа брата за шэлег забіць, то ведайце: тут няма нічога, што пасля смерці Мар'яна не павінна было б быць аддадзена музею на ягонай радзіме.

— Хто гэта ведае? — ужо тонам ніжэй спытаў Клепча.

— Я гэта ведаю. Так што калі я тут чымсьці і разжывуся, то гэта дзвюма сабакамі. З маімі раз'ездамі гэта зусім не патрэбна, але я іх не кіну, я іх буду трымаць, пакуль не памруць... у... памяць...

У мяне ўжо душыла ў горле ад крыўды і ад непрыязні да гэтага чалавека. Уратаваў мяне Шчука, іначай гэта чорт ведае чым магло скончыцца.

— Бярыце сабак і нясіце ў машыну,— буркнуў ён.— Памажы, Клепча. І змоўч урэшце, халера на цябе... Прабач, Косміч, я зараз закіну вас дадому. Хата будзе яшчэ некалькі дзён апячатаная. Пасля атрымаеш ключ, каб гэта ліквідаваць. Я дастану вам машыну, каб перавезці ўсё гэта, як завяшчаў нябожчык.

— Нябожчык,— сказаў я,— значыць... няма надзеі, што не ён.

— Няма,— сказаў Шчука.— На жаль, няма.

Калі мы з ім даставілі да мяне сабак — Эльма так і не прачнулася і я валок яе на руках, цяжкую, як цяля,— ён адпусціў машыну і раптам сказаў мне:

— Там побач з рэстаранам у вас што, кафэ? І сядаць не трэба?

— Не трэба. І за мною яшчэ доўг гонару.

Ён моўчкі павёў мяне пад руку. І толькі калі мы ўжо стаялі ля стойкі і прысёрбвалі каву з каньяком, азваўся нечакана мякка:

— Плача нутро? То ж бо, я гэта ведаю. Сам двойчы перажыў такое... Дык вось, Антоне, калі нешта ўспомніш, калі нешта знойдзеш — ты Хілінскаму ска-

жы. Мы ж сябры, ён мяне праінфармуе,— уздыхнуў.— Я ж ведаю, мала радасці чалавеку, ды яшчэ ўразліваму, цягацца па нашых установах.

Паклаў мне руку на плячо.

— А на Клепчу, хлопец, не сярдуй. Ён яшчэ малады, дурны, жарсткаваты ад маладосці. Зарываецца, як шчанюк-выжал. Жыццё яго не біла, не ламала. Вось ламане, як нас з Адамам, будзе ведаць цану дабрыні і даверу да таго, каго трэба. Пераканаецца, якая гэта палёгка, калі ніхто ў другі раз не б'е цябе доўбняй па галаве.

## Раздзел VI

### *Кароткі. Аб сівым антыквару і «барыгу»*

Мне ўсё ж давялося яшчэ зайсці да Клепчы, хаця я не жадаў гэтага горай за смерць. Здарылася так, што вечарам наступнага дня ён пазваніў мне і ласкава праінфармаваў, што ні ў адным камісійным магазіне горада тых карцін — прабачце — няма і што, значыцца, меў месца крадзеж. Значыцца, усё было проста.

— Не, не проста,— сказаў я ў трубку.— Не ведаю, як з ягонай смерцю, але ён не паехаў бы на Романь, чакаючы звестак ад жонкі. Маглі скарыстацца адсутнасцю. Бо нехта, скажам, абяцаў за Евангелле вялікія грошы. Шукалі яго, не знайшлі, прыхапілі, што трапілася пад руку, ды і ўсё. А маглі і забіць у нейкі невядомы спосаб.

— То што б вы параілі, шаноўны Антон Глебавіч?

— Я ведаю? Я стаў бы шукаць таго, хто ўмаляў прадаваць яму кнігу, мо ён і падгаварыў узломшчыкаў.

— А можа, сапраўды схапіла сэрца, упаў, захлынуўся? А кватэру абрабавалі пасля?

— Вашы гіпотэзы, вы і правярайце.

Я паклаў трубку. Я цярпець яго не мог за адно толькі падазрэнне.

У гэтыя дні я зрабіў адно адкрыццё. Круціў кнігу і так і гэтак і знайшоў у дзвюх мініяцюрных чырвоных літарах нібы ўплеценыя ў завіткі лісцікі, кветкі

і візэрункі — ініцыялы. Можа, мне гэта і здалося, але як часам бачыш у пляме на сцяне партрэт або пейзаж, так бачыў я ў дзвюх мініяцюрах ініцыялы ПДА — Пятро Давыдавіч Альшанскі — і ВХА — Вітаўт Хвёдаравіч Альшанскі. Гэта, здаецца, сцвярджала той факт, што Евангелле належала ім, але я не ведаў, чым гэты так званы факт можа мне дапамагчы. Ну, скажам, мог быць такі пабуджальны матыў, як выкраданне фамільнай каштоўнасці. Але дзе там, да д'ябла, члены той фаміліі? Хутчэй за ўсё,што матыў быў адзіны: спекуляцыя.

І вось праз два дні шаноўны пан Клепча пазваніў мне і ветліва запрасіў да сябе. Самі разумееце, што гэта было не тое запрашэнне, якое можна ігнараваць. Я з'явіўся і ўбачыў у прытульным такім кабінеціку дзве карціны, прыхіленыя да сценкі.

— Яны?

— Ясна, што яны. Унь, бачыце, на адваротным баку «Кромвеля» зацыраваны след пашкоджання.

— Ягоны почырк? — ён працягнуў мне квітанцыю.

— Почырк не ягоны. Подпіс ягоны.

Ён пачырванеў. Людзі ягонага тыпу не любяць, калі ім заўважыш, што яны няправільна гавораць. Мне і памаўчаць бы, але занадта ён мне абрыднуў.

Пасля я меў яшчэ два прыемныя знаёмствы. Адно — з сівенькім дзядком — антыкварам, гэткай сабе дзюбатай птушачкай з надзіва элегантнымі і рухавымі ручкамі. Другое — са здаравенным, выпешчаным бамбізам, такім фацэтам у шэрым гарнітуры з мяккай дарагой воўны. І гальштук да гэтага гарнітура пасаваў, і срэбны стары сыкгнет, менавіта сыкгнет, а не пярсцёнак. Не пасавалі толькі вышыбайлавы вусікі, але гэта ўжо ад густу кожнага чалавека.

— Дык я вам і кажу,— гарачыўся дзядок,— што тут і графічнай экспертызы не трэба. Гэта Пташынскага рука — мне ўжо і не ведаць.

— Словы,— сказаў Клепча.

— Што словы?! Што?!

— Словы, кажу, надта спецыфічныя, ведаеце.

Тут ён мне ўпершыню спадабаўся. Але дзядок узвіўся:

— Крымінальныя раманы пішаце?! Дэтэктывы друкуеце!! То што вы хочаце, каб людзі не ведалі спецыфічных выразаў? Што?! А што датычыцца, што вы

карцін не бачылі, то я галоўны антыквар, то я такі быў у ад'ездзе і квітанцыі схаваў, а карціны на складзе былі. І вось іх выставілі, што?! Вы ж бачыце, калі здаў.

— За два дні да смерці,— сказаў Клепча,— вось чаму было шмат грошай. Слухайце, а вы гэта дакладна ведаеце, хто званіў Пташынскаму наконт кнігі?

— Ну, хіба я што? Я дакладна! Спыталі б з самага пачатку ў мяне, і не спатрэбілася б тых дурных падазрэнняў, так? І ён рады быў сам сказаць з пачатку. Вось ён хацеў купіць, Барыс Гутнік! Ужо я што, Бору не ведаю, каб не ведаць, хто хацеў купіць.

— З якой прычыны хацеў купіць?

— Кнігалюб. А што, нельга?

— Гандлюе кнігамі.

— Дык я ж не чуў. Часам мяняе.

Прывялі і Бору, таго самага выпешчанага бамбізу.

— Я званіў,— спакойна прызнаўся ён, разглядаючы дагледжаныя пазногці.— Толькі ніякага шантажу не было. І ніякага «чалавека вясковага выгляду», што быў на выстаўцы кнігі, не ведаю... Так, разы тры званіў. Усё думаў, што перадумае... Ну, проста хацеў гэтую кнігу.

— Для працы?

— Не ўсе, хто любіць кнігу, ужываюць яе для працы. Я проста люблю кнігу. А вы хіба не?

Хацеў бы я ведаць чалавека, які ў наш адукаваны век прызнаўся б, што ён цярпець не можа кніг. Хоць да гэтага мы, дзякуй богу, дараслі.

Клепча сумеўся, а малады бамбіза дужа сур'ёзна вёў далей:

— Гэта адзіная мая страсць, таварыш лейтэнант. За гэта, па-мойму, не судзяць. І калі ўжо «кнігі суць рэкі, што напаяюць сусвет», то як можна вінаваціць таго, хто прагне і п'е. Ясна, званіў, не хацеў выпускаць з рук.

— Вам не здаралася гандляваць кнігамі? — спытаў Клепча.

Гутнік палез у кішэнь пінжака і выняў газету.

— Гэта яшчэ нашто?

— Сёння якраз, ідучы сюды, атрымаў. Беластоцкая «Ніва». Бачыце, падзяка за тое, што перадаў у бібліятэку дзвесце пяцьдзесят назваў кніг. Каб гандляваў, наўрад ці зрабіў бы такое. Менш каштоўныя,

як лепшых набярэцца, адразу аддаю. Можаце праверыць.

— А мы і праверылі,— сказаў Клепча,—тут вы не хлусіце, усё праўда. І тут аддавалі, і ў Віцебск, і польскім беларусам.

Я не ведаў, чаго Клепча трымае пры гэтых допытах мяне. Папрасіў дазволу закурыць, бо «аж вушы ў мяне ад жадання папухлі», раскрыў пачак.

— Дайце і мне,— папрасіў раптам бамбіза.— Дзякуй. Што-то такое? «БТ»? Курэц з мяне ніякі, але, разумееце, расхвалявала мяне гэтая гісторыя.

Няўмела зацягнуўся, аж шчокі да зубоў прыліпнулі і, паказваючы на газету, сказаў нібы проста ў прастору, але з відавочным жаданнем ушкуліць Клепчу:

— Імя надрукавалі. Ветлівыя людзі. А тут і сабака не скажа «дзякуй».

Гэты чалавек пачаў выклікаць да сябе прыхільнасць. Нават ягоныя вусікі не здаваліся ўжо мне фатаўскімі.

Ідучы дадому, я думаў, што і апошнія ўскосныя доказы рухнулі. Нічога не дало ўскрыцце, нічога не дало знікненне карцін. Ні ў кватэры, ні на месцы, дзе загінуў Мар'ян, не было знойдзена аніякіх слядоў. Наконт кнігі званіў ні ў чым не вінаваты кнігалюб, дый невядома, ці кнігу шукалі ўзломшчыкі, што ўсыпілі сабак.

...Мінуў тыдзень. Ніхто мне не званіў, ніхто не выклікаў мяне, і па гэтых прыкметах я зразумеў, што следства з поваду заўчаснай смерці Мар'яна Пташынскага, хутчэй за ўсё, зайшло ў тупік.

## Раздзел VII

*Што было сказана ў «Новым Тэстаменце»*
*і якую таямніцу схаваў*
*у «Апакаліпсісе» Іаан Багаслоў...*

Працаваць я не мог. Бавіцца — таксама. Неадчэпныя думкі аб Мар'яне і ягоным нечаканым канцы мучылі мяне і ўдзень і ўначы. Заставалася адно: тупа і ўпарта сядзець над ягонай кнігай і думаць, думаць, думаць. Думаць без усякай надзеі да нечага

дадумацца, без усякай змогі звесці канцы з канцамі. Адзінае, што было тут ненадрукаванае, гэта маргіналіі[1], каментарыі хуткапіссю. Часцей за ўсё містычнага характару, накшталт: «Збылося пры каранаванні» або «справдзілася ў вешчым сне такога і такога».

Мне ўжо даўно хацелася пляваць, і аднак...

У той вечар я вырашыў зрабіць апошнюю спробу.

Пад зялёным абажурам гарэла асабліва моцная лямпа. Святло біла мне ў вочы, і таму я апусціў каўпак яшчэ ніжэй, каб яно падала толькі на кнігу. Ці я выснажыўся за апошнія дні, ці так падзейнічала ціша, але я на хвіліну задрамаў і, мабыць, асунуўся ніжэй у крэсле. А калі расплюшчыў вочы, яшчэ замглёныя сном, убачыў на левай балонцы ледзь прыкметныя цёмныя кропкі. Узняў галаву — яны зніклі. Апусціў — зноў з'явіліся. І тады я зразумеў, што бачу не кропкі, а ледзь прыкметны «цень ад кропак», ад нейкіх шурпатасцей паперы. Заплюшчыў вочы, правёў кончыкамі пальцаў і адчуў іх навобмацак. Я перагарнуў балонку і ўбачыў, што гэтым невідочным, мікраскапічным пукатасцям, якія і давалі падобны на россып парушынак цень, адпавядалі значна меншыя за шпілечную галоўку ўмяцінкі, зробленыя, можа, тупым канцом іголкі. Пазней я ўпэўніўся, што ў гэтым месцы яны яшчэ былі буйныя. Каб не шчаслівы збег абставін, каб не гэтае нізкае месцазнаходжанне крыніцы святла і маіх вачэй — я так бы нічога і не даведаўся. Але толькі гэта і было шанцаваннем. Далей прыйшла чарга на ўменне.

Гэтыя націскі былі размешчаны без усялякай сістэмы. Я налічыў дзевяць такіх пад літарай А, дзесяць пад літарай С і г. д. Калі гэта і быў тайнопіс, то такі, якога не разгадаеш. Крыптаграма? Аанаграма? А чорт яго ведаў, як называўся той спосаб у сярэднія вякі. Выскачыла мне з галавы тая назва. Ну, я вам тады растлумачу сутнасць. Патэнтнага бюро тады не было, бюро адкрыццяў таксама. Скажам, вучоны рабіў нейкае адкрыццё, але хацеў мець яшчэ крыху часу, каб яго праверыць. Але як зрабіць, каб не перахапіў нехта іншы, каб пасля можна было давесці свой прыярытэт? Тады ён зашыфроўваў вынаходніцтва.

---

[1] Паметкі на палях.

Яно, скажам, заключалася ў адным сказе: «У шэфа доўгі, чырвоны ад віна нос». Няўдалы прыклад, бо тут давялося б шыфраваць зусім па іншай прычыне, не па навуковай, а па адміністрацыйнай, але няхай.

І вось наш навуковец выпісваў адтуль, колькі разоў сустракаецца тая ці іншая літара, і запісваў гэта так: ў-1, о-3, р-1, ы-2, і-2, у-1, ф-1, Н-3, в-2, с-1, ч-1, г-1, а-3, ш-1, э-1, д-2. Або: ўооорыііі і г. д.

Калі чалавек паміраў, таямніца аб шэфавым носе памірала разам з ім. Не ведаю, ці можа ў такім выпадку дапамагчы нават самая складаная электронная машына з безліччу перабраных і выпрабаваных варыянтаў.

Той, хто адкрыў нешта, завяраў шыфроўку ў натарыуса, рассылаў іншым буйным вучоным і пасля спаў спакойна, ведаючы, што ніхто гэтага не разгадае, што ўчастак застаўся за ім.

А ўрэшце быў факт, калі, здаецца, Галілей — я не астраном і таму, магчыма, расказваю вам легенду або ў нечым скажаю рэчаіснасць, але сутнасць гісторыі была прыблізна такая, і я пра гэта недзе чытаў — застрахаваўся такім чынам і, ледзь не Кеплер, не паленаваўся перабраць усе магчымыя варыянты і падстаноўкі літар і заявіў, што зашыфраваны сказ гучыць так: «Прывітанне вам, блізнюкі, Марса параджэнне!» А калі гэта так, то Галілей адкрыў спадарожнікі Марса. Было, праўда, некалькі лішніх літар, здаецца, тры, але тады і гэта назнарок рабілі, дзеля большай упэўненасці.

Праз некаторы час Галілей усё праверыў і выступіў з паведамленнем, што змест ягонага адкрыцця, калі адкінуць шэсць лішніх літар, такі: «Высачайшую планету трайною назіраў».

Выявілася, што ён адкрыў кольцы Сатурна.

Але я ніколі не быў Галілеем і ніколі не буду Кеплерам, дый чорт яго возьме цярплівасці на два гады падстановак і варыянтаў, каб пасля зведаць цікавы факт, што ў жонкі такога і такога ногі крывыя і валасатыя.

Таму я падумаў, што ўмяцінкі могуць быць і на іншых аркушах і што я іх проста не заўважыў. Гэтыя я прыкмеціў на першай балонцы «Апакаліпсіса», і, па логіцы думкі, можна было меркаваць, што і астатнія,

калі яны ёсць, будуць зробленыя невядомым шыфравальшчыкам на першых балонках кожнай кнігі.

Гадзіны дзве заняло прагляданне на святло, аж пакуль я не дабраўся да «Новага тэстаменту». І тут я заўважыў...

пракол
Первая•часть нового завѣ•та або тас•там•енту п•одлуг славеньского розделенья, то есть отъ четырех евангелистовъ светое евангеліе ісуса хрыста списаное...

Я выпісваў літары. Нешта атрымлівалася.

Я есм первів і опошні... (Гэта значыць первы, першы — аўтар наблытаў, бо тэксту кнігі не хапала.)

Мне карцела ўзяцца за «Апакаліпсіс». Неяк падсвядома я меркаваў, што асноўная частка тайнопісу там, што мозг сярэдневяковага чалавека абавязкова павінен быў бы праводзіць нейкую паралель паміж сваёй таямніцай і таямнічасцю «Адкравення», што ён павінен быў нібы спаборнічаць у незразумеласці з самім апосталам Іаанам. Але я стрымаўся і вырашыў сачыць слова за словам, аж пакуль не заяснее надзея.

Вы ўжо ведаеце, што ў агульную вокладку былі пераплецены без усялякага парадку і без якой бы там ні было сістэмы кнігі зусім рознага зместу. Урэшце, я дабраўся да «Статута» 1588 года.

...от наяснейшого гдрл короля его мл с ти жикимонъта... друковано... друкарни дому мамоничовъ

Нашч...

Я поўзаў па гэтых радках, літарах і націсках, слепячы вочы нізкім агнём пяцісотватнай лямпы.

...тежъ добра панства того великого князства литовского не уменшимъ и то, што будет черезъ неприятелей того панства отдалено, разобрано и ку иншему панству от того панства

*нашего коли колвек упрошоно, то засе ку власности великого Князства привести, привлашити и границы направити обецуем...*

...атку разумному — нашчадку разумнаму.

Я ўпаў у нейкую раз'юшанасць работай, у нейкі шалёны азарт. Усё ж гэта была шыфроўка пачатку XVII стагоддзя. Яшчэ быў жывы Леў Сапега, яшчэ не нахлынулі шведы, яшчэ старажытная мова гучала, гучала на поўны рот й ва ўрадзе і ў судзе. І паступова на асобным аркушы ўзніклі выпісаныя мною словы:

*... нашчатку - разумнанаму - вендю - медзвпасреблену іному - мед - товчы - в - хунты - половою - колена карэкі лацне - початоку - вкрыли - мед - вскрыла - остане.*

Ён назнарок не дзяліў сказа на словы, гэты шыфравальшчык. Але тут ён дапусціў адну ўласцівую ўсім людзям памылку: пісаў літары як найгусцей менавіта там, дзе словы дзяліліся. Я праверыў, дзе стаіць «ъ» пасля зычнай, і пераканаўся, што гэта так. І тады я стаў дзяліць сказ на словы і, адначасова, перакладаць яго. Шкодзіла тое, што невядомы аматар таямніц назнарок парушаў сучасную яму старабеларускую граматыку, каб цяжэй было здагадацца. А можа, недастаткова ведаў яе. Але ж зусім адступіць ад яе ён не мог. Ён заўсёды так ці йначай заставаўся ў яе палоне.

*Нашчадку разумнаму вяную (завяшчаю) медзь пасярэбраную. І кому медзь, таўчы в (тры) фунты (з) паловаю. Чарговасць (такая): карэнчыкі лацне (зручна) пачатак схавалі, медзь укрыла астанняе (апошняе)...*

Не дужа гэта было зразумела, але нейкі сэнс намячаўся. Што ж, далей, давай далей.

*...аче каженнику галавою кепу ни украдзеш (нрзбрл) бязецна загамую бо клюкою розумны складзи*

*змю лєвцаю дымам складзи канонъ вшыткає*
*вакол меди каб мещи занехаєш (нрзбрл) за заворою.*

Каб ты дзе згарэў бы са сваёю шыфроўкаю, халера! Але нічога не зробіш, папаўзеш далей, хаця вучоныя нашы так і не ўдасужыліся за сто год даследаванняў зрабіць адносна поўны слоўнік старабеларускай мовы (слоўнічкі ў канцы некаторых гістарычных прац у лік не ўваходзяць, дый каштуюць няшмат).

*ачє (калі) кажєникъ (скапєц) галавою, (калі) кєпъ.*

Чамусьці мне прыйшло ў галаву венгерскае кер, і зусім не прыйшло да галавы, што й па-польску дурань — кіер. Ото я й выявіўся — кепъ.

«Калі скапец галавою, дурань, (то) не ўкрадзеш (нрзбрл) подла. Загамую (затрымаю), бо клюкою (тут не хапала слова, але можна было ўявіць, што «клюкою», ключом хітрасці або розуму). Разумны, (то) складзі змяёю, лесвіцаю, дымам...»

Дымам? Пры чым тут дым?!

«Канонъ (то бок пярэдадне, а можа, у значэнні *спачатку*) вшыткае (усё цэлае, усё да канца) вакол медзі, занехаеш (не звернеш увагі, выпусціш з увагі (нрзбрл) за заворою (за завалаю)».

Пасля я паспрабаваў перакласці ўсё гэта на сучасную чалавечую мову. Атрымалася, за выключэннем цёмных месц, так:

«Я, першы і апошні, нашчадку разумнаму завяшчаю медзь пасярэбраную. Іншаму, медзь таўчы, у тры фунты (з) паловаю. Чарговасць такая: карэньчыкі зручна пачатак схавалі, (а) медзь укрыла астатняе. Калі (ты) скапец галавою, дурань, (то) не ўкрадзеш (нрзбрл) подла. Затрымаю (бо) цябе ключом (хітрасці?). (Калі) разумны, (то) складзі змяёю, лесвіцаю, дымам... Складзі спачатку ўсё цэлае вакол медзі. Не звернеш увагі (нрзбрл, можа — «застанецца?») за завалаю...»

Калі я запісаў апошнюю літару — мяне аж у пот кінула. І нельга сказаць, каб сэнс гэтага запісу стаў больш ясны пасля перакладу. Як і раней, я не ведаў, у чым тут справа, што да чаго і як.

Я падрыхтаваў сабе вады з варэннем, кінуў туды некалькі кубікаў лёду, узрэзаў свежы пачак цыгарэт, скінуў туфлі і заваліўся на тахту, пакурваючы і прысёрбваючы ваду, бо ў мяне ад гэтых дурацкіх лінгвістычных практыкаванняў глотку нібы наждаком прадзерлі.

Чорт яго ведае, нешта такое, схаванае пад карэннямі,— яно спачатку.

А тое, што потым, нехта схаваў пад меддзю, халера на тую медзь і на тое дрэва з карэннямі. І калі ты не дурань, то гэтае нешта, гэтую медзь, гэтыя карэнні або тое, што схавана пад імі, абкруці змяёю і дымам вакол яшчэ нейкай медзі, каб нешта не засталося за завалаю... Ну, а як абкруціш, то што будзе? Другое прышэсце? Булён з бобам? Дуля з макам пад нос?

Я ўстаў, падышоў да акна і прыпаў лобам да халоднай шыбы. Стаяла ўжо ноч. У чорнай люстры шкла адбіваўся мой твар, агеньчык лямпы, а праз усё гэта праступаў непрытульны гарадскі краявід з апошнімі агнямі ў вокнах і з чорным асфальтам, па якім навыперадкі скакалі расхвастаныя, раздзертыя ветрам вадаспады дажджу.

Быў на мяжы таго, каб кінуць усё гэта. Больш ва ўсёй кнізе не было паметак, і бог яго ведае, што схаваў пад сваім тайнопісам той даўні чалавек, па костачках якога прагрукатала ўжо некалькі стагоддзяў.

«Кіну»,— вырашыў я.

Але ў той жа момант я ўявіў, як далёка за мяжой горада, на новых могілках, дзе нават і дрэў яшчэ няма, а толькі пруткі выбіваюцца з халоднага глею, ляжыць у гэтай самай ледзяной персці тое, што было калісьці Мар'янам, лепшым, адзіным, можа, апошнім маім сапраўдным сябрам на гэтай клятай зямлі. Ён завяшчаў мне гэтую таямніцу, ён непакоіўся, ён, магчыма, загінуў з-за яе. Бо хоць вы мяне расстраляйце, а я не верыў, што ўсё тлумачыцца так проста: завалам сэрца і падзеннем у ваду. Я не верыў. У мяне было першабытнае, жывёльнае прадчуванне, як у сабакі, што ўсё гэта не так, і калі слядоў не знойдзена, калі нішто не ўкрадзена, калі ніхто невінаваты з допытаных да гэтага часу — гэта не азначае, што іх няма, што новых слядоў не будзе. Урэшце, я проста быў абавязаны перад ягонай памяццю.

І таму я зноў закурыў, сціснуў палаючую галаву халоднымі рукамі і, сабраўшы ўсю сваю напятую, сцюдзёную рашучасць, паспрабаваў засяродзіцца, сканцэнтраваць усю сваю ўвагу толькі на адным.

«Медзь... змяя... дым... Пры чым тут, да д'ябла, дым?.. Медзь напісана там, як мед... А мо гэта не «медзь», а «мёд»? Лухта сабачая лезе ў галаву, шаноўны сябар Космiч, лухта і трызненне сівой кабылы! Таму што які асёл будзе хаваць нешта там у мёд? Хіба забітага на вайне знатнага чалавека залівалі ў труне мёдам, каб давезці цэлым да радавой магільні ці да бальзаміроўшчыка? Але ўявіце сабе чалавека, які расшыфраваў, шукаў, забіў на гэта палову жыцця і ўсё толькі дзеля таго, каб адшукаць труп. Гэта, прабачце, гумар шыбеніка. Дый потым, што можна намотваць вакол мёду? Не, ясна ж, што гэтае нешта трэба матляць вакол нейкага меднага прадмета. А нашто?.. Не, з гэтага канца нічога не выходзіць... Карэнні скрылі пачатак. Дрэва з карэннямі... Стоп! А чаму дрэва? Пра дрэва нідзе не сказана!.. І ўрэшце існуюць на свеце амонімы... Так... Ну, ну... Карэньчык можа быць не толькі ў дрэва... Карэньчыкі могуць быць тытунёвыя... Карэньчык можа быць... у... кнігі. У кнігі, чорт пабірай! У кнігі!»

Я кінуўся да стала, дзе ляжала кніга. Я не мог пачакаць, не мог абдумваць усё гэта далей. Таму што яшчэ аднаго расчаравання я не вынес бы. Я страшэнна баяўся і адначасова нібы загадзя — і цвёрда — ведаў, што не памыляюся. Бо я быў ідыёт, які нават не здагадаўся, што лепш за ўсё можна замаскаваць рэч на вачах ва ўсіх.

Карэньчык шчыльна прылягаў да аркушаў, але не быў прашыты ніткамі, і гэта мяне крыху супакоіла. Я ўзяў жалезную лінейку і пачаў асцярожна прасоўваць яе за карэньчык. Лінейка ўваходзіла дужа павольна і з ціхім патрэскваннем: аддзіраўся клей. І гэта было так, нібыта сталёвы ланцэт з патрэскваннем рэзаў маю ўласную плоць. Ну так, гэта было варварства, ясна, але я не мог болей чакаць. І я не рэзаў па кнізе, а проста адсоўваў гэтую рудую скуру, хай сабе і аддзіраючы прыклеенае. Пасля склею зноў. Грунтоўна і старанна.

Ён, урэшце, адстаў. Я зірнуў у прасвет і заўважыў, што там нібы нешта жаўцее. Дзе пінцэтам, а дзе і

пальцамі я цягнуў, варушыў і пастулова выцягнуў гэтае жоўтае...

...І амаль крыкнуў, уражаны, калі на стол перада мною лягла, урэшце, складзеная ўдвая стужка пергаменту. Доўгая стужка, на якой былі раскіданы літары, напісаныя старажытным, чорным і парудзелым атрамантам. Інкаўстам, як называлі яго продкі ў тыя часы.

Я тут жа змераў пергамент. Даўжынёю ён быў, як разгорнеш, у 63 сантыметры, шырынёю — у 49 міліметраў. Літары былі раскіданы, як ім хацелася, але наватам, дзе яны складалі радок (заўсёды пад пэўным вуглом да палоскі),— я нічога не мог зразумець. А між тым гэта не магло быць адвольнай камбінацыяй знакаў, бо суседнія радкі гучалі так:

ZIN РЯЪХМНВ FINIS.

Прынамсі, адно слова Finis было зразумелае. І слова тое было лацінскае. І азначала яно «канец». Але варта было перайсці да суседніх кавалкаў, напісаных роднен ькай нашай кірыліцай, і адразу выходзіла лухта накшталт такога:

ЪМЮѦОТѦА ФЅШ.

Скажыце, вы чулі калі-небудзь пра слова, якое пачынаецца з цвёрдага знака, або пра цвёрды знак, які выгодна размяшчаўся пасля галоснай? Я — не.

І я чытаў, і ўсё гэта гучала, як у звар'яцелага рабіна, што чытае беларускую кнігу на яўрэйскі манер, з канца.

А чорт! А чаму і сапраўды не ўявіць, што гэта напісана «з канца», наадварот. Скажам, метадам, які тады лічыўся дасканалай шыфроўкай, а цяпер перайшоў у карыстанне дзяцей, калі яны гуляюць у таемныя суполкі.

Тады першай літары алфавіта павінна адпавядаць апошняя.

*А* — гэта *я*, а *я* — гэта *а*.

Гм, вось і адпаведныя кавалкі «яа». І яшчэ «яа». І яшчэ. Значыць, гэта «ая». Падобна на тое, што канчаткі прыметнікаў жаночага роду, тыпу «тоўст*ая*»,

«дурн*ая*». Ну што ж, у гэтым нешта ёсць. Цалкам магчыма, што гэта і ёсць дзіцячыя хітрыкі «літарэі», калі алфавіт дзялілі напалам, першую палову пісалі злева направа, а другую справа налева, пад ёю, і пасля замянялі літару з верхняга радка літарай з ніжняга і наадварот.

Што ж, паспрабуем і мы.

Колькі ж гэта ў яго было літар у старабеларускім алфавіце? Ну, у часы Кірылы Тураўскага было сорак дзве. Але нават ужо ў той час амаль не ўжывалася літара ҁ — дзерв. А ўжо да XVI стагоддзя і пагатоў.

Шыфравальшчык наўрад ці ўжываў яшчэ й такія знакі, як юсы простыя і ётаваныя. Выкраслім і іх. Літары «от», «ксі», «псі» не былі ў пашане ў старажытных беларусаў, асабліва ў мірскіх дакументах. Продкі вызначаліся рацыяналістычнасцю і схільнасцю спрашчаць непатрэбна складаныя рэчы. Што ім было ў аўтаматычна перанесеных з грэчаскага алфавіта знаках? Падумаеш — «ксі» ў слове «Аляксандр»? Можна і дзвюма літарамі напісаць.

Я доўга думаў над тым, ці ўжываў *мой чалавек* такія літары, як «зяло», «і дзесяцірычнае», «фіта», «яць» і г. д. І вырашыў, што не ўжываў. Замест іх цалкам можна ўжыць звычайныя *з* і *ф*. А яму трэба было як мага спрасціць сваю справу.

Такім чынам, складзены мною «алфавіт шыфравальшчыка» набліжаўся да сучаснага беларускага алфавіта, з тым выключэннем, што ў ім не было літар *э* (яе ў той час увогуле не было) і, вядома, *ў*. Бо кірылаўскі алфавіт яе не ўжываў, і мы нават не ведалі б, ці існаваў такі гук у нашай тагачаснай фанетыцы, каб не ўскосныя меркаванні і каб не беларускія кнігі, што пісаныя арабскім шрыфтам, які мае і *дз*, і мяккае *ць*, і шмат іншых рэчаў такога роду.

Затое, па роздуме, я ўключыў у алфавіт літару *ш* (шта), досыць распаўсюджаную ў тагачасных тэкстах. Такім чынам, у мяне атрымалася трыццаць літар, або два рады па пятнаццаць.

На адным баку былі такія літары (я, вядома, даю сучаснае іх напісанне, а не вычварнае тагачаснае).

ЧХА ФРА НЦ Т

І больш нічога да самага канца ўсёй шасцідзесяцітрохсантыметровай паласы. Я падставіў літары.

ЯК ЛА ТІ Н

«Як латін...» Нешта складалася. Але чаму толькі гэта? Напісаў, пасля раздумаў і перагарнуў стужку? Можа быць.

Першая літара на адвароце *щ*. Гэта значыць *е*. «Як латіне». І тут добра. *Пя* — значыць *ра*. Што ж яны *ра*? *Пако етнас*? Глупства, пане дабрадзею. Але вось дзесяты радок *хмнв Finis* падыходзіць — *куть Finis*. «Як латіне ракуць Finis». Што ж, гэта чалавек яшчэ й тут шыфраваў? Пісаў першы радок, дзесяты, дваццаты, а пасля запаўняў прамежкі іншымі радкамі? Але дваццатым радком было нейкае дурацкае *ані ы б*. Гэта я малпячай сваёй часткай падумаў расшыфраваць усё з налёту.

Калі я пераклаў літарэю на звычайную, нармальную чалавечую мову, на палосе з'явілася такое:

Першая палова стужкі:

ра
пако
етнас
а падскарбі п
друга отку
заклавъ в
мена і тымъ
устрве кле сыкгн
нію немал ман
Zin пад громаты
куть Ха
нъ не вз Finis
цю моею
ажывъ а шукаті ту
тутамъ глыве
і клеть ніжні
па жывіце зава
тъ врхні п
універсальы
а куст
мара ю
ані
ы
ву
кмахъ
контр
лож
ланыхъ ні
Ав капь зта
одъ калваріе
овай пачы
су
дъ ані п

Другая палова стужкі:

щуть і шт
кутні дъ і што
афекту ложніца ключ
дубасная округ ъ ступа
дачекаціса лож
капь срла еда богъ
зре цълна каме-
нь кмотра а неві
ра жона а кмот
псіно лайно
ад судакъ з волю і
о маю то ма
не володевъ
край плінфай чавая пуста а
ніца ка во
людожртм ад
сурм ала агела
сно во ані
довеку
аманъ

Пытанне першае: чаму пісаў наўскос? Пытанне другое: чаму пергамент увесь носіць сляды колішняй змятасці і, сям-там, плямы ад клею? Пытанне трэцяе: якім метадам запісу карыстаўся той чалавек?

Вось слова «капь», старая мера вагі. Яна паўтараецца. Ясна, што гэтыя радкі павінны быць побач, бо хутчэй за ўсё тут пералічваецца нешта. Але паміж словамі *капь зта* і *капь срла* не дзесяць, а адзінаццаць радкоў. Не, гэта зноў не тое. Ты зноў ледзь не ўдарыўся па лёгкай дарозе. Зноў. І таму зноў пакарай сябе цяжкай працай, чалавеча.

Думай, хлопец! Як бы ні здавалася, што сэнс лёгкі,— думай. Думай! Варушы мазгамі. Чаму палоса змятая? Чаму наўскос? Чаму плямы клею, белыя кавалкі, чаму не змяты менавіта той канец, на якім тыя, адзіныя на ўвесь другі бок, літары?..

У кніжным шыфры ёсць словы: «...складзі змяёю, лесвіцаю, дымам... Складзі спачатку ўсё цэлае вакол медзі».

І тут мяне як стукнула. Я ўспомніў адзін сярэднявечны беларускі спосаб дасылання таемных лістоў. Два военачальнікі, дыпламаты або змоўшчыкі загадзя рабілі сабе два прадметы аднолькавай формы. Кожны меў пры сабе адзін з іх. Калі трэба было даслаць данясенне, адзін з іх наматваў на свой прадмет палосу паперы, даўжыня і шырыня якой былі загадзя абумоўленыя. Пасля тэкст пісалі *ўздоўж* гэтага прадмета. Потым палосу разматвалі. На раскручанай стужцы нічога нельга было зразумець, бо словы, часткі слоў, нават літары былі цяпер у самых розных яе канцах. Той, хто атрымоўваў данясенне, накручваў яго на *свой* прадмет пад загадзя агавораным вуглом... і чытаў... Ганец не ведаў зместу. Выпадкова трапіўшы ў рукі ворага, ён нічога не мог выдаць. Усе, нават злосныя непрыяцелі, ведалі гэта, і рабілася такое не з недаверу да ганца, а проста каб чалавека не мучылі дарэмна.

Пакуль што ўсё сыходзілася. І змятасць. І рады, пісаныя «наўскос». І плямы клею, бо ім для зручнасці, каб не раскручвалася падчас пісання, замацоўвалі стужку. І нават тое, што некалькі літар было на адным баку, а ўсё астатняе на другім. Відаць, прадмет быў складанай формы і шыфравальшчык перакруціў палосу, каб яна зручней абвілася вакол нейкага вы-

ступу. Паспрабуйце, сапраўды, навіць вакол чагосьці непаслухмяны пергамент! Гэта вам не пакорлівая папера.

Усё сыходзілася, усё было, акрамя... акрамя таго, што я не меў і ніколі не мог мець — прадмета, на які тая стужка навівалася тры з паловай сотні год назад.

Адзін разумны нашчадак меў частку чагосьці важлівага, тое, што «скрылі карэнні». Але ён не ведаў, у руках якога другога разумнага нашчадка знаходзілася «медзь», тое, на што трэба матляць, не ведаў яе формы. А значыць, усе мае намаганні пайшлі «на псы».

...Чаму «на псы»? Думай, хлопец, думай! Справа, вядома, будзе дужа цяжкая, калі той «прадмет», скажам, меў форму двух конусаў, складзеных асновамі. Дужа цяжкай, але і тут магчыма. Ды толькі наўрад ці карысталіся яны прадметам такой складанай формы... Часцей за ўсё палоса пергаменту ці паперы матлялася на жазло пэўнай даўжыні... А што такое жазло?.. Гэта той самы кій... А што такое кій? Кій — гэта, калі вызначаць прыбліжана, той самы цыліндр, хай сабе складанай канфігурацыі, дзе таўсцейшы, а дзе і танейшы. Калі гэта так, то чаму не вырашыць задачу, якая здавалася нязмерна цяжкай мазгам звычайнага сярэдневяковага чалавека («наш, просты сярэдневяковы чалавек») і якую зараз можа вырашыць нават вучань дзевятага класа, калі ў яго, вядома, на плячах галава, а не кавун.

Я пішу ўздоўж прадмета. Палоса можа навівацца на гэты прадмет пад любым вуглом. Вугал між караной адлегласцю па нармалі (шырыня палосы), адцейшай нанесеныя да даўжыні радка ёсць косінус вугла намоткі.

...Змераў даўжыню радка пад вуглом. Яна — 58 міліметраў. А шырыня самой палосы — 49 міліметраў.

$$\frac{49}{58}=0{,}82$$

Ну вось, гэта пайшло ўжо крыху цікавей. Дзе гэта мая лагарыфмічная лінейка? Я ж не карыстаўся ёю з часоў раскопу ў Гарадзішчы і звязанай з гэтым гісторыі. Чорт пабірай, гэта мог дадумацца толькі бацька:

падсунуў яе пад насценны прайгравальнік, каб не драпаў фарбы.

Ну, 0,82 бяром у квадрат. Атрымоўваецца, што матлялі пад вуглом у 20°. На жаль, прадмет, здаецца, і сапраўды быў складанай канфігурацыі. Мяркуючы па змятасцях, крыху таўсцейшы на абодвух канцах і ўсярэдзіне. Але гэта нічога. Дзе вугал іншы — адпаведна і разлічым. Дый, нягледзячы на патаўшчэнні, шаг (вугал намоткі) будзе адзін, павінен быць адзін. Проста ў такіх месцах пергамент будзе заламвацца, заходзіць пад наступны віток або напаўзаць на яго, і, значыцца, вугал амаль не зменіцца, а проста застануцца на стужцы белыя, незапоўненыя літарамі месцы. Што мы й бачым у нашым выпадку.

Цяпер іншае. Цяпер больш складанае. Як вылічыць дыяметр рэчы, на якую трэба матаць усё гэта? Трэба знайсці хаця б адзін радок, які супадае. Скажам, напісана:




І тады разгарнуць стужку і змераць адлегласці паміж складамі, замерыць яе.

А гэта штука роўная $\pi D$.




Пашукаем такі радок. Ёсць такія радкі. Вось па сэнсу бадай такое: «етнас... цю моею... о маю то ма». «(Шт)., о маю, то ма... етнас... шо моею». Або — капь срла. Малайчына, што пералічваў, разумнік, што даў мне гэты ключ! Ты й не думаў, што даеш мне не вядомае табе $\pi D$. Ты не меў і зялёнага паняцця, што адсюль, D дыяметр рэчы, на якую ты матаў сваю таямніцу, роўны змеранай адлегласці між радкамі, што супадаюць. Роўнай гэтай адлегласці, падзеленай на 3,14. Галавастыя людзі твайго семнаццатага стагоддзя таксама ведалі гэта, але ведалі крыху іначай — як-то яны гэта ведалі? — ага, яны, наколькі мне памятаецца, ведалі гэта, прынамсі на Беларусі, як $\frac{22}{7}$. Што ж, і гэта хлеб, амаль тое самае з разыходжан-

нем у чацвёртым знаку. Але ты наўрад ці вадзіў знаёмства з галавастымі людзьмі. Галавастыя людзі, яны непакояць, таму вы іх не любіце, стараецеся не паважаць, і гэта галоўная ваша памылка ўва ўсе часы, шаноўныя панове-магнаты. Таямніца твая нават для галавастых тваёй эпохі ляжала на паверхні.

Вось яна, твая таямніца. Тваё «жазло» было дыяметрам у два сантыметры з двума-трыма міліметрамі. Дыяметр патаўшчэнняў па канцах даходзіў да чатырох сантыметраў, патаўшчэнне на сярэдзіне — да трох (што б то магло быць за рэч? Але гэтага я пэўна ніколі не даведаюся, дый малаважна!).

Усе гэтыя патаўшчэнні, вельмі шаноўны, практычна можна адкінуць. Вось так! Дарэмна задурваў сабе галаву.

...Я пайшоў на кухню і пачаў шукаць сярод свайго прычындалля нейкі прадмет дыяметрам у два сантыметры.

І знайшоў. Чапёлка, якой бяруць з агню патэльні, была акурат два сантыметры два міліметры дыяметрам, хоць кранцыркулем мерай.

Што ж, цяпер падрыхтуем тры-чатыры дакладныя копіі з паперы, каб пергамент застаўся непарушны, каб не падзерці яго, каб не пэцкаць клеем. Проста перавядзём праз капірку — і не алоўкам, а канцом запалкі — усе гэтыя літары. Гатова. Ну вось, а далей бяром, хлопец, цыліндр вылічанага дыяметра, чапёлку і, пад вылічаным вуглом, накручваем на яго паперу, чытаючы тэкст.

Я мучыўся з гэтым доўга. Прыклейваў і прымінаў тыя месцы, дзе былі белыя плямы, і зноў мераў вугал намоткі, і вёў-вёў далей, аж да пасінення.

Зроблена.

Я прыклеіў канец, пачакаў, пакуль клей падсохне, і пачаў чытаць уздоўж прадмета, нібы кукурузу грыз. Толькі што вачыма:



І далей:

Пры далейшым павароце цыліндра выявілася наступнае.

Тут яму не хапала месца, але, гледзячы па тым, што апошнія словы былі лаянкай «лайно (гной, памёт, адкіды), псіно»,— чалавек, які запісваў гэта, аж задыхаўся ад ярасці, аж гарэў ад жадання дадаць яшчэ нешта. І таму ён загарнуў палосу і напісаў на месцах, дзе было не запісана яшчэ некалькі слоў:

Калі запісаць па-чалавечы, то тэкст гэты гучаў так.

«Якъ латіне ракуть Finis ані судъ ані падсудакъ ані пaконъ не взыщуть і што маю, то матнасцю моею буде і што не володевъ, а падскарбі нажывъ. А шукаті ту кгмахъ кутні ложніца ключавая пуста. А друга от куту там глыбе контрафекту окрут $\hat{S}$ ступъ плінфай бо заклавъ бі клет ніжні ложа дубаснае ложніца камена і тымъ па жываце заволаныхъ ні дачакаціса за заворaю еда бог струбе

клетъ врхні павкапь зта капь срла каменію не мал сыкгн скоец ман універсалы грам якмсці а кустодъ кальваріе зрецелна а невісно бо Z i N пад камараю овай.

Пачынь кмотръ а кмотра жона лайно псіно з вопю і людожртм до сурм ала агела агні довеку АМАНЪ».

Нельга было сказаць, каб і гэта было так ужо зразумела. Але тут хаця можна было скласці слоўнічак і падставіць пад незразумелыя словы сучасны сэнс. І я пачаў лазіць па ўсіх выпісках, па ўсіх сваіх картатэках, па слоўнічках у «Гісторыі кнігі», у Карскага, у іншых кнігах.

*Пакон* — закон. *Кгмах* — гмах. *Ложніца* — спальня. *Контрафект* — малюнак, вобраз. *Окрут* — карабель. *Плінфа* — старажытная вельмі пляскатая цэгла. *Дубасны* — з яловай кары. *Заваланых* — закліканых. *Завора* — завала, засаўка. *Еда* — мабыць, *егда* — хіба, няўжо, інакш. *Павкапь, капь* — два і чатыры пуды. *Скоецъ* — манета. *Кустод* — вартаўнік. *Невісно, нявісны* — гэта архаічнае сляпы, невідушчы. Значыць, і тут нешта «слепа», «нябачна», а можа, і проста «не знойдзеш». *Кмотр* — кум. *Лайно* — ну, гэта слова з лексікона Зізанія і азначае нечыстоты, адкіды, гной, памёт. *Калваріе* — месца кары, лобнае месца, галгофа, могільнік (ад лацінскага calva — чэрап).

А што такое *людожртм*? Мабыць, «людажэрствам». Хітрыў, зараза, цітлы не ў належных словах ставіў, не там, дзе трэба.

Падставім цяпер тое, што зразумела. Перакладзем.

«Як лаціняне кажуць: Finis (канец)! Ані суд, ані падсудак (чыноўнік, або пісар земскага павятовага суда), ані закон не ўзышчуць, і што маю, то маетнасцю (маёмасцю) маёю будзе, і (тое), што не валадзеў, а падскарбім (дзяржаўным казначэем) нажыў.

А шукаць тут гмах кутні, спальня ключавая, пустая. А трэцяя, ад куту, там, глыбей малюнка карабля, восем ступ цэглаю, бо заклаў (абы?) клець (паверх ніжні), ложа з яловай кары, спальня каменная, і тым пасля жыцця закліканых за завалаю не дачакацца, хіба (што) бог устр(у)бе (уструбіць). Паверх верхні — паўкаць золата, каць срэбра, каменння не (об)мал(ь) (нямала), сыкгнеты, макеты (ускрыты?), універсалы я(го) к(аралеўскае) м(о)сці,

а вартаўнік лобнага месца відаць, а не знойдзеш, бо Z і N (?) пад хамараю (?) гэтай.

Спачні, кум і кумава жонка, гной сабачы, з ляман- там і людажэрствам да сурмаў анёла (і ў) д'яблавым агні давеку».

Такі прыблізна быў сэнс гэтага страшнаватага ў чымсьці дакумента. Але што такое «хамара» і што та- кое «Z і N»?

Хамара. Слова гучала не па-славянску, хаця і нагадвала наша «камора». Падобна на старажытнаяў- рэйскае? Ці арабскае? Ці грэчаскае? Але ў першых дзвюх мовах я разбіраўся, як... А трэцюю ледзь ведаў. І, аднак, палез у слоўнік. І, дурням шанцуе, знайшоў:

Што азначае «скляпенне». Χαβαρα

Але што такое Z і N? Што гэта мне нагадвае? Хімічную формулу? Але адкуль у тыя часы хімія і яе формулы? Алхімія — гэта так. То што гэта, што?.. Алхімія... Алхімічны знак?

Я пачаў пакутліва ўспамінаць усё, яшчэ не забы- тае мною, з тых часоў, калі вывучаў вядзьмарскія працэсы, алхімічныя знакі. ☉ — золата або сонца. А як беларускі алхімік абазначаў рэторту? Ага, б. А спірытус?.. ⊖ Т-так... ♅ — нягашаная вапна.

Што ж такое Z і N?

І тут раптам нібы ўсплыло нешта з самага дна памяці. Ну так, так. Z і N — знак замазвання. Знак, які ставілі, калі нейкае рэчыва замазвалі на ⌣○⌣, на гадавы або і большы тэрмін.

І, значыць, сказ гэты трэба было чытаць прыбліз- на так:

*«...вартаўнік лобнага месца. Відаць, а не знойдзеш, бо замазана пад скляпеннем гэтым».*

Сэнс быў малазразумелы — аўтар пагарджаў уся- кай граматыкай, нават склонамі, але ад гэтага не

менш страшны. А можна было, інакш расставіўшы знакі прыпынку, зразумець усё гэта і так:

*«Лобнае месца відочнае, а не знойдзеш, бо замазана пад скляпеннем гэтым».*

Але нават пры такім, усё яшчэ цьмяным, хаця і больш зразумелым, прачытанні было ў гэтым запісе нешта трывожнае, нешта страшэнна змрочнае, падступна-вытанчанае і гнюснае. Я скураю адчуваў гэта. І ведаў, што цяпер я не кіну гэтай загадкі, які ні быў бы адказ.

Загадкі, схаванай пад нейкім невядомым скляпеннем. Загадку, якую я *павінен* быў вырашыць у памяць майго сябра, была яна прычынай яго смерці або не была.

## Раздзел VIII

### *Зноў гасне неба*

Я адарваўся ад папер. Вочы гарэлі, быццам засыпаныя пяском, ва ўсім целе была млявасць, нібы нехта добра адмалаціў мяне валікам ад канапы.

Калі я адхінуў шторы, за акном пачынала днець. Вельмі павольна, каламутна і непрытульна. Значыць, я працаваў цэлую ноч. Нездарма так страшэнна балела галава. Так балела, што цяпер я не здатны быў бы ўспомніць табліцу множання на пяць.

Я ненавіджу лекі, прымаў іх, не лічачы тых разоў, што сур'ёзна хварэў, усяго разоў пяць за жыццё (гэта таксама адзін з маіх дурацкіх комплексаў), але тут я не вытрымаў. Праглынуў таблетку папаверыну, паляжаў хвілін пятнаццаць, і калі боль прытупіўся, толькі тады выкінуў дзве попельніцы недакуркаў, адчыніў усе вокны, умыўся халоднай вадой, узрэзаў пачак цыгарэт, закурыў і стаў думаць, што ж мне рабіць з таямніцай, якая дасталася мне ў рукі.

У гэты момант пачуўся стук у сценку: іх вялікасць Хілінскі, мабыць, жадалі папіць са мною чайку. Таксама з комплексамі. Ці, можа, толькі з'явіліся? Вось і добра, будзе з кім параіцца. Няма мне цяпер, Мар'яне, з кім раіцца. Зусім няма, браце.

Даўшы сабакам есці, я пайшоў да суседа.

Як на такую раннюю гадзіну, то хата была ідэальна прыбраная.

— Не клаліся яшчэ?
— Гм, а чаго б гэта я павінен быў класціся?
— Праца нейкая была?
— Як заўсёды. Ну што, стары, прапусцім па чарчыне ды ў шахмацішкі?
— Каньяк? У такую рань?
— А ты што, хочаш, каб я ў дзве гадзіны ночы пачынаў? І, скажам, з дэнатурату і піва?
— Аднак у дзевяць гадзін... неяк яно... Унь нават амерыканцы лічаць, што раней пяці нязручна. Адзін там нават бізнес зрабіў: выпусціў для бізнесменаў партыю гадзіннікаў, дзе ўсе лічбы — пяцёркі. Бо раней пяці — нязручна.
— Пяці раніцы? — спытаў Хілінскі.
— Ну, ведаеш,— абурыўся я.
— Чалавеча,— з раптоўнай сур'ёзнасцю сказаў Хілінскі,— ты ўвогуле маеш уяўленне, дзе ты і калі ты?
— Шаснаццатага красавіка. Пан Хілінскі прапануе мне каньяк у дзевяць гадзін раніцы і шкадуе, што не прапанаваў мне гэтай работы, абудзіўшы ў пяць гадзін. Столькі часу згубілі! Зараз былі б ужо гатовенькія.
— Дзевяць гадзін *вечара* шаснаццатага красавіка.
За акном, сапраўды, не днела, а цямнела.
— Чорт,—сказаў я.— Няўжо гэта я... суткі?.. То ж бо галава трашчала.
— Шахмацішкі адмяняюцца,— глуха сказаў Хілінскі, наліваючы чаркі.— Ну што такое здарылася? Раскажы, калі ёсць ахвота, як гэта ты дня не заўважыў?
Я расказаў. Ён сядзеў, грэў келіх далонню і цяжкавата думаў.
— Ну й фантазёр,— урэшце няпэўна выціснуў ён.
— Чаму фантазёр?
— Ды неяк яно... гм... дэтэктыўна занадта... І спрэчна... хаця і цікава.... Тут табе здарэнне, тут табе, нібы з чароўнай скрынкі, шыфр... Тут табе, як на заказ, галава, якая за суткі гэткую работу зрабіла. Не па спецыяльнасці працуеш.
— Захапіўся.
— А малайчына, чорт пабірай! Дэшыфроўшчыкам бы ў штаб. А то часам месяцамі б'юцца. Што зараз думаеш рабіць?

— Буду шукаць месца.

— Дзе яго адшукаеш? Хіба ўжо ўсю краіну перакапаць.

— Паеду ў Альшаны. Кніга знойдзена там. Кніга належала Альшанскім, што можна меркаваць па ініцыялах і па супадзенню гістарычных падзей і шыфроўкі...

— Ну, займайся, займайся...

Я быў крыху пакрыўджаны гэтай абыякавасцю.

— А вы хіба не зацікавіліся?

— Ды што ж, хлопец... Не наша гэта кампетэнцыя. Не мая і не Шчукі.

— Як гэта? А калі, сапраўды, Пташынскі не захлынуўся, а забіты, бо нехта баяўся, што ён стаіць на шляху адкрыцця чагосьці?

— А вы ўпэўнены, што ён забіты?

— Так,— пасля паўзы сказаў я.

— Але ж і экспертыза, і следства, і ўсё супраць гэтага.

— Я ўпэўнены,— сказаў я.— Насуперак экспертызе, следству, чорту, насуперак усяму. Нешта ва ўсім гэтым жудаснае. Я прадчуваю гэта. Падсвядома.

— Прадчуваць — ваша асабістая справа,— сказаў Хілінскі.— Вы — асоба прыватная і можаце сабе дазволіць гэтую раскошу. А вось калі пачынае «падсвядома прадчуваць» правасуддзе, юстыцыя, сама дзяржава... тады...

Ён нервова лыкнуў каньяку.

— Тады пачынаецца — бывалі ўжо такія выпадкі — паляванне на ведзьмаў, макарцізм, татуля Дзюдалье, ды ці мала яшчэ што. І пасля ўсім даводзіцца доўга, дзесяцігоддзямі плаціць за гэта, разлічвацца. Нават невінаватым. Занадта гэта дарага абыходзіцца, я веру. Цяжка, пакутліва. І ўвогуле, справядліва веру.

Хілінскі дапіў келіх.

— Слухайце, хлопча, не крыўдуйце на мяне, але гэта так. Вы ўражаны смерцю друга, вы не верыце, што ён мог вось так, сам, пайсці ад нас. Вы шукаеце помсты, каб стала крыху лягчэй. Але тут нішто не гаворыць на карысць помсты. Нават званкі, тлумачэнне якім ёсць. Нехта шукаў у кватэры. Нехта ўсыпіў сабак. Але гэта маглі быць звычайныя барыгі, якія падсачылі ад'езд вашага сябра і скарысталіся з яго.

— Яны шукалі кнігу.

— Магчыма. Але нават калі гэта так, нават калі яны цьмяна ведалі пра адкрытую вамі таямніцу, нават калі яны і вы сутыкнуліся на адным шляху да яе — гэта не мае адносін да смерці Пташынскага. Гэта выпадак, супадзенне. Паверце, экспертыза была дужа старанная. Аб гэтым паклапаціліся, верце мне. У яго было страшэнна хворае сэрца. Ён мог пражыць яшчэ гады, а мог і памерці кожны дзень. І таму Шчука, мабыць, будзе далей весці следства па справе ўзлому, але нікому з іх няма справы да таго, што сёння адкрылі вы.

Закурыў.

— Ну як вам растлумачыць. Ну вось ёсць звесткі, што ў Кладна недзе схаваны архіў айнзацштаба. Ведаеце, што гэта такое?

— Ведаю. Ведамства Розенберга. Рабунак каштоўнасцей.

— Правільна. Закапаў нехта Франц Керн з іншымі. Вось гэта справа людзей, якіх я калісь добра ведаў. А падзеі амаль чатырохсотгадовай даўнасці — гэта справа не наша. Ты б яшчэ папрасіў расследавання справы забойства Напалеона.

— І папрасіў бы. Рабілі ж аналіз ягоных валасоў на мыш'як. У сучаснай следчай лабараторыі. Выявілі: быў атручаны.

— Ну гэтую паслугу і я табе магу зрабіць. Што табе трэба?

— Зрабіць аналіз чарніла. Прагледзець кнігу ў інфрачырвоных праменнях. Ну і іншае там. Поўны агляд.

— Гэта — чаму не зраблю. Па-сяброўску. Чаму не памагчы? Дый увогуле цікава. А астатняе — ты адкрыў, ты і рабі. Памятаеш, як ты справу Дастаеўскай-Карловіч аднаўляў ды разблытваў? Толькі для цікавасці мне расказваў. І тут тое ж. Ну, лагічна, калі хочаш, будзем абдумваць разам. Гімнастыка для мазгоў. Ну, хіба юрыдычную параду Шчука можа даць, дый то. Ты пра юрыспрудэнцыю таго часу больш ведаеш. Права страшэнна змяняецца. І разблытвай сам. То і тут плавай сам. Не шукай дапамогі. Тут дай бог Шчуку са сваімі дакументамі ды знаходкамі справіцца.

Падліў мне:

— Цікавая для цябе штука. Проста «востраў скарбаў». А як наконт тых кропак? Ну, 9с, 20в... Няўжо і вылічальная машына тут нічога не зрабіла б?

— А што яна зробіць? Прасцейшы прыклад — «Вова-дурань» І н, І д і г. д. Перабрала варыянты і выдала, дый чамусьці па-руску: «На дурь, Вова». Я не магу іх, варыянты, перабраць, ну і ў яе такая самая логіка. Ды ў чалавека і ўвогуле гэты працэс лепшы, толькі што ідзе больш павольна.

— Мала суцяшае,— сказаў Хілінскі.

— Яна выдасць усе варыянты, што маюць хаця нейкі сэнс, сотні тысяч, але выбар зрабіць не здолее. У яе фармальная логіка. Таму чалавек загадзя і адмаўляецца ад такіх задач.

— Ясна,— сказаў Хілінскі,— значыць, свядомае прызнанне разумовага банкруцтва. Неперsaможнасці зведаць.

— Глупства,— сказаў я.— Адмаўленне загадзя — не сведчанне бяссілля чалавечай логікі. Чалавек можа зрабіць правільную выснову на падставе далёка няпоўнай інфармацыі. І можа загадзя прадбачыць, што *ніякая* інфармацыя не дасць магчымасці зрабіць вывад. І гэтае адмаўленне *загадзя* ад невырашальнай задачы не сведчанне бяссілля, а сведчанне ўсемагутнай сілы чалавечай логікі.

— Што ж, біце на ўсемагутнасць. Прызнацца, крыху зайздрошчу.

— Ну вось,— сказаў я.— Зараз пайду высыпацца.

— «Разбуди, когда раскинет ветви по-весеннему наш старый сад»,— змрочна сказаў ён.

За акном была абрыдлівая красавіцкая слата.

...Я адчыніў дзверы і адразу адчуў, што ў маёй кватэры нехта ёсць. Скінуў туфлі і прайшоў у кабінет. Так і ёсць: саладкаваты цыгарэтны пах.

На канапе, падкурчыўшы пад сябе прыгожыя ногі, сядзела і грэла рукамі ступні жанчына.

— Зоя?

— Ну так, ты не чакаў?

— Даўно?

— Бачыш, толькі зайшла. Ногі пакалелі.

Я прынёс з кладоўкі халат і накінуў ёй на ногі.

— Дзякуй. Я столькі хадзіла па гэтай слаце. Столькі хадзіла.

Дзіўны быў у яе выгляд. Нібы накапала ў вочы

беладоны. Зрэнкі вялізныя-вялізныя, спыненыя. Вусны белыя, нібы яна падціснула іх. Я спачатку быў спалохаўся.

— Што з табою?

— Нічога. Ты хочаш спытаць, нашто я тут? Ды бачыш, прыпаўзла. Знаеш, як не дужа разумныя сабакі. Разумныя ідуць па апошняе ў лес. Я толькі каб аддаць табе ключ. Унь ён, на століку.

— А я пра яго і забыўся,— шчыра сказаў я.— З'есці чаго хочаш? Выпіць?

— Не трэба нічога.

Яна змоўкла.

— Слухай,— сказаў я,— казаў жа я табе, кінем гэта. Заставайся — і ўсё. Толькі шчыра — чуеш? — шчыра ўсё скажам яму.

— Ды не,— амаль бязгучна сказала яна.— Права не маем. Права не маю. Падман. Нінавошта я болей не маю права. Не маю.

— Перастань ты сябе катаваць,— кінуў я.— Ну здарылася, ну лухта. Кончым з гэтым, і ўсё.

— Не лухта,— сказала яна.— Я і прыйшла, каб скончыць. Болей не прыйду. Пагляджу вось толькі і... Нічога, ты хутка забудзеш, што здарылася. І ты мяне жорстка не судзі.

— Ды я й не думаю,— усміхнуўся я.— Ну давай вып'ем крыху «нямешанага кадара».

— Давай,— усміхнулася яна вільготнымі вачыма.— Толькі давай будзем тут. Нікуды не пойдзем.

Я расчысціў стол ад слядоў начной працы і паставіў на яго што меў.

— Ты што збіраешся рабіць у наступныя дні?

— Пакуль нічога. Дні праз тры з'еду.

— Куды?

— У Альшаны па справе. Гэта пад Кладна. Вёска.

— Надоўга?

— Тыдні тры, можа, месяц.

— Ну вось, значыць, бывай. Можа здарыцца і так, што сустрэнемся. Выпадкова. Хто ведае, што яно і як.

— Слухай, Зоя. Я яшчэ раз табе кажу...

— Не кажы глупства. Не паўтарай гэтага. Сам ведаеш, слабасць жаночая. Але толькі не са мной. Я вырашыла ўжо.

— Не буду. Хаця мне кепска. Але, магчыма, я і пераканаю цябе.

— Паглядзім. Паглядзім.

Дзіўныя, дзіўныя вочы.

— А што ты гэтыя дні рабіў?

— Ды тут галаваломку адну старажытную рашаў.

— І вырашыў?

— Не дужа. Не да канца.

— Ну, памагай табе бог. Хай шчасціць. Ты ж глядзі вазьмі цёплыя шкарпэткі. Некалькі. У вёсцы слата. Блакнотаў пару. Цыгарэт. Кавы растваральнай, бо там не дастанеш. І ручак пару зарадзі. І плёнак вазьмі для апарата. І нож. І брытву.

Нешта знарочыстае і няпэўнае было ў гэтай клапатлівасці. Так, пэўна, жонка выпраўляе ў дарогу мужа, здрадзіўшы яму або ведаючы, што неадменна здрадзіць, што вышэйшы, непахісны лёс няўхільна вядзе яе да гэтага.

— Усё вазьму,— сказаў я.— У мяне спіс. Я — вопытны на камандзіроўкі. І ўвогуле... метадычны стары кавалер.

— Не трэба табе больш заставацца ім. Чуеш, прашу цябе. Кепска гэта канчаецца.

— Ну так,— няўдала пажартаваў я.— Хто жэніцца — у таго жыццё сабачае, затое смерць чалавечая, а хто не — у таго сабачая смерць, але затое чалавечае жыццё.

— Пры цяперашніх сваяцкіх пачуццях і смерць не заўсёды бывае чалавечая,— падхапіла яна.

— Ды што з табою?

— Плачу,— сказала яна.— І над сабою. І над табою. І над усімі.

І раптам злавіла ў паветры выключальнік бра, націснула яго.

— Хадзі да мяне,— голас быў хрыплаваты і адчайдушны.— Апошняя наша з табой... часіна... Даруй мне.

У тоне гэтым было нешта такое, што нельга, немагчыма было сказаць «не».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз гадзіну я праводзіў яе. І колькі я ні казаў, каб яна заставалася, колькі ні ўмаўляў, колькі ні казаў, што заўтра сам пайду гаварыць з яе мужам, яна, бледная, толькі адмоўна круціла галавой.

— Не праводзь мяне. Ну вось, я не хацела, каб не

было гэтага вечара, каб не было ўспамінаў. Я пайду. Я страшэнна, страшэнна стамілася.

Мы стаялі ў пад'ездзе, і, калі ў яго зайшоў Хілінскі, распячатваючы пачак цыгарэт, яна нават і на імгненне не адарвалася ад мяне. Стаяла, уся дрыжучы.

Хілінскі, праходзячы паўз нас, зрабіў незнаёмы твар. А яна, не паспеў ён узняцца і на адзін марш, прыпала да маіх вуснаў.

— Памятай... Даруй... Не памінай мяне, калі ласка, ліхам. Бывай.

Адарвалася ад мяне і выскачыла ў дзверы, пад дождж, які шалёна палівае увесь вялізны горад, усе яго мокрыя бліскучыя дахі і чорныя голыя дрэвы.

...Хілінскі ўсё яшчэ поркаўся з ключом, і я спыніўся ля яго закурыць.

— Засмучаная,— раптам сказаў ён.— Гаротна засмучаная.

— Вам дзіўна? — суха сказаў я.

— Крыху,— сказаў ён.— Не мая гэта справа, але я, Антоне, думаю, што ведаю людзей. І... нешта не належыць яна да тыпу чуллівых. Ту-уга ведае, што, як і нашто. Нават калі панчохі купляе, нават калі ў першы раз аддае пацалунак. Ну, аднак, гэта больш годна, чым нейкая цызя, што пеўня ад курэй ганяе за «задзірлівасць»... Але засмучаная. Пэўна, нешта сур'ёзнае здарылася.

— Гэта мая былая сяброўка,— буркнуў я.

— Ухваляю.

— Што былая?

— Не, што сяброўка.

— Мае паводзіны людзі калісьці назвалі б заганнымі — «предосудительными»,— горка сказаў я.

Я не стаў тлумачыць чаму, але ён, відаць, зразумеў.

— Сабе ты гэта даруеш? Можаш гэта сабе дараваць? То нашто асуджаць за тое самае іншых? І хто мае права асуджаць?

Размова рабілася страшэнна непрыемнай. Мы абодва адчувалі сябе няёмка. Ён, бо атрымалася так, што ён утруціўся ў справу, якая яго не датычылася. Я, бо, шукаючы чалавечага голасу, ценю спагады ў ім, непатрэбна распусціў язык. Божым дарункам было ў гэты час з'яўленне свежага чалавека, ды яшчэ з

такімі прадметамі ў руках, што ва ўсякага палезлі б на лоб вочы.

Па сходах падымаўся Ксаверы-Інэзілья Калаўр Лыганоўскі з медным абліччам. Бязлітасныя ягоныя вочы глядзелі паўзверх круглага шчыта, і ўзброены ён быў дзідай са здаравенным бронзавым наканечнікам.

— Гатова,— ціха сказаў я,— дастукаўся з пацыентамі. Ну, прынамсі, не Напалеон. Свежая манія.

— І ён убачыў на сцяне злавесны, чорны прывід дзеда-мароза,— сказаў Лыганоўскі, крыху прысаромлена ўсміхнуўся і дадаў: — Вось мастаку нясу. Масайскія дзіда і шчыт. Аксесуары для малюнка. Намалюе і за гэта абяцаў парапараваць.

— А я думаў, што ўрэшце з'явілася новая манія, што гэта вы ўваходзіце ў ролю Чомбэ,— сказаў я.

— Ну што вы! Не так ужо кепска ідуць мае справы. І не так я нізка паў.

— Адкуль гэта ў вас? — спытаў Хілінскі.

— А вы б зайшлі неяк да мяне.

— Не так ужо кепска ідуць мае справы,— іранічна паўтарыў ягоныя словы Хілінскі.

— Здагадваюся, паколькі вы яшчэ тут, а не ў маім дэпартаменце. А вы зайдзіце проста паглядзець,— сказаў псіхіятр.

— Цікава,— сказаў я.— Проста хоць у музей.

— А ў мяне і ёсць... амаль музей. Яно і пойдзе калісь у музей.

Бронза наканечніка была ўкрыта такім тонкім карбаваннем, што я зачараваўся.

— Праўда, адкуль такое дзіва?

— Я, мой даражэнькі, медыцыну ў Празе штудзіраваў.

— То там, што, усе людзі нават на Карлавым мосце з такімі рэчамі ходзяць? — спытаў Адам.

— І нават праз увесь горад, аж да самых Высачан. Калі спозняцца на апошні трамвай. Каб бараніцца ў выпадку чаго. Ад начных гіен.

Закурыў з намі. Ужо сур'ёзна сказаў:

— Чэхі тады стыпендыю давалі... прыгнечаным. Украінцам, лужычанам, нам. Але работу на радзіме знайсці было нельга... Ну і рассеяліся. Дзе я ні працаваў! І ў Індыі на эпідэміі халеры, і ў Нігерыі на соннай хваробе, і чорт яшчэ ведае дзе. Даводзілася

быць майстрам на ўсе рукі. І што зробіш? Чалавек, калі паміpae, ведае толькі слова «лекар», і пляваць яму на такія паняцці, як «фтызіёлаг» ці «псіхіятр». Урэшце, пры многіх хваробах цікавейшыя адхіленні ў псіхіцы. І мы дужа кепска ведаем іх, вельмі мала займаліся імі.

— І колькі ж год вы нюхалі тую экзотыку? — спытаў я.

— Хапіла. Год дзесяць. Вярнуўся ў трыццаць восьмым годзе.

Згасіў цыгарэту.

— Вось вы і зайдзіце неяк. Не ў якасці пацыентаў, а паглядзець. Пацыентамі лепей не трэба.

— Самыя слушныя словы, якія я калі-небудзь чуў,— сказаў Хілінскі.

Мы зарагаталі. Доктар палез далей, трымаючы дзіду наперавес.

— Апошні аплот белых каланізатараў і гіен імперыялізму паў на сыходзе гэтага дня,— буркнуў Хілінскі.— Маладая Афрыка расправіла крылы насустрач цяжкай, але аптымістычнай вясне.

— Вы іх там толькі не...— сказаў я.— Не «ньямньям» ці як гэта?

— Два дні як перастаў ньям-ньям,— адказаў зверху Лыганоўскі.— А будзеце здзекавацца з прагрэсіўных з'яў, Косміч, я спушчу гэты шчыт вам на галаву.

Мы пасмяяліся і разышліся па кватэрах.

Настрой мой ва ўсе наступныя дні быў абрыдлівы. Я ўладжваў свае справы, але нават яны не маглі прымусіць мяне забыцца.

Дабіўся дазволу на абследаванне замка ў Альшанах, атрымаў ад інстытута ліст аб тым, хто я такі і што райвыканком просяць спрыяць мне ў абследаванні касцёлаў, цэркваў і старых будынін.

Пакаваў пакрысе рэчы. І ўсё не мог і не мог забыць таго апошняга вечара.

Трэба было яшчэ адвезці сабак да бацькі і купіць тое, чаго цяжка дастаць на вёсцы. І я загадзя дамовіўся наконт расчыннай кавы з прадаўшчыцай, маёй «блатмайстрыняй», і дамовіўся з Пахольчыкам наконт дзесяці блокаў «БТ» і каменьчыкаў для запальнічкі, і купіў, па Зоінай парадзе, блакнотаў і шкарпэтак і сёе-тое для «аптэчкі».

І ўсё ўжо было гатова, нават бутэлечка вечнага

чарніла ў поліэтыленавым мяшэчку і кніга 1908 года выдання «Альшаны» (Княства, староства і павет Альшанскі, у іхнім гістарычным быцці). І я купіў яшчэ пятнаццаць «шэсцьдзесят пятак» і тры каляровых «ДС» і дастаў у знаёмага фатографа дзесяць шырокіх «орвакалёраў», а ў знаёмага прадаўца дзесяць «орвакалёраў вузкіх». І дастаў добрага чаю і адрамантаваў свой «Харків». І навастрыў свой нож, і купіў пластыра, каб заклейваць футляры для касет, і... Словам, працы мне хапіла, і я пастараўся зрабіць запасы, каб не псаваць камерцыі сталічным прадаўцам.

Але раней трэба было яшчэ раз схадзіць на Мар'яну кватэру (перадачу рэчаў у музей дазволілі адкласці да майго вяртання з Альшан). Я не хацеў ісці туды без сведкаў, а галоўнае таму, што гэта было б занадта цяжка — ісці туды аднаму. Таму я зайшоў да Хілінскага, і «Абель з Бобкін-стрыт» згадзіўся раздзяліць са мной кампанію. Праўдзівей, з ахвотаю перарваў сваё сённяшняе «dolce far niente»[1].

На вуліцы дзяўчаты часта ўсё яшчэ азіраліся на яго: высокі, але не такі бамбіза, як я, «трохкутны», плячысты, але амаль зусім без клубоў. І я шкадаваў, што такі цудоўны ўзор роду чалавечага прападае, але й да глыбіні душы шкадаваў яго і разумеў. Урэшце, ён не варты быў шкадавання. Хутчэй, здзіўлення і павагі.

Сэрца маё зноў балюча сціснулася перад дзвярыма, калі я падумаў, што не пачую я сабачага брэху, не адчыніць мне дзверы мой друг. І ў кватэры тхнула нежылым, застаялым паветрам. Я адкрыў фортку, узяў сабе некалькі яго ўлюбёных кніг, невялікую мадэль карабля (ніхто ўжо, акрамя мяне, не ведаў, як ён усё жыццё марыў аб моры, але быў лагер, была да і пасля вайна, было сапсутае сэрца), зняў са сцяны адну гравюру з добрых, але не музейных і падарыў яе Адаму:

— Ну вось і ўсё.

І тут я заўважыў на століку ля фатэля кнігу. Я ведаў, тут заўсёды ляжалі апошнія кнігі, якія ён чытаў, і я захацеў паглядзець, што гэта было, апошняе.

[1] Салодкае няробства.

Гэта была «Кніга джунгляў». Я вырашыў узяць і яе, і тут з кнігі выпаў маленькі лісцік паперы. Ляжаў, відаць, як закладка, а агляд памяшкання, вядома ж, быў павярхоўны.

*Марцян. Збірайся, бяры для выгляду вуды і неадкладна выязджай на Романь. Калі затрымаюся крыху — павудзь гадзінку-паўтары. Вельмі трэба.*

Я падаў запіску Хілінскаму.

— Гэта што?

— Нічога. Мой почырк. І папера мая.

— І што ж атрымоўваецца?

— Атрымоўваецца, што забіў я.

Усё ўва мне нібы скамянела. Адам уважліва агледзеў мяне.

— Вось што, хлопча, давай ты мне гэтую пісульку, а я адвязу яе Шчуку... Досыць таго, што ты на ёй адбіткі пальцаў зрабіў.

Ён узяў паперку чыстым аркушам паперы.

— І кніжку тваю заўтра давай Шчуку. Сапраўды, нешта тут не тое. А з тваёй палоскі зрабі копію.

— Зрабіў.

— А палосу схавай. Ну вось. Вазьмі яшчэ й гравюру і каці дахаты. Я — туды. Едзь. А то на табе бог твару паменшаў.

...На сходах чамусьці не гарэла святло. Я быў ужо на два маршы ніжэй сваёй хаты, калі пачуў нейкі дзіўны гук. Нешта мяне насцеражыла, і я застыў. Рыпенне паўтарылася. Я быў ужо на адзін марш ніжэй сваёй пляцоўкі, калі зноў пачуў ціхі рэзкі скрогат і заўважыў у цемры невыразны сілуэт, цьмяны чалавечы цень. Нехта ўзломваў замок маёй хаты. І тады я на дыбачках стаў падымацца. Скрыгат. Яшчэ скрыгат. Я быў ужо амаль на месцы, калі той, відаць, нешта адчуў. Раздаўся ляскат, нібы нехта выдзіраў ключ, а пасля цень мітуснуўся паўз мяне, штурхануў

плечуком — кнігі ўпалі — і кінуўся ўніз па сходах. Некалькі імгненняў я стаяў ашаломлены, а пасля рвануў за ім, што, уважаючы на цемру, было нялёгка.

Яшчэ зверху я ўбачыў, што дзверы на вуліцу зачынены, і пусціўся да выхаду на двор. На двары сядзелі на лавачцы дворнік Кухарчык і малодшы лейтэнант Росцік Грыбок, які вымахаў на здаравенную грыбіну, і пакурвалі, нягледзячы на прахалоду.

— Ніхто не прабягаў?

— Ніхто, Антоне Глебавіч,— адказаў Грыбок.

— Таварыш Космiч,— завёў быў дворнік.— А вось што вы думаеце...

Я махнуў рукой і пусціўся да дзвярэй у сутарэнне. Яны былі прыадчынены, таму што агеньчык запальнічкі закалыхаўся. Але яны заўсёды былі прыадчынены: ніхто ў нас там нічога не хаваў. І на іх варушылася леташняе яшчэ павуцінне. А на парозе быў пыл. «Цьху! Не мог жа ён улятучыцца?»

Свецячы запалкамі, я ўбачыў, што коркі крыху адкручаныя, і ўкруціў іх. Пасля выйшаў на двор і спытаў у курыльшчыкаў:

— Даўно вы тут разам?

— Пару хвілін,— сказаў Кухарчык.— А вось як, скажыце вы мне, грыфель у аловак засоўваюць. Колькі ўжо думаю.

— Склейваюць вакол яго дзве палавінкі,— сказаў я, махнуў рукой і паплёўся наверх.

Тут мне прыйшла ў галаву яшчэ думка, што ён мог заскочыць у пакой дзяўчат, і хаця я падумаў, што ад віску тут бы й дом рухнуў, пазваніў і зайшоў.

Звычайны, па-студэнцку, па-дзявочы абстаўлены пакой, толькі што з парай афіш, на якіх гэтыя прыгажуні былі адзначаны самым дробным шрыфтам.

На крэслах (ложкі былі бялюткія) сядзела трох гожанькіх дзяўчат і стаяў... малады чалавек, на гэты раз без вядра. Ён быў моцна ў куражы і злёгку пахістваўся. А тыя падхіхіквалі як ні ў чым не было.

— Дзяўчаты мае, сонца майго жыцця! Вы, мае нефертушачкі...

— Колькі ён тут?

— З паўгадзіны,— віскнула гожая брунетачка з хітранькай усмешкай.— Насмяяліся.

— Ганіце яго ў шыю,— махнуў я рукой.

І палез да сябе наверх, і толькі ля самых сваіх дзвярэй мяне як стукнула, і я пачаў зноў спускацца.

І ў гэты час ляснулі парадныя дзверы. Я кінуўся да іх, расчыніў, але па вуліцы вяртаўся з кіно народ, і чорт яго на ёй было каго заўважыць.

Дзверы ў сутарэнне: павуціння няма.

«Ёлуп з дэдуктыўным мысленнем! Павуціння яму! Пад ім можна прапаўзці, не зачапіўшы парога. І няўжо ты думаеш, што той не абмысліў слядоў адступлення? Ідыёт! Перачніца старая! Ясна, што калі палез бы, то атрымаў бы, пэўна, па чэрапе. І добра. Па такім чэрапе толькі й атрымоўваць».

Але на гэтым вечар не скончыўся. Ледзь я паспеў запаліць святло і ляснуцца на тахту, зазваніў тэлефон. У мяне заўсёды прадчуванне, калі тэлефон — дрэнна. Я не хацеў падымаць трубкі, але той аж разрываўся. Давялося зняць, і тут я пачуў здалёк роспачны лямант Косціка Красоўскага:

— Антон! А-антон!

— Я. Што такое?

— Антон!!! Божа! Божа!

— Ды што з табою?

— Зо... Зо... Зо...

Тут я зразумеў: не толькі нешта не да ладу. Здарылася нешта непапраўнае.

— Кастусь, супакойся.

— К... К...

— Ну што? Што?

— Зоя... памерла.

— Як? — па-дурному спытаў я, яшчэ нічога не разумеючы.

— К... к... калій цыян. І запіска: «Я прадала свайго сапраўднага,— ён зрабіў націск на гэтым слове,— мужа. Не вініце нікога, акрамя мяне».

— Я еду! Еду!

— Н... не... Я еду... Туды,— рыданні былі такія, якія мне рэдка даводзілася чуць.

І ён паклаў трубку. І тут на мяне абурылася ўсё. І, галоўнае, я не ведаў — чаму? Што здарылася ў два апошнія прыходы? Нічога. Усё тое ж, і нават рукапісы на стале, і ўсё на сваім, упарадкаваным, месцы: чыстая папера — справа, спісаная — злева, попельніца — тут, цыгарэты — тут. Свет перавярнуўся, але толькі для мяне. І тая самая пахмурая

красавіцкая ноч за акном, і зноў, здаецца, сячэ вокны дождж. Ну так, расставаліся.

Але ж гэта было вырашана даўно — пры чым тут раптам яе слёзы.

«Яна рыхтавалася, гэта ясна, цяпер я зразумеў. Чаму? Калі ў ёй было шкадаванне па мне толькі як аб згубленай забаўцы. У мяне было крыху больш сур'ёзна, але таксама... Чаму ж зараз так ломіць душа. Што я падмануў Красоўскага? Я не ведаў аб гэтым, а яна не надавала гэтаму значэння. Што раптам змянілася?»

Я сядзеў і тупа глядзеў за акно ў ноч. Пасля пайшоў, узяў том энцыклапедыі. «Цианистый калий». «Ужываецца ў працэсе атрымання золата і срэбра з руд...» Нашто мне золата і срэбра? «Вельмі атрутны». Прызнакі атручвання: лоб жаўтаваты, сінюха на выліцах і шыі, вусны злепленыя, скура ледзяная і сухая.

Не, не мог я ўявіць Зою з жаўтаватым лобам і ледзяной скурай. «О божа неўблажымы! Што ўсё ж здарылася?»

Усё было скончана між нас. Усё было ўвогуле скончана. Чаму ж у мяне пачуццё такой віны?! Я ж умаўляў, ледзь не ўмаляў яе.

І вось канец.

Чэрап мой расколваўся... Стужка... Крокі пад акном... Смерць Мар'яна...

Яшчэ адна смерць...

Зноў згасла неба.

І тут пачалося маё... няладнае.

За акном дождж. Мокрыя плямы ліхтароў. Цягнецца нябачны саладкавы дымок тытуню. І раптам дробныя рознакаляровыя кропкі, як на карцінах пуанцілістаў і як выбух, як чорныя крылы. І цемра, і я ляжу на тахце, і павольна, слаіста сцелецца нада мною блакітны туман, у якім устаюць мілыя аблічча.

...Раніцай я пазваніў Хілінскаму і расказаў пра ўсё.

— Нікуды не заходзь,— устрывожыўся ён.— Ні аб чым не думай. Ні аб экспертызе, ні аб чым. І ўвогуле, збірай ты манаткі і едзь у свае Альшаны. За маю галаву, у выпадку чаго, не непакойся, знойдуць.

# Раздзел IX

## *Кладна. Дарога. Адрашэнне*

Я люблю Кладна больш за іншыя гарады. Люблю за прытульнасць зблытаных на павуцінне, залітых ранішнім сонцам вулачак, за шырокую плынь ракі, што змяіцца водарасцямі, за грыфель сцен і аранжава чашуйчатую чарапіцу касцельных дахаў, за ўсё тое, што недабурыла вайна.

За дзікі вінаград, што абвівае крэмавыя муры, за зелень. І хаця зелені не было, а над горадам проста горача і сіне свяціла неба канца красавіка — я ўсё адно нібы крыху адышоў ад закамянення. Ва ўсякім разе, дзейнічаў не па інерцыі.

Аўтобус на Альшаны быў толькі пад вечар, але я не зайшоў нават у цудоўны мясцовы музей: мне не хацелася глядзець на рэчы, мне хацелася глядзець на людзей. І крыху адыходзіць, прыпаўшы да іх цеплыні. Першае маё прыпадзенне адбылося, аднак, не зусім у тым ключы. Я зайшоў у другарадны рэстаран, адзін з тых, што раніцай чайная, а рэстаран толькі а другой палове дня. І, аднак, ужо натрапіў на тое, чаго не люблю, на тое, як невялічкі аркестр рыхтаваўся да сваёй занадта гучнай музыкі. Папрасіў біфштэкс, яшчэ сёе-тое і бутэльку піва.

«Рэстаран» быў сучасны, без копій Хруцкага на сценах (бедны мастак!), але затое з роспісамі, на якіх плылі розныя «царэўны-лебедзі» і «лады» (дзеўкамі б ім старымі застацца ці замуж далёка выйсці, ды каб ім бог сем дачок даў). І страшэнна не гарманіравала з гэтым мэбля: шафкі для посуду, сталы, крэслы і цяжкая старая стойка. І тут ужо зараз было хмельна і моцна накурана.

Афіцыянтка ў белым венчыку прынесла мне ўсё і прытулілася да падаконня непадалёк ад мяне.

Я еў і слухаў «гвар».

— Нічога, алкаголікаў лечаць.

— Пазычыў ёй грошы. Ніхто ў гэта не паверыць, але гэта так.

— П'яныя, як гарылы, былі.

— Глупства зрабіў. Пачаў бараніцца ад міліцыі. А гэтага рабіць не след. З уладаю не звязвайся,— павучаў нейчы становчы голас.— Проста пайдзі дарогаю. Прэч.

Біфштэкс быў з гумы са сталёвым каркасам. Але, як казаў калісьці камісар нашага атрада: «Вычарпай усе сілы пры выкананні задання, мабілізуйся — а зрабі».

Я — мабілізаваўся.

Тым часам аркестр, ідаць па заказу, раўнуў апрацаванае ў сучасным суперджазавым духу папуры з беларускіх песень. І гэта было ўжо занадта. Два смаркачы з кудламі, за суседнім столікам, падпявалі і рыдалі адзін аднаму ў камізэлькі.

Афіцыянтка прыкрыла ружовай далонькай рот, хаваючы пазяханне.

— Гэта што ў вас, заўсёды такая гнюсь? — спытаў я.

— Амаль заўсёды,— сумна сказала яна.— Акрамя позняй ночы і выхадных. У вялікія рэстараны перасталі хадзіць.

— Угм,— сказаў я.— Перасталі. Тут дырэктар і аб'явы дае, і ўсё бегае па ўстановах, і арганізоўвае калектыўныя наведванні: «Напіцеся ў нашым рэстаране». Ніхто не напіваецца.

— Тады дырэктара лаюць,— сказала яна.— Моцна.

Упершыню за апошнія дні я засмяяўся.

...Аўтобус адыходзіў каля сямі. Заставалася нешта з гадзіну да захаду. Поўны аўтобус людзей, якіх так рэдка сустракаеш у Мінску. Бурым зімовым загарам загарэлыя твары, хатулі, галава качкі, што тырчыць з кошыка. Я сеў на задняе сядзенне: кідае, але затое вышэй за ўсіх і ўсіх можна аглядаць — і паляцеў насустрач мяккім, ружовым ужо ад нізкага сонца ўзгоркам, у лясы, якія свяціліся добрым светлааранжавым агнём, і слухаў музыку мовы, і піў, і не мог напіцца.

Божа, такую размову з такой лаянкай можна пачуць ва ўсім свеце — ад Аляскі да Аўстраліі — толькі ў беларускіх аўтобусах і на нашых рынках, асабліва на Магілёўскім, Рагачоўскім, ну і яшчэ крыху на Слуцкім. Можна было калісь і на Камароўцы, але там цяпер саромеюцца цывілізацыі і міліцыянераў. Кажуць, праўда, нешта пра адэскі «Прывоз», але я бываў там і скажу: не тое, не тое.

Чым яны прыкрашалі сваю мову, гэтага я з павагі

да вас не выкажу. Але аўтобус гаманіў і не крыўдаваў ні на кога.

— У яго ў родным доме заўсёды карчма.

— Ну гэта лепей, чым карчма была б яму заўсёды родным домам.

Хлопцы з гарадскімі валізкамі. Апусцілі акно і крычаць дзеду, які выходзіць на вуліцу з глухога, у цямнеючых шатах дрэў, вясковага кветніка:

— Гэй, дзядзька, сядзіце ў хаце, не выходзьце на вуліцу, а то вас тралейбус задавіць.

— Або метро.

— Гы-гы-гы,— і падымаюць акно.

— Ну гэта ты ўжо занадта. Захлусіўся. Нерэальная і таму дурная фантазія. Адкуль у такой Занюханцы метро?

Рагочуць. Едуць дадому, насустрач святу. А я еду насустрач сутонню. І я расчулены, і нават слёзы просяцца на вочы.

— А ты, хлопча, часам не быў у Навінках?

— Не быў.

— Ну то трапіш.

— Разам пойдзем.

І ўмешваецца нейкі зусім сабе інтэлігент:

— А гэта яго лупнулі меднай каструляй па галаве. То ён з таго часу калі-нікалі загаворваецца... на тэму аб медных рудніках на Балхашы.

— А ён, відаць, у Булак-Балаховіча калісьці служыў. Коням хвасты круціў. І таму дасюль баіцца званкоў у дзверы.

Цемра бегла насустрач, падскоквала і ападала наперадзе плахта святла, аўтобус засынаў, а я сядзеў і слаба ўсміхаўся чамусьці.

...Да Альшан, маленечкага мястэчка, я дабраўся гадзін у дзесяць з нечым вечара. Можна было разгледзець толькі агні ў вокнах, цьмяныя мётлы голых яшчэ дрэваў, ды пляму святла ля клуба, ды натоўп ля яго, пераважна з моладзі — вясёлай, бесклапотнай.

— Дзе тут можна начлег знайсці? І каб бліжэй да замка.

— Ай, дзядзечка,— пляснула рукамі нейкае дзяўчо.— То гэта вам Альшанка трэба. Гэта прыгарад. (Яна так і сказала: «прыгарад», і я ледзь не пырснуў са смеху.) І кіламетра не будзе. Унь туды, і ўсё проста, про-оста.

Я чартыхнуўся. Памылка. І не першая. Памылкі нават у працах па гісторыі. Чорт бы іх пабраў! Свайго не ведаць. Усё адно як славутая Мала-Мажэйкаўская царква, шэдэўр наш, на самай справе стаіць у вёсцы Мураванае. І невядома, хто першы яе назваў Мала-Мажэйкаўскай. А сотні ёлупаў паўтарылі за ім, не ўдасужыўшыся нават пабываць на месцы. Працаўнікі мастацтвазнаўства, мастакі, гісторыкі, архітэктары. Работнічкі.

Я ўжо зусім быў сабраўся ісці, калі нехта сказаў:

— Пачакайце. Вось загадчык клуба ідзе. Вячорка.

Падыходзіў невялічкага расточку чалавек. Валасы нібы прыліпнулі да круглай галавы. Хада нейкая ладненькая, вясёлая.

— Зеляпушчанак... Мікола Чэсевіч.

— Касміч. Антон Глебавіч.

— Дык вы да нас? Хадзем разам.

— Вячорка, да заўтра,— сказаў нехта нам наўздагон.

— Чаго гэта яны так? — спытаў я, калі мы заглыбіліся ў цемру.

— Ат. Гэта яны па-вулічнаму. Паважаюць, а адвыкнуць не могуць. Паважаць, здавалася б, няма за што. Шэсць класаў у мяне асветы. Але ў нас не толькі кіно і танцы, а і лектары, і па два спектаклі ў месяц. Вядома, пад суфлёра.

Я быў вельмі рады спадарожніку. У гэтым цямноцці рысь пераламала б усе чатыры лапы, а я да раніцы абавязкова б трапіў назад у Кладна, а тут спакойна ішоў сабе побач з маленькім чалавечкам, які ўпэўнена каціўся наперад. І было зусім не так і кепска, бо пахнула вясной і не зусім яшчэ прасохлая зямля спружыніла пад нагамі.

— То чаму б вам не падвучыцца?

— Э-э, дзе там. І гаспадарка, і клуб. Жонка рукі на рабоце сцерла. Часта аж стогне на печцы. Ды на маё месца сюды і мёдам не прывабіш і на ланцугу не прывядзёш.

— Чаго так?

— Месца глухое. І — чартаўшчына нейкая ў нас у наваколлі завялася. Сам бы зароў ды збег некуды, дык няма куды. Ну, але нічога.

— Якая чартаўшчына?

— А самі пабачыце... Ну, не думайце, што ў нас

там так ужо кепска. У нас там замак, касцёл — прабачце, вядома — з плябаніяй, млын, ссыпныя пункты, філіял клуба. Вось пачнуцца работы, народу прыбудзе — будзе ён функцыяніраваць і там тры дні на тыдзень. Тады хоць разарвіся. Не, месца ў нас добрае, але ўсё прыгарад... А вы сюды чаго?

Я сказаў, што буду даследаваць замак.

— Замак у нас-с ог-го. Недагледжаны толькі. У нас яго ўжо тыдні два як даследаваюць. Навука! Археолагі. Дзяўчына кіруе. Ды ладненькая. Худая толькі. Нічога. Як кажуць, дзеўкай поўная вуліца, а жонкай поўная печ.

— А дзе б там спыніцца можна ў вас?

— Ды, на першы выпадак, хаця б і ў мяне. На пару дзён.

— Чаму так?

— А далей вам наўрад ці самім захочацца. Бо... я Вячорка. Бацька мой быў Вячорка. І дзед. Што казаць, люблю бяседу. І не тое там каб бойка ці лаянка — такога я сам выкіну. А бяседу абшчэнія срэдзі людзей.

Не, усё ж добра «абшчацца з людзьмі». Я ішоў і пасмейваўся сам сабе. Добра мне было і пасля, калі зразумеў, што агеньчыкаў Альшанкі не было відаць проста таму, што парк быў такі густы, і гэта ён, нават яшчэ голы, закрываў іх, і што агеньчыкаў тых няшмат, і што чуваць рознагалосы брэх сабак, і што хата Вячоркі такая ўтульная з сярэдзіны, беленая, з ручнікамі, з печчу і газавай плітой у трысцене, з трыма пакоямі і бакоўкай з асобным уваходам, куды гаспадар з жонкай, Марыяй Сямёнаўнай, мажной смяшлівай кабетай, адвялі мяне.

## Раздзел X

### *Ідылія ў кантрастах*

Раніцай, калі я, паснедаўшы, выйшаў з хаты, дык ажно ахнуў, настолькі ўсё вакол было хараша. Невялікая, двароў на пяцьдзесят — семдзесят вёсачка, «прыгарад», шырока раскінулася па схілах акруглых мяккіх узгоркаў і патанала ў садах, дзе ўжо зялёнымі хмарамі марылі хмызы агрэсту. Нешырокая рачулка

дзяліла гэтыя дзве грады ўзгоркаў і самую вёску. Яна змяілася, гэтая рэчка, хутка знікала з вачэй і злева і справа, і таму не адразу можна было зразумець, адкуль далятае пляск вады на млынавым коле. Справа, далёка, відаць было ссыпныя магазіны.

І гэтыя зялёныя ад моху дахі, і ледзь прыкметны зялёны налёт на галінах дрэў. І гарлавое, лянотнае гарланне пеўняў, і зямля гародаў, чорная, ільсняная, якая аж паравала пад свежапабеленымі ствaламі яблынь. І дзве вежы касцёла наводдаль.

І над усім гэтым сіняе-сіняе глыбокае неба, якім аж хацелася дыхаць.

Найперш я пайшоў да касцёла, бо першы кінуўся ў вочы. Дый хто ведае лепей гісторыю таго ці гэтага месца, як не настаўнік гісторыі і не ксёндз.

Касцёл быў магутны, з дзвюма высачэзнымі вежамі. Тое велікапышнае і адначасова простае беларускае барока, якім яно было на пачатку XVII стагоддзя. А можа, на самым канцы XVI. На адной з вежаў быў «дзыгар» — каляндар-гадзіннік, які, на маё здзіўленне, ішоў.

Дзверы касцёла, нягледзячы на будзённы дзень, былі адчынены. Убаку, пад разложыстымі старадаўнімі дрэвамі, стаяў матацыкл. Я падумаў, што гэта цывілізацыя і што вось нехта здорава ўмудрыўся падкаціць на ім пад самы касцёл свенты.

У дзвярах з'явіўся чалавек невысокага росту ў цывільным, каротка стрыжаны. Шатэністыя валасы ўжо моцна сівелі. Усмешка была па-дзіцячы хітраватая, твар лісіны, але ў нечым прыемны. Такі, напэўна, быў ва Уленшпігеля. Насцярожвалі толькі вочы: то смяюцца, а то прамільгне ў іх нешта пранізліва-ўважнае, быццам пытае цябе да дна. То шэрыя прамяністыя, а то шэра-ледзяныя вочы.

— Чы тутай ест пан пробашч?

І тут загучала чысцейшая — у тэатры Купалы пашукаць — беларуская мова:

— Так. Чым магу быць карысным грамадзяніну-у...?

— Косміч Антон.

— Леанард Жыховіч. Дык што прывяло вас у гэты гожы, але забыты куток роднай старонкі?

— Ойча...

— Які я вам «ойча»? Я быў і ёсць заходнебелару-

скі, просты хлопец. Прынамсі, для вас, а не для касцельных дэвотак.

У двух словах я, не адкрываючы сваёй мэты, сказаў, што прыехаў даследаваць замак, і паказаў дакументы.

— Гм. Добра, хаця дакументы ёсць,— на маё здзіўленне, ён узяў іх і ўважліва разгледзеў.— А то за апошні час чагосьці дужа многія зацікавіліся гэтым няшчасным замкам... якога, магчыма, скора зусім не будзе.

— Чаму?

— Даб'юць людзі, калі не дабіў час.

— А што?

— Збіраюцца бурыць кавалак мура. Будуць рабіць двор для быдла.

— Гм. Нават калі двор для быдла,— Жыховіч няўхвальна пакасіўся на мяне, але ўбачыў, што я ўсміхаюся,— то што, брамы няма?

— Ёсць. Вузкая. А на выпадак пажару, прабачце, правілы пажарнай бяспекі прадугледжваюць два ўваходы. А касцёл глянуць не хочаце?

— За тым і прыйшоў.

Зайшлі. Ксёндз прысагнуў калена. Я, вядома, не. Продкі не кленчылі. Проста заходзілі, думалі, колькі ім трэба, і зноў выходзілі да жыцця.

Вялізная пячора касцёла была тое, што завецца «змрок, напоены святлом». У нефах паўцемра. Пад скляпеннямі, на алтарнай частцы, на калонах — радаснае і ўзнёслае святло. На роспісах, разьбленні, шматлікіх фігурах.

Не маю тут змогі апісаць усё багацце старажытных абразоў. Некаторыя з XIV стагоддзя. Не магу апісаць і запісаў, якія зіхацелі цёмнай і светлай барвай, жоўтым і глыбока-сінім. Нельга апісаць і цудоўнай, старой дыспрапорцыі фігур алтара. Пра гэта нельга.

Калі мы ўлезлі да аргана, які матава свяціўся чорным, залатым, крыху ржавым і прыглушанай зеленню, ксёндз раптам сказаў мне:

— Гэта яшчэ што? А вось калі з карніза глядзець — галава закружыцца ад прыгажосці.

Карніз апаясваў знутры, з трох бакоў, увесь храм, вісеў на вышыні метраў васемнаццаці, меў лёгкі схіл уніз і шырыню сантыметраў семдзесят.

— Хадзем,— і Леанард Жыховіч лёгка пералез це-

раз балюстраду хораў, пайшоў, як па дарозе, па гэтым кашмары.

— Не дрэйф! — сказаў я сабе і літаральна адарваў руку ад балюстрады. А пасля ўжо было ўсё адно. Я глянуў уніз, убачыў фігуркі людзей, з мезены палец, і фотаапарат адчувальна пацягнуў мяне ўніз. Ксёндз ішоў наперадзе і даваў талковыя, выразныя і ўразумляльныя тлумачэнні. Ён, здавалася, зусім не думаў, што іншы можа ісці па гэтым мосце ў пекла зусім не як па дарозе:

— Бачыце, волхвы! Які каларыт!.. А маці божая — гэта ж цуд! Якая прыгажосць! Галава кружыцца!

У мяне сапраўды кружылася галава ад «гэт-кай прыгажосці»! Я стараўся толькі ліхаманкава не чапляцца за мур, ды гэта і не ўдалося б, бо ён плаўна пераходзіў у паўкола скляпення.

Калі я ўрэшце вылез зноў на хоры і зірнуў на маленькіх, бы ў перакулены бінокль, людзей унізе, я адчуў, што яшчэ хвіліна і я стану мокры, як мыш.

— Ну як? — трыумфальна спытаў Жыховіч.

— Цудоўна! — сказаў я.— Wunderbar. І часта гэта вы так «развлекаетесь»?

— А што? — нявінна сказаў ён.— Голуб часам заляціць, б'ецца — нельга ж, каб разбілася божая істота. Ідзеш адчыняць акно.

— Нельга, каб разбілася божая істота, гэта верна,— сказаў я, глянуўшы ўніз.

Калі спусціліся ўніз, у сонечную паўцемру, мяне ўсё яшчэ нібы пагойдвала. Калісьці, падлеткам, я зусім не баяўся вышыні, мог сядзець на даху пяціпавярховага дома, звесіўшы ўніз ногі. Але «да яснай халеры», як кажуць палякі, ногі ў трыццацівасьмігадовага зусім не такія, як у васемнаццацігадовага.

— Што вас яшчэ цікавіць? — спытаў ксёндз.

— Вітаўт Хвёдаравіч Альшанскі.

— Той?

— Той. Што то быў за чалавек?

— Слуп веры. Шмат што для яе зрабіў. У прыватнасці, гэты касцёл.

— Словам...

— Словам, ледзь не блажэнны.

— Beatus?

— Beatus.

— А што то за легенда пра ягоную жонку?

— А, і вы чулі? Змова Валюжыніча і ўцёкі?
— Легенда шырокавядомая.
— Што ж, няўдзячная жанчына. Як многія з іх. Нездарма яе біскуп Геранім з Кладна папракаў. Уцяклі, скарб пабраўшы. Суддзя Станкевіч (а вы ведаеце, тады суддзя почасту быў і следчы), сярэдневяковы беларускі Холмс (а ён быў чалавек для тых часоў гуманны, катаванні, рэч тады звычайную, прымяніў толькі два разы ў жыцці), пагоню спыніў, а тады і сам магнат пакаяўся, што быў у гневе.
— Але ж казалі...
— І ён і людзі на Евангеллі кляліся, што ўцекачы жывыя... Шкада, скончыўся род. І апошні з іх павёў сябе не найлепшым чынам. Удавец, дзеці памерлі — яму б пра бога думаць. А ён...
— Што ён...
— Зблытаўся з немцамі,— коратка кінуў ксёндз.
— Як?
— Ну не з гестапа. Тут шэфам Кладзенскай акругі гестапа быў такі... а, ну яго. Дык Альшанскі звязаўся з імі толькі пад самы канец. А тут камрадамі яго былі камендант Альшан, граф Адальберт фон Вартэнбург, ды з айнзацштаба Франц Керн. І гэта горш, чым з гестапа.
— Так, у поўным сэнсе горш.
— Чаму згадзіліся з маёй думкай?
— Гэта ведамства Розенберга. Рабунак каштоўнасцей. Набыткаў людскога генія за стагоддзі.
— Так. І ўжо чаго яны ў Кладзенскай акрузе ні нарабавалі! Толькі вось Альшанскі цэлы быў. Аж пакуль у маі сорак чацвёртага не пачала гуляць па загаду Гімлера «kommenda 1005», заціранне слядоў злачынства, «акцыі санітарныя».
— І што тады?
— Тады палац Альшанскага разам са скарбамі згарэў. А сам ён прыбраўся з немцамі. Па чутках, неўзабаве памёр... Ну гэта ён адзін такі быў... А награбак таго Альшанскага — вось ён.

На высокім, метры ў два вышынёю, ложы з дужа-дужа рэдкага зялёнага мармуру ляжаў у паставе спячага чалавек у латах. Меч ляжаў пры баку, шалом адкаціўся набок. Магутная пастава, шырачэзныя грудзі, доўгія зграбныя ногі. Твар мужны, бровы нахмураныя, рот цвёрда сціснуты, але нейкая такая складка

ў гэтых вуснах, што не хацеў бы я з ім звязвацца пры жыцці, і добра, што гэта мне не пагражае. Рассыпаліся буйныя валасы.

І кагосьці мне нагадвае гэтая статуя. З тых, каго бачыў у жыцці. Крыштафовіча, які выратаваў мяне тады пад Альберцінам? Не, у таго твар быў мякчэйшы. Кагосьці з артыстаў? Габена? Не, у гэтага аблічча не такое простае, хаця такое ж суровае. Жана Марэ? Падобна. Або кагосьці з гістарычных асоб? Медычы? Калеоне? А, усе надгроб'і досыць падобныя адно на адно. Як большасць сярэдневяковых статуй. Нягледзячы на некаторыя індывідуальныя рысы. Бо заказчык або нашчадкі хацелі бачыць у творы, у сваім партрэце нешта, акрэсленае самой эпохай.

Мы выйшлі, я зірнуў на касцельную галерэю. Якраз у гэты момант пачаў мякка біць «дзыгар».

— У вайну стаяў,— сказаў ксёндз.— Але я, прыйшоўшы сюды, вырашыў адрапараваць. А рапараваў наш арганіст. Механік хоць куды. І нават каляндар працуе. Ну, пра сёе-тое не здагадаўся. Механізмы ж зусім не тыя. Месячны каляндар хлусіць, невядома якія там валікі-малаточкі і чамусьці ўвагнутыя люстэркі. Тут і Галілей не разабраўся б.

— Я, на жаль, таксама. Прафан. Ну і як арганіст?

— Выключны. Рэдкасць гэта — здабыць добрага арганіста. Толькі...

— Што?

— Часам гарэзнічае. Узяў аднойчы і сярод імшы «Лявоніху» разануў... Ну, а дзе іншага ўзяць?

— Н-на, вясёлы ў вас касцёл.

— Бываюць весялейшыя,— ён гукнуў касцельнага і аддаў нейкія распараджэнні.

Мы падышлі да чырвонай «Явы». Ксёндз спрытна адкінуў падножку.

— Ваша?

— Так,— ён убачыў маё здзіўленне.— Вось і адзін мой цывільны... гм... здзівіўся і паўшчуваў. «Што ж гэта вы так свой аўтарытэт падрываеце? Ксёндз. Ну, чаму матацыкл?» А я яму: «Таму, што грошай на машыну не хапае».

— Дзе тут замак?

— А ‹унь, цераз роў. Я не пайду з вамі. Брыдка часам глядзець.

Матацыкл затрашчаў і вокамгненна знік з маіх

вачэй. Я пакруціў галавою і пайшоў у бок замка.

Зелянела трава. Мяккія, ужо жывыя, удзячныя вясне дрэвы рыхтаваліся да вялікай сваёй штогадовай справы: прабіць пупышкі, выпусціць лістоту, даць свету і людзям зелень, прыгажосць, кісларод, літасціва прыбраць з паветра тое, што надыхалі людзі са сваімі заводамі, а пасля пажаўцець ад гэтага і ад блізкага подыху зімы і, нічога не патрабуючы ўзамен, пакорліва, ціха і рахмана апасці долу. Але да гэтага яшчэ далёка, але якія радасныя ў прадчуванні гэтай працы былі дрэвы старажытнага, запушчанага, парадзелага дрэвамі і пагусцелага хмызамі парку, які даўно стаў падобны на лістоўны лес з ліпамі, таполямі, пагрозна ўзнесенымі патрыярхамі-дубамі і з падлескам ляшчыны, крушыны, глогу, парэчкі, перавітым ліянамі хмелю і калючым ажыннікам.

Было дзіва як хораша.

Бліснула наперадзе яшчэ чыстая, непазелянелая вада (гэта прыйдзе пазней, з цеплынёй): рэчка не рэчка, а хутчэй рукаў рэчкі,ператвораны калісьці ў роў. Лядашчы мосцік ляжаў над вадой. І тут я спыніўся, нібы мяне нехта ўдарыў.

Вачам адкрылася нешта такое, што не да веры, чаго не бывае, не павінна быць сярод гэтай разнежанай весняй прыроды, сярод гэтых ласкавых дрэў і зялёнай травы.

На тым баку ўзвышаўся мур і вежа (астатняе хавалі дрэвы), крыху-крыху толькі ў пражоўць, цёмна-свінцовага, амаль чорнага колеру.

Замак. І які пагрозны, пачварны замак!

І не на ўзгорку, не наводдаль, каб чалавек паспеў неяк падрыхтавацца, а твар у твар, як нечаканы цёс мяча.

Ясна, што парк быў пасаджаны пазней, калі замак перастаў быць замкам, а стаў палацам, хай сабе і невыгодным, але прыдатным на тыя часы, і ўсё адно ўражанне было сапраўды ўразлівым, нібы чалавек падышоў да гушчару і раптам убачыў там разверстую ў рыку пашчу льва.

І гэта было так, таму што я ўбачыў проста перад сабой цёмную і дужа нізкую арку брамы.

І гэта была брама-праём, брама-тунель, брама-ўваход у пячору страшнага гіганта-волата са злоснай казкі.

Нават з нейкім трымценнем набліжаўся я да гэтай пашчы. І тут убачыў, што мур з абодвух канцоў замыкаюць дзве кутнія вежы. Пяць граняў знадворку. Шостая, відаць, выходзіла ва ўнутраны двор. Мур вышынёй метраў дзесяць — дванаццаць даходзіў вежам да пояса, да байніц сярэдняга бою. Вежы былі пустыя і часам свяціліся гэтымі байніцамі. Дахі на вежах спічастыя, і засталіся ад іх амаль толькі кроквы ды латы і толькі сям-там чарапіца.

Замак разбілі год дзвесце таму тагачасныя фашысты.

Я ішоў брамаю-тунелем. Ага, праёмы пад завалу знешніх, надворных, варотаў. Ніз тунеля, як і ўвесь, відаць, замкавы ніз, выкладзены цыклапічнымі неабчасанымі валунамі. Сляды ўнутраных варот. Божа, даўжыня тунеля метраў пятнаццаць! Няўжо такой таўшчыні муры? Не, проста, відаць, над тунелем было памяшканне.

І святло. Што ж, планіроўка простая. Квадрат. Кожны бок метраў па сто дваццаць. Злева тры вежы і справа. Насупраць, калі не лічыць дзвюх бакавых, яшчэ дзве, разам чатыры. А ўсяго, значыцца, па перыметры, восем. Мур збольшага, трэці на дзве, збярогся, сям-там развалены амаль данізу, але ўваход калісьці быў толькі адзін. І па перыметры муроў (таўшчыня, там, дзе развалена, на вока метра паўтара-два) рады вокан жылых памяшканняў. Вокан і дзвярэй. Так, дзвярэй, бо там, дзе муры не развалены, абкружае іх каменная галерэя, дзе закрытая аркамі і дахам, а дзе і адкрытая, унь, злева і там, дзе зберагла-ся, проста перада мной. Там калодзеж. Справа, калі зірнуць за мур, над верхавінамі дрэў, вежы касцёла і «дзыгар».

Але і тут, усярэдзіне, унь, у левым далёкім куце, відаць рэшткі капліцы.

Фасады замка бедныя, а тут, там, дзе сценка жылога памяшкання ўпала, відаць, што ўнутраны дэкор быў багаты.

Верхнія паверхі некаторых вежаў былі, відаць, таксама жыллём. Унь ляпніны на столях, унь віюцца сляды дымаходаў.

«Ах, ёлупень! Ах, бесталач, асталоп, паўдур'е, медны лоб, ёлуп хвашчоўскі! Ты правільна, бо змяя віецца і вінтавая лесвіца віецца, вырашыў навіваць

пергаментную стужку на нейкі прадмет. І не стукнула ў мякінную тваю галаву, чаму «дымам»?

Вось чаму. Унь яны віюцца, твае дымаходы. Іх назнарок часам рабілі такімі. Нават знадворныя коміны часам завівалі, каб дым з іх выходзіў калечкамі або вінтом. Яшчэ адно адрозненне, яшчэ адна магчымасць пакуражыцца перад іншымі не толькі шпіцамі і флюгерамі, рэшткі якіх відаць ужо там і сям, але і дымам. І гэта ж не ў адных Альшанах. У, медная твая конаўка!»

На-а, замак. І ясна ж, што ёсць тут і патайныя калодзежы, хады, сховішчы, склады, студні, сутарэнні (ясна ж, арчастыя), лабірынты пераходаў, каменныя мяхі. Інačай які ж гэта замак? Што мы, горшыя за іншых? Цікава будзе тут пашукаць-папоўзаць.

На першых паверхах памяшканні ніжэйшыя, там, дзе муры развалены, відаць, што скляпеністыя: дом у разрэзе. Жыла там, пэўна, варта ды прыслуга. Вышэй былі залы, высокія, з лепкай, нішамі для посуду. А унь камін. Мабыць, ёсць і патаемныя сходы, ясна ж, таксама вінтавыя. Што ж, палазім хаця ў прыёмных залах для гулянак-папоек, хаця нічога там няма, а ёсць толькі пройма, павуцінне, вільгаць і пыл.

Толькі тут я апусціў вочы і разгледзеўся па двары. І добра зрабіў, бо давялося б абціраць туфлі. Відовішча было ахавае.

Я заўсёды абураўся свінскім адносінам да большасці старых будынкаў. Чаму свінарнікі чамусьці ў большасці любяць змяшчаць у старажытных фальварковых абсадах, калі там самае месца для клуба, раддома, бальніцы, стадыёна, спортпляцоўкі. Зялёныя шаты, цень, кісларод. Але гэтыя ўстановы чамусьці стаяць на пустыры. А вакол пруцікі новых пасадак.

Разбілі касцёл у Варончы — які клуб і які сад побач, якія раскошныя двухсотгадовыя алеі! Магутнае, спявучае, пышнае барока касцёла ў Шчорсах. Які музей (а музей вясковы побач, у цесным памяшканні)!

Апраўданне знаходзяць у словах адной асобы, што трэба будаваць новае, а парахня (муры ў паўтара метра таўшчынёй) няхай рассыпаецца, хаця прыстасаваць «парахню» пад нешта бывае лягчэй, чым пабудаваць новае, якое часам, калі ёсць «парахня», можа

крыху пачакаць. Хай сілы і грошы будуць аддадзены яшчэ чамусьці.

Што ж, і асоба была добрая свіння, і тыя з «апраўданнем». Я звыкнуў ставіцца да гэтага больш-менш спакойна.

Але тут нават мяне стукнула. Двор быў літаральна завалены розным ламаччам і хламам і тым, што было калісьці высокакаларыйным беларускім сенам. Словам, каровіны праснакі і авечы боб.

А проста перад сабой, між першай і другой вежамі справа, я ўбачыў натоўп. У адным месцы мур быў даламаны амаль да зямлі на шырыню прыблізна трох метраў, а побач, на вышыні метраў чатырох, некалькі юнакоў з ламамі ў поце аблічча працавалі, разбіваючы цамянку: відаць, хацелі пашырыць пралом.

Я падумаў, што гэта марныя штучкі, што тут і шар-баба не дужа б дапамагла і што той, амаль скончаны, пралом зрабілі не людзі, а час. Але тыя стараліся, што наверсе.

Цэнтрам была група людзей. Адзін у сінім падношаным гарнітуры і ў ботах меў аблічча чалавека, які звыкнуў і падпарадкоўвацца, і загадваць, аблічча валявое і жарсткаватае, грубавата-часанае. Па па-гляду старшыня калгаса, як яно пасля і выявілася. Было яму год пад пяцьдзесят, і быў ён здаровы, як конь. І змякчала выраз яго твару толькі гумарыстычная складка ў краёчку вуснаў. Не спадабалася мне толькі, што быў ён з чубком, як ў бедалагі-нябожчыка фюрэра. З некаторых часоў я больш за ўсё на свеце не люблю такой прычоскі ды яшчэ вусікаў падобнага тыпу, якіх у чалавека, на шчасце, не было. А то б я зрабіў нешта несамавітае. Напрыклад, запусціў бы ў яго апаратам.

«Гаспадар. Тым больш што і пасёлак сельсавета тыпу Альшаны ляжыць на тэрыторыі калгаса».

Побач з ім стаяў з партфелем у руцэ чалавек невысокага росту, таксама год пад пяцьдзесят, але зусім іншага тыпу. Твар шырокі, пасечаны дробнай сеткай зморшчын. І на гэтым твары цёмныя ўважлівыя вочкі. Чорная кароткая стрыжка, вялікія, нібы ў Буды, вушы. Ад яго на адлегласць у пятнаццаць сажняў прыемна тхнула перагарам, і, мабыць, таму твар ягоны быў дабрадушны. Тое, што называецца

«вясёлы з пахмелу». Быў ён прысадзісты, крыху сагнуты і махаў рукамі, не выключаючы той, з партфелем, больш за ўсіх.

І яшчэ адзін кінуўся мне ў вочы. Убаку сядзеў на траве, на касагоры, магутнага складу і не менш чым сажнёвага росту чалавек з шырокім абліччам. Чорныя крылатыя бровы, сінія вялізныя вочы, арліны нос, гожы шырокі мужчынскі рот. Аблічча надзіва інтэлігентнае, хоць на прафесарскую кафедру, але нейкае трывожнае і дзікаватае, не такое, як у звычайных людзей.

Аб тым, што гэта не прафесар, сведчыла толькі тое, што быў ён апрануты бедна: у паркалёвай расхрыстанай на грудзях сарочцы, картовых чорных портках, запраўленых у ялавыя старыя боты.

Чалавек насіў кепку казырком назад (пасля я даведаўся, што гэта адна з яго заўсёдных адзнак, нават калі ён не быў у мучным пыле, а не хвілінны капрыз), і вакол яго круціліся дзесяткі два сабак усякага росту і масці і пераважна дрэннай пароды.

— Тут, ці што, сутарэнні? — далятаў галасы.

— Тут паўсюль сутарэнні. Як бы катора не правалілася.

— Не. На вякі будавалі. Лупась, хлопцы.

І тут я адчуў, што нешта мяняецца. Да групы дбайнікаў набліжалася два чалавекі ў атачэнні чародкі дзяцей і падлеткаў чалавек на дваццаць. Наперадзе крочыў невысокі худы мужчына ў дужа акуратным чорным гарнітуры і белай сарочцы з чорным гальштукам. Аблічча вясковага інтэлігента, простае і нічым не адметнае, хіба што шнарам, які перасякаў левае брыво. За акулярамі разумныя і раздумлівыя вочы. Валасы моцна сівыя на скронях.

Другі быў высокі і плячысты і вельмі нагадваў нейкага амерыканскага каўбоя з фільмаў пра дзікі Захад. Саламяныя валасы, аблічча, прадубленае сонцам і ветрам да адцення цёмнага золата. Шырокі і высокі лоб, нос просты і нядоўгі, рот цвёрды, шчокі прыемна правалены.

І ўсё гэта асвятлялі вочы такой глыбокай сіні, што рабілася радасна на душы.

— Стой! Што вы гэта робіце? — яшчэ здалёк закрычаў «каўбой».— Якое... па якім праве?!

— А ты не будзь у гарачай вадзе купаны, Зма-

гіцель,— сказаў чалавек у сінім гарнітуры.— Трэба — значыць трэба.

— Вы, Нічыпар Сяргеевіч, хаця і старшыня калгаса,— сказаў інтэлігент,— а і вам бы не шкодзіла ўсё ж паразважаць крыху над тым, што робіце.

— А вы мне, Рыгор Іванавіч, таварыш Шаблыка, не ва ўсіх выпадках загадвайце, як мне гэтым калгасам кіраваць і што і як мне на яго карысць рабіць.

— Небяспека супрацьпажарная патрэбна? — спытаў той, з партфелем, і «настаўіцельна» ўзняў палец.— Патрэбна. Другі выхад патрэбен? Патрэбен.

— Ды чаму тут гарэць? — спытаў нехта.

— Не кажыце. І камень часам гарыць. І стрэльба раз на год сама страляе.

— Гэта помнік,— спакойна сказаў Шаблыка.— Помнік культуры, помнік гісторыі нашай. І потым, хто вас прымушаў у ім загон для быдла рабіць? Зрабілі б убаку.

— На гэта затраты трэба,— сказаў апартфелены.

— Помнік. Пад аховай,— тлумачыў Шаблыка.

— Які помнік? Адкуль відаць, што помнік?! — пачаў нервавацца чалавек з партфелем.

— Вы не нервуйцеся, Тодар Ігнатавіч,— сказаў Шаблыка.— Вы бухгалтар, вы можаце і не ведаць, што гэта — другая палова XVI стагоддзя.

— Адкуль відаць?

— Дошка была.

— Дзе яна, дошка? — спытаў Тодар Ігнатавіч.

— Здзерлі дошку! — узвіўся раптам крыкам «каўбой».— У бур'яне яна валяецца! А ўсё ты, кантарская скрэпка! Ты, Ганчаронак! Ты, чарнільная твая душа! Ты людзей падцкоўваеш, нібы гэты замак галоўны твой вораг.

— Ціха, Міхась,— сказаў яму Шаблыка, але «каўбой», відаць, зусім не ўмеў сябе трымаць і ўжо зусім азвярэў.

— Скардзіцца на вас будзем. А табе, Ганчаронак, я дам дыхту. Я табе неяк так прыму ў кулакі, так з морды мяса...

Вочы Ганчаронка былі б страшнаватыя, каб не былі такія дурныя.

— Я, між іншым, не толькі бухгалтар. Я і член пасялковага Савета.

— А-а,— іранічна працягнуў Шаблыка.— Ну-у, калі член пасялковага Савета — тады абавязко-ова трэба бурыць.

— Ды супакойцеся,— сказаў старшыня.

— Вы яго паклічце да спакою, Альшанскі,— сказаў старшыні Шаблыка.

«Альшанскі? Адкуль Альшанскі? З тых? Ды быць не можа. Апошні з немцамі ўцёк і памёр. Ідыёт. Мала, ці што, Альшанскіх. Адзін Гаўрыла ў Полацку?»

— Кажу вам, зрабіце загон наводдаль, Альшанскі,— сказаў Шаблыка.— Іначай будзем скардзіцца.

— Ну іваліце,— сказаў старшыня,— вам жа горай будзе.

— Ты! Ты! — узбеляніўся «каўбой».— Змагіцель. Ты... віслюк.

— Пра новае думаць трэба,— сказаў старшыня, не пакрыўдзіўшыся на «віслюка», бо не зразумеў.

Я ўсміхнуўся. Я добра ведаю ўкраінскую мову і ведаю, як часам зручна абазваць другога такім чынам. Тыпова беларуская хітрынка. Спецыяльна ўжываць у якасці лаянкі замест нашай — лаянку з іншых славянскіх моў. І душу адвёў, і аблаяў, а той ніц не ўтаропае.

«Віслюк» па-ўкраінску — «асёл».

— Так! Сапраўдны віслюк! Толькі віслюкі робяць такое.

Затое Ганчаронак Тодар Ігнатавіч, бухгалтар і член пасялковага Савета, чамусьці асабліва пакрыўдзіўся на, відавочна, невядомае яму слова «віслюк».

— Ану, паўтары! Ану, паўтары, паўтары!

— Я табе паўтару! — «каўбой» схапіў Ганчаронка загрудкі.

— Высоцкі! — заблажыў той.— Чаго глядзіш на бандыцкае адроддзе?

І тут ад натоўпу аддзяліўся высокі, выключна складзены і збіты мужчына год сарака з нечым. Валасы цёмна-русыя, светлыя вочы прыжмураны. У рухах лянівая грацыя, па якой відаць: можа быць нечакана рухлівы. Нос прамы, рот няўлоўна ўсміхаецца. У вялізнай далоні маленькая пужка.

— Пастарайцеся, Ігнась Якаўлевіч,— сказаў ён сам сабе.— Ну што, сапраўды, за безабразія робіцца?

І лёгка, як кацянят, развёў Ганчаронка і Змагіцеля, трымаў іх выцягнутымі рукамі.

— Ну, няхораша. Ну, бойка будзе,— ляніва ўмаўляў ён.— Ну, міліцыя. Ну, пятнаццаць сутак. Ну, неба ў буйную клетку. Бухгалтар вялікага калгаса, член пасялковага Савета — і пятнаццаць сутак. Непрыгожа... Настаўнік роднага слова — і тратуар перад школай падмятае. Непрыглядна, экзамены скора. Вучні пра Сымона Скарыну слухаць хочуць, а вы...

Чамусьці не паверыў я ягоным словам пра Сымона Скарыну. «Прыдурваецца, здзекваецца»,— падумаў я. Таму што была ў ім гэткая старасялянская ветлівасць і выхаванасць, але было і нешта дужа інтэлігентнае.

— Ігнась! — гарлаў Ганчаронак.— Пусці, дай дравацца.

— Ды не пушчу,— ляніва сказаў Высоцкі.

— Сука ты! Пусці! Пусці, адроддзе свінскае! Пусці, чорт смалены, дымны!

І тут Высоцкі невядома чаму азвярэў:

— Ты за брата... Колькі м-мож... Ты, гадзяня... Ты, выпоўзіна.

Адштурхнуўшы Змагіцеля, ён схапіў Ганчаронка, выдзер у яго партфель, схапіў за карак і за руку і моўчкі пачаў карэжыць. Так, што стала страшна за жыццё таго.

— П-пусці!.. П-пусці.

Настаў час умяшацца і ратаваць усіх ад гарачнасці.

Я пачаў наводзіць апарат, выбіраць пазіцыю. Нехта сыкнуў, і паступова авантура пачала сціхаць. Апошні выпусціў бухгалтара Высоцкі. Выгляд ва ўсіх быў збянтэжаны, а ў некаторых — спалоханы. Я нават не чакаў.

— Вы хто такі? — першым ачомаўся Альшанскі.

— А ці не ўсё адно?

— А нашто вы гэта робіце?

— А будзе харошая ілюстрацыя на тэму: «Правілы і нормы сацыялістычнага супольнага жыцця ў Альшанскім наваколлі».

І я шчоўкнуў яшчэ і мур з юнакамі на ім.

— Гэй! Гэта яшчэ нашто? — крыкнуў здалёк старшыня Альшанскі.

— Я Антон Косміч. Прыехаў даследаваць Альшанскі замак і касцёл. Маю адносіны да арганізацыі па ахове помнікаў, між іншым, і гэтага вось вашага замка. Застаў прыемную карціну разбурэння. І «запечатлел». Да ведама сучаснікаў і на памяць нашчадкам. Удзячным нашчадкам.

Дзеці вакол Шаблыкі зарагаталі. І гэты смех вывеў старшыню з цярпення:

— Выньце плёнку.

— І не падумаю.

Ён кінуўся да мяне з грацыяй і спрытам бегемота. За ім Ганчаронак і Высоцкі. За імі Змагіцель і Шаблыка.

— Падумалі б вы, Нічыпар Сяргеевіч, што гэта адна з прыкрас краю,— паказаў старшыні на замак Шаблыка.

— Ты мне радзіму за мой кошт не ратуй,— кінуў яму старшыня.

Да мяне падступілі Ганчаронак з Высоцкім:

— Ты... ты адкуль...— вось-вось узялі б загрудкі.

У гэты момант чалавек у мучным пыле, з кепкай казыркам назад і з поўным картэжам беспародных сабак наблізіўся да нас, прайшоў між нас, як разжараны нож праз брус масла, стаў і ўтаропіў дзікаватыя ўважлівыя вочы ў нашы аблiччы. Разглядаў, лунатычна хілячы галаву то на адно плячо, то на другое, і вочы былі нерухомыя, і я заўважыў, як усе нібы звялі, апусцілі рукі і адсунуліся. Чалавек паглядзеў, пакруціў адмоўна галавою і адышоў крокі на чатыры.

— Н-не а. А? А-а-не! — ціха сказаў ён.

Спрэчка зноў была пачала разгарацца.

— Не смейце больш рабіць гэтага,— сказаў я.

— Хто гэта тут такі яшчэ? — падлез Ганчаронак.

— Змоўч, а то я табе.

— А вы не крычыце на мяне, як нейкі афрыканскі папуас,— налязаў ён.

— Новагвінейскі бушмен,— паправіў я.

Чым бы гэта ўсё скончылася — невядома. Але ў гэты момант ад мура даляцеў крык двух дзесяткаў галасоў. Туды спяшаліся дзеці, і мы таксама кінуліся туды.

На зямлі ляжаў, нязручна падкруціўшы левую руку, юнак год семнаццаці. Адзін з тых, што толькі-толькі былі наверсе і там дзяўблі ламамі. Гэты чар-

нявы юнак адзін з тых «кладзенцаў-гракоў», як іх справядліва называюць.

— Што з табой, Бронік? — з непрыхаванай трывогай спытаў Шаблыка.

— Разбіўся? — гэта старшыня.

— Здаецца, не,— юнак сеў, моршчачыся і падтрымліваючы правай левую руку.

— Вывіх,— сказаў Ганчаронак.— Пацягніце за руку.

— Не.— Шаблыка абмацваў хлопцаву руку.— Пералом. Хутчэй у бальніцу.

Ведаю, я рабіў жорстка, не па-чалавечы, але трэба было стрымаць тую малпу, якая вырашыла рабіць такое з замкам, ды яшчэ і з рызыкай. Ну а каб не рука, а шыя. І таму я шчоўкнуў і гэтую сцэну.

— Ну і вось,— ледзь не заплакаў Высоцкі, паказваючы на тое месца, дзе, відаць, хлопец пераламаў руку і дзе пінжак быў прадзёрты.— Во і пінжак раздзёр.

— Падумаеш, адзін пінжак,— з пагардай адказаў мужны Бронік.— Мне гэта ўсё адно як Радзівілу, калі б у яго ў адным з маёнткаў парсючок здох.

— Малі, хлопча, бога аб здароўі, бо маліць аб розуме табе позна,— сказаў я.

Старшыня, Ганчаронак і Высоцкі відавочна сабраліся пакінуць поле бою. Але кінуць яго без слова азначала прызнаць сябе пераможанымі.

Таму Альшанскі спытаў:

— Гэта вы хаця дзеля чаго здымалі?

— Бачыце, не так даўно быў «Фіціль» пра аднаго такога,— я сказаў гэта, хаця і ведаў, што кажу пустую пагрозу.— Магчыма, здымкі ў будучым і прыдадуцца.

— Выньце плёнку,— сказаў Ганчаронак.

— Вы, здаецца, не ахова, а гэта не нумарны завод,— адрэзаў я.— Выму. У цёмным пакоі з праявіцелем.

Чаму так — не ведаю. Але ніколі не бачыў я чалавека, які б так усхваляваўся.

— Вы...

— Адставіць,— сказаў старшыня.— Сапраўды, пагарачыліся. Што нам, клінам сышоўся для загона гэты замак? Дый чаму тут, сапраўды, гарэць? Словам, будзе загон. Гэй, спускайцеся адтуль! — паглядзеў

на дзяцей, што сачылі за сцэнай, і прыбавіў спецыяльна для мяне: — А з вамі пагаворым...

— Так,— падхапіў Ганчаронак,— з вамі, што тут без году тыдзень, а падкопваецца пад аўтарытэт кіраўнікоў, мы яшчэ пагаворым.

— Ахвотна. Тым больш што найболей падкопваюць аўтарытэт кіраўнікоў такія, як вы.

Альшанскі, відаць, хацеў быў вылаяцца, але махнуў рукой.

Яны пайшлі, і тут нечакана загаласіў ім услед чалавек ў кепцы задам наперад:

— Ага! Ага! Вось вам божая кара. Бурылі? Замак? А вы ведаеце, што тут было? Вось вам... Што тут было! Вось вам божая кара.

І рушыў за імі ў суправаджэнні картэжу сваіх псоў.

І толькі тут я зразумеў, што чалавек гэты — вар'ят.

— Змагіцель Міхась Іванавіч,— «каўбой» працягнуў мне руку.— Мясцовы выкладчык беларускай мовы.

— Шаблыка Рыгор Іванавіч,— сказаў другі.— Настаўнік гісторыі. Дзякуй вам, вы прыйшлі ў час.

— Два Іванавічы,— сказаў я.— Што ж, Косміч Антон Глебавіч. Гісторык.

— Мяркую, самая справа нам зараз накіравацца ў «Чайную»,— сказаў Шаблыка.— Я не люблю, але пасля сённяшняга ў мяне ад хвалявання і палёгкі аж калені дрыжаць.

— І ў мяне,— сказаў «каўбой».— Дый за знаёмства.

Мы пакінулі ўрэшце запаскуджанае поле бою, зноў выйшлі ў парк, перайшлі мосцік, мінулі касцёл, аддыбалі метраў трыста ціхай вулачкай і ўвайшлі ў «Чайную», проста невялікі пакой са стойкай, дзесяткам столікаў, акном на кухню і трыма вокнамі на сонную ціхую вуліцу.

Маладая і надзіва свежая буфетчыца стаяла за стойкай і сумавала, бо народу яшчэ зусім не было: рана. «Каўбой» адразу па-каўбойску падкаціўся да яе:

— Данусечка... Р-радасць мая... Як я рад бачыць вас па-ранейшаму маладой, як усход, поўнай, як поўня, свежай, як раса.

— Гэ-э, ды ён помесь каўбоя з паэтам,— ціха сказаў я.

— Ды ну вас, Міхась Іванавіч...

— Я не Міхась. Я Змагіцель. Я ўсё змагу.

— І мяне.

— І вас,— люта адказаў настаўнік.

Зрабіў жахлівую міну і, паказваючы на бутэльку каньяку, чулліва праспяваў:

— «Дайте бедному шуту звездочку вон ту».

Тая засмяялася.

— А што яму,— сказаў Шаблыка.— Малады, кавалер, дурэе.

Мы селі за стол і выпілі за знаёмства.

— Ну, гэтая гісторыя з Бронікам ім цяпер надоўга ахвоту да такіх штучак адаб'е,— сказаў Шаблыка.

— Не кажы,— сказаў «каўбой-паэт».— Ганчаронак гэта такая свіння, што не адвяжацца. Як нянавісць у яго нейкая сядзіць і да замка, і да многага. Ён гэта Альшанскага падбіў. Нутром чую.

— Так,— Шаблыка круціў у руках акуляры.— Я б яго таксама лічыў, што гад паўзучы, каб мы разам з ім у гестапа не былі.

— У гестапа? — я здзівіўся.

— Ну так. Мяне ўзялі па падазрэнню за падполле, хаця прамых доказаў не было. Вядуць праз пакой, а ён стаіць рукамі ў сценку пад ахovай сабакі. Убачыў — зрабіў выгляд, што не пазнаў, дай бог яму...

— І як жа вы адтуль выйшлі?

— Прадажныя яны былі. Нашага рэдка каго купіш. Аднаго-двух. А ў іх толькі аднаго-двух і не купіш. Выкупілі нас. Тым больш што доказаў не было. Ганчаронак, кажуць, трымаўся, язык праглынуўшы. А тое, што характар дзярмо,— справа дзесятая.

— І ўсё адно,— зноў ускіпеў «каўбой».— Я яму «бандыцкага адроддзя» не дарую.

— А чаму...— і я асекся, бо ледзь не сказаў нетактоўнасці.

Змагіцель торкаў відэльцам у катлету:

— Тут сакрэту няма. Усе ведаюць. Быў я па дурасці пасля вайны некалькі месяцаў у бандзе, шчанюк зялёны, непаўналетні. Р-рамантыкі захацелася. У філіяле банды Боўбеля-Куляша. Самога-та не бачыў. І добра, што трапіўся мне харошы чалавек. Шчука было яго прозвішча. Ён мне і давёў, што я такое. Ну, я сваю віну выкупіў. Дзякуючы яму і мне мой філіял загадаў доўга жыць, часткова здаўшыся,

а асноўную частку з самім Куляшом да Палінскага балота прыціснулі і знішчылі да апошняга чалавека. І сам Кулеш зранены ў багне патануў. А ён мне: «Бандыцкае адроддзе». С-сука!

— Ладна, супакойся,— паклаў яму руку на плячо Шаблыка.

— Слухайце, а гэты хто, у кепцы казырком назад?

— А-а. Людвік Лапатуха,— сказаў сумна Шаблыка.— Вар'ят. Ціхі. Часам толькі незразумелае гаворыць. Ну і кепка. І сабакі яго страшэнна любяць. Бачылі? Табунамі ходзяць. Нямецкіх аўчарак толькі баіцца і кідае ў іх камяні.

— Адкуль жа ён такі, няшчасны чалавек?

— У нас тут у сорак чацвёртым немцы нейкую работу вялі, а пасля рабочых чалавек чатырыста, палякаў ды нашых, расстралялі ў паўкіламетры адсюль. Ды помнікі вы пасля самі ўбачыце, у парку стаяць. Наш помнік, агульны і польскі. Мы з адным польскім раёнам тут сябруем, то яны прыязджалі ды паставілі яшчэ сваім,— Змагіцель уздыхнуў.— Страшная была гісторыя.

— А Лапатуха тут пры чым? — спытаў я.

— Кажуць, што ці не яму аднаму ўдалося з-пад расстрэлу неяк уцячы,— задуменна сказаў Шаблыка.— Ці ён быў адзіным выпадковым сведкам. І крануўся, гледзячы на ўвесь гэты жах. Але цяпер ад яго ўжо ніхто нічога і ніколі не даведаецца. І быў жа добры, культурны чалавек. Скончыў гімназію і адзіны тады скончыў з усяе Альшанскай акругі універсітэт. Пражскі. Некалькі моў ведаў. А цяпер, бачыце, як яго скруціла. Толькі і можна дабіцца, што вартуе ён тут магілы. Прапаў чалавек. Мяхі на млыне цягае. Шкадуюць яго.

Гаварыць далей на гэтую тэму было непрыемна і цяжка, і таму я перавёў размову на іншае:

— Слухайце, а што гэта ў вас кажуць нібыта пра нейкую жанчыну з нейкім там чорным манахам?

— Аа-а, працяг легенды з XVII стагоддзя,— скептычна ўсміхнуўся Шаблыка.— Валюжыніч і Ганна Альшанская. Чу-улі.

— Ну не,— узвіўся «каўбой-паэт».— Вы можаце смяяцца, казаць, што я ёлуп, а я веру: ёсць нешта такое. І за апошнія некалькі год зноў з'явілася. Ужо

чалавек шэсць казалі. Людзі дарма шоргаць языкамі не будуць, і дыму без агню не бывае.

— Дык што?

— Кажуць, сапраўды, у некаторыя ночы з'яўляюцца. І калі прыйдзеш у такую ноч і падыдзеш добра, то ідуць. Часам па касцельнай галерэі, часам па замкавай. Часам па той і па другой. Размытыя, туманныя. Ідуць і знікаюць і нічога не гавораць.

— Ты каньяку болей пі,— сказаў Шаблыка.

— Ды я амаль і не п'ю. Як ты. Але веру, ёсць нешта такое. Праходжваюцца, ідуць.

Мы глядзелі на ціхую і добрую вясковую вуліцу, на бярозы, якія рыхтаваліся зазелянець, на бялюткія стаўбуры яблынь на вугальна-чорнай ільснянай зямлі.

— Н-на,— сказаў я,— гляджу я, у вас тут ідылія.

— Ідылія,— сказаў Шаблыка.— З кантрастамі.

## Раздзел XI

### *Белая Гара*

Мінулі святы, звычайныя, усім вам вядомыя святы ў маленькім пасёлку. З трыбунай, абцягнутай чырвоным, з самаробнымі сцягамі і з сонцам і першымі, нясмелымі яшчэ намёкамі на зелень, з дэманстрацыяй, якая складаецца пераважна са школьнікаў, і з цікаўным парсюком, які вылез на вуліцу на агульнае ажыўленне, акурат на дарозе дэманстрацыі: людзей паглядзець і сябе паказаць.

А потым рыпае сям-там гармонік, перад клубам танцуюць пары. І закрадаецца ў сэрца сум, што табе гэтага ўжо зусім не хочацца, што твае балі адшумелі і пракаціліся.

Прайшоў з настаўнікам і вучнямі, проста каб не быць аднаму, каб паглядзець на ажыўленне іншых, а вечарам уцёк з вячоркі ад Вячоркі (сапраўды, почасту яны ў яго бывалі) да Змагіцеля ў яго кавалерскую хату (бацькі памерлі), куды скора з'явіўся й Шаблыка, і хораша мы з імі праводзілі свята, хаця нічога асабліва смажанага, печанага ў нас і не было.

Чысла трэцяга я заўважыў за рэчкай, на ўзвышшы, што ляжала наўскос ад замка, чалавечыя фі-

гуркі і зразумеў, што археолагі, разведка якіх з'ехала незадоўга да майго прыезду, прыехалі ўжо экспедыцыяй.

Вырашыў ісці да іх. Трэба ж было пазнаёміцца з будучымі «калегамі» па рабоце. Тым больш што як давядзецца лазіць — усё адно заўважаць і спатрэбяцца тлумачэнні. Хісткім мостам перайшоў рэчку, адразу зразумеў: узгорак, які ляжыць перада мной,— гарадзішча. Старое, адно з ранніх славянскіх у гэтых краях. Пазней стаяла на гэтым месцы, магчыма, і крэпасць недзе XI—XII стагоддзяў.

Я ўскараскаўся наверх, убачыў звычайную карціну: няроўны квадрат метраў сто пяцьдзесят на дзвесце з узвышэннямі па краях і лёгкім прагібам пасярэдзіне, россып чарапкоў, драбнюткіх, з пазногаць мезенца, вымытых з восені дажджамі, велізарны, зусім яшчэ голы дуб у адным з рагоў пляцоўкі і людзей, якія сядзелі пад ім між раскіданага майна, розных там скрынак, пакункаў, бочак і бог ведае чаго яшчэ.

Было там трое дзяўчат ва ўзросце год дваццаці і хлопец гады, можа, на два старэйшы за іх, якога я адразу пазнаў, бо сустракаліся ў нейкай сям'і. Сядзеў з гітараю ў руках белазубасты, худы, цёмнахваліставалосы і «большие надежды подающий» будучы археолаг Генка Сядун уласнай персонай. А за яго спінаю ўзвышаліся дзве чатырохмесныя жылыя палаткі і дзве палаткі пад інструмент і іншае. На такім фоне Генка ў сваіх страшэнна пацёртых, але сапраўдных тэхасах з мустангам на азадку, у чырвонай чорнаклятчастай каўбойцы выглядаў — «заскучаешь». А дзяўчаткі былі звычайныя, толькі што мілыя па маладосці, з той пароды студэнтак-лабарантак, справа якіх шыфраваць, апрацоўваць матэрыялы, сядзець на раскопе і займацца расчысткай.

— «О, сустрэчы ў джунглях ці на моры»,— убачыўшы мяне, заспяваў Генка.

Быў ён слаўны, між іншым, песнямі ўласнага сачынення, хаця голасу, як большасць сучасных спевакоў, зусім не меў. Але бог з імі, уважаючы на адсутнасць голасу і слыху, сучаснаму спеваку амаль беспамылкова можна прадказаць бліскучую будучыню.

І, дзіўна, чым больш да таго ж дурнейшая была Генкава песня, тым большым поспехам яна карысталася сярод равеснікаў. А так што ж, хлопец як хлопец. Вось і зараз... імправізуе.

О сустрэчы ў джунглях і на моры...
Качка, шторм — гары яно агнём.
На Басфоры ж гэнай гары мора —
Ты меня не спра-рашивай о нем.

— Антону Глебавічу Космічу прывітанне,— ускочыў ён, калі я падышоў.

— Прывітанне і таварышу Генадзю, які імя па бацьку пакуль што не заслужыў.

— Знаёмцеся,— звярнуўся прахвост Генка да дзяўчат,— прыва-т дацэнт Косміч. А гэта Таня Салей, Тарэса Гайдучык, Валянціна Волат. *Наша таўстуха.*

«Волат» быў самы худзенькі і малы і таму засаромеўся горш за ўсіх, а ўсе аж заліліся чырванню: як «вузкія» спецыялісты яны крыху ведалі пра мяне. Трэба іх было ратаваць.

— Ну і вы з ім пазнаёміліся, дзяўчаты. *Наш дурань.*

Дзяўчаты захіхікалі: напружанне было хоць і грубасцю, а знята.

— А хто ж у вас тут начальнік?

— Ну а чаму не я? — абурыўся Генка.

— Такіх шалапутаў начальнікамі не прызначаюць.

— Яшчэ як часта,— зрабіў жаласную міну Генка.— Толькі тады яны адразу перастаюць... шалапутамі. А мне майго шалапуцтва шкада.

— Цябе, ясна, са студэнтамі працаваць паставілі. З такімі ж прайдзісветамі.

— Мы про-ойдзем... Нас дваццаць будзе на раскопе, ды трыццаць школьнікаў наймём,— ён напяваў.— Усе гарадзішчы ўсёй Еўропы мы раскапаем... кетмянём. У прыватнасці, гэтае гарадзішча ранняга сярэдневякоўя.

— Стася Рэчыц у нас начальнік,— ледзь не шэптам сказала «таўстуха», Валя Волат, удзячная мне за дапамогу.— Зараз яна прыйдзе.

Рэчыц? Я, вядома, чуў гэтае імя па некаторых публікацыях, але асабіста яе не бачыў. Ні студэнткай, бо якраз тады часова адышоў ад выкладчыцкай

работы, ні ў апошнія тры гады. Па чутках, яна была ў аспірантуры ў Ленінградзе. А спецыяліст, зноў жа па чутках, добры.

— Унь... падымаюцца,— сказала бляявенькая, кірпаносенькая, жывенькая Таня Салей.— З кім жа гэта?

— Дзед Мультан,— сказала Тарэса, вельмі падобная на Таню, толькі што чарнявая і крыху болей строгая. (Верхавод сярод трох, але сапраўды не «гайдук», а толькі «гайдучык».)

Па колішняму ўз'езду на гарадзішча (а я, дурань, пёрся схілам, ледзь не ўторкнуўшыся носам у зямлю) ішлі два чалавекі. Адзін год сямідзесяці, але яшчэ магутны і вузлаваты, як корч. Калісь, пэўна, высокі, а зараз крыху сагнуты, так што рукі звісалі. А побач з ім ішла лёгкай хадою жанчына ў сіняй сукенцы і такой самай сіняй хусцінцы на галаве.

— Дзень добры,— сказаў дзед.— Мультан маё прозвішча.

— Станіслава Рэчыц.

— Антон Косміч.

— Той?

— Сорамна, але выходзіць, што той. А вы тая?

— Ну, калі заўважылі дзесь, дык тая.

Цяпер я мог разгледзець іх лепей. У дзеда былі сінія, зусім не выцвілыя, вочы, сівая кучма валасоў, доўгія сівыя вусы пры дужа кепска голенай барадзе, нос тоўсты, рот усмешлівы і іранічны.

І пры гэтым мядзведжым абліччы ён яшчэ і гаварыў то тэнарком, то хрыплаватым басам і ўвесь час збіваўся са старэчай саліднасці на нейкую мітуслівасць, нібы ніяк не мог забыць, што ў юнацтве быў шалапутам. Стараўся, і часам атрымоўвалася, але да канца не мог.

Жанчыне, а можа, дзяўчыне — дваістае ўражанне,— магло быць год дваццаць пяць. На дзесяць з гакам маладзейшая. Калі я загінаўся ў вагоне для быдла на перагоне Баранавічы — Слонім, была яшчэ зусім дзіцем.

Тонкія яшчэ рукі з вострымі локцікамі, але развітыя высокія грудзі і ногі доўгія, мускулістыя. Мабыць, шмат хадзіла.

Рухі дакладныя, гожыя. Выраз аблічча і голас прыемныя, мяккія.

І — рыжая. Але была гэта не тая бясколерная, апельсінавая рыжына, што здараецца часцей за ўсё, а быў гэта колер цёмнага чырвонага дрэва, што заўсёды адлівае глыбінным золатам. І скура чыстая, без рабаціння, малочна-белая, зусім без блакітнага адцення, што часта ўласцівае скуры рыжых. Ніякай касметыкі нідзе, ды яна «ў полі», пад ветрам і сонцам, і непатрэбная. І тым больш здзіўлялі натуральна цёмныя бровы і веі ў кантрасце з вялікімі вачыма зялёна-блакітнай глыбіні.

«Ну, досыць пяліцца, Косміч. Гэты пірог не для нас, дый не такая ўжо стаіць цаца перад табою. Бывалі лепшыя».

— Зайдзіце на хвіліну да нас,— паказала на палатку.

— Куды мне туды,— забасіў Мультан.— Я яе звалю.

У палатцы было вельмі чыста і прытульна. Чатыры засланыя тапчаны, чатыры спальныя мяхі ў галовах, галінка ядлоўцу ў вазачцы, брызент падлогі пасыпаны аерам.

— Што ў вас — сёмуха?

— У нас заўсёды — сёмуха.

Я амаль адразу заўважыў у яе прыстрасць да парадку, а пасля, па меры знаёмства, і слабасць да грунтоўных і прыгожых рэчаў. Прычым — танна. Замовіць, напрыклад, мясцоваму ганчару дакладную копію старажытнага збана, гаршка, місы. Аблітых падобнай паліваю. Проста каб прыемна стаялі на стале.

— Ну што ў вас, Антон Глебавіч?

Я расказаў. Без падрабязнасцей, без гісторыі расшыфроўкі. Проста сказаў, што павінна быць пад знакам карабля, недзе пад другой вежай ад кутняй вежы падзямелле. Яна не здзівілася — мала для чаго нейкае там падзямелле можа быць патрэбна гісторыку.

Яна ўзяла шчуп і сказала:

— Ну што ж, хадзем, паглядзім.

Выйшлі на пляцоўку. Мультан — невядома чаго прыцёгся сюды, рабіць, ці што, не было чаго — паплёўся за намі. Часам згінаўся і падбіраў нешта. Заразіўся падчас разведкі чалавек.

— Што за шчуп у вас такі цікавы?

— Паглядзіце.

Шчуп, востраканечны прут, якім зручна мацаць грунт на пясках, быў зроблены ў выглядзе пamорскай шпількі-заколкі. Куты і адзін канец закручаны ў папярочны авал. Каб якраз пралезла рука і добра трымалася ў стальной пятлі. Канчаўся авал вытанчаным завітком.

У другім шчупе канец пятлі-ручкі змыкаўся і, як стужка, тройчы абвіваўся вакол штыра шчупа.

— Сама замовіла. Вось бярыце пакуль гэты. У абодвух па метру даўжыні. Можна мераць глыбіню ў раскопе. І на пясках мацаць зручна,— уздыхнула з усмешкай.— Але галоўным чынам для сабак.

Яны пайшлі па краі гарадзішча. У спіну ім Генка заспяваў прачулым, дурaслівым голасам на матыў «Степь да степь кругом»:

В той степи глухой
И-сто-рик у-мирал.

І пасля невялікай паўзы (як на гэта адрэагуюць):

Перешли жене
Вещи тощие,
Передай ключи
От жилплощади...
А другой жене
О том промолчи,
От жилплощади
Не давай ключи.

Я нагнуўся і падняў камень, але Генка ўжо слізгануў за палатку.

— Што, і сапраўды другой не даваць ключоў? — засмяялася яна.

— Дзякуй богу, не маю такога шчасця ні ў другі, ані ў першы раз.

— Чаго ж «дзякуй богу»?

— А так.

— Чаго ж так?

— Спакайней. Я ўжо гады за плячыма маю.

— Якія там гады,— здалёк, дачуўшы, сказаў Мультан,— якія вашы гады? Унь я, вы думаеце, чаму такі зарослы? Неахайны? Брытвы не маю? Маю. І ў лазню два разы на тыдзень хаджу. А шчэць, як у кабана, бо жонка загадала галіцца раз на месяц. Бо яшчэ раўнуе, зараза.

Ён наблізіўся, і так мы падышлі да краю гарадзішча, адкуль замак наводдаль было відаць, як на плане. Адсюль і разбурэнні было відаць лепей.

— Бурацъ,— ціха сказала яна.— Паступова.

— І дошка здзёртая,— сказаў я.— Валяецца унь у бур'яне.

— Куды яна ўцячэ? — буркнуў Мультан.

— А хто яе ўкрадзе?

— Удзячныя жыхары і ўкрадуць.

— Не дам,— сказаў Мультан.— Я ж вартаўнік. Касцёла. І заадно замка.

— Ну, дзед, вы навартуеце,— сказаў я.

— Ого-го, ды яшчэ як. А дошка? Прыбіць дошку, і як быццам усю справу зрабілі. А дошка — сёння яна ёсць, заўтра няма, буры, Ванюха!

— Мае рацыю,— сказала яна.— Унь была дошка на Ружанах, на беларускім Парфеноне, валяліся ў двары бочкі з-пад мазуты. Няма яе — тыя ж бочкі. Ну дык дзе там кажаце?

— «Другая ад кута».

— Ад якога кута? Дзе той кут?

— І праўда, куты чатыры. Так што практычна пад кожным...

— Практычна на псы твая работа, хлопец,— сказаў Мультан.

— А далей $\hat{S}$ ступ пад знакам карабля,— безнадзейна сказаў я.

— Восем ступ пад знакам карабля,— паўтарыла яна, палічыўшы па пальцах.— Н-на, нягуста.

Мультан калупаў наском бота зямлю.

— Вось што,— буркнуў ён урэшце.— Так ты тут нічога не знойдзеш. Я вось што зраблю. Я табе ўнука свайго малодшага, Стасіка, прышлю. Ён сапраўдны Мультан. І ён з Васільком Шубайлам, сябрам сваім, такія сарвігаловы, што ўвесь замак з галавы да пятак аблазілі. Можа, яны табе ў нечым памогуць.

— Дзякуй, дзед. Ад дзяцей у такіх выпадках сапраўды можа быць болей карысці, чым ад дарослых.

— То ж бо.

— Што ж,— спытаў я ў Сташкі.— Вы капаць пачынаеце? Але ж яшчэ мокра.

— Падрыхтоўка. Пачнём па-сапраўднаму, калі вучняў, у якіх экзаменаў няма, адпусцяць і як крыху падсохне.

— Шаблыка тут ім памог,— сказаў дзед.

— Угу. Варта капаць. У выпадку чаго і вам дапаможам. І заходзьце да нас.

— Што ж, буду рад.

Мы стаялі над адкосам. Вецер ляцеў, з боку замка, ад невялікай ракі. Відаць былі справа і злева ставы, і на левым з іх лялечны адсюль будынак млына. Было шырока-шырока.

— А гарадзішча гэта завецца Белая Гара,— сказала яна.

— Так. Белая Гара,— сказаў дзед.

Да касцёла нам з дзедам было па дарозе. Ішлі, мянцілі языкамі пра тое-сёе. Ля плябаніі кінуўся нам у ногі рыжы пёс, сумесь дварнягі з ірландскім сетэрам. Прыціснуўшы вушы, пачаў ласкава скуголіць.

— Кундаль. Кундаль,— трапаў яго дзед.— Бач ты, бач ты, які тлусты. Як мех. Нічога, на паляванне з табой пойдзем. Скінеш тады тлушч. Пойдзем на паляванне?

Сабака аж скакаць пачаў ад радасці.

— Верыце, прызвычаіўся, зараза, каб яму здароўе, рыбу лавіць. Часам такую здаравенную прынясе. І не ведаю, ці ён нырае пад яе, як вадалаз, ці як. Зайдзіце да мяне,— сказаў Мультан.— Паглядзіце на вартоўню. Вось так кожную ноч. Жонка, дзеці ды ўнукі ў хаце, а я тут. Таму баба галіцца часта і забараніла... Раўнуе, халера.

Вартоўня была самай незвычайнай з вартоўняў, якія мне калі-небудзь даводзілася бачыць. Цэлыя два пакоі. І вялікія.

— Тут уваход асобны,— сказаў дзед.— І ні к сялу ні к гораду гэты асобны ўваход. Кліру паменела, то аддалі пад вартоўню мне. А рэчаў столькі, што ўсе непрыгодныя, ды яшчэ некаторыя з былога палаца таксама ўсе сюды знеслі і скінулі.

Гэта было сапраўды так. У першым пакоі былі грубка, тапчаны, стол і табурэткі, але акрамя таго яшчэ і зламаная фісгармонія, і крэсла з высокай «біскупскай» спінкай, і стары буфет чорнага дрэва (шклы ў ім адсутнічалі, і на паліцах было відаць

конаўкі, шклянкі, чайнік, бульбу і цыбулю россыпам).

У другім пакоі ў куце ляжалі дошкі ікон і рулоны іконных палотнаў, стаяў таксама стол на «арліных» ножках (кіпці арлінай лапы сціскалі шары, на якіх стол і стаяў) і пара інвалідаў-крэслаў.

І ў абодвух пакоях на сценах віселі партрэты. Некаторыя былі прадзёртыя, некаторыя пацямнелі да таго, што амаль немагчыма было нешта на іх разгледзець. А пасярэдзіне аднаго быў круг расплаўленай фарбы: відаць, ставілі вядро з кіпетнем.

А партрэты былі, можа, і не дужа мастацкія, але музейныя. На некаторых відаць было лацінскія надпісы або славянскую вязь.

— Ксёндз сюды перацягваў. Што з хат адкупіў, што на гарышчах знайшоў.

— Палац жа згарэў.

— Гэ-э, не так многа ў тым палацы і дабра было. Сёе-тое паспелі выцягнуць.

— Куды ж яно падзелася?

— А хто яго ведае. Тут перад вызваленнем такое чынілася. А пасля, як немцы ўцяклі, а нашы яшчэ не прыйшлі, было яшчэ горш.

— А што?

— Боўбель-Кулеш разгуляўся. І разабраць нельга было, хто каму галаву скручвае.

— А добра тут у вас. Мне б сюды перабрацца.

— Што, вячоркі ў Вячоркі абрыдлі?

— Ды я й сам магу. Але тут ужо занадта.

— І вось глядзі ты, харошы чалавек, загадчык клуба — пашукаць, дарма што адукацыі не хапае, а вось гэткая паляндра ўчамярылася — і нічога зрабіць нельга.

Уздыхнуў:

— Трэба пагаварыць з ксяндзом. Глядзіш, і мне ўначы не так сумна будзе. Не будзеш жа ўсю ноч хадзіць, часам і пасядзіш... Пагавару... І Стасіка вам заўтра ў дапамогу дашлю. Ён — Мультан, а я ўжо на старасці пачынаю вулічную нашу мянушку апраўдваць — «Пацяруха». Пацяруха старая і ёсць.

Ён вывеў мяне з цвінтара.

— Дзед,— сказаў я, гледзячы на галерэю,— а што гэта пра жанчыну з манахам байкі брэшуць?

І тут дзед пасур'ёзнеў:

— Гэ-э, каб гэта байкі! Праўда. Сам бачыў.

— І ў замку бачыў?

— У замак ноччу не хаджу. Баюся. І ўсе баяцца. Кажуць, і там. А я вось тут бачыў, на гульбішчы. Ідзе нешта светлае, як само святло, а побач цень, нібы сама ноч.

— Ой, дзед!

— Брашу, думаеш? Каб мне са старой і ўнукамі дня не пражыць.

— Спецыяльна прыйду глянуць.

— Яны не кожную ноч. Я аднойчы набраўся смеласці, улез на галерэю (у выпадку чаго, думаю, пальну са стрэльбы). Зніклі. Спусціўся на цвінтар — зноў ідуць.

У хаце я застаў стан ціхага адчаю. У той дзень Зеляпушчанак павінен быў праводзіць брата, які прыязджаў да яго на свята з Данбаса, і яшчэ пры мне яны пайшлі на аўтобусны прыпынак у Альшаны.

Марыя Сямёнаўна, поўная, добрая, сінявокая, была ўся ў слязах і ламала рукі. Невядома чаго, ці ад адчаю, ці таму, што яны ў яе кожную вясну і восень нясцерпна балелі. Была яна ў «цукровым» звяне. А вы ведаеце, што такое цукровы бурак. Ні па сартыроўцы насення, ні па прарэджванню ўсходаў машын пакуль што не прыдумана.

«Трэба будзе прывезці ёй з Мінска гліцэрыну,— падумаў я.— Гэта ж трэба, не чуць пра гліцэрын. А рукі ж такія чорныя, парэпаныя, страшныя».

— Што, не прыходзіў яшчэ?

— Не. Антоська, любенькі, даражэнькі, сустрэнь ты яго, калі ласка, схадзі ты, сынок, у Альшаны, пашукай ты яго.

— Па якой дарозе?

Альшаны вёска доўгая, і таму ў Альшанку з яе вядуць аж тры дарогі. Марыя Сямёнаўна вінавата глядзела на мяне, і я зразумеў, што давядзецца перамераць нагамі ўсе тры.

— Добра. Дайце толькі гумовікі ягоныя і ліхтарык.

— Сыночак. Бога маліць буду. А гумовікі — на. Бо і сапраўды, можа, у поле выбрыў, можа, у Выдраў яр скаціўся, можа, у канаве недзе ляжыць. А па іх жа яшчэ вада з пушчы бяжыць. Снег жа яшчэ, мабыць, у пушчы.

Уздыхнуўшы, я пайшоў ад асветленых вокан у цемру.

Скакаў па дарозе агеньчык ліхтарыка. Я абследаваў Выдраў яр, там, дзе ён падыходзіў амаль да дарогі,— нічога. Перад самімі Альшанамі пацягнуўся лес з густым падлескам. На ўзлессі нешта цямнела. Я павёў ліхтарыкам убок. Ля дрэў стаяў Ганчаронак, відаць, толькі што скончыўшы спраўляць малую патрэбу, і я апусціў ліхтар. Мала прыемнага, калі на цябе свецяць у такі момант.

Здалося мне ці не, што ў гэты момант нешта варухнулася ў хмызах.

А бухгалтар — я чуў крокі — пашыбаваў да мяне, лёгка пераскочыў канаву і стаў побач.

— А-а, Антон Глебавіч,— сказаў прыязна, нібы нічога між намі не адбылося.— А я думаю, хто гэта свеціць. Закурыць не знойдзецца?

— Ёсць, Тодар Ігнатавіч. Вазьміце вось ліхтарык, пасвяціце.

Я ўзрэзаў пачак нажнічкамі.

— Вялікі сцізорык,— сказаў ён.— Усё ёсць.

— Усё. Нават, бачыце, выцягач, каб гільзу з казённіка выцягваць. Паляўнічы нож.

— І ногці можна пастрыгчы. Ну добра, хадзем. Да Альшан побач, усё вяселей.

«Чаго ты пад лес пёрся? Мала табе было прыдарожнага кювета, каб яшчэ цераз яго скакаць ды тупаць па ўзараным? Урэшце, не мая справа. А дарога сапраўды карацей, калі ўдвух».

— Якія справы вас сюды прывялі, Антон Глебавіч?

— Замак буду абследаваць. Цікавая тут адна гісторыя з ім звязана.

— Новая?

— Ды не, дужа старая. Цёмная гісторыя тут трыста з лішнім год назад адбылася.

— А каму справа да трохсотгадовай гісторыі? — засмяяўся ён, відавочна здзіўлены.

— Мне.

— Ну хіба што вам. А тут і нядаўніх хапае. Унь лепей бы Шаблыку спыталі пра падполле, пра гестапа.

— Спытаю і пра гэта. Не мне, дык іншым прыдасца. Тым, што для новай гісторыі існуюць.

— Кгм.

...Назад я вяртаўся другой дарогай. У адным месцы мне здалося, што ў полі за канавай чарнее нейкі кшталт, і я скочыў туды, ды не разлічыў і чарпануў вады вышэй адной халявы.

Не, гэта проста ляжаў кароткі абрэзак бервяна.

— Цьфу ты, чорт! — вылаяўся я ад сэрца.

Я падыходзіў ужо да Альшанкі, і справа ад мяне цьмяна праступалі дрэвы і цямнейшы за ноч чорны сілуэт замка. І тут раптам я спыніўся. Рэзка, быццам знянацку наляцеў грудзьмі на нешта вострае.

У адной з вежаў замка гарэў агонь.

Невялічкі, ён у гэтай цемры здаваўся ружовасінім. І калі я ступіў некалькі крокаў наперад, знік. А калі я павярнуў назад, загарэўся зноў.

«Што такое? Каму спатрэбілася запальваць агонь у гэтай чорнай, мёртвай, як труна — не, мярцвей за труну,— будыніне?»

...У цемры, у закінутай, даўно мёртвай вежы роўна і злавесна свяціў агонь. І нельга было не думаць, адкуль і чаму.

Востра і самотна гарэў уначы агонь.

...Марыя Сямёнаўна ўсё яшчэ была ў слязах. Я крэкнуў, разумеючы, што давядзецца зноў ісці ў ноч, трэцяй дарогай. Сцягнуў боты.

— Дайце, гаспадынечка, сухія анучы.

Бог, відаць, пачуў мае маленні. Ледзь я паспеў абуць боты, як на двары пачуўся рык матора, прабегла па вокнах святло ад фараў, пачуўся ў сенцах тупат, а пасля дзверы адчыніліся і на парозе ўсталі постаці Нічыпара Альшанскага і Рыгора Шаблыкі, якія вялі пад рукі тленныя рэшткі таго, што было пару гадзін таму назад Міколам Чэсевічам Зеляпушчанкам, а па-вулічнаму Вячоркам. Ён быў мокры з ног да галавы і ледзь вязаў лыка. А за гэтай тройцай ішоў настаўнік беларускай мовы Міхась Іванавіч Змагіцель і толькі што не пераастаўляў рукамі «нябожчыку» ногі.

— Вось,— сказаў ён.— У кувеце знайшлі.

Гаспадыня ахнула, заплакала, на гэты раз з радасці, і кінулася разуваць гаспадара, сцягваць з яго плашч, порткі, пінжак.

Агульнымі намаганнямі мы ўзвалілі яго на ля-

жанку, і Марыя Сямёнаўна кінулася па нейкі спіртавы настой, каб расціраць.

— Жоначка, ты ж мне лепей глотку ўсярэдзіне гэтым разатры,— бубніў Вячорка.

— Дам, дам. А божа мой. А дзякуй вам, добрыя людзі. А жывога ж хаця прывезлі.

Я пасмейваўся. Незласлівасць гэтая нагадала мне першае вясковае вяселле, на якім я быў. Паспаць мяне тады адвялі ў суседнюю хату. Я ляжаў, а ў вушах усё яшчэ аднастайна гудзела ўсе тое самае:

А на шэрым кані
У яб-лы-кі
Едзе ў Зосеньчын двор
Мі-цеч-ка.

Раніцай, калі я прачнуўся, у печцы палаў агонь, гаспадыня ставіла туды гаршкі. І тут адчыніліся дзверы і два хлопцы ўнеслі ў хату трэцяга. Адзін нёс ногі, другі — галаву (не плечы, а менавіта галаву), а сярэдзіна звісала самастойна і пагойдвалася, як гамак. І тады гаспадыня пляснула рукамі і зусім без злосці, а толькі з бязмерным здзіўленнем працягнула:

— А-а сы-но-чак мой! А ты ж казаў, што на сваіх нагах прыйдзеш!

Варыяцыю таго здарэння бачыў я перад сабою зараз. Ох і добры ж наш народ да такога! І я толькі падумаў, што калі так будзе далей — давядзецца з'язджаць. З'язджаць ад Вячоркі хаця б да дзеда Мультана.

Вячорка абмацваў здаравенныя гузакі на галаве і мармытаў гаротна:

— Білі мяне. Ой, білі мяне!

Пасля мы даведаліся, што ніхто яго не біў, што яны з братам узялі «пасашок» перад аўтобуснай станцыяй, брат паехаў, а Чэсевіч замест дамоў патупаў рэвізаваць свой клуб і там некалькі разоў ударыўся галавой, а пасля, замест таго каб легчы ў клубе на канапе, папраставаў дахаты.

— Ішоў-ішоў,— мармытаў Вячорка,— надта далёка ішоў. І ў канаву ўпаў... І ляжу ўпоперак... як грэбля... І вады з аднаго боку многа, і яна цераз мяне пе-ра-ліваецца, цур-чыць... І машыны паўз мяне з фарамі «в-ву-у, в-ву-у, в-ву-у». А яны не спыняюцца.

— Угм,— сказаў Альшанскі.— Добра, што нас крыху занесла і святло на канаву ўпала. Ляжыць, сапраўды, як грэбля. І адзін палец часам ад кулака адстаўляе. Гэта яму здавалася — салютуе. На поўны рост і ўсёй рукой.

— Дык мо чарачку, людцы вы мае?

— Сёння не хочацца,— сказаў Шаблыка.

— А вядома ж, мае даражэнькія. Бо гэта ж на гэткага шабадранца нагледзецца, дык век не захочаш.

Яны пайшлі. А Вячорка варушыўся на ляжанцы, увесь чырвоны ад расцірання, і мармытаў досыць бязладна:

— В-ву-у, в-ву-у... А я салютую... А тут цені ішлі... Два... І сталі... Гамоняць... Не бачыць, што побач... грэбля ляжыць... Яйкі каменныя, страшныя... Другая справа за паўночнай вежай... Яйкі...

Блёкат быў незвычайны, але зусім без сувязі, і я ведаў, што заўтра гаспадар і не здолее ўспомніць пра свае начныя прыгоды. Таму я ўзяў ад Марыі Сямёнаўны чарку (мяне ўсё ж крыху марозіла ад прамочаных ног) і выйшаў з хаты, каб ісці ў сваю прыбудоўку.

Глухая, як махровая сажа, ляжала над Альшанкай і, здавалася, над усім светам ноч. Нідзе ані агеньчыка. І толькі наводдаль узвышалася моцна ўсечанай пірамідай асветленая зверху слабым зарывам двух вогнішчаў нямая Белая Гара.

## Раздзел XII

### *Пачатак пошукаў*

Вечарам я вырашыў паехаць на дзень-два дахаты, а да таго часу крыху палазіць па замку і намеціць сякі-такі план дзеянняў. Раніца зноў выдалася свежая, але сонечная. У такую раніцу добра не ў падзямеллі лазіць, а сядзець на прызбе, на сонейку, каб ветрык не даставаў, слухаць пеўняў і думаць аб сім-тым. Але менавіта таму мне і трэба было лезці. Трэба брацца за справу ўсур'ёз. Таму і яшчэ таму, што так трывожна свяціў незразумелы начны агеньчык у вежы замка. Другой вежы справа ад паўноч-

най. А можа, у першай ад яе. Я толькі прыблізна ўстанавіў у якой.

Падлога зберагласся ва ўсіх залах жылых памяшканняў першага і другога паверхаў, але ў вокнах-байніцах ніжняга і ў вокнах другога паверхаў не было ніводнага шкла, і пройма гуляла паверхамі свабодна, уздымаючы з купаў друзу пыл. Філары (калоны, што падтрымлівалі скляпенні) і самі скляпенні былі абураюча і агідна абабітыя. Нішы, у якіх стаяў, відаць, калісьці посуд, вазы ці невялікія статуі, былі поўныя вапеннай крошкі. Нічога цікавага ва ўсіх залах я не знайшоў і толькі пашкадаваў, што цалкам яшчэ прыдатны будынак марнее ў запусценні.

У чатырох абследаваных мною вежах знізу была глухая падлога з магутных каменных квадратаў. Заставаліся чатыры вежы паўночнага боку. У адной уніз вялі каменныя, сцёртыя да апошняга прыступкі, але спуск канчаўся на глыбіні прыблізна трох метраў жалезнымі, таўшчынёй у руку кратамі. На кратах вісеў магутны, вельмі стары цыліндрычны замок з тых, у якія ключ увінчваецца, як гляйсар. І замок і краты былі крывава-чырвоныя ад іржы. Я вырашыў, што наведаюся сюды пазней.

Пад наступнай вежай таксама быў нібыта ўваход у сутарэнне, але завалены каменнымі брыламі, жвірам, вапеннай крошкай і смеццем. Патрэбна была кірка і рыдлёўка. Значыць, і гэты ўваход быў закрыты.

— Антоне Глебавіч! — аддаўся недзе наверсе крык.

Увесь пыльны, я вылез на дзённае святло і ўбачыў прысагнутую постаць дзеда Мультана-Пацярухі, а побач з ёю дзве фігуркі хлопчыкаў год па сем-восем кожны.

— Гэта мой Стасік,— з гонарам сказаў дзед Мультан.

Стах быў дзёрскае ўскудлачанае вераб'янятка. Калі, вядома, уявіць альбіноса-вераб'я. Яшчэ вясна, а ён паспеў ужо ўшчэнт выгараць за выключэннем глыбока-сініх вачэй.

— Ну, здароў, Стах,— сказаў я.

— Здароў, калі здароў,— з саліднай дзёрзкасцю сказаў вясковы Гаўрош.

— А гэта вось сябар ягоны,— сказаў дзед.— Васілька Шубайла. Гэтыя — памогуць.— Васілька глядзеў спадылба. І яшчэ з-пад кучмы гэткіх жа бясколерных ад сонца валосікаў.

— Ну, Васілька, а ты чаго ж гэта такі сціплы ды нясмелы?

— Та-а,— бязгучна сказаў Васілька і ад прысаромленасці пачухаў адной босай нагой другую.

Дзед пайшоў, а мы селі на валуны, каб абмеркаваць план нашай ваеннай аперацыі.

— Ну, хто падзямеллі ведае?

— Трохі,— сказаў Стасік.— Бо да канца іх і сам чорт не ведае.

— А ты, Васілька?

— Та-а,— адказаў той.

— Ну, з такімі арламі я тут горы звярну. І вось што перш за ўсё зробім: учора бачыў я ноччу унь у той вежы агонь. Што б то магло быць?

— Гэт-та трэба скеміць,— разважліва сказаў Стасік.

А вочы загарэліся. І я зразумеў, што стары Пацяруха ў ягоным узросце быў, відаць, такі самы: сумесь саліднага дамавітага мужычка і маладога вастравухага сатыра.

— Ну, чаго сядзім? — сказаў малады сатыр.— Палезлі, не губляйма залаты час.

— Та-а,— сказаў Васілька.— Да-а-ффай...

Дарослы асталоп і два маладыя праз пралом забраліся ў вежу. Усю сярэдзіну яе, аж да першага яруса, займаў слуп ад вінтавой лесвіцы. Але ніжнія прыступкі выпалі. У слупе заставаліся толькі ямкі ад іх.

— Дзядзька Антосю,— сказаў Стасік.— Я першы палезу, а вы за мной. Бо калі я сарвуся, вы мяне ўтрымаеце. А калі вы першы палезеце і сарвецеся — мне ўтрымаць будзе цяжкавата.

Стах палез, як ваверка. А за ім, крыху цяжкавата, палез я, ставячы наскі ў ямкі ад прыступак у слупе.

Падымаліся па спіралі. Вельмі пахвальны занятак для без пяці хвілін доктара навук.

З яруса, з вышыні праз байніцы было відаць Альшанку, і плынь Альшанкі, і палі, і затравелую Белую Гару з маленькімі постацямі людзей на ёй. Унь

нават, здаецца, можна адрозніць Сташку. І Генку. А можа, і блытаюцца, бо ўсе ў джынсах.

Але не гэта нас цікавіла. Ярус, з якога невялікі пралом у вежавым муры вёў на гару былых жылых памяшканняў, быў заселены. Прынамсі, яшчэ зусім нядаўна.

На падлозе некалькі вялізных ахапкаў свежай мякенькай аўсянай саломы. На цагляным выступе мура кроплі стэарыну.

У каміне — попел. Каб даўні — выдзьмула б.

Васілька Шубайла, які спусціўся першы, раптам капануў нагою жвір.

— Ты чаго? — спытаў я.

— Та-а. Пылу няма.

Я, вядома, не заўважыў бы гэтага. А ён ужо выкапаў бляшанку «бычкоў у тамаце». Пустую. З'едзеную нядаўна, бо жыжка яшчэ не высахла.

— Бандзюга,— сказаў Стах.

— Чаму?..

— Ну,— ён няўхвальна паглядзеў на мяне.— І дурному ясна. Каб проста нейкі валацуга — нашто б яму закопваць бляшанку?.. Кінуў бы, і ўсё.

— Маеш рацыю, арол. І добра, што ў вас харошыя вочы.

Пасля мы асцярожна агледзелі сутарэнне пад адной з вежаў. Я баяўся, што здарыцца абвал, і не пусціў туды дзяцей. Але яны ж, яны ж такі зброд, што гнаць іх ад цікавага — дарэмная справа. Як ката ад сала. Пракраліся і пачалі шныпарыць па кутах. І нічога не знайшлі.

І тады я адпусціў сваю гвардыю на некалькі дзён. Папрасіўшы, каб самі не лазілі. Бо яшчэ здарыцца нешта, а тады — як глянеш у вочы дзеду Мультану і бацькам Шубайлам?

...Калі я, пыльны і брудны, ішоў паўз будынак праўлення, старшыня Альшанскі паклікаў мяне з акна.

Звычайны кабінет старшыні калгаса. Доўгі стол, крэслы, партрэты. Па кутах — снапы розных збожжавых, відаць, прэміяваных калісьці, але цяпер, з мінулага года, ужо досыць пыльных. А на крэслах, паабапал стала, Альшанскі і Высоцкі.

— Дзень добры, Нічыпар Сяргеевіч... Дзень добры...

— Ігнась Якаўлевіч,— схіліў галаву Высоцкі.

— Сядайце, Антон Глебавіч,— неяк занадта... ну, нібы прабачэння просячы, сказаў Альшанскі.

Мы маўчалі. Гаварыць, уласна кажучы, не было пра што. Пасля старшыня крэкнуў:

— Вы вось што, Косміч. Плюньце на тое, што тады было. І на яго,— ён матлянуў галавою некуды, і я зразумеў, што мае ён на ўвазе Ганчаронка.

— Чаму?

— Не вартая гэта справа, бязглуздая... Ну нашто нам каты драць?

— Баіцеся, што нагарыць? — проста спытаў я.

— Баяцца? Не. Але непрыемна. І, рацыю маеце, нагарыць. Чаму не адмаўляўся, выконваючы бязглуздыя загады... Праўдзівей, чаму дурныя парады слухаю... А Ганчаронак зараз таксама дзесятаму засцеражэ. Дошку мы знайшлі. У бур'яне. А думалі, што зняў нехта з раёна ці вобласці, што каштоўнасці гэтая руіна не мае.

— А хіба так бывае, каб без ведама мясцовых?

— Анягож,— сказаў раптам Высоцкі.— Унь старшыня вопытам ездзіў мяняцца пад Давыд-Гарадок. Дык там лотры нейкія таксама дошку знялі. І таксама ўсё гэтак, як мы падумалі.

— І разбіраць пачалі ўжо царкву. Але тут настаўнік гісторыі з Мінска пазваніў, і такі тарарам узняўся, што ў раёне ледзь адбрахаліся, што, маўляў, старую знялі, бо праржавела, і новую трэба ставіць,— сказаў змрочна Альшанскі.

— І нікому ў галаву не цюкнула,— сказаў я,— што ані хвіліны без аховы, што старая павінна вісець да новай?

І сам зразумеў, што нікому.

— Ну а Ганчаронак што ж? — спытаў я.

— Ат,— махнуў Альшанскі рукою,— хоча ўсё жыццё геранчным «гестапаўскім» перыядам жыць. Ён і падтрымаў мяне, калі я завагаўся на хвіліну, а ці варта ў той бандуры праход бурыць. Кажа: «загад»... Але — плюньце. Тым больш, такое здарылася пры гэтым. Але лекары ў нас добрыя...

— Плюну.

— Ну а куды вы сёння?..— спытаў старшыня.

— Вось памыюся да пайду на аўтобусны прыпынак. Хачу на пару дзён у Мінск.

— Нашто? Гэта вы адтуль можаце да Кладна, а адтуль аўтобусам,— сказаў старшыня,— зручней да станцыі. Езна. Дваццаць кіламетраў — і проста на Мінск.

— Нічога сабе зручней.

— Дык сёння туды наш грузавік паедзе, машыны прымаць. І вось Ганчаронак паедзе, Высоцкі, Шаблыка. Шаблыка па школьныя прылады. Загадзя. На будучы год. Мы гэтага «ўзахапы і напярэймы» не любім. Даедзеце якраз да цягніка вячэрняга. Дый на будучыню, вось Высоцкі, наш «возны», прашу шанаваць. Кожны дзень у Альшаны, у іншыя месцы па акрузе, кожныя два-тры дні — на станцыю. І «казёл» ёсць і «Масквіч», а часам даводзіцца й так «аўсянай парай».

Уздыхнуў:

— Падманула нас чыгунка. Дайшла калісь да Езна, а пасля вільнула на паўночны захад і пайшла, пайшла ўсё далей, аж да Кладна. А адтуль аўтобусам — самі ведаеце. А каб да нас — быў бы ўжо, можа, някепскі гарадок.

— Калі будзе магчыма — скарыстаюся.

...Праз гадзіну Шаблыка, Высоцкі, Ганчаронак і я ўжо трэсліся ў кузаве грузавіка.

Ніхто не захацеў лезці ў кабіну да шафёра, бо майскі надвячорак стаяў надзіва цёплы.

Я ўспомніў словы з той паэтычнай легенды:

> Слуцкай брамай начною таемна яны уцякалі:
> Месяц у хмарах нырае, а хмары імкнуць, нібы хвалі.

— Слухайце, Шаблыка, ёсць у замку Слуцкая брама? І чаму — назва? Брама ж адна.

— Ёсць. Праўдзівей, была. Слуцкая, або Нясвіжская. Адтуль калісь вёрст праз дзесяць была паваротка на Нясвіж — Слуцак. Пасля яе цэглай заклалі. Як і другую. Адна толькі трэцяя засталася. Галоўная. Слуцкая — гэта другая з таго боку, што супраць Галоўнай.

Зараз я быў амаль упэўнены, што гэта менавіта ў ёй гарэў начны агеньчык, бачны з аднаго пункта дарогі. І ў суседняй уваход у падзямелле.

— З тым бокам, напэўна, і ваенная гісторыя

звязана,— сказаў Шаблыка.— Дошку ў пары кіламетраў ад вёскі бачылі?

— Бачыў.

І сапраўды, стаіць невялічкі абеліск з шэрага бетону, і ў яго ўмуравана мармуровая дошка:

*«На гэтым месцы пахаваныя*
*чатырыста савецкіх грамадзян,*
*па-зверску забітых*
*15 ліпеня 1944 года*
*нямецка-фашысцкімі захопнікамі.*

Вы стаялі да скону,
Як гэта належыць людзям.
Спіце спакойна,
Радзіма пра вас не забудзе».

Езна было той невялічкай станцыяй (мала іх пасля вайны засталося на Беларусі), дзе і дагэтуль на будынку вісіць звон, у кветніку з аднаго боку высяцца таўшчэзныя таполі, а ў маленькай зале чакання цьмяна і душна, і плача, канькае невядома чыё каццяня.

...Калі злезлі з грузавіка, у мікраскапічным станцыйным пасёлку ўжо заміргалі першыя агні. Высоцкі з Ганчаронкам пабеглі па сваіх справах (умоўлена было на позні час), а Шаблыка, у якога ў Езна былі прыяцелі, перш чым ісці да іх начаваць, а заўтра з раніцы ўзяцца за работу, пакурваючы са мной на пероне, глядзеў удалячынь, за далёкі агеньчык светафора.

— Вось чаму гэта так, Антосю, што ў юнацтве да цягніка гуляць хадзілі, як на баль?.. Нейкае іншае жыццё побач пралятае... Не наша... Можа, прыгажэйшае, а можа, такое, што сабаку не пажадаеш. А зараз не цягне. Сядзеў бы і сядзеў на сваім месцы.

— Мохам абрастаем, Рыгор. Старэем.

— Відаць, так... Дык што ты там, Антосю, казаў пра галаваломку?

Я ў самых агульных рысах расказаў яму аб усім, не згадваючы, вядома, ні пра лёс Мар'яна, ні пра кнігу, ні пра змест напісанага, ні пра ўсю катавасію, якая раптам узнялася вакол легенды трохсотгадовай даўнасці.

Шаблыка задумаўся.

— Нешта ва ўсім гэтым ёсць,— урэшце сказаў ён.— Але ўсё адно нічога не атрымаецца. Ты не ведаеш таўшчыні і даўжыні кійка.

— Ну, «начаткі», як казаў неўміручы Якуб, і мы ведаем,— сказаў я.— Матэматыкі ў сэнсе.

— То што, блізкі да разгадкі?

— Досыць блізка.

— То маўчы ты тады, хлопе, і нікому — ані. Каб іскры з цябе не было чым выбіць. Справа нейкая... паскудная... Нечалавечая нейкая справа.

— Што ж, Антон Глебавіч,— «изрек», падыходзячы, Высоцкі,— давядзецца вам хочаш не хочаш, а ехаць са мной да наступнай станцыі.

— Чаго? — здзівіўся Шаблыка.

— А, чорт на яго, кладаўшчыка... Дамаўляліся — не, пацёгся некуды ў суседнюю вёску. Нейкае там ці вяселле, ці пахаванне.

— То што вы? — спытаў я.

— Ганчаронак тут застаўся, а я да яго сваякоў ісці не захацеў. Паеду да Польнай. Там сябар, у яго пераначую, а першым ранішнім — сюды.

Падкаціў цягнік. Вогненным змеем з чужога свету. Прамільгнулі ў вагоне-рэстаране занадта ўзнёслыя воблікі мужчын і занадта гожыя пастаці жанчын. Некаторыя былі з келіхамі ў руках. І ўсе глядзелі на гэты асветлены лапічак зямлі, перад якім доўгі час была цемра — з рэдкімі агнямі сярод палёў — і пасля якіх, яны ведалі гэта, зноў на доўгі час будзе цемра.

— Гэй, тубыльцы! — загарлаў нейкі «піжамны» з падножкі.— Тут у буфеце піва няма?! Бо ў вагоне скончылася!

І тут я здзівіўся выразу жорсткай, неўблажымай нянавісці на твары Высоцкага. Такім звычайна лагодным і заўсёды добрым твары.

— Такім, як ты, няма, прыхадзень,— працадзіў ён.— І ўвогуле, каці,— гэта ўжо ўголас,— табе люру[1] глахтаць. Або ўвогуле г...

Жыццярадасны «прыхадзень» жыва забраўся назад у вагон, як слімак у сваю ракавіну. Можа й, паспрачаўся б, але ўбачыў — стаяць трох. Хаця я і Шаблыка былі тут ані сном, ані духам...

[1] Lura (*польск.*) — памыі.

...Калі мы селі ў амаль пусты вагон і зусім пустое яго аддзяленне, я спытаў Высоцкага:

— Ну чаго вы яго так?

— Ат,— усё яшчэ сапучы, сказаў ён,— ты тут калаціся чорт ведае куды, вяртайся на досвітку назад, а ён — «тубылец». А колькі ж тут памерзнута, колькі памокнута, пастраляна колькі, пабіта...

— Рацыя,— сказаў я.— Я таксама аднойчы ехаў. Лістапад. Золь. Прысмерак. Пейзажы паабапал чыгункі, самі ведаеце, якія пасля немцаў. Ну стаім, курым у тамбуры. І тут нейкі маёр глядзіць на туман ды дождж і кажа: «Правільна немцы гэтую краіну «шайзэланд» называлі». Я тут не вытрымаў: «Калі табе жонка са мной ці з кім іншым рогі наставіла, то не крычы пра сваю ганьбу. Калі слабак, то такой зямлі не лай»,— і не стрымаўся: «А калі ты зараз не зробіш, як кажуць твае нацысты, «хальт маўль»[1], то я зараз дзверы адчыню і цябе — з поўнага ходу пад адхон выкіну...» Ён чамусьці заторкнуўся. Пайшоў да сябе.

Морда мая, відаць, нават пры адным успаміне зрабілася незвычайная, бо Высоцкі глядзеў на мяне, нейк занадта прыглядаючыся.

А мне стала раптам сорамна і ўспаміну, і таго, як я тады расхваляваўся.

Цягнік калаціла на сутыках. Высоцкі адвёў вочы, таксама расхваляваны.

— А чаму вы тут возным? — спытаў я.— У вас жа нейкая асвета ёсць. Гледзячы па мове дый манерах.

— Ну, раз усе Альшаны ведаюць па плётках і ўсё адно раскажуць, то лепей ад мяне.

— Верна. Плёткі ў такіх мястэчках да страшнага суда дажывуць.

— Асвета, ясна, так сабе. Чатыры класы польскай гімназіі. Вышыблі за ўдзел у патрыятычным гуртку. А пасля — вайна.

— То падвучыліся б недзе на бухгалтарскіх ці нейкіх агранамічных там курсах.

— Не. Усё-ткі і той і той — фігуры на сяле. А я гэтымі складанасцямі па вушы наеўся. Траюраднага брата палякі павесілі перад самым вераснем.

— За што?

---

[1] Заторкніся *(ням.)*.

— А бог яго ведае. Я з ім амаль незнаёмы быў. Нібыта забіў правакатара, а тыя падстроілі справу так, што забойства крымінальнае. Ну і ясна, можа, хто і заступаўся, а шырокая грамадскасць — не... Другі, стрыечны, расстраляны немцамі за падполле проста на вуліцы. Хто кажа ў Кладна, хто кажа, што вывезлі ў Беласток. Так што бачыце, нашаму брату куды ні кінься. Лепей я ўжо тут. Спрос, як рускія кажуць, малы, адказнасці няма. Ціха — і гары яно ўсё.

## Раздзел XIII

*Нарада двух кавалераў, аднаго ўдаўца і аднаго жанатага*

Раніцай я пазваніў у Кладна Максіму Смыцкаму, аднаму з лепшых, калі не лепшаму, знаўцу горада і гісторыі яго і наваколля. І, на шчасце, застаў яго дома.

— Слухай, Максіме, ты гісторыю з Альшанскім замкам чуў?

— Дружа, ты мяне за дзіця лічыш. Хутка пасадзіш за парту і прымусіш вучыць...

— Што?

— Ну, «сам сабе катлетку смажыў і запэцкаўся ў сажу» або «ў Мані верны быў баран, сабаку вярнейшым не быць: куды б дзяўчынка ні пайшла — баран за ёй бяжыць».

— Угм. Ты яшчэ ўспомні «Anna und Marta baden». Замак у Альшанах бурыць хацелі...

— Хто?.. Ах, сек тваю векі... Хто?!

— Гэтага сказаць не магу. Слова даў. Абяцалі не расцягваць. То вось ты як «ахова помнікаў культуры» пра гэта помні і пры выпадку настраш. Дошку новую павесьце.

— Ах чорт! І яшчэ легенда за ім такая прыгожая. Халлера!

— Магчыма, яна і мае пад сабою нейкі грунт.

— Які?

— А ты пра бунт Валюжыніча чуў? І пасланне біскупа Кладзенскага?

— «В лесу родилась елочка».

Ён быў вельмі падобны да Мар'яна. Гумар у нас амаль ва ўсіх адзін: гумар эпохі і яе манера жартаваць. І ўсё ж ён быў не тое, не тое. Хаця і энцыклапедыя на дзвюх нагах.

І тут мне нешта цюкнула ў галаву:

— Максіме, што ты знаеш аб расстраляных у апошні дзень немцамі ў Кладна?

— Ёсць такі помнік. Стэла, праўдзівей. Толькі тут іх палову нібыта расстралялі. Частку далей, пад Беластокам. І невядома, каго дзе. Расстраляныя былі палякі і беларусы. Ва ўсякім разе, і там і там адэкватныя і двухмоўныя стэлы.

— Тэкст памятаеш?

— Памятаю, але лепей, дзеля вернасці, па картатэцы.

Хвіліна паўзы.

— Ёсць, слухай,— і далей тэкст.

*Tu spoczywają zwtoki*
*22 bojowników Ruchi Oporu,*
*zamordowanych przez hitlerowców*
w dzień *17.VII. 1944*

І далей пералік прозвішчаў:

*A. Obłocki z Krakowa.*
*P. Romski... . . . .*

Яшчэ прозвішчы і пасля, як апошняе пацвярджэнне:

*I. Stankiewicz z Olszan.*
*W. Wysocki z Kładna*
*oraz 17 osób nieznanych.*
*Cześć ich pamięci.*

І ніжэй па-беларуску:

*Тут спачываюць астанкі*
*22 байцоў Руху Супраціўлення,*
*замардаваных гітлераўцамі*
*ў дзень 17.VII. 1944 года*
. . . . . . . . . . . . .
*А. Аблоцкі з Кракава.*
*П. Ромскі... . . . . . .*
. . . . . . . . . . . .

*І. Станкевіч з Альшан.*
*В. Высоцкі з Кладна,*
*а таксама семнаццаць чалавек невядомых.*
*Вечная слава памяці герояў.*

— Дзякуй, Максіме. Да сустрэчы.— Я павесіў трубку.

Чаму мне стукнула ў галаву спытацца пра гэта? У гісторыі гэтай усё было загадкай, і таму даводзілася прыглядацца да ўсіх. Што азначаў чалавек пад вокнамі? Выпадак у музеі? Усыпленне сабак? Забойства (так, я падсвядома ведаў, што то было забойства, і нават жадаў гэтага, іначай гэта была б занадта дурная смерць)? Запіска, напісаная маёй рукой? Дзіўныя і дзікаватыя людзі ў Альшанцы (а я ўмудрыўся праверыць: ніхто з іх ужо два месяцы не быў у нашым з Мар'янам горадзе)? Урэшце, уся гэтая гісторыя са старой легендай, і дзіўная яе сувязь з сучаснасцю, і дзіўны паварот старой казкі. Ды і ўвогуле, куды мог падзецца такі чалавек, як Валюжыніч? Хаця. Мог жа Кучум пасля апошняга разгрому пагнаць каня, і сляды яго, як кажа вялікі гісторык, «загубіліся ў цемры гісторыі». І гісторыя гэта — мая гісторыя, а не тая — дужа паскудная, дужа шмат у чым страшная гісторыя.

Вельмі мне не хацелася ісці да Хілінскага, але трэба было. Можа, даведаўся чаго ад Шчукі? Але я цягнуў і цягнуў. Выйшаў да «Святога Герарда», купіў цыгарэт, на гэты раз «Шыпка» была, а «БТ» толькі адзін блок. І за гэта дзякуй добраму чалавеку, што прыберажэ.

— І надоўга, таварыш Косміч?

— Ды не, дні на два, а там зноў...

— Усё шукаеце? — пытае ён.

— Шукаю.

— Бывае, што і знаходзіце?

— Бывае, што й знаходжу... Часцей за ўсё знаходжу... Тут лобам і азадкам трэба мур прабіваць.— Я цягну візіт да Адама як магу.— Дурная справа няхітрая.

— Угм. Тады ў гэтым горадзе тры чвэрці такіх, «няхітрых».

Я ўсё ж іду на галгофу. І калі Адам адчыняе

мне дзверы, мяне, як у лоб чакухай. Той, што па абуху сякеры б'юць, калі яна завязне ў пні.

...сядзяць за сталом і чаёк папіваюць палкоўнік Шчука і Росцік Грыбок. Мяне ад гэтай ідыліі ўдарыла, нібы аб мур. І адначасова зноў узнік жах. Праўдзівей, ён жыў увесь час. Жах перад той запіскай. Перад уласным почыркам. Шчыра кажучы, ні да таго, ні пасля я, у самых складаных абставінах, не баяўся. Але адна справа забіць на вайне, у вулічнай бойцы з вулічным дзярмом, у стане афекту. І зусім іншая справа, калі вашывыя грошы ўстаюць паміж табой і другам, калі чалавек за спадчыну забівае адзінага друга. Так подла выбавіўшы яго з дому.

Толькі тады, калі людзі — усе — зразумеюць гэта, толькі тады прыйдзе справядлівасць. Да гэтага яе марна чакаць.

— Што гэта ў вас гаворка і шумна, нібы ў лазні?

— Гулка,— нечакана сказаў Грыбок,— як у лазні або ў зале для наведвальнікаў у 9-й клініцы.

— А што, і там пабываў? — спытаў я.

— Пабываў. Але там ляжаць — гэта прабач мне божа...

І праўда, куды ён туды, такі Грыбішча? Дурное меркаванне.

— Я ўсюль пабываў,— сказаў Росцік.

— Ну на Паўночным полюсе не быў,— сказаў я.

— Досыць вам,— раптам адрэзаў Шчука.— Вы што, не бачыце, што ён нежывы ад прадчуванняў? Гэта ўжо ў нас, мясцовых дурняў, звычка дасціпнічаць ледзь не пад сякерай.

— Праўда,— прызнаўся я.— Часам страшэнна баліць галава. Праявы нейкія дзіўныя ў сне.

— Паратаміўся ты, хлопец, адпачні, паспі, паплавай, закахайся,— сказаў Шчука.— Кінуў бы ты гэтую справу. Выедзенага яйка яна не варта. Падумай, што тут да чаго. Дзе плес, а дзе лес? Дзе пасцель, а дзе касцел? А каб заспакоіцца — скажу: почырк не твой, Антось. Экспертыза графалагічная. Амаль не адрозніш, але не твой. Папера — твая.

У мяне закруцілася ў галаве. Яна за апошні час так трашчала, што я баяўся, а раптам гэта я ў забыцці чагосьці нарабіў. Таму на апошнія словы я не адрэагаваў.

— Хто ў дом хадзіў? — сказаў Шчука.— Хто ведае почырк?

— Ну-у бацька... цётка... Вы... Ну, суседзі... Мар'ян... Зрэдку калегі па працы.

— Адпадаюць.

— Ну на жанчын не падумаеш,— раптам сказаў Хілінскі,— дый была яна адна. І зараз яе няма.

Я ўдзячны быў яму, што не даў мне назваць імя Зоі. Апошняя гэта справа мужыку каціць бочкі на жанчыну, якая была з ім.

— Добра,— сказаў Шчука.— Гэта, напэўна, не звязана з усімі падзеямі, твая старая байка. Дарэчы, вазьмі кнігу і — вось тут на кальку зроблена некалькі копій... Арыгінал пакінем у сябе. А што ў цябе новага?

Я коратка расказаў.

— Вось гэта ўжо цікава,— сказаў Шчука.— І галоўнае, мы самі не ведаем пра расстраляных, хто, за што і як. Калі нешта цікавае даведаешся — гавары вось з ім,— кіўнуў на Адама.— А сам сваёй справай займайся.

Эге ж, так я і магу заняцца толькі сваёй справай.

— А пра таго Высоцкага, што ў трыццаць дзевятым павесілі,—цягнуў далей Шчука,— то я памятаю той працэс. Адзін з найбольш шумлівых. І сапраўды, казалі — падкладка палітычная. А больш нічога не ведаем. Архіў згарэў.

Я зноў наліў сабе вады і выпіў.

— Чаго ты п'еш, як з пахмелу? — спытаў Хілінскі.

— Нешта смага апошні час мучыць. І ў галаве дзіўны туман... Ну, а як наконт тых, расстраляных? А наконт тых, што забілі ў Кладна?

— Кажу табе,— сказаў Шчука,— архівы згарэлі. Архіў суда — згарэў. Пра Варшаву і казаць няма чаго. І кладзенскі архіў гестапа таксама невядома дзе. Згарэў? Ці не схавалі толькі самі немцы. Вывезці не паспелі. Занадта хутка нашы ішлі.

— Лічы,— умяшаўся Росцік,— 26 чэрвеня Віцебск, 27-га — Орша, 28-га — Магілёў, 3 ліпеня — Мінск, напярэдадні — Вілейку. Бачыш, як абкруцілі, абклалі. Тваіх кладзенскіх расстралялі 17-га. Ну, а Кладна мы ўзялі 18 ліпеня. І значыць, маглі не паспець тыя вывезці архіў і нарабаванае ведамствам Розенберга.

— А што ты рабіў, што быў скандал у Альшанцы? — Хілінскі круціў у руках адну з істужак.

— Замак фатаграфаваў,— змрочна сказаў я.— Выдам пасля плёнку японцам.

— Прыціснуць табе калісьці твой доўгі язык,— буркнуў Грыбок.

— Не прыціснуць,— сказаў палкоўнік.— Таму з ім і дзелімся. Таму і размова з ім ідзе тут, а не там... Нягледзячы на некаторых.

— Стужка гэтая не палімпсест[1],— раптам сказаў Хілінскі.— Выскаблівалі пергамент па нейкай другой прычыне.

— Маскіравалі нешта? — спытаў Грыбок.

— Хто ведае? І думаю, што, можа, клей, якім прымацоўвалася стужка да прадмета,— пахмура сказаў Хілінскі.— Толькі што гэта за прадмет? Дзе яго знайсці? — І дадаў, гледзячы на тое, як я зноў п'ю ваду: — Усё ж думай і ты, Антось. Замест рэбуса.

— Я той рэбус ужо і без прадмета разгадаў. Мяркую, правільна.

— Схіляюся да тваёй думкі, Антось, што тут ёсць нешта,— сказаў Адам.— Наўрад ці чалавек не зашыфроўваў бы нешта не важлівае. Але... не лезь занадта ў справы Андрэя і унь... Росціка. Твая справа — гісторыя. Твая справа — вось гэта. А ты яму часам падай толькі тое, што палічыш як патрэбнае... І яны табе патрэбнае скажуць... Што цябе тычыцца. Дапамогуць. Але дапаможаш пасільна і ты.

І ён з націскам сказаў:

— Калі вырашаць за патрэбнае заняцца справай.

— Смерць майго Мар'яна — і не палічыць за патрэбнае?..

— Бо гаварыць пра свае справы з іншымі,— перабіў ён мяне,— яны не любяць. А часам проста не маюць права. І ты іх не вінаваць. Не лезь да іх, а яны — да цябе. Калі нешта сур'ёзнае здарыцца — разбяруцца самі.

Я быў ледзь не ў ярасці, хаця й халоднай. Не лічыць за сур'ёзнае — такое?

— Не лезь ты ў бутэльку,— сказаў Шчука.— Калі гэта было забойства — рана ці позна яго раскапаюць.

[1] Пергамент, на якім адзін тэкст выскаблены, а паўзверх яго напісаны другі.

— Хто гэта раскапае?
— Мы.
— Што ж, памагай бог,— суха сказаў я.

Хілінскі выйшаў мяне праводзіць. Стоячы на гэтай занюханай пляцоўцы, размаўлялі.

— Слухай, што гэта абазначае, тваё В?
— Тры,— сказаў я.
— Гм. Ну добра. І вось што, паспытай, хто такі Боўбель. Банды якога ў вайну і пасля вайны каля Альшан хадзілі.
— Што, так важна?
— Шчука лічыць.
— Тады можна.
— Лухта нейкая атрымоўваецца з гэтай палосай,— сказаў ён.— Акрамя вось тут: «Слуцкай брамы» і слова «смага».
— Чаму так?
— Не ведаю... Ну а як, рыбка там у вас ловіцца?
— Не ведаю,— у тон яму адказаў я.
— Спытай, калі ловіцца, можа й, я да цябе пад'еду. А што яшчэ рабіць пенсіянеру?
— Ведаеш, пенсіянер,— сказаў я.— Каціся ты да такой матары...
— Качуся,— усміхнуўся ён і зачыніў дзверы.

## Раздзел XIV

*Пра вар'ятаў і дробязі,*
*якія не вартыя і выедзенага яйка*

І зноў калоціць машыну па дарозе Езна — Альшаны.

Калі гэта можна, вядома, назваць дарогай.

Але археолагі не скардзяцца. І Шаблыка са Змагіцелем. І Высоцкі з Ганчаронкам. Аднаму толькі мне здаецца, што на такой дарозе адно масла збіваць. І я нават не ведаю, пашанцавала мне ці не, што ў акно цягніка я ўбачыў усю кампанію на пероне (выгружалі нешта) і ў апошнюю хвіліну, ледзь не на хаду ўжо, скочыў.

Можа, мне было б лягчэй, каб не тое, што ў мяне за апошні час такі цяжкі сон і такая страшэнная смага.

Нешта са мною робіцца няладнае.

— Калі гэта, хлопцы, перастанем мы трэсціся па гэтых дарогах? Дарогі і дарогі,— не вытрымліваю я.

— Ляжаш пад хвойку — тады і не будзеш калаціцца,— змрочна кажа «каўбой» Змагіцель.

— Часам думаеш, можа, яно і лепей бы,— уздыхае Ганчаронак.

— Тыповы беларускі погляд на рэчы,— іранізуе Шаблыка.— Што за жыццё?.. Раніцай уставай, вечарам кладзіся, уставай — кладзіся, уставай — кладзіся. Во каб гэта лёг ды не ўстаў.

Усе рагочуць. Не дужа весела. Такі ласкавы і нейкі сумны майскі вечар, што хочацца верыць адначасова ў вечнасць і ў тленнасць жыцця.

— І сапраўды вось так,— кажа настроены на лірычны лад Ганчаронак.— Адтрубіў нейкія год шэсцьдзесят — і гамон. І каму тады справа, колькі твае косткі праляжалі ў зямлі? Праўда ж, пані Сташка?

Вецер калоціць пасмачку яе каштанавых валасоў.

— Глупства вярзеце, мужчыны,— раптам кідае яна.— Да ўсіх костак жывым людзям ёсць справа. Іначай, гучна кажучы, не былі б мы людзьмі. Ёсць такі ў нас саматужны спосаб вызначаць, выкапнёвая гэта костка, дужа даўняя, першабытная або параўнаўча новая. Дакраніся языком. Калі ліпне — значыць, выкапнёвая. Я ўпершыню аспіранткай гэта пачула, на пасяджэнні сектара археалогіі. Ну і вырашыла паспрабаваць. Рогат стаяў на ўсю залу.

— Гэта што ж, і чалавечыя ліжаце? — спытаў Высоцкі.— Вар'яцтва нейкае. Гідка ж.

— Што з таго? — азваўся Генка.— Калі костцы мільён год. Яна тады чысцейшая, чым у нас рукі. А я ж во сваім дзяўчатам аж рукі ліжу, калі чагосьці рабіць не хочацца.

— Калі гэта? — абурылася Валя Волат.— Ды я табе і не дала б руку, нават калі б сабраўся лізаць.

— Таўсту-уха,— з пагрозаю сказаў Генка.— Ой, вушы надзяру.

— Гэта мы табе арцеллю надзяром,— сказала Тарэса.

— І праўда,— падтрымала яе Сташка.

— А па-мойму, дык усё адно,— сказаў Ганчаронак.— Што там да старых костак? Пра свае трэба

думаць. Тым больш што яшчэ невядома, каму было лягчэй косткі па зямлі насіць, нам ці ім. Войны тут, лагеры, хваробы розныя завяліся. Унь хаця б пагля-дзіце на чэргі ў дантыстаў. А я аднойчы ў музеі на макеты старых магільнікаў глядзеў — дык такія ва ўсіх зубы белыя.

— Нам лягчэй косткі насіць,— сказала Сташка.— Сачыце за зубамі, давайце ім работу — і не патрэбен вам будзе дантыст.

— А яны сачылі? — з падколам спытаў Тодар Ганчаронак.

— А ты спытаў у іх, колькі яны жылі? — рэзка павярнуўся да яго Шаблыка.— Ну, Сташка...

— Рэдка хто дажываў да сарака,— сказала яна.

— Таму і зубы белыя, як у сабакі,— вызверыўся Шаблыка.— Ты таксама супраць сабачага колькі жы-веш? Вось і з'еў зубы. Вось табе і адказ: каму па зямлі лягчэй косткі насіць. А калі чалавек зараз не дажывае да сарака, гіне на вайне, гіне ў печы, гіне ў рове — гэта не жыццё віна, гэта віна іншых...

«Чаго счапіліся? — падумаў я.— Як вар'яты ўсе».

І тут, па аналогіі, а таксама таму, што размову трэба было перавесці ў іншае рэчышча, я сказаў Высоцкаму:

— Вось Лапатуха. Хіба ён вінен у тым, што такі? Людзі зрабілі. Праўдзівей, нелюдзі. І што памрэ, можа, рана — таксама яны.

— Не кажы,— сказаў Ганчаронак,— можа, яму так проста зручней. Каб не чапляліся... Знікае часам на некалькі дзён.

— Угм,— звярнуўся да яго Высоцкі.— Памятаеш Рохлю — вар'ята? Кім ён пасля, пры немцах, выявіў-ся? У адной машыне з шэфам кладзенскага СД ехаў. Вось як, мае вы галубочкі.

— Кінь,— раптам не вытрымаў і я, адчуваючы, што змена тэмы нічога не дала, што не адчапіцца нам ад тэмы вайны і людскіх пакут.— І не вярзіце на пакрыўджанага чалавека. Самі казалі, што нешта бачыў і... Ды ўрэшце самі памятаеце, як ішлі мы паўз млын, а ён мяхі насіў. І сабакі за ім.

— Праўда.— Шаблыка раптам засмяяўся.— І ад-на, відаць, помесь з таксай. Падобная на пыласос «Ракета».

— Кепскі смех,— сказаў я.— А ён убачыў нас

і крычыць: «Сышчык пракляты! Падводка гіцляў! Замак яму? Сышчыкам выдаць! На след навесці! Ну, пачакай! Мы табе!» Хто гэта мы? Хто з нас падводка? Ты, Тодар? Шаблыка? Высоцкі? Я?

— Псы за сволаччу хадзіць не будуць,— строга сказала Гайдучык.— Бо адчуваюць, хто іх любіць, хто нязлосны.

— Глупства,— раптам сказаў «каўбой».— Гітлер унь таксама любіў сабак і дзяцей. Ды справа ў тым, што любіў ён выключна нямецкіх сабак і нямецкіх дзяцей. Дый то далёка не ўсіх. Іначай не блукалі б у нас па лясах лагерныя адзіночныя псы і не плакалі б нямецкія дзеці...

«Не, яны ўсё ж атручаныя вайной. А можа, у гэтым і ёсць сакрэт усіх апошніх падзей? Айнзацкаманда? Высяленне вёскі? Помнікі расстраляным? Хто ведае? Усіх зачапіла. Нават Ганчаронка з яго з'едлівай дабрадушнасцю. Нават Высоцкага. А Лапатуха? Мо сапраўды не вар'ят? І праўда, чаму знікае?»

...Ішлі мы да Альшанкі ўжо ў цемры. Астатнія пайшлі другой дарогай, і толькі нам з Высоцкім выпадала ісці разам.

— Так,— зноў завёў ён сваю шарманку,— і чаго яны ўсе счапіліся? Па-мойму, дык жыві ціха, хоць фурманам, і нікуды не лезь.

— Дарэмна. Вы чалавек з розумам. І пэўным імкненнем да пашаны.

Я ўспомніў, як ён адрэагаваў на «тубыльца» ў Езна.

— Не лезу.

«Ну так,— падумаў я.— Траюраднага за польскім часам павесілі ў трыццаць дзевятым. Невядома за што і ці не за нешта, звязанае з палітыкай. Стрыечнага немцы ў Кладна ў сорак чацвёртым. Тут напалохаешся. Ды толькі ўспомні, колькі ў вайну загінула і не за палітыку».

А ён, нібы адгадаўшы мае думкі, сказаў:

— Хоць саву аб пень, хоць пнём аб саву — саве ўсё адно. І не хачу я гэтага. Адпрацаваў, памыўся ў лазні ці ў рэчцы, стопку ўзяў, павячэраў — жыву. Уначы прачнуўся — жыву. Коні хораша пахнуць — аж смяюся ад радасці — жыву. І гары яно ўсё ясным гарам. Мне ўсе гэтыя галавасечкі — да...

Я толькі плячыма паціснуў.

...Наступнага дня я, узяўшы ключ у Мультана, абследаваў тое падзямелле пад вежай, дзе былі краты. Нічога незвычайнага: той жа пыл і той жа друз. Толькі што некалькі заваленых хадоў у невядомае. Дальбог, хоць ты лайся.

Калі выбраўся адтуль, згасіўшы ліхтарык, была тая мяжа паміж сутоннем і ноччу, калі пачынаюць міргаць першыя зоркі. Поўня, аднак, яшчэ не ўзышла. Толькі неба з таго краю было крыху святлейшае. Я не спяшаўся дамоў. Прыемна было прайсціся, калі абвявае аблічча майская ноч. Такая мяккая, нібы дарагія рукі гладзяць твар.

Я выйшаў брамаю, перайшоў масток і рушыў было да плябаніі, калі мне здалося, што нешта выслізнула за маёй спінаю з паркавага падлеску. І на гэты раз памылкі не было: я пачуў шолах крокаў, што аддаляліся ад мяне ў бок брамы.

Цікаўнасць нарадзілася раней за мяне, таму я пачакаў трохі і накіраваўся ўслед. Мінуў жарало ўвахода. Здалося мне ці не ў слабым зарыве, якое ўсё мацнела, што мільгнуў двухногі цень і што гэты цень меў на галаве кепку казырком назад.

«А, чорт! Ну гэта трэба праверыць. Толькі трэба крыху пачакаць, пакуль ты не зоймешся сваёй справаю ўпрытык».

Я выйшаў на сярэдзіну двара і прысеў там за купаю бітай цэглы, трымаючы ліхтар напагатове.

Цярпенне маё было ўзнагароджана. Ішлі хвіліны, і не ведаю, колькі іх там праплыло. І раптам ці не ў байніцы «маёй» падазронай трэцяй вежы, здаецца, міргнуў на імгненне агеньчык, а пасля адтуль даляцелі глухія ўдары чагосьці цвёрдага аб камень.

«Можа, ломам? І чаму тады, падчас інцыдэнту, бурылі таксама тут?»

Красціся ў той бок было вельмі нязручна. Ногі небяспечна падварочваліся на камянях.

Вось і цёмная дзірка ўвахода. Нясе брыдкай тхланню, нібы са спрадвеку не чышчанай прыбіральні. Я слізнуў у вежу. Сапраўды, аднекуль удары. І зверху, і нібыта аддаецца знізу.

«Прабівае нехта мур? Нашто?»

Прамень майго ліхтара ўпаў на мур — так, свежыя

адколіны на цэгле. І ўдары, глухія, нібы з самой сцяны, адразу заглухлі.

Я павёў ліхтаром угару, па слупе абваленай вінтавой лесвіцы, туды, дзе люк, што вядзе ў ніжні ярус вежы. Люк чарнеў непрагляднай цемрай.

І раптам адтуль упаў мне ў вочы нясцерпна яркі сноп святла. Асляпіў.

Я адступіў ад яго хутчэй машынальна, але, па дурасці, ліхтара не згасіў. І тут жа на тое месца, дзе я толькі што стаяў, глуха вухнуўшы, упала вялікая каменная брыла са слядамі свежаадбітай цамянкі.

Зноў ляціць угору святло майго ліхтарыка. І зноў адтуль, у адказ, меч святла. Дуэль ліхтароў. Зноў я, нібы прадчуваючы нешта, адскочыў. І тут жа нешта дзынкнула ў сценку. Ледзь не па тым месцы, дзе толькі што была мая галава. Павёў туды ліхтарык — мокрая пляма на камені, а ўнізе падрузгатаная пляшка і — з жахлівай яснасцю — этыкетка з надпісам «Ласітэ».

Грукат недзе наверсе. Ніжэй і ніжэй. Цішыня.

Нягледзячы на цішыню, лезці туды аднаму наверх было б шаленствам. І я, нясолана сербануўшы, выбраўся вонкі.

Поўня ўжо была досыць высока. Няпэўнае святло яе скрала брыдоту запушчанага двара з гноем і купамі камення. І, наадварот, падкрэсліла ўсю пачварную веліч гэтых муроў і вежаў. Няроўныя муры, вежы, як гранчатыя скалы, цёмная палоса галерэі.

Мне захацелася быць у першым лепшым месцы, абы не тут.

І я пайшоў.

«Ласітэ». «Кропелька» па-латышску. Адкуль у Лапатухі, калі гэта быў Лапатуха, латышская паляўнічая гарэлка? Ды яшчэ й рэдкая».

Хацелася яшчэ раз акінуць позіркам увесь гэты чыгунна-чорны гмах. Пры месячным святле. Я азірнуўся. Там, дзе падала святло, чэрнь была з адлівам у блакітнае. У зацемненых месцах, у нішах і на галерэі, панавала безвыходная цемра, так што раптам уставала перад вачыма своеасаблівая рэльефнасць гэтай махіны.

І тут я не паверыў сваім вачам. У цёмным правале галерэі, ад вонкавых сходаў, што вялі на яе, павольна паўзлі два цені, цьмяна-светлы і чорны.

Ногі мае прыкіпелі да месца. Цені, сапраўдныя цені, ішлі па гульбішчы. Аслупянеўшы, я прастаяў на месцы невядома колькі. І толькі потым кінуўся да шырокіх, месцамі павыбіваных сходаў. Забыўшыся на магчымую небяспеку, забыўшыся на ўсё, акрамя адзінай думкі: убачыць, праверыць, схапіць.

Узляцеў. Нічога. Толькі дымнае святло блукала аркадамі. І цемра ляжала пад скляпеннямі. І нічога болей. Ані душы, хаця выйсці ім не было куды, акрамя сходаў, якімі ўзбег я.

Нічога і нікога.

«Чорт пабірай,— думаў я, ідучы да плябаніі,— значыць, усе яны мелі нейкую рацыю, калі гаварылі. І Мультан, і іншыя, і даўні паэт. Вось вам і паршывы беларускі рамантызм?! Ці гэта ўжо я супрычасціўся да мясцовага вар'яцтва?

У ноч, калі чорныя дрэвы ціха дрыжаць ад жаху,
Па галерэях праходзіць дама з чорным манахам.

Халера б вас пабрала! Усіх!»

...Заўтрашні дзень прыйшоў ясны і сонечны, у рэдкім пошуме маладой, свежазялёнай лістоты. У «маю» вежу адправіліся і Сташка з кампаніяй, і Мультан з мультаняняткамі, і нават сам старшыня Альшанскі.

І поўны канфуз. Ніхто б не паверыў мне, каб не свежыя адколіны ўнізе, святлейшая колерам, незапыленая цэгла. Але ўсё астатняе было ўсім, чым хочаш, толькі не тым, што яшчэ ноччу я бачыў на свае вочы. На доле грувасцілася гара каменных асколкаў, друзу, цамянкавага пылу. Велізарная каменная брыла, цэлы валун, заторкнула, нібы корак бутэльку, лесвічны люк і небяспечна вісела над галавой. Відаць, абурыліся перакрыцці другога, а можа, і трэцяга ярусаў. Разбіраць гэты хаос знізу было смерці падобна. Зверху доступу туды не было.

— Ну вось,— уставіў свае тры грошы Альшанскі.— А хтосьці казаў, што гэты будынак на вякі.

— Так,— сказаў я.— Калі яму ніхто не дапамагае ўпасці. А хто ведае, ці не дапамаглі гэтым перакрыццям сёння ўначы?

— А чорт яго,— дыскантам сказаў Мультан і дадаў басам: — Падобна на тое, што і дапамаглі...

— Тут бульдозерам расчышчаць,— па-блазенску сказаў Генка.

— Угм,— сказаў Альшанскі.— Каб быў такі бульдозер, што лазіць па сценах.

— І каб нехта вам дазволіў гнаць на помнік культуры будьдозер,— кінуў я.— Хаця... гэта часам дазваляюць. Тут вось што, тут трэба ўваход заваліць. А то Стась або Васілёк Шубайла могуць палезці і...

— Гэтых шалапутаў вёска ведае,— сказаў Альшанскі.— І пра здарэнне вёска ведае. Завалім.

— Адкуль вёска ведае? — спытаў Генка.

— Гэ-а, голубе,— кінуў Мультан,— на тое яна і вёска. Ты толькі што тут чарку збярэшся хільнуць, а ў Альшанах будуць ужо казаць, што ты дзве гадзіны як казлы дзярэш. Вось жа ведае аднекуль Ганчаронак, Вячорка і іншыя. А між тым у іх... як гэта... ну, калі мяне тут не было, бо я пад Мінскам свінні пасвіў.

— Алібі,— сказаў Альшанскі.

— Во-во. Яны ж зноў у Езна ездзілі.

— Правільна,— сказаў старшыня.— Нарад быў.

Мы выйшлі праз браму, і адразу стала нібы лягчэй дыхаць. Я сказаў пра гэта.

— А вы падзякуйце ўсім, хто тут стагоддзямі гной капіў,— кінуў Шаблыка.— І панскаму, і чатырохногаму калгаснаму.

— Ён не пра тое,— сказаў «каўбой».— Маральна, як кажуць, тут стала лягчэй дыхаць. Жывыя людзі. Жывуць, смяюцца, працуюць. А нехта калі, часам, і ў вуха дасць, то й тое лягчэй.

Зноў трэ было пераводзіць размову на іншае. І я, як заўсёды, зрабіў гэта няспрытна:

— Чаму гэта, Нічыпар Сяргеевіч, у вас прозвішча такое? Вы што, з тых Альшанскіх?

— Гэ-э, не абражайце,— сказаў здаравенны, як конь, старшыня.— Што, я падобен?

— Ды звонку не.

— Па-вулічнаму яны «Шаўцы»,— умяшаўся прыгорблены дзед Мультан.

— Так,— сказаў той.— Але, самі ведаеце, паны часам свае прозвішчы прыгонным давалі, каб адрозніць. Ну і дзеля смеху давалі. Дакументаў не было. Ну й вёска з часам звыкнула.

Археолагі на чале са Сташкай накіраваліся на

сваю Белую Гару (дай ім бог, каб ім там болей пашанцавала, чым гусітам на Белай Гары і сербам на Косавым полі), а мы пайшлі міма млына да вёскі. І тут зноў нарваліся на сцэну з «Барыса Гадунова». Ля грэблі сядзеў у атачэнні сваіх псоў увесь белы, напудраны мукою, як П'еро, Людзвік Лапатуха ў славутай сваёй кепцы і, заўважыўшы нас, пачаў, невядома ў каго, торкаць пальцам:

— Жывы? — Мяне аж прамарозіла, калі я ўспомніў начную брылу каменя.— У цябе ж кроў з грудзей. Як у Ганчаронка. Як у фурмана. Сам бачыў у іх, сам... Уваскрос? Пярэварацень. Ваўкалака.

— Што гэта з ім? Нашто на нас?

Мы ўжо мінулі яго, і тады Альшанскі крэкнуў і паклікаў да сябе мажную румяную кабетку.

— Наш загадчык медпункта. Ану, растлумачце, Агатка, што то такое Лапатуха. А то ён, Косміч, нешта на ўсіх касавурыцца пачынае.

— Сапраўды, на жаль, вар'ят,— з харошай сумленнай усмешкай сказала яна.— Камісія пасля вайны была. І два гады назад. Няшкодны толькі вар'ят.

Я падумаў, што калі тая брыла «няшкодная», то які чэрап павінен мець чалавек, каб гаварыць аб «шкоднасці». І яшчэ падумаў, што я не веру ў яго вар'яцтва. Бо адкуль ведаў пра кроў? І яшчэ, калі ён і сапраўды вар'ят, то ведае аб нечым болей, чым мы, нармальныя. І маўчыць. Ці не можа сказаць.

Ішлі далей. І тут Альшанскі мяне здзівіў: рэдка калі мне даводзілася чуць у чалавечым голасе такую шкадобу і такое спачуванне:

— На жаль, сапраўды не ў сабе чалавек. І, на жаль, сапраўды пасля нечага страшнага... І адкуль такая жорсткасць у некаторых дзяцей? Гульня ў вайну. І адзін на гэтага няшчаснага «стрэльбу» навёў. Дык той заплакаў: «Хлопчык, не трэба».

— Ну і што?

— Лупцоўку вісусу даць давялося, хаця і апошняя гэта справа.

Праз некалькі хвілін мы разышліся. Я пастаяў, пачухаў макітру і нічога разумнейшага не прыдумаў, як накіравацца да чарговага «сумніцельнага» ксяндза. Ну ясна, каго ж падазраваць, як не ксяндза? І, ясна ж, прыйшоў якраз у час. Айцец Леанард Жыховіч вёў бяседу, амаль хатнюю і душакарысную,

з дружкамі і будучымі маладажонамі («Хай жэняцца, больш старцоў будзе»,— сказаў бы мой гаспадар Вячорка), тлумачыў ім нешта накшталт таго, што яны павінны ўсур'ёз падумаць, пакуль не позна, бо касцёл разводу не прызнае і, значыць, гэта на ўсё жыццё. Тут я згадзіўся з ім. Сапраўды, няма чаго заводзіць валынку наконт вяселля, калі гэта на адзін месяц. На адзін месяц — можна не турбаваць ні загс, ні свяшчэнніка. Бывае і так, але лепей не варта.

Я паплёнтаўся да выхаду, прочкі, і тут зноў задумаўся, каго мне нагадвае статуя з зялёнага мармуру, падобнага на нефрыт.

Так і не дадумаўся. А на мяне, на надгроб'е, на ксяндза і іншых глядзеў драўляны старадаўні свенты пакутнік Себастыян, працяты шматлікімі стрэламі, які, здаецца, не канаў, а знаходзіўся ў стане найвышэйшага, з усіх вядомых, чалавечага экстазу.

Рабіць мне, пакуль тое, не было чаго, і я пачаў блукаць па вёсцы, як Марка па пекле, тым болей што было цёпла і раскошнае, яшчэ не запыленае, першае лістоцце аж свяцілася, нібы ў сярэдзіне кожнага дрэва быў схаваны моцны тэатральны ліхтар.

Але я і так зацягнуў «казань». Таму дазвольце — пункцірам. Убачыў я «каўбоя» Змагіцеля, які спускаўся з Белай Гары са Сташкай і — гэта мяне чамусьці прыемна ўразіла — чародкай дзяцей. І ўсё ж я змрочна сказаў:

— Дзень школьны. Час школьны. Чаго вы адтуль?

— Вольных было чатыры гадзіны,— усміхнуўся «каўбой».— «Вокан» нарабіў завуч, чорт такі. Пайшлі на раскоп. Вершы чыталі.

— І не нагарае?

— Яшчэ як. Але што ж з іх вырасце, калі такога часам не рабіць?

— А вы?

— А мне бакі не купляць. Як усім, хто на «ігрышчы, дзе... гудуць у кантрабас».

— А адкуль вы? — спытала Сташка, і я ўзрадаваўся.

— Ад касцёла. Што там такое ксёндз?

— Бог яго ведае,— сказаў Міхась.— Мне здаецца, тут усе нейкія... Гм. Увесь нейкі памешаны на хадах, на катакомбах пад замкам... Дзеці, куды?!

Тыя, сапраўды, палезлі былі цераз хісткія дубо-

выя парэнчы ледзь не ў рачулку, якая тут разлівалася невялікім стаўком. А да нас падбіліся Стасік ды Васілёк Шубайла. І яна гладзіла іх па спалавелых ужо зараз ад сонца галоўках. А я раптам адчуў, як гэта было б прыемна, каб гэта мае ды яе. І адначасова ўсвядоміў, што з ёю, значна маладзейшай, гэта немагчыма. Пра іншае трэба было. І таму я спытаў:

— Стасік, а дзе тыя падземныя хады?

— Трохі ведаем. І дзед трохі ведаў. І ключ быў у дзеда, ды ён згубіў. А мо пробашч забраў. Ды туды можна і праз дзірку, і праз правал, дзе дойлід ляжыць.

— Які?

Змагіцель чуў канец размовы, вяртаючыся (выканаў прынцып беларускіх будачнікаў, які, па словах Глеба Успенскага, гучаў: «тащить и не пущать»).

— Ды байкі,— сказаў ён.— Кажуць, што,калі тыя, Валюжыніч ды Альшанская, збягаць збіраліся, дойлід іх папярэдзіў: «ведаюць, сочаць».

— Чаму так?

— Казалі — быў палюбоўнікам сястры Альшанскага. Ну і... чорт яго ведае таямніцы чалавечых сэрцаў.

— Ну, з імі невядома што здарылася,— сказаў я.— А з ім?

— Кажуць, сарваўся з абледзянелых рыштаванняў. І тая сястра заліла ў корсце, у калодзе ягоны труп мёдам і адвезла, каб зрабілі мумію. І дагэтуль ён там, у падполе, сярод іншых Альшанскіх ляжыць. А яна так незамужняю і памерла.

— Значыць, не сам Альшанскі быў фундатарам гэтага касцёла?

— Людзі кажуць, сястра. Але гэта тыя ж «шведскія курганы» ды «французскія магілы». Запісаны — ён.

І тут я ўсё ж задумаўся. Чаму ён, той Альшанскі, лічыцца фундатарам, будаўніком усіх касцёлаў наваколля? І гэтага. Падазрэнне — нядобрая рэч, але тут яно зноў кранула маю душу. Раз хлусня ў гэтым — значыць, мог схлусіць і на судзе, калі даваў клятву на Евангеллі, што тыя — жывыя.

Развітаўшыся з імі, я закурыў (шмат я пачаў курыць) і пашыбаваў праз праломы да адзінай брамы замка. Вячэрняе апельсінавае святло клалася на ма-

ладую лістоту, і замак сярод гэтай раскошы здаваўся брыдкай, але й прыгожай (а гэта і сапраўды бывае так) рапухаю сярод кветак. Прайшоў у браму і ўбачыў на каменнай брыле ксяндза з блакнотам у руках.

— Што-то вы тут, ойча Леанард,— сказаў і зноў здзівіўся гэтаму прыемна-лісінаму выразу на разумным твары.

— Думаць тут люблю.

— Казані складаць?

— Часам складаць казані,— сказаў «яшчэ адзін падазроны».— Адпачываць.

«А каб цябе,— думаў я,— тыпова евангельскі тып, які не пераносіць хлусні і несправядлівасці».

Шмат чаму нядобраму навучыла і мяне гэтая справа: недаверу да ўсіх без выключэння людзей.

— І хады ведаць?

— І хады... Вы вячэралі сёння? Не? То хадзем да мяне.

...У плябаніі ксяндзу належала — я не ведаю, колькі там — пакояў. Мы сядзелі ў адным, цнатліва бялюткім, з мноствам розных статуй на сценах (часцей за ўсё кірмашовых, гіпсавых, як сучасныя кітайскія бажкі, размаляваных у ружовае і блакітнае, але часам і старых, драўляных, пабітых часам, з даўняй патрэбай у рэстаўрацыі). А на стале быў абрус-самакорм (бо не сам жа Жыхoвіч зрабіў усё гэта і гарачым падаў на стол). Тут табе і карп, запечаны ў цесце, і траўнічак анісавы, і «тапелец», што кіпеў у масле (усе старыя беларускія стравы, ледзь не з першай нашай кухарскай кнігі, «гаспадыні літоўскай»), і «пакаштуйце гэтае варэнне са сцяблін аеру, самая ніжняя частка».

І на ўсё гэтае гарганцюарства прымільна глядзеў вялікі чорна-белы (а вушы «страшэнна падобныя на локаны Наталлі Ганчаровай з партрэта Гаў», як сказаў ксёндз) спанель Ас.

Ас па-руску «ас», па-нашаму — нічога, а па-польску «туз». Жыховіч паклаў яму цукар на нос і загадаў цярпець. Шагрэневая цюпка пакутліва моршчылася, ледзь не плылі з вачэй слёзы. І ксёндз злітаваўся:

— Ас! Міліцыя!

Пёс падкінуў цукар у паветра, схапіў яго і, падціснуўшы хвост, кінуўся пад ложак.

— Ну а калі сапраўды міліцыя? — засмяяўся я.

— У такую гульню пры ёй? Н-не-е... Ану, траўнічку.

Ас вылез з-пад ложка і зноў аблізаўся.

— Ведаеце, што мне прыйшло ў галаву? З Шаўчэнкі.

— Ведаю,— падумаўшы, сказаў ксёндз.— Як дзеці на вялікдзень на саломе хваліліся. Таму бацька чобаты справіў. Той маці хустку купіла... «А мені хрещена мати лиштву вишивала».

— Правільна,— «А я в попа обідала» —
Сирітка сказала».

— Но, то чаму «папу» і праз сто год з гакам не накарміць «сіротку» абедам? Думаеце, я не бачу, як вы на мяне ў «век ракет і атамаў» глядзіцё? Праз «хады» і «таямніцы».

— Я не гляджу.

— То ж бо. І хаця апраўдвацца ні перад кім не хачу — перад вамі чамусьці хочацца. Адчуваю нешта..

— Не трэба апраўдвацца.

Жыховіч задумаўся. Нават твар ягоны абвіснуў, пацяжэў.

— Асаблівай ахвяры ў гэтым маім учынку не было. Мне і дагэтуль сорамна, што я паднёс царкве нягодны дар, але гэта праўда, ахвяры не было.

Рука яго гладзіла вушы Аса.

— Быў я дужа рэлігійны. Больш, чым зараз. І ў вайну быў упершыню закаханы. І — рэч амаль несувымяшчальная — быў у падполлі... Яе схапілі, як я раніцай пайшоў па цыгарэты... Курыце... Пасля вайны я стаў ксяндзом... Асаблівай ахвяры не было.

...Я брыў ад яго і думаў, што сапраўды мы ўсе атручаныя бойкай. Магчыма, вар'яты. Але адкуль я ведаў, хто, што і як. Хаця б той ксёндз Жыховіч.

А меў вечар трагікамічную развязку. Досыць цяжкую і досыць камічную. Я прыйшоў у сваю бакоўку і заваліўся спаць. Досыць рана. І нават у сне адчуваў, як у мяне баліць галава. Нешта з ёю ў апошні час рабілася. Усё больш небяспечнае.

Сон быў таксама цяжкі. Тая самая галерэя, на якой тады бачыў я цені. Малады бялявы напаўхлопец-напаўмужчына (высокі, магутныя мускулы і дзіцячыя вочы, такія сінія, як рэдка бывае нават на гэ-

тай зямлі). Маладая жанчына, чамусьці вельмі падобная да Сташкі.

— Я не магу,— шапацела яна.— Ён выдаў нас, выдаў сяброў, выдаў цябе.

— Не толькі выдаў,— кінуў ён.— Прыбраў усё майно паўстання. Як ты магла калісьці пайсці з ім?

— Я тады не ведала цябе. І я не ведала, што ён можа...

— Ён можа яшчэ і атрымаць ад караля трэць за выдачу сяброў, гэты знатнік[1],— прагучаў глухі, але прыемны голас, і я ўбачыў, што да іх падыходзіць дужа худы і высокі, светлавалосы чалавек.

Тут я здагадаўся, што гэта Грымінслаў Валюжыніч, ініцыятар «удару ў спіну», жонка Вітаўта Хвёдаравіча Альшанскага Ганна-Гардзіслава і дойлід касцёла, вежы якога, адзетыя рыштаваннямі, ужо ўзвышаліся над мурамі вонкі.

— Гэты ісцінстваваць[2] не будзе,— сказаў Грымінслаў.— Для яго ёсць дзве очыны[3]. Адну ён прадасць, але за другую зубамі будзе трымацца, глоткі грызці за свае скойцы[4].

— Родныя,— сказаў дойлід,— ён усё аднекуль ведае пра вас. І таму ўцякайце. Пакуль не позна. І вазьміце з сабою альмарыюм[5] з грашыма. Яны не належаць яму. Яны — людскія, вашы. Тых, што ўсталі. Уцякайце. Сядайце недзе на Нёмане на окрут[6] і некуды ў немцы. Пасля вернецеся, калі зноў прыйдзе ваш час, калі трэба будзе купляць зброю. Здрадны род. Што продак Пятро, які князя Слуцкага выдаў, што гэты.

— Што, коні ёсць? — спытала жанчына.

— Ёсць коні,— сказаў Грымінслаў.— Ключаюся[7] з табою, дойлід. Але столькі рэмняў[8] золата, столькі каменняў, столькі сажоных[9] тканей — хіба іх павяжаш у саквах?

---

[1] Знатнік — багаты, уплывовы.

[2] Ісцінстваваць — гаварыць праўду.

[3] Слова «очына» мела два сэнсы: а) бацькі, продкі; б) маёрат, маёмасць.

[4] Скоец — манета.

[5] Альмарыюм — скрыня, радзей шафа.

[6] Окрут — карабель.

[7] Ключацца — падыходзіць, быць вартым. Тут у сэнсе згаджацца.

[8] Рэмень — мера вагі.

[9] Сажоны — вышыты каштоўнымі каменнямі.

— Бярыце частку. Астатняе перахаваем тут.

— Я не хацеў,— сказаў Валюжыніч.— Але зэл жыў[1] ён самае наша беларускае імя.

— І няхай застанецца ні з чым,— жорстка сказала жанчына.— Без мяне і без скарбаў. Такі пакон[2]. І няхай нас адтамталя дастане, акрутны, апаёвы[3] псарэц[4]. У яго свая судба[5], у нас — свая. А табе, вялікі дойлід, дзякуй ад нас і ад бога.

— Дзякуй скажаце, як усё скончыцца добра.

...І вось падае ўжо на толькі што засыпаную яму вялізны спілаваны дуб (дзе я чытаў пра такі спосаб захаранення скарбаў? — адзначае ў сне падсвядомасць), і вось ужо й следу няма, і ноч вакол.

...І вось ужо рвуцца ў ноч, прэч ад муроў замка дзікім лесам два коннікі. У аднаго пры боку доўгі меч, у другога, меншага, корд. Зніклі. Але праз нейкаторы час у нехлямяжых вежах чорнага гмаху замільгалі агні, забегалі па галерэях. Шматгаловая конска-чалавечая маса закішэла, заклубілася ў двары. З бязгучнасці нарастаў, рабіўся нясцерпным пагрозлівы гук.

І вось худы чалавек падымаецца па рыштаваннях вежы касцёла. Стаіць і глядзіць у бок бязмежных лясоў, дзе недзе далёка — Нёман. І тут прагная растапыраная пяцярня штурхае яго ў спіну, і ў вачах непаразуменне... Імкліва набліжаецца зямля.

І гэта ўжо нібы не ён, а я падаю, як некалькі год назад са скалы на Карадагу (дзіва і ўласная кемлівасць тады ўратавалі мяне ад непазбежнага,— адзначае падсвядомасць).

Гэтага дзіва не ўратавала. Я зноў гляджу зверху. І ён, маленькі зверху, ляжыць на зямлі, як лялька... Зноў я ўнізе. Над трупам стаіць каржакаваты чарнявы чалавек. Вузкія вочы. Жорсткі прыкус вялікага рота. Срэбратканая чуга падае шырокімі складкамі. А насупраць яго досыць ужо летняя жанчына ў чорным.

Вітаўт Хвёдаравіч Альшанскі і ягоная сястра.

---

[1] Зэлжыў — зняславіў.
[2] Пакон — закон, наканаванне.
[3] Акрутны — жорсткі, люты. Апаёвы — запойны.
[4] Псарэц — псяр.
[5] Судба — суд, прысуд, правасуддзе, прадвызначэнне.

— Пакладзіце ў корсту, у мёд,— горка кажа жанчына.— І ў Кладна да бальзаміроўшчыка.

— Ты, можа, і ў касцёле яго пакладзеш?

— Не толькі пакладу, але й піжмом[1] удастою. Ён рабіў — яму і ляжаць.

— Ну ясна, вы ж размілаваліся. А тое, што ён спраўца[2] таго, што яны дабро маё паплюндравалі, што ў зэшлым часе[3] продак Пятро здабыў, што я здабыў?

— Здрадай вы яго здабылі. Зэлжылі імя беларускае, імя Альшанскіх. І шкада мне толькі, што я ў зэшлыя часы не магла прыдушыць яго ў калысцы. І цябе таксама. Бо малодшая была. І гэта наша агульнае валоданне, каго хачу, таго і кладу. І контарфект[4] над труною яго, беднага, несвоечасова павешу. І проўсты[5] над ім месяцамі спяваць будуць, каб узрадавалася ягоная душанька.

— Ну, ён і цела не забываў.

— Затое ты забыў, смакоўніца бясплодная. Макула[6] на нашым народзе, хробак, туляп. Ты і з жанчынамі можаш толькі партацi[7]. То што дзівіцца, што сапраўдная ад цябе ўцякла? Ад цябе ўцякла б і касарылая.

— І не баішся?

— Чаго? Ляпёшкі пагною[8], кучы ўмёту?[9]

— Ой, глядзі.

— Каралю б я данесла пра твае выбрыкі, ды мярзячка[10] мяне бярэ глядзець на цябе. Глядзі,— і яна паказвае на вежу.

І зноў падае чалавек. І зноў дзікі крык. Падаю я.

Я прачынаюся, залітыя халодным потам. Настолькі гэта жыва. І не адразу разумею, што ляжу ў бакоўцы і што мяне торгае Мікола Зеляпушчанак па мянушцы Вячорка, мой гаспадар.

— Анцю, уставай... Мы з кумам. І так нам без цябе

---

[1] Піжмо — мускус.
[2] Спраўца — вінаваты, зачыншчык.
[3] Зэшлы час — стары час.
[3] Контарфект — малюнак, вобраз.
[5] Проўст — свяшчэннік, часцей за ўсё каталіцкі.
[6] Макула — лацінскае «пляма», польскае «недахоп», «загана».
[7] Партацi — псаваць, дрэнна працаваць.
[8] Пагной — гной.
[9] Умёт — гразь, дзярмо.
[10] Мярзячка — прыкрасць, нуда, смутак.

сумна, так сумна,— ён усхліпвае.— Мы плачам. Плачам. Уставай, Анцю.

— Добра, зараз,— я разумею, што не адвяжацца і што лепей зараз выйсці, а пасля непрыкметна пайсці: хутчэй за ўсё яны і не заўважаць.

Калі я прыйшоў на палову гаспадара, то ўбачыў гаспадыню на печы, стол, застаўлены стравамі і параю «гусакоў», а за сталом кума, невялічкага, лысага, як калена, чалавека, і гаспадара.

Спачатку я хацеў адразу пайсці, але пасля «размова» зацікавіла мяне. Вячорка філасофстваваў, а гаспадыня (гэтага я не мог зразумець) ціха смяялася на печцы.

— Усё на свеце — паразіт. І мурашка паразіт, і пчала паразіт, і авечка паразіт, і воўк паразіт, і ты паразіт, і я паразіт.

— Я не паразіт,— запярэчыў кум.

— А хто калісьці ў калгасе яшчэ мех жыта ўкраў?

— Я не краў.

— Ну ўсё адно. Ды ты паглядзі на сябе. Ва ўсіх сумленных людзей чупрына на галаве, а ў цябе — плеш. І кажаш, што не паразіт.

Торкаючы відэльцам у талерку, няшчасны кум стараўся перавесці размову на іншыя, больш прыемныя, рэйкі:

— А я сала ем.

— Вось-вось! — І з абурэннем: — Ды чэсныя людзі — мьякіну! — ядуць. А ты сала. І кажаш, што не паразіт.

Я пайшоў і сеў у кветніку. Галава пасля сну і ўсяго балела несамавіта. Трэба было менш курыць. Ясна, што тут забаліць што хочаш. І гэтыя нажэрліся гары. Як няшчасце гэта нейкае на люд. А за акном зноў размова, высакапарная.

—...прыкрашае траву тым, што яшчэ нядаўна было высакаякаснай беларускай ежай. Аж шкада стала. Такі прадукт зглуміў,— і пасля паўзы: — Аднаго поля ягады. Што Лапатуха, што Альшанскі Нічыпар, княскае адроддзе, што гэты юрод айцец Леанард, пацук такі.

«Трэба з'язджаць,— падумаў я.— Да Мультана. Інакш спакою не дадуць, п'яныя чэрці. І ўвогуле, чорт ведае што. Усе ў акрузе нейкія звіхнутыя, а ўсё, што даведаўся за дзень, не вартае і выедзенага яйка».

## Раздзел XV

*Пра новую хату,*
*спраўджаныя сны і пра тое,*
*як забіваюць чалавека*
*і ці лёгка другому двухногаму зрабіць гэта*

Раніцаю я другі раз зайшоў са сваёй прапановаю да дзеда Мультана. І мне спадабалася ў яго яшчэ болей.

— Калі ласка,— сказаў ён,— мне што? Толькі начамі самотна будзе. Я начамі хаджу.

І вось я перабраўся ў другі пакойчык небывала вялікай «вартоўні» дзеда. Той, асабліва прытульны, нягледзячы на запушчанасць. Прытульны ад старых партрэтаў, ад складу непатрэбных ікон у адным з кутоў, ад таго, што адны дзверы (другія вялі непасрэдна ў дзедаву вартоўню) і акно выходзілі проста на абсады і цераз нізкі каменны мур — у цяністы ўжо зараз сад. Калі высунуцца ў акно, справа было відаць «першакасцёл», да якога пасля быў прыбудаваны гмах навейшага з яго цудоўным іканастасам моранага дубу з пазалочанымі фігурамі (роўны яму мне давялося бачыць хіба што ў Будславе).

Першым госцем быў Шаблыка. Прынёс вялізны пачак паперы: нямецкія лістоўкі і нашы лістоўкі, газеты, у якіх казалі аб нападах партызан і аб нападах на партызан. І аб расстраляных дзеячах руху апору, і аб заложніках. Было нават з дзесятак нумароў «Нашага шляху».

— Нашто ты гэта г... трымаеш?

— Трэба ведаць, хто ёсць хто і хто быў хто. Нават калі гэта бессаромная прапаганда. Гэх, браток, колькі такой бессаромнай прапаганды на свеце! Глядзеў я пасля вайны «Індыйскую грабніцу». Вывад: «немец спрытны хлопец, паўсюль пройдзе». Нейкія там фільмы пра «Агента 007» — «англічанін спрытны хлопец паўсюль пройдзе»... Цьху! На жаль, нават першакласныя людзі часам не паўсюль праходзяць. «Тому в истории мы тьму примеров слышим». Вось, можа, нешта цікавае пра тых і знойдзеш. Хаця наўрад: у апошнія дні тым было не да газет... Вось дастаць бы газеты тых часоў, калі брат Высоцкага правакатара забіў. Хаця адкуль іх дастанеш? Такі пажар працаціўся.

— Ну, мабыць, не ўсё ж згарэла.

З другім візітам з'явіліся Васілька Шубайла і Стасік Мультан. І мы адразу пашыбавалі з імі да лазу ў падпол касцёла, проста квадратнай адтуліны, за якой ход ішоў уніз, як быццам тут збіраліся ссыпаць у бункер бульбу.

— Вы, дзядзька, можаце плячыма не пралезці,— сіпатым шэптам сказаў Васіль.

— Пралезе. Рукамі наперад. Там нешта накшталт прыступкі. Да яе сантыметраў пятнаццаць.

Яны слізнулі туды, як маляўкі пад камень. Але нічога, пралез і я. Адна рука наперад, другую — пад сябе, каб далонню падштурхоўваць чэрава. Непрыемна, калі звісаеш над пустою цемраю.

Але і сапраўды, не больш чым пятнаццаць сантыметраў да каменнай пляцоўкі.

Не люблю я гэтых падзямелляў, асабліва запушчаных. Затхла, паўсюль кавалкі атынкоўкі, стаяць саркафагі, і ў кожным нечае былое жыццё. Вартае ці не вартае гэтага саркафага — іншая справа. І асабліва мяне мярзіць такое відовішча пасля таго, як давялося мне бачыць «зацны гроб» аднаго вялікага саноўніка былых часоў. Мумія ляжала ў мундзіры пры ўсіх рэгаліях, але... без портак. Порткі былі суконныя, і іх з'ела моль. Варта было ліслівіць, царадворстваваць, выракаць людзей на горшае, забіваць іх, каб пасля ляжаць без портак.

— Вось дойлід,— сказаў Стах.— Камісія нейкая з год назад прыязджала, здымала века. Як жывы, ляжыць, толькі трохі ўсох.

Галасы нашы гулка выбухалі пад скляпеннямі, так што й гэтых маглі б разбудзіць. І ўсё ж я непамерна здзівіўся, калі паўзмрок прарэзала вертыкальная смуга святла. Нечакана павярнулася вакол восі вялізная і, як я цяпер бачыў, непамерна тоўстая дошка (раней я думаў, што проста на ёй калісьці нешта было напісана ды фарба злезла), і ў гэтым святле ўзнікла постаць чалавека са свечкай у руцэ.

— Хто там? — спытала постаць, і я пазнаў ксяндза.— А-а, гэта вы?.. Якім чынам вы тут?

Я паказаў рукою на лаз.

— Нашто ж вы так? Я сам бы мог паказаць. І было б зручней.

— Прабачце, дзеці сказалі, што іншага ходу няма.

— І дарэмна сказалі. Ну добра, дзеці, ідзіце, гуляйце.

Ён паказаў на патайныя дзверы, але малыя кінуліся ў лаз.

— Каб мне іхні спрыт,— усміхнуўся ксёндз.

— Яго ў вас і зараз хапае.

— Не. Для некаторых рэчаў ужо не. Тут пад касцёлам, дый пад замкам, цэлая сістэма хадоў. Кажуць, ёсць і ход, што злучае касцёл і замак. У некаторыя з іх я не рызыкую хадзіць. Дужа рэдка не хапае смеласці. Часцей — спрыту. Хочаце, я вам некаторыя пакажу.

— Чаго ж, ахвотна,— я падумаў, што, можа, гэта ў нечым дапаможа маім пошукам.

— То хадзем.

Я праціснуўся за ім у атвор. То была нейкая касцельная прыбудова (я кепска разбіраюся ў гэтай тапаграфіі). Жыховіч адамкнуў нейкія нізкія дзверы, і вачам адкрыўся нешырокі калідор з нізкай скляпенчатай столлю. Гэта было падобна на пячоры ў Кіеўскай лаўры. Толькі што вакол быў дзікі камень, а не сцэментаваны пясок.

— І доўга ён цягнецца? — Мы прайшлі ўжо, мне здалося, метраў сто пяцьдзесят, і канца гэтаму не было відаць.

— Да канца не даходзіў. Тут ёсць і іншыя хады, бакавыя, але я іх не ведаю. І ніхто не ведае. Тут падчас татарскага набегу недзе ў тысяча пяцісотым, ці што, годзе хавалася ўсё насельніцтва Альшан і навакольных вёсак.

— То што, катакомбы старэйшыя за касцёл?

— Непамерна старэйшыя.

Я ішоў наперадзе. Раптам я адчуў нібы павеў нечага па твары. Полымя свечкі затрапятала, адбіткі замітусіліся па камені.

— Асцярожна!

У той самы момант я паслізнуўся, адчуў, што падаю, і раптам адчуў неверагоднай сілы штуршок у спіну. Такі, што ўзляцеў у паверта, мабыць, з метр патрымаўся так, а пасля не дужа мякка прызямліўся ў пыл, адчуваючы, што ступакі мае вісяць над пустатой.

— Езус-Марыя! Матка боска Астрабрамска. Матка боска Бытэньска.

— Што гэта было?

— Студня. Я ж сказаў, асцярожна!

Я сапраўды ледзь пераскочыў дзякуючы ксяндзоваму штуршку круглы чорны правал у падлозе. А можа...

— І чаго вы паслізнуліся? Ну так і ёсць,— ён узняў свечку ўгору.— Калонія кажаноў! Бач, за зіму які блін на падлозе атрымаўся.

Ён звесіўся і правіснуў, гледзячы ўніз. Пасля ўзяў каменьчык і кінуў у чорную пашчу. Праз незлічоныя стагоддзі адтуль даляцела нібы звонка, а нібы і глуха: «Глок». Тут мы абодва, калі аб гэтым можна меркаваць пры свечцы, збялелі.

Наступныя пару хвілін ішлі моўчкі. Калі-нікалі трапляліся ў сценах закратаваныя адтуліны пад іржавымі замкамі.

— Ключы ў каго?

— Ключы ў мяне,— сказаў ксёндз.— І ад замкавых хадоў таксама. У мяне і ў Мультана. Дзеці панадзіліся лазіць. Каб не зваліўся каторы. Добра вам у яго? Хаця, чаму ж? Чалавек добры, станоўчы. Патомны вартаўнік. Ад прапрадзеда, а можа, й раней.

...Арганіст у пустым касцёле, калі мы папрамавалі праз прэсбітэрыюм на выхад, зноў граў нешта падобнае на «Бычка».

— Чаго ён так?

— А, я ж вам казаў. Ён аднойчы падчас імшы і «Лявоніху»ададраў.

— І нічога яму?

Трымаю. Я ж вам казаў: майстра на ўсе рукі. Тут і арганіста знайсці цяжка, а гэты... яшчэ і гадзіннік адрамантаваў. І каляндар амаль што. І сонечны і месячны.

Мы паволі ішлі да замка. А мяне ўсё не пакідала думка, чаму ён хацеў забіць мяне? А мо я і сапраўды паслізнуўся? Тады — што азначалі словы Вячоркі? Ведае нешта ці проста п'яная балбатня?

— Чуткі хадзілі, вы нешта шукаеце? — спытаў ён.— І трапіла вам у рукі нейкая шыфроўка?

«Ясна. Усё тая злашчасная балбатня ў машыне па дарозе ў Езна».

Сяк-так, у самых агульных рысах, я расказаў яму аб нязначным, асабліва напіраючы, што нічога не рас-

шыфраваў, бо мне невядомы прадмет, вакол якога трэба тую стужку намотваць.

— Ведаючы матэматыку, гэта не так цяжка,— здзівіў ён мяне, а пасля яшчэ раз здзівіў: — Літарэю спрабавалі? А можа, спалучыць яе з Кеплераўскім прынцыпам?

«Чаму ён мне зараз дапамагае,— падумаў я.— Што за чалавек? Адкуль?» А ён, нібы сапраўды ведаючы мае думкі, раптам сказаў:

— Вы сабе можаце што хочаце думаць пра тое, што адбывалася тут трыста год таму. Гэта і дурню невядома. А вось што рабілася тут на нашай памяці! Гэта разблытаць! Тады, магчыма, і таямніца нашага правалу выйшла б на свет.

— Ну а калі б і раскрылі правакатара. Што тады вы?

— Хрыстос казаў, што ворагам трэба дараваць не да сямі разоў, а да сямідажды сямі...

— І вы?..

— Я, на шчасце, не Хрыстос. І нават не самы лепшы з яго служак.

— Гэта як?..

— Каб улады побач не было — кішкі матляў бы,— раптам праз зубы працадзіў ксёндз.— За маю апошнюю. Мне можна. Я — крыважэрны. Я — рука Ватыкана.

І я зразумеў: гэты сапраўды матляў бы кішкі. Не «рукой Ватыкана», а сваёй, вось гэтай, здатнай на ўсё. Пры ўспаміне аб сябрах і аб каханні, якое загінула недзе ў сутарэннях СС або СД — хто ведае?

Я пайшоў ад яго ў самых растрапаных пачуццях. Нашы рамантыкі мінулага стагоддзя сказалі б, што пагрозныя «цені», «анёлы начныя» кружлялі над маёй галавой. Чаму кніга? Нашто дзве смерці? Чаму чатырыста забітых у вайну? Каменныя брылы мне на галаву? Ксёндз над студняй? Банды Боўбеля і Куляша? Лапатуха? Бязладная балбатня Вячоркі пра цені і нейкія страшныя яйкі?

Цені, анёлы начныя. Кашмарны, бязлітасны свет.

Я не ведаў, што ўсё гэта — ружовая дзіцячая казка ў параўнанні з тым, што чакала мяне.

*Канец першай часткі*

Частка II

# КАТАКОМБЫ, ЗМРОК І АГОНЬ

## Раздзел I

*У якім ніхто з «трох мушкецёраў» амаль нічога не ведае, а той, хто ведае, не можа расказаць*

Май быў такі, што каб такіх не бывала на зямлі — яго варта было б выдумаць. Начамі некалькі разоў ласкава шапталіся з дахамі цёплыя, ледзь не парныя дажджы. Раніцамі зямля курэла добрай парай нават праз шматлікія густыя парасткі, а на травах віселі падвескі з расы: зробіш крок і раптам заззяе, зробіш другі — і ўжо ў іншых месцах успыхваюць маленькія аранжава-зялёныя сонцы.

Май абяцаў спакойнае лета, добрую восень, сытую зіму, і мала хто з мужыкоў не бласлаўляў яго.

Акрамя, мабыць, мяне.

Для мяне ён быў не квеценню садоў, якая пасля ўкрыла цёплым снегам зямлю, не дажджамі, не росамі, што прарочылі раскошныя жыватворныя дні, а хутчэй нейкімі змрочнымі падземнымі сутарэннямі, пераходамі, бясконцымі катакомбамі ды кашмарамі па начах.

Я жыў, кажучы словамі старога ананіма:

На мяжы святла і змроку,
На мяжы жыцця і смерці.

А калі прыйшлі тыя падзеі — да ўяўлення аб гэтых лазах, ямінах, правалах, падземных калодзежах прыйшлі і яшчэ радкі (чые, я забыў) аб тым, як:

У змрочным пекле, дзе з чорным
Агністы схапіўся бог.

Таму настрой у мяне, як кажуць браты-палякі, быў «на псы», калі недзе ўжо ў дваццатых чыслах месяца я сядзеў на лавачцы ля Шаблыкавай хаты ра-

зам з гаспадаром і Міхасём Змагіцелем, займаючыся вельмі ўхвальнай справай (мы паволі-паволі папівалі «беларускі бальсан», змешаны са слязой божай, і закусвалі з рэшата парніковымі трускалкамі (хай яго бог любіць, гэтага Шаблыку, усё на свеце ў яго ёсць або знойдзецца).

Дундзелі ў залатым вячэрнім паветры хрушчы. Зусім ужо нізкае сонца зрабіла з Альшанкі райскую раку святла. Густыя ўжо шаты дрэў нерухома рыхталіся да сну.

І размова ў нас ішла нейкая сонная і, спачатку, ні аб чым.

— Ты вось заўсёды што — «БТ» гэтае курыш? — лянотна спытаў Змагіцель.

— Так.

— А я вось выключна «Нёман».

— Дый я люблю, але як пакуру доўга — кашаль. Кінуць не спрабаваў?

— Раз дзевяць месяцаў не курыў. А тут выбары. Піва рэдкага на вёсцы прывезлі: «Лідскае». Сушаная рыба знайшлася. Ну, а я ўрну вазіў па тых, хто сваімі нагамі прыйсці не можа. Сябры набралі ўсяго на маю долю і, заразы, забыліся, тры пачкі «Нёмана» купілі. Як толькі галасы падлічылі — складчына. А я намерзся за дзень на марозе, адвёў каня, прыйшоў, ну, выпілі. Забыўся, закурыў. І... як не было гэтых месяцаў.

Шаблыку гэтая бяседа была такая цікавая, што здохнуў бы разам з мухамі. Таму размова перайшла на тэму, ад якой, мяркуючы па нашых літаратурных газетах, здохлі б мухі ўва ўсім свеце: на «кніжнасць».

— Ну вось якой ты, Міхась, думкі пра Быкава?

— А нічога. Не выдумляе. Відаць, што сербануў гэтай ваеннай раскошы аж пад пілотку. Не тое што нейкі піша, як Саня лазенным венікам роту немцаў разагнаў... з танкамі.

Мылі, мылі костачкі інжынерам чалавечых душ (пачулі б яны гэта з трыбуны), і скончылася размова яшчэ на адной асобе, да якой я ўвогуле стаўлюся цярпіма:

— Ну а гэты... Караткевіч? — спытаў Шаблыка.

— А нішто сабе. Толькі чумавы нейкі, дурашны. Левай рукой правае вуха цераз галаву чухае... Ніколі не ведаеш, чаго ад яго чакаць.

— Кажуць, бабнік,— сказаў Змагіцель.

— А пра каго гэтага не кажуць? Ты вось лепей, Антось, скажы, што ты так нарасшыфраваў? — перавёў нудную размову на іншае Шаблыка.

Я коратка расказаў пра літарэю. Сказаў толькі, што цвёрда ўпэўнены, што патрэбная мне вежа — з паўночнага боку, там, дзе была замураваная пасля Слуцкая брама. Сказаў і пра вугал намотвання (я верыў гэтым хлопцам і дужа спадзяваўся, што яны былыя дзеячы партызанкі і падполля, умеюць, калі трэба, зацiскаць у цiскi язык), але сказаў (даруй мне божа за хлусню), што прадмета, вакол якога трэба матляць, у мяне няма і што вызначэнне па транспарціры вугла між асявой лiнiяй стужкі і кірункам напісання слоў мала што дае, а канец мне і зусім няясны (і гэта было праўдай). Няясна было толькі, якую вежу трэба лічыць ад кутняй. Трэцюю?

— А ты яшчэ пачухай свой глобус,— сказаў Змагіцель,— можа, нешта надумаеш.

І сапраўды, што заставалася рабіць?

І тут раптам за шчыкетамі кветніка пачалася дзікая какафонія. На розныя ступені гвалту брахалі дзесяткі сабачых глотак, і нечы голас верашчаў на ўсю вуліцу:

— Забойцы! Забойцы!

Мы падышлі да агароджы. Справа рухаўся ўжо вядомы мне картэж: Лапатуха ў суправаджэнні дзесятка сабак. А насустрач яму ішлі старшыня Альшанскі і бухгалтар Ганчаронак. І адчувалі сябе, відаць па ўсім, як дзве мухі ў місцы з кіслым малаком. Усе робяць вывады, усе бачаць, а задавальнення ніякага.

— Забойца! — гарлаў Лапатуха.

— Чаму, Людзвік? — спытаў Альшанскі.

— І вы! І вы! Заб'еццы мяне! Схаваюся!

— Чаму я забойца? — спытаў Ганчаронак.

— Таму,— і да Альшанскага: — Бычкоў забіваеш! Цялятачак! Авечачак! Схаваюся!

— Ідзі, Людзвік,— сумна сказаў старшыня.

Але вар'ят, заўважыўшы, пераключыўся ўжо на мяне:

— Ага, да праўды ідзеш? Тым хутчэй галаву скруціш. Абселі ўжо цябе, абселі. І бац[1] табе не памо-

---

[1] Бац — пацук *(дыял.)*.

жа. Бац у сутане. Вось Боўбель, Боўбель прыйдзе. Прыйшоў.

І мы, і тая пара рванулі ад яго, нібыта ён размахваў вядром з варам.

Ледзь адсапліся, пакуль не перанеслі рэшткі «бальсану» і рэшата з трускалкамі на другі, садовы, столік, за хатай.

— Ну, джэнтльмены,— спытаў я,— як самаадчуванне? І што гэты сон увогуле павінен азначаць?

— Не ведаю,— сказаў Шаблыка.— Можа, сапраўды, з розуму з'ехаў чалавек. А можа... надта ўжо зручны спосаб замаскавацца.

— Ну кінь,— сказаў Змагіцель.— Тут тады такое чынілася, што і самы здаровы чалавек з'ехаў бы з глузду. А ў гэтага, відаць, псіхіка была хірлявая. Добра яшчэ, што хацяў душою не загавеў.

— Як гэта ўсё было? — спытаў я.

— Ну ў маі сорак чацвёртага па загаду Гімлера, як вядома, была створана «Kommenda 1005»,— сказаў Шаблыка.— Знішчэнне слядоў усяго, што яны тут нарабілі. «Акцыі санітарныя». Прысуд загібелі на вёскі і хутары, дзе маглі быць сведкі. Нам яшчэ пашанцавала. Не паспелі знішчыць, надта хутка лыжы падмазвалі. Але выселіць людзей — выселілі. У лес. А акцыі былі падпісаны, гэтыя, аб масавых экзекуцыях. Быў тут такі шэф кладненскай акругі гестапа. І падпісваў ён іх як «Przewodniczacy sądu gestapo». Старшыня «суда» гестапа... Ну і пачалі тут па акрузе машыны гойсаць. А ў машынах — нашы з лесу сачылі за імі. А ў машынах СС — оберштурмбанфюрэр, доктар права (як быццам можа быць нейкае права ў краіне бяспраўя) і ён жа вышэйпамянёны шэф кладненскай гестапаўскай акругі, нехта па прозвішчы Гешцёбер ды з ім нейкі штандартэнфюрэр, палкоўнік, значыць. Ды оберштурмфюрэр Зейтц з памочнікам унтэрштурмфюрэрам Штофкенам (зямля яму бітым шклом, такая сволач). Ну і ў іншых машынах драбнейшыя, шарфюрэр Лінц (гэты аховай кіраваў) і чамусьці фон Эйхгорн, маёр «ТОДТ» аўскіх частак, ваенна-будаўнічай арганізацыі. Ясна, што не будаваць яны нешта тут збіраліся, а хаваць... А мо шукалі нейкага натуральнага яра, каб менш было работы па засыпанню...

— І дакументаў няма? — спытаў я.

— Шукалі мы іх некалькі год назад. Бо некаторыя нашы людзі часам усё ж пракрадаліся ў вёску забраць нешта забытае ці трохі ежы са схованак і, хочаш не хочаш, сёе-тое бачылі.

— Хто?

— Мультан. Арганіст. Ды ці мала яшчэ хто... Ну вось. У сярэдзіне ліпеня падступалі нашы. І тут зноў пачалася катавасія. Гэтай акцыяй кіраваў ужо камендант Альшан граф Адальберт фон Вартэнбург.

— Часам не з тых? Не сваяк таго Іёрка фон Вартэнбурга Іягана-Людзвіга, што з генералам Дзібічам у 1812-м Таўрагенскую канвенцыю заключыў? — спытаў я.— Ну, што немцы з расейскімі войскамі будуць супраць Напалеона ваяваць.

— Угм. А раней, у 1778—1789 удзельнічалі ў вайне за Баварскую спадчыну. Не прамыя нашчадкі, а, здаецца, ад траюраднага брата.

— Ты скуль ведаеш?

— А я ў прамежку паміж дзвюма партызанкамі не толькі па падазрэнню ў «бандытызме» ў гестапа сядзеў, а да гэтага ў гестапа некаторы час перакладчыкам служыў.

— Як?!

— А так.

— Ну і што?

— Сам бачыш. Не з белымі мядзведзямі выхаваўчую работу вяду, а з юнацтвам. Значыцца, ясна, як я немцам наработаў.

— Н-так,— упершыню азваўся «каўбой»,— не жыццё, а слоены пірог: лес — перакладчык гестапа — падвальны падапечны гестапа — выкуп — зноў да лесу.

— Добра,канчай. Ну вось. А з графам Франц Керн з айнзацштаба, з ведамства Розенберга. Рабунак каштоўнасцей. Значыць, і іх вывезці не здолелі, бо кальцо амаль замкнулася... А з імі штандартэнфюрэр Зігфрыд (прозвішча не ведаю) і — трымайся за нешта, закачаешся — апошні Альшанскі стары, Юзаф-Ксаверы.

— Ён, кажуць, памёр скора пасля,— сказаў я.

— А я думаю, яго памерлі,— сказаў Змагіцель.— Магло быць і гэта.

— Як?

— А ты што думаеш, Вартэнбургу і Керну па-

трэбны былі лішнія сведкі? Дык вось, увальваюцца тады ў Альшаны і сюды пад непрабойнай аховай некалькі «опеляў», два «даймлербенцы», адна машына сістэмы «Монці» (дзень п.........ь — год на рамонце) з эсэсманамі і тры легкавушкі: «бээмвэшка» сіняя, «опель-капітан» і «мерседэс» з генералам. І амаль ва ўсіх машынах нейкія скрыні, цюкі, зашытыя ў брызент і цырату рулоны. А ля адной увесь час круціцца, рукамі махае і распараджаецца стары Альшанскі, а на астатнія і плюнуць не хоча... Ну, а пасля пагналі калоны вязняў і проста мірных... Эсэсманы сваімі «вальтэрамі» ды «манліхерамі» трасуць, блокэльтэстары, блочныя старосты ды блокфюрэры кіямі махаюць: «а мо за руплівасць ды дбайнасць не будзе ім апошняй ямы». Бо прадчувалі, ой прадчувалі ўсе. Як добры сабака землятрус ці пажар у доме. Скулля гэтым старостам з макам, і не прысудзілі ім немцы іншы лёс... Там і нашы былі ў напаўвайсковай форме — Мультан бачыў. Некалькі чалавек. Але далёка было, не пазнаеш у твар. А нашы ж, сволачы.

— Якая эпоха, такія і таленты,— з чорным гумарам сказаў Змагіцель.

— Ты б, Міша, і пра іншыя таленты нашай эпохі ўспомніў,— злосна буркнуў Рыгор.

— І ўспомніў бы, ды тыя забыць не даюць.

Ужо ладныя прысмеркі ляглі на вёску, на Альшанку, лясы і груваскі чорны сілуэт далёкага замка. Шаблыка ўздыхнуў:

— Ну вось. Мультан у лесе сядзеў. Бачыў, як разгружалі скрыні, як валаклі некуды.

— Ён пасля вайны іх нават шукаў. Мацаў латай дно замкавага возера. «Глей,— кажа,— засмактаў»,— працадзіў «каўбой».

— А я думаю — дарэмна там шукаць,— сказаў Шаблыка.— Думаю, не там. Думаю, ці не ў рачулцы пад замкам, там прамоіны пад берагам. Або, вярней за ўсё, недзе ў катакомбах. Бо там д'ябал нагу зломіць, бо да канца іх ніхто не ведае. Ведаў толькі стары Альшанскі, у яго план старадаўні быў.

— Хто бачыў,— уздыхнуў я.

— Лапатуха.

Я бязмерна здзівіўся.

— Ён гады два да трыццаць дзевятага ў замку бібліятэкарам працаваў. Бо куды было паткнуцца

беларускаму хлопцу, хай сабе і з універсітэтам.

Памаўчаў:

— І ўвогуле, ён зашмат бачыў. Аж да небяспекі жыццю шмат бачыў. І апошнюю «акцыю» бачыў. Трызніць, балбоча, а сэнс нейкі ёсць. Я вось толькі не ведаю, ці ён яе таксама назіраў аднекуль, ці быў у каложе смяротнікаў. Я з паасобных словаў гэтага ягонага блекатання склаў для сябе такую карціну, можа, і няверную.

— Якую? — спытаў я.

— Бачыў, але не да канца. Цягнулі палонныя скрынкі да гарба (там возера з аднаго боку, а рачулка-роў і замак з другога). Смяротнікам пасля вочы завязалі, павялі туды, а праз пару гадзін, зноў з завязанымі вачыма,— адводзяць назад. І ў лесе — залпы. Жывыя зносілі мёртвых у купы. І тут ці Лапатуха спалохаўся (ён, відаць, ужо і тады быў — таго...) і кінуў назіральны пункт, ці ўдалося яму дзівам уцячы. А астатніх паклалі там, на горцы. Дзе пахаваныя — ведаеш.

— А хто ведаў і ведае, дзе яны тое схавалі?

— Ну нашых туды не пусцілі. Вартэнбург пад бомбы трапіў у Дрэздэне, а «мастацтвазнаўцу» Керна нашы ў Беластоку пасля прылюдна павесілі.

— Вось яно,— уздыхнуў я.— Атрымоўваецца, ніхто не ведае, што хавалі, дзе і як.

— Ускосна здагадацца можна: архіў і нарабаванае і асабістае майно Альшанскіх. То ж бо замак пуставата выглядаў, як мы ўвайшлі. А ведаеш? Лапатуха ведае. Ды гэта ўсё адно што сабака ведаў бы. Не кажа... І ніколі не скажа.

— А можа, так, што прасвятленне?..

— Наўрад ці,— сказаў Змагіцель.— Што могуць даць бязладныя лапатанні накшталт: «І вы... Заб'еце мяне... Забойцы... Запавет іхні там». Калі і ёсць недзе там запавет Альшанскага ды княскія граматы ды сцверджанні годнасці магнацкай — каму яны зараз патрэбны? Апошні, апошні Альшанскі воляю божай «Умрэ».

Так, вясёлага было мала. Мы сядзелі ўжо амаль у цемры, і такая ж цемра была ў нашых мазгах. Я ўспомніў пра сваё абяцанне Хілінскаму і першы парушыў маўчанне:

— Хлопцы, а што яно такое — Боўбель? Гэта я

для аднаго там чалавека. Ён і сам трохі ведае, але яму цікава, што ведаюць, як глядзяць на гэта тут, на месцы.

— Кгм,— Змагіцель кінуў у рот трускалку.— Гэта, браце, славуты бандыт. Тэрарызаваў з бандаю ўсё наваколле ў 1945—1947 гг. Два іх тут такія былі. Ён ды Кулеш. У акупацыю «партызанілі». А папраўдзе іхняя партызанка ў асноўным была — харчамі разжыцца ды каня ці кажух у мужыка ўзяць. Ну, хлусіць не буду, нападалі часам і на немцаў. Пасты здымуць, камендатуру падпаляць, мост спалілі аднойчы, два эшалоны пад адхон ракам паставілі. Яшчэ пакуль такое — цярпелі. Але перад вызваленнем бывалі ў іх ужо сутычкі і з намі. Амаль як анархісты ў грамадзянскую: «Бі справа — белага, злева — краснага».

— Так,— сказаў Шаблыка,— аж па сорак восьмы пекла было ў нас. Праз іх. Вяртаюся аднойчы са сходу ўначы — аж нехта цыгарку курыць за нядальнім хмызам. Ясна, перастраюць. Засада. Ну я «вальтэр» з кішэні, крадуся, думаю: «Гэта яшчэ хто каго». Падышоў бліжэй — цьху ты, мацць тваю не займаць... Светлякі! Звычайны святляк!

Пасмяяліся. І зноў Шаблыка:

— А бывалі і сапраўды засады. Дужа палявалі. За ўсімі, а за мною чамусьці асабліва.

— Можа, баяліся.

— Сам думаю. Магчыма, у бандзе быў нехта з калабарацыяністаў. А я мог яго выпадкова ведаць, бо пэўны ж час «немцам служыў». Мог апазнаць. Цалкам магчыма, што па гэтай прычыне і палявалі... Ну не ўпалявалі, і добра. А пасля міліцыя ды ястрабкі ды звычайныя людзі, якім ён горш за гнілую рэдзьку агоркнуў, пачалі яго ганяць, прыціснулі да балота — і гамон. Боўбель сам, здаецца, забіты.

— Чаму «здаецца»?

— Ніхто з нашых яго ў твар не ведаў, а «ягоныя» ўсе паляглі.

— Так ніхто і не ведаў?

— У цемры — толькі нехта Шчука. Здаецца, у чынах цяпер. У Мінску жыве. А з тых, што бачылі пры няпэўным святле і ўсё ж жывыя выйшлі,— бадай што, ці не адзін Ганчаронак.

— Ганчаронак?

— Ну так. Боўбель паслаў з ім «праважатым у апошнюю дарогу» хлопца, ды, відаць, малавопытнага. А ў Тодара ў кішэні махра была... Другая пага. А ў Тодара ўкішэні махра была... Другая пага, рук яму не звязалі... То ён у балоце пасля два дні сядзеў, аж пакуль ноччу ў Альшаны не прыйшоў і ў жонкі не даведаўся, што Боўбеля напярэдадні разбілі ўшчэнт.

— Ніколі б не падумаў, што гэткая мужнасць,— пакруціў я галавой.— Гэты п'янюга, вечна ад яго гарай нясе.

— Ён, кажуць, і піць пачаў з таго часу. А ўвогуле, мужны не мужны, а гадзёнак ён, гэты Тодар Ігнатавіч,— сказаў Шаблыка.

Я зразумеў, што ён не можа дараваць бухгалтару, які справакаваў Альшанскага зрабіць замах на замак.

Я ўстаў.

— Давай праводзім яго,— сказаў Змагіцель Шаблыку.— А то столькі страшнага нагаварылі, што дзіця наша, перш чым бай-бай у люлю, яшчэ дарогаю недзе ўграшыцца.

Мы пасмяяліся і трох рушылі з двара. Месяц, які толькі-толькі пачаў скідацца на ветах, заліваў няпэўным святлом пыл вуліцы, утаптаныя пешаходамі «тратуары», цёмныя садкі. Ішлося і дыхалася лёгка.

— Н-на,— сказаў урэшце я,— зямелька ў вас з фокусамі, страшнаватая. І на кожным кроку фардыбачыць, як неаб'езджаная кабыла.

— А гэта таму,— сказаў Шаблыка,— што мы на сабе ездзіць нікому не дазвалялі.

— Наадварот, самі намагаліся, каб камусьці на спіцу ўзлезці,— усміхнуўся «каўбой».— Толькі не заўсёды гэта ўдавалася. Звёў мяне аднойчы лёс, адразу пасля вайны, у Літве з адным такім звышпатрыётам. Я сам Беларусі на мазоль наступіць нікому не даў бы, але тут аж нават мяне крыху нудзіць пачало. «Наш Вітаўт мячом у вароты Масквы стукаў» (як быццам я масквіч). Ну я яму спакойна: «Стукаў, ды не дастукаўся». Бо і праўда ж, не адчынілі. Дый увогуле, малапачцівы гэты занятак: у чужыя дзверы стукаць. У нас дык гэта толькі аднойчы такі выпадак быў з удавой ды п'яным Высоцкім...

— Во! — схамянуўся я.— Пра ўдаву пасля. Але вы ж тут увесь час. Можа, ведаеце, за што рас-

страляны немцамі ў Кладна Уладак Высоцкі, траюраднік нашага вознага.

— Дужа цёмная,— сказаў Рыгор Шаблыка,— конча заблытаная справа. Ніхто не ведае. Я ўжо і сам шукаў для школьнага музея. Можа, новы нейкі герой невядомы? Не, цемра, і ўсё. Архіў немцы, відаць, спалілі ці схавалі. Можа, нейкія рэшткі-адпіскі ў сталічным засталіся, то пашукаць...

— А што гэта за гісторыя з выкананнем палякамі смяротнага прысуду над Крыштофам Высоцкім. У 1939-м?

— А тая гісторыя таксама невядомая. Кажуць, забіў правакатара. Але тады да гэтага мала каму справа была. Вайной нацягвала. Можа, таксама ў Мінску пашукаць? Ці ў Вільні. Бо ў Кладна судовыя архівы дымам пайшлі... Вой!.. А слухай, што мне ў галаву запала. Трэба-такі разблытаць гэтую справу. Людзей сустрэць, сведкаў, калі архівы згарэлі. Мо дапамогуць даведацца і аб нашай альшанскай галаваломцы.

— Чаму?

— А ты ведаеш, каму было даручана выканаць прысуд над Крыштофам і яшчэ дзесяццю?.. Оберштурмфюрэру Штофхену з падначаленым шарфюрэрам Лінцам.

— Ну то што?

— А тое, што гэтыя дзве быдляціны ўдзельнічалі і ў акцыі знішчэння нашых у Альшанцы. Штофхен — адзін з тых, хто кіраваў расстрэлам на грэблі, а Лінц кіраваў аховай аперацыі. Гэх, памяць твая кашэчая.

Я быў цалкам згодзен з ім і вырашыў сёння ж вечарам усё запісаць па гарачых слядах. Мы якраз праходзілі паўз хату Ганчаронка і ўбачылі ў расчыненым акне між двума вазонамі з алёнчынымі слязьмі ягоную пасечаную дробнымі зморшчынкамі храпу.

— Крапіва ў квяціне,— сказаў непапраўны Змагіцель.

— Гэй, сябры,— азваўся бухгалтар,— калі ўжо міма йдзеце, то чаму не заглянуць?

І, сам не ведаючы чаму, я павараціў да ганка. Астатнія, без вялікай ахвоты, нага за нагу пацягнуліся за мной.

Хата была як хата. Вялікі пакой, адначасова «га-

сціная» і «сталовая», калі прыйдуць госці. Тахта, над якой дыванок з аленямі і замкамі, буфет, стол і крэслы. У адны такія дзверы Ганчаронак нас і павёў. Выявілася — кухня.

Ад іншых кухань яе адрознівала толькі наяўнасць газавай пліты з балонам ды паліца, на якой стаялі рэчы зусім нечаканыя і непрыдатныя ў хатняй гаспадарцы. Так бы мовіць, «паліца ўпрыгожванняў». Быў там стары чайнік-самавар для варкі мёду з травамі, відавочна, даўно нялуджаны, а таму непрыдатны, старадаўнія піўныя куфлі (адзін з ручкай у выглядзе чортавай фігуры), розныя збаночкі, вельмі старыя спарышы, глякі ды гарлачы пад малако.

І зусім ужо дзіўнае. Вельмі-вельмі стары таўкачык ад ступкі. Можа, аптэкарскай. Бо на ім былі не толькі медныя «ляпёшкі» на абодвух канцах, але і пашырэнне ўсярэдзіне (гэта калі размешваеш напаўвадкі адвар з густа засыпаных у кіпецень траў). Таўкачык з поўнай пэўнасцю цягнуў год на трыста з вялікім гакам.

— Старадаўняя якая рэч,— сказаў я.

Ганчаронак тым часам наліў з адной вялікай бутэлькі (іх мноства стаяла ля адной са сценак) у гарлач нейкай вадкасці, а пасля напоўніў ёй шклянкі.

— Прысаджвайцеся. Свой мёд пітны.

Я глынуў і ледзь не задыхнуўся. Мёд варылі, відаць, не толькі з гваздзікай, карыцай, перцам і мушкатнай галкай, але і на амаль чыстым спірце.

— Ну, Тодар Ігнатавіч,— ледзь аддыхаўся Шаблыка.— Калі вы кожны дзень ды такое...

— Што, мачымордам празвалі,— усміхнуўся бухгалтар.— А вы менш верце. Прапалашчу рот для дэзінфекцыі ды глыток зраблю, дык усе ўжо і кажуць: п'е.

«Брэша»,— падумаў я.

А Ганчаронак з заўсёднай сваёй з'едлівай лагоднасцю (а чалавек інстынктыўна не верыць у такія спалучэнні) дадаў:

— Гарэлкі не піў, піва не любіў, таму і кар'еры не зрабіў.

— А што,— сказаў Змагіцель,— падобна на праўду. Я аднойчы ў Навагрудку зайшоў у рэстаран. Праз колькі там часу і ён заходзіць. Таксама нейкая справа яго прывяла туды. Мяне не заўважыў. Сеў за столік,

дае афіцыянтцы заказ, а пасля: «І дзесяць грамаў гарэлкі». У той вочы на лоб палезлі: «Чаму?» А ён: «Ды мне толькі для паху, а дурасці ў мяне і сваёй хопіць».

Усе зарагаталі. Ганчаронак, як мне здалося, вымушана, не зусім натуральна.

Адчуўшы, што тэма размовы яму чамусьці непрыемная, я зноў перавёў размову на таўкачык:

— У музей бы яго.

І раптам ён на хвіліну зусім нечакана ўзбеляніўся, хаця вельмі хутка ўзяў сябе ў рукі:

— Што вы да мяне з гэтым таўкачом! Адзі-ін, другі-і. Калі і аддам, то ў музей, а не вам і не яму.

— Каму яму? — Мне чамусьці захацелася ўзяць яго нашармака, блефануць.— Альшанскаму? Высоцкаму?

Здалося мне ці не, але, па-мойму, ён крыху сумеўся.

— Ды Высоцкі прыстаў, як лазенны ліст да... «Зноў Высоцкі,— падумаў я,— паўсюль Высоцкі».

Але Ганчаронак ужо толькі рукою махнуў:

— Высоцкі... Аддай ды аддай, усё адно ступкі ў цябе няма, а ў мяне ёсць.

— Што за ступка?

— Ды зусім маладая, год ёй, можа, восемдзесят. А я яму таўкач аддай. «Чаму ты, кажу, мне сваю ступку для поўнага камплекта не аддасі?» — «Мая, кажа, навенечкая, а твой таўкач даўно яр — мядзянка паела. А мне прыдасца. Можа, так яе адпаліраую, што як новая будзе».

Я зірнуў на таўкач — ён быў спрэс у малахітавым налёце. Часам яр нават выела на ім невялікія воспіны.

— Аддай, аддай,— бурчаў Ганчаронак,— усім трэба, абы не мне. Аднаму аддасі — другі пакрыўдзіцца. Не, няхай пакуль у мяне паляжыць.

— Як хочаце.

— Высоцкі... Высоцкі... Ясна, рабіць мала чаго трэба, то суне нос, дзе іншым няміла. Толькі нейкі стары кажа, як яно бывала — гэты ўжо тут, самы ўдзячны слухач. Калі арганіст «дзыгар» рапараваў, механізм ды цыферблат, то гэны ўвесь час ля яго сядзеў. Адзін раз і мяне зацягнуў. Цікаўнасць, ба-

чыце, яго брала. Прыглядаўся: «Можа, і самому калі давядзецца». Рабіць няма чаго, то й лазе.

Праз некалькі хвілін мы развіталіся і пайшлі, адмовіўшыся ад другой чаркі «мёду».

...Але хай мяне пярун лясне на божае нараджэнне, калі нашы прыгоды на гэтым скончыліся. Мы падыходзілі да замкавай брамы, і тут мне цюкнула ў галаву:

— Хлопцы, давайце зазірнем. Можа, яны, гэтыя «пані з манахам», і сёння з'явяцца.

Крыху падагрэтыя «мёдам», яны згадзіліся. І вось мы досыць шумліва ўваліліся ў запаскуджаны двор. Месяц асвятляў ягоную палову, ляжаў на вежах касцёла за мурамі. І нічога.

І раптам я, зірнуўшы на галерэю крыху правей, чым у той раз, заўважыў:

— Хлопцы, унь яны.

— Ды дзе? Нічога не бачу,— сказаў Шаблыка.— Ой, не, унь «яны».

Па галерэі, відаць, ужо канчаючы сваё начное шэсце, рухаўся цёмны доўгі цень і цень светлы.

Секунда... трэцяя... зніклі.

— Ну, самі бачылі, што б гэта магло быць? — спытаў я.

— А д'ябал мяне варожы забяры, калі я ведаю, што гэта,— буркнуў Змагіцель,— Містыка нейкая, так яно і так, чэк тваю дрэк.

— Ну,— уздыхнуў Шаблыка,— за лёс маладога пакалення можна не непакоіцца. Настаўнік беларускага прыгожага пісьменства хворы на містыцызм і лаецца, як басяк.

Пакінуўшы замак, мы паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся. Я папрамаваў уздоўж замкавага мура да плябаніі. Тут было цёмна, месячнае святло падала толькі на Альшанку і парк за ёй, і перасякалі гэта аліўкавае святло толькі чорныя цені ад вежаў.

І тут, нібы мала мне было на сённяшні дзень, я пачуў справа, нібы з самога нутра мура, спачатку нейкае невыразнае «бу-бу-бу», а пасля не менш невыразныя словы.

Я ўзняў галаву — у бойніцы ніжняга бою цьмяна вымалёўвалася пляскатая белая пляма. Аблічча. І на гэтай невыразнай пляме варушылася нешта цёмнае. Рот. Я мог бы чыркнуць запалкай, але словы раптам

сталі больш выразныя, хаця і ўрыўчатыя, і ў гэтым ужо не стала патрэбы.

— Адыдзі. Адыдзі... Мой дом, мой замак, мая крэпасць. І што над ёй — маё... І пад ёй... Я вам дам, душагубцам, я вам дам цыклон... Людажэры... Фашысцюгі клятыя... Жыць хачу!.. Жыць!.. Дзеткі глядзець, просяцца... Вартую, вартую іх... І патаемнасць вартую... Ізыдзі!..

Я міжволі паскорыў крок, абы не чуць гэтага вар'яцкага блекатання, і аж пакуль не выйшаў на азораны месяцам краёчак става, наўздагон мне далятала:

— Бу-бу-бу-бу.

Падыходзячы ўжо да плябаніі, я падумаў, што так, магчыма, і вар'яцтва, але нейкае дужа ўжо асэнсаванае. Зручнае для чалавека вар'яцтва. Лапатуху таксама нельга было пакуль выкрасліць са спіска. На яго, пакуль тое, таксама яшчэ падала падазрэнне.

## Раздзел II

### *У якім я зашмат балбачу і, насупор логіцы, шкадую правакатара*

Ледзь я паспеў на пару дзён вярнуцца ў родныя пенаты, ледзь скінуў рукзак, як забрынчаў у нежылой кватэры званок і я ўбачыў у дзвярах твар «містэра Сміта з Бобкін-стрыт».

— Я на хвіліну да цябе... На вось, тут копіі з тваіх істужак і з тых літар, што не расшыфраваў. Думай. Прыхавай толькі добра. А кніга няхай пакуль застаецца ў Шчукавым ведамстве. Так больш надзейна... Э, брат, ды ты нешта зблажэў на вясковых харчах... Дык вось, прыходзь у восем чай піць. Шчука прыйдзе.

— Дзякуй.— Я ледзь паспеў сказаць гэта, а ён ужо выпарыўся.

Адну копію я засунуў у патаемнік (палову), другую палову засунуў у дзесяты том трэцяга выдання твораў Леніна, стр. 492, дзе «Беларуская сацыялістычная грамада». Тое ж зрабіў і з іншымі паловамі. У «Матэрыялы па археалогіі», выданне АН за 1960 г. Ва ўспаміны А. фон Цірпіца, у Анталогію беларускага апавядання, т. II, стр. 289.

Калі падчас маёй адсутнасці нехта і зробіць дакладны вобыск, то чорта пëратрасе ўсе выпадковыя кнігі. А калі ва ўсе адразу, то палез бы хіба адзін я, балван, дый тое наўрад.

Пры гэтым я ўспомніў, як зайшоў аднойчы з сябрамі да знаёмага, таленавітага лайдака, і ўбачылі мы, што вакол кніжны развал, а гаспадар ліхаманкава гартае нейкі том.

— Ну вось табе. А мы хацелі табе прапанаваць па піва збегаць... А ты... Ды, відаць, ты працаваць пачаў.

— Э-э,— з прыкрасцю адмахнуўся ён.— Не ў тым справа. Вось схаваў ад жонкі сто рублёў у кнігу, дый забыўся ў якую.

Рагаталі мы тады ўсе, як гіены.

Роўна ў восем я ашчасліві ў суседа сваім візітам. І адчуваў бы сябе зусім добра, каб не ўбачыў на тахце побач са Шчукам яшчэ й лейтэнанта Клепчу, якога я па вядомай прычыне не паважаў і паважаць надалей не збіраўся. Цярпець не магу «няўхільнасці», «праніклівасці» і адкрытага любавання сабою. Ды і ўвогуле ён тупак.

Хілінскі, паставіўшы на стол шклянкі, разеткі, вазачкі з трыма рознымі варэннямі і іншае такое, разліваў зараз гарачы, амаль чорны з адлівам у бардовае чай.

— Слухай, можа, ты спачатку пад'еў бы чаго? Кураня ёсць халоднае, можна падагрэць. Аліўкі.

— Ды не, сыты.

— Тады пі чай. Расказвай.

— Толькі занадта ў псіхалогію не лезь,— сказаў Шчука.— Гэтая дама ў нас рэдка начуе.

Я расказаў пра ўсё, што паспеў зведаць. Баюся, што балбатаў досыць доўга і бязладна, але яны слухалі ўважліва.

— Скончыў? — спытаў урэшце Шчука.— Наконт тых, што расстралялі,— вось гэта цікава. Ведалі мы пра расстрэл, а пра абставіны, якія яму спадарожнічалі, на жаль, мала. Наконт пакарання смерцю брата Высоцкага за падполле — таксама не ведаем нічога. Прозвішча толькі — Уладак Высоцкі. А пра таго, каго на смерць палякі ў трыццаць дзевятым асудзілі — ну пра гэта таксама ненашмат болей ведаем.

— Архіў згарэў,— сказаў Хілінскі.— Але чуткі,

што забіты быў правакатар — яны былі. Вось партрэт таго, Крыштофа.

— Крыху падобныя,— сказаў я.— Вы не маглі б мне зрабіць копію?

— Бяры,— сказаў Шчука.— Гэта і ёсць копія. Кепская. Бо і фатаграфія была кепская... А яшчэ бярыце вось гэта. Ледзь адшукаў.

Гэта было некалькі газет, парудзелых ад старасці і пацёртых на сугібах. І адразу ў вочы кінуліся занадта буйныя загалоўкі (ясна, для напаўмяшчанскага тады Кладна гэта была сенсацыя, выбух бомбы). Загалоўкі крычалі, абяцаючы раскрыццё злачынства ў вячэрніх ці заўтрашніх нумарах. Тых, на жаль, не было.

— Забойца спайманы!

— Двайнік пойдзе пад суд! (Гэта яшчэ што? Які да ліха двайнік?)

— «Ён забіў асведаміцеля»,— кажа памочнік пракурора.

— Меркаванні ці праўда?

— Чытайце ў наступным нумары!

Наступных нумароў не было.

— Іх і не магло быць,— зразумеў Шчука мой непаразумелы позірк.— Праз два ці тры тыдні немцы зрабілі правакацыю на радыёстанцыі Гляйвіц. Што гэта азначала?

— Вайну з Польшчай.

— І не толькі. Гэта яшчэ і бамбёжка Кладна, і наш паход на Заходнюю Беларусь, і два разы, ды не, наконт Кладна — чатыры агнявыя валы. Франты. І горад гарэў, і архіў згарэў. А часткова, можа, пабралі немцы. А астатняе спалілі. Увесь квартал вакол архіва выгараў.

— Адкуль жа тады ведаюць пра страту Крыштофа?

— Дзве адхіленыя апеляцыі аб памілаванні,— сказаў Хілінскі.— Кажуць, занадта жорстка забіў, калі нават правакатара. Ну і прамільгнула ў некаторых газетах і штотыднёвіках звестка, што прысуд выкананы. Не ведаю ўжо, хто іх на грані вайны інфармаваў. Я помню толькі нататкі ў часопісах «Gazeta Polska», «Rolska zbrojna» (ну, гэта санацыйныя падціркі), ды яшчэ ў «Czas'e» (гэта кансерватысты кракаўскія). У газетах колькі ні шукаў — не знайшоў.

— А ў пазнейшых?

— Пазнейшых не было. Беларуская прэса ў Заходняй толькі стваралася, і рукі не даходзілі, каб пра старое барабаніць. Пра новае трэба было гаварыць. Ну, а акупанты ліквідавалі ўсю польскую прэсу. Толькі пасля пачала з'яўляцца прэса «gadzinowa». А падпольная прэса хаця і пачала існаваць ужо з кастрычніка 1939-га, але і ёй да справы Крыштофа Высоцкага было... Вось, займіцеся вы гэтым.

І тут упершыню падаў голас Клепча:

— Папрацуйце з гэтым. Гісторыка-рэвалюцыйнае мінулае — цікавая штука. І дужа карысная. Выхоўвае людзей... Моладзь... У духу, так бы мовіць...

Шчука зморшчыўся:

— Чорт вас ведае, Якубе, як вы любую думку, нават самую правільную, адным сваім стылем, адной казёншчынай здатны спаскудзіць і апошліць.

Клепча чамусьці на мяне, а не на Шчуку пакасіўся з яўнай варожасцю. Я думаў таму, што графічны аналіз давёў, што не маім почыркам была напісана запіска, якая выбавіла Мар'яна з дому насустрач смерці, а тым самым і гіпотэза Клепчава была падсечаная пад корань і пляснулася ў багно. Шчука неўпрыкметна падміргнуў мне.

Клепча, на шчасце, хутка пайшоў. Мы некаторы час досыць прыгнечана маўчалі. Урэшце Шчука сказаў:

— Ты, Адаме, тэкст адной афіцэрскай атэстацыі ведаеш? Праўдзівай, хай мне ў Аўстралію праваліцца... Хочаш, павесялю?

— Ну. Валі.

— Дык вось: «За время службы показал себя как грамотный, но недостаточно дисциплинированный офицер. Как летчик подготовлен хорошо. Летных происшествий и предпосылок к ним не имеет. В общественной жизни никакого участия не принимает. Уставы и наставления... знает хорошо, но в повседневной жизни ими не руководствуется, т. к. нарушает воинскую дисциплину. Имелись случаи самовольного ухода со службы. По характеру упрям. На замечания реагирует болезненно. В обращении с товарищами и старшими вежлив. В быту опрятен, по внешнему виду аккуратен. В вопросах внутренней и внешней полити-

ки... разбирается правильно. Государственную и военную тайну хранить умеет.

Вывод: Занимаемой должности соответствует». Памаўчаў.

— Ну дык «соответствует ли Клепча занимаемой должности...».

— Ну павесяліў ты нас,— сказаў Хілінскі.

— Улічы, сапраўдны дакумент.

— Дык вось, шаноўны Андрэй Арсенцевіч,— сказаў Адам,— характарыстыка крыху кульгае. Не зусім ён такі. Не лётчык. Дастаткова дысцыплінаваны. У грамадскім жыцці прымае ўдзел (нават там, дзе не патрабуюць). У паўсядзённым жыцці ўставамі і настаўленнямі карыстаецца (па літары, а не па духу іхняму) занадта старанна, аж нудзіць хочацца. Дысцыпліну не парушае. У самаволку не ходзіць. Упарты, але з дужа старэйшымі падатлівы. На разумныя заўвагі аніяк не рэагуе... «Занимаемой должности»... Ох, давядзецца табе, дружа, узяцца за яго, бо іначай ён такіх дроў наламае, што трэскі паляцяць... А ты што скажаш, Касміч?

Я не хацеў, каб маю шчырую думку палічылі за асабістую непрыхільнасць, і таму адказаў ухікліва:

— Гаворыць газетнымі штампамі, але на самай справе больш разумны, але нават па выгляду не здаецца, што распявае раніцай у туалеце розныя там... харалы.

Адсмяяліся. Пасля я спытаў:

— Дык хто быў той, забіты? Ну «правакатар» той? Ці асведаміцель, як яго?

— Сын палясоўшчыка аднекуль з-пад Замшан,— адказаў Шчука.

— Гэта пятнаццаць кіламетраў ад Альшан?

— Ну так.

— Мала надзеі знайсці,— падумаўшы, сказаў я.— Колькіх палясоўшчыкаў у вёскі перасялілі, на іншае месца перавялі. А колькіх немцы расстралялі. Верагоднасць сустрэчы — нуль... Але паспрабаваць трэба.

Я паспрабаваў. І здарылася дзіва. Былы палясоўшчык Андрон Сай па-ранейшаму жыў, праўдзівей, дажываў век у той жа самай леснічоўцы ля Замшан ва ўрочышчы Цёмны Бор.

Дзень ладна ўжо хіліўся да вечара, калі я злез з аўтобуса і заглыбіўся досыць добра ўбітай, хаця кры-

ху і затравелай сцежкаю ў лес. Спачатку празрысты, прабіты наскрозь ружовымі прамянямі сонца, ён з кожным крокам рабіўся ўсё больш і больш цёмны. Сям-там нават пераспелыя хвоі стаялі так густа, што святло пачынала спачатку блытацца ў іх, высвятляючы то мядзяны — не абхапіць — стаўбур, то вывараценъ велічынёю з хату, цёмны і кашлаты, як мядзведзь (калі ўявіць такога — неіснуючага па велічыні — мядзведзя). Спачатку яшчэ траплялiся крыжыкі заечай капусты, пярэсты падалешнік, плеці завільца, але ўсё радзей і радзей, аж пакуль не саступілі месца пругкай гліцы, якая капілася тут дзесяцігоддзямі.

«Відаць, заказнік»,— падумаў я, і пазней выявілася, што меў рацыю.

Цямней і цямней. Сцежка ўжо ледзь святлее ў цемрыве. Зашалахцела нешта ў траве каля сцежкі. Вожык? Або мышкуе куніца?

Мне зрабілася ўжо зусім непрытульна, і гэта ўсяго за нейкі кіламетр ад дарогі, калі наперадзе нібы крыху заяснела. У досыць моцным прысмерку я ўбачыў ці маленькую рачулку, ці вялікую ручаіну, якая трохі лявей пашыралася не то ў копанку, не то ў натуральны ставок, абкружаны вянком з цёмных у гэты час вербаў.

Крыху правей стаўка, чарнейшыя за сцяну лесу, бачныя былі нейкія будыніны, і раптам на адной з іх бліснуў аранжавы цьмяны простакутнічак. Акно.

Я перайшоў ручаіну — два бярвенцы з хісткімі парэнчамі — і папрамаваў у бок агню. Рэдкімі прывідамі праплывалі паўз мяне беластволыя яблыні і змрочныя высокія грушы.

Перад ганкам — хоць ты яго ў панскі фальварак — шырокі, з драўлянымі слупамі-калонамі навес. Аднекуль з цемры высунуліся бязгучна два чорныя цені. І амаль адразу адчыніліся дзверы, і на парозе ў пляме святла стаў яшчэ адзін цень (бо святло было за ім) са стрэльбаю ў руках.

— Гэта яшчэ каго нячысцік начамі носіць? — хрыплаватым голасам спытаў цень.— Вар! Вецер! Легчы. Дык што вам трэба?

— Я Антон Косміч. З горада. Мне патрэбен палясоўшчык.

— Ну, я палясоўшчык. Салвесь Цяцерыч.

— А-а... Андрон Сай.

— Гэта мой цесць.

— Пабраліся з яго дачкой? — спытаў я, як быццам чалавек можа прыдбаць сабе цесця нейкім іншым спосабам.

— Угм. З Ганнай.

— А цесць дзе?

— Дык ён на спакоі цяпер. Толькі які там спакой? Кожны дзень «вячэрні абход» робіць. Зусім як дзіця. Ды часам на магілцы сына пасядзіць.

— Чуў я гэтую гісторыю.

— Бываюць прасвятленні, але не часта. Вось ужо бліжэй да лета,— ён гаварыў па-ранейшаму суха. Не асэнсаваў падтэксту маіх слоў.— Дачка таксама была сведкай, але цяпер на Нарачы ў санаторыі. А я што ведаю? Я прымак, чалавек староннi.

— А мне вось і трэба паспрабаваць разблытаць гэтае павуцінне.

— Было такое,— зноў жа суха і спакойна казаў ён.— Быў у яе брат... І што быў правакатар, хадзілі такія чуткі. Але гэта я мог бы гэткае казаць,— голас ягоны падвышаўся і раптам сарваўся ледзь не на крык: — Сам пра сваю сям'ю я вольны казаць усё. Тут я сабе пан. А іншаму, які ўздумае паўтараць нахабна мярзотную брахню, я таго абарваць здолею ў секунду. Чым швэндацца пад чужымі платамі — займаліся б справай. Адвальвай, пакуль не пакаштаваў, што такое зарад буйной солі ў с... Цалуй прабой ды прамуй дамой.

Псы, пачуўшы гнеўную інтанацыю, усталі. Утаропіліся ў мяне. Злева здаравенны мардасты ганчак, чорна-рабы, у падпалінах, з шырокай галавой і тупой мордай, магутнага складу, а росту — мінімум васемнаццаць вяршкоў.

Справа — здаравенны кабель (але меншы за сабрата, усяго сантыметраў восемдзесят), шэра-рабы, вышэйшы на нагах, параты. Пры поглядзе на яго стала мне ніякавата.

— Не дрэйф,— з адценнем пагарды сказаў гаспадар,— не калаціся. Пакуль не скажу — не кінуцца.

— А я і не калачуся,— гаспадар, відаць, быў здзіўлены маім нахабствам, бо я дастаў цыгарэту, працягнуў пачак яму (не ўзяў) і сказаў: — Тут во гэтага, шэра-рабага, трэба баяцца. Камусьці, вядома, іншаму, а не мне.

— Чаму? — пакепліва спытаў Цяцерыч.— Ён жа меншы.

— Парода злосная.

Даводзілася мне калісьці пісаць у адной з прац пра сабакаводства на старадаўняй Беларусі. І, здаецца, гэта быў адзін з нешматлікіх выпадкаў, калі такая адцягненая матэрыя прыдалася мне ў канкрэтным жыцці. Адсюль вывад: абстрактных, непатрэбных ведаў няма. Такое можа здарыцца ў жыцці, што толькі веданне таго, які чэшскі кароль разбіў манголаў, уратуе табе жыццё, і тады ты з радасці і Кузьму бацькам назавеш.

— Якая ж бы то?

— Гэта вандэйскі грыфон,— сказаў я.— Парода ад «шлюбу», так бы мовіць, вандэйскіх ганчакоў з брэтонскімі грыфонамі (бачыш, ад іхняй рыжай масці і ў гэтага падпаліны ёсць). Страшэнна злосныя. Лепшых пры паляванні па дзікоў не знойдзеш. Ну і ў ганітве на ваўка амаль першыя...

Салвэсь раптам сеў побач са мною і выцягнуў цыгарэту.

— Ну а гэты, гэтыя — добрыя да людзей. І дзіўлюся я, дзе гэта ты, палясоўшчык і, відаць, добры егер, дзве такія рэдкія пароды здабыў. Бо ў Мінску мне сустракаць не даводзілася.

— Удалося дзівам,— гаспадар відавочна палагаднеў.

— І сапраўды, дзівосы на калёсах. Такіх брудастых, як ваш Вецер, мне не даводзілася бачыць. А Вар. Гэта ж стэгхоунд, або аленны ганчак. У мінулым стагоддзі нават Сабанееў Леанід Паўлавіч (а ён паляванне і сабак ведаў, як ніхто, і я хутчэй богу ці сабе самому не паверу, чым яму) налічваў у Англіі — і толькі ў Англіі — усяго дванаццаць зграй, ці свор, бо кожная з адной своркі, з аднаго налыгача спускаецца.

— Ну, можа, з тых часоў развяліся.

— І тое. Толькі вось занадта ён рослы для стэгхоунда. Ці не павязвалі калісьці некага там з ягоных продкаў з гончай святога Губерта. Што ён, злобны, пешы, вязкі? Голас нізкі, моцны?

— Усё гэта ёсць. А рост? — ён зусім ужо адтаў.— Можа, акселерацыя не толькі сярод людзей ідзе?

— А дзе ўсё ж стары? — занепакоіўся я.

— Прыйдзе. З ім на гэты «вячэрні абход» заўсёды мой Горд ходзіць, ньюфаундленд. Нават прыцягне ў выпадку чаго.

— Га, ды ў вас тут чыстапародная псярня.

— Ды яшчэ Джальма, лягавая, хорта па-нашаму.— І раптам угледзеўся ў мяне.— А вы выпадкова не з лягавых?

— Выпадкова не з лягавых... Мне тут праўду з забойствам вашага Юлляна ўстанавіць трэба. Бо занадта вяжацца яно з некаторымі цёмнымі справамі. І ў вайну, і цяпер.

— А што толку. Павесілі ж забойцу. Не дапамаглі яму ні апеляцыі, ні касацыі. Ні з кога ўжо той помсты спагнаць нельга... Дый дзед мала што вам сказаць можа. Стаў зусім як дзіця малое. І гаворыць — мала што зразумець можна. А ў вайну ж праваднік ў партызан. А ўжо пад семдзесят яму было. І дачка, жонка мая, у партызанах. А дзед ужо і тады быў горам сагнуты ды бядой біты. А зараз яшчэ горш... О, ды вунь ён і ідзе... Самі ўбачыце.

Садам набліжаўся да нас пры эскорце ў два сабакі вельмі высокі (хаця і сагнуты трохі), вельмі кашчавы і вельмі стары чалавек. Ішоў, цягнучы ногі і гледзячы ў нікуды.

Сеў побач з Салвэсем на прыступку, не павітаўся, можа, нават зусім не заўважыў старонняга. Глядзеў у ноч выцвілымі вачыма. А зусім сівыя, вілападобныя вусы (ні даць ні ўзяць перагорнутая дагары нагамі «іжыца») адцянялі выпнутую нібы ад векавечнай крыўды ніжнюю губу і няголенае падбароддзе, а пасля спускаліся амаль да сярэдзіны грудзей.

— Тут, бацька, да цябе... наконт Юлляна... падрабязнасці чалавек ведаць хацеў бы.

Стары сядзеў з каменным тварам.

— Трэба хоць сёе-тое ўспомніць, бацька. Добры, відаць па ўсім, чалавек.

— Усе... усе людзі добрыя,— нібы ў трансе або ў трызненні, ціха пачаў стары,— і вось такое. Юллян... сынок... Пра жыццё тваё думаў... на смерць паслаў... Надта ўжо ласкавы, гады на чатыры старэйшы... І шчарбаты, як Юллян... двох пярэдніх... Ляснічым аж у Цешын, пад самыя... чэхі... Дакуманты... Школа повшэхна... Трыста злотых... У лесе... Застрэлены...

Рэвальвера няма... І старэйшая мая пасля чэзлачэзла дый памерла.

І раптам твар ягоны скрывіўся, як ад плачу, хаця вочы былі сухія.

— Няпраўда, што сыпаў, няпраўда, што выдаваў... Не мог сынок... Забіты сынок.

І тут я зразумеў, што мне ўсё роўна, вінен быў ці нявінен Юллян Сай. Мне стала нават крыху шкада яго. Шкада апасродкавана, праз гэтага дзеда, які плакаў з сухімі вачыма.

Нямая, бязмежная крыўда лямантавала ў гэтым земляным ужо целе, у гэтай істоце, якая некалі была чалавекам і перастала ім быць усяго за тую секунду, што спатрэбілася для нечага стрэлу. Ужо не было сілы, розуму, нават успамінаў. А крыўда жыла. Крыўда была мацнейшая за ўсё.

Я заскрыгатаў зубамі. Яшчэ раз — і на гэты раз ужо назаўсёды — я зразумеў: нічым на свеце, ніякімі нават вышэйшымі меркаваннямі нельга апраўдваць крыўду, якую наносяць жывому чалавеку.

Адмовіўшыся ад начлегу (я не мог болей быць тут, а дзед жа быў тут са сваімі думкамі звыш за чвэртку стагоддзя), я накіраваўся да сцежкі. Цяцерыч вызваўся праводзіць мяне.

— Бачыце,— сказаў ён, калі мы падыходзілі да дарогі,— няшмат жа мы даведаліся... Нічога, прыедзе жонка — яна, можа, больш раскажа. Я дам знаць.

І ўжо стоячы адзін і гледзячы на агеньчыкі, відаць, апошняга прыгараднага аўтобуса, я ўсё яшчэ нібы бачыў леснічоўку і цень чалавека на ганку. Чалавека, які глядзеў у ноч.

Мне зноў пашанцавала. Калі я вылез з аўтобуса, які не заходзіў у Альшаны, а прамаваў проста на Кладна, я ўбачыў, што месца маё займае нейкі чалавек, які здаўся мне нібы крыху знаёмы, а ад прыпынку збіраецца ад'язджаць на нейкай дзіўнай таратайцы, што памятала, мабыць, бацьку апошняга Альшанскага, пан фальваркавец з-пад Альшан Ігнась Якаўлевіч Высоцкі ўласнай персонай.

— Стой, воўк цябе рэж,— прыкрыкнуў ён на каня і ўсміхнуўся мне.— Во і вам пашанцавала. Не трэба тых кіламетраў тэпаць.

— Што, адвозілі кагосьці?

— Ды так, кантралёр-рэвізор адзін быў у Семярыках. Датопаў да Альшанкі гэтыя чатыры кіламетры. Ды Ганчаронка сустрэў. Знаёмыя. Тут бухгалтар да старшыні: «Хай яго Высоцкі падвязе. Чаго чалавеку ногі біць? Ну і, глядзіш, прыдасца некалі».

Альшанскі яму:

— Трэба так гаспадарку і тваё сальда-бульда весці, каб кантралёр-рэвізораў толькі з далікатнасці на прыпынак вазіць. Каб ведаў, што гэта мы не ад страху, а ласку яму робім. Ладна, хай Высоцкі адвязе.

— А мне што? Я і павёз. Служба такая.

— І што за чалавек?

— Ды дзіўны нейкі, маўчун. Толькі вуса й круціць ды, як каля замка ехалі, спытаў, ці гэта ён і ёсць.

— Нешта ён мне здаўся падобны на кагосьці.

— Ды і мне спачатку, здалёк. Недзе некалі нібыта бачыў. Пасля прыгледзеўся — не, зусім невядомая морда.

Цёмныя купы дрэў часам амаль змыкаліся над дарогай, утвараючы тунель. І ў канцы яго мігцела нізкая калючая зорка. Крыкнуў, заплакаў, зарагатаў у нетрах пугач. Пазнавата. «Песні» іхнія адышлі разам з вясной. Хаця бываюць сярод іх адзінкі, што плачуць і рагочуць летам, нават ранняй восенню.

— Ну а вы адкуль, так бы мовіць? — спытаў Высоцкі.

Маніць не выпадала. Шмат людзей бачыла мяне ў Замшанах, некаторыя (познія смаржкі, відаць, збіралі для аптэкі) — на сцежцы, што вяла да ўрочышча. Дый не люблю я гэтага занятку, акрамя тых выпадкаў, калі інакш — зарэз. І, самае галоўнае, чаму вучыла нябожчыца маці і што я запамятаў на ўсё жыццё: «Хлус павінен мець добрую памяць». Сапраўды, павінен, каб пра нейкія падзеі не збрахаць таму ж самаму чалавеку зусім па-іншаму. Або проста прагаварыцца ненарокам, што не ў Магілёў ты ездзіў, а зусім у Гомель, дзе жыве былая каханка, пра існаванне якой жонка або, яшчэ горш, нявеста вельмі добра ведалі, але лічылі гэта «грахом маладосці, калі ён яшчэ не быў знаёмы са мною».

— З Замшан еду.

— І ў Цёмным Бары былі, — мне здалося, што ён нібы на хвіліну напружыўся, але гэта ён проста крыху

пагладзіў каня па рэпіцы. І зноў тая ж лянотная грацыя.

— І там быў.

— Ну і што ж вы там выкапалі? Гэта ж, пэўна, справа таго ж Юлляна Сая?

— Таго.

— А божа, як жа яна мне абрыдла. Столькі год мінула, а ўсё адно як пачне ўспамінаць нехта «дела давно минувших дней» ды што было «за польскім часам», і варта яму тую справу ўспомніць — неадменна нейкая зараза на мяне пакасавурыцца. Хоць ты ад людскіх вачэй у самбук[1] бяжы ці ў каноплі.

— То чаму б вам не з'ехаць адсюль?

— Я не адчуваю сябе вінаватым. Не хачу, каб нехта думаў: «Ага, дапякло... Мабыць, ведала аб нечым кошка». Ну і потым, што я ў іншым месцы. А тут мая зямля, спрадвеку мая.

— Родны той куток, дзе рэзан пупок?

— Ды не, проста там, дзе ўпершыню сябе адчуў. Што можаш рабіць сёе і тое, думаць сёе і тое, ісці туды і сюды. Дзейнічаць. Пупок мне маглі недзе і ў Рыме рэзаць, а калі, скажам, немаўляці і месяца не было, як яго адтуль вывезлі, то што яму Рым? Вось і мне так. Маё ўсё тут.

Памаўчаў. Квакша крычала недзе ў шатах дрэў:

— Ну і што? У чым перакаваліся?

— Ні ў чым. Правакатар або не — таямніца сія вялікая ёсць.

— Не лезу я ў гэтыя справы,— хвіліну памаўчаўшы, сказаў ён.— Дый потым справа цёмная, правакатар ці не. Хто давёў? Хто адваротнае, ядры іх у карань, давёў?.. То ж бо... Можа, правакатар, а можа, проста ахвяра. Хто можа судзіць? Торкнуў нехта з вышэйшых пальцам, і добра там разабраліся ці памыліліся — і вось ужо на табе, чалавеча, колькі там залатнікоў свінцовага бобу.

— Так,— сказаў я,— довадаў ніякіх. Пустая справа. Чым хутчэй пра яе забудзем — тым лепей.

Золкай сырасцю павеяла з цёмных нетраў пушчы (відаць, непадалёк дарогі быў вільготны яр). І зноў прарэзаў ноч крык пугача.

[1] Бузіна.

— Пагамонім? — спытаў раптам Высоцкі з гарэзлівай усмешкай.

— Як пагамонім?

— А вось так.

Ён прыклаў далоні чоўнікам да рота, і раптам у дваццацёх сантыметрах ад мяне прагучаў злавесны, жудасны кліч-прызыў:

— Ку-га. Ку-га-а-а...Гха-га-га-га-га.

Падмануты пугач адказаў з лесу. І зноў адказаў яму Высоцкі. І зноў. І толькі потым пала ціша. Пугач, відаць, усё ж адчуў нейкую ненатуральнасць у адказе-вызаве. І, можа, яму проста абрыдла.

— Ведай нашых,— засмяяўся Высоцкі.— Падманулі мы ўсё ж яго.

— Совы — сімвал мудрасці.

— Значыць, і мудрасць падманулі.

— Не заўсёды гэта канчаецца дабром.

— У жыцці вельмі многае не канчаецца дабром.— Пацiснуў плячыма.— І скажыце вы. Усе гэтую няпэўную гісторыю памінаюць. А я яго толькі раз бачыў на дні нараджэння брата (заскочыў Крыштоф на гадзінку), а вось брата гэтага, Уладка, якога немцы за падполле расстралялі, ніхто і не ўспомніць.

— Людская ўдзячнасць.

— Ну людскую ўдзячнасць і ўзаемадапамогу мы ведаем: «Як п'юць ды ядуць, дык нас не завуць. А як с...ць і д...ць, дык нас ішчуць».

— Гэ-э, браце, плюнь. З часам усё-ўсё ўсплыве наверх.— Вознік пакасіўся на мяне, але нічога не сказаў.

## Раздзел III

### *Перад вачыма кахання, вачыма вар'яцтва і смерці*

У тыя наступныя дні зачасцілі да мяне ў маю «плябанію» госці. Часцей за ўсё Шаблыка са Змагіцелем, часам археолагі ў поўным ці частковым складзе. Бывала, што на культурную бяседу з'яўляўся дзед Мультан (адзін або са Стасікам і Васількам). Разы два ці тры наведваўся наш ксёндз.

У той вечар кампанія сабралася ў поўным складзе.

На бервяне, што замест прызбы ляжала ля «нашых» дзвярэй у «плябанію», размясціўся худзенькі «Волат» («Наша таўстуха Валянціна»), «бяляначка і замазурачка». Таня Салей з Тарэсай Гайдучык, сама Сташка Рэчыц ды Шаблыка са Змагіцелем. Дзеду Мультану і ксяндзу я вынес крэслы, а мы з Генкам Седуном не без выгоды размясціліся проста на траве. Я паспеў ужо расказаць ім аб такіх-сякіх рэзультатах пошукаў, абмінуўшы, вядома, самае важнае. У прыватнасці, чамусьці пра Лапатуху, пра братоў Высоцкага і, вядома ж, пра цень, які падаў на айца Леанарда Жыховіча, прысутнага тут.

Гамарня была як на кірмашы. Атрымалася нешта накшталт сярэдневяковага дыспуту: кожны высоўваў свой тэзіс, а ўсе накідваліся на яго са сваімі антытэзамі, кожны быў як бы «адвакатам д'ябла», асобай, неабходнай на кожным сярэдневяковым дыспуце (не выключаючы і Беларусі), асобай, якая павінна была абвяргаць кандыдата, скажам, у бакалаўры, рознымі падступнымі і нават недазволенымі, ерэтычнымі пытаннямі. Дапусцім, кандыдат высоўваў тэзу аб тым, што зачатак Марыяй Хрыста быў незаганны і нявінны і што ў дзень успення (15-га, значыць, а па-новаму 28 жніўня) яе, яна адышла цнатлівай. На гэта «адвакат д'ябла» ставіў яму недазволеную падножку, за якую, каб гэта не на дыспуце,— гарэць бы «адвакату» на вогнішчы або сядзець у каменным мяху год і шэсць тыдняў[1] (вядома, калі ў месцы суда быў каменны мех, а то пайшоў бы бяскарна). Дыялог між іх мог бы адбыцца такі:

Д ы с п у т а н т: «...і ва ўспенні была цнатлівай».

А д в а к а т д'я б л а: Не, былі ў яе пасля браты Хрысту. «Маці і браты яго стаялі вонкі ля дома, жадаючы гаварыць з ім»... (Мацея 12,46).

---

[1] За рэдкім выключэннем (чалавек быў «сцягам» нейкай апазіцыйнай групы ці руху) чалавека нельга было ў сярэдневяковай Беларусі замкнуць больш як на год і шэсць тыдняў. Езуітызм суддзяў часам выяўляўся ў тым, што пакараць смерцю па тых ці іншых прычынах нельга было, а год і паўтара месяца так званай горнай вязніцы было замала. Калі злосць была асабліва вялікай — садзілі ў вязніцу — яму ў дванаццаць локцяў ад акна, праз якое спускалі вязня, а пасля — скупую ежу. Голад, вільгаць, вечная цемра рабілі тое, что чалавек выходзіў адтуль праз год і шэсць тыдняў часцей за ўсё зламаны здароўем, часам звар'яцелы, а бывала — сляпы.

Дыспутант: Тут маюцца на ўвазе аднадумцы, браты па ідэі.

Адвакат: Не, ілюстрысіме. Крыху далей «І паказаўшы рукою... на вучняў сваіх, сказаў: Вось маці Мая і браты Мае» (Мацея 12,49).

Дыспутант: Магчыма, і тыя былі «браты па ідэі» (пачынае запінацца), але менш пасвечанымі, другога гатунку перад вучнямі.

Адвакат (поўны трыумфу): А як тады зразумець крыху далей у таго ж Мацея (13, 54—57), што, калі Хрыстос прапаведаваў у сінагозе ў Бетлеме Іудзейскім, усе здзіўляліся і казалі: «...адкуль у яго такія прамудрасць і сілы? Ці не цесляў ён сын? Ці не яго маці завецца Марыя, і браты яго Іякаў і Іёсі і Сымон і Іюда? І сёстры яго ці не ўсе паміж нас? Адкуль жа ў яго ўсё гэта? І спакусіліся аб ім». І ў пакаранне за іхняе бязвер'е Ён не стварыў там шматлікіх цудаў. «Не бывае прарока ў сваёй айчыне».

Дыспутант (прыперты да мура, але пагрозліва): Дык ты ў догмат непарочнасці Дзевы Марыі не верыш?

Адвакат д'ябла (спалохана): Не, не. Лічу, што варты ступені бакалаўра, а пытанне хай вырашаюць на вышэйшым узроўні.

(Гул ухвалення!)

Нешта такое адбывалася і ў нас, толькі што без падножак. А калі ўсе ўдосталь нагарланіліся, раптам умяшаўся Шаблыка:

— Ні пад якой вежай, ні ў якіх катакомбах іхніх скарбаў украдзеных шукаць не трэба. Абставіны ведаеце самі. Падскарбі, дзяржаўны казначэй, не занёс гэтых скарбаў у роспіс. Значыць, шэсцьсот тысяч залатых і на шэсць мільёнаў каменнямі, пабраныя Пятром Альшанскім са змоўшчыкаў, Міхала Слуцкага і іншых, ды пад шумок з каралеўскіх земляў,— у казну не вярнуліся ні тады, ні пры Вітаўце Альшанскім, што абрабаваў усіх паплечнікаў Валюжыніча, выдаўшы іх, ды яшчэ і павінен быў тыя грошы аддаць каралю. Уцяклі, відаць, з грашыма Грыміслаў Валюжыніч ды Ганна-Гардзіслава Альшанская.

— Іх дагналі,— сказаў ксёндз.

— Але іх і выпусцілі,— сказаў Шаблыка.— Бо да

пагоні прыяднаўся суддзя Станкевіч. І патрабаваў, каб выпусцілі.

— Маглі і перастрэць пасля іншыя людзі князя,— сказала Валя Волат.

— Адкуль гэта вядома? — кінуў Шаблыка.

— Божа мой,— умяшаўся раптам Змагіцель,— чаму вы такія сухія, чаму вы такія рацыяналісты? Чаму не верыце людскім байкам, чуткам, паданням? Бывае ж і ў іх зерне праўды. А што легенда тут кажа? А кажа яна, што ўцякалі яны, заганяючы коней. Па гэтых непралазных нетрах, яшчэ горшых, чым тады пад Навагрудкам. А там у той час нейкі князь памёр у дзесяцёх — на нашы грошы — кіламетрах ад горада, бо не маглі прывезці лекара. І што гналіся за імі, і што наздагналі недзе ля Замшан, а кіраваліся яны ва ўрочышчы Цёмны Бор, каб пасля Альшанкай і «іншымі рэкі» сплысці ў Нёман, а адтуль бог-бацька ведае, куды кіравацца. Ці на захад, бо на ўсходзе часы былі смутныя, ці некуды пад Кладна, дзе яшчэ блукалі рассеяныя аднадумнікі. Але іх наздагналі і збіраліся ўжо вязаць, але Станкевіч, які адстаў, якраз выцерабіўся на паляну і загадаў адпусціць. І з грузам. І не аслухаўся Вітаўт Хвёдаравіч вярхоўнага суддзі.

— То чаму ён з крадзеным адпусціў? — жвавенька спытала Таня Салей.

— Што ж ён, прызнаўся б пры суддзі, што яны тое крадзенае вывозяць, якое князь у бунтаўшчыкоў украў і казне не вярнуў? — строга кінула і сваё пытанне-адказ Тарэса Гайдучык.— Прамаўчаць мусіў.

Змагіцель вёў сваё далей:

— Паехалі ўсе назад... І вось тут пагудка людская мовіць, што другая была перастрэча, што гналі яны ракой, хутчэй, вядома, чым нетрамі, і абагналі і ўцекачоў і пагоню, а засаду зрабілі ля Бярэзіны. І ўзялі абодвух. І нібыта (тут ужо кожны канчае па сваім гусце) ці, адабраўшы скарб, пусцілі на ўсе чатыры бакі, ці забілі.

— Ды ці была тая другая засада? — спытала скептычная Таня.— Можа, тыя грошы і іншае даўно ўжо ў свеце рассеяліся.

— Не ведаю,— сказаў Змагіцель,— але байку таксама трэба браць пад увагу. І калі грошы забралі, то чаму пазней, калі рэвізія каралеўская прыехала,

Станкевіч на Евангеллі кляўся, што загадаў адпусціць уцекачоў, а Альшанскі — таксама на Евангеллі — кляўся, што, відаць, Валюжыніч з Ганнай грошы звезлі, а ён таго не ведаў і адпусціў, а сам тых грошай ані дэнарыя ў руцэ не трымаў, ані падвойнага літоўскага білона пад пазногаць не заціснуў.

— І ўжо тыдні два мінула,— сказаў ксёндз,— калі ён разам з тым, і таксама на Евангеллі, кляўся, што ўцекачы жывыя. Не мог таго часу чалавек на крывое сведоцтва на святой кнізе пайсці. І сведкі кляліся, што жывыя.

— Ну вось,— зноў сказаў Змагіцель,— і рэвізія была, і падчас той рэвізіі князь Альшанскі Вітаўт Хвёдаравіч нагла і хуткім чынам памрэ. Калі было, калі і ведаў нешта...

— То канцы ў ваду,— сказаў Шаблыка,— і шукаць дарэмна.

— Чаму дарэмна? — выбухнуў Змагіцель.— А надпіс патаемны? А можа, ён пра нешта іншае кажа? А скрынкі нямецкія? А нямецкая «акцыя» перад адступленнем? Хавалі ж пэўна нешта?

Мне не падабалася гэтая размова пры ксяндзу. Лепей было б яму менш ведаць аб падзеях. І тых, у канцы пятнаццатага — пачатку семнаццатага стагоддзяў. І тых, у сорак чацвёртым. Пакуль я не даведаю, што ён або адроддзе пекла, або чысты, як шкельца.

А Сташка Рэчыц, можа, уражаная тонам, на якім вёў апавяданне Змагіцель, раптам сагнулася (валасы колеру цёмнага чырвонага дрэва цяжка ўпалі ўніз) і тонкай рукой, трэскай, заціснутай у пальцах, намалявала на сцежцы план замка.

— Вось так,— сказала яна.— Мы тут у вашу адсутнасць зрабілі разведку, прамацалі зямлю правей задняй вежы (гэта справа, як ад брамы ісці).

— І што? — спытаў я.

— Падмурак і рэшткі муроў яшчэ ад адной вежы. На самым беразе Альшанкі. Так што калі ўлічыць яе, то ваша трэцяя, гэта якраз і будзе другая ад краю, там, дзе была калісь Слуцкая брама, якую замуравалі. А ніяк не наступная ад яе, што лявей.

— Не думаю,— пасля кароткага роздуму сказаў я.— Тая вежа стаяла паасобку. Вёў да яе падземны ход, бо не нашлі ж муроў, што ядналі тую, Надрэчную, з замкам. Тая, Надрэчная, была, відаць. Во-

даўзводнай, ахоўвала калодзеж, а можа, і прымітыўны водаправод, што вёў ад Альшанкі ў замак. І менавіта таму не магла яна быць «кутняй». Кутняя — яна і ёсць кутняя, у куце крайняя. А значыць, трэцяя — гэта аніяк не Слуцкая, а тая, што лявей за яе.

— Гэта яшчэ падумаць трэба,— яе вялізныя зялёна-блакітныя вочы з ценем лёгкай іроніі глядзелі на мяне.

— Слуцкую калі замуравалі?

— Месяцы за чатыры да смерці Вітаўта Хвёдаравіча Альшанскага.

— Тым болей. Што можна схаваць у прахадной ды праязной вежы?

Гэта, здаецца, падзейнічала.

— І што маглі схаваць у даўно замураванай вежы людзі Гімлера і Розенберга, сам апошні Альшанскі? Як яны маглі схаваць — вось што самае галоўнае.

— Так, мабыць, у гэтым вялікая рацыя ёсць,— сказаў ксёндз.

Хутка яны разышліся, і неяк так здарылася, што дзяўчаты і Генка чкурнулі некуды, відаць, на танцы ў Альшанку, і мне давялося праводзіць Сташку на яе раскоп, на Белую Гару.

Маўчалі. Ішла лёгкай-лёгкай хадой. Пэўна, вось так будзе ісці і тады, калі пройдзе пяцьдзесят кіламетраў. Сапраўдная, лятучая паходка бадзягі. Дакладныя, гожыя рухі.

— Што гэта ваш сябар, Змагіцель, так дзіўна адлегласці лічыць: «дзесяць кіламетраў на нашы грошы»? Што, сваіх мер не было?

— Былі. І вы гэта цудоўна ведаеце. Спачатку «пешы» і «конны» пераход, пасля, з адзінаццатага стагоддзя і да васемнаццатага года, самая распаўсюджаная — «вярста». Што ў нас, што ў Польшчы, што ў Масковіі. Толькі ж паўсюль назва адна, а даўжыня — іншая. Ад паўтысячы да тысячы сажняў. Но?! А з канца XVIII стагоддзя нешта каля тысячы шасцідзесяці метраў. А ў нас на Беларусі да разбору ўвогуле дзве вярсты: малая —789 сажняў і вялікая —1000 сажняў.

— То што, цяжка хіба перавесці?

— Ну вось, скажам, прызначаю я вам спатканне на мяжы першай і другой вярсты ад Альшан. А вы, небарака, і не ведаеце, ці вам тысячу пяцьсот шэсць-

дзесят метраў адысці, ці тысячу дзевяцьсот сорак восем.

— А слупы верставыя?

— «А рамізнікі тады нашто»? — працытаваў я.

Мы засмяяліся. Пасля яна пакасілася на мяне сваімі «марскімі вачыма» і спытала:

— А вы сапраўды прызначылі б мне спатканне? І як, у канцы малой ці ў канцы вялікай вярсты?

— Прызначыў бы, калі вам так ужо захацелася б зрабіцца бедалагай.

— Хіба такой ужо бедалагай?

— Ды прыгледзьцеся да мяне лепей.

І тут я прыкусіў язык. Неандэртальскі прашчур варага побач з гэтай яснай як дзень прыгажосцю, з гэтымі чорнымі брывамі на загарэлым ужо абліччы, з гэтымі цяжкімі, каштанавымі з глыбінным залатым водбліскам валасамі. Не, гэта было фундаментальным глупствам. Не рэкну болей ані слова. Не трэба было й пачынаць.

На шчасце, нас дагналі Альшанскі з Ганчаронкам. Некаторы час ім з намі было па дарозе.

— Ну як? — спытаў старшыня.

— Ды паступова разгортваецца клубок,— невядома з якой прычыны пусціў я пробны шар.— Але да канца ўсё яшчэ далёка.

— Ды вось спрачаемся, у другой ці ў трэцяй ад рога,— другі раз за вечар «залажыла» мяне дурненькая Сташка.

— А можа, і не ў іх,— пастараўся я выправіць становішча.

І тут нечаканая падзея перапыніла небяспечную размову. Нехта, цьмяны ў сутонні, кінуўся з дарогі ў хмызы. Зашалахцеў за ім алешнік.

— Хто такі? — ціха спытаў я.

— А чорт яго ведае,— сказаў Ганчаронак.— Мо пара нейкая... А мо... Лапатуха. Чорт яго заўсёды ведае, адкуль і куды яго нясе. Чаго яго не адправіць куды трэба. І дагляд, і рэжым, і ежа.

— І траўма,— сказаў Альшанскі.

— Ды ён жа горш за ўсякую траўму сабе шкодзіць. То начуе ў бабкі Настулі — з жаласці яна яго пускае. А то ў нейкай з вежаў замка. І не толькі тады, калі цёплы час. Закалее неяк, а нам — адказвай.

— Траўма,— Сташка ссунула свае чорныя бровы.

— Ды ён бясшкодны. Нам шкада яго,— сказаў Нічыпар.

— Лухта якая,— забурчаў Ганчаронак.— Бясшкодны вар'ят... Вось маўчыць-маўчыць, а потым — нападзе. Сцеражыцеся, усё можа быць.

— Людзей на вачах ягоных стралялі. Дапускаю, што і сваякоў ягоных.

— Эх, хлопцы, пабойваюся я яго,— уздыхнуў бухгалтар.— Калі нападзе, то я... сабаку ўдарыць не магу, а як жа чалавека... Ну добра, нам сюды.

— А нам сюды,— сказаў я і павёў Стасю да мосціка цераз Альшанку.

Мосцік той заслугоўваў хутчэй назвы «кладка», мне давялося ўзяць спадарожніцу за локаць. І я адчуў яго вастрыню і цеплыню і як рука, вышэй сугібу, пакрылася лёгкай гусінай скурай, ці ад холаду, ці ад хвалявання. І зразумеў, што прызначыў бы ёй сустрэчу хоць на краі свету. І мне вельмі хацелася пацалаваць яе, і паплысці, паплысці куды пад гэтым зорным небам, над гэтай нястрымнай нешырокай ракой, і сказаць ёй нешта такое, чаго ні разу не казаў ніводзін мужчына ніводнай жанчыне. Мне здалося, што і яна нібы няўлоўна цягнецца да мяне.

Але я прыкусіў язык. Я не меў права. Я быў на дзесяць з гакам год старэйшы за яе. Яна была — дзіця, а я — чалавек, які досыць ці не занадта многа пажыў.

«Дзяўчына, што табе ўва мне»,— падумалася мне толькі словамі з нейкага старога падання.

І таму я толькі пастаяў на вяршыні, на краі гарадзішча, з тугою прасачыў вачыма, як яна, танюткая трысцінка, ідзе да вогнішча, і змрочна паплентаўся назад да сваёй «плябаніі».

Вось так яно і было ў той вечар: зазірнуў мімаходам у вочы каханню, можа, таму, якое ўсё жыццё чакаў, і сам сабе сказаў: «Не трэба. Не смей. Не псуй жыцця выдатнаму чалавеку, які варты лепшага». І сядзеў я на сваёй прызбе-бервяне, шалёна курыў, глядзеў у ноч і думаў пра Сташку і пра тое, ці такое яно было, каханне ў мінулым. Ці больш разлічанае, ці, можа, гэта ў нас яно больш разлічанае, а ў іх было куды болей мужнае і самаахвярнае?

Здаецца, урэшце задрамаў. Плыў сіняй-сіняй, дужа цёплай ракой, што вілася між залатых берагоў. Нехта вабіў мяне з гэтых берагоў і знікаў, каб з'явіцца зноў, у іншым месцы. Я ведаў і не ведаў, хто гэта, бо яно не паказвала свайго аблічча.

А потым паўсюль ужо была ярка-сіняя вада, а над галавою такое ж сіняе неба. А я ляжаў на спіне, адчуваючы неба вачыма, а ваду спіной.

І я быў цэнтрам сусвету. А пасля ў гэтым сусвеце з'явілася чыёсць аблічча. І я, ані не здзівіўшыся, чамусьці сказаў уголас:

Усё бачнае ізноў укрыюць воды,
І божы твар адвобразіцца ў іх.

— Спіцё,— як праз туман, убачыў я аблічча Леанарда Жыховіча.

— Не.

Вочы ксяндза як навейвалі нешта.

— Гэта добра,— злавесным, як мне праз паўсон здалося, голасам сказаў ён.— Думайце аб людзях, думайце аб сабе.

І знік. А мне раптам так захацелася спаць, што я ледзь дабраўся да ложка і, як у яму нейкую, праваліўся ў сон.

І гэта зноў быў той сон. Той і не той, працяг таго і нібыта не працяг.

Удар і падзенне, імклівае, з рыштаванняў вакол шпіля касцёла. Бліжэй і бліжэй зямля. Чырвоназялёны, як ззянне фосфару, а пасля — выбух яго. І цемра.

Не, гэта проста цемра ночы. Гэта ажылі тыя словы Змагіцеля аб людскім погаласе пра тыя ўцёкі.

І вось ноч, волатавыя стаўбуры дрэў, рэдкія зоркі ў рэдкіх прасветах лістоты і коні, што з хрыпеннем ірвуць грудзьмі паветра, не, вецер, амаль ураган. Але коні стаміліся, але за спіной усё бліжэй і бліжэй ляск іншых, варожых падкоў.

І вось паляна, скупа асветленая бледна-зялёным святлом ветаха. На ёй, у дальнім яе канцы, трохкутныя або чатырохкутныя піраміды з дзікага, шэра-зялёнага ад моху камення.

«Дзе я іх бачыў? Ага, ля Бяздоннага возера пад Слонімам і яшчэ... і яшчэ ля сцежкі, якой ішоў з Замшан у Цёмны Бор.

Там мы прабіліся, мы вырваліся з іхняга кальца, але які ў гэтым толк, калі яны гоняцца, наступаючы на пяткі, а нашы коні змучаныя і ўжо вось-вось ворагі будуць тут. Конь Ганны, маёй цяпер ужо назаўсёды. Гардзіславы маёй, змучаны менш. І далей яна павінна ўцякаць адна, бо ратуе цяпер ужо дзве душы. А я застануся прыкрываць яе адыход. На каго яна падобная аблічам пад гэтым капюшонам. На Станіславу? На Сташку. На якую такую Сташку?»

— Скачы, Ганусю. Ты лёгкая, твой конь не так вынажыўся... Ляці!

— Дурны... «І ложа, і пошасць, і радасць, і болесць, і смерць адна на дваіх».

— Ляці!

Позна. З трох бакоў паляны выязджаюць з пушчы коннікі, абкладваюць нас дваіх. Паўкруглы аршак[1] усё болей замыкае кола вакол нас. Чалавек сорак. Некаторыя ў цэльнакутых латах, некаторыя ў калантарах, жалезных, пласцінамі, сёй-той проста ў кальчузе, два ці тры ў рабрыстых, кутых палосамі панцырах (з суцэльных шлемаў праз шчыліны відаць толькі бязлітасны бляск вачэй). А унь трох у лускатай усходняй зброі. А там некалькі ў карацановай зброі, таксама кальчужнай, але кожнае колца прыкрыта зверху сталёвай лускавінкай. У некаторых тыгрыныя скуры на плячах (гусараў, ці што, пазычыў у нейкім бліжэйшым вайсковым аддзеле ці, можа, некаторыя сябры-гусары самі вызваліся прыняць удзел у ловах). Дзіды, шаблі, чаканы. Нібы на вялікі бой выехалі, а не на спайманне дваіх знясіленых людзей.

І ў сярэдзіне паўмесяца — сам. Едзе на вараным кані, укрытым карацановай папонай. З-пад чорнага кунтуша ў залатыя травы выбіваецца адамашкавы[2] жупан. На галаве шапачка футраная з блакітным пяром. Падпяразаны вясёлкавым турэцкім шалем. І аніякіх латаў.

«Брэшаш, вельмішаноўны. Я ведаю. Пад жупанам амаль заўсёды ў цябе кальчуга. Дый пад шалем — паручуся — для вернасці пас металёвы».

А аблічча?! Крый божа нават у сне ўбачыць такое падабенства сатанінскае. Твар як з медзі літы, чорныя

---

[1] Аршак — світа, атрад.
[2] Шаўковая візэрунчатая тканіна.

вусы, чорныя, але ўжо з сівінкай хвалістыя валасы, рот цвёрды, вочы колеру сталі, пранізлівыя. Вусны крывяцца, як дзве змейкі.

— Ну што, верная жоначка? Што, нявестнік?[1] Ці ўдалася ж табе твая намова?[2] Ці пасяхова табе вялося маё дабро плюндраваць?[3]

— Крадзенае яно, тваё дабро,— я адкідаю манашы капюшон: — А дзе някрадзена, то гэта юдавы грошы, цана прададзеных табою сяброў.

Ён набліжаецца. Вараны топча верас, скошвае вочы і скаліцца, як д'ябал.

— Ну што ж,— усміхаецца коннік.— Насмеліўся ты на жонку, на майно маё кусіціся[4], то не скардзіся цяпер і на маю адправу. Што выбіраць будзеш? Абешанне, або тыдні два ва ўсніяным квасе, каб шкура мацнейшая была, ці сляпымі вас у паток?[5]

— Умёт ты, гразь,— адказваю я.

Ён махае аршаку пальчаткай.

— Спешыцца ўсім,— і ўскідвае галаву.— Ат чорт! Во нюх у заразы. І адкуль зведаў, куды скачам? Хітры чортаў ліс.

Толькі праз нейкую хвіліну я чую далёкі спеў рагоў, які ўсё набліжаецца і набліжаецца. Пасля паміж чорных стаўбуроў-волатаў сям-там пачалі з'яўляцца водсветамі, а пазней усё мацней і мацней налівацца чырванню рухомыя, усё больш зыркія плямы.

А пасля на паляну выехаў у суправаджэнні чатырох латнікаў з паходнямі ў левай руцэ (правая ва ўсіх ляжала ці на шыйцы гакаўніцы, ці на рукаяці шаблі) туга збіты, але не дужа высокі чалавек у простай, але вельмі, відаць, дарагой мясцовай чузе, жоўтых кабцях і файнавай, суконнай, шапачцы, аблямаванай тонкай палоскаю футра. І жазло кароткае ў руцэ, знак суддзі.

Шапку зняў, рассыпаліся валасы, ледзь не пасялянску падстрыжаныя «пад гаршчок». Аблічча простае, хударлявае, хаця і шырокае ў выліцах і цвёрдых

---

[1] Нявестнік — жаніх.
[2] Намова — падбухторванне.
[3] Плюндраваць — рабаваць, расцягваць.
[4] Кусіціся — кваліцца, рабіць замах, пасягаць.
[5] Адправа — прысуд і выкананне прысуду. Абешанне — павешанне. Усніе — шкура. Усніяны квас — дубільная кіслата. Паток — выгнанне.

мускулах на шчаках, вочы пранізлівыя і крыху іранічныя.

«Копны. Сам Станкевіч. Адзін з нешматлікіх непадкупных, адзін з тых, што кожную справу да заслужанага і справядлівага канца даводзіць».

— Што ж гэта ты, княжа? Ты ж абяцаў. А тут кажуць: на ловы выехаў. Бачу я цяпер, якія гэта ловы. А ты ж абяцаў уцекінераў не ганіці і не хапаці. Так бо, харошае тваё абяцанне, калі ў тваіх людзей на сёдлах ужы[1] бачу. То што мне, цекачоў[2] аж да самога Жыгіманта Трэцяга. Кроў шведская ды кроў Ягелонаў — ой як яны да сябе іншую кроў цягнуць. Проста як магнітам жалеза.

— Ды мы й сапраўды на ловы,— не адводзячы вачэй, кажа князь.— На ловы, ды вось выпадкова на іх вылезлі. Відаць, заблыталі. То хаця да шляху давялі б. А з раніцы і ловы.

— Самі на шлях выедуць. А вы вось лепей зараз нас выведзеце на тое месца, дзе табар перад ловамі разбіваць хацелі, начаваць, ды раніцай — з богам. Звяры ў яры, зубры ў яры. А адтуль, з месца табара, мы ўжо самі дарогу да замка знойдзем ды пачакаем вас, пакуль вы з палявання не вернецеся.

— Ды нашто ж, найяснейшы? Калі вы завіталі ў маю сціплую камяніцу, то давайце або мы вас пакінем з намі ў табары, а раніцай разам у ловы...

— Стаміўся я, ваша яснавяльможнасць. Адпачыць бы хацеў...

— Або мы разам паедзем зараз у замак...

— Ды нашто ж я псаваць буду вашу забаву. Вы нас толькі да табара, да начлегу праводзьце. Гэта ж і недалёка. Нейкія шэсць літоўскіх вёрстаў.

— Польскіх гэта, лічы, дванаццаць,— буркнуў лоўчы.

— Нічога,— сказаў Станкевіч,— час звыкнуць. І памятаць словы Вердума: «Mile podolskie, czyli ukraińskie, są dwa razy tak wielkie, jak polskie, a im bliżej Turcji, tym większa mila»[3]. Ну а там вы станеце біваком, а мы паедзем да замка... Вам трэба такі развеяцца, бо з будучага тыдня і вам і мне прадба-

[1] Ужа — вяроўка, канат, ліна.
[2] Цякач — ганец, вястун, скараход.
[3] Мілі падольскія альбо ўкраінскія, у два разы даўжэйшыя за польскія, а чым бліжэй да Турцыі, тым большая міля.

чыцца нешта нязвыклае і нас будуць чакаць не вельмі прыстойныя і прыемныя дні,— зірнуў на нас, пасля — на князя.— А гэтыя хай едуць, выберуцца. Я мяркую, няма чаго цаніць крышталёвы кубак, калі ён даў моцную трэшчыну ў дне. Дый не да сасудаў вам будзе.

— А я і не збіраюся яго склейваць. Хай едуць.

— Княжа,— ціхенька шапянуў Лоўчы.— А завадныя коні, зменныя з грузам. Няўжо аддамо? Іх бы...

— Хай забіраюць свае анучы,— кажа чуйны Станкевіч.

— Дык там жа...

— Змоўч,— шыпіць князь і моўчкі выцінае калючай шпорай лоўчага па назе. Цяпер шыпіць той. З болю.

— Аконьвайцеся, чэрці,— бурчыць князь Вітаўт.— Я ўжо аконіўся.

Пагоня ўзвіваецца ў сёдлы, пачынае знікаць між дрэў, рассейвацца між ім, знікаць. Меркнуць агні паходняў. Зніклі.

Галава жанчыны падае мне на грудзі.

— Божа, вечнай будзе слава твая,— кабета плача.— З пячы вогненнай, з пашчы львінай уратаваў ты нас.

— Ну, Ганна... Ну, Сташка... Ну, Гардзіслава,— я гладжу яе валасы.— Цяпер усё, цяпер усё будзе добра...

Але думкі мае не тут. Я думаю. Станкевіч адпусціў збеглую жонку князя. Ясна, не тыя часы, калі за пралюбадзейства каралі смерцю, хаця й такое сям-там яшчэ здараецца. І ўсім вядомая яго «сімпатыя» да князя Альшанскага. Ну і яшчэ: не ведаў, што пад плашчом я, Валюжыніч. А можа, ведаў? Шмат казалі пра яго, Станкевічаву, «любоў» да ўчынкаў караля Цыкмуна, хаця суддзя і памоўкваў. Ведаў. Напэўна ведаў. Таму і адпусціў. Не ведаў толькі, што ва ўюках на спінах завадных коней. Каб ведаў — сухімі не выйшлі б.

Я цяпер што? Цяпер напэўна ўратаваныя. Шэсць польскіх міляў, дванаццаць нашых. У цемры начнога лесу гэта гадзіны чатыры туды (без святла), ды праводзіны на шлях да замка, ды каб уздумалі ізноў ганіцися — яшчэ тры з гакам — чатыры гадзіны. Першыя тры гадзіны мы можам заблытваць сляды, яшчэ пяць гадзін чуйдух скакаць прэч з ягоных зем-

ляў. А там панясе нас рака ў адвечна вольны наш Нёман. Уратаваліся.

Дык адкуль такое балючае, такое трывожнае адчуванне таго, што чакае нейкая немінучая, неакрэсленая пагроза, нейкая няўхільная бяда. Можа, варта было б вярнуцца і аддацца пад абарону суддзі, пад шчыт яго імя? Не, тады, можа, і засталіся б жывыя, але грошы тых, што ўзбунтаваліся, зброя, якую абяцалі тыя грошы,— нічога б гэтага не было. Памры, але аддай тым, каму яны меч, і жыццё, і магчымасць біцца.

— Скачам. Чуйдух. Гардзіслава!

Коні крыху адпачылі, і цяпер не трэба заганяць іх. Галіны хвошчуць па тварах, пушча гусцейшая і гусцейшая. І ў гэтым адна з надзей, хаця страшнае і падсвядома — невыразнае — чакае.

...Цела на ўвесь свет. Ідуць па гульбішчы дама з чорным манахам.

Ясна... Ясна... Я вар'яцею, вар'яцею... І не трапячу, як казаў нехта:

Перад тварам кахання,
Перад тварам вар'яцтва,
Перад тварам смерці самой.

...Ох, як баліць галава. Мае дзверы адчынены, і дзверы ў вартоўню Мультана адчынены, а за імі шэрая туманная раніца, мірыяды амаль нябачных кропелек вады, якія часам сутыкаюцца з нячутным звонам і звісаюць на жэрдках паркана, асядаюць на траве, заблытваюцца ў павуцінні і робяць яго вясёлкавым, калі ўзыдзе нясмелае сонца.

— І што гэта такое? — бурчыць з вартоўні Мультан.— Стагнаў усю ноч, гаварыў нешта ў сне, нават зубамі скрыгатаў. Находзяцца вось так па сонцы цэлы дзень без шапкі, галаву напячэ, не ў час ядуць, надурацца, насмокчуцца гэтай суслы, вып'юць яшчэ гадасці нейкай.

— Я не піў.

— Ды я не супраць, каб піў. Я супраць, калі без мяне. Дык ідзі спаласніся, ды вяртайся бульбу смажаную есці, ды ступай па сваіх справах.

...На рэчцы лёгкі туманец сцяліўся, крыху адарваўшыся ад вады. Запаўзаў пасмамі ў лазу і знікаў там. Я бабухнуўся ў яшчэ прахалодную ваду, вынырнуў і ўбачыў на процілеглым беразе Сташку.

Відаць, ужо выкупалася, але ўсё адно стаяла з ручніком на плячы, сумная, стомленая і нібыта заспаная. І боль мой стаў лягчэй, бо цяпер балела не галава. І адчуваў я самае банальнае, ледзь не да слёз, замілаванне і самае банальнае пачуццё ў свеце. Каханне.

І я зразумеў, што, вядома, буду маўчаць. І зразумеў адначасова, што на свеце нішто ўжо не здолее выдзерці гэта, вялікае, з маіх грудзей. Ніхто не дапаможа, ніхто не пазбавіць мяне ні ад яго, ні ад безнадзейнасці.

Што мне заставалася рабіць. Перакінуцца парай нейкіх пустых словаў, а потым ляпнуць ні з пушчы ні з поля:

— Давайце сёння ў клуб сходзім. Кіно, кажуць, новае.

— Давайце,— згадзілася яна.

І гэта звычайная згода, якая ні да чаго не абавязвала, пасяліла ўва мне такую беспрычынную радасць, што я не заўважыў ні Альшанскага, які пра нешта размаўляў з Лапатухам, ні Высоцкага, які перастрэў мяне ля самай плябаніі і працягнуў белы квадрацік складзенай тэлеграмы:

— Вось, на пошце быў. Чаго, думаю, чалавеку дарэмна ў Альшаны швэндацца?

— Дзякую вам, Ігнась Якаўлевіч.

Ён пайшоў. А я некалькі разоў перачытваў надрукаванае, не ловячы аніякага сэнсу, аж пакуль не засяродзіўся. Тэлеграма была ад Шчукі: «Выязджай. Знайшоў шмат цікавага, знайшоў чалавека, які шмат ведае пра тую адправу ў трыццаць дзевятым. Андрэй».

Божа мой! Якое гэта ўсё было глупства ў параўнанні з тым, што перапаўняла мяне!

Клуб, куды мы пайшлі вечарам, быў з тых клубаў, якія яны і дасюль бываюць у былых асобных калгасах, а цяперашніх «брыгадах», «прыгарадах» цэнтральнай сядзібы. Там ледзь не паўсюль панастроілі ўжо новых, двух-, а то трохпавярховых будынкаў з глядзельнай залай, бібліятэкай-чытальняй, пакоямі для рэпетыцый і чорт яго ведае яшчэ з чым. А ў такіх, «прысёлках», у чаканні лепшых часоў і лішніх грошай

так і засталіся звычайныя, хіба што толькі па нейкай прычыне больш прасторныя хаты, у якіх раскашней.

У Альшанцы такім «клубам» быў стары дом святшчэнніка, крыху ў баку ад вёскі, на ўзгорку, побач з руінамі царквы, разбуранай у вайну прамым пападаннем бомбы. Досыць вялікая зала з будкай кінамеханіка і некалькімі міні-пакойчыкамі для грымiравання і рознага рэквізіту за сцэнай, на якую ў выпадку кінасеанса вешалі экран. І яшчэ пакой, крыху меншы, які служыў узімку і ў дождж фае і танцавальнай залай. Летняя танцпляцоўка была пад вялікімі папоўскімі ліпамі, на пустым пляцы, ля якога сям-там яшчэ дажывалі свой век каравыя і замшэлыя, даўно ўжо не пладзюшчыя ад старасці яблыні.

Сюды нават электрычнасці не ўдасужыліся правесці, у чаканні ці новага філіяла-будынка, ці яшчэ чагосьці, і калі на ўзгорку пад вечар пачынаў тахкаць рухавічок — усім без усялякіх аб'яў было ясна, што ў клубе кіно, спектакль або танцы. Бо чуваць яго ў вячэрнім пацішэлым паветры было далёка, у самых ускраінных хатах.

Шчыра кажучы, я не памятаю, ні які фільм ішоў, ні хто з публікі прысутнічаў. Адмеціла толькі чамусьці вока Генку Седуна ды сіямскіх блізнят, Шаблыку са Змагіцелем.

Нехта бегаў па экране, гучалі стрэлы з пацалункамі і слязамі ў антрактах. Я, шчыра кажучы, і не глядзеў туды, а скоса глядзеў на танюткі ў паўзмроку профіль Сташкі і благаслаўляў бога, што наперадзе сядзеў нейкі бамбіза і я «вымушаны» быў, «каб нешта бачыць», хіліцца ў бок Сташкі, дакранаючыся рукою яе рукі і, часам, датыкаючыся плячом яе пляча, хаця, вядома, з тым самым поспехам мог бы хіліцца да суседкі злева.

Божа, якое гэта было шчасце, просты, нібы ненаўмысны, на імгненне, дотык. І божа, як я, вопытны і відалы чалавек, нагадваў зараз сабе самому таго натхнёнага, нясмелага і захопленага шчанюка, якім я быў даўно-даўно, калі гэтая, побач, была яшчэ дзіцем.

І таму я не мог быць іншым. Таму мудрая натура так і распарадзілася.

...Скончылася кіно. Моладзь засталася на танцы, сталыя, паглядзеўшы крыху, пайшлі бітай дарогай дамоў.

— Застанемся? — спытаў я яе.

Яна адмоўна пахітала галавою і павярнула мяне на сцежку, што вяла нацянькі, спачатку ўзгоркам, пасля маладымі зарасцямі ліпы, дубнячку і бяроз, пасля між вербаў, перавітых ліянамі ажыны, пасля ў нізінку-вымачыну, такую сабе дыхаючую на ладан паляну-балотца, а потым, праз невысокую граду, адразу да касцёла замка і Белай Гары.

Мы маўчалі. Я быў упэўнены, яна таксама думае пра тое, што ўзнікае паміж намі і што гэтаму нельга даваць волю.

Зацёхкаў салавей у зарасцях, спачатку «пёк» сала, а пасля аж захлынаўся ад смакоцця і асалоды «тць-а, тць-а», прыцмокваў.

Яна парушыла маўчанне першая:

— Якія ў вас смешныя выпадкі жыцця звязаны з кіно?

— Ды вось... Ага, адзін прыйшоў у галаву. Як я адкрыў італьянскі неарэалізм. Адносіны да італьянскіх фільмаў у мяне пасля вайны былі... ну як да ўсіх, узятых «у якасці трафея пасля перамогі»... Можа, яны і не італьянскія былі,— я гаварыў гэта з палёгкай, бо вось урэшце знайшлі мы аб чым гаманіць,— але абавязкова тоўсты Джылі спявае нешта лакрычным голасам, ці графы з графінямі нешта там пакутуюць. Словам, перастаў я на іх хадзіць. І вось была ў мяне сустрэча важлівая якраз у час апошняй пары лекцый. А раз так, то я й дзвюма першымі вырашыў зманкіраваць. Дадому ісці — далёка і нязручна. Швэндаюся па вуліцах. Дай, думаю, у кіно схаджу. Афіша вісіць: «Усцін Малабазі». Ну, думаю, грузінскае нешта, накшталт «Георгі Саакадзе». Ну, на грузінскі можна схадзіць. Ды яшчэ калі гістарычны: у-га! Пайшоў! І тут надпіс на экране: «Італія». Ледзь не плюнуў ды прэч не пайшоў. А потым назва: «У сцен Малапагі». Адзін з першых неарэалістычных, якіх я, і насмяяўшыся і наплакаўшыся, слова нават гэтага яшчэ не ведаючы, пасля ніколі не прапускаў.

Яна звонка засмяялася, ціхім і ласкавым смехам.

— Так я і адкрыў... Стой! Стой, ані кроку!

Мы былі якраз у самай катлавінцы. Месяц ці ўжо зусім збіўся на сход, ці, ветахам на апошнім дыханні, узыходзіў пазней, і ў мокрай нізіне было амаль зусім цёмна.

Хіба ад слабых весніх зорак даходзіла нейкае падабенства святла. І ў гэтай цемрыве я хутчэй адчуў, чым убачыў, як аддзялілася ад стаўбура тоўстай чорнай вольхі не менш чорная постаць. Рушыла да нас.

— Хто гэта? — яг мага спакайней спытаў я.

Цень і надалей рухаўся моўчкі. Мала таго, справа ад цёмнай сцяны зарасцей аддзяліўся другі. Ісці далей было нельга. Я пакасіўся назад: яшчэ два цені адразалі нам паступова дарогу да клуба.

Кідацца ў зарасці таксама было нельга: балота, хай сабе і неглыбокае, хай па калена ці па пояс — не ўцячэш, голымі рукамі возьмуць. Калі толькі яны — а наўрад — збіраліся абысціся голымі рукамі.

Які ж я дурань. Як жа я мог страціць пільнасць? Не пайсці з людзьмі. Пайсці тут, ды яшчэ з дзяўчынай, ды яшчэ ведаючы пра ўвесь клубок таямніц, які звіўся ў гэтым гадзючым кубле.

Яны набліжаліся ў цяжкім свінцовым маўчанні. Зараз кінуцца адразу чатырох, і тут ужо нішто не дапаможа.

«Усё. Гэта канец».

І тут адзін з іх, той, што ззаду і злева, дапусціў нязначную памылку: кінуўся на некалькі імгненняў раней. Я зрабіў невялічкі скачок убок і рабрынай далоні секануў яго па тым месцы, дзе павінен быў знаходзіцца адамаў яблык.

— Хлып! — пачулася ў цемрыве, і я зразумеў, што трапіў.

І, адначасова, нібы сіла нейкая мною вадзіла, упаў як мага бліжэй да ног таго, другога, правага, які адразаў сцежку да клуба, і, імкліва перакаціўшыся некалькі разоў з боку на бок, лежачы яшчэ спінаю да ворага, які нагінаўся нада мною, сагнуў ногі і з сілаю выпрастаў іх, нібы стрэліў, проста таму ў прычыннае, або, як кажуць рускія, «неудобь сказуемое», месца. Той выдыхнуў разам з паветрам прыдушаны енк, а я ўжо быў на нагах. Той склаўся ўдвая, а я ўжо схапіў Сташку за руку і штурхнуў яе на вольную ў гэта імгненне сцежку:

— Сташка! Бяжы! Бяжы, калі ласка.

Яна адбеглася на некалькі крокаў:

— Не! Не!

— Бяжы, так тваю!

Гэта яе маруджанне каштавала мне таго, што трэці

з нападнікаў паспеў адрэзаць мне дарогу да ўцёкаў, за Сташкай. А я скарыстаўся б ёю без фальшывага сораму. Такі няроўны напад — гэта ўжо занадта.

Два корчыліся ад болю на пляцоўцы, толькі спрабуючы — адзін уздыхнуць, а другі выпрастацца. Але яшчэ два набліжаліся няўхільна, і я ўбачыў, як з рукава ў таго, хто адразаў мне шлях, вылецеў і срэбнай рыбкай бліснуў у руцэ нож.

— Бя-жы!

Але яна не ўцякала, а я нават не мог павараціцца, хаця адчуваў за спінаю, ужо блізка, сіплае дыханне другога.

І тут Сташка раптам размахнулася, і нейкі цёмны прадмет праляцеў у паветры і ляснуў таго, другога, у патыліцу.

— Каменем, гада!

Чалавек з нажом ад нечаканасці павярнуўся ў бок той, што нападала, рука з нажом таксама падалася крыху ўбок, і тады я адным скачком пераадолеў адлегласць да яго і з усёй сілы нанёс яму ўдар у пераноссе, даслаўшы адначасова правы кулак проста яму пад лыжку.

Я пераскочыў цераз яго — здалося мне ці не, што кепка ў яго на галаве была надзета казырком назад,— схапіў дзяўчыну за руку і даў такі клас бегу, што алімпійскі чэмпіён, паглядзеўшы на такое, запіў бы, прынамсі, на месяц.

Толькі тут яна закрычала, нечакана моцным, адчайным голасам. Дый я, чуючы за сабою крокі чацвёртага, раптам загарлаў. На паляне нехта закрычаў нема, дзікім матам, не па-разумнаму.

І нечакана з таго боку, куды мы беглі, адказаў нашым крыкам шматгалосы крык і тупат ног па сцежцы. Яшчэ праз хвіліну мы ўжо імчалі назад у атачэнні самае меней дзесяцёх чалавек.

Свіст даляцеў з паляны, і калі мы вырваліся на яе, то ўжо толькі недзе далёка трашчалі пад нагамі плеці ажыны і лаўжы.

Гнацца за імі было дурною справай. Яны відавочна ведалі нейкія больш плыткія сцежкі ў гэтым балоце.

Выведзеных мною са строю яны, відавочна, з грэхам напалам, усё ж пацягнулі з сабою. І гэта было зразумела і страшнавата: значыцца, нават па аднаму можна было апазнаць увесь хаўрус.

— Хто такія? — спытаў Шаблыка.— Пазнаў кагосьці?

— Не,— я чамусьці не сказаў пра «лапатухінскі» спосаб нашэння кепкі. Мала хто мог яго ўжыць? Нашто з аднаго толькі падазрэння кідаць цень на чалавека.— Не пазнаў.

І раптам выбухнала ўсё, што я стрымліваў у сабе:

— З нажом. Хацеў купіць маё жыццё, сволач? А ты яго мне даў?.. Чым ты яго стукнула ў патыліцу. Сташка?

— Пан... пантофляй... Ні-нічога больш не было...

Вакол выбухнуў такі рогат, што я нават крыху спалохаўся. А яна раптам заплакала так, што ў мяне нешта як адарвалася ўсярэдзіне. І... упала галавою мне на грудзі. І гэта — я зразумеў — было нешта большае, чым проста словы палёгкі.

— Як жа... Як жа гэта яны маглі?

Што мне заставалася рабіць? Я проста гладзіў яе па галаве і казаў нейкія бязладныя словы, ад якіх яна хліпала яшчэ больш гаротна.

— Ну, небарака... Ну, бедная мая, харошая... Ну кінь, кінь.

— Ту-туфлем,— захлынаўся Змагіцель.— Ну, сволачы, дабяромся мы да вас, зальем мы вам гарачага сала з дзярмом за шкуру.

— Змагіцель-урвіцель,— прабубнеў Шаблыка.— Добра, што хаця добра скончылася. Страшэнна гэта прыемна, калі ніхто не б'е вас доўбняй па галаве... асабліва калі другі раз... Вось пераканаецеся самі.

Прыплёўся здорава задыханы Ганчаронак, і дзяўчаты з Белай Гары аж з віскам, без усякага ладу пачалі балбатаць пра здарэнне і яму.

— Што? Уцяклі? — бязладна кідаў ён.— З нажамі? Вось быдла. Не можа быць! Ах, м-мярзотнікі.

— Ва ўсякім разе, хаця і не ведаю,— сказаў Альшанскі.— Ва ўсякім разе, разбяромся.

— І гэта ў нас,— божкаў Ганчаронак.

Генка Сядун прыгладзіў свае цёмнахвалістыя валасы і раптам, не саромеючыся дзяўчат, сказаў:

— У вас, у вас. Як мог бы сказаць адзін мой знаёмы акцёр (вечна ён лесуноў грае, ведзьмаў, словам, завуць яго «заслужаная баба-яга рэспублікі»), дык ён, пачуўшы пра гэтыя здарэнні тут у вас, сказаў бы:

А што датычыцца маралі,
То ў лесе на яе... начхалі...

Я ўспомніў усе гэтыя пачварныя таямніцы, паперы, разварушаныя на маім стале, і нічога яму не сказаў.

## Раздзел IV

### *Загадкі і адгадкі.*
### *Палкоўнік, лейб-медыкус і пракуратар*

Усё, словам, пайшло дагары нагамі ў гэтым лепшым са светаў. Дый ці быў ён наогул лепшым з найлепшых. За апошні час я дужа пачаў сумнявацца ў гэтым. Чортавы таямніцы, чортавы катакомбы, д'яблавы начныя кашмары, хай яно згарыць.

Ужо вечарэла, калі я падыходзіў да сваёй шматпавярховай хаты. Стары сябар Герард Пахольчык заўсміхаўся мне з тытунёвага кіёска зычліва.

— Даўненька не бывалі нешта,— наіўныя вочы разглядалі мяне.— Што, усё яшчэ ў паездцы? Усё яшчэ для новай кнігі матар'ялы? І як?

— Усё яны... А наконт як, то паступова пасоўваемся наперад, чалавеча.

— І што вам даліся гэтыя сярэднія вякі?

— Ды я чужымі словамі адкажу: «Хто не памятае мінулага, хто забывае мінулае — асуджаны зноў перажыць яго. Безліч разоў».

— І самае страшнае?

— І яго.

— Бр-р.

— Дайце мне два блокі «БТ». Э-э, ды, відаць, няма, на вітрыне нешта не бачу.

— А вы яго часта ў мяне на вітрыне бачыце? — Ён дастаў з-пад прылаўка два блокі, якія я і паклаў у свой партфель.— Няма на вітрыне — для вас знойдзецца.

— За што ж гэта мне такое вызначэнне?

— Оптавы пакупнік... І свой.

— А вось узгрэюць цябе, Герардзе,— нечакана прагучаў за спіной мяккі глыбокі голас.— Узгрэюць і за «сваіх», і за падпрылавачны гандаль.

За мной, схаваны вітрынаю з цыгарэтамі ад

вачэй гандляра, стаяў Вітаўт-Інезілья Хасэ-Марыя Лыганоўскі і корпаўся ў пулярэсе.

Пахольчык на хвіліну быццам сумеўся. Нешта прамільгнула ў ягоных вочках. Пасля ён махнуў рукою. Прыжмурыўся:

— Вот вам, Антоне, яшчэ адну «бэтэшку». Закацілася на сёння апошняя.— І ён падаў мне пачак.

— А мне не знойдзецца? — спытаў псіхіятр.

— На жаль, сёння апошняя. Але заўтра будзе.

— Глядзі, каб былі. А пакуль «вячорку» і два пачкі «Кладна».

— «Кладна»? Угм. Дзе ж гэта «Кладна»? Ага, ёсць.

Мы пайшлі да дома, і тут я нечакана сказаў:

— Дарэмна я заракаўся. Прыйшла чарга і мне да вас зайсці неяк.

— Што, нервы?

— А з чым жа гэта яшчэ да вас ходзяць?

— Ну к... Што ж... Ды заходзьце вось хоць і зараз. Чаго дарам час траціць? Паслухаем, паглядзім.

...Я не бываў раней у яго хаце і тут ужо быў сапраўды здзіўлены. Тут, здаецца, усё было разлічана не на тое, каб супакоіць чалавека, а, наадварот, узвінціць ягоныя нервы да апошняга. Спакойны тут пачаў бы торгацца ў скоках святога Віта або выць нараспеў, як воўк у гайню, а нервовы выйшаў бы псіхам. Не дапамагала нават звычайная мэбля, усе гэтыя тахты ды сталы, крэслы ды серванты, гравюры ды тэлевізар.

Таму што цацкамі былі тыя масайскія дзіда ды шчыт. Таму што сцены амаль спрэс укрывалі чукоцкія і тунгускія шаманскія маскі, мангольскія маскі для «цама», ад аднаго позірку на якія пасівееш, і тыбецкія рытуальныя маскі, настолькі жудасныя, што нечакана сустрэўшы ў цёмным калідоры чалавека з такім абліччам — анямеў бы да самага скону. Стаялі тут пачварныя бенінскія бажкі і кітайскія багі з выразам вар'яцкай жорсткасці і злосці на тварах. Віселі шчыты з Квінсленда і з вострава Сандэй, аўстралійскія травяныя бранзалеты, фецішы афрыканскіх жрацоў, злавесныя ўборы ўдзельнікаў мужчынскіх саюзаў з Новай Гвінеі.

Агідныя рытуальныя маскі з Саламонавых астравоў (чорны яшчар, што надзеў старажытнагрэчаскі

шлем), калебасы для вапны, тупазлосныя бажкі з астравоў Адміралцейства, кінжалы з ракавін і касцей казуара, цыноўкі і палотнішчы тапы, індыйскія анкі і яванскія крысы.

І паўсюль морды, выскаленыя, вірлавокія, ікластыя.

— Не страшна вам тут?

— На рабоце часам бывае страшней,— крыху жоўчна і з'едліва сказаў ён, абводзячы разумнымі вачыма сваю калекцыю.— А гэта? Гэта ўсё мае бадзянні. І за кожнай рэччу — гісторыя, выпадак, жах або смех. І таму яны мне — не рэчы. Яны мне — кавалкі жыцця.

Мы прайшлі ў маленькі лялечны кабінецік, пафарбаваны ў шэра-блакітны колер і, ясна ж, без усякіх масак.

— Ну расказвайце.

І я пачаў расказваць. Увогуле, пра ўвесь гэты куток, нібы яшчэ з самай вайны заражаны нейкім вірусам невядомага шаленства, пра дзівацтвы многіх яго насельнікаў, пра ненатуральны ледзяны подых даўно мінулай вайны на некаторых жыхароў, пра вар'яцтва Лапатухі і пра свае начныя кашмары. Ён рабіўся ўсё больш і больш сур'ёзным, відавочна змрачнеў.

— Не магу зразумець вашых сімптомаў. Нагадвае сярэдневяковую беларускую пану, трызненне наяве. Але не тое. І яшчэ нешта падобнае давялося мне бачыць у трыццаць пятым годзе, у паўночна-заходняй Індыі. Чулі вы, вядома, пра ўсе палюсы зямлі: і геаграфічныя, і магнітныя, і холаду, і гарачыні. А вось пра полюс біялагічнай недаступнасці, мабыць, не чулі?

— Не.

— І мала хто з цывілізаваных людзей чуў. Лічаныя адзінкі. Акрамя навакольных жыхароў.

— А гэта што?

— А гэта вялізны кавалак прасторы, скалы ды непраходны трапічны лес на берагах ракі Нарбада. Джунглі — гэта стрыжаны англійскі газон у параўнанні з тым зялёным пеклам. З пачатку гісторыі гомо сапіенс туды ані разу не ступіла чалавечая нага. Уявіце, з часоў аўстралапітэка.

— Як то? Чаму?

— Там, як кажуць, з пачатку дзён найвялікшая на зямлі, на многія дзесяткі кіламетраў уздоўж і ўпоперак, калонія дзікіх пчол. Пчаліны мегалаполіс ледзь, скажам, не як той мегалаполіс, што ад Нью-Йорка да Вашынгтона. І пчолы там нейкай асаблівай расы. Хмары, процьма нясметная полчышчаў, легіёны. Аж занадта. Бо ўкус адной пчалы — вельмі балесны, рана часам тыднямі не зажывае; пяток укусіць — паралюш, бывае — часовы, а бывае, й не. А калі ўжо большая колькасць пакусае — канец немінучы.

— Гэта бывае,— сказаў я.— Што мы ведаем пра яды? Вынайшлі вось вучоныя універсальную процізмяіную сываратку. Хоць кобра кусай, хоць гюрза — нічога табе не будзе.

— Вось-вось. А чаму не ўжываюць? Здаецца, панацэя такая, ўратаванне для ўсіх людзей. Аж не. Таму што такі, застрахаваны ад усіх змей, немінуча памірае ад першага ж укусу звычайнай пчалы. Вось і разбярыся, што лепей. Дзіўна, што гэтыя пчолы зусім не чапаюць жывёл. І жыве іх там мноства. Малавывучаных, а то й не вядомых навуцы. Некаторых бачылі. Выносіць іх адтуль часам на навакольныя палі ды ў джунглі. Але яны і назад адразу выбіраюцца. Ведаюць, дзе яны ў поўнай бяспецы. Але выносіць адтуль не толькі жывёл, часам і насенне розных нікім не бачаных раслін. І вось за адной з іх, калі толькі раз на многа год прарасце яна па-за межамі пчалінага рэгіёну, палююць усе жыхары. Сушаць, адвар п'юць, і тады ў іх таксама розныя... трызненні ды праявы. Але дзе Нарбада і дзе Альшанка? Я не разумею, што ў вас такое. І таму асабліва баюся... Вось што, ці не падлячыцца вам? У мяне. І я б за вамі асабіста прыглядаў. І сябар у мяне там у клініцы малады, таленавіты. Ён вас у два месяцы паставіць на ногі.

— Не.

— Тады хаця адпачніце,— «божа, на каго ж з кандацьераў ён падобны?» — Месяцы два на моры. Вада, сонца, соль. І ніякіх думак. Вы проста ператаліліся з гэтымі сваімі гістарычнымі пошукамі, з гэтай справай... І вось што, вы ўсё думаеце, што гэта глупства...

Ён глядзеў пранізліва:

— Глядзіце, гэта страшна. І каб вы ведалі гэта і не манкіравалі сваім здароўем, а лекаваліся — паедзем заўтра са мной. Паглядзіце, што гэта такое. Ну і абследаванні некаторыя зробім. Гэта занадта важлівая штука — здароўе, гэта адзіна вартая рэч — розум. А мы, аднак, гэтага не цэнім.

— Добра,— хутчэй каб адвязацца, сказаў я.

Крыху адпачнуўшы, я ўрэшце вырашыў зайсці да Хілінскага і амаль не здзівіўся, што гэтыя двое цалкам дарослых людзей (ён і Шчука) сядзяць у паўцемры і разглядаюць праз эпідыяскоп слайды.

— Сядай, зараз скончым,— сказаў Адам.

Слайды былі з «маіх» мясцін. Кладна. Дарога на Альшаны. Замак. Касцёл.

— Дзе гэта вы іх настругалі? — спытаў я, калі запалілі святло.

— Ды даўно ўжо, гады два як зняў,— сказаў Хілінскі, і я чамусьці не паверыў яму. Асабліва таму, што каля брамы замка не відаць было ахоўнай дошкі.

«Ой, круціш ты, Адам Пятровіч»,— толькі й падумаў я.

Калі на стале з'явілася кава і тое, што да кавы, часам спажыўнае, а часам і не дужа, і мы ўжылі і тэго і другэго (ці овэго?), як кажуць браты-палякі, Шчука адкінуўся на спінку крэсла:

— Расказвай.

Я расказаў. На гэты раз нічога не скрываючы, аж да недарэчнасцей, да маіх начных кашмараў, да размовы ў леснічоўцы і да ўчарашняга нападу ў балацявіне. Відаць, раздражненне прарывалася ў маім голасе, таму што Шчука раптам сказаў:

— Лічыш, што мы тут «гаў!» ловім? І што мы ўвогуле, як шведы спяваюць: «Паліцыя, паліцыя — бульбянае пюрэ».

— Я толькі раз чуў, як спявалі шведы. Імчалі ў турысцкім аўтобусе. І спявалі, на жаль, не пра пюрэ, а па-руску: «І-ван І-ва-на-вітш, І-ван І-ва-на-вітш энд містэр Шчука тоже э-ро-тыч-ный».

— Брэшаш.

— Ясна, што брашу. Спявалі: «Энд бе-ло-рус он тоже э-ро-тыч-ный».

— Добра, добра, не злуй... Та-ак, пачынае рабіцца горача. І канцэпцыі адзінай пакуль няма. З'ехаў бы ты адтуль, хлопец.

— Яшчэ чаго?! — абурыўся я.— Нехта вінаваты, а з'язджаць павінен я. У вас няма канцэпцыі, а я адказвай.

— Канцэпцыі няма. Затое, як мяркую, падазроных шмат.

— Вось і паспрабавалі б найбольш падазроных абмежаваць у дзеяннях. Паслаць некуды. А то дойдзе да гэтых вашых, як іх — пісталетаў, рэвальвераў,— тады позна будзе.

— Бывае, даходзіць і да пісталетаў.

Шчука раздражняў мяне. З гэтым яго падвойным хобі: чытаць дэтэктывы і здзекавацца з іх, і яшчэ ведаць назубок усю, якая ёсць і была на зямлі, зброю. Аж да шасцістрэльнага (круціліся рулі, а не барабан) рэвальвера бельгійскай сістэмы Марыет, вырабу 1837 г. І таму я быў несправядлівы:

— Рэвальверы... Слухайце, а вы ўмееце з імі абыходзіцца?

Пакасіўся на мяне:

— Не сумнявайцеся.

— Тады нічога, а то, бывае, пальне, сам не думаючы.

— Вы затое многае думаеце. І плачаце: «Ох, курку забілі»,— нечакана суха працадзіў Хілінскі.— А я не плачу. Затое я ведаю іншае. Курцы, можа, пакуль і трэба быць засмажанай, а вось наконт твайго «абмежавання ў дзеяннях» — дык я вось ведаю, што абмяжоўваць не трэба, што чалавеку ні ў якім разе не трэба сядзець у турме, хай сабе і некалькі дзён.

— І такім?

— А раз ужо сеў — гэта няшчасце. І наш агульны позор,— ён чамусьці сказаў па-руску «позор», а не «ганьба». Мабыць, так здалося мацней.

— Ну добра ўжо, досыць,— сказаў Шчука.— Я, уласна, чакаў цябе вось чаму.

Ён дастаў з блакнота малы квадрацік паперы:

— Гэта табе адрас і тэлефон Яраслава Мірашэўскага. Былы юрыст. Былы пракуратар у Кладна. І, самае галоўнае, не памятаю ўжо, ці ён, пракуратар акруговы, займаў у 1939 годзе, на працэсе Крыштофа Высоцкага, крэсла абвінаваўцы, ці ён тады саступіў гэтае месца свайму віцэ-пракуратару... Так што і без архіва павінен сёе-тое памятаць.

— Добра.

— Калі паедзеш?

— Ну-ну-у... заўтра ў мяне яшчэ тут сякія-такія... справы,— я ўспомніў аб прапанове Лыганоўскага і, цалкам для сябе нечакана, вырашыў, што паеду з ім.— Паслязаўтра — гэта напэўна.

— Ну, браце, тады табе шанцуе. І мы паслязаўтра машынай дабіраемся. Дакінем цябе да Кладна, а калі не затрымаешся надоўга і дужа папросіш, то дакінем амаль да Альшан. Перад самым мястэчкам у нас паваротка.

— Хто ды хто едзе?

— Я, Клепча,— відаць, ён заўважыў грымасу на маім абліччы і таму дадаў: — Ну і Адам вось збіраўся, здаецца, да цябе рыбу лавіць.

— Рыбы многа.

— Ну вось,— сказаў Адам,— дакінеце мяне да Кладна, пакінеце Антона, а я наступнага дня прыеду. Так, паверце, будзе лепей. Нешта і мяне, старога каня на пакоі з падвойным гарцам аўса,— гэтыя ножычкі ды дамы з манахамі зацікавілі. Можа, свежым вокам нешта і заўважу.

— А можа, і так лепей,— згадзіўся Шчука.— Ты ж не пры справе. Проста, можа, пагаварыць вечарам, з вудачкай пасядзець. Хай лішніх размоў не будзе.

Мы зварылі свежай кавы, але падумалі, што гэтым напэўна заробім сабе бяссонніцу, калі да «гэтага» не дадаць па маломy каньяку, і сядзелі цяпер вакол нізенькага стала, як тры пенсіянеры, якія дастойнай работай заслужылі сабе дастойную пенсію і зараз кейфуюць, але ўсё аніяк не могуць забыць «дела давно минувших дней» і «битвы, где вместе рубились они», хаця ніхто ўжо на новыя бітвы іх не кліча.

— Так,— сказаў Хілінскі,— гэта адчуванне цяперашняе нагадвае мне, як адзін нямецкі язык, лётчык, якога мы аднойчы ўмыкнулі, і на радасцях, што даў вычарпальныя паказанні, далі паўтары шклянкі ашмянскай самагонкі.

— Дык што ён? — спытаў Шчука.

— А ён напіўся і на радасцях, што яго не расстраляюць, а цераз фронт перакідваць будуць, зусім разлезся і думаў, што ён «штукас». Ну, Касміч, што такое «штукас»?

— «Юнкерс-87»,— машынальна адказаў я.— Такі

сабе пікіроўшчык-бамбардзіроўшчык з крыламі, як у чайкі.

— Ведаеш,— пахваліў Шчука.

— Проста не забыў,— сказаў Адам.— То немец гэты, расставіўшы рукі, выў — усё «в-ву-у, в-ву-у» і ўсё хацеў падаць галавой на брук.

— На які брук?

— То гэта ж у саміх Ашмянах і было. Мы яго пераапранутыя вялі. І п'яны быў ён нам замест лепшага аўсвайса.

— Успомніў вясёлае. Ну гэта на такія штукі толькі ты і майстар быў. Рызыкант паршывы.

— А што ўсё ж з тым Крыштофам Высоцкім?

— Псуеш ты нам адпачынак,— сказаў Шчука.— Спускайся з даху і не псуй гонту. Казалі ж табе, што забойства. Што архіў згарэў ці часткова разрабаваны. Павесілі чалавека — і ўсё табе.

— Не шанцуе роду,— сказаў я.— Ну а Уладак той?

— Таксама незразумелая справа,— сказаў Хілінскі.— Тут архіваў увогуле не магло быць. Падполле. Які там архіў? А Уладак той то знікаў з Кладна, то зноў з'яўляўся. На чорным рынку (жыхары кажуць) дзейнічаў.

— Ну за гэта не дужа стралялі,— сказаў Шчука,— асабліва разам з патрыётамі ды ў прахадным двары, ледзь не на вуліцы, на вачах у народу. Ды яшчэ такога «лаяльнага». Ён жа тады яшчэ і ў пашпартным бюро служыў.

— І чорны рынак? — здзівіўся я.

— А ты б паспрабаваў на нямецкую платню без рынку пражыць.

— Адкуль ведаеце?

— Я... жыў. Быў такі выпадак. Вось і гэты. І што яго трымала? Мог бы да брата, на вёску, на гаспадарку. Можа, і сапраўды падполле, патаемная сувязь з партызанамі, адкрылі выпадкова перад самым акружэннем?

— Што ж, не помніць ніхто яго сапраўднага абліčча? — хмыкнуў я.

— А хто мае помніць? Можа, косці іхнія даўно зямлю параць, сведкаў гэтых, якія дамаўляліся, ведалі аб ім. Ведала, скажам, два чалавекі (больш і немагчыма, канспірацыя). І вось — адзін бой, налёт,

блакада — і гатова, не разведчык, а здраднік. Ці мала такіх, сумленных, у якіх сведкі загінулі, пасля вызвалення і ў нас пасядзела?

— А бывала,— буркнуў Адам,—што з-за нейкіх разлікаў і жывыя сведкі не пацвердзілі.

— Як то?

— Ну, хлопец, ты хіба на Месяцы жыў, ці што? — І сказаў пасля змрочнай паўзы: — Там таксама не толькі героі. Там розныя людзі былі. Была і выпадковая сволач, накіп... Залілі такому сала за шкуру — ці свае, ці немцы. Адчувае — застанешся на месцы — каюк, а ў лесе, можа, і ўратуешся. Дав-вай у партызанку!

Пусціў цыгарэтны дым, не зацягваючыся.

— І вось пасылаюць кагосьці на самае страшнае, на службу ў немцаў «верай і праўдай». «Ідзі,— кажуць,— даражэнькі, туды і сюды: у бургамістры, ва ўправу, перакладчыкам, трасцай, халерай...» І вось, уявім, застаўся адзіным сведкам адзін вось такі, медузападобны. Адзіным сведкам, адзінай надзеяй таго, хто «ў немцаў» працаваў, «у СБМ кіраваў», і каго зараз за месца між нагамі і спінай бяруць.

— То што? — амаль злосна спытаў я.

— А тое. Бывае, што і адхрысціцца гэтая «адзіная надзея». «Не чуў, не бачыў, можа, забыў, але, здаецца, не, не ведаю». Адрачэцца. Каб цень не лёг, каб, крый божа, кар'еры не сапсуць, каб вылезці наверх, як паганка... Баіцца, дрыжыць: а раптам не разбяруцца дый мяне як саўдзельніка. А можа, той, калабарацыяніст, нешта пра яго ведаў? Думаеце, ён на карысць другога, абылганага, пасведчыць? А ўжо на карысць добрага імя мёртвага? Нашто? Гэта яму,— ён так, паскуда, лічыць,— жыць і жыць, лезці ўгору і лезці. А мёртваму што, мёртваму ж не лягчэй? Мёртвым усё роўна, ім не баліць.

— Магло быць і так,— сказаў Шчука.— Чаго не бывае?

Зноў раздарожжа. І па якой, урэшце, дарозе ехаць, каб дабрацца да праўды.

Мы ехалі з Лыганоўскім у горад у ягоным блакітным «Масквічы». Вярталіся з псіханеўралагічнай клінікі.

Гэтаму было як быццам усё нічога. Прыгожыя моцныя рукі цвёрда ляжалі на баранцы, і здавалася мне, ён не глядзіць на дарогу, не адчувае машыны, а проста зліўся з імі ў адно, як кожны ас аўтамабілевадджэння.

А мяне ледзь не калаціла ад гэтага візіту ў дом вар'ятаў, ад паваротві з шашы ў доўгую і цемнаватую алею з высачэзных туй і ядлоўцаў, ад двара, па якім хадзілі бы ў сне нейкія невыразныя фігуры, нават у сваіх піжамах і халатах падобныя на тую маўклівую постаць у саване, што, стоячы, падплывае ў ладдзі да «Вострава мёртвых» Бёкліна.

Я ўдзячны быў Лыганоўскаму, што ён не павёў мяне па палатах, а проста папрасіў санітараў прывадзіць тых хворых, якіх ён укажа, і кожнаму з іх выдаваў мяне не за староннягa чалавека (магчыма — я страшыўся такога — будучага іхняга суседа), а за лекара, які паглядзіць іх пакуль, а пасля абавязкова дапаможа.

Я толькі ўрыўкамі лавіў яго каментарыі, калі чарговага хворага адводзілі. Перада мною ўсё яшчэ стаяў твар, вочы, пастава няшчаснага, ягоная мова, часам, здаецца, і складная, а часам як на дзве трэці сапрэлая тканіна з кургана, па рэштках якой толькі з цяжкасцю можна ўявіць першапачатковы ўзор.

— Казаў... аднаго... не таму што ракета ўзарвецца... Космасу не баліць... загад урада... магло там... Аэліта.

Адзін з дзесяткаў магчымых разгадак гэтай галаваломкі мог быць такі:

— Казаў жа я, каб паслалі мяне аднаго. І не таму, што ракета ўзарвацца можа, калі лішні ў экіпажы. На зямлі не ўзарвецца. Космасу не баліць. І гэта быў загад урада, а на месцы не паслухаліся. Самае горшае, што ўзарвацца магло там, а там Аэліта.

А яго змяняў другі, які быў упэўнены, што жонка рвецца да яго (калісьці яна не толькі здрадзіла яму, але й прадала яго), ужо дзесяць год чакае, ды яе да яго не пускаюць.

— Яна выйшла другі раз замуж дзевяць год назад,— буркнуў Лыганоўскі, калі чалавека, які захлынаўся ў рыданнях, павялі.

І яшчэ. І яшчэ. А тут голас чалавека, які звыкнуў

да такога, хаця недзе ўнутры яму, можа, і баліць. Каменціруе:

— Псіхоз Корсакава — асобая форма псіхічных расстройстваў на глебе алкагольнай інтаксікацыі. Характарызуецца змяненнямі памяці і множнымі паражэннямі нерваў. Або: рознасць палёў зроку. Але праведзена праверка з дапамогай вымяральніка мазгавых хваль, і розніцы ў іхняй форме я не бачу.

Ці яшчэ:

— Ні вар'ятам, ні эпілептыкам, па ўсім відаць, яго лічыць нельга. Няма ніякіх падстаў казаць аб арганічных мазгавых зменах. Трэба лічыць, што прычынай, хутчэй за ўсё, псіхічныя, душэўныя ўласцівасці.

Ён пільна пакасіўся тады на мяне:

— Як у гэтага вашага тыпа з Альшанкі. Хацеў бы я неяк пагаварыць з ім.

— Хто забараняе? Збярыцеся вось ды прыедзьце туды на дзень-два. Паназірайце.

— А можа, і трэба будзе. І не толькі за ім,— дадаў ён са значэннем.— Можа, і ў вас некаторыя «начаткі» пачалі праяўляцца.

— Воля ваша. Але што гэта дасць?

— Вопытнаму дасць. Хаця, вядома, лепей было б правесці тэсты на здольнасць запамінання і элементарныя разумовыя здольнасці і... зрабіць праверку рэакцыі на наркоз.

— Запамінаю — на выдатна, здольнасці — ну, як здольнасці. Наркотыкаў не ўжываю. Дый і мала хто, відаць, у нас іх ужывае. Гэта не Ганконг.

— І трэба было б правесці,— гнуў ён сваё,— больш усебаковую праверку разумовых здольнасцей і аналіз характару па метаду Роршаха[1].

А перад намі ішлі новыя і новыя цені. Адзін, дэгустатар з вінзавода:

— Да 1878 года — прафілаксера. Пасля яе віны ўжо не тыя... Корак мянялі, а то трэба было адбіць рыльца... Пад рыльцам трымалі свечку, каб быць упэўненым, ці не трапіла ў віно парушынка. І ані гарчычнай лыжачкі асадку. Вы ўжо такіх, тых віна́ў, не будзеце піць.

— Ні аб чым іншым гаварыць не можа.

---

[1] Роршах Герман (1884—1922) — швейцарскі псіхіятр, які прапанаваў свой спосаб класіфікацыі характараў.

А за ім акцёр, які граміў кагосьці кавалкамі з п'есы, якой ніхто не бачыў і ніхто бачыць не будзе. Жэсты аратара на форуме.

— І ролю ў ёй мне не далі... Англійская... Мова Шэкспіра — гэта ясна. А тое, што вы называеце проста англійскай,— гэта шэраг мыканняў і варыяцый аднаго-адзінага галоснага, пры дапамозе якога маюць зносіны дзевяць дзесятых жыхароў гэтага востра-ва.— І кінуўся да акна, нібы расчыняючы яго.— Слухайце! Перазвон! Звон па нас! Слухайце вы ўсе. Хай паможа бог гэтаму старому дому.

Я не мог болей.

— Што, адчуваеце faux pas?[1] — спытаў псіхіятр.

— Felix opportunitate mortis[2]. Мне сорамна.

— Што зробіш. Многіх з іх не вылечыш. І саромецца няма чаго. Прыйдзе час, на гэтых, безнадзейных, мы накопім матар'ял надзеі для іншых. І тады адзіным невылечным адхіленнем у псіхіцы будзе тое, пра якое і зараз кажуць: «Балван, якіх мала».

— Абы не пры штурвале.

— Ну гэта ўжо не псіхіятраў справа.

— Хадзем, хадзем адсюль.

Ён гаварыў з усмешкай, хаця і сумнай. А на мяне каціліся хвалі чалавечага гора. Вялізныя хрыбты чорнай вады. І гэта былі нашы няўдача і непаспяховасць, нашы нядоля і злашчасце. Усе грані нашай нядолі: атамнай, мілітарысцкай, сексуальнай. Пагрознай. Чым мог памагчы супраць гэтых няспынных навал нейкі там стары добры бром. Стары экіпаж Флінта цяпер нават сваю славутую песню спяваў бы зусім іначай:

Йё-хо-хо, і бутэлька брому.

Я не мог больш глядзець у вочы гэтым людзям і ўзмаліўся перад Лыганоўскім аб літасці.

І вось мы ехалі назад, паступова ўязджаючы ў позняе веснае сутонне.

— Ну вось,— сказаў лекар.— Цяпер вы самі бачылі гэты адчай. І менавіта каб не дайсці самому да такога, кіньце ўсе вашы заняткі, перастаньце думаць аб усім і — куды-небудзь, куды хочаце. На мора, у горы, у стэп. Сцеражыцеся ілюзій.

---

[1] Падманны крок, няёмкасць.
[2] Шчаслівы, хто ў час паміpae.

— Добрая ілюзія, калі я сам бачыў цені на галерэі і іншае... Гэта што, неаб'ектыўнае ўражанне?

Ён усміхнуўся гожым ротам:

— Сярэдневяковыя вядзьмаркі, каб «лётаць», націраліся маззю. У яе склад уваходзіў аконіт. Ён даваў цалкам «аб'ектыўнае» адчуванне палёту. Але ж вы не будзеце адмаўляцца, што гэта была чыста суб'ектыўная ілюзія.

— А гэта што, таксама суб'ектыўная ілюзія, што мае паперы пару разоў былі пераварушаныя?

— А вы не маглі самі гэтага зрабіць... гм... ва ўзбуджаным стане.

— Клянуся вам, што падчас гэтых «ілюзій» я з месца не мог скрануцца. Як прыкуты. Усе мускулы здраўнелі... Вы лепей, чым разважаць, парады мне нейкія далі б.

Сказаў я гэта ці не занадта палка. І не дзіва: я такі досыць моцна спалохаўся тых дантавых колаў пекла, праз якія ён мяне сёння правёў.

— Парады? Ну, піць. Вы шмат п'яце?

— Выпадкова і досыць рэдка.

— Курыць... Лепей за ўсё... Абавязкова кіньце курыць.

— Ну, гэта вы занадта патрабуеце.

— Можа. Ды гэта ў вашым выпадку, можа, і не дужа шкодзіць. Лепей, вядома, кінуць, калі хопіць волі. Проста выдатна было б, каб кінулі. Але тут я дрэнны парадчык дый патрабаваць не маю права. Сам дымлю, як цягнік. З вайны. З фронту. Самі разумееце... Ну, можа, крыху меней курыце... Урэшце гэта не самая вялікая бяда. А вось кінуць справы, каб сонца, зелень, свежае паветра, спакой,— тады і дыміць можна. Крыху.

Прыпаркаваўшы машыну, мы ішлі да сваіх хатаў.

— Што, Герардзе? — спытаў Пахольчыка лекар.— Як там з дамоўленасцю?

— Ды вініцца мушу. Не дастаў, і пэўны час, мусіць, не будзе. Перабоі.

— А, ладна,— махнуў рукой Лыганоўскі.— Пакурым пару тыдняў штосьці іншае.

...Падымаліся да сябе. І на пляцоўцы, дзе была кватэра лекара, убачылі Хілінскага, які спускаўся ўніз.

— Дзень добры панству. А дзе гэта вы, Косміч, прападалі цэлы дзень? Кампанія? Кабеты?

— Кампанія у мяне была невелька, але бардзо пожондна,— сказаў я словамі не дужа прыстойнага польскага анекдота.

— Пробашч? Арганіста?

— Не, тыя ў Альшанцы...

— Няўжо астатнія з таго анекдота?

— Ды не...

Я гатовы быў ляпнуць нешта праўдзівае пра падзеі гэтага дня. Але тут, дай божа яму здароўя, мяне перабіў Лыганоўскі. І праўда, калі кліент не хоча берагчы лекарскай таямніцы, то гэта хочаш не хочаш павінен рабіць за яго сам лекар. Нават наступаючы дурню на язык.

— Ён не скажа,— сказаў Лыганоўскі.— Бываюць такія рэчы, што трэба трымаць язык за зубамі. На мой погляд, ён сёння цалаваўся з чужой жонкай.

— Божа мой! — уздыхнуў Хілінскі.— І ўсё гэта адбываецца ў прававай дзяржаве.

Памаўчаў.

— Хаця цяпер пайшлі мужчыны спрэс як з анекдота: «Ваша мэта што? Пацалаваць маю жонку? Ну то, скончыўшы сваю справу, вы можаце пайсці...» Словам, Антоне, калі ты кажаш, што рыба добра ловіцца, то я, можа, неяк днямі заеду да цябе. Стаць там на пастой можна ў каго?

— Гэтага дабра хопіць.

— А ведаеце,— сказаў Лыганоўскі,— можа, і я падскочу на дзень-другі. Адгулаў некалькі скапілася. І так абрыднуў горад. Горача. Ногі ў асфальце вязнуць. А там жа — канец мая.

— І ў дадатак,— сказаў я,— дзякуючы позняй вясне сям-там у гушчары ды ў баравінных ярах ёсць яшчэ апошнія смаржкі. Ну, не кошык, а на патэльню назбіраеце.

— І смаржкі? — вохнуў псіхіятр.— Усё. На каленках прыпаўзу. А можа, разам пад'едзем? Вы калі, Адам Пятровіч?

— У тым і справа, што дакладна не ведаю. З'ездзіць тут на дзянёк да сваякоў трэба. Пад Кладна. Ну, можа, усё ж там, у Альшанцы, сутыкнемся. Будзе яшчэ лепей.

— Так. Запланаванасць заўсёды пасуе перад сюрпрызам.

Мы разышліся.

Больш за ўсё я люблю вось такія нечаканыя, як з яра галавой, паездкі. Калі збіраешся спехам, калі не залежыш ні ад аўтобуса, ні ад білетных касаў, ні ад папярэдняга продажу гэтых білетаў, а залежыш толькі ад майстэрства вадзіцеля ды ад спраўнасці машыны, калі дзе захацеў, там і спыніўся. Ці на беразе ракі, ці на ўзлессі, ці паляжаць у сакавітым канюшынніку або ў дурманных каноплях.

Калі выходзіш у пяць раніцы, яшчэ пазяхаючы ад соннага холаду, як пастулова разаграешся, як запальваеш першую цыгарэту, і яна асабліва смачная ў ранішнім, зусім яшчэ чыстым паветры.

Як ідзеш загадзя ўмоўленым маршрутам і цябе недзе дарогаю падхоплівае Шчукаў «казёл» (адна з улюбёных мною машын, асабліва калі лета і брызентавыя «сцены» падабраныя ўгару, і вецер як сабе хоча жартуе з людзьмі, з іхнімі валасамі, каўнярамі, і ўсё такое іншае). Ды яшчэ калі акрамя вадзіцеля тут жа на заднім сядзенні з табою Шчука і Хілінскі.

Псуе, праўда, крыху настрой прысутнасць побач з шафёрам сардэчнага сябра, «няўхільнага» Якуба Клепчы. Але што зробіш, ніколі на зямлі не бывае стопрацэнтнага шчасця. Прымірымся і з васьмі-дзесяціпрацэнтным.

Мільгаюць рэчкі, сялянскія вазы ля апушчаных шлагбаўмаў, лясы, паляны сярод жыта (і на некаторых — вялізныя, як свяшчэнныя дубы продкаў, дзічкі).

Пралятаюць проста пусткі, зарослыя верасамі, і на іх беларускімі кіпарысамі ўзвышаецца змрачнаваты елянец.

А там мільганулі на ўзгорку руіны замка ці даўняга абарончага касцёла. Хаткі прыляпіліся над аранжавым рачным абрывам, а крыху далей, у затоцы, варушацца ад плыні плеці жабніку і цвіце вадзяная грэчка.

Край мой! Родная мая зямля! Як жа мне жыць, калі я пайду з цябе? Як мне быць, калі я памру і,

можа, быццё маё яшчэ некаторы час не скончыцца — і гэта й ёсць абяцанае мне пекла? Без цябе.

Каго спытаць пра гэта? Ясна ж, не Клепчу, які гаворыць штампамі і, там, дзе гэтага не трэба, задта ўзнёсла, а на самай справе самы сапраўдны тупак увогуле. І ўсё адно было б яму дзе нарадзіцца, бо паўсюль бы ён «спаўняў справу». І ніколі б не прыйшлі яму ў галаву словы славацкай песні, якія прыдумаў калісьці нейкі бязведамны славацкі чабан, горскі «бача»:

Кто тя буде, вінко, піці,
Кед я будем в хробе гніці.

Ясна, што спытаю ў астатніх двух, якія плацілі за тое «вінко», за елянец на пустках, за гэтае беларускае паветра — самім жыццём. Ды і ў іх не спытаю. Проста буду глядзець на іх і, часам несвядома, рабіць вывады.

І вось ужо цягнецца злева імклівая празрыстая рака, а на гарызонце будынкі, стрэлы званіц.

Кладна, ледзь не самы ўлюбёны мною горад на ўлюбёнай мною зямлі. Кварталы свежаспечаныя, а пасля і старыя з крываватымі вулачкамі, з дамамі, вокны якіх ледзь глядзяць на свет праз сцяну буяну — зялёнага, кучаравага дзікага вінаграду. І глухі комплекс кляштара візітак, а далей узносіцца ў неба ўжо трыста год «фара».

Горад мой горад, са сваімі тварамі, пахамі, поліфаніяй гукаў, са сваім нязмерна прыўкрасным аблiччам.

«Казёл» спыніўся ля скверыка на плошчы. Я вылез.

— Мы тут на Аптэчную звернем, а ты, хлопча, шыбуй па Замкавай і пасля ўправа. Падвозіць цябе пад ганак няма чаго. Ды тут і недалёка. Даем табе пяць гадзін максімум. Пасля чакаем ля Бернардынаў. Застанешся — прыходзь папярэдзіць. Не — падкінем цябе да Альшан.

— Ну а я тут у гасцільні затрымаюся,— сказаў Адам.— А прыеду ці то заўтра, ці на трэці дзень.

...Дом пад патрэбным мне адрасам стаяў на адной з тых зялёных ці то вулачак, ці завулкаў, што збягалі ў прырэчны яр. Унізе бегла адна са шматлікіх рэчак (ці не Кладнічанка), і кожны завулак канчаўся

мосцікам цераз яе, а на другім беразе зноў караскаўся па схіле яра, на гэты раз угору.

«Мой» дом быў тыповы фальваркова-шляхецкі дом, якія тысячамі калісь былі раскіданыя па Беларусі, а зараз сустракаюцца ўсё радзей і радзей і якія так любіў і ўмеў маляваць Генрык Вейсенгоф. Доўгі, аднапавярховы, з высокім дахам і пабеленымі драўлянымі калонамі на ганку, з блакітнымі акяніцамі і вясёлкавымі ад старасці шыбамі, якія глядзяць у запушчаны сад, у стары дрэвападобны бэз.

Здавалася б, такія някідкія, сціплыя, мілыя, нават нібы несамавітыя — яны, аднак, сэрца краіны нашай. Бо гэта ў такіх вось дамках нарадзіліся, акрылелі і ўзмужнелі не толькі нашы, беларускія, але і польскія хвала і слава. З такіх вылецелі ў свет Багушэвіч і Чачот, Купала і Каліноўскі. У такіх заззяла першая іскра жыцця Міцкевіча, Манюшкі і Касцюшкі.

Я, вядома, не чакаў, што мяне нейкім дзівам сустрэне ў дзвярах нейкая з вышэйпамянёных асоб. Штурхнуў рыплівую фортку, прайшоў алейкаю пад бэзамі, перамяшанымі з брызглінай, бружмелем і махровай шыпшынай, тархануў за язык меднага цмока (забрынчаў недзе ў доме званочак) і пачуў праз хвіліну досыць яшчэ ўпэўненыя крокі. Дзверы адчыніліся, нечая рука зрабіла запрашальны жэст, закрыла за мной дзверы (на падлогу ляглі розняколяровыя плямы ад двух акон, што былі паабапал дзвярэй) і толькі тады націснула на выключальнік.

Стары ў трэніровачных портках і палатнянай кашулі з кароткімі рукавамі разглядаў мяне зусім не старэчымі, не выцвілымі шэрымі вачыма.

— Антон Косміч,— сказаў я.

— Мне званілі, я чакаў вас,— голас быў барытанальна-басісты, крыху надтрэснуты, але таксама яшчэ досыць малады.— Яраслаў Мірашэўскі, былы акруговы пракуратар, а цяпер... гм... пенсіянер. Праходзьце.

Хата была абстаўлена, мабыць, модна ў часы сэцэсійнага сімвалізму, стылю, які на нашым беларускім усходзе і ў Маскве на рубяжы стагоддзяў называўся «купецкім мадэрнам». Гэта вельмі б не пасавала з вонкавым выглядам хаты, каб не тое, што «мадэрну» ў той час заўсёды спадарожнічала так званая «хлопаманія». Таму побач з вітражамі ў некаторых вок-

нах, з дзвюма-трыма карцінамі, якія былі б якраз да месца на сценцы ў Яме Міхаліковай[1], побач з іншым такім, вычварным, віселі на сценах і ляжалі на падлозе і тахце народныя кілімы, віселі дубовыя, разьблёныя паліцы і лыжнікі. Віселі груба намаляваныя на шкле «Уцёкі ў Егіпет» і беластоцкія, з аленямі, тканіны, стаяла і некалькі старых мэбляў. І ўсё гэта разам стварала нейкае падабенства гармоніі.

Ён правёў мяне ў кабінет (груба абгабляваныя паліцы з кнігамі, пісьмовы стол велічынёю з поле бою пад Оршай, драўлянае, саматужнай работы крэсла з вышыванай падушкай на ім).

— Жонка з'ехала да ўнукаў. Я адзін. Пасля, зназычца, сходзім у рэстарацыю. А пакуль будзем піць чай. З сунічным варэннем. Леташняе. Ну цяпер і да сёлетняга недалёка... Любіце з сунічным?

— Яшчэ б.

— І я люблю.

Калі з'явіўся фарфоравы пузаты чайнік-самавар, срэбныя, хаця і крыху памятыя, імбрычак з заваркай, цукарніца і смятаннічка з вяршкамі і талерка (так, звычайная талерка) з сунічным варэннем ды дзве разеткі, ён пасадзіў мяне на старадаўнюю драўляную шляхецкую канапу, наліў чаю, паклаў варэння і стаў мяне разглядаць.

А я ў гэты час разглядаў яго.

Высокі і, нягледзячы на старасць, худы, не азызлы. Худы не ад «злога жыцця», а па-спартыўнаму. Жоўтае, сухое, вельмі класічнае аблічча, і на ім сіні нябесны вочы. Не хацеў бы я сустрэцца з такімі, каб мяне судзілі.

Не, не выглядае на старога. Нос не адвіслы, сівыя, аж срэбныя, валасы толькі крыху парадзелыя з лоба, рот цвёрды, вусны хаця і страцілі колер, але харошай формы. Рухі хаця крыху й замаруджаныя, але дакладныя і выразныя. Відаць адразу былы склад і былую пароду.

А ў вачах побач з гумаркам пранізлівая ўвага, адметны шырокі розум.

Не, не хацеў бы я быць падсудным пры такім пра-

---

[1] Вядомае артыстычнае кафэ ў Кракаве з мадэрнісцкімі малюнкамі на сценах.

куратары. Справядлівы-то справядлівы, але як ты вінаваты — літасці не чакай.

— Значыць, вам працэс «сваякі Юлляна Сая супраць Крыштофа Высоцкага»? Ліпень — жнівень трыццаць дзевятага? Ну, паколькі ўжо спатрэбіліся жывыя архівы, то да вашых паслуг. Ну, вядома, настолькі, наколькі можна спадзявацца мне на сваю памяць. Тым больш што я той працэс не вёў, а аддаў яго весці памочніку, віцэ-пракуратару Рышарду Мыслоўскаму.

— Чаму?

— Ну, малады чалавек. Маладое імкненне да пашаны і славы. А мне было тады ўжо амаль сорак. Трэба было даць яму магчымасць высунуцца. Я яго паважаў...

— А акрамя?..

— Гледзіцё ў корань? Гэта добра, што адразу заўважылі і «акрамя»... Я амаль ніколі не звязваўся з працэсамі, дзе хаця крыху пахла палітыкай. А калі звязваўся, то пракуратар з мяне быў нікуды не варты. Калі бачыў, што чалавек сумленна ішоў у сваю справу,— адвакат амаль абавязкова выйграваў працэс.

— І можна было?

— Так, каб ніхто не мог прычапіцца — цяжка, але можна... Не верыце, думаеце, языком віляю. Каб віляў, каб быў пракуратар-інсінуатар, пракуратар-каланізатар, то не пенсія б мне ад новай улады была, а віляў бы я языком недзе ў Вілюі.

— Хіба палітычнае было забойства?

— Спачатку выходзіла на ўсе сто, што палітычнае. Толькі занадта ўжо нейкае... гідкае, з паскудзінкай. Нібы не «палітык» рабіў, а такая сабе дробная вужачка. Хаця ў палітыцы і такіх хапала і хапае. Хадзілі чуткі, што хлоп нібы ўваходзіў у нейкую падпольную студэнцкую групіроўку. Звязвалі з яго імем справу лістовак у Кладненскім тэатры, «экс»[1] банкаўскай машыны. Але два сведкі былі звязаны з паліцыяй. І гэтыя справы, у якіх ён ці ўдзельнічаў яшчэ, пашкодзілі Крыштофу больш, чым забойства. Ну, а пасля пайшло такое, што я за галаву хапіўся, і адзі-

[1] «Экс» — ад «экспрапрыяцыя». Рабунак не дзеля сваёй кішэні, а для патрэб партыі.

ным суцяшэннем было тое, што пакарання смерцю яму і Рышард Мыслоўскі даб'ецца.

Дык вось як яно было.

*Апавяданне былога акруговага пракуратара Яраслава Мірашэўскага аб працэсе 1939 года, на якім абвінавачваўся ў забойстве мешчанін Крыштоф Высоцкі*

— Зноў папярэджваю: кажу толькі тое, што памятаю. І ручацца за кожную дэталь, за кожную дробязь, за кожны валёр — не буду. Так з папраўкамі і запісвайце. З папраўкамі на тое, што я гэта так запомніў.

Гэта было, калі я не памыляюся, вясною 1939 года. У той дзень я якраз падпісваў так званыя «уможэнювкі». Адзін з самых непрыемных абавязкаў у пракуратара. Гэта значыць, «марыў» кароткім рашэннем справы, падрыхтаваныя віцэ-пракуратарам: «няма складу злачынства», «самагубства», «спраўца не знойдзены», «няшчасны выпадак». Разабрацца ў гэтым толкам часу няма, і калі твой віцэ-лянцюх, то цалкам можа быць, што ўморыць нехта, ды хоць бы й ты сам, за нейкі там дзень і поўны куль улік, і забойства, і самога злачынцу, які ў скверы па той бок вуліцы ў гэты час цыгарэтку прыкурвае.

Настрой у мяне — хоць вешайся з такой прычыны. І тут папка, а ў папцы паперкі. І я тыя паперкі павінен «умарыць» з той прычыны, што няма складу злачынства і не наша зямная справа яго судзіць, а судзіць яго будзе бог, таму што самагубства — гэта парушэнне божага закона і злачынства супраць бога і сваёй неўміручай душы.

Што ў папцы? Рапарт пастарункавага, прызнанні сведкі, нейкага Язэпа Шаўца, што, збіраючы вясною журавіну, выбіўся проста на мёртвае цела, нічым не прыкрытае, пратакол лекара судовага, пісаны, відаць, левай нагой, адна гільзачка ад пісталета — а калібр ягоны 7,65. Ну і аркушык брудны паперкі, на якім чорным па белым:

«Бывайце, людзі. Бывайце і вы, мае сваякі, што не паверылі майму цяжкаму становішчу і цягнулі з тым, каб памагчы мне. Маю на імя Крыштоф сын Леана Высоцкі. Дзякуючы няўхільнаму, фатальнаму

збегу абставін учыніў у Кладна махлярства і растрату. Баюся не таго, што за мною па пятах ідзе паліцыя. Ад яе я ўцёк бы. Але куды ўцячы ад уласнага сумлення! Не хачу жыць заплямленым і таму адбіраю ў сябе жыццё». І подпіс з вензэлямі. І аніякіх, да яснай халеры, дакументаў.

Сабраўся я ўжо і гэтую справу падмахнуць, але шкрабе нешта ў мяне на душы. «Не,— думаю чамусьці,— марыць гэтую справу шчэ ранавата».

Чаму? А таму, што раны дзве (у ямку на мяжы шыі і грудзей, тую, дзе «душа жыве», і ў левую скронь). Першае месца смяротным сяляне лічаць, а мяшчане ды яшчэ з прэтэнзіямі на «культуру» — радзей. А левая скронь? Ляўшун быў, ці што? Ці, можа, па старой «царскай» яшчэ памяці? Тады леўшуноў (здаецца), ды людзей з пляскатай ступнёй, ды яшчэ імпатэнтаў у армію не бралі. І столькі іх тады ў нас развялося — Нарач запрудзіць можна. А пасля, глядзіш, такі са «ступой» так ад палясоўшчыка ўцякае, што лаўжы трашчаць. А пасля ў такога імпатэнта поўная хата дзяцей. І правальваецца справа аб пастаўцы дзяржаве толькі паўнацэнных егераў. З трэскам.

Прытым гільза адна. Прытым нідзе ў справе ані слова пра пісталет.

Ну, праз дзяжурнага асэсара загадваю высветліць справу са зброяй, зрабіць ускрыццё трупа. І тэлефаную ў паліцыю, ці не аб'явілі яны росшук такога і такога махляра і растратчыка.

Не паспеў філіжанкі кавы выпіць, з камісар'ята адказваюць: зброі пры тленных астанках не знайшлі (сам, мёртвы, занесці нікуды, вядома ж, не мог, значыць, падабраў нехта і цяпер чакай новых эксцэсаў, калі яна, зброя, у нягожыя рукі трапіць).

Марудзіць тут не было чаго. Замовіў машыну (памятаю як зараз, што нямецкі «мерседэс-бенц») і еду ў каменду павятовую ў мілай кампаніі суддзі следчага, кіраўніка следчай брыгады і пары пастарунковых.

Едзем на месца здарэння.

Спыніліся, помніцца, на ўзлессі і папрамавалі на месца здарэння. Пастарункковы торкае пальцам у месца, на якім, «здаецца», знайшоў астанкі той мужык.

— Як ляжаў?

— Галавою вось сюды, да таго малога ўрвішча. І песць адной рукі звешвалася з яго.

Глянуў я ўніз — у пары метраў унізе дрыгва. Ды не такая, на якой сівец расце, а значыць, пры асцярожнасці прайсці можна, а тая, што зяляненькі такі дыванок, а ў рэдкіх разрывах ягоных — нешта накшталт толькі што замешанай вадкай цамянкі. Калі адкінуў руку пасля стрэлу, то да страшнага суда ніхто таго пісталета не знойдзе. І якраз такі разрыў на гэтым месцы.

— Левая рука была адкінута?

— Гм... дайце саабразіць... Не, правая. Правая была.

«Што ж ён,— думаю,— цераз галаву страляў? Або, прабіўшы скронь, акуратна пераклаў пісталет у правую, будучы практычна ўжо мёртвы, і толькі тады руку адкінуў? Не клеіцца нешта».

Ну і на месцы паспяшаліся. Паверылі занадта запісцы. Гэта не тое, што цяпер (хаця і цяпер зрэдку здараецца), калі ў гэткім выпадку такі тарарам падымуць, што не толькі ўвесь крымінальны вышук, але і ўсіх чарцей у пекле вадун водзіць.

А тут акрамя іншага ўсяго столькі слядоў натапталі, нібы на гэтым месцы ўсім добрым людзям навакolля бясплатна голую Мэры Пікфард паказвалі. У кампаніі з Дугласам Фербенксам, бо і жаночыя сляды ёсць. І яшчэ паказвалі нейкую свінячую кіназорку, бо ляснічы ўказаў нам, што прайшла вялікая чарада дзікоў і яны маглі таксама затаптаць чыйсьці патрэбны нам след.

Словам, ані следу, ані пісталета, ані другой гільзы (урэшце, такую дробязь лёгка і згубіць вясной у гліцы ды апалай асенняй лістоце, а тут яшчэ якраз пачаў аблятаць зімні дуб — густымі шатамі ў паветры, тоўстым дыванам — на зямлі).

Дык вось, пацалавалі мы на страсе салому ды вярнуліся дадому.

А тут і вынік ускрыцця. Дзве агнястрэльныя раны: грудной клеткі — трохі зверху ўніз, справа-налева (нічога сабе манько!), і галавы — ад левай скроні ўгору, і куля ў чэрапе. Першая рана — мог яшчэ нават і дваццаць хвілін жыць, другая — адразу б страціў прытомнасць. І — вось што такое гэтая клятая

магія агульнай прадузятасці, агульнай думкі, агульнага пераканання, агульнага памылковага погляду, халера б іхняй матары — лекар робіць выснову, што «не выключае самагубства».

Ну першы стрэл, ясна, нават тыповы для самагубцаў у сэнсе кірунку кулі. Але каб яшчэ ўмудрыўся пісталет перакласці ў левую руку ды другі раз — гэта так жа рэдка, як у самурая, калі робіць харакіры. Два ці тры выпадкі за ўсю гісторыю Японіі, што ўзразаў жывот не толькі злева направа (ці як там), але і знізу ўгору.

Не, нешта не так. А тут тэлеграма, што служачы фірмы такой і такой змахлярыў два разы на оптавых пастаўках тавару (лічы, пяць тысяч злотых у кішэні) і з пачатку ліпеня мінулага года прысвоіў яшчэ тры тысячы. Як на той час — вялізныя грошы. Вось калі па-сялянску лічыць, то гэта чатыры тысячы пудоў жыта, сто дужа харошых і восемдзесят элітных, чыстапародных кароў, сорак вельмі добрых коней. Кормных кабаноў пудоў на дзесяць — восемдзесят, пойных цялят узростам у месяц — пяцьсот з гакам. Дамоў з мезанінам у такім гарадку, як Слонім,— штукі чатыры-пяць. Ну, а калі быць моднікам, то чатырыста пар саманайлепшых пантофляў, самых модных, самых дарагіх, хай бы сабе хаця й кракадзілавай скуры.

А калі мець крыху спрыту, то падчас крызісу і пасля яго, падпаліўшы застрахаваную хату (а страхоўка да крызісу сто злотых каштавала), можна было на тыя страхавыя грошы дзве хаты пабудаваць, лепшыя, часам нават каменныя.

«Што ж гэта ты,— думаю,— хлопча, не пакутаваў залішне — аж да прывідаў,— сумленнем, як махляры, а тут табе толькі жыць, смажаныя гусі самі ў рот падаюць, а ты раптам каяцца пачаў? Дый не трэба было баяцца, бо сплацілі сваякі ўсю суму, аб чым самагубца, уцёкшы, не ведаў (а чаго тады на іх чэрства спасылаецца?)».

Фотакарткі разаслалі. Цётка Высоцкага сказала, што напэўна ідэнтыфікаваць пляменніка не можа, даўно бачыла (мілая патрыярхальнасць сямейных адносін!), але цалкам можа быць, бо і тып на фота і пляменнічак — абодва шчарбатыя, няма двух пярэдніх зубоў. Цалкам як у мудрай нашай казцы, калі мядзведзь адцяпаў аднаму нашаму суайчынніку

галаву, а суседзі задумаліся, ці была ў таго галава, ці не, і ўрэшце вырашылі звярнуцца да жонкі безгаловага. Адказ той быў дакладна такі, як у цёткі: «Раніцай, калі капусту сёрбаў, то барадзёнка целяпалася, а ці была галава, ці не — не прыпомню». І яшчэ прызнала гэтая мондрая дама куртку лесніка, якую пляменнік з нейкага капрызу часам насіў.

Выклікалі яе асабіста — вынік не лепшы: «Бадай што, ён, але вельмі змяніўся».

— Асобныя прыкметы былі?

І зноў прыйшлося тлумачыць, што гэта такое.

— Ну як жа,— узрадавалася,— след па выдаленні апендыкса.

Паглядзелі — ёсць шнар, цэлых дванаццаць сантыметраў даўжыні. Яна ўжо хацела ісці, але тут мне нібы цюкнула:

— Калі яму выдалілі адростак?

— Ну, добра не ведаю («была галава ці не»), але год сем-восем назад.

— А з якога часу гэты шнар? — гэта да лекара.

— Ну, труп нават на лёдзе пачаў пакрысе... гм... цяжка каб з дакладнасцю. Але здаецца, што год гэтаму шнару. І не болей як два.

— Ды не, даўней было,— абурылася цёцечка.— Яшчэ ў лясной школе вучыўся.

«Трэба будзе памышкаваць па лясніцтвах і леснічоўках ад Кладна да Альшан»,— падумаў я, ды на некаторы час і забыўся на гэта.

А між тым графічная экспертыза дала катэгарычнае заключэнне: запіска напісана рукою Крыштофа Высоцкага.

Ніхто з нас не падумаў, што гэта, уласна кажучы, не мае аніякага значэння. Дык вось, і нявеста Высоцкага, нейкая Антасевіч, апазнала на фатаграфіі жаніха. Словам, адначасова і тупік і выйсце, гледзячы, хто чаго хацеў ад следства.

І вось тут я і перадаў справу ў рукі віцэ-пракурора, Рышарда Мыслоўскага. Не таму, што баяўся цяжкасцей, а таму, што хацеў ягонай перамогі, хацеў, каб ён цвёрда стаў на свой шлях. Абодва мы ўнутрана былі перакананыя, што гэта не метад Іуды, але метад Каіна, не самазабойства, а забойства і што забойца — сам Высоцкі. Назавіце гэта інтуіцыяй, плодам вялікага вопыту іназіранняў. Але я быў упэўнены.

Ён таксама. І няма, як кажуць, прычыны тлумачыць чаму. Заставаліся пытанні, на якія мы не маглі адказаць.

Хто быў забіты? Чаму пераапрануўся ў вопратку Крыштофа? Як быў заваблены ў гэтыя нетры?

А тут яшчэ папаўзлі чуткі, што забойства адбылося на глебе палітыкі (язык без костак, а палітыку тады — і, на жаль, не толькі тады — шукалі ва ўсім). Трэба было спяшацца. Кожны наступны акт, сапраўды ўчынены ў імя палітыкі, мог зрынуць з месца лавіны. Мы не ведалі, што праз нейкія паўгода Польшчы будзе не да палітычных паляванняў за вядзьмаркамі і ведзьмакамі, а адзінае, што ёй будзе важліва,— гэта ні менш ні больш, як права дыхаць і ўвогуле жыць.

Антасевіч, праўда, прызналася яшчэ, што пасварылася з жаніхом дні за два да смерці таго (ён расказаў ёй пра грошы, і яна патрабавала іх вярнуць фірме, а ён не хацеў) і больш з ім не бачылася. А паколькі няма чаго святому месцу стаяць пустым, то завяла яна сабе ўжо і новага «рыцара».

І вось што азначае перасаліць, нагрувасціць больш, чым трэба, яўных і ўскосных доказаў. Больш, чым іх магло быць.

Прыбегла панна Антасевіч у камісар'ят і кажа: ліст ад Крыштофа. А ў лісце словы, што, «калі атрымаеш гэты ліст, мяне ўжо не будзе ў жывых. Мне не шкада пакінуць зямлю і цябе. Шчасця!».

А штэмпель нашай пошты... на пяць дзён пасля самагубства пазнейшы. А штэмпель адпраўлення такі невыразны, што невядома, адкуль дасланы ліст: з Кракава, Гдыні, Навагрудка або яшчэ аднекуль.

А здымак — на вуліцы. І недзе я тую вуліцу бачыў. І здаецца мне, што ў Варшаве. І ці не кракаўскае гэта прадмесце? І ці не рог гэта касцёла свентэго Кшыжа? І ці не пашукаць недзе ў раёне Свентакшыжскай, дзе-небудзь на Новым Свеце або на Крулеўскай фотамайстэрні, дзе тое фота зроблена?

Запытанне. І адказ. Ёсць такі вулічны фатограф. Ёсць фатаграфія, што аперыруе ў гэтым раёне горада. І змяшчаецца яна якраз на Крулеўскай. І фотку вышэйпамянёнага пана аддалі друкаваць праз два дні пасля ягонага самагубства, а наступнага дня ён сам зайшоў за ёю. Як кажуць, повен жыцця.

Ясна, што жыве, і ясна, амаль з поўнай поўнасцю, што гэта ён зрабіў тады ў лесе тое паршыўства.

І тут хада падзей, гэткая павольная, раптам сарвалася на шалёны намёт. Галопам прыбягае ў Кладзенскі камісар'ят панна Антасевіч і кажа, што ішла са сваім «новым» па Замкавай вуліцы (вы ішлі ёю да мяне), і, здаецца, бачыла Крыштофа, і ён юкнуў у натоўп, і што цяпер ён яе нажом ці яшчэ нечым «залатвіць», як у славутай песні «Чтэры мілі за Варшавон», той самай, што зараз уваходзіць у залаты фонд рэпертуара спевака Ярэмы Стэмпкоўскага.

Ну абклалі яе дом, устанавілі назіранне над раёнам. І ўжо праз два дні функцыянеры паліцыі перастрэлі яго ў пад'ездзе дома «на Кладніцы», дзе жыло былое каханне. Невядома, ці сапраўды яно «не ржавее», ці павінна было змоўкнуць.

Спыталі, ці не Высоцкі? Не, я Юллян Сай. І метрыку адпаведную паказвае. Але не скандаліў, калі яго пасадзілі ў «кошык для радыскі» і адправілі куды трэба.

І вось тут я падумаў, што метрыкай карыстаюцца пераважна на вёсцы, што шукаць, між іншым, трэба і ў лесніцоўках. І ўжо ў сёмай з іх жыла сям'я па прозвішчы Сай, і нічога там пра забойства не чулі, а сын іхні Сай з'ехаў, каб паступаць у школу «на ляснічага».

І тут закруцілася кола.

І паказанні Саяў: бацькі і дзвюх дачок. І паказанні сваякоў Высоцкага. І пазней вочныя стаўкі — усё пайшло ў ход. А карціна злачынства зрабілася такой яснай, як быццам я яго назіраў ад пачатку да самага канца.

Ну, спачатку біяграфію. Біяграфія звычайная. Выслухалі яе з суддзёю следчым і віцэ-пракуратарам і не здзівіліся.

Байструк, бацькі не памятаў, дый матка яго, відаць, не ведала. Таму прозвішча — матчына. Пасля і маці паехала кудысь — ці на працу ў Баварыю (вербавалі тады), а яго, двухгадовага, кінула бабцы, сваёй маці. Праз дзесяць год тая памерла, і падлетак перайшоў на рукі цёткі, малодшай сястры маці. Тая настаўніца, муж яе — таксама. І яна за хлопца старэйшая толькі на дзесяць год, і... словам, з тых, пра якіх кажуць: «Пробы ставіць няма дзе...» Вучыўся

хлопец і нават розум і здольнасці паказваў не абыякія, але вучыўся няроўна. А тут яшчэ родная цётка дапамагла. Адкрыла яму, пятнаццацігадоваму, усе, якія сама ведала, «таямніцы Амура». Словам, зрабіла з няўстойлівай асобы, ды яшчэ й не асобы пакуль што, матар'ял на скончанага, закаранелага нягодніка.

Дзядзечка нешта падазрае. Дзядзечка пляменнічка і сабрата выпіхвае ў лясную школу ў Бялай-Падляскей. Той канчае, нават з поспехам. На службе ў дзяржаўных лясах. А пасля калейдаскоп. Жаніцьба на ўдаве, прадажа гаспадаркі, пераезд у Варшаву. Абкраў маладую да ніткі і ўцёк. Спаймалі. Далі восем месяцаў. Добрыя людзі часам гадамі чакаюць дарэмна, а нягодніку, як заўсёды, амністыя тут жа падваліла. Прыказка гэтая наша непрыстойная, але «багатаму чорт і ў кашу валіць, а беднаму і ў поліўку лье». Словам, дзе і так густа, то каб яшчэ гусцей было.

На волі ўладкаваўся практыкантам у ляснічага Хмялевіча. Амаль адразу выпараецца разам з грашыма, асабістым пасведчаннем і пісталетам (вось яна адкуль віцца пачала, нітка замшанскай трагедыі).

Зноў Кладна. Тут і пазнаёміўся з Антасевіч. Што ж, хлопцу дваццаць восем (ёй дзевятнаццаць), прыстойны, ясна ж, «не жанаты». Коміваяжор, але ж не так складана і якар кінуць, скажам, у фірме «Ян Пліцка і сын». Лясная фірма. І ён — знаходка. Лес ведае, знаёмствы ў LP (lasy państwowe) ёсць, ледзь не да вуліцы Вавельскай, 54, дзе дырэкцыя галоўная (прынамсі, так кажа). Спец і па дыхце, і па тэрпентынарнях, і па дыстылярнях жывіцы. Ён табе і кнігі весці і інкасатар — знаходка, і толькі. Расце давер — расце і махлярства і ашуканства. Ну, тут падрабязнасці не патрэбны. Тонкае было круцельства. Так і накруціў ён сабе восем тысяч злотых. Ну і тут чамусьці адкрыўся Антасевічуўне. Тая — каб вярнуў. Ён — у аніякую. Пасварыліся. І тады ён «звяў» адзін.

Прыглядаўся да розных месц, куды можна было б укласці капітал. А тым часам раз'язджаў на веласіпедзе ў мундзіры палясоўшчыка прыблізна ў шматкутніку Аўгустоў — Беласток — Навагрудак — Альшаны — Ліда. Кладна, вядома, мінаў.

І вось Замшаны і леснічоўка ў Цёмным Бары.

Стары Андрон Сай, старэйшая дачка Агата, сын Юллян ды малодшая доня — Ганна. Зайшоў папіць дый начаваць застаўся. Ну, а дзе начлег, там у нас і вячэра. Знайшлася і бутэлька. Знайшлася пад яе і добрая бяседа... Даверлівасць гэтая наша, прастата — горш яны за любое крымінальнае, за кожнае нават дзяржаўнае злачынства.

Стары быў старой школы, калі ад палясоўшчыка толькі і патрабавалася, што веданне лесу на ўчастку ды сумленнасць. А новыя часы патрабавалі яшчэ і сякой-такой асветы. І палясоўшчык «з асветаю» выдаўся ім асобай прыблізна таго самага гатунку, што ў нашым коле доктар ганорыс каўза Сарбоны або лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне кібернетыкі.

Разгаварыліся па душах. Андрон паскардзіўся, што яго наследны прынц не ўспадкуе пасля яго ляснога каралеўства Замшанскага, што адзіны цяпер спосаб вывесці дзяцей у людзі, ўратаваць іх ад галечы — даць ім асвету або хаця б патрэбную спецыяльнасць. І вось і хацеў бы Юллян у палясоўшчыкі, але грошы ўзяць дзе, дзе заручыцца падтрымкай? Ясна, што нейкі з горада заўсёды мае перавагу над вясковым, тым болей над лясным чалавекам. І чуў многае, і чытаў, і, нават хай сабе без ахвоты, бачыў. Хаця, можа, і дурнейшы за таго вясковага, як амаль кожны пародзісты сабака дурнейшы за дварнягу. І куды больш не прыстасаваны да жыцця.

— А можа, і я дапамагу,— сказаў Крыштоф.— Я скончыў Вышэйшую лясную школу ў Цешыне. Знаёмствы ў лясніцтве засталіся.

Не ведаю, магчыма, з гэтага выхвалянне, якое не мела аніякай мэты,— от, так сабе, хлестакоўскае выхвалянне! — усё і пачалося.

Юллян з'явіўся. Год на шэсць маладзейшы, але фігура, колер валасоў, рысы аблічча былі крыху падобныя. Усміхнуўся — двух пярэдніх зубоў няма.

Пачалася размова. Дзе, ды што, ды як з хлопцам вялося, ды ці мае сяброў недзе на Кракаўшчыне, ці недзе там пад Бельскай-Бялай, Цешынам, Рыбнікам ці Жыўцам. Не меў аніякага, дый тут — мала.

— Там перавагу аддаюць людзям стопрацэнтна здаровым. Нават каб гландаў і апендыкса не было.

— Апендыкс выдалілі.

— Там на здароўе не менш глядзяць, як у арміі. Адбор і адбор.

— Ясна, што адбор,— уставіў і стары.— Толькі ж і маем права на трыста шэсцьдзесят тысяч войска.

— Па Версальскаму дагавору,— сказаў Крыштоф, «прасвяціў» цёмных.— Ясна, што ўжо няшмат, але патрэбны адборныя.

Гэта пазней ужо, калі мы яго, скурвысына, раскалолі, ён прызнаўся, што ўжо тады задумаў «падстаўку», бо паліцыя яго і сапраўды рана ці позна спаймала б.

Раніцаю сказаў, што хутка вернецца, вось толькі ў Цешыне спраўкі навядзе і на каго трэба націсне. Ну, а паколькі пашпарты тады былі не абавязковыя і многія, асабліва з вёскі, іх не мелі, то досыць і метрыкі і пасведчання за чатыры класы школы паўшэхнай. Ну і грошай крыху на вопратку і на першы час.

І пасведчанне ляснічага Хмялевіча — на стол. І дзе ўжо тым было, простым, нямудрым людзям, нязвыклым да ашуканства, заўважыць, што Хмялевіч год на пятнаццаць старэйшы і што «дыстынкцый» ляснічага ў Высоцкага на мундзіры няма.

Ні ў які Цешын ён, ясна, не ездзіў. Вярнуўся дзён праз колькі, прадыктаваў заяву ў дырэкцыю, заверыў, што прымуць. Толькі трэба трыста злотых за інтэрнат заплаціць (з поўным пансіёнам, хаця хатняй каўбасы вэнджанай ды паляндвіцы падкінуць і не шкодзіць). І трэба яшчэ дзесяць злотых за маркі казны.

Дамовіліся сустрэцца праз пару дзён на бліжэйшай станцыі і ехаць некуды аж пад Беласток, дзе ў леснічоўцы, блізка, збор кандыдатаў.

Як вы думаеце, што мне было ў гэтай гісторыі асабліва брыдка? Не ведаеце? А тое, што гэтая .... ухітрылася яшчэ пасля са старэйшаю дачкою цалавацца за гумнамі. Ведаючы ўжо ўсё.

Ну і вось. Перон паўстанка. З'яўленне Юлляна. Цень лёгкага незадавальнення, калі той сказаў, што здолелі сабраць толькі дзвесце пяцьдзесят злотых. Некалькі прыпынкаў цягнікам. Пасля некалькі кіламетраў на таксі. Калі тое ад'ехала — выявілася, што злезлі зарана, што трэба яшчэ метраў дзвесце прайсці да патрэбнай сцежкі (таксіста пасля знайшлі, і ён паказаў і паваротку — не тую, і сказаў, што «паля-

соўшчык» даў яму звыш таксы тры злотых, а астатнія грошы і дакуманты «маладога» схаваў у кішэнь).

Урэшце паварацілі ўлева. Надыходзіў змрок. Ужо і сцежку было відаць кепска. І тут упершыню нешта, мабыць, стукнула ў галаву Саю:

— Куды мы?

— Ды тут, блізка ўжо.

І тут, бы ў дрэннай меладраме, закрычаў пугач (Крыштоф адзначыў гэтую дэталь пазней, калі стала марнай справай маўчаць). І гэта было злавесна.

— Не пайду далей,— сказаў Юллян.

І ўбачыў, як сказаў нехта, «самае сумнае відовішча на свеце», дзірку чужога пісталета.

— Скідай вопратку.

— Што ж я зрабіў вам? — дрыжучы, пачаў маліць небарака.

Сярод вясковых хлопцаў з глухіх месц хапае такіх ціхіх, «вады не замуцяць», людзей. І гэта, на мой погляд, было адзіным апраўданнем «ідыятызму вясковага жыцця», калі ён яшчэ не адыходзіў у нябыт.

— Вы мяне не забівайце. Злітуйцеся. Грошы бярыце. Я маўчаць буду. Не вярнуся ў Замшаны. Далёка-далёка з'еду.

— Кінь енчыць. Памяняемся адзеннем, дый ідзі сабе.

Той нават не спытаў, нашто тым адзеннем мяняцца. Скінуў усё і чакаў, пакуль Крыштоф з пісталетам павольна апранае ягоныя порткі, пінжак, а ўсё сваё кідае пад ногі хлопцу. Яму б у той час скочыць у гушчар і бегчы: у адной калашыне не пабегаеш. Але ён быў запалоханы,і ён... паверыў. Яму хацелася верыць. Бо хто ж не паверыць, калі хочацца жыць?

І таму, калі ён пераапрануўся, ён адразу атрымаў кулю ў скронь. З правай рукі і таму ў левую скронь. Упаў. Яшчэ варушыўся і таму атрымаў, зверху, другую кулю, у сэрца.

А пасля забойца падцягнуў Сая да невялічкага ўрвішча, адкінуў яму адну руку так, каб звісала над дрыгвою. У запале не заўважыў, што адкінуў правую, не тую, калі ўлічыць, што рана была ў левую скронь.

Ну а потым засунуў забітаму за борт пінжака загадзя напісаны ліст і пайшоў сабе. А пісталет дарогаю — трэцяя памылка — кінуў у нейкую ручаіну.

Думаеце, канец? Ды не. Што там дзвесце сорак

злотых, калі з васьмісот — сотню паспеў пражыць. Калі ўжо зроблены першы крок па дарозе, на якой чалавек ператвараецца ў брутальнага і без лішняй маралі звера, то астатнія крокі даюцца лягчэй. А тут яшчэ ён не ведаў пра свае памылкі, пра існаванне нас, верыў, што ў скуры Сая яму бяспечна. І яшчэ ведаў, што простыя лясныя людзі не ведаюць усёй меры цынізму такіх, як ён.

Таму з Варшавы піша ліст і дасылае фота Антасевіч. А пасля з Цешына, падрабіўшы почырк (узор — заява Сая), піша бацьку забітага, што дзякуючы пану Хмялевічу паступіў, што ўсё добра, толькі патрэбен новы касцюм, гадзіннік і сто злотых на выдаткі.

Гэты забойца так і застаўся ў душы дробным каваларчнікам, які памёт здатны з-пад сябе з'есці.

І прыехаў. І расказаў аб планах Юлляна, аб сябрах. І атрымаў усё, што хацеў. А ад старэйшай дачкі — таксама. Вось што самае страшнае!

— Малодшая цяпер за Салвэсем Цяцерычам,— сказаў я.

— А старэйшая за маці-зямелькай. Пасля суда вешацца хацела (і яна і стары давалі паказанні, ясна ж, пры замкнёных дзвярах, але ўявіце сабе адчуванне: абдымаць забойцу брата). Знялі. То пасля ніводнага хлопца да сябе не падпускала, а ў партызанах, як знарок, лезла ў самыя небяспечныя справы. І смерць яе мучыла-мучыла, а пасля і злітавалася.

І ведаеце што? Я не быў ані ў якой меры прыхільнікам пана Мацыеўскага[1], але пасля таго як даведаўся пра гэтую гісторыю Крыштофа з Агатаю, з ахвотаю кароткі час пабыў бы з Крыштофам і панам Мацыеўскім у адной кампаніі. А пасля нават з прыемнасцю запрасіў бы яго на чай і пазнаёміў з сям'ёй.

Хаця мне вельмі не падабаліся гэтыя яго штукі з белымі пальчаткамі. Неяк не быў я ад іх у захапленні.

---

[1] На ўсю Польшчу ў той час быў толькі адзін кат, якога вазілі па меры патрэбы з месца на месца. І хаця «выступаў» у масцы — усе ведалі ягонае прозвішча — Мацыеўскі. На кожнага павешанага ўжываў свежую пару белых пальчатак. Пасля выканання прысуду — выкідаў старую пару са словамі: «Справедлівосці стала сен задосць». «Справядлівасць перамагла».

Але да Мацыеўскага яшчэ быў акружны суд. Пасілены эскорт паліцыі, варожасць народа.

Прызнаўся ва ўсім, і нічога тут не мог дапамагчы адвакат (псіхіятр прызнаў Высоцкага адказным за свае ўчынкі) з ягонай канцэпцыяй «канстытуцыянальнага псіхапата», пазбаўленага ў дзяцінстве пяшчоты і цеплыні.

Прысудзіў суд (раіліся дзве гадзіны) да пакарання смерцю. А той, хоць і казаў, што «жыць не хоча і не можа» — падаў на апеляцыю.

Выводзілі яго з суда праз чорны ход. Іначай лінчавалі б. Бо нянавісць аж віравала, як кіпецень у катле.

Суд апеляцыйны ў сярэдзіне жніўня зацвердзіў прысуд суда акруговага. Бо і што можна было дадаць яшчэ, якія абставіны маглі б змяніць погляд людзей на рэчы. Хіба гэта было нешта вартае паблажлівасці? Выключная жорсткасць, зверства, бесчалавечча, нуль маралі, аніякага раскаяння. Небяспечны люты звер, кат і вылюдак.

Шаноўны пан Мацыеўскі выехаў у чарговую дарогу, даруй яму бог парачку больш дробных грахоў за адну гэтую паездку.

Я не прысутнічаў на апеляцыйным судзе, не быў сведкам выканання прысуду. Быў за мяжою і застаўся там яшчэ на год, бо 1 верасня грымнула вайна. Палякі нібыта напалі на радыёстанцыю Гляйвіц.

— А ўсё-ткі як гэта адбылося?

— Кажу, Мацыеўскі выехаў. І добра, што скончылі хаця з адным падонкам перад тым, як Польшчы як ніколі спатрэбіліся сапраўдныя людзі.

Яны ўсё ж былі людзі слова, мае спадарожнікі.

Сказана — зроблена. З'явіўся ў прызначаны тэрмін да касцёла і кляштара бернардынаў — умова застаецца ў сіле. Дакладны — значыць, дакінем амаль да Альшан з Кладна. Нават Хілінскі быў у наяўнасці, хацеў паслухаць пра маю размову з былым пракуратарам, пасля вярнуцца ў Кладна і назаўтра прыехаць зноў, ужо аўтобусам.

У тую хвіліну, калі я ўлез у наш «казёл», яны якраз канчалі нейкую спрэчку, якая ўзнікла значна раней.

— Кідаецеся вы тэрмінамі, што далі людзям, юрыспрудэнцыяй,— рэзка кідаў Хілінскі.— А на мой погляд, самае брыдкае ў кожнай прафесіі, асабліва калі ты надзелены ўладаю,— прымушаць людзей рахмана, ціхмяна і пакорліва, без скандалаў цярпець несправядлівасць. Я гэта бачыў... У розных краях.

— Перажыткі,— буркнуў Клепча.

— Ну так,— сказаў Шчука.— Змяшаў божы дар з яешняй. Перажыткі капіталізму ва ўсім, што яму не па душы, бачыць. А ён гэтага капіталізму і не нюхаў. А што, скажам, дзед нейкага таварыша быў... ну... губернскім казначэем, то давай абвінавацім у гэтай нашай гісторыі ўнука першага лепшага загадчыка АблФА. Дык вось твой «падазроны» гэта чалавек добры, гэта чалавек на сваім месцы — якога табе яшчэ ражна? І запамятай, наперад сабе такіх штук не дазваляй. Невіноўны — пусці. Не бойся, самалёта ён не захопіць. У яго аўтамата няма. І іншай радзімы таксама.

— Абстрактны гуманізм!

Дзіўныя пачуцці выклікаў ува мне гэты чалавек.

— Абстрактны гуманізм,— зноў умяшаўся Хілінскі,— гэта калі б Гітлера бараніў за тое, што вегетар'янец і сабак любіў. Гэта калі б я падлюгу, што сабрата ў пяцьдзесят год інфарктам задушыў — і не аднаго,— па галоўцы гладзіў. Глядзі, Клепча, не давядзе цябе гэта да дабра. Не цяпер, то ў чацвер... Расказвай лепей, Антосю, што там было.

Я расказваў падрабязна, і таму, калі скончыў, мы былі ўжо на пад'ездзе да клуба ў Альшанцы, сёння нежывога і замкнёнага на замок.

— Н-на, гісторыя, як кажуць, страшней за страхавітую выдумку,— сказаў Шчука.— Дык гэта клуб?

— Ага.

То пройдземся на месца, дзе на цябе напалі.

Праз пару хвілін усе рассыпаліся па лагчынцы, а я паказваў ім, што і як тут было.

— Малайчына,— сказаў раптам Шчука.

— А мне якраз гэта і падазрона,— гаварыў, як рэзаў, няўхільны Клепча.— Чацвёра не здолелі адолець аднаго. І запавет на вашу карысць. І запіска тая. Хто яго ведае тую графічную экспертызу.— Ён гава-

рыў досыць з'едліва, але так гжэчна, што здавалася, вось-вось пачне дыгаць ножкай.

— Перастаньце быць такім нудна-гжэчным,— гэта сказаў палкоўнік, ціха і суха. Ён, відаць, не саромеўся мяне і быў у стане ціхага шаленства.

— Тут вам не Нясвіж, а група міліцыянераў. Дый нават Радзівілам было пляваць на ўмоўнасці. Ім радавітасць даводзіць не было прычыны.

Я развітаўся з імі па дарозе ў вёску. Яны пайшлі да машыны, усё яшчэ ціха гаворачы між сабой. А пэўна маўчалі б, каб ведалі, які ў мяне слых.

— І ўвогуле, Клепча,— сказаў Шчука.— Ты ведаеш, чаму нас у Польшчы «глінамі», у Францыі — «каровамі», а тут часам «лягавымі» абзываюць?

— Не.

— А гэта вось праз такіх, як ты.

Клепча паскорыў крокі, а яны, памахаўшы мне рукой, зноў пайшлі сваёй дарогай. І зноў даляталі да мяне ўрыўкі іхняй размовы.

— То што, перавядуць яго? — спытаў Хілінскі.

— Я б яго звольніў,— сказаў Шчука.

— Та-ак, то на самай справе вялікая страта,— нечакана ўмяшаўся шафёр.— Такі хлопец, як ён,— гэта ж прыкраса міліцыі.

Астатнія прамаўчалі.

Машына кранула з месца і хутка знікла за паваротам дарогі. Я ішоў да сябе, і мяне калаціла. Усе гэтыя дні я быў на грані нервовага вычарпання.

## Раздзел V

*У якім я амаль складваю лапы,*
*падводжу вынікі паражэння,*
*але своечасова ўспамінаю*
*пра пэўную аптымістычную жабку*

Не падумайце толькі, што ўсе гэтыя дні я адно займаўся паездкамі дадому, у Кладна, туды-сюды, што я захапляўся выключна аналізам людскіх характараў і адносін (хаця гэта і забірала пэўны час), самааналізам, самакапаннем і іншымі малапаважанымі «сама»...

Асноўнае — гэта было ўсё ж пошукі ў трэцяй

вежы. І аднаму богу толькі вядома, колькі кошыкаў друзу і пылу мы вывалаклі адтуль праз пралом, колькі вынеслі насілак бітага каменю і ўсяго такога. Сам я прыдбаў такія мазалі на руках, якіх не меў з юнацтва, два Іванавічы таксама працавалі ад душы, ды прычым нічога не хацелі браць, акрамя рэдкіх (і ўзаемных) пачастункаў. І яшчэ я адбіў у археолагаў шасцёх вучняў старэйшых класаў (былі, дзякуй богу, канікулы), за што мяне клялі нават дзяўчаты, не кажучы пра Генку Седуна. Урэшце і яны часам прыходзілі памагчы.

Зямлі за тры з паловаю стагоддзі з гакам нарасло ўдосталь. Замак, як кожная старая будыніна, «рос у зямлю», але з дня на дзень мы павінны былі ўжо дабрацца да «мацерыка».

Ну што яшчэ? Перасталі з'яўляцца «дама з манахам». Прынамсі, як бы позна ні вяртаўся я ў сваю «плябанію», мне ні разу не давялося ўбачыць іх. Але я ані на крок не пасунуўся наперад. Праўдзівей кажучы, я пасунуўся і нават шмат новага зведаў, толькі не ведаў, што з гэтага новага сапраўды важлівае і набліжае мяне да мэты і адгадкі, а што не. А між тым час ішоў, і маладзік адзначыў канец траўня, і вось павінен быў прыйсці і прынесці новую поўню чэрвень.

Адно было кепска: начныя кашмары пачалі паўтарацца з зайздроснай рэгулярнасцю, усё часцей і часцей. І асабліва моцны здарыўся са мною ў ноч майго вяртання з Кладна. Пэўна, размова з пракуратарам, спрэчка з Клепчам, няўдачы апошніх дзён усхвалявалі мяне да таго, што я сапраўды вычарпаўся, што я балансаваў на краі. Я, відаць, і сапраўды быў падрыхтаваны да пачэснага месца сярод іншых такіх у «загарадным доме» Лыганоўскага або проста быў гатовы сарвацца ўніз, у бездань.

Дзед Мультан, можна меркаваць, быў у адным з начных абходаў. Я выпіў шклянку халоднага чаю, выкурыў на сон цыгарэту і заваліўся спаць. І амаль адразу заснуў дзіўным сном: не разбярэш, у сне гэта адбываецца з табою ці наяве.

...У партрэтаў і ікон на сценцы і на падлозе ляяе раптам аджылі вочы і пачалі ў нейкім непаразуменні паглядаць туды і сюды, круціцца, вырачвацца на мяне. І вусны крывіліся ўсё мацней.

І я, як яны, пачуў бязгучнае набліжэнне чагосьці нядобрага.

Здалёк яшчэ, праз дзверы, якія раптам ціха адчыніліся, я ўбачыў, як нехта няўлоўным ценем, без аніводнага шолаху, набліжаецца да вартоўні.

Бліжэй, бліжэй. І раптам партрэты ўсе скасілі вочы ў бок дзвярэй. І ў вачах быў несамавіты жах.

Нешта, якое блізілася, матэрыялізавалася на парозе і ўступіла ў пакой. Кшталт гэтага нечага ўвогуле быў чалавечы. Толькі шыі не было. Патыліца з усіх бакоў спадзіста пераходзіла ў апрафігіяльныя канцы ключыц, у плечы. І вачэй не было, і рота. Проста футра на гэтым месцы ішла невялікімі паглыбленнямі. Таму што істота была ад патыліцы да ступакоў пакрытая белай і тоўстай, як лішайнік, даўжынёю сантыметраў у сем поўсцю.

Ён набліжаўся ў нерухомым паветры, і партрэты вадзілі поўнымі жаху вачыма з яго на мяне.

...І тут я нібыта разарваў нябачныя ланцугі на руках і нагах, скочыў, нейкім дзівам мінуў яго і кінуўся ў дзверы. Ногі не хацелі бегчы, і тады я пачаў рабіць скачкі. Так, як гэта заўсёды бывае ў сне, калі не можаш уцячы ад пагоні.

...Конь перада мною. І я ўзвіўся на яго, не абапершыся ні нагою на стрэмя, ні рукамі на карак.

Дзіва здарылася, ці што? Але не было ўжо замка, касцёла, плябаніі. Была тая паляна, на якой вымушаны быў адпусціць нас Вітаўт Альшанскі і Сташка, ды не, Ганна, побач, і заблытванне слядоў і падсвядомае адчуванне намі наперадзе чагосьці нядобрага.

Такое балючае, такое трывожнае адчуванне нейкай немінучай, няўхільнай, неакрэсленай бяды.

Коні імкнуць шалёна. Забіцца да смерці, але не збочыць. Вось-вось ужо будзе рака, і чаўны, і шлях да Нёмана, а там — да свабоды.

Вось і чаўны. Але нешта занадта многа чаўноў. Не тыя чаўны.

І, адгароджваючы нас ад чаўноў, ад срэбнай лускі на вадзе, выцягнуўся роўнай лініяй конны аршак. Другі конны аршак.

Дасланы вадою перасячы нам шлях. Адразу дасланы вадою, без патрэбы блукаць у нетрах і блытаць сляды.

Цьмяна адсвечваюць у промнях месяца сталё-

выя і пасрэбленыя латы. Узнятыя забралы і твары ўсіх у ценю і таму здаюцца сляпымі або снулымі. Звісаюць з шаломаў сутаны, валасяныя, грывамі, і з пер'яў.

Выразныя павады адпушчаны. І ртутны бляск на наканечніках доўгіх дзідаў, на шаблях, на буздыганах і баявых кляўцах.

Цяпер ужо не ўцячэш. Набліжаецца вершны ланцуг.

— Ну вось. Лёс не быў літасцівы да нас.

...І тут жа нейкая камяніца, і туды кідаюць рознага памеру цюкі, мяхі, скрынкі. Яны слізгаюць некуды ўніз, як кіль па прасаленым жолабе, калі карабель ці ладдзю спускаюць на ваду. І ноч. Крыху цямнейшая, бо месяц вось-вось зойдзе. А вакол нас з Гардзіславаю дзесятак воінаў і Вітаўт Альшанскі на вараным кані.

— Ну вось, паны рада,— звяртаецца ён да воінаў,— вось паны райцы. Абыдземся без ражэння, без суддзі і падсудка[1], без проўста[2], без падскарбія, каб той вернуты скарб лічыць. Урэшце няхай паляжыць з імі, пакуль тут з праверкай, гэты Груган, крук гэты Станкевіч будзе тырчэць.

Ён паказвае воінам на нас:

— Саўлачыце з іх рызы[3].

Адзенне падае да нашых ног, у траву.

— Што, умёт[4]. Сустрэліся-такі ўсё ж. Нічога, абароница ваш спіць. Ой, моцна соннае віно. А вас? Вас я такім напаю, што ў свой час давеку заснеце. Зладзеі.

— Змоўч ты, крадла,— адказвае Валюжыніч маімі вуснамі.— Здрадзіў твой прашчур Слуцкага, абрабаваў і князёў тых і караля. Дый ты ў яго. Мяне і сяброў маіх прадаў, абабраў караля. Так што не хайлаў бы так. Занадта ты ўшчыплівы[5]. Вось за тую ўшчыплівасць з нас, за зладзеяватасць так цябе шчыкаць будуць шчыпцамі, абцугамі ды клешнямі, што мяса з костак паляціць. Зладзейству твайму сведкаў многа, а галоўны — бог.

---

[1] Чыноўнік або пісар земскага павятовага суда.
[2] Ксёндз.
[3] У той час не толькі «рызы», але і «адзенне».
[4] Гразь, гной.
[5] З'едлівы, калючы, кплівы.

Ён усміхаецца страшнавата:

— Ты не думай так мяне раздражніць, каб цябе хутка ды лёгка на смерць прыправіў, ды яшчэ і столмаха[1] пазваў, каб ён вам хаўтурную калясніцу да труны адразу зрабіў. Таго не будзе. Прыпомніце вы ў мяне яшчэ паталетнюю[2] мякіну.

— Пішы строчне,— пасля паўзы звяртаецца ён да конніка з дзіўным цыліндрычным прадметам у руцэ,— у радок.

Спачатку жанчыну, а пасля мяне абвязваюць пад пахамі пятлёй з нейкім хітравумным вузлом і спускаюць па нахіленай плоскасці, а пасля, з нейкай нависі, проста ўніз, у чорны атвор.

Камень пад ступакамі. І тут жа нешта шморгае пад пахамі. Ага, бортны вузел. Тарганууўшы, здымаеш пятлю з самага высокага сука. На імгненне яшчэ я заўважаю, як дзвюма змеямі мільганулі ўверсе, у пляме, адкуль ледзь-ледзь сочыцца святло, дзве вяроўкі.

— Вось так,— далятае зверху голас,— тут вам і ложніца, тут вам і жыць, і скончыцца. Вада там, у куце, капае са столі, там цэбар стаіць. Бачыце, я вас акрутне — жорстка ды люта — не замардаваў. І скарб вы ў ніжняй каморы адзедзічавалі[3]. І хата раскошная, акругле[4] сем сажэняў. Ну вось, будзеце вы там вартаўнікамі, і жывым вас не даклікацца.

Пачынае звужацца больш светлая пляма над галовамі. Чуваць глухі звон апаленай плінфы аб другую, шорганне кельмы аб камень.

І цемра. І нічога болей. Толькі густая і тлустая, як сажа, цемра.

— Ты памрэш не даўжэй як праз год,— гукаю я, без надзеі, што той яшчэ мяне пачуе.

...Я нічога не бачу. І, адначасова, чамусьці бачу, як чорны коннік на чале коннага аршака выязджае з лясной сцежкі на паляну (трох муляраў цягнуцца ззаду).

Чорны раптам пускае каня рыссю, махае рукой. І тут з нетраў адусюль выязджаюць, выломліваюцца з гушчару коннікі. У руках іхніх няма пішчаляў.

---

[1] Сталяр, карэтнік, каляснік.
[2] Мінулагоднюю.
[3] Атрымалі ў спадчыну.
[4] У акружнасці.

Дзівіцца няма чаго, унь, наводдаль, відаць верхавіна касцельнай званіцы. У руках іхніх доўгія лукі з белавежскага цісу. Гучна ляскаюць нацягнутыя, а пасля адпушчаныя цецівы аб скураныя пальчаткі на левай руцэ. І роем лятуць доўгія стрэлы з наканечнікамі, вываранымі ў адвары з ігліцы, кары і драўніны таго ж цісу. Смертаносныя доўгія стрэлы — «паратунку ж ад іх няма».

Муляры падаюць адразу. Воіны яшчэ круцяцца, спрабуюць прарвацца, але паступова спаўзаюць з коней на траву. Так уторканыя стрэламі, што хутчэй падобныя на вожыкаў, чым на трупы.

Бачу твар гаспадара. Вусны ягоныя ўшчыпліва варушацца. Ён абводзіць вачыма мёртвых.

— Так, праўду ты мовіў. Зладзейству майму сведкаў многа.— Ён узводзіць вочы: — А галоўны — бог.

...І зноў цемра, як сажа. І зноў раптоўнае святло. Замкавы двор, заліты сонцам. Вялізны спачатку абшчынны, пасля фамільны дуб. Кіпіць пад ім і вакол стракаты натоўп. Магнацкая, шляхецкая вопратка, латы воінаў, адзенні вольных сялян. Далей, у браме і за брамай, белая хмара тых, зусім простых. З агульнага гулу вырываюцца паасобныя сказы.

— А ўсіх сведкаў з тых латных людзей,— гэта падсудак,— паставіць перад вочы высокага суда нельга. Бо той жа ноччу іх нейкія ліхія, лёзныя, вандроўныя іначай, людзі да смерці выбілі. І тыя ліхія людзі не з воінаў, а з простых разбойнікаў былі, бо не мелі гакаўніц, а мелі лукі са стрэламі атручанымі.

Зноў вэрхал. Усплывае разумны твар Станкевіча. Рука на Евангеллі.

— Клянуся, што калі князь уцекінёраў наздагнаў, то і адпусціў адразу па просьбе і парадзе маёй. А што яны грошы тых бунтоўных везлі і грошы яго каралеўскае мосці — таго я не ведаў.

І пасля паўзы:

— Толькі грошы тыя дасюль нідзе не ўсплылі. І пошук наш нічога не даў. А ўсплысці павінны былі. Значыць, схаваныя яны, пад завалай. А тут трэба яшчэ даведацца б, ці не перастрэлі ўцекачоў іншыя людзі князевы.

Зноў шум галасоў. І тут ужо ля падстаўкі з Евангеллем сам князь.

— Фартугалем[1] продка майго Пятра Альшанскага клянуся,— рука ягоная цягне з грудзей залаты ланцужок.

— Продка-здрадніка,—бязгучна варушацца Станкевічавы вусны.

— ...а спатрэбіцца, то паклянуся й на святым Евангеллі. Не пад катаваннямі, як слугі, а па сумленню, што я тады, адпусціўшы іх, з панам Станкевічам назад да замка прыехаў. А другі раз я іх не лавіў. І, галоўнае, не забіваў. А сведкі Язэп Гарашчук, купнік, ды Пратас Левановіч, пісар, клянуцца, што тыя — жывы. І жыць ім яшчэ, колькі адпусціць ім дзён бог. А я ані зброю, ані плахаю паскараць канец гэты не буду, у чым і слова сваё кладу.

І зноў цемра. І далёкі голас:

— Князь наш Вітаўт, не дачакаўшыся канца разбору, хуткім чынам памрэ.

Зноў змрок. Ужо на вечныя часы. Два вартаўнікі хрышчоныя, а адзін — не хрышчоны.

...Уласны скрогат зубоўны будзіць мяне.

Стан мой быў у той дзень нікудышны. Нават сустрэча са Сташкай не прынесла палёгкі: увесь час я памятаў водбліскі начнога зорнага святла на яе абліччы, калі «нас» спускалі на арканах у атвор. Апошнія водбліскі святла.

Невядома, чаму мы пайшлі ў напрамку да Альшан (хутчэй за ўсё таму, што і замак, і касцёл, і сама Альшанка абрыдлі нам, як манная каша ў часы залатога шчаслівага дзяцінства) і я, сам не ведаючы, з якой прычыны, расказаў ёй пра ўсё, не выключаючы і кашмары.

— Гэта бывае,— сказала яна.— Проста чалавек столькі думае пра гэта, што думкі не пакідаюць яго і ў сне.

— А чаму ў сне ўсё так, нібы ўсё ведаеш?

— Адсутнасць логікі. І прысутнасць нейкай вышэйшай логікі. Наяве гэта перашкаджае, а ў сне — нібы ўсё раскутае. І ўяўленне ў тым ліку. Тэарэма з Эўклідавай геаметрыі пра перасечныя прамыя (ці лініі — от, чорт, непатрэбная была навука, то ўсю тэрміналогію забыла).

---

[1] Фартугаль (партугаль) — залаты медальён заходняй работы.

— Правільна. Нехта са славутых казаў, што ведаў у ягонай кніжнай шафе болей, чым у ім самім. Але ён з гэтай прычыны не плача. Бо ён не шафа, ён — фізік... Я таксама забыў шмат чаго са школьнай прамудрасці, але калі ўжо звярнулі на забытую геаметрыю, то мае перасякальныя лініі перасякаюцца за межамі ўяўнай плоскасці, за межамі явы, у сне.

— Ну і што вы зараз думаеце аб гэтым?

— Анічога.

Усё яшчэ досыць маладая, сакаўная і зялёная лістота спляталася над дарожкай. І крочыла па гэтай дарожцы тое, што я згубіў назаўсёды не толькі ў кашмарным сне.

— А ведаеце,— раптам узгарэлася яна,— яно б і адпавядала ўсім дадзеным, ваша сннае «вырашэнне». Сапраўды, не дакрануўся Альшанскі да зноў адбітых скарбаў, сапраўды, сам пальцам не крануў спайманых. І ён іх не забіваў, проста даў ім самім памерці. І кляцьба на Евангеллі была праўдай, хаця і казуістычнай. З вадою чалавек можа пражыць без ежы, ну...

— Два тыдні, не болей.

— Чаму? Унь адна мая знаёмая на лекавальным галаданні трыццаць дзён вытрымала.

— На лекавальным. Пад наглядам лекараў, а не ў цямніцы. Бо патрэбная не толькі вада, але і свежае паветра, і рух, і, прабачце, рэгулярныя прамыванні. Іначай арганізм атручваецца прадуктамі свайго ж распаду.

— Ну, прынамсі, маглі яшчэ жыць.

— Такая клятва ды яшчэ на Евангеллі не толькі для сярэдневяковага чалавека, яна і для сучаснага... гэта ўжо зусім без сумлення трэба быць. Нават не зверам, а нейкай выкапнёвай бязмозглай рэптыліяй. Ды пра такіх летапісы беларускія казалі, хай сабе і непрыстойна, «зусім бяссовісны, за шэлег у божым храме трахне».

— Ого, распусцілі язык. Усё ж жанчына перад вамі.

— Прабачце. Але я зараз менш за ўсё думаў пра гэта. Я і жыву ўвесь апошні час у нейкім іншым вымярэнні.

— Ну і што вы збіраецеся рабіць? — спытала яна.

— Не ведаю. Мабыць, адмоўлюся. Бо гэта страш-

на, гэтыя подступы да чагосьці невыказальнага, нібы тагасветнага... Не хачу. Псіхіка даражэйшая. Яна ў мяне адна. Занюханая, ды мая.

— Не,— задумліва сказала яна,— я на парозе разгадкі не кінула б. Хай бы мяне хоць клешчамі рвалі. Пара, можа, нейкіх кубаметраў грунту аддзяляе, а ён кіне. І, галоўнае,— я ж ведаю,— нават не паспрабавалі сістэматызаваць усё, што вам вядома. Баязлівы вы чалавек і непаслядоўны. Ды гары яна ясным гарам, псіхіка! Нашто яна дадзена чалавеку, як не на тое, каб яе паліць у выпадку патрэбы?

Мы ўжо дайшлі да шашы, амаль да прыпынку аўтобуса. Яна ішла надзьмутая і страшэнна незадаволеная. І раптам сказала:

— Слухайце, ну яшчэ пару дзён. Вось вы сёння паспрабуйце падсумаваць, падагульніць, падвесці вынікі, сістэматызаваць усё, што ведаеце вы і людзі. Або толькі здагадваецеся. А заўтра... ну і яшчэ паслязаўтра, апошні дзень, мы з вамі двох будзем капаць (так ужо і быць, дам сваім адгулы). Не будзе нічога — што ж... Ды не, павінна быць. Шукаеш — знойдзеш. «Талцыце, і адверзнецца». Урэшце вы не павінны забываць пра Мар'яна.

Гэтага яна магла і не казаць. Устрымацца. Не люблю людзей, якія б'юць пад дыхала. Але жанчыны... жанчыны, калі яны не проста балбатухі або «коцікі» з дурнымі глядзелкамі і млявай, і пусцэнькай, няспелай і проста абрыдлівай крыклівай прыгажосцю. Па такіх прападаюць мужыкі з дурных і абіраюць іх, скажам, «міс Іспанія», «міс Амерыка» ці нават «міс Свет», а яны раптам сярод самай сур'ёзнай размовы з людзьмі, аніяк не схільнымі да какецтва, раптам возьмуць ды ляпнуць: «Ваня, а мы пойдзем з табой на «Анжэліку, маркізу анёлаў»? — «Не».— «А на «Яе апошняе танга»? Або цяпне ў разгары вясны, ды яшчэ агрэсіўна: «А я хурмы хачу». Або «капусты, квашанай качанамі». З узростам гэта, праўда, часам праходзіць. А як не, то застанецца толькі здзіўляцца, як учарашняя «міс Захлюпонія», згубіўшы апошняе апраўданне для сваёй дурасці, прыгажосць, раптам ляпне ў кампаніі эрудытаў, паказваючы ім «Пакуты Хрыстовы» ў Кладзенскім касцёле: «Вось тут, бачыце, Ісус стаіць перад Понціем, а тут перад Пілатам».

Урэшце, можа, гэта я проста пачынаю старэць. І Сташка не тая. А нават калі была б тая, я нічога такога не сказаў бы пры ёй. Няма большых двурушнікаў і згоднікаў, чым аслепленыя пачуццём мужчыны.

— Добра,— сказаў я,— урэшце два-тры дні анічога не зменяць.

Да прыпынку якраз падышоў вялізны «Ікарус» з Кладна, і з яго павалілі «нашчадкі», што прыехалі ў госці і па каўбасы да «продкаў», і дачнікі, досыць такі непераносная ў масе парода людзей. Асабліва ў дзень, які афарбаваны ў цябе іпахондрыяй.

Ішлі свежаурбанізаваныя з валізкамі, часам нават дыхтавымі, і даўно урбанізаваныя з рукзакамі і сеткамі. Ішлі на апошнім дыханні, як вярблюд, адолеўшы Каракумы, дачныя мужы. І крочылі дачныя жоны ў невядома на якога чорта зробленых прычосках. Ішоў легкадумны адзінец, закідаючы на іх позіркам, і ішла мнагадзетная сям'я, што знемагала пад цяжарам сваіх клопатаў. Дый не толькі сваіх, але і чужых, бо дзяўчынка год сямі настойліва прасілася па вялікай патрэбе, а хлопчык год чатырох ішоў побач і, што горш за ўсё, ні аб чым ужо не прасіў.

— Хрэсны ход у старым мястэчку Кладзенскай губерні,— прагучаў раптам голас Хілінскага.— Процьма разявак.— І тонам клапатлівай квактухі: — Ванечка, перастань пукаць и смотри лучше, какие хоругви несут.

Убачыў, што я не адзін, заліўся чырванню і — о дзіва! — удаўся ў тлумачэнні:

— Прабачце... Але я шмат год вымушаны быў стрымлівацца і даў сабе слова, што калі будзе можна — дам сабе волю, рэкорд пастаўлю па нястрыманасці на язык.

— Нічога,— Сташка, як ні дзіўна, весела пасмейвалася, разглядаючы майго «англічаніна».

Да нас набліжаўся ўсмешлівы Адам з рукзаком і вудамі ў чахле, і — зноў дзіва! — поруч з ім Хасэ-Інэзілья Лыганоўскі, таксама з вудамі і з чамаданчыкам.

— А я не верыў,— сказаў я.— Сапраўды, нешта вялікае ў лесе здохла.

— Чаму? — сказаў псіхіятр.— Што я, не маю пра

ва пабіць лынды дзень-другі? А вось вы чаго тут аціраецеся?

— Аціраццa гэта, уласна кажучы, мая прафесія,— сказаў я.— І што я, не магу сустрэць папаўненне з такіх, як я, дзелавых гультаёў?

Пасля таго як усе пеpазнаёміліся, мы пайшлі поўнай хадою назад у сваю гавань. Ішлі ў добрым, заценeным лістотай сонцы пачатку чэрвеня, гаманілі аб розных глупствах.

Уладкаваў я Адама Хілінскага на два тыдні ды Лыганоўскага на дзень-другі у бяздзетных (ці, можа, з'ехалі кудысь дзеці?) суседзяў Рыгора Шаблыкі, і пашыбавалі мы аглядаць вёсачку і яе гістарычныя помнікі, не занесеныя, на жаль, ні ў групу О («знаходзяцца пад аховай ЮНЕСКА»), ні нават у трэцюю групу (што адпавядае, мабыць, нашым помнікам мясцовай вартасці). А чаму так — не ведаю.

Тут мяне здзівіў раптоўнай актыўнасцю пан Вітаўт Лыганоўскі:

— Гэта стаў? Добра. А рыба дзе лепей бярэ? Там? Вельмі добра. А гэта, значыць, і ёсць касцёл і вежа з «дзыгарам»? Цудоўна. Бач ты, і цыферблат двайны. Унутраны, дзе гадзіны, нерухомы, а вонкавае кальцо, месячнае, рухаецца. І унь паказвае фазы або змены непарушная стрэлка. Вой-ёй! Стары які механізм. Гэта ж, ведаеце, самы стары гадзіннік на Спаскай вежы, у Крамлі, таксама быў з рухомым цыферблатам... А тут унь твая «плябанія»? Шыкоўна... А то замак? І унь па той галерэі твае цені ходзяць?

І вочы гуляюць ад замка да касцёла, ад вежаў да гарадзішча.

Калі ён заскочыў у касцёл, паглядзець, як там, і Хілінскага за сабой пацягнуў, Сташка раптам мне сказала:

— Ну жывы які. Проста ртуць. І нешта мне здаецца, што я ўжо знаёмая з ім. Сустракаліся мы недзе... Не-не, у клініцы я ў яго не ляжала. І са знаёмых ніхто не ляжаў... Ну проста як быццам калісьці па тэлевізары бачыла або ў другараднай ролі ў нейкім больш чым другарадным фільме.

— Вось і ў мяне такое пачуццё.

Мы адышлі і селі на бярвеннях, а тут ішлі міма ды падселі да нас Альшанскі з Шаблыкам ды Змагіцелем, а пасля Высоцкі з нейкім невядомым, а потым

падкаціўся, аддзімаючы, узмакрэлы Ганчаронак.

Лыганоўскі вылецеў з касцёла нешта дужа хутка і ўстраміўся ў кампанію спрытна і лёгка. А Хілінскі выйшаў толькі хвілін праз дзесяць і падыбаў да нас назнарок павольна. І давялося з гэтай прычыны мясцовым аўтахтонам знаёміцца з новапрыбылымі двойчы.

А незнаёмы, як выявілася, быў той самы саматужны гадзіннікавы майстра і арганіст, што на аргане «Лявоніху» лупануў. А прозвішча яму было Згоннік.

— Як жа вам гэта так удалося?

— А чорт,— прысаромлена апусціў ён вочы,— нюх у мяне з дзяцінства на розную механіку. І сапсутыя яны былі не дужа. Ну і, шчыра кажучы, не на ўсё там хапіла майго нюху. Таму што гадзіннік павінен быў яшчэ паказваць вялікадні, каталіцкі і грэка-уніяцкі. А унь у той нішы, што пад цыферблатам, святыя татарскія і яўрэйскія. Нашто ім было гэта ведаць — чорт яго разбярэцца. Але, мабыць, нейкія касцельныя вылічэнні. Ну вось, тут я схібіў, не здолеў.

— Ды вам гэта нашто?

— А так. Дзеля закончанасці. Хаця й не патрэбна, але прыемна было б ведаць, калі там па-татарску байрам, а па-яўрэйску пост руйнавання храма. Каб ужо спакойным быць. Усё зрабіў і зрабіў як трэба. Не дурнейшыя і мы, чым вы былі.

Я быў прыемна ўражаны. Хораша разважаў чалавек.

А пасля яны чамусьці разгаварыліся, ён і госці, і дамовіліся назаўтра ісці разам лавіць рыбу і дзеля гэтай мэты ўстаць аж а палове трэцяй, за гадзіну да ўзыходу сонца.

— Чорт, нязручна,— сказаў Адам,— можа, у вас са Станіславай на нас нейкія планы ёсць.

Я, шчыра кажучы, узрадаваўся, што яны не будуць сведкамі апошняга дня нашых бясплодных патугаў і намаганняў, нашага бясслаўнага паражэння. І таму я схлусіў і за Сташку і за сябе:

— Ды аніколькі. У нас заўтра іншыя планы. Тут трэба да аднаго дзядзькі схадзіць ды паглядзець. У яго збераглісяя газеты і часопісы часоў акупацыі.

— Вельмі цікава,— сказаў Высоцкі.

— А пасля... ну, трэба тут курганны могільнік

адзін стары агледзець. Не дужа далёка адсюль.

— Тым лепей,— суцешыліся наваяўленыя тры мушкецёры ад рыбнай лоўлі.

І ў гэты час нашу толькі што народжаную ідылію парушыў чалавек, які ўвесь гэты час толькі і рабіў, што блытаўся ў мяне пад нагамі.

Людзвік Лапатуха наблізіўся ад вёскі і сеў на ўзгорачку метрах у дванаццаці ад нас. І адразу пачаў свой канцэрт. Толькі на гэты раз не такі поліфанічны, як заўсёды.

— Адыдзіце... Ізыдзіце... Мой дом — мая крэпасць... Звяры... Каты... Ва ўсіх вас... Усе вы тычкамі[1] мечаныя. Тычкамі вылюдкаў роду чалавечага. Нічога... Загінеце... Скора, скора і на вас час прыйдзе.

«Той?» — позіркам спытаў у мяне Лыганоўскі.

Я моўчкі схіліў галаву.

І тут псіхіятр упершыню мяне здзівіў. Першы раз у жыцці быў я сведкам таго, як па-сапраўднаму трэба размаўляць, як бясхібна трэба паступаць з разумова пашкоджанымі людзьмі.

Лыганоўскі ўстаў, цвёрда, але няспешна падышоў да Лапатухі, увесь час гледзячы яму ў вочы. І сеў крыху ніжэй, так, каб гэтыя вочы бачыць. І загаварыў нешта ціха, спакойна і разважліва. І глядзеў, глядзеў, нібы «навяваючы», як славутыя гіпнатызёры або старыя бабулі-варажбіткі, якія часам валодалі гэтым гіпнозам мала чым горш за Месінга.

Дзіўна, істэрычныя ноткі ў голасе Лапатухі зніклі; ён цяпер гаварыў таксама ціха і амаль спакойна. Іерэміяда саступіла месца спакойнай бяседзе, спакойным рухам рук лекара і хворага. І рукі гэтыя па чарзе клаліся то на калена, то на плячук партнёра.

На нашых вачах рабілася чарадзейства. Мы прыціхлі, як ашаломленыя тым дзівам, сведкамі якому былі.

А хвілін праз сорак Лапатуха ўстаў, пацісnуў лекару далонь і сказаў амаль спакойным, амаль нармальным тонам:

— З паняццем вы чалавек. З разуменнем... Але тут трэба сцерагчыся і разумным. Зямля заражоная. Я вось таксама быў неледаўчоны[2], а што я цяпер?

---

[1] Радзімка, мета, кляймо.

[2] Неледаўчоны — някепска вучоны.

Махнуў рукою і пайшоў. Не звычайнай, крыху развінчанай, а досыць цвёрдай, стрыманай паходкай. На паваротцы павярнуўся, памахаў рукою, знік.

Лыганоўскі ўздыхнуў, падышоў і сеў каля нас.

— Ну як? — спытаў я.

Лекар паціснуў плячыма, памаўчаў пару хвілін і, абводзячы нас вачыма, пачаў гаварыць:

— Не трапіў ён у мае рукі з самага пачатку. Даўно быў бы здаровы. А так адносіны з астатнімі людзьмі не зусім нармальныя, падзеі мясцовыя. Ну, але час сваё бярэ. Цалкам магчыма, што праз пэўны адрэзак часу ён зробіцца амаль нармальным чалавекам... Ва ўсякім разе, на шляху да гэтага.

— Ды што з ім такое? — спытаў Ганчаронак.

— Гісторыю яго вы ведаеце. Страшная гісторыя... Ну і ён, кажучы папулярна, каб зразумелі, узвёў вакол памяці нібы ахоўны мур. Не хоча ўспамінаць мінулае. Небяспечна. Многія людзі ў такіх выпадках начыста забываюць мінулае жыццё. Наступае так званая амнезія. Словам, калі ў такіх не аднаўляецца памяць,— лічы, усё згублена. Як правіла, забываюць нават імя. З самага пачатку было дзіўна, што гэты тое-сёе памятае... І гэта тое-сёе аднавілася ў яго прыблізна праз месяц пасля трагедыі... Але ён усвядоміў, што ён не ўсё помніць, не ўсё хоча помніць. І ў гэтым сэнсе адчуў сябе крыху раскутым: паспрабуйце вазьміце вы мяне, не зусім нармальнага, голымі рукамі.

— Але ж усякае часам помніў,— сказаў Хілінскі.

— Так. Для яго ўспамінаць — агіда і фізічны боль. І, аднак, у свядомасці, ва ўсведамленні зберагліся астраўкі і такой памяці. Унутраныя і для ўнутранага ўжывання. І, аднак, гэта не сімуляцыя вар'яцтва, прыдуркаватасці, дэзарыентацыі ў паўсядзённым вопыце... Гэтага падрабіць нельга... Нельга падрабіць, скажам, што абутак зняць не можа. Такое можа быць толькі з сапраўды псіхічнахворымі. А гэты — не. Гэты не зусім ад гэтага свету, але ясна ўсведамляе, дзе ён, і трымае сябе нармальна. З цягам часу ўсё больш і больш нармальна.

— Думаеце, можа, успомніць усё? — спытаў я.

— Многае, калі не ўсё,— сур'ёзна сказаў ён.— І гэты парог не за гарамі.

...Рассталіся досыць рана. «Госці» пайшлі са

Сташкай на Белую Гару, а я вырашыў сесці і, на развітанне з паршывай справай, падбіць вынікі. А падбіўшы тое, чаго няма, кінуць усё да д'ябла, паехаць дахаты, уручыць гэтае «няма» Шчуку і закаціцца на астатнія паўтара-два месяцы некуды на хутар. І працаваць. А можа, «дзікуном» некуды на Фарос або ў Перавознае, дзе менш людзей, а толькі мора ды голыя скалы.

Сеў, паклаў перад сабою блакнот. Пачаў запісваць, стараючыся, каб было па чарзе.

Ну і што там было на чарзе:

1) Візіт устрывожанага Мар'яна. Яго размова з нейкім чалавекам на выстаўцы. Прапанова прадаць Кнігу. (Хто быў гэты чалавек? Дагэтуль невядома.)

2) Званкі аб продажы. Уначы. Нехта ходзіць пад вокнамі. Званкі ад таго... Гутніка. Звычайны кніжны маньяк. Нават не спекулянт... Не ён хадзіў пад вокнамі. Хто — невядома. Нехта з суседзяў Мар'яна? Наўрад. Міліцыя іх напэўна правярала. Але тут замкнёнае кола. Гэта я не абавязаны маўчаць перад Шчукам пра свае таямніцы, а ён... Нехта з маіх суседзяў? Дурасць. Ніводнай адпаведнай кандыдатуры.

3) Альшаны і род Альшанскіх. Двайная здрада. Магчыма, прысвоеныя і прыхаваныя скарбы. (Род вымер. Бясследна. Дзе могуць быць скарбы? Невядома, калі не лічыць няясных намёкаў у кнізе. Фактаў гісторыі з перападам ад несамавітага багацця да досыць сярэдняй заможнасці. Ну і маіх «сноў», якія ніяк не могуць ісці ў разлік. Значыць, нікому не патрэбныя ні дакументы, ні радавыя граматы, дый такія каштоўнасці рэалізаваць у наш час — немагчыма.)

4) Зоя. Дзіўныя яе паводзіны. То адыходзіць, то прыходзіць. (Ну, гэта ясна чаму. Вырашыла сконча, ведаючы, што на «раман» я не пайду. Але шкадавала, але яе цягнула да мяне.)

5) Першая смерць. Мар'яна. Аніякіх слядоў гвалту. Слабае сэрца. (Але прадчуванні?) Але спроба невядомага (Хто?) узламаць дзверы. Але ўсыплёныя сабакі (Кім?). Але запавет, завераны ў натарыуса. (Чаму дбаў аб ім?)

6) Зашыфраванае паведамленне ў кнізе. Адзіны поспех і той пакуль без аніякіх вынікаў. (Каму быў патрэбны шыфр і расшыфроўка? Зноў жа невядома.

Нашчадкам — іх няма. Тым, што хавалі прыблізна там жа архіў, а пасля знішчалі сведкаў гэтага? Пытанне: хто хаваў? Непасрэдныя выканаўцы — хто перабіты, а хто памёр. Даручылі? А каму? Ведаў яшчэ нехта? Не ведаю нават, ці быў нехта яшчэ? Ці валодаў ён гэтымі меднымі прадметамі складанай канфігурацыі, на якія трэба было наматваць істужку, ці гэтыя прадметы былі ў розных руках? Нічога, абышліся без іх.)

7) Запіска ад мяне да Мар'яна. Падробленая маім почыркам, але на маёй паперы. (Хто мог здабыць яе? Мар'ян? Хілінскі? Трызненне сівой кабылы.)

8) Спроба ўзламаць маю кватэру. Уцёкі ўзломшчыка. (Ясна, шукаць хацелі кнігу і шыфр. Але хто ведаў пра гэта? Нябожчык Мар'ян? Хілінскі, які і кнігу і шыфр той усё адно бачыў? Лухта!)

9) Самагубства Зоі. У нечым яна прадала свайго «сапраўднага». Гэта значыць, мяне. (У чым прадала? Каму прадала? Невядома. Але гэтым, можа, і тлумачацца яе апошнія візіты.)

10) Што схавана? Стары скарб? Рэчы, нарабаваныя ведамствам Розенберга? Архіў? Вось тут магла быць разгадка. Магла, але не было. Гэтым маглі цікавіцца тры асобы, або групы асоб, або адна асоба (група) у трох іпастасях. Каштоўнасці? Гэта ясна. Дакументы? Яны цікавыя толькі неіснуючым нашчадкам ці музеям. Нейкія кампраметуючыя матар'ялы з архіва? Магчыма. Але дзеля чаго? Засцерагчыся ад небяспекі? Або, наадварот шантажыраваць імі кагосьці?

11) Чаму такая ненармальная абстаноўка ў Альшанах і Альшанцы? Спроба бурыць кавалак сцяны, сварка? Вар'яцтва (далёка не поўнае і папраўнае) Лапатухі? Быў ён сведкам знішчэння палякаў і нашых? Ці сам быў у калоне і ўцёк?

12) Што такое цені жанчыны і манаха? Нейкі разлад у псіхіцы? Калі гэта так, то чаму не адзін бачыў іх, а многія? Калі нейкая прыродная з'ява, то якая?

13) Чаму ўвесь час нейкія дзіўныя сустрэчы? З Ганчаронкам, з Лапатухам? Сочаць? Словы п'янага Вячоркі аб нейкіх страшных каменных яйках. Што азначалі яны?

14) Чаму Лапатуха крычаў пра забойцаў? Чаму

гукаў з байніцы, што замак — ягоная крэпасць? Чаго ён там вартуе? А можа, гэта сапраўды яго прыбежышча, калі хоча самоты?

15) Агеньчык у другой вежы. Шыфраваны надпіс указваў на трэцюю. (Ці ёсць у гэтым нейкая сувязь або проста хаця мікраскапічны сэнс?)

16) Мясцовыя, тутэйшыя людзі падчас нямецкай акцыі з архівам і расстрэлам. Хто яны?

17) Банды Боўбеля і Куляша, знішчаныя нашымі. (Ці магло быць, каб нехта са сведкаў акцыі быў з тых, тутэйшых, быў у бандзе і ўсё ж застаўся жывы? Тады ён як быццам адзіны «спадчыннік». Ды наўрад ці. Сумняваюся. Знішчылі тых бандзюкоў падчыстую.)

18) Мае кашмары. Можа, і сапраўды самае паветра Альшанкі атручана злачынствам, подласцю, шаленствам і ўтрапёнасцю вайны?

19) Хто тады ноччу прабіваў у вежы (маёй, трэцяй) мур і вёў са мною дуэль ліхтаром і камянямі? Лапатуха? Наўрад. А можа?

20) Хто выдаў падполле, у якім быў цяперашні ксёндз. Ці жывы ён, той? І ці не мачаў ва ўсю гэтую справу пальцы ксёндз з яго ненатуральным, фантастычным спосабам жыцця? З яго катакомбамі? З тым нечаканым штуршком мне ў спіну? Хацеў памагчы перараскочыць? Або, можа, спіхнуць?

21) Ці застаўся ў жывых нехта з тых, хто арганізоўваў «санітарную акцыю»? І дзе яны, калі засталіся? За мяжой і маюць тут рукі? Або прысутнічаюць уласнай персонай?

22) Ці мог пазнаць кагосьці з бандытаў Ганчаронак, перш чым уцёк з-пад расстрэлу? Не, пытаць не трэба. Можа, і пазнаў бы, баіцца за жыццё? Хаця па ягоных паводзінах у вайну неяк не падобна.

23) Сваякі Высоцкага ні пры чым. Адзін загінуў, як падлюга і бестыя. Другі — як герой. Адзін род, і якія розныя людзі. Паездкі ў Цёмны Бор і ў Кладна да пракуратара, такім чынам, толькі канчатковае шальмаванне аднаго і рэабілітацыя памяці другога, а да справы не датычацца.

Ну вось, дваццаць тры пытанні. Некаторыя падзяляюцца на два-тры. І ні на адно няма адказу.

Поўнае паражэнне, поўны разгром маёй логікі. і майго розуму, і майго ўмення разбірацца ў людзях. Разгром, вынікі якога я толькі што падвёў. Каб не

слова, дадзенае Станіславе, можна было б заўтра ж з'язджаць адсюль. Не з тваім, браце, розумам разбірацца ва ўсім гэтым, у чым, можа, і сэнсу няма, а ёсць толькі збег акалічнасцей. З тваім розумам, браце, толькі на печцы сядзець. Што ж, скончым з гэтым, хаця і шкада. Але што зробіш, калі тут немагчыма сабраць у адно нічым не звязаныя ніты, калі з гэтых нітоў аніякай посцілкі не сатчэш. А калі і сатчэш, то па візэрунку і падбору колераў гэта будзе посцілка, сатканая слепаватым вар'ятам.

Я выйшаў на ганак, сеў на прыступкі і безнадзейна закурыў. «Крахам скончылася ваша паездачка, сябар Косміч».

На вуліцы спыніўся цень. Відаць, углядаўся ў мой сілуэт на светлым прамакутніку дзвярэй.

— Вы, Косміч? — гэта быў голас Альшанскага.

— Ну, я.

— Лапатухі тут не было?

— Не. Што я, вартавы пры ім?

— Ды не ў тым справа. Я загадаў яму ехаць з мукой на нашу пякарню. І вось, чорт пабірай, конь да млына сам прыйшоў.

— Не ведаю, дзе ён, Нічыпар Сяргеевіч.

— Гм... Чорт... каб яго бог любіў. Зноў нейкі заскок, ці што?

Махнуў рукою і адышоў.

Над Альшанкай кацілася ўжо ноч. Ноч майго паражэння. А вясковае неба не тое што ў горадзе — нібы святкуючы гэта паражэнне, высыпала ўгору тысячы, дзесяткі тысяч зор, то ласкавых, мірглівых, а то і калючых, як ледзяных. Ззяла яно вось так і чатырыста, і трыста год назад, і сёння ззяе, і гэтак жа безуважна будзе ззяць пасля, калі пра мяне і думаць забудуць.

...Нехта бясшумна сеў побач са мною на прыступку. І не заўважыў зусім, калі падыходзіў. Проста ўжо як быў зусім блізка — нешта майнулася перад вачыма, нібыта сама ноч махнула чорным крылом.

Хілінскі сядзеў побач і размінаў цыгарэту. Н-ну й ну! Цяпер ясна, чаму ты, Адаме, з такімі талентамі дасюль не прапаў і ў будучым, дасць бог, не прападзеш.

— Вось... яшчэ парай слоў з табою перакінуцца трэба.

— Думаеш, я не заўважаю? З самай раніцы вакол мяне, як кот ля патэльні са скваркамі, ходзіш. Усё хочаш сказаць нешта і не адважваешся. Так, нібы па лісціку з капуснага качана здзіраеш, замест таго каб адразу за храпку ўзяцца.

Хочаце верце, хочаце не, а я быў страшэнна злосны. Можа, за Мар'янаву памяць, можа, за маю няўдачу, можа, за гэту манеру Шчукі вечна не казаць пра галоўнае. Толькі мяне проста душыў гнеў на гэтую палітыку замоўчвання, хаджэнне кругом ды навокала, размовы эківокамі. Гнеў. І, дзіўна, ні на каго іншага, як на Хілінскага. Мабыць, таму, што першы трапіў пад руку.

— Чортава, халерная, так яе і разгэтак, хамская манера. Нешта накшталт жарту нявыхаванага і дурнога сябра... Пасылка... Распакоўваеш. Адна папера... другая... Адна каробка... трэцяя... куча каробак. І ў апошняй, раптам, какашка. Або нешта яшчэ горш... Вяршыня іхняга гумару. А можа, і брыльянтавы пярсцёнак... разам з пальцам закатаванай прыгоннай актрысы. З пальцам, бо дабром усё такое рэдка канчаецца.

Хілінскі толькі галавою пакруціў. А я кіпеў усё болей: са злосці на няўдаліцу, самога сябе.

— І потым... мала ў каго з актрыс зараз ёсць дужа ўжо каштоўныя брыльянтавыя пярсцёнкі. Калі яны, вядома, не за лаўрэатам, дырэктарам буйнога завода або за... адміністратарам па даставанню.

— Злуяцеся? Ну-ну, — толькі й сказаў ён.

Але мяне пачало ўжо заносіць. Я казаў такое Хілінскаму. Аднаму з тых, каго я на сто працэнтаў паважаў і на сто пяцьдзесят любіў.

— У мяне быў прыяцель. Нессельродэ. Нашчадак таго ці не — не ведаю. Але бабуля ягоная была «з быўшых»,— я цадзіў атруту і ад злосці на самога сябе быў гатовы разарваць суседа па пляцоўцы на кавалкі.— Адзін час ён быў праформам і — хочаце верце, хочаце не, а плаціў яму прафсаюзныя ўзносы рабочы Пушкін... Ну, гэта справы не датычыцца. То вось, гэтая бабуля казала пра цяперашніх, што «божа, гэта ж не актрысы, гэта ж грамадзянкі». І правільна! Якія там утрыманкі, якія оргіі ў «Яра»? Гадавой маёй зарплаты не хопіць, каб пабіць усе вокны і пераламаць мэблю хаця б у «Журавінцы» (не кажучы

пра кароткі шлях адтуль у міліцыю), а тым больш не хопіць, каб паднесці, скажам, актрысе НН брыльянтавае кальe. Дый яна не возьме.

— Бурчыце? Ну-ну.

— Дый яна не возьме. У яе муж, дзеці, яна сасіскамі ў буфеце перакусвае. І гэта добра. Свінства, прынамсі, няма. Так што пярсцёнка не будзе. А будзе ў гэтай вашай апошняй каробцы абавязкова нейкая гадасць... Ну, я справа іншая. Але Шчука?! Шчука, якога глупства разгадаць не можа?! Ходзяць вакол ды навокал. А нехта дзейнічае... Пустаслоўе і няробства... Загублены час.

— Дарэмна,— сказаў Хілінскі,— я думаю, ён не губляе час. Бяда, што (пакуль) таму або тым удаецца яго апярэдзіць.

— Добра,— змрочна сказаў я,— ану, дзе ваша храпка?

— Храпку перадае вам Шчука,— нечакана суха сказаў ён,— і няма тут маёй віны, што са мной цэлы дзень цягаліся людзі, што аж да гэтай хвіліны нам з вамі не ўдалося пабыць адным. Што ж, грызі качан зараз. Герард твой загадаў доўга жыць.

— Які Герард?

— Ну твой. Пахольчык, з папяроснага.

— Якім чынам?

— Знайшлі ў зачыненым кіёску. Атруціўся.

— Трэці? Аднастайная смерць. Чым?

— Нейкая дужа моцная раслінная атрута.

— Якая?

— Пры экспертызе... Словам, некаторыя чыста раслінныя атруты нельга распазнаць. Таксама як і проціяддзя ад іх няма.

— Яшчэ што?

— Дворнік ваш, Кухарчык, у той самы дзень...

— Што?

— Чэрап праламаны нейкай тупой прыладай. Зрабілі аперацыю. Да памяці не прыходзіць. Дактары не абяцаюць, што будзе жыць... Ну, што ты будзеш рабіць?

— Я табе казаў. А ты?

— Пайду з арганістам і Лыганоўскім у рыбу. Ён хоча ехаць заўтра вечарам назад. Засумаваў нешта.

Хвілінскі падняўся на ногі.

— Так, браце, усё больш складана, чым мы думалі.

— Я вось думаў...

— Цуд-цудоўны занятак. Пастарайся не кідаць яго да самай смерці.

І пайшоў.

А я зноў папрамаваў у свой пакойчык, да свайго стала, раскрыў блакнот і дапісаў.

24) Смерць Герарда Пахольчыка. (Каму ён перашкаджаў, гэты дзівак са сваёй кіёскнай філасофіяй? Хіба што быў сведкам чагосьці? Чаго?)

25) Магчыма, смяротныя пашкоджанні чэрапа ў Кухарчыка. (Хто? За што?)

На гэтым блакнот з вынікамі майго разгрому можна было захлопнуць.

Разгрому? Ну не. Занадта тлуста будзе! Занадта гэта подлая штука — беспакаранасць! Занадта тугі клубок сплёўся з усяго гэтага: сівой даўніны і няддаўняй (для мяне) вайны з яе «санітарнымі акцыямі» над сотнямі бязвінна забітых, з даўнімі забойствамі і забойствам зусім нядаўнім, са смерцю жанчыны, якая хаця й хлусіла, але ўсё ж па-свойму кахала мяне.

І са смерцю майго друга. Лепшага з найлепшых сяброў на зямлі, вялікага і ва ўчынках, і ў пакутах чалавека.

Я павінен не толькі зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы разблытаць клубок гнілых, гноем і крывёю, хлуснёю і здрадай залітых учынкаў.

Я павінен, калі гэта толькі магчыма, адпомсціць. Так, адпомсціць, хаця ніколі не быў помслівы. Адпомсціць не толькі поўнай мерай, але й стократ.

Каб ён ці яны здрыгануліся ад жаху, перш чым сыдзе на іх апошняе Невядомае, апошняе Нішто. Бо гэта тое, што адбылося і адбываецца,— гэта ўжо занадта. Мы яшчэ пазмагаемся. Мы яшчэ павалтузімся.

Мы яшчэ паборсаемся, як адна з дзвюх жабак, што трапілі ў гарлач з малаком. Адна склала лапкі — усё адно канец — і пайшла на дно.

Але другая была — смешна сказаць — больш чалавек, чым некаторыя людзі. Бо яна змагалася нават у безнадзейнасці. І збіла лапкамі астравок з масла, маленькі плацдарм жыцця.

# Раздзел VI

*Дзе іхнія сляды, дзе твае сляды?*
*Хто знойдзе іх, хто знойдзе цябе?*

Ціхая, крыху заспаная, уся ў шэрым святле ўставала над Альшанкай раніца. Трава была ад расы — як сцюдзёным шротам нехта густа сыпануў. Я ішоў і, як у дзяцінстве, назнарок чоўгаў нагамі, каб за мною заставаўся непарыўны цёмна-зялёны след. Хаця б на хвіліну, пакуль не ўзыдзе сонца. А яно павінна было вось-вось узысці і сваім ласкавым, цёплым, яшчэ не пякучым, як у ліпені, подыхам за некалькі хвілін падабраць расу. Нібы сцерці мінучы мой след на абліччы зямным.

А і сапраўды, што ад мяне застанецца праз некалькі там год? Артыкулы, якія мала хто будзе чытаць? Пара кніг, якія пацухмоляць у руках крыху даўжэй? Кругаварот рэчыва ў прыродзе? Ну, хіба так. Але ніхто не пазнае мяне ні ў травіне на згладжаным капцы, ні ў чырвонай далоньцы кляновага ліста, што спадае на схіл гары.

Але думаць пра гэта доўга не хацелася. Ночы прыходзілі зноў у маладзіку, які таўсцеў і сталеў і вось-вось павінен быў пераўтварыцца ў поўню, каб шчодра аддаць зямлі ўсё сваё святло. Сонца аддавала гэтай зямлі дабратворную пяшчоту. Раніцай будзіў гэтае сонца жаўрук, вечарам прысыпляў салавей.

Вучоныя — тумакі, а заолагі і арнітолагі ўвогуле віславухія. Бо яны (вучоныя) адносяць іх (салаўёў) да атрада вераб'іных (праўда, падатрада спеўчых), такіх самых, як вароны, сарокі, саракапуды і іншыя такія суб'екты. Досыць дзіўна! Я ніколі не садзіў бы ў клетку салаўя, але што датычыцца вароны — і пагатоў.

...Вось так я і ішоў пад гэтым небам, што ўсё мацней кідалася ў блакіт, абяцаючы пагодны цёплы дзень.

Было яшчэ так рана, што на дарозе ад плябаніі да Белай Гары я не сустрэў душы жывой. Ніхто яшчэ нават не корпаўся ў дварах. Ніхто не адхіліў фіранкі, праводзячы мяне позіркам.

Я думаў, што мне спатрэбіцца лезці на гарадзішча,

каб разбудзіць Сташку, але, падышоўшы да падножжа задзірванелай велічы — на сваё здзіўленне,— убачыў, што яна ўжо там. Сядзіць на нейкім пацурбалку, нязручна выцягнуўшы доўгія ногі. У лёгкай стракатай сукенцы, у тонкай кофтачцы, накінутай на плечы. Чакае.

Вочы крыху абрэзаліся, відаць, ад стомы, вусны лёгка ўсміхаюцца. Ніколі яшчэ не была яна мне такая дарагая, як у гэты момант. Ніколі не была такая жаданая.

— Раніцы добрай! Як твае?

— Дрыхнулі яшчэ ўсе, аж да Генкі. А ў цябе?

— У дзесятым сне хроп Мультан. І Вячорка з ім. Не, трэба-такі ўцякаць. І там дабіраюцца.

— Усё адно заўтра ж паедзеш.

— Гэт-та я яшчэ пагляджу. Як некаторыя людзі будуць сябе весці.

— А Вячорка?

— Вячорку адшыю. Гэта ж сядзяць учора. Тут жонка Вячоркава прыплялася. «Ну, выпілі. Джгнулі»,— кажа дзед. «Частае тваё джганне,— кажа Вячоркава,— каб не зашкодзіла часам». Тады Зеляпушчанак толькі рукою махнуў: «Слухай ты рапуху гэтую, мала што яна верашчыць».

— Ну а вы што на гэта?

— А я сабе сяджу ды думаю: «Вось гэта сапраўды мужчынскія адносіны да жанчыны. Не хто-небудзь. Пан і валадар».

— Т-так, мужыкі тут сур'ёзныя. Дзіва — волаты.

Мы спусціліся на дно майго раскопу ў трэцяй вежы. Шэсць плоскасцей, шэсць кутоў. Столь, падлога другога яруса, часткова абвалілася, як і частка ўнутранай абліцоўкі муроў.

Вежы шасцікутовыя,
Звонку — шасцікантовыя.

Я памурлыкаў гэта сабе пад нос, але яна пачула, пакасілася на мяне.

— «Поэзия есть бог в святых мечтах земли»,— працытавала яна кагосьці.

— Гэта яшчэ што,— у тон ёй сказаў я.— Тут часам людзі з Алімпа, мэтры з устойлівай рэпутацыяй, неўміручыя такія шэдэўры выдаюць, што пачатко-

цам-паэтам і не снілася. Напрыклад, нехта там узрасціў...

Лён рэкордны ля Валожына
І за тое ўзнагароджаны.

Не верыце? Сам чытаў. А памер верша такі, нібы рэкордны лён узрасціць, усё адно як «Калінку» адбацаць. Даюць браткі.

— Ну, дурасць — прывілегія не толькі братак. Ведаеце гэтыя помнікі вайне: стаіць на адным калене гіпсавы салдат, пафарбаваны «срэбнай» фарбай з алюмінію? Адной экспедыцыі іх трэба было апісваць, у якой вёсцы і на якім раздарожжы які. А яны аднолькавыя, дзе тут разнастайных варыянтаў апісання дабіцца. То яны адзін прыдумалі:

Солдат обыкновенный,
Коленопреклоненный,
Проект типовой —
Со склоненной головой.

— І сапраўды, лепей бы проста камень з надпісам, чым гэтыя «тыпавыя».

Яна агледзела месца нашага «глыбокага бурэння»:

— Ну досыць зубаскаліць. Пачнем.

Под вежы быў завалены, па ўсім відаць, ужо нятоўстым пластам друзу, абабітай атынкоўкі і смецця, і ў пласце гэтым стаялі «на папа» (адна крыху наўскос) тры гранітныя пліты. Адна, відавочна, з абліцоўкі, дзве — са столі.

— Мы іх не зварухнем,— сказала яна.

Сапраўды, пліты былі прыблізна паўтара метра на метр з чвэрцю. І шырынёю сантыметраў на шэсцьдзесят.

— Не зрушым,— паўтарыла яна.— Збегаць па хлопцаў, ці што?

— А прыярытэт? — няўдала паспрабаваў я адбіцца жартам.— Не, мы проста іх чапаць не будзем. Выграбем смецце ды нават проста адграбем яго ад сценак. Бо люк у сутарэнне, відаць, недзе пасярэдзіне. Калі пліты на ім — нічога не зробіш, давядзецца паклікаць дапамогу. А не — яны нам не перашкодзяць, тыя пліты.

Гадзіны паўтары мы ўпарта працавалі. Яна насыпала жалезняком у дзіравыя вёдры смецце і друз,

а я адносіў усё гэта і высыпаў пад сценкі. Пасля мне здалося, што ўсё гэта марудна. Я ўзяў другую рыдлёўку і пачаў проста адкідаць з цэнтра пляцоўкі атынкоўку, уламкі цаглін, пыл і ўсё такое.

І вось недзе ў канцы другой гадзіны мой жалязняк скрыгануў па нечым суцэльным. Раз, і другі, і трэці.

...Атвор. Ну не адкрыты атвор. Проста квадратная адтуліна, і на ёй, амаль поўнасцю прыкрываючы яе, тоўстая пліта з гладкага, па выгляду ледзь не адшліфаванага пясчаніку. А на пліце крыж з чатырма закругленымі лопасцямі, а ў лопасцях па незразумелай (бо зямлёю забітай) літары. А на скрыжаванні лопасцей стары шасціканечны ярылаў крыж пад «дашкам» як на старажытных могілках. На стараверскіх «галубцах».

Тут бы лом, але куды там бегчы па яго. Нецярплівасць забівае нават подых: мы дыхаем коратка і сіпата.

Прасоўваем у шчыліну лапаты. Націснулі. Дзяржак Сташчынага жалезняка крыху прагнуўся.

Але тут я, налягаючы грудзьмі на дзяржак рыдлёўкі, прасунуў рукі ў гэтую трэшчыну і перакуліў пліту на сябе, назад, пад шырока расстаўленыя ногі.

Адкрыўся люк. Цёмная прорва. Я чыркнуў запалкай і «стрэліў» ёю ўніз (так яна даўжэй не згарае, чым калі яе проста ўраніць). Скляпенняў і сцен яна не вырвала з цемры. Затое на момант асвятліла нешырокія і вельмі стромыя сходы з чырвонай цэглы.

— Ну вось,— сказаў я.— Цяпер можна і па хлопцаў, і па дзевак.

— А прыярытэт? — перадражніла яна мяне.

Я плюнуў. Гэта праўду кажуць не толькі пра Польшчу, але і пра нашы заходнія вобласці, што на ўсе тыя землі ўвесь адпушчаны богам розум — камар прынёс. Адзін. Дый той розум мясцовыя бабы расхапалі.

З гэтымі не паспрачаешся. Я з уласнай жыццёвай практыкі ведаў гэта.

Таму дастаў свечку (дзве іншыя былі ў кішэні), скінуў куртку і ступіў на першую прыступку.

— Заставайцеся тут.

— Гэта яшчэ чаму? — здзівілася яна.

— А вы пра «эфект сабачай пячоры» ў Італіі чулі?

— Якой пячоры?

— А ёсць там пячора-яма. Чалавек зойдзе і ходзіць, і нічога. А сабака ці трусік падыхаюць праз некалькі хвілін.

— Чаму гэта?

— З вулканічнай трэшчыны выдзяляецца вуглякіслы газ. Сочыцца патроху. Ну а паколькі ён цяжэйшы за паветра, то застаецца ўнізе. Чалавечая галава вышэй гэтай зоны. Сабачая — не.

— Самі казалі — вышэй. Мы ж на чатырох хадзіць не будзем. І потым, там вулкан...

— А тут маглі быць трупы. І ніякай, нават мінімальнай вентыляцыі. І слой газу можа быць вышэйшы. І тады ўжо будуць гаварыць пра «эфект чалавечай пячоры на Беларусі». Толькі гаварыць будуць іншыя, не мы. А нам застанецца слава першапраходцаў. Пасмяротная.

Але яна ўжо таксама стаяла на прыступках, нагіналася:

— Ды не, нармальнае паветра. Затхлым не пахне.

— Ад затхлага паветра ніхто яшчэ не паміраў. Ну, можа, некаторыя.

— То што?

— А тое, што вуглякіслы газ затхласцю не пахне... Калі хочаце, ён адзіным пахне. Смерцю.

— Па-мойму, вуглякіслы газ гэта не зусім тое, што вокіс вугляроду. Ён — вугальны ангідрыд.

— Божа, да чаго ж вы вучоныя! $CO$ ці $CO_2$ — вам гэта будзе ўсё роўна... Мабыць. Бо хімік з мяне такі, як і...

Я спускаўся, і яна спускалася за мною. І я ўжо плюнуў на ўсё. Хай сабе лезе, гадасць такая. Асвятляў толькі прыступкі спачатку сабе, а пасля ў яе пад нагамі, каб часам не капанула носам у цэглу.

І ўсё ж на апошніх прыступках яна аступілася, і я, стоячы на роўнай падлозе, ледзь паспеў падхапіць яе.

Страшэнна я злаваўся на яе, што лезе туды, дзе не просяць (хаця тут было больш бяспечна, чым у нашых старажытных шахтах па здабычы крэменю. Пад Ваўкавыскам. А яна гэты канец неаліту на ўласным жываце ўвесь выпаўзала).

І ўсё ж я не мог устрымацца:

— Пайшлі. Гонару ў вас зашмат. А на справе «кабы мы не поднялись да не встали, так вы бы поганую землю носом копали».

— А гэта што за дыяменты прыгожага пісьменства?

— А гэта калі масквіч выхваляецца і з ніжагародца кпіць, то тыя яму вось так адказваюць. Мініна ўспамінаюць.

— Ну добра, добра,— відаць, сумелася яна.— Свяціце вакол... Мінін.

Я ўзняў свечку і пачаў вадзіць ёю вакол.

Гэта была абсалютна пустая — камера не камера, склеп не склеп, падвал не падвал. Сутарэнне? Памяшканне, каб у ім нешта змяшчалася? Але тут не змяшчалася нічога. Пуста, як у студэнцкай кішэні напярэдадні стыпендыі (я, вядома, маю на ўвазе тыповага, сапраўднага, стопрацэнтнага студэнта).

Падлога з вялізных каменных плітаў. Муры і скляпенне нібы слаёныя з тоўстых пластоў дзікага каменю і вузейшых палосаў цэглы.

Па форме — падоўжаны эліпсоід вярчэння (усярэдзіне яго мы і знаходзіліся) з усечаным ніжнім канцом. Ну, а прасцей — яйка, якое аблупілі, зрэзалі адзін канец і на гэты канец паставілі. Метраў чатырнаццаць у акружнасці, метры тры з паловаю — у вышыню.

Толькі ў адным месцы (метра паўтара над зямлёй) нейкая цёмная пляма памерам са сшытак. Атвор? Проста так не разгледзіш. Падставіць бы нешта. А што? Спіну Сташкі? Яшчэ чаго не хапала, каб трымала на спіне мой «ледзь не цэнтнер». Падставіць ёй сваю спіну? Яшчэ лепей. «А я ў гэтага доктара на спіне стаяла ды прыскоквала». Урэшце глупства. Падстаўлю, як трэба.

І унь, вышэй, амаль пад скляпеннем, яшчэ адна пляма.

Ясна, рабіць тут няма чаго.

— Ну што ж,— сказаў я,— ставайце мне на спіну, вось вам свечка. Зірніце, што там за такое цямнее, і вэк адсюль. Як бачыце, мы памыляліся. Праўдзівей, я памыляўся.

Расчараванне на яе абліччы было такое, што шкада глядзець.

— Можа, абстукаць падлогу? Муры.

— Дарэмна. Відаць адразу. Будоўля-векаўшчына.

Я стараўся не глядзець у яе бок. І вельмі шкада. Мог бы глядзець і не глядзець, бо ўсё ўжо было ўсё роўна.

Я пачуў нейкі шолах зверху. Пасля з гары праз люк папоўз, звіваючыся, як пітон, тоўсты, шэры, нейкі абрыдліва жывы струмень друзу, атынкоўкі і пяску.

— Плыве! — гаркнуў я і кінуўся да сходаў, цягнучы за сабою Сташку.

У гэты момант уверсе нешта тупа і цяжка гакнула, скалануўшы муры і прыкрыўшы амаль усё дзённае святло, што сяк-так тачылася ў люк.

Нібы ў адказ на гэта, струменьчык бітай цэглы, пяску, друзу, нейкіх трэсак ператварыўся у струмяніска таўшчынёю ў стаўбур сярэдняй велічыні дрэва.

Я быў ужо ў ім, але сходы ператварыліся ў суцэльны шуметнік, у якім не маглі знайсці апоры ногі. Мне запарушыла аблічча, рукавы былі поўныя пяску.

Зноў цяжка гупнула. Застаўся толькі вузкі, як лязо, праменьчык святла, і ў гэтым святле я заўважыў, як слізнула па паверхні пылавой плыні шкло, досыць вялікі кавалак. Добра, што не ў галаву.

А пасля ахнула нешта ўбаку і праменьчык знік, і, нібы ў адказ на гэтае староннее страсенне, ад якога здрыганулася, здаецца, сама зямля, нешта зноў, у трэці раз, ляснула над галавой, подзьмухам паветра згасіўшы язычок агню.

— Што там?! — крыкнуў голас унізе.

— Абвал! Пліты рухнулі на лаз.

Я споўз уніз, па калені ў гэтай восыпі з featured рознага паскудства.

— Дзе вы там?

— Тут я.

— Ідзіце на голас... Я тут... Бліжэй... Бліжэй... Ага.

Мы сутыкнуліся. Пасля нашы рукі знайшлі адна адну.

— І нічога нельга зрабіць?

— Наўрад. Метр з чвэрцю на метр і на шэсцьдзесят сантыметраў... Гэта... гэта... калі я не памыляюся... кожная пліта ноль цэлых шэсць дзесятых куба. Удзельнай вагі граніту я не памятаю. Але паспрабуем уявіць сабе слуп метр на метр і вышы-

нёю... А, напэўна-такі я памылюся. Але такой вагі мне не ўзяць. Чуеце?

Зверху пачуўся шоргат, лёгкае ракатанне, шолах.

— А гэта што?

— А гэта сплывае на пліты жвір. Які мы так легкаважна адкідалі «крыху ўбок»... І нават ніякага рычага. Хоць бы нейкі падважнік — можна было б паспрабаваць. Не.

— То што будзем рабіць? — спытаў ціхі голас.

— Пачакайце. Трэба запаліць свечку, каб агледзецца. Без агню зусім каюк.

Я паляпаў сябе па кішэнях і адчуў ледзяны холад у пазваночніку.

— Ч-чорт! Халера на маю галаву!

— Чаго гэта вы?

— Запалкі засталіся наверсе. У пінжаку.

— Та-ак.

— Так. Вясёлая перспектыва.

— То што рабіць?

— Сядзець. Чакаць. І думаць.

— Над чым?

— Над тым, што кожная пліта ноль цэлых шэсць дзесятых куба. Калі больш дакладна, дык нават ноль цэлых шэсцьдзесят дзевяць сотых куба... Я ўспомніў, вага граніту ад трох да сямі тон куб. Залежна ад тугасці... «от плотности», як казаў наш маёр.

— Значыць?

— Памножце гэта на тры. То вось, нават у шчаслівым выпадку гэтая завала, гэтая бандура важыць шэсць тон. Мы не здолеем нават на таўшчыню воласа скрануць пліты з месца.

— Значыцца, нам могуць дапамагчы толькі звонку?

— Так. І патрэбна тэхніка. Ім будзе патрэбна тэхніка. Бо нам яна тут без патрэбы.

— Што ж,— сказала яна,— будзем глядзець праўдзе ў вочы. Дапамогі звонку таксама не будзе.

— Чаму? — І тут я здагадаўся.

— Мы пайшлі, калі і вашы і мае спалі. Ніхто не бачыў нас. Мы не папярэдзілі ні аб чым ні дзяцей, ні калег, ні вашых гаспадароў. Мала таго, мы навялі на няпраўдзівы, фальшывы след нават Хілінскага з Лыганоўскім. Курганны могільнік невядома дзе, пятае, дзесятае. Нас можна шукаць у лесе, па ўсім раёне,

абы не тут... І нават след на расе: «Узыдзе сонца — расу высушыць».

— І ўсё ж мне падазроны гэты завал. Пліты стаялі моцна. Я спрабаваў гайдануць. Не варухнулася ніводная.

— Што ж вы думаеце?

—Думаю, чарговая спроба пазбавіцца, чарговы замах на тых, хто шмат ведае.

— Што ж — чакаць... Вы казалі, без ежы...

— Я казаў, колькі дзён можа пражыць чалавек без ежы. Але я не казаў, колькі ён можа пражыць без вады. Вады ў нас няма. Нават капяжу са скляпення.

А сам падумаў: «Дні тры».

Рукі мае ўсё яшчэ шукалі ў кішэнях тое, чаго там не магло быць. Насавік, сцізорык, цыгарэты (без запалак), шарыкавы аловак. І раптам у самым краёчку правай кішэні, ледзь не напалову пад падкладкай намацалі нейкі тонкі і нават навобмацак уратавальны кшталт. Не хацелася спачатку верыць.

— Сташка, запалка!

— Ну і што? Запалка без пачка.

— Дурнічка, калі толькі...

Я ліхаманкава думаў, сціскаючы ў пальцах каштоўнасць, роўнай якой не было.

Можна, можна было здабыць агонь і без пачка. Як?

Ну, па-першае, сагнуць нагу і калі нагавіцы аблягуць, туга нацягнуцца, чыркнуць запалкай па кульшы.

Можна. Але я не ведаў, ці чыста суконныя мае порткі (тады — агонь!), ці з прымессю, хай нязначнай, нейкай сінтэтычнай дрэні.

Шурпаты мур? Але ці досыць дробназярністы і ці дастаткова сухі?

— Ага... Сташка, дзе твая рука? На, трымай. І крый цябе божа выраніць і згубіць.

— Што ты хочаш рабіць?

— Чакай.

Я ўспомніў праяву, якая слізганула па пыле, па струмені друзу ў апошнім праменьчыку святла, што прабівалася тады з атвора.

Кавалак шкла!

Я папоўз да абвалу, да шуметніка пад ім (дзякуй

богу, што я не адышоў ад яго далёка) і, трапіўшы ў смецце, рукамі пачаў сантыметр за сантыметрам абмацваць яго, нават крыху перакопваць.

Справа была амаль безнадзейная. Шкло магло адкінуць далёка ўбок, засыпаць. Але я мацаў і мацаў у поўнай цемры так упарта, нібы гэта была апошняя наша надзея. Хаця што нам магло даць тое шкло? Магчыма, адну-адзіную няўдалую спробу. А што магло даць нам святло, нават калі б мы здабылі яго?

Але я шнарыў, мацаў, шныпарыў, ледзь не нюхаў гэтыя адкіды. І вось... вось... не, не яно... вось. Яно... яно, чорт мяне і ўсіх пабірай.

— Сташка.

— Я тут... Паўзі... Сюды... Сюды... Што ты знайшоў?

Я прыклаў шкло да шчакі — дзякуй богу, сухое. Ані кроплі вільгаці на ім, ляжала, відаць, у пяску.

— Давай запалку.

Я асцярожна вадзіў ёю па валасах, на шчасце, таксама сухіх. Сухія валасы лепшыя за самую лепшую прамакашку.

— Трымай свечку... Так. Тут трымай. І крый цябе божа нават дыхаць.

З сілаю прыціснуўшы пальцам галоўку, я моцна і хутка чыркануў ёю па шкле. Раз... Другі... Трэці...

Зашыпела.

І вось на кончыку запалкі расцвіла цудоўная, сіняя ўнізе, аранжавая вышэй і жоўтая на канцы, чарадзейна жывая кветка.

Успыхнуў фіціль свечкі.

Новымі вачыма глядзеў я на нашу турму, на перамежныя палосы каменю й цэглы, на конус смецця, які засыпаў сходы. Уторкнуў у гэтае смецце свечку і паклаў побач астатнія дзве.

— Хопіць ненадоўга,— сказаў я,— бо давядзецца прыпальваць адну ад другой.

— Мы не ведаем,— сказала яна,— ці можам мы сабе дазволіць нават такую раскошу? Ці хопіць у нас у гэтай пастцы паветра? А вы яшчэ закурылі, Антон.

— Таму і закурыў. Бачыце, дымок цягнецца да той цёмнай плямы ўнізе і да той, што вышэй. Тут ёсць цяга, ёсць паветра. Прынамсі, мы не задыхнемся. І я паспрабую зрабіць трут. Няхай сабе не з драўлянай губы. Няхай сабе нават з уласных портак.

Я глыбока зацягнуўся і даслаў чарговы струмень дыму. І зноў яго пацягнула да цёмнай плямы ў муры.

Атвор. І цяга. Моцная цяга.

— І ўсё ж, у чым справа, што ўсё гэта так нечакана абурылася? — задуменна сказала яна.

— А тут і не дакапаешся. Можа, той падбураны мур рухнуў і ўдар аддаўся сюды... А можа, і хутчэй за ўсё, нехта сачыў за намі. Нехта пастараўся нас тут замураваць. А разам з намі замураваць і сваё мінулае.

— Ды тут нічога няма. Якое мінулае? Дзе?

Я якраз канчаў абстукваць каменем падлогу.

— Так. Ніякага другога падзямелля пад гэтым няма. Значыць, мы не там шукалі. Значыць, трэба шукаць у другім месцы.

— Шукаць? Вы ж збіраліся кінуць?

— Дудкі,— сказаў я.— Цяпер ужо дудкі. Знайду.

— Вы спачатку выберыцеся адсюль.

— Выйду. Не ведаю як, але выберуся. Праз мур прайду, а буду там. У зямлю зарыюцца — і адтуль іх дастану. Разам і з мінулым, і з сучасным, і з будучыняй, якой у іх — я пастараюся ўжо — не будзе.

Гэтыя простыя словы як нешта раптам зварухнулі ўва мне. Гаварыў я іх больш падсвядома, чым думаючы над іх сэнсам.

Чаму я быў упэўнены, што нас завалілі? Па-першае, страсенне ад нейкага там абвалу не магло зваліць пліты. Трэба было прыкласці да іх яшчэ і нейкае механічнае намаганне, каб яны абурыліся. Па-другое, жвір мы адкідалі ўсё ж досыць далёка. Не мог ён так лёгка пачаць сыпацца спачатку між пліт, а пасля на іх, хаваючы нас. Тут ясна што было? Тут было нешта накшталт разважання ў старажытным усходнім гімне, прыведзеным, здаецца, у кніжцы «Душа аднаго народа» нейкага англійскага афіцэра Фільдзінга. Кніжка расказвала пра Бірму, і было ёй каля ста год. Як яно было сказана?

> Дзе іх сляды, дзе твае сляды?
> Хто знойдзе іх і хто знойдзе цябе?

Так, здаецца, я чытаў гэта там. Сто супраць аднаго, што гэты «абвальшчык» і «сапраўднага» Фільдзінга

не чытаў. Але разважаць ён павінен быў прыблізна так.

І што гэта так уразіла мяне ва ўласных словах, што я «дастану іх, хаця і ў зямлю зарыюцца. Разам з мінулым і сучасным»?

Падзеі, словы, факты, чуткі нібы толькі што былі жменяй рознакаляровых шкельцаў, а цяпер, быццам змешчаныя ў нейкі чароўны калейдаскоп, які стаў павольна паварочвацца, паступова пачалі складацца ў геаметрычны візэрунак, у якім былі і сіметрыя, і нават сякі-такі парадак.

Слядоў — я зноў прайшоўся па нашай турме — не было, акрамя маіх. На жаль, я не паглядзеў, спускаючыся, ці былі яны на прыступках. Калі былі — значыць, тыя, крыху спусціўшыся па сходах, самога сутарэння дакладна не разглядалі і маглі не заўважыць атвораў, праз якія прыходзіла да нас паветра.

Па іхняму разліку, мы не павінны былі памерці ад смагі на нейкі там трэці ці чацвёрты дзень. Мы павінны былі памерці ад задухі праз нейкія пару гадзін. Яны не хацелі рызыкаваць. Некалькі дзён — гэта зашмат. Катастрофа, пару гадзін і ўдушэнне — вось гэта быў «вярняк».

Халодная ярасць ахапіла мяне. Гінуць праз нейкую сваалоту? Н-не-е, гэта ўжо занадта. А калейдаскоп працаваў і працаваў, і шкельцы з ціхім ляскам займалі свае месца.

Усе. Прынамсі, многія. Аж да слоў пра «страшныя яйкі», якія казалі над п'яным Вячоркам тыя, невядомыя. Мае, і Сташкі, і ўсіх нас ворагі.

Варта было зірнуць на яйкападобную форму сутарэння. А ці яно адно такое тут?

Так, калейдаскоп складаўся. Толькі хто? Хто будзе зараз ведаць з жывых, што ён склаўся ў маёй галаве ў нешта лагічнае, той калейдаскоп?

Ніхто.

Я ўзяў свечку і пайшоў да атвора. Язычок агню ўсё больш і больш адцягвала ў той бок. Значыць, паветра аднекуль і паступала. Можа, пліты не так ужо і шчыльна завалілі люк.

Адставіўшы руку са свечкай, я пачаў мацаць кладку. Так, у ёй сапраўды быў атвор з іржавымі крыжападобнымі кратамі.

— На, Сташка,— я падаў ёй свечку.— Трымай крыху ў баку ад цягі.

Вызваліўшы правую руку, я падскочыў, ухапіўся за краты і пачаў разгойдваць іх (ці, можа, гайдацца на іх?).

Глупства гэта ўсё было. Нават выламай я пражавелае жалеза, хто б пралез у дзірку памерам дваццаць на дваццаць пяць сантыметраў? Але я не здатны быў разважаць лагічна ні аб чым, акрамя майго «калейдаскопа». І я гайдаўся, гайдаўся, то падцягваўся да кратаў на руках, то адхіляўся, з сілаю распрамляючы сагнутыя ногі, якімі ўпіраўся ў мур.

Здалося мне ці не, але ў пэўны момант мне ўявілася, што краты і ніжні камень кладкі сапраўды крыху ходзяць, як хісткі зуб.

Я саскочыў крыху адпачыць і тут убачыў, што ад вертыкальнай перакладзіны кратаў віецца, бяжыць у камені вузкая трэшчынка.

І тут я зразумеў, што я зрабіў правільна, пачаўшы гэтыя «экзамены на малпу». Так яны і ўмуроўваліся ў свой час, краты ў каменную кладку: мінімум два камені кладкі былі падвойныя або з моцнымі выемкамі.

Два канцы «крыжа» ўваходзілі ў выемкі, а два другія проста ўсоўваліся ў праёмы, а пасля гэтыя праёмы запаўняліся моцнай цамянкай. Цамянка не вытрымала.

Я зноў павіс на кратах. Доўжылася гэта цэлае стагоддзе. Ва ўсякім разе, першая свечка ўжо дагарэла і Сташка запаліла другую.

Першы камень выпаў знізу... Другі, зараза, трымаўся, як быццам у яго былі карані. Тысячы каранёў. Але ўрэшце ляснуўся мне пад ногі і ён.

Камень на камень.

— Ставайце, Сташка. Я вас падыму і, прабачце, прасуну нагамі наперад.

Першы і апошні раз я трымаў яе на руках. Убаку гарэла ўторкнутая ў смецце перадапошняя наша свечка. Адчуваў праз сукенку цеплыню і круглявасць яе ног. Пасля, калі яны зніклі ў атворы, цвёрдую акругласць грудзей.

А ля вачэй маіх у паўзмроку былі яе вочы, і пасмачка яе валасоў казытала мне скронь.

— Сталі?

— Здаецца, усталявалася,— шэптам адказала яна.

Я пайшоў па агонь, узяў гэтае, жывое, у руку і рушыў да атвора. І раптам пачуў прыглушаны крык жаху. Азірнуўся. Завал уверсе за маёй спінаю пагрозліва прагінаўся. І тады я кінуўся бегма, сунуў святло ў яе руку:

— Адступіцеся.

Пэўна, так скачуць цераз вогненнае кола львы ў цырку. Ва ўсякім разе, я атвор амаль праляцеў, прызямліўся на чацвярэнькі, і... цэлае мора полымя ахапіла маю галаву, рассыпаўшыся пасля вогненна-зялёнымі іскрамі.

— Жывы?

— Жывы. Руку, здаецца, крыху падвярнуў.

Мы, як згаварыўшыся, глянулі ў пралом і жахнуліся. Ніжняя пліта вісела адным краем. Відаць, на дзвюх верхніх, што сціскалі яе. Ненадзейна сціскалі. Дастаткова было кінуць у яе каменем — ды што там,— нават проста, здавалася, кашлянуць і ці крыкнуць, і ўсё гэта рынула бы ўніз, мезджачы і расціскаючы ўсё жывое. Шлях назад быў адрэзаны. І нават калі б мы назнарок выклікалі гэтую лавіну — невядома, ці не засыпала б яна той пралом, праз які мы трапілі сюды. А куды трапілі? Мы абышлі вакол дакладна такое самае сутарэнне, такое ж «страшнае яйка», толькі што глухое і з моцна разбуранымі сходамі. І ніякага выхаду. Не, такі самы атвор, толькі ўдвая меншы і без кратаў. І значыць, пашырыць яго аніяк нельга было.

І яшчэ, слабая надзея, акенца ўгары, памерам з далонь. Праўда, гэтае акенца не было цёмнае. Гэта была слабая пляма святла, дзённага святла, якое падала аднекуль з вышыні і асвятляла нават нейкую, вартую жалю былку, што расла, відаць, на дне нейкай студні ці проста ямы, куды і выходзіла аддушына.

Знясіленыя, мы селі проста на пліты і, шчыра кажучы, палі духам настолькі, што звесілі галовы. Гэта было ўжо сапраўды ўсё.

Сапраўды, слабым суцяшэннем было тое, што яны, калі яны былі, не ведалі пра існаванне суседніх камер і што таму мы не задыхнуліся і не былі мёртвыя ўжо, схаваныя абвалам.

Наша ўдача азначала толькі больш павольную

смерць. І калі мае кашмары неслі ў сабе хаця зерне праўды — ну што ж, у таго, што было пахавана тут рознымі людзьмі, будзе цяпер чатыры вартаўнікі.

— Нічога, нічога, Сташка,— сказаў я.— Ну кінь, кінь. Усё яшчэ будзе не так дрэнна. Мы прыдумаем нешта, каб выбрацца. Мы, урэшце, спалім на апошняй свечцы нешта з адзення. Няўжо не знойдуць хаця па струменьчыку дыму? Ды знойдуць, знойдуць.

— Не суцяшайце мяне,— ціха сказала яна.— Тут сотні жыццяў, могуць быць сотні дымоў з комінаў. Хто зверне на іх увагу?.. Не, трэба глядзець праўдзе ў вочы. Гэта — канец.

Плечы яе закалаціліся. Мне здалося, што яна плача, што ўвогуле ўся яе маленькая постаць ёсць жывое ўвасабленне адчаю.

— Не плач,— сказаў я і пагладзіў яе па галаве. Па гэтых цудоўных валасах колеру чырвонага дрэва з золатам, якія ніхто на свеце — а я першы — не наважыўся б назваць рыжымі. Ды яны й не былі такія.

— Я не плачу,— нечакана цвёрдым і нават сухім, можа, ад безнадзейнасці, голасам сказала яна.— Мне крыўдна іншае.

— Што?

— Цяпер ужо можна сказаць. Бо ўсё адно нічога не зменіцца.

— Што такое? — аднымі вуснамі спытаў я.

— Мне крыўдна, што ты не заўважыў. Не заўважыў, што я ледзь не з самага пачатку кахаю цябе...

— Кінь,— сказаў я.— Гэта я, гэта я не хацеў, каб ты заўважыла. Я пражыў больш за цябе так многа, так бессаромна многа, што не маю права...

— Ты на ўсё меў права... Я вельмі, вельмі кахаю цябе. І мне ўсё адно што ты не ведаў,— цяпер ведаеш. І мне ўсё адно што мы тут і не выйдзем адсюль. Бо гэта мы тут. Ты і я. І іншых у нас, нават калі б здарылася непапраўнае і я перастала б так кахаць цябе, як кахала, ужо не будзе. Не думай. Я шчаслівая гэтым.

— І я шчаслівы, што дапамагло гора, што я пачуў гэта. Бо я ніколі б не наважыўся сказаць табе... Хаця я жадаў бы, каб ты жыла доўга-доўга, пакуль існуе гэты кляты, гэты благаславёны свет. А больш за ўсё на свеце хацеў бы, каб ты жыла. Я дужа, дужа кахаю цябе. І мне лёгка зараз прызнацца ў гэтым.

Яна прысунулася да мяне і паклала галаву мне на калені.

— Я дужа... я ўсё б аддала за цябе. Праўда. Праўда, бо лёс паставіў нас перад немагчымасцю хлусіць. Ані ў адным слове.

— Я і так ніколі не хлусіў бы табе. Гэтым цяжкім валасам, марскім вачам, гэтым веям немагчыма было б хлусіць. Дзякуй табе за ўсё. Будзь блаславёная.

І так мы сядзелі ў палоне неразрыўных, злітых у адно апошніх абдоймаў, чакаючы апошняга выйсця.

А іншага нам дадзена не было.

Прайшлі хвіліны, можа, гадзіны, а можа, і стагоддзі. Мы баяліся паварухнуцца. Мы жылі перапоўненым, вышэйшым жыццём. Таму што проста ўжо не жылі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ўскінуў галаву. Мне здалося, што пачуў крык. Дзіцячы? Або крык дарослага, прыглушаны каменнай тоўшчай?

Крык гэты нібыта блукаў, гучаў то бліжэй, то далей, то зусім знікаў, то біўся ў нейкіх блытаных лабірынтах. Дуднеў, як з-пад зямлі, і раптам далятаў так ясна, нібы з некалькіх метраў пад адкрытым небам.

— Сташка, чуеш?

Мабыць, яна не чула. Мабыць, яна спала ці проста знаходзілася ў прастрацыі.

— Дзядзька! — як камарыны спеў, гучаў аднекуль голас.

І тут жа нібы выбухаў у павуцінні катакомбаў:

— Я зараз!

І зноў, як праз вату:

— Зараз.

Што гэта было? Галюцынацыі? Так хутка? А ўрэшце, чаго і чакаць ад гэтага кавалка зямлі, спрадвеку атручанага нянавісцю, вераломствам, подласцю, смяротным жахам і самой смерцю.

Апошняя свечка ўжо напалову згарэла. Паблекнула плямка святла ў атворы. Нічога. Цяпер ужо скора. Шэры, чорны камень вакол, камень здрады і забойства вып'е нас.

Мне здалося, што мы тут не адны, што нечы невядомы позірк спынены на нас. Я прыўзняў галаву, стараючыся не паварухнуцца, не патрывожыць дзявочай галавы на маіх каленях...

...З атвора, перасечанага крыж-накрыж кратамі, глядзеў на мяне чалавечы твар. Глядзеў з уважлівай і, можа, мне здалося, нядобрай пільнасцю. Блішчалі вочы, вялікія-вялікія ў цёмных правалах вачніцаў. Колер скуры ад святла свечкі там, за мурам, быў пергаментна-жоўты, мёртвы. І на тонкіх, заўсёды такіх прыемна-з'едлівых, лісіных вуснах была халодная, зларадна-здзеклівая, абыякава-вывучаючая ўсмешка.

Ксёндз Леанард.

Глядзеў і толькі што не зламоўна, але затое зласесна, як крумкач патопу[1], калі гэты патоп пачаў спадаць, адкрываючы вачам Ноевым і яго, крумкачыным, трупы дапатопных людзей і звяроў.

Гукнуць яго? Я не наважыўся. Горш за ўсё была б гэтая апошняя мая памылка: убачыць, як усміхнецца, і адыдзе, і знікне апошняя пляма святла, апошняя надзея на нешта.

А ён і сапраўды ўсміхнуўся, гэты твар, павярнуўся, знік. Прымеркнула святло.

І нечакана ўскінулася Сташка.

— Тут быў хтось? — спытала дзікім, нібы з бяспамятнага сну голасам.— Быў тут хтось ці не?

— Не,— сказаў я безжыццёвым голасам.— Нікога тут не было. Сядзі ціха. Уздрымні далей. Вільгаццю цягне ад камянёў... Не, я не чакаў аж такога. Мой калейдаскоп рассыпаўся. У яго трапіла лішняе шкельца... Не лішне было б пацікавіцца, адкуль яно з'явілася і якім чынам сапсула візэрунак?

— Ты што? Загаворваешся? Цёмнае кажаш,— у гэтым голасе цяпер трымцелі нервовасць і напружанасць.

— Ціха. Ціха ты.

І тут я пачуў спачатку лёгкае драпанне, нібы недзе скрэблі, пасля — скрогат. Пасля той скрогат узмацнеў, пераходзячы часам ў пранізлівы віск.

---

[1] Біблейскі Ной, калі патоп пачаў спадаць, выпусціў з каўчэга спачатку крумкача, які не вярнуўся, узрадаваны мноствам трупаў на ўзгорках.

З непамерным здзіўленнем, бо дагэтуль я чуў пра такое толькі ў казках, а бачыў толькі ў кіно, я не спускаў вачэй з вертыкальнай лініі ў сцяне. Яна пашыралася пад роўны рокат чагосьці і гэты віск, а я лупіў вочы на тое, як яна стала шчылінай, якая раздавалася ўсё шырэй і шырэй, ператваралася ў спачатку вузкі, на ката, а пасля шырокі, хаця б і на чалавека, цёмны калідор.

Ад'язджаў вузкі прамакутны кавалак мура. Адкрываліся вачам, нібы на чвэрць акружнасці па падлозе праведзеныя, паўкруглыя жалабы. Відаць, такі самы жолаб быў у самой сцяне і яна адыходзіла, адкочвалася на каменных шарах (такі механізм я калісьці бачыў у патаемным ходзе ў адным са старадаўніх крыжацкіх замкаў. Як любяць казаць цяпер, узаемазапазычанні. А ўвогуле, ці не падобна ў нечым працуюць нашы падшыпнікі?).

А ўвогуле, ці не вярзу я лухту? Так блытаецца ўсё ў галаве пасля гэтых некалькіх гадзін пад зямлёй.

Я асцярожна ўзяў Сташку пад пахі і ўстаў.

Да нашых ног каціліся ўжо з цёмнай шчыліны дзве невялічкія постаці: Стасік Мультан і Васілька Шубайла.

— Дзядзька Антось! Вы тут? Цётка. І вы тут?

У мяне перахапіла глотку, у ёй стаяў нейкі цяжкі даўкі камяк. Магчыма, я закрычаў бы. Але стрымаўся.

Бо за імі выступіла з цямноцця постаць ксяндза. Чорны цень і дзве пергаментныя плямы. Рука са свечкай, уся аблепленая маленькімі сталактытамі воску. І аблічча, на якім застыла ўсё тая самая дапытліва-абыякавая ўсмешка, якая нібы здзекавалася і выпрабоўвала.

— Вы жывыя? — варухнуліся вусны.

І ўва мне нібы яшчэ пашырылася падазрэнне.

— Дзякуй пану богу,— сказаў ён.— Хадзем.

Мы выйшлі «калідорам» у невялічкую камеру. Ксёндз штурхнуў мур, і ён з ранейшымі рокатам і віскам пакаціўся на сваё месца.

Мы павараціл за рог і апынуліся ў доўгім і нізкім калідоры-катакомбе.

— Тут недалёка,— сказаў Жыховіч,— і дзякуй богу, што тут ёсць ход.

— Дзякуй богу, што яны не ведалі пра яго і другое сутарэнне.

— Пра яго не ведаў і я,— сказаў ксёндз. І дадаў, памаўчаўшы: — Дзякуй вось ім. Яны так крычалі пра падзямеллі, што я пайшоў з імі, хай толькі адчэпяцца. Астатнія ўстрывожыліся і пайшлі на пошукі нейкага невядомага «гарадзішча» і «курганнага могільніка» гадзіну назад... Сорамна ідучы на сустрэчу з магчымай небяспекай, напраўляць людзей на няправільны след. З невялікай хлусні часам нараджаецца непапраўнае. Як з ілжэвучэння — смерць духу, а са свядомага аблуднага фальшу — смерць.

Ён мог бы і сам выглядаць на ўвасабленне фальшу, каб не горкі сарказм у тоне слоў.

— Досыць ужо смерцяў на гэты няшчасны куток зямлі. Проста Бермудскі трохкутнік нейкі: Кладна — Альшаны — Цёмны Бор. Гінуць надзеі, без следу знікаюць людзі. Іх мары і надзеі.

— І хто вінаваты ў гэтым? — Я ўсё яшчэ не мог пазбавіцца ад падазронасці.

— Не ведаю. Пэўна, продкі. І нашчадкі, нядаўнія і сучасныя. І я вінаваты. У тым, што жыву, калі ўсе сябры... і сяброўкі даўно загінулі.

Ён дыбаў ходам, як жывы прывід. Сапраўды так.

— Гэта было б жахліва, каб загінулі яшчэ і вы. На парозе нейкага адкрыцця,— ён пранізліва скасавурыўся на мяне,— або на парозе паражэння, якое толькі і вызначае, мужны чалавек або так сабе.

Мне стала крыху сорамна. Бо калі меркаваць па яго мінулым, то ён быў вышэй падазрэнняў.

— Слухайце,— сказаў я, магчыма, занадта рэзка, бо не мог забыць той усмешкі ў атворы,— ці магчымая гэта рэч, стопрацэнтны хрысціянін першых год хрысціянства? У нашы дні, з нашым мінулым? Не хлусі нават у дробязях, не пралюбадзействуй нават вокам. Не. Вы, здаецца, такі або хочаце быць такім. Растлумачце мне, як гэта?

— Ды ну вас.

— А я не веру. Не веру, бо ў большасці людзей падвойнае дно.

— Не верце яму,— ціха сказала Сташка,— проста ў яго быў стрэс, і ён аніяк не можа ачомацца.

— Двайное дно. Магчыма, й тых замуравалі, як

у маім сне. Майму калейдаскопу не хапае яшчэ толькі аднаго шкельца.

— Якога?

— Што азначалі тыя словы з кашмару: «Два вартавыя неадпетыя і адзін няхрышчаны»? Хто гэта такія, тыя тры?

— Слухайце,— сказаў ксёндз,— у вас сапраўды добра-такі лезе наверх нервовая нераўнаважнасць.

Мы выйшлі на святло. Зелянела трава. Нізкае ўжо сонца клала апельсінавыя адценні на лістоту. За брамаю, на вясковай вуліцы, далятаў з хмары пылу спакойны і мірны харал вячэрняй чарады: мыканне кароў, жаласліва-гнюсаватыя галасы авечак.

Я ўзяў Сташку за руку, і тут мяне закалаціла. Так, што я баяўся выціснуць з сябе нават слова, каб яно не прарвалася рыданнямі палёгкі. Не за сябе, можаце мне паверыць.

— Ты не шкадуеш аб сённяшнім дні? — шэптам спытала яна.

— Не. Хтосьці сказаў: «Я не ведаў, як выглядае мой родны дом, пакуль не выйшаў за ягоныя муры. Я не ведаў, што такое шчасце, пакуль не прайшоў безданяў бяды...» Я не шкадую аб сённяшнім дні.

І аднак мне давялося пад канец пашкадаваць аб ім.

Ад «плябаніі» — нашай, вядома,— кінуўся мне насустрач Мультан:

— Дзякуй богу, жывыя. Дзякуй богу, хоць вы жывыя. Бо трох у адзін дзень...

Мне нібы жалезам абцягнула сківіцы.

— Хто?

— Зеляпушчанак сёння выцягваў шнур ля Дубовай чапы (чорт яго, чаго ён заўсёды яго ў гэтых карчах ставіць) і выцягнуў...

— Лапатуха?

— Ён. Міліцыя павезла ўжо. Відаць, упаў у цемры са стромага ўрвішча. Скроняй аб корч ці аб чорны дуб — унь колькі іх там стырчыць з берага. І гатоў!

Я ўспомніў вартага жалю, бяскрыўднага чалавека-пакутніка, ягонае безабароннае «хлопчык, не трэба» і як ён спрабаваў напужаць мяне, каб не швэндаўся ў «яго доме». І ўспомніў свае падазрэнні, і ўявіў апошняе шкельца з калейдаскопа: цела тапельца.

І тут я зразумеў, што я — асёл.

# Раздзел VII

*Пра жыццёвую неабходнасць грунтоўнага вывучэння стараславянскай граматыкі і алфавіта, пра без пяці хвілін дактароў навук, якія таксама бываюць asлами, і адну дапамогу, якая прыйшла непапраўна позна*

Мы сядзелі з Хілінскім на беразе става, там, дзе ўпадала ў яго Альшанка. Вельмі шырокі ў гэтым месцы стаў сям-там парыў, стаялі над ім маленькія і рэдкія слупы туману, ледзь падсвечаныя новананароджаным сонцам.

Вудзілі. Праўдзівей, вудзіў адзін ён, хаця не часта, але падсякаючы то плотку, то невялікага галаўня. Ужо дзесяткі з два такіх сноўдалі ў яго вядзерцы, часам без дай прычыны пачынаючы ліхаманкава, як па камандзе, брохаць.

— Усё ясна,— сказаў ён, выслухаўшы мяне.— І ясна, што Лапатуха павінен быў загінуць пасля лекарскага заключэння Лыганоўскага. Нехта збаяўся таго, што да чалавека вернецца псіхічная раўнавага.

— З тых, што прысутнічалі?

— Чаму? Кожны з іх мог расказаць пра гэта камусьці са сваякоў ці знаёмых.

— Лыганоўскі такі з'ехаў.

— Ну так. Сказаў: «Калі кожнае маё слова на гэтай цудоўнай і высокамаральнай старонцы будзе весці да такіх вынікаў, дык я знікаю, і няхай яны тут жывуць па сваіх норавах і звычаях. Мне да іх цяпер, што Кутузаву да Англіі».

— А што было Кутузаву да Англіі?

— Ну, калі мы надта ўжо насіліся і панькаліся з новай саюзніцай, дык ён сказаў «пфуй» і імператару і такой палітыцы і дадаў нешта ў сэнсе: «А по мне так хоть сейчас же провались этот остров — я бы и не охнул».

— Т-та-ак, гуманнасцю тут фельдмаршал не вызначыўся.

— І ўсё ж я нікога не бачу з прысутных там, хто мог бы такое ўчыніць, каго мінулае звязвала б з гэтым няшчасцем.

— Мы яшчэ вельмі мала знаем. І таму не можам прадбачыць і прадухіліць учынкі гэтага або гэтых. І ты маеш рацыю: маглі камусьці і расказаць.

— «Прадухіліць». А тут праз гэтае няведанне гінуць і гінуць людзі. Вы не загінулі ўчора толькі дзівам.

— Думаеш, штучны абвал?

— А як жа. Упаў кавалак мура там, дзе ламалі. І тут да сатрасення далучылася сіла, прыкладзеная да пліт.

Шмаргануў. На гэты раз акунька.

— Кінь,— нечакана папрасіў ён.— Кінь. Не твая гэта справа. І гэта пачынае рабіцца вельмі небяспечным. У наступны раз для цябе гэта можа не скончыцца так удала. А тут яшчэ твой нервовы стан. Кожны можа сказаць, што справай займаўся псіх. Даверу не будзе.

— І няхай не будзе.— Ува мне раптам прачнуўся гумар шыбеніка, чаго я ад сябе аніяк не чакаў.— Тут столькі разумных, што абавязкова патрэбен хаця адзін вар'ят. Калі не Лапатуха, то няхай ужо буду я.

— Ну-ну. Вар'яты часам павінны выказваць парадоксы. І ерэтычныя меркаванні. Нават замахвацца на аўтарытэты. Асабліва калі да гэтага грашылі перадавымі поглядамі.

— Ну так. Звышчалавечая пагарда да лаянкі і ўхваленняў... І куды ж гэта я ўваліўся, куды трапіў? І ў якую ж банду бандзюкоў могуць завесці чалавека перадавыя погляды? А многія ж лічаць свае погляды перадавымі. А ў каго сумленне атрафіраванае — тыя ўсе сябе ў перадавых лічаць. Вынаходзяць газы, атам, прэнг, шавінізм, гістарычныя ўчынкі, эшафоты. І вучаць тае маралі, толькі калі ведаюць, што на яе махнулі рукой... Адкрываюць, адкрываюць тое, да чаго нікому няма справы. А вот звычайнага сродку ад зубоў, ад галаўнога болю ды, урэшце, ад радыкуліту, калі ў чалавека азадак баліць... Чалавецтва крыкам ад гэтага крычыць, а ім слабо. Яны корпаюцца ў глаголіцах...

— Ну-ну. Ты даеш. Проста пурытанскі...

Ды раптам так і ўтаропіўся ў мяне.

— Ты што, марскога змея ўбачыў?

Ён, відаць, нават занепакоіўся, бо я нібы скарчанеў, утаропіўшыся ў адзін пункт.

Мая вуда паспяхова сплыла б на сярэдзіну става, каб ён не перахапіў яе.

— Ну вось. Вось і ў цябе. Ды глядзі, як павёў асцярожна... А, чорт! Ды што ўрэшце з табою?

Але тут я пачаў калаціцца ад смеху. Спачатку ціхага, а пасля зусім ужо нясцерпнага і нястрымнага.

— Ды што з табой, хлопча? Сапраўды ты з глузду з'ехаў, ці што?

— Ідыёт! Ідыёт!

— Згодзен, але чаму?

— Я сказаў... ой... пра глаголіцу.

— Не ты першы.

— І толькі тут мне стукнула ў галаву... Мы шукалі пад трэцяй вежай.

— Правільна. ВѣДѣ трэцяя літара, што ў кірылічным алфавіце, што ў глагалічным.

— Так. І ў глагалічным... ах-ха-ха!.. аꙁъ, а, Ⰰ — першая літара і мае пад цітлам значэнне *адзін*, боукъі, б, Ⰱ мае значэнне — два, а вѣдѣ, в, Ⰲ мае значэнне — тры... Ой, трымайце мяне! І нас ледзь не засыпала і не забіла пад *трэцяй вежай.*

— Та-ак. Не бачу нічога смешнага. Своеасаблівы гумар.

— Справа ў тым, што Ⰰ, Ⰱ і Ⰲ і — сапраўды адзін, два і тры. Так у глаголіцы. Але ў кірыліцы боукъі, б — *не мае лічбавага значэння.* І ніколі не мела, як ж, як дзвервь (ф), як Ш, Щ, Ю і іншыя. Не мела.

— Як-як?

— А вось так. І значыць, ѕ ступ уніз, гэта азначае 6, а не восем ступ уніз. Б і Ж не мелі ў старажытнай Беларусі лічбавага значэння. а҃ — першая вежа, б҃ — *ніякая*, разумееш ты, ніякая. А в — гэта *другая вежа* ад кутняй. І значыць, памыліліся не толькі мы, але і тыя, што хацелі нас засыпаць.

*Яны нічога не ведалі, яны толькі сачылі за намі.* А ўсё, што мы... ох... яно пад другой вежай.

Я знямог ад смеху, зусім знясіліўся:

— А божа мой! Ёлуп! Ёлупень! Асёл раменныя вушы.

— Нічога, асёл на чатырох нагах дый то спатыкаецца.

— Ну досыць. Я больш не дазволю гэтаму аслу спатыкацца. Мулам мне зрабіцца, калі гэта не так.

З гэтага моманту я цвёрда вырашыў, што ніхто, нішто і ніколі ў аслы мяне не запіша. Гісторыя калісьці пакажа, так гэта ўсё здарылася ці не так.

Яшчэ толькі адно. Пакуль мы дайшлі да месца, дзе нам трэба было разыходзіцца, я перадаў Хілінскаму ўсе свае меркаванні па гэтай справе. Няхай перадае далей каму захоча. Я не хацеў далей рызыкаваць. Ці мала што магло здарыцца са мною ў гэтым ідыёцкім кутку?

Ён слухаў уважліва, а потым, нічога не каменціруючы, сказаў толькі нейкім нібы безуважным голасам:

— Падобна на тое,— і дадаў пасля паўзы: — I вось яшчэ што. Гэта табе пажытак для разважанняў. «БТ» ніколі, з самага заснавання ларка, кіяскёру не адпускалі.

Што мне было да «БТ» і да гэтага небаракі? Мяне ўразіла іншае.

— Дык, значыць, пошукі ідуць? Іх не кінулі?

— Ат,— адмахнуўся ён,— нічога я не ведаю. Шчука неяк абмовіўся. Я думаў, гэта табе будзе цікава... Калі не — прабач.

Праз дзень ціхі наш прыстанак ператварыўся ў стоўпатварэнне вавілонскае. Сноўдалі паміж Альшанамі і Альшанкай розныя машыны і розныя людзі. Прыязджалі нават з Кладзенскага і са сталічнага музеяў. Завіхаліся вакол руіны, фатаграфавалі, абмервалі.

Мяне гэта не датычылася. Я зрабіў сваё і на гэты раз спадзяваўся, што без памылкі.

Я проста рабіў тое, што і дагэтуль. Разам з хлопцамі са школы, Шаблыкам і Змагіцелем, разам з археолагамі (дзе прыбыль, там памагатых гібель) выносіў смецце і друз. На гэты раз з другой вежы.

Гэта частка яе, частка замураванай некалі бра-

мы, абвалілася ў той дзень, выклікаўшы абвал і над намі.

Тыя, прыезджыя, накшталт славутых гогалеўскіх пацукоў «панюхалі ды і пайшлі прэч». Прашу ў іх прабачэння. Усе тыя дні я, нібы прадчуваючы нешта нядобрае, прабываў у самым дрэнным настроі. Хацелася раўці і кідацца на людзей. Баюся, што нават вочы ў мяне наліліся крывёю, як у бычка.

Прыходзілі і адыходзілі мясцовыя. Часам на ўзгорку людзі збіраліся нават у маленькія паасобныя купкі, дзе ажыўленыя, а дзе і змрочныя. Нібы нейкі дух неспакою і трывогі павіснуў над Альшанкай.

— Ну што, наклёўваецца нешта? — спытаў Нічыпар Альшанскі.

Стаяў ён наводдаль разам з Вячоркам, Высоцкім і Ганчаронкам.

І хаця, адгробшы чарговую порцыю рознай парахні, на глыбіні шасці ступ ад «мацерыка», мы сапраўды толькі што знайшлі выбіты на камені контур карабля, я адказаў унікліва:

— А чорт яго ведае. Тут такая галаваломка, што нельга быць пэўным ні ў чым... Можа, нешта і знойдзецца, а хутчэй за ўсё, не.

Я не хацеў рассыпаць амаль завершанага ўзору ў сваім калейдаскопе.

Магчыма, я памыляўся, але я не хацеў сапсаваць справы ніводным неабдуманым учынкам, ніводным неасцярожным словам.

Да вечара мы расчысцілі амаль усю пляцоўку. Я ўжо нават прыблізна бачыў, дзе пліты на падлозе драбнейшыя. Там можна было дапусціць існаванне замураванага лаза. Таму я спецыяльна не даў рабіць хлопцам раскопку да канца.

— Досыць на сягоння. Заўтра з раніцы зоймемся зноў.

Яны бурчалі. Азарт ёсць азарт, асабліва калі справа падыходзіць да канца.

— Нічога, нічога. Пакіньце крыху прыемнага чакання і на заўтра.

— Прыемнага,— досыць здзекліва сказала Сташка.— Нічога там прыемнага не будзе. Проста хочацца хутчэй дакапацца.

Я пазмрачнеў:

— Калі нават я маю рацыю, то адзін дзень нічога ўжо нс дасць і нічога ўжо не зменіць. Калі нават здагадкі правільныя. Таму што людзі, мы, у гэтым выпадку спазніліся з дапамогай. На добрыя тры з паловай стагоддзі.

## Раздзел VIII

### *Два прывіды ў лагчыне нечысці і дама з чорным манахам, або паршывы беларускі рэалізм*

...Мы ўмыліся ў рукаве рэчкі, развіталіся, і я пайшоў праводзіць Сташку і яе каманду да лагера. Там ўжо весела скакала вогнішча і шыпеў на ім кацёл з нейкім супам, мяркуючы па паху, курыным, а ля яго чарадзейнічала худзенькая Валя Волат. Усе расселіся навокал.

— Што гэта вы так позна? — спытала сённяшняя кухарка.

— Свіння палудня не знае,— адказаў Сядун.— Дый не толькі мы вінаватыя. Певень жа яшчэ не зварыўся.

Я адчуваў, што Генка зноў нешта рыхтуе.

— А ўсё яна,— сказаў вісус, ківаючы на дзяўчыну.— Не трэба было ёй глядзець, як пеўня рэзалі. У яе вока жывіць.

Уздыхнуў з фальшываю скрухай:

— Так доўга мучыўся певень.

Тут Валя мяне здзівіла. Відаць, Генкавы блазноцтвы ўжо нават ёй у глотцы сядзелі.

— Гэ-эх,— сказала яна,— не чалавек, а засуш. Ды яшчэ такая засуш, што й пустазелле ў полі сохне.

— Сам ён пустазелле,— сказала раптам Тарэса.

— А мая ж ты даражэнькая, а мая ж ты таечка. А я ж з табою жаніцца хацеў.

— З якою па чарзе? — спытала Тарэса.— Жанібя, толькі не са мною.

— Жаніся, каб дурні не пераводзіліся,— дадала Валя.

Генка прыцінуў, разумеючы, што тут ужо *ўсе* хочуць прыцісьнуць яму хвост. Нават пасля ежы гжэчна сказаў «дзякуй», але Волат і тут была няўмольная:

— Дзякуй за абед, што паеў дармаед.

— Літасці! — узмаліўся Сядун.

Але дзяўчатам і самім ужо не хацелася дабіваць «дармаеда». Зляцеў ціхі анёл.

Я не ведаю нічога лепшага за вогнішча. Яно прываблівае заўсёды. Але асабліва ў такім вось свеце, залітым аліўкава-залацістым святлом поўні. Паўсюль мяккая аднатоннасць, паўсюль нешта такое, што вабіць невядома куды. І ў гэтай трохі нават серабрыстай месячнай імгле — цёплы і рухомы чырвоны мазок.

Мастакі разумеюць гэта. Добрыя мастакі.

— Мне час,— сказаў я, уздыхнуўшы, і ўстаў.

— Бадай што, я вас праводжу да краю гарадзішча.

Прахалода начнога паветра на абліччы. Асабліва ласкавага пасля цеплыні вогнішча. Мы ішлі ў гэтай імгле. Вогнішча аддалялася і ператваралася ўжо ў плямку, у жывую іскру. Ледзь прагнутаю чашай, аліўкава-серабрыстай пад поўняй, ляжала перад намі паверхня гарадзішча, адакрэмленая ад астатняга свету ценем ад валоў.

— Месячны кратэр,— сказала яна.

— Станіслава, ты не перадумала?

— Аб чым?

— Не раскайваешся?

— У чым?

— У тым, што сказала ўчора.

— Не,— ціха сказала яна.— І думаю, што не буду каяцца. Да самага канца.

— І я. Да самага канца. Усё адно блізка ён будзе ці далёка. Толькі я не ведаю, чым я заслужыў ад бога такое.

— А гэтага нічым не заслугоўваюць.

— Ні абліччам, ні маладосцю, ні ўчынкамі, ні нават вялікімі справамі.

— Часам. Калі такое ўжо і без таго з'явілася. А яно прыходзіць проста так.

Я ўзяў яе далоні ў свае. Потым у маіх пальцах апынуліся яе локцікі, потым плечы.

Я прыцягнуў яе сабе на грудзі, і так мы сталі, злёгку пагойдваючыся, нібы плылі ў нерэальным месячным зарыве.

Пасля, праз незлічоныя гады, я адпусціў яе, хаця

гэты свет поўні быў сведкам таго, як мне не хацелася гэтага рабіць.

— Бывай,— сказаў я.— Да заўтра.

— Да заўтра.

— Што б ні здарылася?

— Што б ні здарылася з намі ў жыцці — заўсёды да заўтра.

— Баюся,— сказаў я.— А раптам нешта непапраўнае?

— Усё адно да заўтра. Нічога такога няма, каб адабраць у нас вечнае «заўтра».

Ногі самі неслі мяне па схіле. Я здатны быў біць нагамі, як жарабя пасля зімовай стайні. Усё нутро нібы захлыналася, да краёў перапоўненае радасцю.

Была, аднак, у гэтай радасці адна халодная і разважлівая жылка ўпэўненасці. Упэўненасці і ведання, якія выраслі б і выраслі, калі б я даў ім волю. Я ім, аднак, гэтай волі не даваў занадта, поўны тым, што толькі вось адбылося, нованароджаным пачуццём лікавання.

I я не даваў волі раптоўнаму азарэнню, якое прыйшло і не адпускала мяне, зрабіўшыся ўпэўненасцю і веданнем. I ў гэтым была мая памылка.

Але я проста не мог, каб у маім новым адчуванні еднасці з усім гэтым бязмежным, добрым і мудрым светам жылі падазрэнні, нянавісць і зло.

Я ўступіў у невялікую лагчынку, лепей сказаць, нават шырокі раўчук. Злева і справа былі досыць стромыя сценкі адхонаў, сцежка вілася па дне і выходзіла ў нешырокі праём, за якім, не міргаючы, стаяла вялізная нерухомая зорка.

Цьмяна і таямніча стаялі ў катлавіне ў нейкім нікому не вядомым парадку вялікія і меншыя валуны. Гэта было месца, у якім старая народная фантазія ахвотна змясціла б пляцоўку для ракавання рознай больш ці менш шкоднай язычаскай нечысці. Яна вымірае, але ўсё адно ў такія вось поўневыя ночы, калі вакол светла і толькі тут пануе паўзмрок, сюды збягаюцца на начную капу, начны суд Вадзяніцы, Балотныя Жанчыны, феі-Мятлушкі, Вогнікі з балатоў, Карчы, Лесавікі, Хахолы і Хохлікі і іншыя напаўзабытыя бажышчы. Успамінаюць, плачуць па былым, твораць свой суд.

Сталёвыя воды туманам сплываюць,
Ледзь дыхаюць пасмы пажоўклай травы.
Ў нізіне, дзе замак спачые сівы,
Апошняя фея цяпер памірае.

Гэтая лагчына — апошні куток іхняга калісьці бязмежнага каралеўства. Гэтыя ледзь бачныя камяні — іхнія былыя паверажаныя троны. Троны ў лагчыне, у якой густа настаялася іхняя трывога, бездамоўе і асуджанасць. Іхняя апошняя безнадзейнасць у мёртвай пустцы бездухоўнасці.

І адзіная жывая — ці жывая? — істота ў гэтым свеце закінутасці і пахмурай тугі.

Не, я не быў тут адзінаю жывою істотай. Перада мною якраз на тым месцы, дзе сцежка нырала ў вузкую расселіну, каб метраў праз дзесяць вырвацца на прастор, узвышаўся дужа высокі цень чалавека.

Гэты цень узняў руку і павольна апусціў яе. Усё гэта чынілася ў поўным маўчанні, у якім было нешта такое, што абяцала нядобрае.

Я азірнуўся назад — яшчэ адзін цень цяпер блакіраваў другое выйсце, тое, якім я забрыў у гэтую пастку.

А я ж усё ўжо зразумеў, я *ведаў* і мог спадзявацца на такое. Але я, асляплены сваім шчасцем, здушыў свае прадчуванні, не даў ім волі.

І цяпер плаціўся за гэта.

— Вы хто? — удаючы поўную безмяцежнасць, спытаў я.

Ён маўчаў. І раптам на цёмнай пляме аблічча цьмяна праявілася белая падкова. Невядомы ўсміхаўся.

— Урэшце можаце і маўчаць. Я ведаю і так.

Іхнія паставы лепей за ўсе словы казалі аб тым, што гэтаму майму веданню я і абавязаны гэтым начным спатканнем і што яно не можа не скончыцца для мяне кепска. Бо майго маўчання аб гэтых ведах нельга было купіць, але можна было здабыць, перастрэўшы вось так на вузкай сцежцы. Яны і перастрэлі. І гэта была не першая іхняя спроба здабыць маўчанне за кожную цану.

— Здароў, Ганчаронак,— кіўнуў я, пакасіўшыся на таго, што падыходзіў ззаду.— І ты здароў, Высоцкі,— гэта пярэдняму.— Што, спакой абрыднуў аматару «ціхага жыцця»?

— Ну, здароў,— гэта працадзіў урэшце першыя свае словы Высоцкі.— Добрай ночы, Косміч.

— Наўрад ці яна будзе добрая.

— І тут ты не памыляешся,— з лянотным спакоем сказаў ён.

— Дарэмна вы задумалі, хлопцы. Дарэмна распачалі. Маё маўчанне ўжо нічога не каштуе. Я парушыў яго. І калі са мной нешта здарыцца — тыя людзі зробяць свае высновы. І на гэты раз хістацца сабе не дазволяць. Марудзіць не будуць.

— А нам не трэба. Гэта не здабыццё маўчання,— азваўся Ганчаронак.— І нават не зусім помста. Проста падвядзенне ітогаў. Ты зрабіў сваю справу, прывёў нас да табой жа адкрытага сховішча. А ўжо ўскрыць яго — тут нам цалкам хопіць твайго маўчання да раніцы. Гэта для нас яно будзе — да раніцы. Для цябе яно будзе на неакрэслены час. Нават калі разлічваць на трубу архангела.

— Для вас яна таксама ўструбіць,— сказаў я.— Хутчэй, чым спадзеяцеся.

— Гэта мы, як кажуць, яшчэ паглядзім,— сказаў Ігнась.

— Ну дык што,— прапанаваў я,— прысядзем ды пагаворым.

— Цягнеш? — гэта Ганчаронак.— Вышандлёўваеш пару хвілін? Не дапаможа.

— Не, не цягну. Проста пастараемся наталіць вашу і маю цікаўнасць. Узаемна. Цікава ж, праўда, як працавалі нашы галовы?

— Твая скора працаваць не будзе,— сказаў Ганчаронак.

— Кінь,— перарваў Высоцкі,— і сапраўды цікава. А часу нам хопіць, нават зашмат будзе. Патрэбнае нам можна і перахаваць лёгка. Астатняе хай гарыць.

— А тое, што патрэбна не табе і мне?

— Можа, і знойдзецца. А можа і згарэць, хрэн з ім... Сапраўды, давайце сядзем ды ціхамірна пагаворым.

І ён паказаў мне на вельмі высокі валун узбоч сцежкі.

Самі яны селі на два ніжэйшыя, каб мець большую за мяне свабоду ў рухах. Начная капа нечысці пачалася.

— Ну вось і пагаворым,— ляснуў сабе па калене Высоцкі.

Сеймік быў, як кажуць, невялічкі, але вельмі пажондны. У двух яго ўдзельнікаў (я быў упэўнены ў гэтым) акрамя перавагі грубай фізічнай сілы — можа, не такой ужо і вялікай перавагі — з поўнай пэўнасцю можна было знайсці ў кішэнях нажы, а ў кагосьці, можа, і сімпатычны маленькі кастэт, а ва ўнутраных кішэнях пінжакоў або пад пахай — пістолеты.

— Пачынай,— нібы прыспешваючы, сказаў Ганчаронак.

— Пачну,— сказаў я.— Пачну з таго, што калі нават і не на сто працэнтаў, але я ведаю вашу гісторыю, ваша мінулае. Як? Лічыце, што спачатку гэта былі проста няясныя здагадкі. Я не ведаю, якім чынам вы даведаліся аб кнізе і таямніцы, схаванай у ёй. Але вы ведалі. Магчыма, яшчэ з часоў вайны, з часоў апошняга Альшанскага. На жаль, вы не здолелі прысутнічаць пры фінале трагедыі і дакладна не ведалі, дзе і што ў дадатак да старога скарбу схаваў апошні князь. Таму што ў справу ўмяшалася гестапа, якое хавала архіў, і айнзацкаманда, якая хавала нарабаванае. І тая і тая арганізацыі размясцілі свае схованкі ў небяспечнай блізкасці да старадаўняга скарбу. Ім здалося, што больш надзейнага месца не знойдзеш. І яны не былі схільныя інфармаваць старонніх, ды яшчэ тутэйшых, адкрываць ім свае таямніцы. Наадварот, прыхаваўшы ад вас вашыя ж справы, яны прымусілі вас застацца тут надзейнымі вартаўнікамі сваіх каштоўнасцей і ў выпадку чаго абаронцамі іх, бо вы заадно баранілі свой спакой і сякую-такую будучыню... На такую нечаканую непрыемнасць, калі нехта пачаў бы шукаць і капа́ць.

Яны пераглянуліся.

— Але гаспадары не выжылі. Стары Альшанскі хуткім чынам памёр. Кніга знікла невядома дзе. Вы не маглі і падумаць, што яна закінутая на гару ў хаце дзеда Мультана, дзе яе знайшоў Пташынскі. Затое ў вас была надзея, што не ўсё згублена, пакуль кніга невядома дзе, а нават і знойдзеная дасць мала карысці таму, хто знайшоў. Бо яму трэба здагадацца аб існаванні шыфраванага паведамлення, раскрыць яго і... гэтага мала, мець у руках рэчавы

прадмет, без якога, як лічыў старадаўні князь, дый вы таксама, расшыфроўка таямніцы немагчымая. Ні ён, ні вы не падумалі, што, маючы на плячах хаця нейкае падабенства галавы, можна абысціся і без наяўнасці рэчы.

— Якой рэчы? — праціснуў праз зубы Ганчаронак.

— Я шмат над гэтым думаў. Выпадак дапамог мне, а вы сваімі паводзінамі падмацавалі маю здагадку. Гэта «мед», медзь, гэты таўкач у вас, Ганчаронак. І ступа, якая, я амаль упэўнены, у вас, Высоцкі. Што ж вы не склалі сваіх набыткаў у адну агульную скарбніцу? Баяліся, не давяралі адзін аднаму. Збіраліся шантажаваць адзін аднаго агульным няпэўным мінулым?

— Брэшаш,— сказаў Высоцкі.

— Чаму брашу? Вы проста не знайшлі кнігу. Так супалі абставіны. Непатрэбныя былі ні злачынствы, ні новыя і новыя вашы ахвяры.

— Тут ты зглупіў,— сказаў Ганчаронак.— Мы з часам здагадаліся, што ты нейкім незразумелым чынам зрабіў звышнатуральнае, хаця меў у руках толькі трэць таямніцы. Нам заставалася толькі сачыць за табой.

— І з некаторага часу вы здагадаліся, куды вядзе мяне ў гэтым лабірынце мая ніць. І тады я стаў непатрэбны. І тады вы пачалі рабіць шматлікія спробы. Вам цяпер трэба было абавязкова прыбраць мяне з дарогі. Каб не перашкаджаў. Адной была спроба закідаць мяне камянямі падчас «дуэлі ліхтароў». Другой — напад чатырох (здагадваюся, хто былі астатнія два, і здагадваюся, чаму яны сёння не тут). І трэці замах, які ледзь не скончыўся поспехам. Абвал.

— Чацвёрты ўвянчаецца,— сказаў Ганчаронак.

Я цягнуў. Бессаромна цягнуў. Выйсця для мяне амаль не было. Была толькі слабая надзея, што нехта прыйдзе ў «плябанію». Да мяне. Што можа нехта спахапіцца, і мяне пачнуць шукаць. Мне трэба было як мага затрымаць іх, каб ім менш засталося часу да раніцы. Калі гэта зараз узыходзіць сонца? Гм, недзе а палове чацвёртай. Заставаліся нейкія тры з невялічкім гакам гадзіны.

Трэба было як мага ратаваць справу, калі я ўжо

не мог уратаваць сваё жыццё. Ратаваць справу, за якую налажыла галавою столькі людзей.

Мне дужа не хацелася кідаць перадчасна гэты лепшы са светаў (ці лепшы, калі па ім швэндаецца такая сволач?), але як ужо такое было кімсьці прадвызначана, то я хацеў быць апошнім, які заўчасна яго кіне.

Каб пасля мяне болей — ніхто.

Свет быў да краёў заліты абыякава-прыўкрасным святлом поўні. Лагчына, у якой мы сядзелі, да краёў, аж з коптурам, перапоўнена цёмным прысмеркам. І справа ад сябе бачыў я чалавека з тварам, які быў пасечаны дробнай сеткай зморшчын і з вушамі вялікімі, як у Буды а злева — другога, вялізнага і моцнага, які з лянотнай грацыяй разваліўся на камені.

— Вы лічылі, што, калі разнесяце мур каля вежы, вам лягчэй будзе забрацца ў яе сутарэнні. Пад шумок. То адны разбіраюць, то вы. І вось Ганчаронак з усім уласцівым яму шармам пераконвае старшыню ва ўсёй мэтазгоднасці зачыніць мячэць і зрабіць у ёй свінюшнік.

— Якую мячэць?

— Ну, прабіць запасны ўваход у замкавы двор і зрабіць у ім даржнік, скацінны двор... А тут я, з фотаапаратам. І нават старшыню напускаць на мяне не трэба, каб самім застацца ўбаку. Старшыня сам на ражон лезе. Дошку ж ахоўную знялі. Закону няма бурыць, а тут — на гарачым... Невялічкая, але непрыемнасць. А тут яшчэ два Іванавічы, што яму на гэтым краязнаўстве даўно вушы аб'елі. А вам з гэтым іхнім «Ведай свой край» ды «Ніхто не забыты, нішто не забыта» і пагатоў. Бо вам якраз і трэба было, каб людзі менш ведалі свой край і трывала забылі пра некаторых тыпаў і іх учынкі.

— Ігнась, я яго зараз ромбну,— сказаў Ганчаронак.

— Дай спакой. Хіба табе не цікава, да чаго ён там дадумаўся? Хай балбоча. Далёка ён сваіх ведаў не данясе. А нам цікава будзе ведаць, чаму ён западозрыў. Я ўжо не дужа разумным выглядаў, а пра цябе й казаць няма чаго. Настолькі тупая жывёліна, што падазрэнняў не павінна было быць.

Ганчаронак палез рукою ў кішэнь.

— Кінь,— сказаў Высоцкі,— нож ты добра кідаеш, але яго праз кішэнь, як кулю, скажам, не кінеш. Сядзі і слухай.

— Часта трапляўся ты мне, Тодар, на дарозе. Чакам ноччу. І скакаў цераз канаву, поўную вады, каб малую патрэбу справіць. А нашто?

— А на тое... Сустрэліся тут з адным...

— А да гэтага, на другой дарозе, пра «страшныя яйкі» размаўлялі? — Я спадзяваўся толькі, што хлусня і дапушчэнні, збудаваныя на пяску, не занясуць мяне ўбок.

— Ч-чорт.

— Полем вы адтуль ішлі, каб вярнуцца іншай дарогай, чым той.

Хто «той» было для мяне цёмнай ноччу, як многае і многае ў гэтай справе. Многае, аб чым я ўжо ніколі не даведаюся. Але я павінен быў удаваць, што мне вядома куды болей, чым на самай справе (толькі б не перагнуць!), і таму нават брахаць з большай ці меншай доляй верагоднасці.

— Вы спяшаліся. Тым болей што тады, падчас дарогі на станцыю, у грузавіку, я прабалбатаўся, што звязваю ўсё, што адбываецца, не толькі з тым скарбам, але і з падзеямі перад уцёкамі немцаў. Тут ужо трэба было і справу з Лапатухам неяк давесці да ладу (дуэль ліхтароў), а заадно і са мной, калі ўжо ноччу палез у вежу, трапіўся пад руку. І ўцякаць нават не было як. Прывязаныя да архіваў... То ж бо ты тады на станцыі, Высоцкі, так на дзядзьку ў піжаме псіхануў. Сапраўды, едзе сабе куды хочаш, а ты, «тубылец», вымушаны на месцы сядзець, дрыжаць і чакаць на выніку. Дый дзіўна, што чалавек не ведае, дзе ягонага брата расстралялі, у Кладна ці ў Беластоку. Больш усё ж на Кладна чуткі кажуць. І прозвішча на помніку чорным па белым.

— Якую справу з Лапатухам? — нібы нічога пасля ўпамінавення аб ім не слухаў, спытаў Высоцкі.

— А вы думалі, што калі ён замак за сваю крэпасць лічыць, вас штодня бачыць і падсвядома пабойваецца, і напускае на сябе большую дурыну, чым на самай справе, то ён можа нейкі там патаемнічак уладкаваць. Для вернасці вы тады ноччу ў вежы і мур ламалі. У падазроным для вас месцы.

— Разумны ты чалавек, Косміч,— з млявай пагрозай сказаў Высоцкі.— Разумны. Толькі ты, як паляк, мондры по шкодзе. Спахапіўся позна.

— Так. Я ведаю. Але не думаю, каб вы дужа выйгралі ў часе. Не толькі вас тут нешта трымае. Трымае тут сёе-тое і яшчэ аднаго чалавека.

— Загадкамі гаворыш,— сказаў Ганчаронак.

— Але.

— Ну, далей,— сказаў Высоцкі.

— Пра спробу ўзлому маёй кватэры, пра «маю» запіску да Мар'яна я казаць вам нічога не буду. І без таго доўгі сказ. Не ведаю таксама, што вас вяло да другой вежы? Пэўна, лагічны працяг, праекцыя на будучае, маіх учынкаў. Але трэцяй вежай я вас на хвіліну збіў з панталыку.

— Ненадоўга,— сказаў Высоцкі.

— Правільна. Іначай вы б мне там магілу не ладзілі. Тады б апошняй ахвярай быў бы не я, а Лапатуха. Надта вам словы лекара не спадабаліся, што той Людзвік можа ачомацца, апрытомнець... Так, многае адбывалася. Шмат аб чым я не ведаю, шмат аб чым не ведаеце і вы.

«Цягнуць болей няма чаго. Ды я і стаміўся. Дужа стаміўся духам. Хутчэй бы, сапраўды, канец. Доўжыць гэтую камедыю няма ані сілы, ні жадання».

— Вас так ці іначай спаймаюць. Рана ці позна. І тады ўсе будуць адпомшчаныя. І я таксама.

— Ды не,— сказаў Высоцкі,— пакуль тое, дык гэта *перад намі* адкрыты шлях. І калі мы возьмем усё ў свае рукі — малойчыкі накшталт вас не спатрэбяцца.

— Некаторыя і раней казалі тое самае. Дзе яны? Але як гэта, на агульнае няшчасце, і здарыцца — вось толькі тады мы па-сапраўднаму і спатрэбімся. Нават тыя, каго зараз не дужа бяруць усур'ёз (з розных бакоў), аматары і знаўцы «справы».

— Гэта яшчэ чаму? — уеў Ганчаронак.— Пакуль *мы* тут гаспадары. І з часам будзем гаспадарамі поўнымі. У нас здаровы сэнс.

— Не будзеце,— быў я амаль спакойны.— Думаеце, божыя і чалавечыя законы адмененыя на карысць гэтага кутка ці якога-небудзь іншага на зямлі? Толькі таму, што мы нарадзіліся тут? А нейкі там Гітлер у Германі? А Уласаў у Расіі? Не, гэтыя законы

нідзе не адмяняюцца. Карабель ваш дужа стары і зараз ляціць на рыфы.

— То што ж нам, бедным, рабіць? — у фальшывай скрусе спытаў Высоцкі.

— А трэба было вучыцца з дзяцінства сумленнасці, якая ў тым моры жыцейскім замест навігацыі. Вывучыць яе, і жыць, і плысці сабе. Або пагарджаць ёю і тады — будзьце вы праклятыя ў вякі вякоў!

— Што ж, пагаварылі.— Высоцкі дастаў пісталет.

Я гатовы. Мне амаль не страшна. Так, нібы крыху смокча пад лыжкай. Але тут я ўзнімаю вочы.

...Далёка-далёка, за цемрай, за месячнай імглою, гарэла іскра вогнішча. Як жа я мог не падумаць пра яе?!

«Выхаду! Выхаду кожнай цаной, акрамя прыніжэння!»

Ён прымерваўся. Прымерваўся і я. Мне трэба было толькі, каб ён страціў спакой, каб рука ў яго не была цвёрдая.

І таму я пусціў у ход апошнюю сваю здагадку, амаль сумежную з упэўненасцю:

— Што ж, да хуткага спаткання, Высоцкі... І ты да хуткага спаткання... Боўбель.

— Што-о?!

— Боўбель. З двайной бухгалтэрыяй. Па даходах і па трупах. Перадрыжалі вы, бедалагі. Што, Боўбель, усе гэтыя гады не піў, толькі рот гарэлкай паласкаў?

— Здагадаўся,— хмыкнуў Ганчаронак-Боўбель.— Анягож.

— Ясна, уцёк ты тады балотнай сцежкай. Аднаму табе вядомай. Адзін уцёк. А сябры-сведкі накрыліся. Таксама двайную бухгалтэрыю вёў? Са сваёй бандай і з немцамі? А ты, Высоцкі, ці не мачаў ты пальцаў у кроў павешаных у Кладна? Архіў вам быў патрэбны. Грошы — абодвум.

— Ну вось,— перапыніў Высоцкі.— Тут табе і канец. Мала мы вас, гадаў, перакоцалі.

— Брудныя вы падлы... На што спадзяецеся?

Пісталет рыўцом узняўся ўгору, пасля пачаў апускацца. І тут я адкінуўся назад і ўпаў за валун. Упаў на правы бок (крый божа, каб не на руку!), клубком, як трэба падаць з каня, адкаціўся далей ад каменя.

У момант падзення проста нада мною сцёбнуў, як тоўстым бізуном, стрэл. Я падымаўся ўжо, але

падвяла, паехала па вільготнай траве правая нага, і я ледзь не торкнуўся ў дзірван носам, адначасова адчуўшы, як нешта апякло левы плячук вышэй ключыцы.

Ганчаронак-Боўбель кінуў-такі нож, і, каб я не асклізнуўся, не тыцнуўся, нож гэты зараз стырчэў бы ў мяне з-пад левай лапаткі.

Цяпер нож ляжаў на траве, і я падхапіў яго: усё ж нейкая зброя ў руках. Хаця што азначала тая зброя супраць пісталета?

...І тут успыхнула вакол з дзесятак кішэнных ліхтароў, і я, аслеплены, убачыў толькі, як з адхону ўскінулася ў паветра доўгае, чорнае ў гэтым святле цела і нібы злілося з постаццю Высоцкага, насела на яго. Адначасова з гэтым ляснуў другі стрэл, які не трапіў у мяне толькі таму, што «фурман», «возны», ці як там яго, упаў. І сабака ўжо прыціснуў яго да зямлі і трымаў у пашчы ягонае правае запясце.

У наступны момант яны пакаціліся па зямлі, і нічога ўжо не было разабраць. А я скочыў на Боўбеля. З нажом. Той прысеў, каб унікнуць удару, бо я ў гарачцы мог-такі паласнуць яго або ўсадзіць яму некуды нож па самую рукаятку.

Ён зручна ўнікнуў нажа і тым самым вельмі зручна падставіў падбароддзе якраз пад маё калена, якім я не замарудзіў і лупянуць яго з усёй сілы, так, што аж ляснулі зубы і ён закінуўся дагары, усёй спінай і патыліцай прыпячатаў матку-зямлю.

І тут я насеў на яго, перахапіў правую руку з шыпастым кастэтам.

Мне трэба было дарвацца да гэтай глоткі.

Трэці стрэл аднекуль. Куды? Я не ведаў гэтага, здатны дзерці, ірваць на кавалкі, грызці.

Калі мяне адцягнулі, крывавы туман усё яшчэ стаяў у мяне ў вачах. Я выскаляў зубы і хрыпеў. І толькі паступова праз гэты туман пачалі праступаць у святле ліхтароў аблічча. Перш за ўсё я ўбачыў Шчуку... Пасля невядомага міліцыянера, які толькі што надзеў на Высоцкага наручнікі. У Ігнася з правага перадрамення сплываў цурок крыві.

— Застрэліцца хацеў,— сказаў міліцыянер.— Здолеў-такі перакінуць тую цацку ў левую руку. Каб не стукнуў па ёй — тут бы яму і апошняе рыданне.

Цяпер я ўжо адрозніваў і Велінца, які ледзь ад-

цягнуў Рама за ашыйнік, і яшчэ двух невядомых, якія закручвалі за спіну рукі ўсё яшчэ напаўпрытомнаму Боўбелю.

Плылі перада мной абліччы Змагіцеля... Дзеда Мультана з дубальтоўкай у руцэ... Шаблыкі... Вячоркі... Седуна... Сташкі.

Агні закруціліся ў маіх вачах. Зямля пайшла некуды ўбок.

Хілінскі (ён трымаў мяне справа) сціснуў мой локаць.

— Трымайся. Трымайся, браце. Нічога. Мінула ўсё.

А я рэшткамі прытомнасці, якая амаль знікала, падсвядома адчуваў, што не... не... яшчэ не ўсё. Нешта настойліва свідравала мозг, павінна было вось-вось усё праясніць, але бясследна знікала пры першай спробе спыніць, затрымаць яго, здагадацца. Апошніх шкельцаў так і не было ў гэтым калейдаскопе аблуднай хлусні і падступнай подласці.

Пад'ехала машына. Не ведаю, як яна завецца цяпер. А ў сярэдневяковай Беларусі воз, якім адвозілі затрыманых, называўся «кошыкам для салаты» або «для капусты».

«Вось так. Несучасны вы чалавек, таварыш Косміч. Несур'ёзны».

Арыштаваных павялі туды. Боўбель паспрабаваў было рэкнуць нешта накшталт: «Не я пачынаў. Гэта другія...»

— Расчараваны я ў табе,— пагардліва плюнуў Высоцкі і сказаў нахабна: — Ну вось, цяпер на пэўны час будзем гасцямі міністра ўнутраных спраў.

— Мабыць, і не толькі,— сказаў я.

Трэба было адпомсціць гэтай навалачы за «трубу архангела», і я вырашыў пусціць апошні пробны шар:

— Ад усёй душы спадзяюся, што гэта апошнія твае гасціны...

Ён не пашкадаваў сліны і сплюнуў таксама і ў мой бок.

— Апошнія, Ігнась Высоцкі... Ён жа Крыштоф за польскім часам... Ён жа Уладак пры немцах... І хто яшчэ пасля вайны... Кулеш?

Высоцкі раптам ірвануўся ў мой бок з такою сілай, што міліцыянеры ледзь затрымалі яго. Твар у яго зрабіўся барвяна-сіні, жылы надзьмуліся на лобе.

З глоткі вырываліся ўжо амаль не словы, а пагрознае і ўражанае, ашалелае хрыпенне. І выглядаў ён, як пакінуты і загублены назаўсёды ў свеце, дзе пануе бясконцы кашмар.

— Ты... Гад... Ты.

— Нічога,— сказаў я,— твой інсульт вылечаць. Каб ты ў трэці раз не вымкнуў кудысь. Каб хоць на трэці раз атрымаў тройчы заслужаную вышку.

Знік перакошаны твар. Калі машына ад'ехала, я сеў на траву і пачаў збіраць і складаць у купку нейкія галінкі і трэсачкі.

Сташка падышла да мяне і паклала далонь на маю галаву.

...Зноў гарэла вогнішча на Белай Гары. Бульба, што мы напяклі, была з'едзена, хаця й была апошняя, а не першая, асенняя.

Усё адно было смачна. Ды яшчэ з буйной кухоннай соллю.

І зоры над галавой. І сябры вакол. І вочы ўсіх глядзяць у адзін на ўсіх агонь.

— Проста паскудныя тварыны,— азваўся ўрэшце я, ужо амаль супакоены.

— Во,— сказаў Адам,— каб гэта Клепча чуў, ён бы адразу няўхільна і праніклёна прамовіў: «Нешта я ані разу не чуў ад вас слоў «свядомы» і іншых».

— А ты паступай свядома,— у тон яму азваўся я,— а не плявузгай. А то свядома мянціць языком і без цябе шмат аматараў.

— А ён адразу да твайго дырэктара,— усміхнуўся Шчука.— І скажа, што не месца сябру Космічу ў дружных шэрагах навукі, бо ён дае іншым выспятка ў азадак.

— Хопіць,— мне ўжо самому стала моташна ад тэмы.— Закурым, ці што?

Хілінскі павучальным тонам сказаў:

— Хто не курыць і не п'е — той здаровенькі памрэ.

Я застыў з пачкам цыгарэт у руцэ. Зноў нешта нібы раптоўна стукнула ў маю свядомасць. Але што? Гэтага я так і не мог да канца зразумець. А тут і Адам сваім пытаннем досыць недарэчы парушыў маю сабранасць.

— Як ты дайшоў да сваіх высноў?

— Цьху. Зноў сканцэнтравацца не далі. Тут дзіўнае не тое, што я дайшоў, а што столькі рэчаў старон-

ніх маю думку адцягвала ўбок, а я, нягледзячы ні на што, усё ж здагадаўся. Як вы кажаце, «дайшоў».

Сапраўды, з чаго ўсё пачалося? Ага, здаецца, так.

— Аднойчы мне проста стукнула ў галаву... Ну, нібы раптам сумясцілася несумяшчальнае. Смерць, пакаранне смерцю двох братоў Высоцкага. Калі яны адбываліся? З чым супалі?

— Ну, прысуд Крыштофу Высоцкаму гэта, здаецца, канец жніўня,— сказаў Шаблыка.— Ці сярэдзіна.

— А што першага верасня адбылося?

Паэт з мордай каўбоя і такімі самымі манерамі ціха кінуў:

— Вайна.

— Ну вось. Маглі замарудзіць? Маглі.

— Мацыеўскі выехаў.

— І мог не даехаць. Або падумаць, што́ перад тварам вечнасці... адзін нейкі.

— Ясна,— сказала Сташка.

— Трубіць яму ўрачысты марш,— сказаў Сядун.

— Маршы — паскудства,— сказаў раптам Мультан.— Не люблю маршаў. Дрэнь. Што ваенны, што вясельныя. Усё адно бойка будзе. І невядома яшчэ, якая будзе страшнейшая. З ворагам ці з бабай. Так што мне нават дзіўна, з чаго гэта некаторыя (няўлоўны позірк у мой бок) самі ў мех лезуць.

— Ваісціну,— падтрымаў яго Вячорка.— Так ужо я кавалерам зайздрыў. Думаю, вось разумныя людзі.

— А далей? — спытаў Шчука.

— А калі быў арыштаваны і асуджаны Уладак Высоцкі? Мы ведаем, першыя два гады ён недзе па-за Кладна. Пасля з'яўляецца. Служыць у пашпартным аддзеле ці як там. Гэты час супадае з тым, калі была разгромлена арганізацыя, у якую ўваходзіў наш цярашні... Словам, Леанард Жыховіч. Яго не схапілі — лішні повад для дурнога майго падазрэння. А ён і асеў тут, каб сачыць за ўсімі, хто цікавіцца замкам. Пыталі ў яго?

— Так, кажа, што была размова з нейкім членам арганізацыі аб Альшанцы і гэтак далей. Той, здаецца, таксама не трапіў у гестапа. Але твар ягоны ксёндз памятаў невыразна,— сказаў Шчука.

— Дык калі быў пан Уладак арыштаваны і асуджаны?

— Шаснаццатага ліпеня, здаецца,— сказаў Шаб-

лыка.— «Прысуд выканаць у дваццаць чатыры гадзіны».

— Нашы калі горад узялі?

— Васемнаццатага,— буркнуў Шчука.— Усё адно не супадае. Паспелі б яго пусціць у расход.

— Так,— сказаў я.— А што адбылося семнаццатага?

— Ах, чорт,— узвіўся Хілінскі.— Паўстанне ў горадзе. Вось пра гэта, Шчука, неяк ты і не падумаў. Цяпер ясна, чаму раптам выскачыў жывы, як чорт з табакеркі.

— Верна, паўстанне,— сказаў я.— Ноччу на семнаццатае. Перадчаснае паўстанне, бо нашы былі яшчэ на досыць дальніх пераходах. Ну так, крымінальныя пазбівалі замкі якраз у той час, калі паўстанцы выламалі турэмную браму. Ахова ўцякла. Так што горад быў наш. Палову ночы і палову дня. Усіх арыштаваных выпусцілі. Але тут паўстанне падавілі пагранічныя войскі, што адступалі, і паліцаі. Частку нашых абяззброілі і пасадзілі ў турму назад. І пачаліся спешныя расстрэлы. У адзін з іх трапіў наш Высоцкі. А калі не трапіў? Васемнаццатага нашы ўзялі горад.

— І што? — спытаў Вячорка.

— А тое, што, акрамя іншага, таго, аб чым я ім казаў і вам цяпер сказаў, я падумаў: а раптам Крыштоф, адзін раз уцёкшы ад смерці, мог і другі раз уцячы... І адразу пасля вызвалення зноў аджыла банда Куляша. Не ведаю, з кім ён там супрацоўнічаў, каго прадаваў, перад кім прыніжаўся... Але адно ясна. Аднаго забойства хлопца ў Замшанах хопіць, каб на тым чалавеку паставіць крыж. І ўжо не сумнявацца, што ён на кожнае, на самае страшнае злачынства здатны. Ну а як вы ішлі?

— Аб гэтым пасля,— сказаў Шчука.— Мы ішлі прыблізна той самай дарогай, што і ты. Але мы перш за ўсё шукалі. Ты — думаў. Ды яшчэ дапамог нам азартам, на які мы не маем права. Словам, знайшлі мы ўсё ж людзей. Знайшлі сведкаў.

— І што сказалі сведкі? — спытаў Мультан.

— А сведкі,— нявесела сказаў Шчука,— тыя, што засталіся, мала чым нас парадавалі. Цётка была з ім на апошнім спатканні. Усё ж гэта яна канчаткова штурхнула Крыштофа на ягоны шлях. Спатканне далі. У моры справядлівай нянавісці яна была такса-

ма і адзіным чалавекам, які яму спачуваў... Не дапамагло яе спачуванне. Вайна. Агульнае замяшанне, збянтэжанасць. І ён у гэтым тлуме пакінуў турму. І след ягоны згубіўся ў натоўпе. Дзе ён быў, калі мы прыйшлі,— бог ведае. Можа, тады і склалася ядро яго будучай банды. А калі прыйшлі немцы, ён ужо дзейнічаў па лясах. І адначасова быў звязаны і з акупантамі. Таксама двайная бухгалтэрыя. Пра гібель падполля мы ўжо ведаем сёе-тое, а даведаюцца яшчэ больш. Перад прыходам нашых ён дзейнасць сваю часова прыпыніў. Займаўся гандлем на чорным рынку. І тут немцы з уласцівай ім педантычнасцю пачалі праглядаць турэмныя акты. І жандары трапілі на смяротны прысуд Крыштофу. Устанавіць яго тагачаснае імя ім было лягчэй лёгкага. І вось тут такое. Усе думалі, што ён загінуў у вулічнай экзекуцыі, як людзі падполля, як ахвяры аблаў. Шкадавалі. А ён на такую высокую смерць права не заслужыў. Дый не памёр, як бачыце. Ці сутыкнуліся на ім два ведамствы: тое, што патрабавала кары яшчэ па старым прысудзе, і тое, дзе ён працаваў асведаміцелем,— не ведаю. Гэта яшчэ выясніцца. Як выяснілі мы ўсё і наконт Боўбеля... Твая здагадка была верная і наконт яго, Космiч. Толькі што здагадка не факт.

— А сучасныя іхнія ўчынкі?

— Сучасныя — ужо факт. Ну, уставайце, хлопцы. Час.

Мы развіталіся з экспедыцыяй і пачалі спускацца з гарадзішча.

Маўчалі, дый не хацелася болей гаварыць пасля перажытага і перадуманага сёння.

— А ўсё ж без тваёй галавы ім цяжка давялося б,— сказаў Хілінскі, паклаўшы далонь мне на плячо.— Без расшыфроўкі таго тайнапісу.

— Без першай трывогі, якую падняў бедалага Мар'ян.

— Цяпер яны даведаюцца. Цяпер лягчэй.

Месяц, што пачаў ужо хіліцца, залiваў касцёл пранізлівым і бязмерна журботным святлом, рабіў чорны гмах замка менш груватсткім. Ён здаваўся ўжо ў гэтым святле і не такім чорным, а нібыта адліваў крыху ў блакітнае.

— Пройдзем праз замкавы двор,— нечакана сказаў я.

— Гэта нашто? — спытаў Мультан.

— А раптам дама з манахам...

— Ты што, у глупствы гэтыя верыш? — здзівіўся Шчука.

— Веру не веру, але праз гэта не здолею я паехаць адсюль зусім супакоены. Не можа быць, ведаю. Але ж я сам бачыў.

— Хадзем,— вельмі ціха сказаў Хілінскі.

Я ведаў, што толькі ў яго не было скептычнага недаверу (як у Шчукі, Велінца і Шаблыкі), паэтычнай здатнасці верыць, якая больш за жаданне верыць у неверагоднае (як у Змагіцеля) і забабоннай веры Мультана і Вячоркі («Цалкам магчыма. Янку Целюку аднойчы патрызнілася, ды і я нешта такое бачыў»).

Толькі ў ім быў несапсуты ніякімі меркаваннямі і акалічнасцямі просты давер да мяне. Давер, які перш за ўсё прагнуў праверыць, а што там робіцца на самай справе.

Давер, які і ёсць фундамент усякага навуковага і ненавуковага поступу. Той давер, які не дазволіў Марыну Гетальдзічу смяяцца з вопыту Марка Антонія дэ Дамініса над лінзамі і геаметрычнай оптыкай, а Галілею не дазволіў узяць пад сумненне навуковую сумленнасць абодвух (аж да разгадкі імі таямніцы «божага моста», «брамы новага свету», вясёлкі), прадоўжыць іхнія доследы і ўрэшце стварыць і ўдасканаліць тэлескоп[1].

Гэты верыў і ведаў, што калі я так кажу, то «нешта напэўна было, а вось што — трэба памацаць».

Наша кампанія, што якраз уваходзіла ў цёмны тунель брамнай аркі, збоку, відаць, моцна нагадвала «Начны дазор» Рэмбранта. Такія сабе нашчадкі кашчавых гёзаў, крыху ацяжэлыя гараджане з прэтэнзіяй на ваяўнічасць і мужнасць (гэта дзеля прыгажунечак, якія глядзяць на іх праз шчыліны ў аканіцах).

Двор, заліты святлом, цёмныя галерэі-гульбішчы

---

[1] Марын Гетальдзіч (1568—1626) — славуты югаслаўскі матэматык, астраном і фізік, які шмат увагі аддаў аптычным даследаванням. Марк Антоній дэ Дамініс, або Маркантун Гасподнетіч (1560—1624) — славуты харвацкі грамадскі дзеяч і вучоны, аўтар тэорыі прыліваў і адліваў, тэорыі вясёлкі і праламлення святла. Памёр у сутарэннях інквізіцыі.

на супрацьлеглым уваходу ягоным баку, груздлыя гмахі вежаў моцна паадбавілі гэтай ваяўнічасці, прымусілі ўсіх змоўкнуць і рухацца ўсё павольней, а пасля і наогул спыніцца.

Толькі Шчука, зваліўшы нейкую бляшанку, чартыхнуўся:

— Ну, давядзецца ўзяць за бакі Альшанскага, цяперашняга, вядома, што ён такое паскудства тут развёў. Накласці на яго, чорта, штраф. І не з калгаснай кішэні, а з асабістай. Тады заспявае.

Астатнія стаялі моўчкі. Нічога не адбывалася.

— Ну дзе ж тут твае «прывіды»? — з гумарам спытаў старшына Велінец.

Я зірнуў на гадзіннік і ўзняў вочы ў неба.

— Калі я маю рацыю — павінны дачакацца.

— Да заўтра чакаць? — спытаў ён.— Вось чалавек, які з ягоным ды цярпеннем памылку зрабіў, не пайшоўшы да нас.

— Пайшоў амаль,— буркнуў я.— Нічога добрага з гэтага не атрымалася.

— Колькі яшчэ чакаць? — гэта быў ужо Вячорка.

— А я нікога не прымушаю чакаць, Мікола Чэсевіч.

Хілінскі моўчкі дакрануўся да майго локця.

— Павінна быць вось-вось. Калі я не памыляюся,— шэптам адказаў я.

— Унь,— амаль прасвістаў глоткай Мультан,— унь замільгацела нешта.

На левым баку галерэі сапраўды нібы ўзнікла, заварушылася нешта. А пасля выявіліся і амаль невідочна для вока паплылі ўправа два невыразныя цені: цёмны і святлейшы.

— Яны,— здушаным голасам сказаў Хілінскі.

Гэта сапраўды здзіўляла, і ўражвала, і магло да паўсмерці спалохаць непадрыхтаванага.

Плывуць... Плывуць. Заліты фантастычным прывідным святлом двор. Два светлыя муры і вежы, што ў гэтым святле прыдбалі колер абгарэлага і запыленага чыгуну. І два муры чорныя і асабліва льсняна-чорная цемра на галерэі, і ў цемры гэтай рухаюцца дзве здані. Светлая постаць, цёмная, і аддзяляе яе ад астатняй цемры вузкая палоска святла.

— Не рухайцеся!

Я кінуўся амаль бегма да правага ўзыходу на

гульбішча, узбег па ім і рушыў насустрач невыразнацьмяным праявам.

Бліжэй... Бліжэй... І раптам яны зніклі. Тут жа ля мяне. Не здані і не прывіды, проста дзве плямы, што ператварыліся ў невідзімак.

— Яны зніклі,— даляцеў з двара голас Шчукі.— Але ты, ты асветлены, Антоне.

Я ўскінуў галаву і замёр, ледзь не аслеплены. Ад званіцы касцёла, ад дыска дзыгара клалася проста мне на цела і аблічча, біла ў вочы жарало, сноп рэзкага, яскрава-блакітнага святла.

— Сюды! Хутчэй.

Я пачуў тупат ног. Праз хвіліну людзі ўсе ўжо былі на галерэі.

— Зірніце! Унь! — паказаў я.

— Што такое,— прыслеплены Шчука міргаў вачыма.— Што гэта такое?

— Я здагадваюся, што гэта такое,— кіўнуў Хілінскі.

— Гадзіннік,— сказаў я,— сапраўды старамодны, старажытны нават, «дзыгар». Толькі адзін тут тып памыліўся. Тут нерухомы «дзённы» гадзіннік з рухомымі стрэлкамі і рухомы — больш вялікі цыферблат «месячнага» гадзінніка. Ён за нерухомым дзённым. І ён круціцца, хаця і бязладна, бо не да канца адрапараваны. А пад ім непарушная стрэлка... І нерухомыя постаці «святаў».

— То што? — спытаў Мультан.

— Арганіст і ксёндз казалі мне, што там дзеля нейкай мэты сістэма моцных люстраных рэфлектараў... Ну вось, у пэўныя дні прамень месяца трапляе на іх. І вось ідзе галерэяй цёмны цень, ад нерухомай стрэлкі, а за ёю светлы «цень», адбітак ад рэфлектара.

— Вось і ўсё,— сказаў Вячорка.— Баечкі.

Лягла цяжкая паўза.

— Дурында ты,— сказаў яму прыгнечаны Змагіцель і пасля кінуў мне: — І ты не лепшы. І собіла ж табе такую казку, прыгажосць такую ў друз расшкуматаць. Патрэбнае яно камусьці было, тваё тлумачэнне.

Я і сам шкадаваў, што ўбачыў і даў убачыць іншым яшчэ ў адной з'яве паршывы наш рэалізм.

# Раздзел IX

## *Цынізм трохсотгадовы і сучасны, смяротная кара за смяротнасць адной душы з трох і святая веліч аднаго апаганішчыка праху*

Мы ўрэшце падважылі адну з пліт «над караблём». Было гэта наступнага дня пасля нападу на мяне.

Дапамагаць прыйшлі ўсе ўчарашнія, ды яшчэ прыплёўся ксёндз. У зношанай цывільнай шкуры і з кіркою ў руцэ, што, як ні дзіўна, яму пасавала. Яму, па-мойму, усё пасавала, гэтаму дзіўнаму чалавеку.

І тут адбылася першая разбежнасць з адным з маіх начных кашмараў. Пад плітой не было атвора, ён быў засыпаны, нават забіты ўламкамі цэглы, камянямі, друзам і... дробнымі бетоннымі брылямі з рэшткамі арматуры.

Шчука аж засычэў ад радасці, убачыўшы гэта.

— Чаму тут радавацца? — спытаў я.

— А таму і радавацца, што шлях — вярняк. Дарэчы, шлях табою і падказаны.

З ім былі нейкія яшчэ два дзядзькі ў цывільным.

— Ну што цяпер? — спытаў ён у аднаго з іх.

— А што. Пакуль тое, хай капае,— адказаў незнаёмы.

— Праўда. Усё ж гэта як вянец. І ягоных здагадак, і таго, што мусіў перажыць.

Мы выграбалі, не, мы літаральна выдзіралі гэты позні корак, што заткнуў жарало даўняга атвора.

І ўрэшце зазеўраў чорны, крыху нахілены правал уніз.

Я ўзяў ліхтарык і пачаў спускацца па збітых, сточаных часам прыступках. Са мною спускаліся Сташка (я ведаў, пасля таго выпадку з завалам, што адгаварыць яе,— дарэмная справа), Шчука, Генка Сядун, Шаблыка, адзін з невядомых і ксёндз, які зноў увязаўся за намі.

Цені ад нашых галоў скакалі па мурах, па нізкіх паўкруглых скляпеннях. Сходы былі крутыя, як на злом галавы.

І ўжо нейкіх метрах у пяці ніжэй разабранага намі завалу я спыніўся і паказаў налева.

— Ну вось. Муравалі. Замуроўвалі. І параўнаўча

нядаўна.— І звярнуўся да сваіх: — Таму мы разбіраць гэта не будзем. Спадзяюся, гэта ўжо не наша справа. Думаю, што гэта справа *ваша.*

— Маеце рацыю,— сказаў невядомы,— гэта сапраўды наша справа. А чаму вы думаеце, што замуроўвалі «параўнаўча нядаўна»?

— Спосаб кладкі,— сказаў я.— І яшчэ, яны ўжывалі для замазвання шчылін бетон. Рушылі далей.

І зноў прыступкі, прыступкі, прыступкі. Зноў скокі жоўтага і чорнага. Зноў сякуць мураваную сталь мячы святла, якога столькі год, столькі ўжо невыносна доўгіх, смяротна цягучых год, бясконцай іх чарады, не бачылі гэтыя камяні.

Мы спускаліся нязмерна доўга, аж пакуль сталь не пачала адыходзіць угору і там загінацца некуды ў непрасвяцімую цемру.

— Усё. Роўныя пліты,— чамусьці шэптам сказаў я.

Прамяні паплылі ўгору, асвятляючы яйкападобнае скляпенне.

— Усё як на істужцы.

Сапраўды, круглая цямніца сажняў сямі ў акружнасці. І унь пляма, пазнейшай за яе камяні, але на гэты раз дужа-дужа даўняй кладкі: закладзены ход у ніжнюю камору. Закладзены тры стагоддзі назад.

І зноў я бачу нібы толькі густую цемру. Чую толькі голас з вышыні:

— Тут вам і ложніца, тут вам і жыць... Скарб адзедзічыце... Будзеце вы там вартаўнікамі, і жывым вас не даклікацца.

І яшчэ, яшчэ я чую звон апаленай плінфы аб другую і шорганне кельмы аб камень.

— Вартаваць да веку вякоў,— чую я.

Сташка асвятляе мой твар і кажа:

— Глядзі.

Ля мура я заўважаю купку праху. Рэшткі дзежкі, якая даўным-даўно рассыпалася на порах. Па камянях павольна-павольна, адна за адной спаўзаюць слёзы даўно ўжо нікому не патрэбнай вады.

І там мы знайшлі тых, каго шукалі. Яны ўсё ж дачакаліся. Жывыя ўсё ж даклікаліся іх. Але ім гэта было «ўва векі вякоў», усё адно што ніколі.

Ля самага мура блізка-блізка адзін да аднаго і пры жыцці, магчыма, абняўшыся, а цяпер проста блізка, ляжалі два касцякі. І ўвесь іхні жах адзін за аднаго і за сябе, і безнадзейнасць апошніх імгненняў раптам успляснуліся і затапілі ўсю маю бедную існасць.

Жахлівы старадаўні цынізм нібы самкнуўся з бяздоняй цынізму сённяшняга, таго, бязлітаснага, у цісках якога біўся я і гэтыя людзі ўсе гэтыя беспрасветныя месяцы.

Два. Абняўшыся?

Я ведаю, як вы зараз паглядзіце на маё апавяданне.

Меладрама? Гамлет з чэрапам? Шкілеты флінтавых ахвяр на «востраве скарбаў»? Баярын Орша?

Дудкі, каб вам ніколі не бачыць таго, што ўбачыў я і ўсе яны!

Таму што быў там адзін штрых, ад якога я доўга не мог адчуваць сябе поўнасцю жывым. Ад якога дагэтуль, калі ўспомню, прабіраюць дрыжыкі. Агіды да некаторых з пароды людской. Той апошні жах, за які выдумшчыкаў такіх меладрам паложана, уласна кажучы, біць па мордзе.

Пад тазавымі касцямі жанчыны ляжалі тонкія, як курыныя, жалкія костачкі.

...Дзіцяці, якое так і не нарадзілася.

...Валюжыніч у цемры кладзе руку на плячук жанчыны.

— Нічога. Мы сустрэнемся. Мы вечныя. Няма мяжы шэсцю нашаму па зямлі.

«Не. Мы выйдзем, мы выйдзем адсюль, Ганна Гардзіслава. Мы выйдзем адсюль, Сташка».

Хістаючыся, я выбраўся наверх, адышоў як мага далей і сеў на траву, нібы мне падсеклі ногі. З мяне было досыць.

Як праз вэлюм, я пазнаваў Сташку, Хілінскага, ксяндза.

Я стрымліваўся ад мата, толькі ўважаючы на гэтых трох. Ён нічым ужо не мог дапамагчы, я ведаў, што вось пралом у вежы, вось чорнае зеўра атвора, а там, унізе, яны. Трох. І я нічым ужо не дапамагу. Ні ім, што ўсё ж зведалі найгарчэйшае і найвышэйшае на зямлі. Ні яму, які ніколі не ўбачыў ні зямлі, ні яе святла.

Хаця кожная душа створана, каб гэтае святло

бачыць. І хто пазбаўляе яе гэтага, той губіць навекі тую душу. І яшчэ болей сваю, хаця праваліся ён разам з ёю.

Мат, па-мойму, толькі і створаны, што для такіх выпадкаў. Калі мужыку ўжо нельга іначай. Калі, здаецца, узялі верх здзек, катаўство, расстрэлы, добра прадуманыя пакуты.

Калі іншага выйсця няма. Іначай падступіць да глоткі і неадкладна задушыць гнеў.

— Хадзем,— сказала Сташка спалохана.— Хадзем адсюль. Унь туды.

Мы мінулі замак, мосцік і селі, каб не было відаць ні муроў, ні вежаў. Пад старадаўнімі ліпамі, у густой і свежай зялёнай траве.

— А той няхрышчаны,— бязгучна сказаў ксёндз.— Пагубленая душа.

— Пагубленая. Для зямлі і сонца.

— Смертная душа.

— Так. Гэтая — сапраўды смертная.

— І няма, мабыць, больш смяротнага граху за гэты,— апусціўшы галаву, сказаў ксёндз.

— Так. І помсты яму няма. І няма яму адплаты.

— Няма адплаты? — Галава раптам ускінулася.— Няма адплаты?!

Вочы яго ныя былі не такія, як заўсёды. Вар'яцкія, амаль аблуканыя вочы.

— Уставайце. Хадземце са мной... Вы можаце ісці на раскоп, Станіслава.

Ён ішоў наперадзе так, што я, чалавек з шырокім крокам, ледзь-ледзь паспяваў за ім.

— Раней бы. Раней,— мармытаў ён.— Праўда, што гэты, Высоцкі, выдаў тады, у Кладна?

— Так.

— То ж бо мне здавалася, падобны... Не даў веры... Не сам адплачу.

І зноў мармытанне:

— Цяпер позна што-небудзь мяняць. Жыццё пройдзена.

— Ніколі не позна.

— І потым, добрым можна быць амаль паўсюль. Няўжо вы думаеце, што такі ксёндз, як я, горшы за такое быдла, як Альшанскі князь, нягледзячы на ягоныя тытулы, на багацце?.. Не... Не...

Ён падбягаў да касцёла:

— А я думаў, фундатар. А я думаў, амаль святы. Двойчы здраднік. Забойца стольківх жывых. Забойца дваіх гэтых. Забойца неўміручай душы.

Шалёна кінуў позірк на мяне.

— Няма адплаты? Няма адплаты? Хадзем са мной. Пачакай, навалач.

Што гэта было за аблічча?! Аблічча старадаўніх прарокаў. Прыгожае застрашлівай і смертаноснай прыгажосцю, якая ўжо ні на што не пакідала спадзяванняў.

Ён зайшоў у невялічкі пярэдні пакой, уласна адгароджаны куток між унутранымі і вонкавымі дзвярыма Мультанавай вартоўні, і выйшаў адтуль з ломам, які перадаў мне. Сам ён па-ранейшаму трымаў у руках кірку і брудны лантух ці посцілку, скручаную ў нейкі бязладны, хаатычны спосаб.

— Вось. Мяркую, хопіць.

Зялёны паўзмрок — праз лістоту — ліўся ў ніжнія вокны касцёла. І чыстае, нічым не зацененае святло ў верхнія вокны. У снапах гэтага святла скакалі рэдкія пылінкі. У левым нефе маці божая на іконе, мяркуючы па ўсім, пэндзля Ромера, плыла між аблокаў, узняўшы вочы ад грэшнай зямлі, ад усяго, што нарабілі на ёй людзі, і ад надмагільнага помніка князя Альшанскага.

Адзіны прамень з верхняга акна падаў на твар з зеленаватага мармуру і нібы ажыўляў яго. Шырокае мужнае аблічча, пры жыцці, мабыць, нібы з металу кутае, пахмурыя густыя бровы, рассыпаная грыва валасоў.

І гэтая складка ў цвёрда сціснутых вуснах. Цяпер я разумеў, чаму мне не хацелася падчас першай сустрэчы звязвацца з гэтым чалавекам пры жыцці. Бо я *ведаў*, што́ ён у гэтым жыцці нарабіў.

І не цвёрдасць была ў гэтым прыкусе, а нялюдская жорсткасць і пэўная сабе да канца здрадлівасць.

Хлуснёю была рука, што ляжала на эфесе мяча.

— Якая на Евангеллі ляжала,— нібы адказваючы маім думкам, сказаў ксёндз.

Я апамятацца не паспеў, як рука Жыховіча маланкападобна ўзвілася ў паветра.

А пасля ён нанёс скрышальны цёс кіркаю па гэтай мармуровай трупна-зеленаватай руцэ. Мармур пырснуў кавалкамі ва ўсе бакі. Я ледзь паспеў перахапіць

руку айца Леанарда перад другім цёсам. У аблічча, якое так нагадвала мне штосьці. Аблічча, акрэсленае, адмечанае ў сваёй беспрынцыповасці і бяздушнасці нібы самой эпохай. Дый ці адной ягонай эпохай.

Счарсцвелы, бязлітасны, цмочы твар.

Мне ледзь удалося справіцца з ім. Бо ў сваім узбуджэнні і агрэсіўнасці ён нібы набыў сілу добрых дзесяцёх чалавек. І, мабыць, з дзесяццю мог бы даць сабе рады. Я забыў, як гэты стан завецца медыкамі. Афект? Не, ёсць іншае слова.

Але ўсё ж мне пашанцавала ўтаймаваць гэты выбух несамавітай сілы.

А я падумаў, як працавалі б вось гэтыя яго сялянскія, звыклыя да працы, жылаватыя рукі. Падумаў зусім у духу аднаго з нашых паэтаў.

— Пабойцеся бога,— ускрыкнуў я, дужаючыся з ксяндзом.

Але ён ужо звяў. На месца вулканічнага ўсплёску ненатуральнай сілы прыйшло заспакаенне. Як заў сёды ў такіх выпадках.

— Што вы робіце? — ужо цішэй сказаў я.— Гэта ж каштоўнасць.

— Каштоўнасць не будзе горшая ад невялічкай выбоіны... І нават цікавей будуць на яе глядзець разявакі.

Ён пайшоў у нейкі закутак левага нефа і спыніўся перад абабітай кутым жалезам дзверцай. Дастаў з кішэні вялікі ключ. Адамкнуў дзверы, якія падаліся з лёгкім рыпеннем, адкрыўшы вачам сходы, што збягалі ўніз.

Ён не запрасіў мяне з сабою, але і не гнаў. Таму я таксама стаў спускацца на невялікай адлегласці за ім. Ён крочыў, нібы яго вёў нехта, і ўсё мармытаў:

— Ачысціць... Прэч... Прэч.

З усіх саркафагаў адзін быў з таго ж мармуру, колерам амаль як зеленаваты нефрыт. Крышка на ім была далоні ў дзве таўшчынёй і, відаць, цяжкая. І акурат пад гэтую крышку ксёндз загнаў востры з аднаго канца, нібы заточаны, лом.

— Вось табе і падважнік.

— Паб'яце.

— Нічога. Гэта не жыццё чалавечае разбіць. Памажыце.

Мы наляглі з усёй сілы. Урэшце крышка паддала-

ся і адсунулася сантыметраў на трыццаць — сорак.

Я ўсё яшчэ не разумеў, што ён збіраецца рабіць.

— Яшчэ. Яшчэ. Шкада, што не раскалашмаціў хаця б мармуровую морду.

Святло з чатырох невялічкіх акенцаў, што наўкос, зверху ўніз, вялі ў сутарэнне, падала на яго суровы, раптоўна нібы падсохлы твар.

— Я даб'юся, каб яе выкінулі адсюль, гэтую мардасіну,— у яго зноў быў выгляд шалёнага: фанатычны рот і вялізныя, вадка бліскучыя вочы.— І без таго колькі часу паветра паганіў. Слуп веры. Заснавальнік храмаў, фундатар касцёлаў. Антыхрыст!

— Спыніцеся,— толькі тут здагадаўся я.— Не трэба. Гэта ж апаганьванне праху.

— Так,— ён вадзіў сашклянелымі вачыма,— смяротная кара за смяротнасць... Забойства адной душы... з трох. Так, апаганьванне праху. Толькі думаецца мне, што гэта рэдкі выпадак, калі паганец той, хто не апаганіць прах. Такі прах! Не месца тут гэтаму калу. О пане мой, Езус!

Ён рассцілаў на падлозе радзюгу.

— Я ведаў дагэтуль адзіны выпадак такога ўздаяння, такой адплаты. Прах Мартынава[1]... Адплата боская... Закон... Не думаў, што другі выпадак тут, што мне давядзецца ўздаваць.

Апусціў галаву:

— Урэшце ваша прысутнасць... Я не патрабую яе тут.

Я не прымусіў доўга сябе ўпрошваць. Выйшаў і пайшоў да касцельнай агароджы.

Здалёк відаць быў стаў, куды бліжэй кучаравыя купы дрэў вакол замка. Яшчэ бліжэй дарога і злева ад яе моцна забалочаная нізіна. Ці моцна зарослае балота? Мне цяжка сказаць. Была гэтая вялікая яміна ніжэй узроўню рачулкі. Прынамсі, зараз, калі некалькі ўжо дзён стаяла суш. І таму ў балацявіну тую млява і лянотна тачыліся кроплі рудой ці то вады, ці то гразі.

Але ўсё адно на наваколле глядзець было весялей і ўцешней. Досыць з мяне было за гэтыя дні падзей:

[1] Мартынаў Мікалай Саламонавіч (памёр у 1875 г.) — забойца М. Ю. Лермантава. Пасля рэвалюцыі ў маёнтку Мартынава быў дзіцячы дом. Выхаваўцы ягоныя выкінулі косткі Мартынава з магільні на сметнік.

усіх гэтых катакомбаў, сутарэнняў, цямніц, шкілетаў.

Я выйшаў у браму і сеў на лавачку пад ліпамі. Думалася нешта ўсё пра дурное. Што вось і скончыліся мае пошукі, а ўсё адно застаецца адчуванне нейкай незавершанасці, нібы скончыў алфавіт недзе на трох ягоных чвэрцях. І яшчэ думалася пра ліпы, што вось ужо досыць скора ім цвісці. І ўспомніўся герой нейкага твора, пакаёвы інтэлігент, які цэлы дзень хадзіў па кватэры і абураўся, што вось недзе кошкі нагадзілі, а ён аніяк не можа разабрацца дзе. І толькі вечарам высвеціў, што гэта зусім не кошкі ў кватэры напаскудзілі, а гэта на вуліцы ліпы расцвілі.

Жыховіч з'явіўся недзе хвілін праз сорак, кінуў да ног вузел і сеў побач са мной. Відаць, не столькі перапачыць, колькі зрабіць яшчэ адну — і наступальную — спробу апраўдацца, праўдзівей, пераканаць у сваёй рацыі.

Я ведаў, што было ў вузле. Косткі і чэрап, загорнутыя ў радзюгу. Выграб-такі іх у дарэмным непатольным гневе. Нібы працягваючы свае думкі, ціха сказаў:

— Я й то думаю, я й то баюся, што дрэнныя былі модлы, што людзі ўзносілі на гэтым месцы шмат стагоддзяў. Таму што гэтае падла ляжала тут. Як модлы ў карчме, як модлы на гнаішчы, даруй мне, маці Вастрабрамская.

— Нашто вы гэта,— слаба супярэчыў я.— Хіба яму не ўсё адно?

— Гэта для вас усё адно. А яму не ўсё адно. І мне не ўсё адно. Таму што я веру ў адрозненне ад вас. Веру, што ён зараз недзе там скрыгоча зубамі. Нават калі ахвяраваннямі, нават калі фундатарствам купіў сабе чысцец замест пекла, дзе яму вечна належыць быць.

Некалькі дзяцей, якім, відаць, абрыдла важданіна людзей каля замкавых падзямелляў, з'явіліся на вільготным сакавітым паплаўцы каля балацянкі і пачалі піхаць нагамі сюды і туды футбольны мяч.

Жыховіч глядзеў праз іх.

— Скрыгоча, бо няма і не будзе спакою ягоным,— ён памаўчаў,— г.... косткам. А думаеце, ён яго купіў? Не купіў і не купіць.

Устаў і панёс вузел да балацявіны. Стаў над ёю,

калі адна з яго ног правалілася, і сыпануў з посцілкі нешта такое ў дрыгавінне.

А пасля падкінуў у паветра нешта круглае і пад'ёмам, як сапраўдны форвард, паклаў гэта ім у ногі. Выгляд у яго быў пры гэтым страшнаваты.

— Гэй, ану, вам яшчэ «мяч».

Зацікаўленыя хлапчукі пачалі падыходзіць да «мяча», купчыцца вакол.

— І хай табе, цмоча, змяюка смярдзючая, кожны ўдар там адгукнецца. Тысячакрат па тысячы разоў.

Я хацеў быў устаць, каб прыпыніць усё гэта. Пачынала гэта быць да бяспамяцтва агідным. Але тут вывернуліся аднекуль, спяшаючыся, відаць, да замка, Стасік Мультан і Васілька Шубайла.

Стах спыніў нагою кімсьці ўжо з запалам падфутболены «мяч».

— Цыц. Вы што ж гэта, шмаркулі? Гэта не да ладу.

Абвёў позіркам ксяндза, і позірк з-пад сівых валасоў быў няўхвальна-суровы.

— Гэта вы кінулі?

— Так.

— Та-а,— бязгучна сказаў Васілька,— кі-нуў.

— А нашто? — спытаў Стасік.

І тут я здзівіўся. Ксёндз нібы апраўдваўся перад гэтай малечай:

— Горш гэтага чалавека не было.

— То нагамі нашто ж ганяць?

— А што рабіць? — гэта спытаў я.

— Пытанне неразумнае,—Стах сказаў гэта салідна, як дарослы.— Яму гэта невядома яшчэ як. А вось яны, гэтыя, чаму вучацца?

Ксёндз звяў, нібы з яго выпусцілі паветра. Стах жмутком травы ўзяў чэрап у рукі.

— Я яго лепей унь, у багавінне, у посернае месца, кіну тады, калі яму ўжо там месца,— забурчаў Стах.

Панёс і сапраўды шпурнуў чэрап у самую сярэдзіну ржавай саладухі. Пасля чаго яны з Васількам аддаліліся спакойным крокам у бок рачулкі.

Дзеці пайшлі за імі, як ганаровая варта. Каля самых дальніх ліпавых замкавых абсадаў абкружылі маленькую постаць Сташкі. Стракатыя на стракатым поплаве. Сінявокія пад сінявокім небам.

— Ну вось,— уздыхнуў ксёндз, зноў сядаючы по-

бач.— А той не ўсміхнуліся дзеці. І маёй таксама. І невядома нават, дзе над ёю плакаць.

Сташка набліжалася. Жыховіч пацёр далонямі скроні:

— Цяпер давядзецца адказваць перад начальнымі. За бясчынства ў храме. Але я не мог дапусціць, каб у храме, як у краме. Як у разбойніцкім прытоне. Ведаеце, што Шоў сказаў пра Леніна? Недзе на мяжы дваццатых і трыццатых.

— Не. Не памятаю нешта.

— Ён сказаў: «...калі толькі гэты эксперымент у галіне грамадскага ўладкавання не ўдасца, тады цывілізацыя пацерпіць крах, як пацярпелі крах шматлікія цывілізацыі, што папярэднічалі нашай».

— Але...

— Адказнасць адчуваеце? Ну вось. І самазаспакойвацца рана, пакуль ёсць Майданакі, гінуць людзі, швэндаюцца па свеце і чыняць зло прамыя нашчадкі гэтай вось пачвары. Будзем мірыцца, дазволім ім засмечваць зямлю і неба — шэлег тады цана і цывілізацыі і нам. Нам, калі мы хаця на хвіліну дазволім жаху смерці кіраваць нашым жыццём. І таму я...

— Я сказаў бы пра ваш учынак іначай: «Святая веліч, святая нецярпімасць аднаго апаганшчыка праху».

Ён зноў пачаў бязладна і дужа ціха:

— Людзям вельмі патрэбна чыстае паветра. Трэба, каб лёгка дыхаць. Вельмі трэба чыстае паветра. Вельмі чыстае паветра.

Сташка падышла да нас.

— Чаго не йдзяцё?

— Не хачу. Не жадаю я на ўсё гэта глядзець. Гэта больш не мая справа.

— Ускрылі тую... ніжнюю камору,— сказала яна.— Такога я нідзе не бачыла. Хіба што ў эрмітажнай «залатой каморы». Чаго там толькі няма?! Кубкі, зброя каштоўнейшая, місы залатыя і срэбныя, манеты скрынямі, пярсцёнкі, бранзалеты, ажаролкі, зліткі і срэбныя і залатыя з каменнямі, кнігі, чашы для прычашчэння, дзіскасы, манстранцыі, кандэлябры, рэліквары, іконы дзівоснай работы і абклады — дзіва. Дараносіцы, паціры, крыжы напрастольныя, падвескі, браціны, каўшы. Эмалі, чаканка, чэрнь — у вачах рабіць. І дзесяткі каўчэгаў залатых: даку-

менты і, відаць, паперы на княскую годнасць і запавет тых Альшанскіх.

— Пляваў я на гэта,— працадзіў я.

— І я. Як успомню тых «вартавых» — плакаць мне хочацца. Ці варта было іх саміх усё тое, што яны вартавалі?

— А што ў новым замураванні?

— Не ведаю. Мабыць, нарабаванае камандай Розенберга (зноў жа каштоўнасці, карціны, іншае такое). І, відаць, тое, што апошні Альшанскі разам з немцамі тады закапаў, дый не вярнуўся.

— Дык, можа, і паперы ягоныя там? — спытаў ксёндз.

— Можа, і там. І, вядома, архіў.

— Ну, гэтым будзем займацца не мы,— сказаў я.— І, магчыма, нават не Шчука.

Ксёндз гнутка, нібы ніводнай костачкі ў ягоным целе не заставалася, устаў.

— Бывайце,— сказаў ён.— Ты заўтра едзеш, Косміч?

— Мабыць, так.

— А вы, Станіслава?

— Ну, мне яшчэ тут работы і работы.

— Та-ак... То не губляйце адзін аднаго. Згубленага не знойдзеш. Хто ўжо хто, а я ведаю. А з вамі да заўтра, Антоне.

І, абыходзячы касцёл, павольна пайшоў у бок плябаніі. Страшэнна самотны на гэтым пустынным касцельным двары.

— Мы не будзем губляць адзін аднаго? — спытала яна.

— Не будзем, калі ты ўжо так. Сапраўды, нічога няма лягчэй, як згубіць.

Мы не глядзелі ні ў бок касцёла, ні ў бок замкавых прысад. Мы глядзелі на поўдзень, дзе ўздымаліся адзін за адным — і ўсё вышэй і вышэй — зялёныя, сонечныя, як самое жыццё, узгоркі.

## Раздзел X

### *Бывай!*

Не думаю, каб калі-небудзь яшчэ міліцыю з Альшан праводзілі такім скопам і такім лікаваннем. Хіба што тады, калі разгромлена была пасля вайны банда Боўбеля, а сам ён, як лічылі, загінуў.

Дорага абышлася потым людзям гэтая «загібель». Але хто ж мог бачыць у сціплым Ганчаронку тую поскудзь. Шчука быў адзін з нешматлікіх, хто выслізнуў з ягоных кіпцюроў, дый то не бачыў «пагрозу наваколля» ў вочы.

Цяпер уся наша «кампанія» стаяла каля нашага «рафіка» і абменьвалася апошнімі цікавымі заўвагамі наконт нядаўняга і даўняга агульнага мінулага.

Археолагі ў поўным складзе, цвярозы, як шкельца, Вячорка, Мультан са сваімі малымі. Гэты, як заўсёды, балбатаў нешта ўдзячным слухачам.

— Дык я і кажу. Кундаль мой прызвычаіўся, каб яму здароўе, рыбу лавіць. І дахаты насіць.

— Гэ, дзеду,— торгаў яго Стах,— ведаем мы, як ён яе ловіць. Ты ўжо не фаліся.

— А як? Як?

— З куканаў ва ўсіх суседскіх рыбакоў здымае,— сцвярджаў бязлітасны Стах.

— Ну, скажаш. Мо і Васілька сведка?

— Та-а. Ён і яйкі крадзе. Я ж нічога нікому не кажу.

І Вячорка брахаў сваё:

— У мяне суседа пры немцах стараста дужа часта на лупцоўку пасылаў. За бабу помсціў. То той нашыў сабе на азадак, на порткі спадыспаду, кажушаную латку. Портак не здымалі, бо параўнанне не на карысць старасту было.

— Ай, Чэсевіч, брэшаш,— гэта Шаблыка.

— Праўду кажу. Але аднойчы даведаліся, то порткі загадалі зняць, і тут ужо й латка не дапамагла... Пасля ён старасту таго стрэліў.

Рагочуць Шчука і ксёндз.

— То і мяне падазраваў? — у Жыховіча на вачах слёзы ад смеху.— То чаго не сачыў?

— А ён,— ківок у мой бок,— і збіраўся. «Праса-

чыць бы, думае, за ім». І тут жа сам сабе адказаў: — Як.

— «Прасо-очыш. Ну, выйшаў ксёндз, зайшоў — гэта прасочыш. А вось хто да ксяндза пайшоў? Ты ж на цвінтары станеш, а не ляжаш пад яго дзвярыма. Як Ас».

— Ну, Холмс. І падумаць, што я тады над студняй уратаваў яму жыццё. І, шчыра кажучы,— гэта самая кепская справа, якую я калі-небудзь у жыцці зрабіў.

Гэта былі яны, мае людзі, маё кола, свет, у якім было не страшна, а лёгка жыць. І нават іхняя гаварлівасць у апошнія гэтым разам хвіліны з імі была даравальная, бо мы звыкнуліся адно з адным.

Маўчалі, праўдзівей, гаманілі ціха, толькі Сташка з Хілінскім. І па тым, як яны раз-пораз паглядалі на мяне, можна было здагадацца, аб чым ішла ў іх гаворка. Сташка была сумная і ціхая і болей ківала галавой у адказ на словы суседа.

— А Велінец — гумарыст,— залівалася чамусьці Тарэса.

— Добры сабе гумарыст,— бубнеў Сядун,— гэта ён з дзеўкамі гумарыст. А тады, у лагчыне... У яго ж за вонкавай кволасцю сіла. Ды гнуткая, як сталёвы прут, сціснутая, як спружына.

— Ты, пане Змагіцель, дзіўна разумееш свае адносіны з людзьмі,— удавана сердаваў Шчука.— Думаеш, чаму столькім ты насаліў, чаго яны гыркаюць нават на твой цень.

— Гэта не трубныя словы,— вельмі сур'ёзна і ціха сказаў «каўбой».— Жыццё маё сапраўды, а не з трыбуны належыць грамадству. І пакуль я жыву — мая прывілегія рабіць дзеля гэтага грамадства ўсё, што ў маіх сілах. Падабаецца гэта некаторым ці не. А я хачу дзеля яго поўнасцю знішчыць сябе да моманту, калі памру.

— Развітвайцеся,— сказаў Хілінскі,— час.

І быў я абцалаваны ўсім хаўрусам аж да апошняга. І зразумеў я, што трымаў сябе ўвесь час збольшага годна і як трэба. І гэта было добра, бо яны палюбілі мяне, а дабіцца такога — то была нялёгкая справа.

Усе мае селі ў машыну. Усе астатнія глядзелі на іх, не дужа ведаючы, што і казаць, як заўсёды ў апошнія секунды.

Стаялі купкаю. Адна Сташка стаяла наводдаль і не глядзела ў мой бок нават тады, калі мае ногі самі панеслі мяне.

— Бывай, Сташка.

— Бывай.

— Бывай, Сташка Рэчыц. Я дужа, дужа кахаю цябе. Я ўжо і не думаў, што мне будзе дадзена ў жыцці вось так пакахаць.

— І я.

Я ўзяў яе за плечы.

— Слухай мяне. Праз месяц скончыцца твой сезон. Я дужа хачу, каб мора чакала да сябе не мяне аднаго.

— І я таксама.

— І я вельмі прашу цябе, ты нікуды не заязджай, калі скончацца раскопкі. Ты адразу з вакзала ці там з аэрапорта прамуй да мяне.

— Так адразу?

— Мы з табой трыста з лішнім год ведаем адзін аднаго. І ўсё маладыя. Цяпер я хачу паступова, вельмі павольна старэць разам з табой. Досыць. Час пакласці канец майму «пад'езду кавалераў».

Усе маўчалі, калі я пацалаваў яе. Ніхто нібыта нават не бачыў.

І вось маленькая купка людзей пачала меншаць і меншаць. Пасля пачалі менець усечаныя шасцікутныя вежы, чорныя муры, ліпы, залітыя сонцам, арка брамы. Пасля, з гары, бліснуў на імгненне блакітам стаў, рэчка і яе рукаў, што трымалі замак у абдымках.

Мільгнулі званіцы касцёла, хаткі, рассыпаныя ў даліне. Усё тое, дзе я столькі часу перажываў жах, небяспеку, холад таямніцы, дзе я знайшоў цеплыню, сяброўства і каханне. Цяпер ужо назаўсёды, калі захоча гэтага лёс.

Узгорак вырастаў за намі, паступова закрываючы вёску.

— Бывай, Альшанка,— шапянуў я касцельнаму шпілю.— Бывайце, сябры. Бывай, Сташка мая. Бывай.

## Раздзел XI

### *«І герб радавы разбіваюць на камені тым»*

Зноў закруцілі, заматлялі нас дарогі. Вадзіцель не хацеў «даваць кругаля» цераз Кладна, а ўзяў напрамкі, і таму кіламетраў са сто нас не чакала нічога, акрамя польнай ці лясной дарогі. Я ўзрадаваны быў гэтым. Яшчэ не распаленае сонцам неба наперадзе, ззаду лёгкі вэлюм пылу, па баках нівы або шматкіламетровыя саборы з хвой, адхоны і яры, дубовыя раці, што цяжка выступілі на прырэчныя паплавы.

Недзе з гушчару таполя, якая невядома як трапіла туды, мяце па зямлі, сее па свеце спозненым пухам.

На палянах, на месцы разораных хутароў камяні ад фундаментаў, акацыі з яшчэ празрыстымі стручкамі. І паўсюль — раскідана — цвітуць на іх блакітныя касачы. І бэз там яшчэ месцамі дацвітае. І шкада робіцца хутароў і жыццяў, якія прайшлі на іх.

Урачыстая раніца змяняецца ўрачыстым днём. І добра ведаць, што ў свой час, яшчэ няхутка, дзень зменіцца вечарам, і ляжа ў лагчыне тонкі і нізкі туман, і зараніца будзе глядзець на людзей праз дрэвы. А пасля прыйдзе ноч. Для цябе ноч, а для кагосьці самы час жыцця.

Машыну па-добраму пагойдвала. Я вельмі люблю дарогі і думаю, што калі прыйдзе час і я не здолею ездзіць, то ці варта тады ўвогуле жыць.

Дарога сама як песня, і таму я часта маўчу, перапоўнены дарогай даверху. Вось так аднойчы спыталі мяне рыбакі на марскім промысле, чаго гэта я ўсё маўчу.

— Занадта хараша вакол,— толькі і здолеў адказаць.

Маўчаў я і тут. Хараша маўчыцца над бэзавалiловымі палямі канюшыны, над стральчастым лубінам у канавах.

І разгортвалі, разгортвалі вакол лясы свае чароўныя глыбіні.

Толькі як выбраліся ўжо на шашу, нехта насмеліўся выраніць слова-другое, парушыўшы пяшчоту і задуменнасць дня.

— Ну, чаго маўчыш? — спытаў раптам Шчука.

— Адстань,— кінуў Хілінскі, гасячы чарговы недакурак,— яму проста добра.

— Што, так ужо і зусім добра?

— Амаль добра. А наконт размовы — што ж? Хваліць — колькі я магу вас хваліць. Лаяць? Ёсць за што, але не хочацца. Крытыкаваць? Ну, па-першае, мяне самога з пачатку і да канца трэба нішчыць крытыкай (за выключэннем некалькіх здарэнняў), столькі я за лічаныя тыдні нарабіў глупстваў, у якіх сам дагэтуль яшчэ не да канца разабраўся.

— Няўжо не да канца? — спытаў Шчука.— Па-мойму, галоўнае зроблена.

— Па-мойму, галоўнае аніяк не зроблена. Па-мойму, да галоўнага мы і не прыступілі. Але гэта ўжо вам, Шчука, трэба рабіць. З мяне хопіць. І я на вас крыху злы.

— Ну-ну, наводзьце сваю крытыку. Толькі не знішчальную.

— Мала для вас і знішчальнай за вашу тактыку прамаруджвання і чакання. Сто разоў я мог загінуць. Нават пры той сустрэчы ў лагчыне.

— Кінь,— сказаў Хілінскі,— гэта ён зрабіў правільна. Калі ў тых ужо не было дарогі назад і не было магчымасці нешта аспрэчваць.

— Калі яны ўжо гатовенькія, на далоні былі,— сказаў Шчука.

— Ну, а каб я замест іх быў гатовенькі?

— Гэтага б не дапусцілі.

— Ох, і не любіце вы ўсе крытыкі! Як чорт ладану!

— А хто яе любіць?

Раптоўна абуджаная імі ўва мне злосць патрабавала выйсця. Але крык у такой спрэчцы — апошняя справа. Трэба было ўзяць на ўзбраенне самую моцную зброю: крыху брахлівы сарказм і крыху разбэшчаную іронію.

— Вы, мілы Шчука, забылі, што грамадства (а асобныя людзі тым больш) не можа прагрэсіраваць без крытыкі. Іначай — балота. І вам бы не лаяцца, а даць крытыкам і крытыцы волю і бяскарнасць.

— Усім?

— Ну так. І не толькі прапановам, якія вам зда-

дуцца прыстойнымі, цікавымі, нават дзяржаўнымі, але і тым, якія здзіўляюць замарожаных судакоў вонкавым блюзнерствам, непрыстойнасцю, нават, на першы погляд, ерэтычнасцю.

— А гэта нашто?

— А гэта на тое вам вочы і дадзены, каб разабрацца, дзе вас крытыкуе крытык, а дзе зладзюга ці чокнуты, дзе чалавек хоча выправіць справу словам, а дзе пайсці на недастойны прыклад.

Шчука выглядаў на трохі ачумелага:

— Напрыклад...

— Напрыклад, можна з лекарскага пункту гледжання проста *патрабаваць* ад жанчын, каб яны загаралі нагія, трубіць аб жыццёвай неабходнасці гэтага для здароўя. Але няхай яны займаюцца гэтым на жаночых пляжах, а не на газонах уздоўж усёй Паркавай магістралі. Гэта немэтазгодна.

— А што, гэта было б нават цікава,— хмыкнуў Хілінскі.

— Вось-вось, я і кажу, што вы слабы, падатлівы на ўсякае падбухторванне і непрыстойнасць матар'ял.

— Ну а больш сур'ёзны прыклад? — Шчука ўсё яшчэ не сунімаўся.

— Ну, хаця б Маркс.

— Ён пры чым?

— А пры тым, што зрабіў святую справу, склаўшы смяротны прысуд прыватнай уласнасці. Класіфікаваўшы яе як рабунак суседа.

— Нешта не дужа даходзіць.

— Ну а каб ён, давёўшы, што прыватная ўласнасць — рабунак і гвалт, узяў бы ды аддаў грошы проста скарбу, а пасрэдніка, домаўласніка, што з'явіўся за каморным,— застрэліў як рабаўніка і гвалтаўніка?

— Дык што рабіць домаўласніку?

— Прыслухацца да крытыкі. А паколькі зрабіць гэта ён арганічна не можа, бо людзі, глухія да крытыкі,— безнадзейна хворыя людзі, то што ж, за Маркса гэта з часам зробіць рэвалюцыя.

— Та-ак. Цікавыя вы рэчы кажаце, Косміч.

— Правільныя я кажу рэчы. Бо, шчыра кажучы, ніколі мне нікога не хацелася так раззлаваць, як зараз вас.

— Чаму?
— Ад злосці мазгі часам яснеюць.
— І ў вас? — азваўся Хілінскі.
— Праяснелі яны зараз і ў мяне.
На шлях, на ўсё больш рэдкія лясы паабапал яго, клаўся ўжо мяккі і ласкавы летні прысмерак. Пачыналі ўжо недзе далёка-далёка мігцець першыя агні вялікага горада.
— Што змоўкнуў? — спытаў Шчука.
— Ласкавы прысмерак,— сказаў я,— агні. А вы хаця й дбалі пра мяне, хаця і амаль на сто працэнтаў забяспечылі ахоўвай маё жыццё, але не дужа дзяліліся са мной сваімі меркаваннямі і адкрыццямі. Не сказалі нават, што падазраеце іх, што сочыце за імі. І ў гэтым ужо была для мяне... Словам, праз гэта я мог бы не ўбачыць ні тых агнёў, ні прысмерку... Што ж гэта? Атрымоўваецца, што вы мяне як падсадную качку трымалі? Бывае ў нас такое?
— Увогуле — не,— сказаў Шчука і дадаў пасля паўзы: — Але часам, у апошні момант нейкай справы, усё ж здараецца, калі іншага выхаду няма.
— І цяпер вы задаволеныя,— мяне нібы нешта альсніла.— Не падумаўшы аб тым, што ад сувалкі гэтага пырніку яшчэ засталіся ў зямлі карані. Што ж, вы проста заслугоўваеце пакарання.
— За што?
— За тое, што вы мяне дурнем выставілі, пусціўшы па слядах «гістарычнага» злачынства. І праўда, на што ж я яшчэ, лабідуда, прыдатны. А сучаснасць? Ну, тут ужо не, тут вам і карты ў рукі.
— Куод ліцэт Іёві, нон ліцэт бові,— іранічна сказаў Адам.— Што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку.
— Па-беларуску гэта лепей: «Што папові можна, то дзякові зась».
— Пакрыўдзіўся? — спытаў Хілінскі.
— Не. Проста тады не трэба было патрабаваць, каб я капаўся і ў тым смецці. Давер на давер — добры прынцып. Нельга яго прытрымлівацца — давайце жыць больш афіцыйна.
— Ну каб так — Клепча меў бы больш поспех у развіцці сваёй гіпотэзы,— сказаў Шчука.
Але мне ўжо трапіла важжа пад хвост.
— Толькі і я не лыкам шыты, як кажуць рускія.

Мы тэж не яцы-тацы, а цваняцы[1], як кажуць палякі, і не нагою смаркаемся, як кажам мы.

— Ну-у, чым жа ты гэта давядзеш? — крыху ўжо кпліва, хоць і бяскрыўдна, спытаў Шчука.— Цваняк, лыкам шыты і нагой смаркаты.

Горад, заліты агнямі, быў ужо вакол нас. Пахучы, вясёлы, светлы, вірлівы натоўпам нават уначы.

Машына паварацiла на нашу вуліцу.

— Давядзецца нешта давесці вам, гэткім разумным. Проста ў якасці справядлівасці, у якасці звычайнай кампенсацыі за маральную шкоду.

— Іначай...

— Іначай разбірайцеся далей ужо самі. Даўжэй, чым гэта зраблю я. А я ўмыю рукі.

— Ну, ведаеш.

— Вы заслугоўваеце пакарання, паўтараю.

— Але якім правам?..

— Тым, што я ўвесь час думаў пра гэта, што я не забываў ніводнага слова, ніводнай дробязі. Што я ўвесь час камбінаваў імі. Пачасту мозгам, а не следствам. Кеміў, а не шукаў.

— А што ж... А гэта не будзе процізаконна?

— Гэта не будзе супраць аніводнага з дзесяцёх запаветаў.

Мы выйшлі з машыны ля нашага «пад'езда кавалераў». Шчука ўсё яшчэ муляўся.

— Ды хадзем,— раптам сказаў Хілінскі.

— Тады хадзем. Дайце ўжо мне хоць такую сатысфакцыю.

— У сэнсе задавальнення? Д-добра. Куды?

— Туды. І паглядзім, які вы, Шчука, з некаторымі сябрамі цваняк.

Мы сталі падымацца па досыць скупа асветленых сходах.

— Як адзін дужа культурны, у інстытуце культуры выкладаў, цытаваў Рылеева: «Куда ты ведешь нас? Не видно ни зги!»

— Ясна куды,— сказаў Хілінскі,— на каньяк. Да сябе ў госці.

Я не збіраўся іх весці ні на які каньяк, тым больш да сябе. Яшчэ чаго не хапала? Гэта значыць, я ім каньяк, у падзяку за тое, што яны мяне будуць пашы-

---

[1] Мы таксама не сякія-такія, а спрытнягі.

ваць у дурні. Ды яшчэ адчуваючы поўнае задавальненне.

— Куды ты? — сказаў Шчука.— Да вас жа вышэй паверхам.

Але дзверы ўжо адчыніліся на мой званок, і ў светлым прамакутніку на фоне масайскіх шчытоў і дагамейскіх дзідаў узнікла постаць Вітаўта Шапо-Калаур Лыганоўскага.

Разумнае, крыху з'едлівае аблічча. У вачах іронія і дасціпнасць. Больш за ўсё мне хацелася б у гэтую хвіліну сказаць:

— Падымаемся. Ёсць гамерычны каньяк.

Замест гэтага я сказаў з выглядам, нібы напярэдадні, скажам, выспаўся ў яго на дачы. І не ў ложку, а абрыдліва п'яны на клумбе з яго ўлюбёнымі ружамі: і ў самога паўсюль стрэмкі, і чалавеку хаця ў вочы не глядзі.

— Вечар добры.

Нешта дзіўнае з'явілася ў яго вачах, калі ён паглядзеў у мае. Пільна, нібы пранікаючы. А пасля тое нешта пачало аддаляцца, знікла. Зразумеў.

— А-а, вы ўсё ж прыйшлі, Косміч. Не чакаў так... позна. То бы рана...

Ён заўважыў Хілінскага і Шчуку:

— І вы тут... Добра, заходзьце.

— Усё ж мы прыйшлі,— сказаў я.

— Што ж, хоць і не чакаў (а, гледзячы на вас, варта было чакаць) — рады. Недаацаніў мазгі сучасніка.

Ён казаў гэта з іроніяй. А ў вачах жыло нешта глыбокае, нібы злавеснае. І цень нейкай усмешкі, і дараванне — тысячы выразаў.

Урэшце гаспадар працягнуў Шчуку руку:

— З імі мы даўно ведаемся. Хаця і не зусім па правілах. Ну, будзем знаёмыя... Князь Вітаўт-Ксаверы-Станіслаў Альшанскі. Лыганоўскага можаце адправіць на могілкі імён. Тым больш што я дзеля гэтага дакумента нікога на той свет не адправіў. І ўвогуле, асабіста — нікога... Ну вось. Альшанскі.

— Ведаю,— сказаў я.

— І я ведаю, што гэта так. Адкуль з'явіўся першы цень здагадкі, прашу прабачэння і калі гэта не сакрэт?

— Гены,— сказаў я,— фамільная схожасць.

Ён адразу нібы павесялеў.

— А-а, статуя ў Альшанскім касцёле. Усё ж, значыць, спачатку была выпадковасць. Каб не яна... І хацелася ж мне змязджыць ёй твар — радзінныя забабоны перашкодзілі. А пазнавалі. І вы, і тая археолаг, і ксёндз, калі я заходзіў у касцёл. Круцілася нешта ва ўсіх у галаве. У вас і дакруцілася. Выпадковасць.

— Тое, што здарылася пазней (і раней), аніяк не было выпадковасцю. Хаця вы і яшчэ некалькі разоў нарываліся на выпадковыя неспадзяванкі.

— З вамі,— сцвярджальна сказаў ён.

— Чаму такая ўпэўненасць? — спытаў Шчука.

— Ды чаго мы тут стаім? — сказаў гаспадар.— Праходзьце ды сядайце.

Мы размясціліся на нешматлікіх сучасных рэчах у гэтай хаце, на крэслах і на тахце каля чайнага століка. А з усіх бакоў на нас выскалялі морды дужа несучасныя скульптуры і маскі, пагражала яшчэ больш несучасная зброя. Адчуванне было, як у запрошаных на вячэру да людаедаў. Не ў якасці гасцей, вядома, запрошаных, а ў якасці кароннага далікатэсу.

— А ўпэўненасць таму, што я дэтэктывы таксама часам чытаю. Схема адна: пратакол допыту, ордэр на вобыск, які праводзіць лейтэнант. Яго старэйшы калега ў гэты час у машыне праз тэлефонную трубку наводзіць патрэбныя спраўкі аб іншай машыне (марка, прыватная, колеру суніцаў з малаком, едзе па вуліцы імя Пілата, вадзіцель такі і гэтакі). Прыблізны раён і вуліца. Участковы атрымоўвае прыкметы — і праз некалькі дзён адрас вядомы... Ну, тут запрос у цэнтральную картатэку. Праз тыдзень палкоўнік мае біяграфію злачынца з турмой, амністыяй, характарыстыкай... А далей як па масле. Спынілі: «Рукі ўгору!» Пры спрытным злачынцу — перастрэлка.

Закурыў:

— Нічога гэтага не будзе. І перастрэлкі таксама. Бо — досыць стандартаў. І ўвогуле, мне ўсё абрыдла, калі я пачаў бачыць, чым гэта ўсё канчаецца. А асабліва калі ўбачыў брыдоту запусцення на месцы дзеяння.

— Ну так,— сказаў я.— Адразу адпала ахвота прыдбаць кінутае там. Падумаеш, права — хай намінальнае — на валоданне выбаровай ямай.

— Вы што ведаеце? — сказаў ён з дакорам.— І што вы можаце ведаць аб маім стане. Стане *сапраўды апошняга*, які хоча хоць памерці пад сваім імем.

— А дарэмна. Выдуманае прозвішча Лыганоўскі было яшчэ не так, не да канца скампраметаванае, як ваша сапраўднае. Тут ужо вы пастараліся новае прозвішча ўсямерна запэцкаць.

— Як запэцкаць? Злачынствамі, вартымі нейкага гіцля? А *іхнімі* ўчынкамі я ганарыўся. Іхнія ўчынкі пасавалі і адпавядалі ім, былі ім да твару. Вы памятаеце...

— Я нічога не памятаю. Я проста думаў над усім, што бачыў і чуў. Дык вось, вы пайшлі з дому яшчэ юнаком. Так? Захапіла тагачасная барацьба ўсіх супраць усіх. І ўсіх супраць санацыі. Нават прадстаўнікі арыстакратыі...

— Ведаю, што хочаце сказаць. Я б сказаў асабліва сапраўдная арыстакратыя саромелася таго, што Пілсудскі родам з гэтых мясцін. Непадалёк.

— Супакойцеся. Ад яго бацькоўскага фальварачка застаўся толькі падмурак... А вы блукалі: Прага, іншыя краіны пасля (гэта з вашых намёкаў).

— Афрыка.

— І паўночна-заходняя Індыя. Рака Нарбада. Полюс біялагічнай недаступнасці. Кветка, якая расце там... Адзін малады чалавек, мабыць, усё ж прайшоў там. Напэўна, у нейкім скафандры.

— Угм. Другі мой ляп. Жыхары вакол гэтага «полюса» і іх схільнасць.

— Каб жа ж другі. Мо ўжо дзесяты.

— А я думаў якраз гэтым адцягнуць вашу ўвагу.

— Аб чым вы? — спытаў Шчука.

— Слухай,— сказаў Адам.

— Пасля вяртання на радзіму,— сказаў я.— Прыблізна за год да вайны. І *патаемная* сустрэча з бацькам. Чаму? Як вынік бацькавага розуму і прадбачлівасці.

— Так. Ён быў адзін з нешматлікіх відушчых. Ведаў, што ідзе навальніца і што яе лепей пераседзець.

— І таму вы ў Кракаве, а ён у Кладна. Так.

— Я — у Кракаве і Варшаве.

— Дзе вы, мяркуючы па ўсім, сустрэліся з бацькам, калі пачалася вайна.

— Так. Кладна было ў вас. Варшаву захапілі немцы. Чаму вы думаеце, што мы сустрэліся?

— Мяркую, ваш айцец здолеў у агульных рысах разгадаць таямніцу продкаў. І ў тых жа агульных рысах перадаў яе вам. На ўсякі выпадак. Я мяркую, што ён адкрыў вам, што ёсць Кніга, Ступка і Таўкач, трыяда, якая разам складае разгадку таямніцы. І што дзве часткі ў двух верных людзей. А трэцяя...

— Трэцяя была ў вартаўніка касцёла. Таго, што быў да вашага дзеда. Немцы, адступаючы, пакінулі яго ў спакоі. Але не пакінулі...

— Але не пакінулі апошнія пагранічнікі. Я даведаўся ў Мультана, што таго застрэлілі. Кнігу ён за непатрэбнасцю аднёс на гару да іншых рэчаў, што непатрэбныя, а выкінуць нібыта яшчэ шкада. І так самая галоўная частка згубілася з вашых вачэй.

— Так. Бацька, такі прадбачлівы заўсёды, тут на старасці нібы аслеп, нібы выжыў з розуму. Балбатаў з дружкамі з айнзацкаманды аб «дзіва-зброі», аб тым, што *тыя* вернуцца.

— І тым, праўдзівей сваёй смерцю (можа, не выпадковай), адсек яшчэ адну пуцяводную ніць. А «дружкі» загінулі таксама ў зменлівасцях падзей вайны. І цяпер нават прыблізна, нават няпэўна, па чутках ведалі пра сховы архіва, старога скарбу і таго, што нарабавала ведамства Розенберга, толькі тры чалавекі. Два бандзюкі — і нашым і вашым — і вы, апошні ліст на дрэве, квяціна ў крапіве.

— Хутчэй Хрыстос між двух разбойнікаў,— сумна пажартаваў ён.— Хаця не такі ўжо я быў і Хрыстос. Мне там нічога не было патрэбна, акрамя запавету (у мяне быў толькі скарочаны) і знойдзенай бацькам радаслоўнай.

— Ясна. Дрэва годнасці, якое столькі год было пад сумненнем і служыла нават прадметам кпінаў, трэба было аднавіць.

— Так.

— А вы не думалі, чаму не думае нічога даводзіць адзін з Хадкевічаў, што трымае ў Афрыцы птушкаферму? Ці адна з Радзівілавых, узнагароджаная за падполле ордэнам «Віртуці Мілітары»?

— Чаму?

— Ды таму, што ім *нічога не трэба было даводзіць*. Яны — гэта былі яны. І даводзілі, што яны ёсць

яны, «палякі, што ніколі не забывалі, што яны беларусы, беларускага высакароднага кораню» і ў падполлі, і ў партызанцы, і на барыкадах, і ў розных турмах. Гэтым даводзілі, а не радаслоўнай, ні няпэўнымі нават падазронымі «подзвігамі продкаў», ні сяброўствам са сволаччу, арыстакрат ён або бандзюга.

Ён нібы атрымаў поўху. Тарганууся:

— А вы не думаеце, што, вырашыўшы пазбавіцца і расказаць усё, я цяпер магу не сказаць нічога.

— Тады я раскажу ўсё за вас з большай ці меншай дозай пэўнасці.

— Нашто?

— Бо я ненавідзеў, і гэта навучыла мяне думаць. Стакроць інтэнсіўней.

Тут ён досыць ганарліва ўпершыню за час размовы ўскінуў галаву. Ільвіную сівую галаву продка з помніка.

— А я нікога не ненавідзеў і таму павінен быў скончыць паражэннем?

— Вы павінны былі ім скончыць, бо не ненавідзелі, а прымянялі сродкі, якія ўжывае нянавісць, ды яшчэ й самая беспрынцыповая... Вы ведалі мінулае гэтых вашых двух башыбузукаў.

— Так,— ён глядзеў некуды праз мяне сваімі доўгімі вачыма.

— І не пасаромеліся звязацца з імі. З трайнымі здраднікамі свайго краю. І тут была ваша апошняя спроба зрабіць з гэтых вялых паасобных пальцаў адзін кулак. Яны цягнулі ў розныя бакі. Вам былі патрэбныя толькі радавыя клейноды. Ну і, калі я не памыляюся, акрамя гэтых радавых грамат, была патрэбная. Словам, было патрэбнае нешта, каб легенда пра двух князёў Альшанскіх так і засталася легендай. Як назаўсёды засталася легендай гісторыя пра кляты богам замак Алелькавіча-Слуцкага на Князь-возеры... Што гэта было?

— Хроніка. Бязлітасная да нашага дому. Хранілася, каб ведалі і не дапускалі да яе нікога. Пра яе казала тая частка тэксту ў кнізе, якую вы так і не расшыфравалі.

— Угм. Ад забойства Валюжынічаў да клятвы князя на Евангеллі.

— Што яму было Евангелле? — паціснуў ён плячыма.

— Ён кляўся, што яны жывыя.

— Яны і сапраўды яшчэ два тыдні былі жывыя.

— Ну так. Што яму было да Евангелля? Як некаторым нашым сучаснікам да сумлення. Яму і дзіркі ў кнізе, перад якой сучаснікі трапяталі, было, як н... матцы ў вочы.

— Вы кажаце нечаканую праўду. Гэта здагадкі?

— Гэта думка. І памяць. І веданне тых людзей. І некаторых нашых. Дык вось, вам патрэбна было гэта. А бандзюкам, кожнаму паасобку, былі патрэбны каштоўнасці і архіў. На вочнай стаўцы вам гэта давядуць. І я не здзіўлюся, што яны збіраліся шантажаваць адзін другога і, магчыма, вас.

— Было.

— І яшчэ было тое, што была яшчэ адна група. Праўдзівей, падгрупа. Ад вас.

— Якая?

Я дастаў пачак «БТ», надрэзаў яго і працягнуў Лыганоўскаму-Альшанскаму:

— Закурвайце.

— Ясна,— сказаў ён,— занадта я тады звярнуў увагу вашу на Пахольчыка. Тады, падчас бяседы ля тытунёвай крамнічкі.

— І гэта было. І яно каштавала некаторым нават жыцця.

— Я не мачаў у гэта пальцаў.

— Так, вы не мачалі. Проста ваша пачвара пачала жэрці сама сябе. Па частках.

Шчука і Хілінскі пераглянуліся.

— Ці не досыць? — спытаў Шчука.

— Нашто,— сказаў Альшанскі,— я ж магу або разваліць яго разумовыя збудаванні-практыкаванні, або прызнаць іх. Мне ўсё адно. Трэба больш мужнасці прайграць, чым выйграць.

— Высоцкага вы зналі па сувязях яго з вашым бацькам. І іхняй агульнай сувязі з...

— Гэта вядома з кім. Не будзем выклікаць нябожчыкаў.

— Вы не разлічвалі на іхні мозг, толькі на грубую сілу. Але Высоцкі, бываючы ў горадзе, не губляў надзеі на свае мазгі. Яму нічога не каштавала выведаць у Мультана, што «нейкі з горада» ўзяў кнігу, нават прапаноўваў грошы, ды дзед не ўзяў. І таму тып з трайной мордай наведваў усе выстаўкі кнігі,

старых гравюр і іншага такога, на якія ён здолеў натрапіць, бываючы ў горадзе. І аднойчы яму нечувана пашанцавала. Ён сутыкнуўся з Пташынскім і напаў на след кнігі. Я здагадаўся, што гэта быў ён па словах Мар'яна: «сумесь вясковага і гарадскога».

— Не толькі ён бачыў. Гутнік, вядомы вам, бачыў. А самі ўпэўніліся, чысты як шкельца. І антыквар.

— І ў абодвух ёсць язык,— сказаў я.— Яны — ложны след. Але Гутнік быў добра знаёмы з тым маладзёнам... ну, што з вядром да смецця. А антыквар і вы — з мастакамі з майстэрань у нашым жа пад'ездзе.

— Адкуль гэта?.. Ага, масайскія дзіда і шчыт. «Не хадзіце, дзеці, у Афрыку гуляць».

— І гэта была зручная акалічнасць, тое, што Гутнік і антыквар таксама бачылі кнігу. Зручна было намовіць кнігалюба, каб званіў, нерваваў і без таго ўстрывожанага чалавека. А яшчэ зручна нібы шантажаваць і маладога са смеццем, і гэтых.

— Я не шантажаваў,— цвёрда сказаў Альшанскі.

— Правільна,— сказаў Шчука,— відаць, хапала на тое асоб і без вас.

— Я бы вас папрасіў, палкоўнік, не перашкаджаць зараз Космічу. Мне проста цікава, да чаго і як ён дайшоў. Дамысліўся. Гэта, можа, адна з апошніх маіх здагадак па псіхалогіі. А потым... потым я цалкам у вашым распараджэнні.

Шчука вымушана ўсміхнуўся.

— Я адразу здагадаўся: мая кніга,— сказаў лекар.— Я ўжо гаварыў, бацька апісваў мне яе перад уцёкамі. Заставацца яму — не выпадала. Застаўся я. Пераехаў з Кладна ў Мінск... Ну апісаў ён. Акрамя таго, гэтае апісанне кнігі перадавалася ў нашым родзе з пакалення ў пакаленне. Мне трэба было знайсці сапраўдныя граматы. Пасля мяне — каму ж? І потым, без гэтага лепей памерці. Як зраблю гэта я. Скора.

— Ну не так ужо скора.

— А пра гэта не вам меркаваць, Косміч.

— Чаму? — спытаў маўклівы, з пачатку размовы нават чымсьці ўражаны Хілінскі.

— Я не з тых, каму прызначаюць дзень і час згону. Я іх выбіраю сам. Давайце далей, Антон.

Мне проста цікава, як гэта вы пры вашым псіхічным стане здолелі да сяго-таго дакапацца.

— А вы — не здолелі, нягледзячы на тое, што былі адной з прыступак тых сходаў, якімі я спускаўся ў вар'яцтва. Вы шукалі кнігу ў Мар'яна, нават калі яе ў Пташынскага ўжо не было. Не падумалі, што кнігу вынеслі з ягонай хаты. Сардэчны друг Пахольчык меў рацыю: адзін Пташынскі не пасмеліўся б несці кнігу. Нейкае падсвядомае прадчуванне прымусіла яго купіць віно і кефір і паставіць мне ў партфель. Прымітыўная маскіроўка, але ў нас з прадаўцом была з гэтай прычыны нават уратавальная бяседа дзеля душы. Аб чым ён вам паспяхова і данёс. І, да пэўнага часу, спроб улезці ў маю кватэру ніхто не рабіў. Гэта — пасля.

— Так. Дагэтуль усё дакладна... Герард быў калісьці слугою і айца і мяне, і я прасіў яго назіраць за вамі. Пры ягонай цікаўнасці яму гэта было проста дарам нябесным.

— Ясна, чаму кожны мой крок быў вядомы. І гэта яшчэ адна з прычын, чаму я не тое што западозрыў вас, а ўжо не мог ставіцца з ранейшым даверам. Я не звязваў вас з Высоцкім аж да таго самага дня, калі Пахольчыка забілі. Высоцкі забіў, бо заўважыў, што вы баіцеся: прадавец зашмат ведаў і перавысіў меру вашага даверу да яго. Вы ж давалі яму проста слабы наркотык, уласна кажучы, сродак на сон, а ён так павысіў дозу, што сродак на сон стаў сродкам на вечны сон.

— Высоцкі загінуў,— хутчэй сцвярджальна сказаў доктар.

— Так.

— Н-да, я крыху нарабіў глупстваў. І недаацаніў сяго-таго... Прынамсі, застаўся б неапазнаным, каб не вы.

— Не засталіся б.

— Проста мэты няма. Таму я і гуляю ў паддаўкі. Ну добра, гісторыя з легендай пра даму і манаха.

— Часткова сасніў. Неадрыўна думаў пра яе цэлымі днямі і таму часткова сасніў. Не без уплыву вашага сродку. І ўменне раскопваць у той пагарджанай многімі гісторыі розныя дзівосныя рэчы. Вось так. Скарбы Галконды, фантастычнае багацце роду,

якое раптам знікла са смерцю старога Вітаўта, болей не вернецца ў род.

Альшанскі сядзеў нібы сшэрхлы. Анямела і нібы безуважна глядзеў на постаць нейкага ўсходняга бажка.

— А ведаеце,— нечакана сказаў ён,— я ўпэўнены, што прычынай смерці майго двайніка з магільні быў жах перад праклёнам Валюжыніча. Жах і чаканне. Ды яшчэ цені жонкі і манаха. Ён баяўся. Як дзікун баіцца праклёну чараўніка з суседняй вёскі. Ды яны і былі дзікуны. Нават гэты, вальнадумца, які ні ў шэлег не ставіў Евангелле, які прысвоіў грошы стогадовай даўнасці і грошы сваіх сучаснікаў, грошы радзімы. Скраў, і канцы ў ваду. Ды, відаць, далёка цягнуліся тыя канцы і плыткая была тая вада.

— І дарэмна было хаваць. І скарб, які нават трыста год таму каштаваў шэсцьсот тысяч золатам ды сем мільёнаў каштоўнымі камянямі. А якую лічбу ён заразкладзе — невядома. Астранамічную... І яшчэ скарб асабісты вашага бацькі і скарб айнзацкаманды. Ну і архіў, які дасць бяспеку тысячам і законнае пакаранне адзінкам з крывавымі рукамі.

— Мяне гэта не абыходзіць. Мяне датычылася тое, што з пляменнікаў старога Вітаўта пакеплівалі. А значыць, і з мяне, непасрэднага нашчадка. Цяпер не абыходзіць і гэта. Нават ганьба рэвізіі з тым Станкевічам на чале ўжо не абыходзіць нашага роду. Усё вярнулася на кругі свая.

— Зою вы мне таксама падсунулі?

— Ну не, спачатку яна сама.

Шчука ў непаразуменні абводзіў нас позіркам. Хілінскі паціснуў плячыма, нібы моўчкі сказаў мне: «Ну вось бачыш, усё так ці йначай выплыла».

— Я не збіраюся нічога хаваць ад следства, палкоўнік,— сказаў я.— Дзе вінаваты, там вінаваты. Прашу толькі, каб гэтую справу пакінулі ў таямніцы. Дзеля дабра аднаго мужчыны (не мяне) і адной дзяўчыны. Сам я гатовы адказваць, калі мяне ў нечым прызнаюць вінаватым. Чым вы яе ўзялі? Была вам абавязаная?

— Так. Многім.

— Грашыма? Зберажэннем добрага імя? Вы лічыце — гэта ўсё?

— Для многіх жанчын — усё.

— Ну, ясна. І калі мы парвалі ўжо з ёю, вы прымусілі яе ўсё ж заходзіць зрэдку. Правяраць на ўсякі выпадак, ці тут кніга, ці ў мяне? Якая ж у гэтым яе віна? Што шантажавалі знаёмствам са мной і іншымі? Годны, проста княскі ўчынак.

— Учынак Пахольчыка.

— Усё адно. Ён — ваша параджэнне... А яна, ужо не хочучы, магчыма, сапраўды кахаючы мяне, хлусіла. Завяла размову пра «Хванчкару», каб я пакінуў яе адну ў кватэры... І данесла вам, што ў Мар'яна — сэрца і што ён, тым не менш, не кінуў курыць.

— Ужо мне гэтыя памятлівыя на дробязі.

— Не толькі на іх. Вы падазравалі, ну на адну тысячную працэнта, што а раптам кніга можа быць і ў мяне, тым больш што той, са смеццем, падслухаў нашу размову з Мар'янам на сходах. І пасля па-суседску расказаў вам (памятаеце, я сведкам быў, як вы пра нешта гаварылі).

— Было,— лянотна сказаў ён.

— І вы, мяркую, можа, не ў той вечар, але папрасілі яго, каб дастаў яе ў маю адсутнасць. Абяцалі грошы. І гэта выклікала пазней спробу ўзлому маёй хаты.

Маўчаў. Ясна было і без слоў, што так. Урэшце азваўся:

— Ну тады яшчэ сумненні толькі былі. Усе — пераважна — думалі, што кніга яшчэ ў Пташынскага.

— І таму вы вырашылі ўсыпіць яго. Ці ж вы ведалі, што ўсё гэта аж *так* скончыцца? І вось Мар'ян сам купіў у вашага халуя пачак атручанай «Шыпкі»... Уся бяда была ў тым, што ваша правая рука не ведала, што робіць левая. Пахольчык падсоўваў «Шыпку» і ўсыпіў праз замочную шчыліну сабак, разлічваючы пагаспадарыць у кватэры падчас адсутнасці гаспадара. А ў гэты ж самы час Мар'ян ехаў на возера. Па запісцы на маёй паперы, здабытай Зояй і падробленай пад мой почырк кімсьці з вас... Вамі асабіста, Альшанскі.

— Зноў праўда. Што яшчэ?

— Ды ваша дзейнасць як атрутніка.

— Ого-го. Ды вы што, перакваліфікаваліся?

— Не,— сказаў я,— гэта мне падарунак зрабілі. А справай вашай...

— А справай *іхняй* і *вашай* цяпер займецца не

ён,— сказаў Шчука.— І нават не я. На жаль. А можа, як падумаеш, што непасрэдна ваша, гм... аблічча... бачыць буду куды радзей, то не на жаль. Хутчэй, на радасць. Кажыце далей, Косміч.

— Вам трэба было выбіць мяне з сядла, Альшанскі. Былі ў мяне, на ваша няшчасце, *дзве* размовы. Амаль адначасова. Адна з вамі, калі вы, памятаеце, жываплот садзілі. Аб адхіленні ў псіхіцы кавалера. І з Пахольчыкам, ля будкі. Ён дужа пільна назіраў, як я пачак ускрываю. І абодва вы тады заўважылі дзеля сябе, што нават не ўвесь пачак труціць трэба, як Мар'яну, які курыць рэдка. І прыстасавалі вы тады Пахольчыка і на гэтую работу з «метадычным старым кавалерам». Дзве-тры цыгарэты збоку, дзе надразае. І дзейнічаць будзе не адразу... Ну вось. А цяпер будзеце гаварыць і вы. Як? Якім сродкам?

— Так, тут ужо гаварыць мне. Я тады не падумаў, што мая здагадка пра паўночна-заходнюю Індыю можа не *ад*весці, а *на*весці на пэўныя думкі. Што ж, даліна Нарбады пралягае па пласкагор'і. Невялікія судны ходзяць толькі па ніжняй плыні. Рака паро жыстая, вельмі. І даліна яе гэта не савана, а амаль трапічны па дзікасці і гушчыні лес. Часам толькі скалы выходзяць да ракі і абрываюцца ў яе. І часцей за ўсё там пчаліныя мегаполісы, на многія кіламетры. Соты шматметровай таўшчыні і вышыні, мёд многіх стагоддзяў, унізе зусім чорны... Урэшце добрае апісанне ў «Кнізе джунгляў» Кіплінга... Мне зараз не да паэзіі... Чырвонае дрэва, чорнае дрэва, сандал, бог ведае што яшчэ. І ўсё гэта перавіта ліянамі, а на найбольш высокіх камянях у парогах растуць у вадзяным пыле архідэі. Кветкі — велічынёй з чалавечую галаву. Часам на тых камянях узнікаюць запруды з дрэў, і лісцяў, і іншага, і тады рака разліваецца па нізінах, калі яны ёсць, і ўтварае балоты колеру чорнага чаю.

Ён закурыў са свайго пачка:

— Мне давялося блукаць там доўга. І з насільшчыкамі і самому, калі яны кінулі мяне. Я ўсё адно ішоў. Мне добра плацілі і ў Ахмадабадзе, і ў Бамбеі, і яшчэ лепей у Джайпуры, і нават у Дэлі за расліны: і лекавыя, і атрутныя, і... наркатычныя... Там, недзе між Бурханпурам і... А, ды ці не ўсё адно?! Я і пачуў пра кветкі расліны Ваё і яе зерні, наркотык рэдкасны

і небывалы. Рэдкасны, бо водзіцца толькі там (можа, калісьці арэал быў шырэйшы, ды там расліну звялі). А ў мегаполісах, у гэтай недаступнай пчалінай краіне «ваё» збераглася. Зрэдку вецер заносіць яе зерне, яе слёзы... да людзей...

Твар ягоны нібы пацяжэў.

— І чаго мяне зноў панесла назад, на так званую бацькаўшчыну?.. Стаміўся ў блуканнях?.. Паваліў цень багацця?.. Вось я маю яго зараз... А там я мог бы быць манапалістам, зрабіцца мільярдэрам... Толькі пляваць мне на гэта... Проста нідзе я не быў такі шчаслівы, як там... Ну добра, хопіць пра гэта.

Сеў выгадней, нібы сеў на ўлюбёнага канька і сабраўся чытаць лекцыю. Ды так яно і было.

— Вы, мабыць, не задумваліся, што чалавеку (я маю на ўвазе чалавека вытанчанага, а не прызямленую свінню) з часам усё абрыдае. Свіння так і будзе да смерці лыгаць сівуху і задавальняцца гэтым. Вытанчаны — вынаходзіць. Усё вастрэй, усё з большай выдумкай — сапсаванасцю, ненармальнасцю.

— Пра сябе? — спытаў Шчука.

— Не,— сказаў Хілінскі,— ён не з тых. Ягоная ненармальнасць — назіраць за адхіленнямі іншых. Ён як пісьменнік. Нашто яму хапацца за нож, выбівацца ў Напалеоны? Без усякай рызыкі можна рабіць што хочаш, рухаць арміямі, эпохамі, сумленнямі... Добры вядзе выдуманыя легіёны да дабрыні і дабра. Злосны...

— Правільна,— згадзіўся Альшанскі,— пісьменнік распусты і зла. Чорная сіла. Самушчальнік. Злы дух Жэневы... То вось, спачатку быў мак, Марфей, бог сну з макавай кветкай у руцэ, опій, а ў ім такія простыя рэчы, як марфін або морфій, папаверын, кадэін і іншае. І пачалося гэта ў Грэцыі, а не Індыі ці Кітаі. Фалангі Македонскага прынеслі яго на ўсход. Так яно было. І... задурманены край. Але опіум нібыта выжыў сябе, як нішчыцель. І не законы прыпынілі яго. Проста прыеўся. Ну што? Нешта каля трохсот тысяч з гакам курыльшчыкаў. У Ганконгу — дзесятая частка мільёна. Абрыднуў, як і чыстая жвачка з чыстых лісцяў кокі ў Амерыцы. І яна абрыдла, як і індыйскія каноплі, мексіканскі мескалін — гэты з кактусаў, галюцынагенныя грыбы. Словам, бядота.

Чалавек упарта ідзе ў дурман, у загібель. Адбяруць адну атруту або абрыдне яна — з'явяцца сотні новых. Марыхуана, гераін, хат... З'явіліся, ды і былі заўсёды, і ўвогуле страшныя рэчы. Чалавек набывае дзікую сілу на некаторы час. Пройдзе там, дзе і мурашка не пройдзе. Натоўп адзін раскідае. І праявы дзівосныя вакол. А пасля галаўны боль, а то і паралюш мінімум на пару месяцаў. Звыкання няма. Хто два разы ўзапар выпіў — скончыўся. І ўсё гэта дактары і вучоныя стваралі па-за прыродай, паклікаўшы на дапамогу хімію. І вось штампавалі, узважвалі, дазавалі. Усё каб пайсці ад Нясцерпнага ў свет Вялікай Ілюзіі. У свет усеабдымнай Асалоды, пры якой што табе тваё цела і цела жанчыны, твой мозг і мазгі ўсіх людзей, дзеці свае і сам Род Чалавечы? Асалода без бою за авалоданне ёю. Асалода раптоўная, як тарпеда ў днішчы карабля. Толькі тут карабель — мозг. Выбух — яго салодкая агонія. Радасная смерць сябе самога і сусвету ад сваёй жа рукі. І... знішчэнне ворага, адзін ён супраць цябе ці ў мільярдзе асоб.

— І ўрэшце знішчэнне сябе? — спытаў я.— Зямны шар населены ідыётамі? Чалавецтва, якое сядзіць і раскашуецца, пускаючы сліну з рота?

— Не. Не зусім так. Вучоныя шукаюць у гэтай кампаніі сяброў. І знаходзяць іх. Рэдка. І толькі ў памяркоўным ужытку.

Хілінскі раптам сказаў, і такім журботным тонам, якога я ані разу яшчэ ад яго не чуў:

— Людзі, нават геніяльныя, не стварылі анальгезікаў, што не ўваходзяць у склад абмену рэчываў арганізма, і таму не даюць звыкання. Наркаманіі.

— Я знайшоў,— проста сказаў Альшанскі.— Я выдзеліў такое рэчыва з майго Ваё. Я яго сінтэзаваў.

— Гэта немагчыма па ўсіх законах... Як вы гэта зрабілі?

— Вы не зведаеце гэтага. І, мабыць, не даведаецеся ніколі. Ён не шкодзіць, амаль не шкодзіць. Дае чалавеку Ілюзію больш рэальную, чым Рэальнасць. І вось я думаю, што гэта будзе дрэнны падарунак людзям. Хай знікне са мной... Пахольчык з Высоцкім папрасілі ў мяне крыху экстракту. Першы, каб збіць з панталыку, пазбавіць пэўнасці вас. Другі, каб усыпіць Пташынскага. І вось іхнія шляхі сутыкнуліся

адразу і на ім, і на вас. Не непакойцеся, вы не паспелі звыкнуць да гэтага сродку. Але маглі. Я не здолеў здабыць канчаткова чыстае рэчыва. Патрэбныя былі гады і лабараторыі — не ў пару маім. І сродак усё ж дзейнічаў, і адмоўна. Ці не адчувалі вы пасля гэтых вашых «відзенняў» і кароткатэрміновай дэпрэсіі пачуцця ўзнёсласці і працаздольнасці? Ясна, ненадоўга. Урэшце, калі вы прыйшлі да мяне са скаргамі, я зразумеў, куды ўжыў Пахольчык сваю частку. І зразумеў, што звыканне ўсё ж павінна ўзяць вас у лапы. А калі ты ў кагосьці ў лапах — гэта ўжо распад асобы. Але на такое патрэбны былі гады. Нічога, застанецеся здаровы.

— Друг мой памёр.

— І гэта другая прычына таго, што сакрэт памрэ. Амаль бясшкодны сродак, і раптам чарада, лавіна смерцяў. Атрымоўваецца, гэта я выпусціў іх.

— Атрымоўваецца так. Ды яшчэ і гулялі з агнём і Пахольчык і вы. Умаўлялі кінуць курыць. Гэта ўразіла мяне, хутчэй падсвядома, яшчэ тады. Гэткае супадзенне. І парады аднолькавыя. І на тое, як «БТ» распячатваў, аднолькава глядзелі. Адно хачу ведаць, чаму не заўсёды дзейнічала?

— Шпрыцам уводзіўся, відаць, сродак толькі ў пару цыгарэт на пачак. І тое не на кожны.

— Нашто вам было гэта?

— Вы ішлі па слядах. Трэба было пазбавіць вас упэўненасці. І потым, нават калі б напалі на мой след, калі б паверылі вашым прадчуванням — ніхто не паверыў бы паказанням вар'ята.

— А Мар'яну зарадзілі цэлы пачак. І ў той жа час перадалі запіску. Так што заснуў ён не ў кватэры, ачысціўшы вам поле пошуку. Ён з'ехаў, і вы маглі, усыпіўшы сабак, шукаць колькі вам хацелася. А ён пачаў марыць і бачыць розныя з'явы і ўпаў у дрэму ў чаўне. І ніхто ўжо не зведае, аб чым апошнім ён марыў.

Зноў усталі на краі паляны дробныя, бязгучныя ўсплёскі, якія зрэдку лізалі пясок, і зноў я зразумеў, што гэта не паляна, а возера, густа ахутанае імглой. А на дне гэтага апошняга возера мой больш за ўсіх улюбёны (а болей няма і не будзе) друг.

Забіты не праз нейкія там меркаванні, а проста дзякуючы дурному супадзенню, таму што «так атры-

малася». А гэтыя жывуць, і няма ў іх сэрцах майго тагачаснага прадчування нейкай вялікай бяды. Нічога, я ўсё ж не паверыў у інфаркт, я прымусіў не паверыць і іншых.

Сэрцы вось гэтых таксама захлынуцца ў апошняй тузе, і гэта адзін з нешматлікіх маіх учынкаў, за якія я папрашу ў цябе ўзнагароды, госпадзі.

— Вось так,— сказаў я,— і ў хату нябожчыка вы некалькі разоў залезці хацелі. Раз — вахцёрка перашкодзіла. Другі раз — нічога не знайшлі і вырашылі як толькі можна пільна сачыць за мной. Каб я вас прывёў да мэты. Не ведалі вы толькі пра запавет, які на мяне цень кінуў. Слаба ведалі гісторыю з карцінамі, але пад удар антыквара і Гутніка не пасаромеліся падставіць. Пешкі! І тут я пачаў расшыфроўку. І першыя ж крокі прымусілі мяне падумаць, што, можа, тут не проста спекуляцыя, што ёсць у кнізе ініцыялы Пятра Давыдавіча ды Вітаўта Хвёдаравіча Альшанскіх. А значыць, гэта *фамільная каштоўнасць* і гэта азначае, што павінен нейкі сваяк і спадчыннік застацца. Хаця я і не думаў тады, што існуеце вы, сын.

— Ну пра сакрэт шыфроўкі ніхто з нас тады не ведаў, хаця я і чуў нешта ад бацькі (ён сам не ведаў цвёрда) пра нейкую папяровую істужку. І што нейкую ролю іграў таўкач, і, чамусьці, вішнёвы клей, і ступка. Ды што нам было з гэтага. Невядома, што з імі рабіць, і хрэн яго ведае, як з імі распарадзіцца. І тут пачалася спрэчка. Адны казалі, што трэба вас і надалей трымаць у сумненні наконт уласных мазгоў. А я лічыў, што гэтую справу з галюцынацыямі трэба канчаць.

— Праўдзівей, прыпыніць на час. І вы прыпынілі.

— Ясна. Трэба было даць магчымасць расшыфраваць *вам*, калі ўжо ў нас сваіх мазгоў і ведаў не хапае. А тады скарыстацца пладамі *вашых* намаганняў.

— З Мар'янам не прыпынілі,— жорстка сказаў я.

— Позна даведаўся,— сказаў ён.— Кажу не дзеля апраўдання. А калі даведаўся — было позна нешта рабіць. Трэба было ўжо прыбраць Пахольчыка. Сведку. А пасля зноў вас палохаць. А можа, вы, нават ужо трапіўшы на след, спалохаецеся ды пакінеце гэты занятак.

— А я не спалохаўся. І таму вашы бандзюкі мяне вырашылі напужаць... І аж да смерці.

— Адзінае, чаго мы недаацанілі,— ваша воля. І яшчэ тое, што вось ведамства пана Шчукі зацікавілася гэтым, хаця што яму было ў дакументах трохсотгадовай даўнасці.

— Мы і не цікавіліся,— буркнуў Шчука.— Занадта доўга не цікавіліся. Злачынна доўга, не пабаюся сказаць, не цікавіліся. Таму гэта і прывяло да такіх падзей.

— А гэта не ўваходзіла ў кампетэнцыю вашых. Што, можа, іх задача дапамагаць гісторыкам і літаратуразнаўцам? Дапамагаць пану К. у пошуках аўтара «Энеіды»? Ці пані С. у пошуках старых Альшан?

— Маўчыце пра яе,— сказаў я.

— А-а... ну, дай бог. Але памагаць ім усім ці не затлуста будзе?

— Дарэмна не дапамагалі,— сказаў Шчука.— Узаемны вопыт мог бы прыдасца.

Здавалася, перад намі сядзеў не чалавек, які чакаў арышту, і не тыя, што прыперлі яго, а проста ішла мілая бяседа на цікавую для ўсіх тэму.

— Дарэчы, ці не выпіць нам каньяку? — устаў Альшанскі.

Мы пераглянуліся. Гэта было ўжо занадта. Але з другога боку...

— У якасці ўзнагароды за тое, што я прайграў, і, як бачыце, мужна прайграў. Не ламаюся. Слова-ахвотлівы.

Ён прынёс з серванта непачатую бутэльку «Дзвіна».

— А што? — раптам папусціўся злосці я.— Можна. Спадзяюся, што ён не трымае ў буфеце дзесяць непачатых бутэлек з атрутай.

— Можна,— сказаў Хілінскі.

— Я не атручваю віно.

— А цыгарэты? — спытаў я.

— Прыпомніце, што я раіў вам патроху піць і абавязкова кінуць курэнне.

— Было,— прызнаў я.

— Я не хацеў бы атруціць вас і не хачу атручвацца сам. А вам дзякуй за ваша «можна», Хілінскі.— І ўзняў келіх.— Ну, чокацца не будзем, гэта ўжо занадта.— Закінуў ільвіную сівую галаву. Пасля сказаў: — Цалкам магчыма, што гэта апошняя бутэлька каньяку, якую я пачаў. Ці, можа, у якасці апошняга

жадання яшчэ дадуць? Прынята гэта ў нас ці не?
— Хто вам сказаў, што вам давядзецца выказваць апошняе жаданне? — спытаў Шчука.— Вы ж пра многае не ведалі. Вядома, калі вы тут казалі праўду.
— Я казаў праўду... Але нават калі б давялося — не выказваў бы жаданняў і не наракаў бы... Так, шмат аб чым не ведаў... Але ёсць у падсонечнай іншы суд. Больш непрымірымы, больш жорсткі. І, здаецца, апошні з Альшанскіх якраз і падлягае гэтаму суду.
— Што, бог? — спытаў Хілінскі.
— Гэта вы пагаварыце з Леанардам Жыховічам,— сказаў гаспадар.
— Дзяўчыну якога ў ліку іншых выдаў немцам ваш Высоцкі.
— Спеліся,— іранічна перадражніў нас Альшанскі,— забойца і нашчадак забойцы.
— Патуральнік забойстваў,— сказаў я.
— Смерць Зоі,— хутчэй сцвярджальна сказаў ён.
— Так. Бо хаця яна і сама атруцілася, а ў рэшце рэшт атруцілі яе вы.
— Чаму?
— Не вытрымала. Сумленне здрады не вытрымала.
— Палічыла раптам, што адзін у яе сапраўдны і быў і яго яна аддала галавою ворагам... Ведаеце, як гэта балюча, хаця й коратка.
— Я тады яшчэ не ведаў пра гэта.
— «Тады» — гэта калі ўпэўніўся, што кнігі ў хаце Мар'яна няма, і паспрабавалі ўзламаць маю хату. Вось тут вам малады чалавек са смеццем і спатрэбіўся. Нехта адчыняе...
— Высоцкі.
— А другі на варце стаіць. І калі я Высоцкага спалохаў, ён паспеў у склеп пад павуцінне прапаўзці, а пасля, пакуль я бегаў на двор, скочыць на вуліцу. А малады чалавек, «п'яны, як бэля», шмыгнуў да дзяўчат ды прыкінуўся, быццам сп'яну прыпёрся.
— Што ж, і ім зоймемся,— сказаў Шчука.
— Тым больш што, думаецца мне, папаўзуць за ім і яшчэ сякія-такія грахі.
— А што нам застаецца,— сказаў Шчука.— Справай архіва ды айнзацштаба з Адальбертам фон

Вартэнбургам ды Францам Кернам іншыя займуцца.

— А папіхачоў іхніх я тады ўпершыню ў двары замка заўважыў. Герояў. Вы думаеце, яны спалохаліся, што я фатаграфую разбураны мур? Чорта! Фота сваіх аблiччаў яны спалохаліся. Я гэта досыць скора пачаў разумець.

— І маўчаў,— сказаў Шчука.

— Усе маўчалі. І вы былі не лепшы... Але добра, што я там прыдбаў не толькі ворагаў, але і сяброў.

— А ў мяне вось сяброў не было,— сказаў Альшанскі.— Паплечнікі.

— Дый хіба паплечнікі? Паплечнікі — гэта плячо да пляча. «Поплеч», «поруч». А калі людзі с...... адзін да аднаго сядзяць, то як гэта называецца?

— «По...»,— засмяяўся Шчука.

— Вось менавіта так. І не паплечнікі, а па......

— Гэта што, у вас у навуковым цяперашнім свеце заўсёды такія жарты?

— Жыццё прывучыла... Як былога самага асвечанага на ўвесь павет чалавека — Людзвіка Лапатуху.

— Так, выслізнуў ён тады,— сказаў Альшанскі.— Шанцаванне незвычайнае. Відаць, удалося на апошнім шляху *туды* заваліцца незаўважана ў хмызы. Варта не далічылася аднаго.

— Цяпер мы ўжо не даведаемся...— пачаў было я.

— Чаму не даведаемся,— сказаў Шчука.— Цудоўна даведаемся. Сведка, які пачаў прыходзіць да памяці. Варта было ўратавацца, жыць столькі год такім няшчасным. І каб на парозе прытомнасці сустрэла смерць. Вось вам і ўцёкі ад рэчаіснасці.

— І таксама не без вашай віны,— сцяўшы зубы, кінуў я.— Калі справа зайшла аб вашай шкуры і шкуры абяздоленага такімі вось, як... Вы выбралі сваю шкуру, а не шкуру няшчаснага чалавека. Што ён перад вышэйшымі меркаваннямі. Абстрактны гуманізм... А як наконт канкрэтнага чалавеканенавісніцтва?

— Не трэба занадта злаваць мяне,— сказаў Альшанскі.

— А колькіх вы з вашай абыякавасцю смяротна пакрыўдзілі?

— Не трэба яго перавыхоўваць,— сказаў Хілінскі.— Пустая справа.

— Пустая,— сказаў гаспадар,— я Альшанскі. А вы што думалі? Апошні. Іншых няма. Вывеліся. Неперавыхаваныя.

— А жылі. На жаль. Не як тыя, атручаныя вайной, што паміралі. Забойцы і ахвяры.

— У забойцаў, на жаль, была сіла і хітрасць. Подлая. Як той Ганчаронак-Боўбель спрытна свой «пабег ад самога сябе» ўладкаваў! Уцёк, пасядзеў у балоце, а іншым раструбіў, што напярэдадні разгрому з-пад бандыцкага расстрэлу збег. Яшчэ і ў героях хадзіў... А за таўкач свой як трымаўся! За грошы і за жыццё. Грошы здрады, грошы крыві — яны для вас скончыліся. Канец! Цяпер сапраўды канец.

— Канец,— сказаў Альшанскі.— Толькі ў мяне не такі, як вы, можа, мяркуеце. Я апошні, і я адыду, як сам захачу, і той сцежкай, якой захачу.

— І толькі не здолееце зрабіць так, каб быць высокай думкі пра свае ўчынкі, пра сваё жыццё. Наадварот, самаацэнка ў апошнія хвіліны будзе самая подлая. Пекла няверуючых. Горш за нейкія там апраметныя катлы.

— У маёй волі — перарваць успаміны. Нават калі б вы мяне не выкрылі — я адмовіўся б ад працягу гэтай камедыі.

— Чаму?

— Мне абрыдла жыць. Жыць абрыдла. Сярод гэтай вакханаліі забойстваў праз гэтых бандытаў. І Лапатуха. Баяліся, што выдасць — далоў яго. І Зоя, калі скеміла, што загінуў праз яе чалавек,— не вытрымала. Адна справа хлусіць, і зусім іншая — смерць, якой ты вінен.

— Боязь. І мяне спрабавалі перастрэць з нажамі, а калі не ўдалося — замураваць у падзямеллі. Продак ваш быў вялікі мастак — ну і вы недалёка ад яго пайшлі. Хаця і чужымі рукамі.

Сядзелі моўчкі, прыгнечаныя. Не магу паручыцца за іншых, але я адчуваў сябе так.

Гарэлі за акном шматлікія гарадскія агні, рознакаляровыя, ад саладжава-аранжавых да безжыццёва-зеленаватых. Згасалі адны, запальваліся іншыя, нібы нехта вельмі павольна граў кнопкамі на пульце невядомай волатавай машыны. І толькі сінія «дзённыя»

агні вулічных ліхтароў ды чырвоныя трывожныя агні тэлевышкі наводдаль былі нязменныя.

А мне было ганебна, як заўсёды, калі трапляўся на маёй дарозе чалавек, які незваротна і не так распарадзіўся сабой.

Альшанскі глядзеў на іх нібы ў апошні раз, ды так яно, мабыць, і здавалася. І яму і мне.

— Жыць Шаблыкам? — спытаў ён.— Жыць сабой? Жыховічам?

— Космічам,— падказаў Хілінскі.

Не быў бы ён сабою, каб не пасправабаваў праверыць, а што яно атрымаецца і з такога супрацьпастаўлення.

— ...Космічам яшчэ куды ні шло. Прынамсі, ведае мэту, умее ісці і ідзе. Праз небяспеку, падазрэнні, плёткі. Бачыце, якія я кампліменты вам кажу, Косміч? Закіньце там за мяне слоўца вашаму богу гуманнасці. Можа, гады на два раней выпусціць з катла... Або як там ваш пісьменнік, гісторык гэты пісаў... Ну, там яшчэ д'ябал пісаў дысертацыю: «Велічыня абсалютнага аптымальнага ціску ў катлаагрэгаце для прапарвання грэшнікаў...» Дык вось. Хілінскім, Космічам, іншымі такімі быць не магу, іншымі — не хачу. Я — Альшанскі. І памру як Альшанскі. Досыць, што ўсё жыццё жыў інкогніта.

— Ну добра,— сказаў я,— Пахольчыка вы прыбралі таму, што асноўны сведка *вашай* дзейнасці, што шмат ведаў, што ўтравіў вас у забойствы, што дысцыпліну парушыў, перавысіў «паўнамоцтвы». Нягледзячы на вашу забарону, усё ж распараджаўся рэшткамі наркотыку. А Кухарчыка? А дворніка нашто? Бясшкодны, з пытаннямі лезе паўсюль, дзе не трэба. І толькі.

— Вось за гэтае «толькі». Але я Пахольчыка пальцам не крануў.

— І тое верна,— сказаў я.— Нашто вам было? Вы праінфармавалі Высоцкага, а той, паколькі не пакідаў тады Альшанку, распарадзіўся жыццём прадаўца... ну, хутчэй за ўсё праз таго маладога чалавека са смеццем. Так? А Кухарчык, відаць, проста меў няшчасце быць сведкам, узлезці, на сваю галаву, у справу якраз тады, калі гэты, са смеццем, выконваў загад Высоцкага.

— Так.

— Той быў і без таго запэцканы. «Трэці» і «чацвёрты» падчас першага нападу на мяне гэта і былі яны, Пахольчык і будучы яго забойца. Са смеццем. Больш ад яго нічога і не застанецца.

— Разбяромся, хто, дзе, калі і ў што мачаў пальцы,— сказаў Шчука.— Тут ужо на высокім узроўні пойдзе справа.

— Пахольчыка мне было шкада,— сказаў Альшанскі.— Не кажучы пра духам віннага дворніка... Тады я і вырашыў, што калі нітка давядзе і да мяне — я не буду старацца адвесці ад сябе ўдар. Я нібы камень у гарах скрануў. І пайшла лавіна забойстваў. Шкада, што я запэцкаўся з гэтай сваватой.

І вельмі сур'ёзна, так, што немагчыма было не паверыць, сказаў:

— Я даў толькі след. І гэты след прывёў да загібелі многіх. А ўцячы вось хаця б ад гэтага вашага з'яўлення мне было вельмі лёгка. Толькі я не меў права ўцячы, не выказаўшы вам усяго.

— Якім чынам уцячы? — спытаў Шчука.

— А вы унь там, у шуфлядзе, вазьміце пісталет. Мне ён не спатрэбіўся і не спатрэбіцца.

Шчука ўстаў, высунуў шуфляду пісьмовага стала і дастаў адтуль «вальтэр».

— Не, я не шпег,— разважаў далей лекар.— І не бандыт. Гэта *ім* па плячы. Мне па плячы было большае, і я ім няважна распарадзіўся. Мне і грошай адтуль не трэба было. Рэліквіі некаторыя.

— Для самапавагі?

— Мала я вартага ў жыцці зрабіў, то вось.

— Ды нашто гэта?

— Мяркуйце, як раней,— будзеце акадэмікам. Раскопвайце і іншае такое — быць вам вядомым. Гэта прадбачанне чалавека, якому няшмат застаецца жыць... Жыць? А хто сказаў, што мой род заслугоўвае права на жыццё? То ж бо... Але таксама верна, як тое, што *не заслугоўвае*, таксама верна і тое, што гэта *мой род*, што я — кропліна ягоная, і што іншым быць не магу, і што дарогі мне ад яго няма. Значыцца, адзін выхад.

Махнуў рукой, быццам адкідаючы нешта:

— Я даўно падрыхтаваўся і да вышынь і да смерці. Толькі доўга не ведаў, што пераможа. Гатовы

быў яшчэ ў саракавым, у Варшаве. З бацькам я тады быў на нажах. Магчыма, найбольш вострых за ўсё жыццё. Бо толькі зараз я стаю бліжэй да літасцівай Збавіцелькі і ўседаравальнай Ратаўніцы, чым стаяў тады. Бо ў *той час* мне не падабалася, што ён круціць раман з панам Розенбергам.

Кепска мне было. Магутны склад гожага цела, дасканалае ў сваім гонары аблічча, ільвіная грыва сівых валасоў. Надзіва маленькія і зграбныя кісці рук і ступакі ног.

Божа, які закончаны, бездакорны ўзор чалавечай пароды. У кіно такіх здымаць, трымаць у лепшых сябрах, бараніць за ўсялякую цану.

А замест гэтага за дасканалай, боскай абалонкай раз'едзеная ржою наскрозь, аблепленая да апошняга крывёю і багнам сутнасць. Праказа сумлення, мазгавы сіфіліс. Лёс, бог ці хто там яшчэ — як жа вы непапраўна, смярдзюча жартуеце часам з людзьмі!

Гэта ён сплывае атрутным гноем, гэта яго дзейнасць прывяла да ўсяго. А я не магу асудзіць яго, бо пакрыўджаны *за ўсіх* людзей. Бо гэта *я* зняважаны, зняслаўлены, збэшчаны.

— Пры чым тут смерць? — з гэтым новым і нясцерпным адчуваннем сваёй чалавечай агульнасці ўсё ж спытаў я.

— А хто мне можа забараніць ну хаця разбіць макітру аб мур, адмовіцца прымаць ежу. Добра — знойдзецца метад, каб я не зрабіў гэтага. А хто забароніць мне не хацець жыць? Выключу сябе — і ўсё. Паверце, з веданнем усходняга шляху да вялікага спакою, найвялікшага вызвалення ад усялякай журбы — нічога цяжкага ў гэтым няма. Спыніць сэрца на гадзіну ці назаўсёды — якая розніца?

Ён паглядзеў на Шчуку і ўсміхнуўся:

— Ну, як кажуць літоўцы, «дар по вена», яшчэ па адной. Не, я не зараз. Што ж, я стану падводзіць вас і вашых калегаў, Шчука? Да таго ж мне яшчэ трэба даць афіцыйныя паказанні. Бо гэта, што зараз, гэта проста ледзь не бяседа. Спачатку я ўсё выкажу афіцыйна дзе трэба. Гэта апраўдае мяне ў адным: што я ледзь не звёў з розуму Антона. Гэтага я таксама рабіць не хацеў... Дык зноў без звону чарак.

Альшанскі павольна выпіў каньяк:

— Ну вось, гэта, бадай, усё. Унь там мой кабінет,

а ў ім тэлефон. Схадзіце, Шчука, і пазваніце туды, дзе зараз будуць павінны заняцца мною... Да той ступені, да якой я палічу гэта мэтазгодным. І зачыніце за сабою дзверы, я не хачу ведаць, якімі словамі гэта гаворыцца. Не меў такога вопыту і не жадаю яго набываць.

Шчука пайшоў у кабінет. Мы трох сядзелі моўчкі, утаропіўшыся ў акно на жывыя гарадскія агні.

— Я знаю, што мяне чакае,— сказаў лекар.— Магчыма, і найгоршае (з нечага пункту гледжання). Як гэта там называюць: «вышка», «дзірка»?

— І так гавораць і гэтак,— нечакана для сябе самога сказаў я.

— Хутка крочыце. Відавочны поступ. Можа б, да Шчукі пайшлі?

— Позна,— я ўпершыню за цэлы вечар упаў у шал.— Але куды хочаце пайшоў бы, абы такіх вось, ганебна абыякавых да людзей, у імя высокай хлусні. На плошчах бы за ногі вешаў... Саматугам, без усякай міліцыі душыў бы.

Мы чулі невыразныя словы Шчукі за дзвярыма. Пасля ён паклаў трубку, з'явіўся ў пакоі і заняў сваё месца:

— Пазваніў.

І тут Альшанскі раптам засмяяўся:

— На хвіліну мне стала шкада.

Ён выскаліў белыя роўныя зубы:

— Невялічкі рэцыдыў шкадавання. А здорава гэта, Косміч. Сіла, магутныя рукі за спінаю. Род волатаў-людзей на волатах-конях. І сцягі над галавой. І слава на ўвесь свет.

Хлопцы б'юць у сякеры,
Сінія, быццам неба,
Пахолкі ў рудае полымя шчытоў сваіх ударають,
Дзіду ўстраміўшы ў зеніт і дрыжучы ад гневу,
У хмарах чорнага дыму сцяг вялізны лунае.

Здорава! Зямля калоціцца пад коньмі. Твары і рукі з бронзы. Нічога мне не было там патрэбна, акрамя таго, што ўзвялічыць вялікую харугву. Апошні Альшанскі павінен быў і памерці з гонарам. А памрэ... Самы канец: думаеце, чаго я так лёгка згадзіўся з усім? Прапала ўсё, што сцвярджала маю годнасць. Вось памру Лыганоўскім.

— І лепей было б,— сказаў я.— Даследчык, ван-

дроўнік, лекар. Сумленнае, незаплямленае імя. Не імя з роду нягоднікаў.

— ...памрэ Лыганоўскім. Вялікай харугвы не будзе.

— Ну так. Апошні Сапега пахаваны на Вавелю. Але вас не пахаваюць ні ў Альшанскім касцёле, ні нават ля яго. Таму што тыя — гэта быў род ваяўнікоў. А вы — род нягоднікаў і прахвостаў. І вы яшчэ з іх лепшы, хаця і звязаліся з бандытамі. Што ж вы нарабілі, Альшанскі? Які вялікі матэрыял чалавечы пагубілі ў сабе, пахавалі, каменем прыціснулі?!

Прабеглі па шыбах водбліскі ад моцных ліхтароў машыны, што заварочвалася ў двары. Прабеглі, паскакалі па шыбах, па абліччы Лыганоўскага, а пасля зніклі, бо машына ўжо была пад самым домам і святло, відаць, падала на дзверы пад'езда.

Згаснула святло.

— Вось, гэта па мяне,— прыўстаў Альшанскі.— Ану, «стшэменнэго», як кажуць палякі. І слова свайго не знайшоў. Да сустрэчы, Хілінскі. Рад быў з вамі ўсімі пазнаёміцца. Калі вам будзе прыемнае прызнанне ворага — я вам скажу яго... Думаецца, шмат у якіх сваіх меркаваннях, поглядах, спадзяваннях я памыляўся. Бывайце, Косміч. Вы-то ўжо — назаўсёды.

Зрабіў крок да дзвярэй, у якіх ужо стаялі дзве постаці.

— Глядзіце за мной, хлопцы, у чатыры вокі. Чуеце?

Яшчэ крок:

— Ну вось, апошні... *сам* разбівае радавы шчыт на сваім надмагільным камені. «І герб радавы разбіваюць на камені тым...»

І знік. Пайшоў вонкі. Туды, дзе толькі што пагладзіла яго аблічча, а пасля знікла святло.

## Эпілог

### *Канец пад'езда кавалераў*

Некалькі год назад і прыблізна праз месяц пасля падзей, на якіх я скончыў сваё апавяданне, мы з Хілінскім сядзелі ў ягонай кватэры за шахматнай партыяй.

І партыя тая была не партыя, а суцэльная нескладуха, і настрой у нас таму быў не з лепшых.

А за акном стаяў мяккі і добры ліпеньскі вечар. І тут ясна, што не за дурацкімі шахматамі трэба было сядзець, а недзе ў лесе ля вогнішча. Над ракою. Чысціць рыбу на вясле, абдзіраць цыбулю, скрэбці бульбу.

Словам, усё, што хочацца, толькі не гэта.

— Ну што, па малому каньяку? — прапанаваў Хілінскі, раптоўна змяшаўшы фігуры.

— Адзін з польскіх, здаецца, дэтэктываў так і пачынаўся: «Капітан піў усё, акрамя какавы».

— Дрэнны пачатак,— сказаў Хілінскі.— У нас бы яго рэдактар неадменна зарэзаў.

— Вып'ем за рэдактараў, якія разумеюць гумар.

Выпілі. І зноў нібы праляцеў над намі ціхі анёл, а прасцей кажучы, нібы нарадзіўся недзе злодзей.

— Ты чаму не пытаеш, чым уся гэтая гісторыя скончылася? — раптам спытаў Адам.

— Мяне яна перастала цікавіць. Ведаю, скончыцца яна так, як трэба. І кожны атрымае, чаго заслужыў. Я зрабіў што мог. Проста ў памяць аб усіх гэтых людзях, што адышлі заўчасна. Цяпер ужо гэта справа іншых. І я сярод іх не маю гонару быць.

— Альшанскі атруціўся ў камеры,— глуха сказаў Хілінскі.— Тыдзень назад. Мне Шчука казаў. І апошнія словы ў паказаннях былі такія: «Больш не маю чаго сказаць. Пражыў большую частку свядомага жыцця і пражыў яго дарэмна, не зрабіўшы, акрамя пачатку дарогі, амаль нічога людскага. Магчыма, больш сурова, чым вы судзіце мяне, я суджу сябе. І асуджаю. На смерць».

— То што ж, адкуль атруту здабыў? Не аглядалі?

— Аглядалі. Гэты чалавек казаў праўду аб магчымасці пайсці прэч, калі толькі захоча. Пад каронкамі верхніх клыкоў хірургічным метадам была зашытая маленькая капсула з атрутай. Даўно. Можа, яшчэ пры немцах. Мала чаго ён мог ад іх спадзявацца. І вось прыдалася. Лыжкаю, як рычагом, націснуў і раздушыў. Моцна, відаць, даводзілася ціснуць — зламаў два ніжнія разцы.

— Хто яму тады зрабіў такое?

— А хто цяпер можа гэта зведаць?.. Значыць,

чакаў, ведаў, што кожнай вяроўцы бывае канец. І ведаеш, чамусьці нават шкада... Вось гэты быў з вартых ворагаў. Не смоўж нейкі. З такімі цяжка і небяспечна, але й прыемна мець справу.

Сядзеў, выпрастаўшыся ў крэсле. Нават у нізкім крэсле — высокі, сівы. І зараз не містэр Сміт і не славянская храпа, а проста паджылы, стомлены чалавек. Між гэтых паліц з кнігамі, мноства з якіх ён, мабыць, не паспее перачытаць.

Сухі твар з абвіслымі павекамі. У гожай мужчынскай руцэ пачаты келіх.

— Яшчэ і жартаваў у апошнюю гадзіну. Нібы намякаючы: «Гэта называецца: урэшце пасля празмернага зацікаўлення гісторыяй перайшоў да цеснага кантакту з сучаснасцю».

— Змоўкніце, Адам.

Ён моўчкі згадзіўся са мною. За акном свяцілі праз шаты ліпаў начныя агні, якіх апошні Альшанскі ўжо не мог бачыць. І міжволі думалася, што некалі іх не ўбачым і мы. Якое глупства перад гэтым былі ўсе намаганні, прывілеі, скарбы, улада над душамі і целамі?! Якое гэта ўсё было тройчы клятае глупства!

— Я павінен быў прадбачыць,— сказаў Хілінскі.— Гледзячы на ягоную прафесійную вопытнасць, не забываючы аб веданні Усходу... І яшчэ: мяне аднойчы ўразіла адна думка: хто мог пасля Нюрнбергскага прысуду перадаць Герынгу ампулу з цыянкалі?

— Кажуць, жонка падчас развітальнага пацалунку?

— Не. Псіхіка не тая. І я падумаў, што там магло быць вось так... як з гэтым. Не ведаю, ці меў я рацыю. Пасля ж пэўна аглядалі? Але магло быць: здаўна чакаў канца, бо жывёльна баяўся смерці, а калі даведаўся, што літасці не будзе, што ратунку няма ніадкуль, што шыбеніца — тады скончыў. Усё ж хаця і гнюсная, паскудная, гнілая дрэнь, разбэшчаная гэтым сіфілісам неабмежаваных улады і раскошы, але ўсё ж у былым ваенны чалавек.

— Кіньце, Хілінскі. Вы й самі бачылі ваенных, якія клалі ў порткі горш за іншага цывільнага. Ды ў лекара і не было жаху. Проста не хацеў жыць.

Я пачаў нібы здагадвацца і рабіцца відушчым:

— Я, здаецца, разумею ходу вашых думак. Скажыце, была б яму?..

— Не ведаю. Аб смерці Мар'яна ён не ведаў, аб «подзвігах» тых мярзотнікаў — таксама. Можа, і не была б.

— Ясна,— сказаў я.— І ён, аднак, заслужыў забыццё. Бо нашто яму ўжо было жыць? Ды яшчэ за кратамі... Шмат... Ён заслужыў.

Хілінскі моўчкі працягнуў мне цыгарэты.

— Свае,— сказаў я.

Дастаў новы пачак, раздзёр яго зубамі. Хілінскі назіраў за мной:

— Што, крушэнне звычак старога кавалера?

— Так. Калі ўжо крушэнне ўсяго пад'езда кавалераў, то чым я лепшы. Росцік ажаніўся.

— Дый яшчэ сёй-той,— усміхнуўся ён.

— Хата Лыганоўскага стаіць пустая. З часам паселіцца нехта. Пэўна ж таксама жанаты. Будзе і ў нас на сходах спачатку віск, а пасля й заравуць, як сірэны.

— Ах, чорт,— Хілінскі раптам стукнуў кулаком па сталешніцы.— Падлюга, дурань няшчасны. Меў ты рацыю: які матэрыял прапаў... Разумны, дасціпны, адукаваны, бывалы, таленавіты, як чорт. Ведаеш, які лекар? Казалі калегі — цар і бог. Адным веданнем псіхікі чалавечай больш рабіў, чым іншыя разнымі там рэзерпінамі і серпазіламі. І так не змагчы, так паскудна распарадзіцца ўласным жыццём! Патрэбныя яму былі тыя струхнелыя рэліквіі, даўно знішчаная слава роду. Такі лекар, такі чалавеказнаўца! Мала яму было гэтага для самапавагі... З атрэб'ем звязаўся, з пазаддзем, з падонкамі. І сам стаў падонкам. У, асёл!

Выпілі яшчэ трохі. І я са здзіўленнем убачыў, што мой «нязломны» сусед крыху захмялеў.

Глядзеў на партрэт у авальнай раме. Ніколі я не бачыў такога значнага твару. І такога прыгожага адначасова.

І ў Адама так змяніўся твар, так задрыжалі вусны, што я не здзівіўся б, каб ён, упершыню на маіх вачах, заплакаў.

— Помста ўсё ж ёсць,— глуха сказаў ён.— Ёсць. За кожную кроплю крыві, за кожную слязу. Не цяпер, дык заўтра. Не самому, дык нашчадкам. Іхні суд,

або суд сумлення,— помста ёсць. Яна не спіць. І запісвае ў кнігу лёсаў, і абурваецца на галаву злачынцаў або дзяцей іхніх разорам, бядой, вайной. І нікому не ўцячы. І я ўпэўнены, і гэта дае мне сілу жыць — рыгнецца яна і тым, хто *яе* забіў. Страшна рыгнецца. І толькі гэта дае мне сілу жыць, думка, што я, наколькі сіл слабых хопіць, памагу запабягчы гэтага на будучае. І толькі гэта... сілу жыць.

Нервова зацягнуўся:

— Ты пачакай, калі задумаеш расказаць пра ўсё гэта. Ты трохі пачакай.

— Я пачакаю. Можа, і некалькі год.

Стук аддаўся ў сценку. З суседняй кватэры. Маёй. Жонка клікала нас піць чай.

— Ну а ты што надумаў? — спытаў, заплюшчыўшы вочы, Хілінскі.— Якія вынікі на жыццё зрабіў? Усё ж, што ні кажы, падзеі з табой адбыліся не на кожны дзень.

— Не ведаю,— сказаў я.— Ведаю толькі адно. Пастараюся пражыць жыццё, рэшту яго, спаўна. Як у гэтыя дні. Аддаць сябе поўнасцю братам. І тады я пайду на спатканне з богам, калі ён у мяне ёсць, сваімі нагамі і простай хадой. Не паўзучы. Не згінаючы нават каленяў. І не буду маліць у яго, як не маліў ні ў каго пры жыцці. І я скажу адкрыта: «Я адрабіў спаўна і па сваёй ахвоце сваю катаргу на зямлі. Я зрабіў нават болей таго, што мог. І не для сябе, а дзеля іх, дзеля гэтага акіяна, народа майго. І цяпер я прыйшоў да цябе не кленчыць аб узнагародзе. Дай тое, што мне належыць па працы маёй, калі ты ёсць. А калі няма — я не буду шукаць узнагароды за справы свае. Нідзе».

— Аман,— сказаў Адам.

Міргалі за адчыненым акном бясконцыя агні.

О, жыццё!

*Канец*

# КАМЕНТАРЫ

Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» з'яўляецца адным з самых вядомых твораў Уладзіміра Караткевіча. Звяртаючыся да падзей беларускай гісторыі 80-х гадоў XIX стагоддзя, робячы экскурс у больш раннія часы, да пачатку XVII стагоддзя, пісьменнік асуджае ў гэтым гістарычным дэтэктыве сацыяльны прыгнёт, тыранію, уціск і дэспатызм і адначасова ставіць пытанні аб прызначэнні чалавека на зямлі, аб сутнасці яго жыцця і любові да радзімы, паказвае вялікае, прыгожае і чыстае каханне.

Аповесць друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых. Апавяданні і аповесці: Мн.: Маст. літ., 1978. Друкавалася таксама ў яго кнізе: Вока тайфуна. Апавяданні і аповесці. Мн.: Маст. літ., 1974.

Упершыню — Маладосць, 1964, № 9—12.

Выдавалася на рускай (пер. В. Шчадрына), украінскай (пер. К. Скрыпчанка), латышскай (пер. Т. Руліс), эстонскай (пер. Л. Соэ), балгарскай (пер. Р. Яўцімава), чэшскай (пер. В. Жыдліцкі), нямецкай (пер. І. і А. Калінка), в'етнамскай (пер. Ха Мінь Тханг) мовах.

Рукапіс захоўваецца ў перакладчыка Васіля Сёмухі. Мае назву: Дзікае паляванне караля Стаха (апошняя аповесць «Сямейных паданняў роду Яноўскіх», расказаная Андрэем Беларэцкім) і памету на апошняй, 179 старонцы: *4 лютага 1958 г.* Мінск. Хата В. Краўца (В. Кравец — сябар У. Караткевіча, зямляк-аршанец, інжынер па адукацыі. Пісьменнік некаторы час жыў у яго на кватэры.— *А. В.*).

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР (ЦНБ АН БССР), Ф. II, воп. 1, адз. зах. 56, захоўваюцца чарнавыя накіды да аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха».

Там жа захоўваюцца машынапісы твора. Адзін з іх, адз. зах. 52, мае назву: Дзікае паляванне караля Стаха (апошняя аповесць «Сямейных паданняў роду Яноўскіх», расказаная Андрэем Беларэцкім), памету на апошняй, 253 старонцы: 1958 г. Другі машынапіс, адз. зах. 55, мае назву: Дзікае паляванне караля Стаха, Аповесць.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН БССР, Ф, II, воп. 1, адз. зах. 53, захоўваецца таксама карэктура другога варыянта аповесці: Дзікае паляванне караля Стаха (апошняя аповесць «Сямейных паданняў роду Яноўскіх», расказаная Андрэем Беларэцкім). На пачатковай старонцы, над назвай твора і справа ад яе, Уладзімір Караткевіч напісаў: «Гэта другі варыянт

«Стаха». Першы быў напісаны недзе летам у 1950 г. (праўкі ў другім варыянце, штопраўда, былі малыя. Набор быў тады рассыпаны разам з «Леанідамі». У канцы, на 591 старонцы, ёсць памета: 1958 г.

Тэкст рукапісу, які захоўваецца ў Васіля Сёмухі, і тэкст гэтай карэктуры супадаюць. Такім чынам, рукапіс твора, які захоўваецца ў Васіля Сёмухі, з'яўляецца рукапісам другога варыянта аповесці, на падставе якога яна ў далейшым друкавалася. Рукапіс першага варыянта, які быў створаны, паводле слоў пісьменніка, «недзе летам у 1950 г.», невядомы.

У гэтай карэктуры другога варыянта аповесці ёсць праўкі Уладзіміра Караткевіча і выдавецкага рэдактара Васіля Сёмухі. Аповесць займала 375—591 старонкі і складала разам з раманам «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць») (а ён займаў пачатковыя 374 старонкі) змест кнігі, якая павінна была выйсці. Але падпісаны ўжо ў друк набор будучай кнігі быў рассыпаны восенню 1963 года. Згадаем, што раман «Нельга забыць» друкаваўся ў часопісе «Полымя» за 1962 год (№ 5—6), асобным жа выданнем выйшаў толькі ў 1982 годзе, праз дваццаць гадоў пасля першадруку.

Паводле аповесці пастаўлены фільм (1980, рэж. В. Рубінчык) і опера (1989, кампаз. У. Солтан).

Раман «Чорны замак Альшанскі» друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Чорны замак Альшанскі. Раман, аповесць. Мн.: Маст. літ., 1983.

Упершыню — Маладосць, 1979, № 7—8; 1980, № 1—2.

Выходзіў на рускай (пер. В. Шчадрына), украінскай (пер. К. Скрыпчанка), балгарскай (пер. П. Кынева), чэшскай (пер. Н. Мюлерава) мовах.

Рукапіс захоўваецца ў 62 папцы асабістага архіва пісьменніка, з паметай у канцы, на 244 старонцы: 4 красавіка 1979 г. Мінск. У 72-а і 95 папках асабістага архіва захоўваюцца чарнавыя накіды да рамана «Чорны замак Альшанскі».

Машынапісы рамана захоўваюцца ў 63—66 і 72 папках асабістага архіва, карэктура першадруку рамана з аўтарскімі праўкамі — у ЦНБ АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 50.

Паводле рамана пастаўлены фільм (1983, рэж. М. Пташук).

У рамане «Чорны замак Альшанскі» Уладзімір Караткевіч імкнуўся раскрыць не прыватную і займальную гісторыю, што здарылася з яго героем, а паспрабаваў выявіць повязь паміж мінулым і сучасным, раскрыць жыццё з яго складанасцямі і супярэчнасцямі, сцвердзіць думку аб непераможнасці і ўсемагутнасці дабра і чалавечнасці.

Для Антона Косміча, як і для іншых станоўчых герояў твораў Уладзіміра Караткевіча, гісторыя з'яўляецца арганічнай часткай духоўнага жыцця, светапогляду і светаадчування. Гэта натура валявая і энергічная, не церпіць зла і несправядлівасці. Зацікавіўшыся падзеямі беларускай гісторыі, Косміч змог раскрыць злачынствы, якія адбыліся не толькі амаль чатырыста гадоў назад, але і ў мінулую вайну і ў нашы дні.

Сваімі дэтэктыўнымі творамі пісьменнік пашыраў гарызонты беларускай літаратуры, абуджаў патрыятычныя пачуцці, выклікаў цікавасць да беларускай гісторыі і беларускага мастацкага слова.

*А. Л. Верабей*

# СТАГОДДЗЯЎ СРЭБНЫ ЗВОН*

«...ён любіў гэтую повязь з усім і ўсімі. З усімі вякамі і з усімі людзьмі, што былі, ёсць і будуць на зямлі...» — так гаворыць пра аднаго са сваіх герояў Уладзімір Караткевіч («Барвяны шчыт»). І гэта, мабыць, уласціва і самому Караткевічу, які ў кожнай з'яве пабачыць сённяшняе хараство і сувязь з «былым і нядаўнім мінулым», пачуе ў сівой легендзе «гордыя думы» і «музыку слоў», разгледзіць на бруку старых гарадоў за сённяшнім пылам адзнакі стагоддзяў, пабачыць жывыя постаці тых, хто крочыў па старажытных вулачках, пачуе пошчак капытоў іх коней, зможа ўявіць сабе тыя падзеі, што адбываліся тут. І там, дзе вока, для якога «існуе толькі тое, што ёсць, што вось тут, зараз, у гэты момант», заўважыць на старадаўніх мурах толькі плямы вільгаці і абітую тынкоўку, а ў руінах старасвецкіх замкаў — толькі кучу цэглы, там Караткевіч прыгадае і былую веліч іх, і віхуры страсцей, што бушавалі тут, і змаганне справядлівасці з несправядлівасцю, дабра са злом, хараства з убоствам, пабачыць чалавека — рыцара, змагара, гуманіста.

Уладзімір Караткевіч — паэт, празаік, драматург, сцэнарыст, эсэіст, які многае сказаў пра сваіх сучаснікаў, іх духоўны свет, смела ўзняў некранутыя пласты, пайшоў няходжаным шляхам — па сутнасці, стварыў беларускую гістарычную прозу, паспрабаваў знайсці тыя масткі, што лучаць дзень сённяшні з днём мінулым.

Пачаў друкавацца Уладзімір Караткевіч у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў, калі падала свой голас цэлая кагорта цікавых, адметных літаратараў: В. Адамчык, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, М. Стральцоў, І. Чыгрынаў і інш.

Здаецца, Уладзімір Караткевіч не з тых, у каго ўдачы паддаюцца хранаметрызацыі: быў пачатак, творчая маладосць, а пазней усё ішло ў рост, як на якой вытворчай дыяграме. Ужо ў адной з першых яго кніг было апавяданне, якім, мне здаецца, мог бы ганарыцца любы сталы пісьменнік. Гэта апавяданне, што дало назву зборніку: «Блакіт і золата дня». Пра вольную стыхію вясновага хараства на Палессі, калі разліваюцца рэкі і здаецца, што ўвесь свет запаланіў блакіт вады і неба, высветлены яснатой дня.

Апавяданне па танальнасці сваёй чыстае і яснае, як гук жалейкі. Нічога лішняга, усё гарманічна і суразмерна. А на дваццаць

---

* Друкуецца паводле выдання: Сямёнава А. Гарачы след таленту. Мн.: Маст. літ., 1979. С. 158—183. (Са скарачэннямі.)

цацігадовым творчым шляху Уладзіміра Караткевіча было рознае. Былі, скажам, такія выверaныя па-мастацку творы, як гістарычны раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» або блізкая да прытчы «Ладдзя Роспачы» — пра неўміручасць жыцця і чалавека. Былі творы, у якіх выявіліся і прывабнасць, і выдаткі таленту Караткевіча.

Адметны настрой прозы Караткевіча, багаты духоўны свет герояў не маглі не звярнуць на сябе ўвагу чытачоў і крытыкі. У часопісе «Przyjaźń» (1971. № 5) Фларыян Няўважны, з імпэтам прапануючы перакласці на польскую мову творы беларускага празаіка, не шкадуе эпітэтаў і параўнанняў, ведучы гаворку пра аповесць «Чазенія». Дыяпазон ведаў Караткевіча па прыродазнаўстве нагадвае яму і Пршвіна, і Паўстоўскага, і Сокалава-Мікітава, і Арсеньева. А паэтычнае каханне герояў і характары аповесці здаюцца яму блізкімі да рамантычных калізій і постацей твораў Купрына і Грына.

Шырокі дыяпазон ведаў і рамантычныя героі ў рамантычных абставінах — гэта сапраўды адзнака многіх твораў Уладзіміра Караткевіча, не толькі «Чазеніі». Герой непрыкметны, звычайны не цікавіць Караткевіча. Герой у Караткевіча — не проста персанаж, «галоўная дзеючая асоба», а герой у першапачатковым сэнсе: «чалавек высакародны, здольны на высокія ўчынкі». І ў гістарычным атачэнні, і ў сённяшніх рэаліях Уладзімір Караткевіч бачыць сваіх герояў разумнымі, добрымі, таленавітымі, моцнымі, смелымі, любуецца імі. Ці гэта сапраўдная гістарычная постаць Каліноўскага, ці літаратурныя персанажы — будучы паўстанец Алесь Загорскі («Каласы пад сярпом тваім») або Раман Ракутовіч, завадатар сялянскага бунту, якога ні пакуты, ні страты не могуць прымусіць адмовіцца ад чалавечага гонару і ад каханай («Сівая легенда»).

Уладзімір Караткевіч апантана верны ідэалам дабра, справядлівасці, хараства, адчуваючы іх абавязковую прысутнасць у сённяшнім дні і ў сутарэннях часоў. І героі яго кніг — увасабленне гэтых ідэалаў, увасабленне буйное, яркае, з размахам, рыцары духу, асветнікі, шукальнікі, барацьбіты. Героі Караткевіча жывуць смела, напорыста, не асцярожна намацваючы брод, а як са стромы — галавой у ваду, улёт: вір дык вір, затое высокая рызыка. Прычым існуюць гэтыя героі ў насычанай духоўнай атмасферы, у такім клімаце душы, які змяшчае ў сабе абавязковую прыхільнасць да набыткаў культуры, да лепшых традыцый мінулага, да ўсяго прыгожага ў жыцці. Рэчаіснасць існуе для герояў Караткевіча на той хвалі ўспрыняцця, калі духоўны вопыт былога і духоўны вопыт сучаснікаў судакранаюцца, узаемадзейнічаюць недзе ў самых патаемных і важных высновах.

Увогуле звяртае на сябе ўвагу ў творчасці Караткевіча тое, што героі яго для беларускай прозы (не паэзіі і драматургіі, менавіта прозы) нязвычныя. І справа не толькі ў тым, што галоўны герой беларускай прозы, і класічнай, і сучаснай,— часцей за ўсё вясковец, селянін, а ў Караткевіча гэта звычайна не цэнтральны герой. Герой Караткевіча — інтэлігент, дваранін, чалавек вольных заняткаў, бывае, амаль авантурыст, але, галоўнае, асоба ўнутрана вольная, хоць і залежная ад абставін, ад сацыяльна-гістарычных умоў, не замкнёная ў сваім унутраным свеце, але адметнасць такой асобы перш за ўсё не ў этнаграфічных, прафесійных, узроставых, саслоўных прыкметах, а ў яе абагульненым чала-

вечым «я», прыродных якасцях, што ствараюць сутнасць натуры. Хаця, як пісьменнік, што, зноў жа карыстаючыся тэрмінам Максіма Горкага, належыць да плыні «рэалістычнага рамантызму», бывае і майстрам жанравага жывапісу, умее стварыць яркія, са смакам выпісаныя бытавыя карціны, шырока выкарыстоўваючы іронію і нават сатыру. Уладзімір Караткевіч дае многа сюжэтнай прасторы і «жанраваму чалавеку» (Н. Беркоўскі) — прыгадаем хаця б паплечнікаў Братчыка, а таксама мітрапаліта Балвановіча ці ка́та з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Дарэчы, упершыню ў беларускай літаратуры з'явіўся такі раман, як «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», і справа не толькі ў тым, што ўпершыню пра сярэднявечча — дзеянне адбываецца недзе «на пачатку панавання Жыкгімонта Першага». Упершыню ўзняты такі гістарычны пласт і ўпершыню на такім узроўні — у мастацкі ўжытак шырока ўведзены матэрыялы хронік і летапісаў, парафразы біблейскіх тэкстаў, дзе вар'іруюцца ў самых розных кантэкстах біблейскія выразы і народныя выслоўі, часта побач, даючы нечаканыя павароты вядомым версіям слоў і словазлучэнняў. Пра стыль выкладання, стыль мыслення ў рамане, гнуткасць і шматаблічнасць яго сюжэтных схем, мову можна пісаць даследаванне. Як і пра тое, што ў рамане гэтым паказаны самыя розныя слаі насельніцтва — тут і селянін Зянон, і разьбяр Кляонік, і каваль Кірык Вястун, і вандроўныя ліцадзеі, і гародзенскія мяшчане, і царкоўныя служкі: праваслаўны Балвановіч, каталікі Камар, Лотр, Басяцкі, і адукаваныя мысліцелі брат Альбін і Кашпар Бекеш, і ўзняты да вялікага разумення ісціны паўстаннем праўдашукальнік Юрась Братчык.

...Што не перастае здзіўляць у творчасці Караткевіча — дык гэта шырокі дыяпазон яго ведаў, незвычайная эрудыцыя, агульная шырокая культура ведаў.

Апантаны кніжнік, заняты падарожнік, чалавек яркага, смелага творчага тэмпераменту, знаўца ўсясветнай гісторыі, гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, гісторыі матэрыяльнай культуры, гісторыі архітэктуры, знаўца батанікі, заалогіі, геалогіі, ну і літаратуры, і гісторыі літаратуры, безумоўна. Чалавек, што творча праштудзіраваў летапісы не толькі як першавытокі гістарычных ведаў, а як найбагацейшыя першакрыніцы, па якіх можна ўявіць і стыль мыслення, і аблічча людзей пэўнай эпохі, і матэрыяльны, і эмацыянальны каларыт часу, і моўную структуру іх гаворкі.

Толькі што згадвалася, якое ўражанне зрабілі на польскага літаратара веды Караткевіча па прыродазнаўству, а Караткевіч ведае процьму розных рэчаў. І гісторыю, і геаграфію кожнага раёна Беларусі («Зямля пад белымі крыламі»), і звычаі народныя, і легенды, і безліч народных песень, і нацыянальныя ўборы, і нацыянальную кулінарыю («Зямля пад белымі крыламі», «Калядная рапсодыя»), і звычкі звяроў, і псіхалогію іх («Былі ў мяне мядзведзі», «Дрэва вечнасці»), і дасведчаны ў марской справе («Вока тайфуна»).

Дасканалае, да драбніц веданне гісторыі, веданне канкрэтных, адметных рыс жыцця таго часу, сацыяльнага і бытавога каларыту эпохі, веданне псіхалогіі людзей таго часу, грамадскага ўсведамлення — гэта характэрна для твораў Караткевіча.

У рамане «Каласы пад сярпом тваім» упершыню ў беларускай літаратуры створана шырокае гістарычнае палатно — аб пярэдадні паўстання 1863 года. Беларускае Прыдняпроўе, Пе-

цярбург, Вільня: маёнткі і фальваркі, пецярбургскія гасціныя і прыгонны тэатр, кірмашы і гімназічныя будні, свецкія балы і зборы будучых паўстанцаў — усё гэта ёсць у рамане. Розныя героі, з розных слаёў насельніцтва. Сацыяльны разрэз тагачаснага грамадства зроблены зверху данізу. [...]

Сутычкі вакол будучай рэформы ў дваранскай зборні, губернскі з'езд дваранства, сустрэчы перадавых людзей у вядомага этнографа Кіркора, зборы паўстанскай арганізацыі «Агул», сутычкі розных людзей у розных абставінах, размашыста выпісаныя карціны сялянскіх бунтаў і безліч штрыхоў, падрабязнасцей, што дамалёўваюць, удакладняюць агульны сацыяльна-гістарычны фон у рамане.

Выспяванне класавай і нацыянальнай самасвядомасці, з'яўленне і загартоўванне патрыятызму — адна з галоўных тэм рамана. І асабліва выразна прасочваецца гэта на вобразе цэнтральнага героя рамана Алеся Загорскага.

Між іншым, і станаўленне яго адбываецца па гэтай лініі. Усе астатнія якасці яму, герою ідэальнаму, пісьменнік надае адразу і прадстаўляе магчымасць выявіць іх у самых розных і складаных сюжэтных перыпетыях. А вось усведамленне свайго нацыянальнага «я», сваёй прыналежнасці да народа, усведамленне класавай няроўнасці і ўяўленне аб сваіх, нічым, акрамя нараджэння, не апраўданых прывілеях, унутранае, духоўнае ўзмужненне Алеся Загорскага — гэта прасочваецца ў рамане ўважліва, цнатліва. Між іншым, раман «Каласы пад сярпом тваім» не толькі сацыяльна-гістарычны раман, гэта яшчэ і раман выхавання, які ўвабраў у сябе традыцыі такога жанру ў заходнееўрапейскай і рускай літаратуры. [...]

Праўда, гаворачы — сацыяльна-гістарычны раман, разрэз сацыяльных пластоў і да т. п.— нічога не скажаш пра сам раман, а толькі пра яго сацыяльна-грамадскую накіраванасць. Бо ўсё гэта ўваходзіць арганічна ў вобразную структуру рамана, усё гэта жыве, віруе, гарлае, гаворыць даверлівым шэптам, успыхвае яркімі фарбамі і спакойна растушоўваецца паўтонамі. І Беларусь у рамане — гэта не толькі жыццё грамадства, не толькі ўзаемаадносіны людзей. Гэта шчодрая, здаровая ў характве сваім зямля, на якой мінаюць зімы, вёсны, леты, восені, на якой буяе краскамі летняя спёка, шумяць зімовымі таямніцамі завеі, становяцца ясна-блакітным суладдзем зямля і неба ў паводкі, тчэ празрыстае золата дзён восень. У маляўнічую карціну жыцця Беларусі ўпісваюцца ў рамане вясёлы гоман свят, гульні дзяцей, зрокава відавочныя, жывапісныя рэмінісцэнцыі кацярынінскіх часоў, дзе таксама асноўная сюжэтная канва — канкрэтна-гістарычная, і каскад прыгод і авантур. Сапраўды — каскад. Але ці такі ўжо вялікі грэх Караткевіча? І ці так ужо беларуская літаратура багатая літаратарамі, што валодаюць уменнем займальнай фабулы, інтрыгі? Безумоўна, спрактыкаваны мастацкі густ заўважыць, што недзе лабірынт падзей можна было б замяніць прастай лініяй учынкаў, а шторм высокіх слоў мог бы быць суцішаны і да больш спакойных балаў. Але ж затое ніхто не папракае пісьменніка ў абыякавасці і нудоце.

Ёсць, здаецца, пэўная зададзенасць, скажам, у ідэалізацыі звычаю дзядзькавання, калі дзяцей дваран да пэўнага ўзросту аддавалі на выхаванне ў сялянскія сем'і, і, мусіць, наўрад ці гістарычна апраўдана замілаванасць адносін паміж пакормным

панскім сынам Алесем Загорскім і дзецьмі Кагутоў (гэта адзначаў у свой час у рэцэнзіі на раман Генадзь Кісялёў). Але — і рэальныя гістарычныя падзеі, народжаныя фантазіяй аўтара, і рэальныя гістарычныя героі — усе яны рэальна існуюць у сюжэтнай прасторы рамана, жывуць рэальным раманным жыццём, даюць нам уяўленне пра час.

Не так прывязаны да канкрэтных гістарычных падзей аповесці «Сівая легенда» і «Цыганскі кароль», але каларыт, атмасферу пэўнага часу рэчыўна, вобразна перадае Уладзімір Караткевіч. Іронія і сарказм, як прыём падачы матэрыялу, якраз адпавядаюць карцінам разгулу і міжусобных сварак шляхцюкоў у «Цыганскім каралі»: «Так скончылася вялікая цыганская вайна, адна з самых славутых войнаў, якія вёў кароль Якуб Першы. Вялікую славу здабылі ў ёй усе мужныя змагары. Але і страты былі вялікія: адзін шляхцюк адбіў пячонкі, упаўшы з воза; два захлынуліся віном у склепе; пяць чалавек абпіліся да смерці. Яны загінулі за радзіму. Забітых вогнястрэльнай зброяй не было».

Уладзімір Караткевіч пэўна і дакладна ведае гістарычны «рэквізіт», які неабходны для таго, каб героі жылі не ў беспаветранай прасторы, а на зямлі, сярод адпаведных рэчаў, у адпаведных строях. І Караткевіч ведае, якім быў тады Гародзенскі замак. А потым не міне ўвагай і жытло гарадскога войта, і вопратку, і зброю людзей. І тое, што ў сучасным рамане было б, можа, залішняй падрабязнасцю, тут стане неабходнай рэаліяй часу, цікавай інфармацыяй. І мы прачытаем, як былі ўзброены царкоўныя служкі: «Елянцовыя — палескія, цісавыя — заходнія і страшныя беларускія лукі змацаваных рагоў шэрага ляснога быка, калчаны — тулы, пішчалі; гіганцкія, у чалавечы рост, двуручныя мячы з хвалепадобным або прамым лязом, без піхваў, бо з іх немагчыма выцягнуць самому лязо такой даўжыні...»

Уладзімір Караткевіч не ўводзіць, часцей за ўсё, нейкія гісторыка-архітэктурныя экскурсы ў тэкст, але, свабодна валодаючы матэрыялам, выкарыстоўвае самыя розныя звесткі, ведучы непасрэдную размову пра сваіх герояў. І апісваючы замкавы палац у Гародні, паміж іншым заўважыць, што «бакавыя і папярочныя нефы былі пасля паходу Вітаўта на Пскоў падзелены на два паверхі», а падчас суда дастаслаўнага сінедрыёну адзін з членаў суда ўспомніць у езуіцкім запале «кнігу праўды, якую запаветалі... найчысцейшыя дбайнікі веры Шпрэнгер і Інстыторыс» — «Молат ведзьмаў», ізуверскую сярэдневяковую кнігу аб ведаўстве і сродках, якімі можна вырываць у ведзьмаў прызнанне».

А ў «Каласах пад сярпом тваім» пісьменнік прыгадае і гісторыю «маленькага Наварца», Генрыха IV, і апіша прыёмы Кацярыны, і раскажа, як апраналіся ў традыцыйнае старасвецкае адзенне бацька і сын Загорскія. Умее Уладзімір Караткевіч увесці такія дэталі, што можа ведаць толькі знаток. Пра тое, што ў дзеда Загорскага пер'і для пісьма былі «гусіныя, тонка завостраныя, мяккія, заўсёды з аднаго крыла, каб зручна ляжалі ў руцэ». І пра тое, якія адмысловыя парады даваў кухару гурман Вежа-Загорскі.

Уладзімір Караткевіч з тых літаратараў, чыю прысутнасць у творы адчуваеш непасрэдна, ён не адыходзіць на такую адлегласць ад сваіх герояў, каб суцэльна знікнуць за даляглядам твора. І, канечне ж, асабліва адчуваецца гэта ў яго эсэ. Дзе эру-

дыцыя так шчасліва накладваецца на яркі творчы тэмперамент.

Неяк, пасля прачытання эсэ Уладзіміра Караткевіча пра Палессе «Званы ў прадоннях азёр», усё думалася — ці не пакусалі сабе локці тыя дзве журналісткі, што адмовіліся ад падарожжа, як згадвае на пачатку нарыса Караткевіч. Такое ж яно цікавае атрымалася ў яго апісанні. Прачытаеш — і хоць зараз хапай рукзак і руш па Сажы. Адчуў ён каларыт з такой добрай, смачнай іроніяй, з такой дзелавой хваравітасцю да клопатаў, што здаюцца мясцовымі, а на самай справе датычаць многіх важных праблем.

І такія ж крамольныя думкі ўзнікалі пасля чытання яго падарожных нататкаў «Казкі янтарнай краіны» і «Дрэва вечнасці». Апынуцца — хоць на хвіліну — у вясёлым хітраспляценні вулачак старой Рыгі, дзе нават непаразуменне (безліч вуліц і адна назва «Пілс-іела») — прычына для гарэзлівага свавольства думкі і фантазіі пісьменніка: «Калі я адчую набліжэнне смерці, я абавязкова пасялюся на вуліцы Пілс-іела, на адной з гэтых вуліц, і хай тады Касая пашукае мяне. Трасцу яна мяне знойдзе. А я буду пасмейвацца і пісаць новыя раманы...»

Валодаў Караткевіч талентам хораша здзіўляцца жыццю, зацікавіцца і басаногім малым Ясем з Палесся, і якім унутраным дворыкам рыжскага музея, і якасцямі малавядомай расліны, і вопраткай кабеты на Палессі. І ведае, які неф якой цэркаўкі на Палессі перабудоўваўся, а які — не, і што за літаратар пабываў і калі ў Латвіі, і якія гістарычныя постаці шпацыравалі брукам старой Рыгі ці старажытнага Мазыра.

Своеасаблівы каларыт гэтым эсэ, як і многім творам Уладзіміра Караткевіча, надае спалучэнне высокай паэтычнасці з іроніяй, захапленне хараством свету і лёгкая ўсмешка — над сабой, над сябрамі, над абставінамі, над рознымі гістарычнымі і негістарычнымі акалічнасцямі.

У любых, самых, здавалася б, няздатных, выпадках уловіць Уладзімір Караткевіч тую неабходную яму для адчування свету повязь часоў, і не толькі ў яе суровых і сур'ёзных фактах, але і ў вірлівасці і пераемнасці жыцця, дзе заўсёды знаходзілася месца для ўсмешкі, для жарту, для здаровага смеху. І тады Уладзімір Караткевіч напіша: «Мы адчувалі сябе бяздарнасцямі. Мы шмат дзён не маглі вытрасці са студыі машыну, грошы, шафёра, скаты, трасцу, халеру. Князю было добра (маецца на ўвазе Гарадоцкі князь Давід.— *А. С.*), узяў сабе са скарбніцы тры капы грошай, загадаў стайніку прывесці коней, гукнуў харобрую дружыну ды і пайшоў сабе Палессем, харчуючыся забітымі зубрамі і турамі, шыраючы шызым воўкам, а таксама арлом пад аблацы, проста пад Марыенбург і Берлін, трэсці крыжакоў. Яму гэта ўдавалася лёгка аж у некалькіх дзесятках паходаў, аж пакуль у апошнім не аддаў сваю богу пасечанай мячамі душы» («Дрэва вечнасці»).

Эрудыт і знаўца, паэт па ўспрыманні рэчаіснасці, Уладзімір Караткевіч любіць тое, пра што ён піша, і тых, пра каго піша. І гэтая адкрытая ўзбуджанасць настрою, эмацыянальнасць, безумоўна, ствараюць той самы своеасаблівы, паэтычны, адухоўлены свет твораў Уладзіміра Караткевіча... Але... Часам эрудыцыя пераходзіць у залітаратуранасць, напружанасць эмоцый абарочваецца экзальтаванасцю, высокая вера ў ідэалы набірае такую вышыню, дзе разрэджаная прастора пачынае запаўняцца пры-

гоствамі, а свежасць і чысціня пачуццяў набываюць такую ўжо празрыстасць, што нагадваюць не крынічны струмень, а плынь дыстылата.

І няўрокам прыгадваюцца часам літаратурныя прататыпы некаторых герояў. Ну, мне здаецца, так і стаіць уваччу стары князь Балконскі, калі чытаеш пра князя Данілу Загорскага-Вежу ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». Але ў «Ладдзі Роспачы» калі і прыгадваеш «Тыля Уленшпігеля» або «Кала Бруньёна», дык толькі таму, што адчуваеш агульныя маральныя высновы народных легенд, агульначалавечы, хаця і нацыянальны характар герояў — фландрца Тыля, француза Бруньёна, беларуса Гервасія Вылівахі. Агульную філасофію неўміручасці народа, тых ягоных герояў, што ўвасабляюць у сабе галоўную сутнасць народнага характару, яго вясёлую стойкасць і жыццялюбства, ягоную бескарыслівую прагу да ўсяго, чым жыве зямля. І перамагае такі чалавек самую смерць, хоць жыццё чалавечае «кароткае, як захад», і прымушае смерць гаварыць такія словы: «Больш за ўсё я не люблю прыходзіць па такіх, як ты... Яны такія прагныя да жыцця, што я пачынаю думаць: ці не памылілася я са сваёй работай. І яны так любяць гэтую зямлю, што я ў сваіх пячорах пачынаю на хвіліну зайздросціць ім».

І вяртаецца Гервасій Вылівaxa з пячораў смерці пераможцам, вяртаецца, каб жыць і кахаць дзяўчыну, пра якую марыў у жыцці і сустрэў там, у пячорах небыцця.

Але бывае цяжка пазбавіцца ад уражання, што напісанае рабілася *паводле напісанага,* што гэта рэмінісцэнцыі з нечага вядомага, не копія, але навеянае нечым,варыяцыі на тэму. Вось гэтыя двое маладых людзей у прыгожым парку ў Архангельскім («Ідылія ў духу Вато»), і прыгожая восень, пад нагамі «цэлыя вадаспады, цэлыя лавіны лістоў», і прыгожае рэха даўняга іх кахання, і сённяшняе іх складанае пачуццё, і гаворкі, усё пазначаныя экстэр'ерам Архангельскага — слаўнае мінулае, знакамітыя постаці. Але ж чаму ўсё нешта нагадвае, да нечага чытанага вяртае думку? Ну, ці мала сюжэтаў трымаецца на такім фабульным стрыжні? Мабыць, гэта адчуванне ўтвараецца ўсё ж ад манеры, ад стылю пісьма — Уладзімір Караткевіч выбірае прыўзняты, паэтычны тон. Нібыта інструментам мае флейту або англійскі ражок ды яшчэ і трымаецца на самых высокіх нотах. На гармоніку б не заўважыў і лішні акорд,— а тут кожная высакаватая нота — як рэха ў гарах. І таму так гучна рэзаніруюць фразы накшталт «паступова ўсё больш акрыленым рабіўся яго твар» або «*трапятаў* залатымі і зялёнымі *манетамі* (?) увесь пранізаны касым сумным святлом бярозавы гай». І пачынаюць ствараць напышліва-экзальтаваны тон. І ў аўтарскай мове, і ў дыялогах. «Дарагі мой,— ціха сказала яна,— чаму ты адмаўляешся ад кахання, чаму так лёгка адмаўляешся ад мяне? Я зраблю бясхмарнымі твае дні, я зраблю так, што табе будзе стакрат лягчэй. Я ўліла б у цябе сваё жыццё. Я кахаю цябе.— Ты загубіш сабе жыццё,— сказаў ён.— А я не хачу гэтага. Таму што кахаю. Кахаў нават тады, калі мне трэба было б ненавідзець».

І хаця ў шчырасць пісьменніка і шчырасць герояў нельга не паверыць, губляецца, аднак, адчуванне непаўторнасці, адзінкавасці, мастацкага рашэння. Тым больш што і ў гэтым апавяданні «Ідылія ў духу Вато», і ў іншых ранніх творах Уладзіміра Караткевіча, скажам, у апавяданнях «У шалашы», «Барвяны шчыт»,

«Залаты бог», аповесці «Чазенія» — абавязкова высокае, чыстае, як заўсёды ў яго, каханне, прычым каханне ў абставінах калі не трагічных, дык у нечым неспрыяльных: не хвароба, дык непаразуменне, а больш за ўсё — тая духоўная несумяшчальнасць, несутыкальнасць, боязь згубіць каханне, а яшчэ больш — боязь апынуцца побач і ў бездані неразумення. І ўсё гэта вось на той самай высокай ноце, дзе так прыкметна нават самая дробязная ўступка ненатуральнасці, штучнасці.

У многіх, асабліва ранніх, творах Караткевіча хараство амаль няўлоўна мяжуе з штучнасцю, сур'ёзнасць з наўмыснасцю. І мы чытаем тады: «Булыжнік на ўзроўні вачэй блішчэў так, што вачам было балюча. І дзівосным караблём плыў над галавою блакітны, белы і залаты Андрэеўскі сабор» («У шалашы»), або «Так яны ляжалі без сну, кожны ў сваім пакоі. Толькі вузкая перагародка, але ўсё адно што акіяны» («Ідылія ў духу Вато»), або «Карней жаласна застагнаў і пайшоў прэч. Сэрца яго аблілося крывёю» («Карней — мышыная смерць»).

Аднак... Аднак... Побач з гэтымі прыгоствамі і штучнымі нагнятаннямі пачуццяў ёсць тое, што вабіць, зачароўвае, прыцягвае ў прозе Караткевіча, нават у тых, толькі што названых творах.

А якая простая і адвечная мудрасць у такіх, скажам, радках: «Нічога такога яна (Наталя) не магла б расказаць. Яна магла толькі ўсміхацца, склаўшы рукі на каленях.

Нават маці не зразумела б гэтага. Як поле, якое ўсё аддало, не можа зразумець поля, якое чакае» («Блакіт і золата дня»).

Або такія ўрыўкі іранічнай прозы, якой так рэдка карыстаюцца нашы беларускія пісьменнікі (хіба толькі Янка Брыль і Міхась Стральцоў): «Хто панюхае паветра каталіцкага храма, той ніколі не будзе такі, як раней. А новая знаць нюхнула яго ў ахвоту. Яна будуе такія замкі, быццам у кожны з іх вось-вось могуць прынесці крыж пана бога, які давядзецца абараняць ад усіх язычнікаў зямлі» («Сівая легенда») або: «У гэты вечар над вежамі свяціў месяц — такі пяшчотны, аліўкавы, ружовы,— так бы і з'еў яго. А ў байніцах таксама сям-там гарэлі агеньчыкі. І на сэрцы было лёгка, таму што ў нас, ваякаў ад нараджэння, заўсёды лёгка на сэрцы, калі мы жывыя» («Сівая легенда»).

І так арганічна, абавязкова кладуцца народныя выслоўі ў тэксталагічную структуру твораў, разам з латынню, французскай і нямецкай мовай: «Я падышла — пад кустом лапцікі ляжаць, акуратненькія такія... І так добра сплёў, хоць ты квас імі пі» («У шалашы»). «Мы ішлі бясконцымі пераходамі і вісячымі галерэямі, ён ціха, як кот, я, грукочучы, як вядро на цыганскім возе» («Сівая легенда»), «Але,— сказаў ён (князь Загорскі — *А. С.*).— Хрыстос па душы басанож прайшоў» («Каласы пад сярпом тваім»).

Уладзімір Караткевіч умее пазначыць каларыт быцця патрэбнымі фарбамі, сплавіць у адзінае мову легенд, летапісаў, царкоўных кніг і жывое, дасціпнае народнае слоўца. Умее спалучаць такія эмацыянальныя, мысліцельныя, быційныя, моўныя пласты, якіх ніхто да яго не кранаў у мастацкім выяўленні — маючы на ўвазе беларускую літаратуру.

І адметны сваёй яркай неправінцыйнасцю, шырынёй густаў, дыяпазонам ведаў. І не трэба, мусіць, спакушацца аналогіямі — беларускі Вальтэр Скот, беларускі Дзюма. Няўдзячная спроба —

прымерваць рыцарскія даспехі з чужога пляча ці паглядаць, як плюмаж з капелюша д'Артаньяна будзе выглядаць на ўборы Алеся Загорскага.

А ёсць пісьменнік, улюбёны ў сваю Белую Русь, у сваю «краіну пад белымі крыламі», у яе сучаснае, мінулае і будучае, ёсць пісьменнік, які зачаравана спавядае хараство і гармонію, які верыць у ідэалы дабра і справядлівасці, які апантана любіць свет і святло, зялёнае дзіва зямлі, і таямніцы кнігасховішчаў, слова і справу, і ведае вялікую сілу мастацтва і ўмее карыстацца ёю. Ведае «паэзію абставін» (Гётэ) і ўмее паказаць гэтую паэзію, сказаць і пра «золата мар» і пра «небыццё стагоддзяў».

*Ала Сямёнава.*

## ЗМЕСТ

**Караткевіч У.**

К 21 Збор твораў: У 8 т. Т. 7. Дзікае паляванне караля Стаха: Аповесць; Чорны замак Альшанскі: Раман. — Мн.: Маст. літ., 1990.—574 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00300-0.

Короткевич В. Собрание сочинений. Т. 7: Дикая охота короля Стаха: Повесть. Черный замок Ольшанский: Роман.

У гістарычных дэтэктывах пісьменнік уваскрашае падзеі, якія адбываліся ў даўнія часы. Гэтыя падзеі гістарычна і сюжэтна звязаны з нашым часам. Барацьба дабра са злом, каханне і нянавісць, гераізм і мужнасць — праблемы, актуальныя ў любы час для ўсіх людзей, з'яўляюцца асноўнай тэмай твораў, якія ўвайшлі ў сёмы том.

**4702120201—085**
**К ————————101—90**
**М 302(03)—90**

**ББК 84Бел7**



*Литературно-художественное издание*

КОРОТКЕВИЧ
Владимир Семенович

*Собрание сочинений
в восьми томах*

ТОМ 7

ДИКАЯ ОХОТА КОРОЛЯ СТАХА
Повесть

ЧЕРНЫЙ ЗАМОК ОЛЬШАНСКИЙ
Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар С. Р. Прыгодзіч*
*Мастак М. Р. Казлоў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктары К. У. Дзмітрыенка, Л. Т. Калюжная*

ІБ № 3132

Здадзена ў набор 04.05.89. Падп. да друку 20.02.90. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура кудрашоўская. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк арк. 30,24+0,42. укл. Ум. фарб.-адб. 31,43. Ул.-выд. арк. 31,37. Тыраж 60 000 экз. Зак. 2482. Цана 2 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

